# КУЗЬМА ЧОРНЫ



## ТОМ ВОСЬМЫ



## ПУБЛІЦЫСТЫКА 1923—1944

## ДЗЁННІК

## ЛЕТАПІС ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ

ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
МІНСК 1975

*Рэдактар тома*
А. М. АДАМОВІЧ

*Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі,
алфавітны даведнік твораў, паказчык імён —*
М. А. ТЫЧЫНЫ
*Летапіс жыцця і творчасці —*
Р. І. ГУЛЬМАН

Ч $\frac{70303\text{-}210}{М\ 302(05)\text{-}75}$ 105-75

# ПЫТАННЕ СЁННЯШНЯГА ДНЯ

Ужо даўно і многа гаворыцца ў нас аб зблiжэннi горада з вёскай. Але рабiлася ў гэтым напрамку да гэтых часоў зусiм мала. Тое ж, што рабiлася, давала зусiм мала карысцi.

I гэта затым, што вёска не давярае гораду. I не дзiва, што гэта так.

Тое, над чым селянiн працуе цэлы год, на гарадскiм рынку аддаецца задарма. Земляроб, якi мае 3-4 дзесяцiны зямлi сярэднiм лiкам, можа сабраць восенню, пры сярэднiм ураджаi, 30—35 коп жыта, што дасць якiх-небудзь 150 пудоў. За гэтыя пуды горад дасць яму не больш, як 3 пары ботаў, а калi ў яго сям'i 4 душы, дык i выходзiць, што за год ён не заробiць нават сабе на боты. Праўда, у яго ёсць яшчэ ярына, але ж трэба яму яшчэ харчавацца самому, харчаваць жывёлу i абсеяць поле.

Вось тут i смычка. I не дзiва, што селянiн такi недаверчывы к гораду.

Цяпер нашы гаспадарчыя органы прыступiлi к барацьбе з павышэннем цаны на тавары i паставiлi перад сабой мэту — падняць цану хлеба.

Даўно б пара. Аб гэтым трэба было думаць i дзень i ноч. Гэта павiнна быць нашай самай галоўнай, самай вялiкай задачай сённяшняга дня. Гэта балючае пытанне трэба паставiць рабром i думаць над iм, працаваць, пакуль яго не вырашым, пакуль зжывём гэтую ненармальнасць, якая так цяжка адбiваецца на вясковым жыццi.

Ад вырашэння гэтага пытання галоўным чынам i залежыць смычка горада з вёскай.

# ЛІСІЦА Ў ІСПАЛКОМЕ

— Эй ты, галава саўхозская, дай агню!

«Галава саўхозская» — рабочы з саўхоза, Кірылка — шчупленькі, рыжанькі чалавечак, у парваным зашмальцованым кажушку і плыценькай шапцы з трусавае шкуркі, услужліва заварушыўся, дастаў з кішэні каробку запалак і, страсянуўшы яе ў руцэ, каб даведацца, ці не пустая яна падчас, быстра падбег к сцяне, дзе на вузенькай лаўцы, з папяросаю ў зубах, сядзеў саўхозскі пісар — Вінцэнты Квэцоўскі, быўшы панскі аканом.

Праўдзівае прозвішча яго было — Вінцэнты Квэц, але зрабіўшыся даўней аканомам, ён стаў, дзе было трэба, падпісвацца «далікатней».

Узяўшы з рук услужлівага Кірылкі запалкі, ён стаў запальваць іх.

Першая запалка не загарэлася. Другая пальнула сіненькім аганьком, але зразу патухла, засмярдзеўшы паленаю серкаю. Трэцяя — чыркнула вялікім жоўтым агнём, але ён таксама быстра патух.

Вінцэнты Квэц радасна азірнуў усё памяшканне іспалкома, гучна кашлянуў, каб звярнуць на сябе ўвагу людзей, якія тут таўкліся, з дзелам і без дзела, і з ядавітаю ўсмешкаю сказаў весела Кірылку:

— На, брат, назад твае запалкі, палі іх сам: ты ж павінен добра ўмець іх запальваць.

— Чаму гэта я павінен умець іх запальваць? — прагаварыў засмучаны Кірылка.

— Чаму?! — зарагатаў Квэц,— што ты пытаеш, гэта ж вашы запалкі, вы такіх хацелі.

Тут ён зноў глянуў на грамаду мужчын, якія сталі збірацца ўжо кругом яго і Кірылкі.

— Гэта ж якраз тое, чаго вы хацелі,— загаварыў ён далей,— усё ж старое вам здавалася кепскім, вы ж усё хацелі новага! Дык чаго ж вы цяпер? Гэта ж тое ваша новае?

— А чорт яго ведае,— сказаў Кірылка, засмуціўшыся, і схаваў запалкі ў кішэню.

— Куды ж хаваеш,— загукаў Квэц,— дай сюды, можа як-небудзь закуру.

— Ну, наце, ці ж я шкадую?! — адказаў Кірылка, зноў дастаючы запалкі з кішэні.

На гэты раз запалка запалілася, і Вінцэнты Квэц, выпусціўшы з рота цэлую хмару пахучага дыму, стаў пільна прыглядацца да ўсяго таго, што рабілася ў іспалкоме, каб зноў знайсці што-небудзь нядобрае і зрабіць дурнямі сялян, якія «хацелі новага».

У гэтую хвіліну ўвайшоў у іспалком чалавек, гадоў пад сорак, у лапцях і з пугаю пад пахаю.

Абабіўшы каля парога з ног снег, ён паволі падышоў к сталу, дзе сядзеў дзелавод іспалкома — маладзенькі хлапец, у чорным кароткім фрэнчы і з мокрымі, гладка прылізанымі ка лбу валасамі.

Падышоўшы к яму, чалавек сказаў:

— Каб гэта як, таварыш, запісаць дзіця.

Дзелавод адарваўся ад сваіх папераў, паглядзеў з хвіліну на чалавека і сказаў:

— Дзве тысячы рублёў гербавага збору.

— Колькі гэта? — запытаўся чалавек.

— Два мільярды,— растлумачыў дзелавод.

— А-а-а,— зацягнуў чалавек, весела глянуўшы на дзелавода,— кажаце, два мільярды. Ну добра, я зараз. Адно завязу пуд жыта Янкелю і вазьму ў яго грошай. Я хутка: тут блізка.

— А што, смачна?! — загаварыў Квэц.— Нарадзілася дзіця — плаці пуд, захочаш жаніцца — плаці два. Пэўна і з таго берацё, хто памрэ? — звярнуўся ён да дзелавода з яхідпай усмешкай.

Дзелавод вінавата ўсміхнуўся. Ён умеў толькі пісаць, нічога ніколі не чытаў, нідзе не бываў, нічым не цікавіўся і не ведаў нічога, што робіцца вакол.

— Не, з памёршых не бяром,— ціха адказаў ён.

Некаторыя сяляне зарагаталі, а Квэц загаварыў далей:

— Адно ж з памёршых і не берацё. Нашто табе, чалавеча, было гэтае дзіця! Захацеў цяперашнім светам яшчэ мець дзеці. Ты ж цяпер не ацярэбішся!

— Ад чаго не ацераблюся? — запытаў, спалохаўшыся, чалавек.

Квэц стаў прыдумляць, каб чым-небудзь яшчэ лепш напалохаць гэтага цёмнага чалавека і ўсіх тых, што, разявіўшы раты, слухалі яго.

І ён стаў плясці:

— А вы думаеце, цяпер дзеці — вялікае шчасце? І самі будуць мучыцца і бацькоў мучыць. Пойдуць зараз розныя падаткі...

— На каго, на дзяцей?! — пачуўся з грамады перапалоханы голас.

— А што думаеце, можа яшчэ і гэта быць. К гэтаму ідзём,— адказаў Квэц.

— Божа, мілы,— прагаварыў страшна перапалоханы чалавек,— хай бы лепш яно было спруцянела там, дзе было, гэтае дзіцё.

— Было б шчаслівейшае,— важна падкрэсліў Квэц.

Чалавек выйшаў, каб завязці пуд жыта Янкелю і ўзяць у яго грошай.

Пасля таго як ён пагаварыў з Квэцам, гэты пуд жыта стаў здавацца яму большым за ўсю яго гаспадарку, нечым такім, страта чаго згубіць усё тое, чым ён дагэтуль жыў.

Думаючы так, ён зусім забыўся, што ўчора, к хрэсьбінам, выгнаў пяць пудоў мукі на самагонку. Самагонка не ўдалася, і ён сягоння раніцаю расчыніў другія пяць пудоў. А едучы сюды, ён вёз з сабою тры пуды жыта, каб у мястэчку, у таго самага Янкеля ўзяць «бутэльку чаго лепшага».

А тым часам у іспалком увайшоў старшыня.

Квэц зварушыўся, устаў з лаўкі і хутка зняў з галавы шапку.

— Добрага дня,— сказаў ён, падаючы старшыні руку; і бачучы, што той стаіць у шапцы, салодзенькім галаском загаварыў ціха, каб мала хто чуў.

— А я дык зняў шапку. Думаю сабе — неяк нялоўка. Усё ж такі наша савецкая ўстанова, якую трэба шанаваць.

Угледзеўшы вакол сябе ядавітыя ўсмешкі, ён засмуціўся, уздзеў на галаву шапку і падышоў к сталу дзелавода.

Той нешта пісаў у вялікай кнізе.

— Слаўная папера,— сказаў Квэц, разглядаючы кнігу, каб што-небудзь сказаць,— мусіць, заграпічная.

— Якая ж яна заграпічная,— пачуўся насмешлівы голас ззаду,— паедзь вунь у любы горад, дык там табе цэлыя вагоны, яшчэ лепшае. Чаго хочаш знойдзем, і ўсё наша.

— Можа быць, я не спрачаюся,— адказаў Вінцэнты Квэц і баязліва пайшоў к дзвярам.

Услед яму сталі рагатаць.

# З'ЕЗД ДЭЛЕГАТАК — СЯЛЯНАК І БАТРАЧАК

## Дняўное пасяджэнне 6-га г. м.

З усіх куткоў, падчас самых глухіх і дзікіх, з'ехаліся яны. Іх некалькі соцень. Большасць усё маладыя дзяўчаты, але ёсць і стараватыя кабеты. Ахопленыя цікавасцю да справы, яны ловяць усё тое, што гаворыцца і робіцца.

Зразу кідаецца ў вочы тое, як многа за часы рэвалюцыі паднялася наша кабета ў сэнсе грамадзянскага жыцця. Калі яшчэ два гады таму гэтая самая кабета з недаверчываю ўсмешкаю адносілася да ўсякіх канферэнцый і наогул к рабоце жанаддзела, то сягоння ўжо гэтага не відаць. Дэлегаткі на з'ездзе, забыўшы ўсё, увайшлі ў працу, у вырашэнне пытанняў...

Вось на сцэне дэлегатка гаворыць, бойкімі словамі малюе жыццё саўхоза на Чэрвеншчыне. Яна некалькі разоў паўтарае цікавую думку:

— Саўхозы нашы.

І потым заканчвае:

— Беднаты многа, ну, а дзе ўзяць, калі дзяржава бедная. Вось калі падымем гаспадарку нашых саўхозаў, тады будзе большая плата рабочым. Толькі мы гэта павінны зрабіць. Я гавару: узяць лягчэй, чым даць.

Словы яе пакрываюцца бурнымі воплескамі.

І ўжо вакол загулі галасы. Гавораць адна з другою, горача спрачаюцца, даказваюць адна адной. Відаць, што ніяк не могуць пакінуць пытання, не вырашыўшы яго да канца.

— Дайце слова, дайце слова! — крычаць.

— Ціха, таварышы...

— Хаця адно слова! — чуецца дзявочы голас.

— Мне, мне дайце!..

Ставіцца пытанне, ці даваць больш слова прамоўцам-дэлегаткам, ці не.

Галасуюць. Лес рук. Потым выходзяць на сцэну, гавораць, часам са смуткам у голасе, які заўсёды пераходзіць потым у бадзёрасць. Гавораць аб сваіх крыўдах, аб усёй бядзе, якую вынесла на сваіх плячах сялянка за годы вайны і рэвалюцыі...

Падаюцца ў прэзідыум запіскі, у іх адбіваюцца ўсе думкі, якія не даюць спакою жанчыне і якія яна часам не адважваецца выказаць словамі. Тут многа пытанняў, з'явіўшыхся з пераходам на звонкія грошы, многа пытанняў аб кааперацыі, аб пашырэнні Беларусі, аб адносінах вёскі к гораду.

Вось даслоўна такія пытанні:

— Чаму Савецкая ўлада выпусціла звонкія грошы?

— Ці не скарыстае наша золата і серабро буржуазія?

— Чаму, калі выпусцілі звонкія грошы, яны перш-наперш паявіліся ў таргоўцаў?

— Чаму такія дарагія тавары, што немагчыма работніцы за зробленую плату купіць на вопратку?

— Чаму ў горадзе ядуць белы хлеб, а ў вёсцы чорны і чаму ў горадзе ходзяць у блішчастых, шаўровых чаравіках і ў шубах, а ў вёсцы часта ў лапцях?

— Ці будзе Беларусь незалежна ад Велікарусі і Украіны будаваць сваё эканамічнае жыццё?

— Ці можна забараніць спекулянтам таргоўлю?..

І многа яшчэ цікавых пытанняў, у якіх відаць цяжка перажытае, з пакутай перадуманае.

На ўсе пытанні дае адказы т. Нодэль:

— Мы людзі прастыя,— кажа ён.— Калі мы бачым, што робім якую-небудзь памылку (а іх у нас было многа), то мы ўсім кажам: вось мы здорава памыліліся, робім інакшай...

Гаворыць ён аб прычыне выпуску звонкіх грошай, аб адносінах к ім буржуазіі, аб тым, што калі які-небудзь рабочы атрымаў за работу звонкія грошы, то аддаў іх таргоўцу за тавар, за гэтым яны і відаць часам у спекулянта.

Далей гаворыць ён аб «ножніцах», аб той рабоце, якая зроблена гаспадарчымі органамі, каб зрабіць тавары даступнымі рабочаму і селяніну, і аб добрых выніках гэтае працы.

— Хадзем усе з канферэнцыі ў рабочыя кварталы, паглядзімо, як жыве гарадская работніца, які яна хлеб есць, белы ці чорны, у якіх яна чаравіках ходзіць. Калі відаць блішчастыя чаравікі і шубы, то гэта нэпманы, з якімі мы нічога агульнага не маем і якія ўжо дажываюць сваё...

— Разаўём кааперацыю,— гаворыць далей т. Нодэль,— і таргоўля спекулянта сама згіне. Такім чынам мы і забаронім яму таргаваць...

— Не трэба вам раз'язджацца адгэтуль, пакуль вы не ўбачыце ўсяго рабочага жыцця горада, каб вы не думалі, што горад — вораг вёскі...

У зале ціш. Часам якая-небудзь жанчына, слухаючы, прапускаючы праз свае мазгі ўсе цікавыя адказы, уся ахопліваецца толькі адною думкаю, звязанаю з адказам, падняўшы сваю цвёрдую, мазалістую руку, яна хоча нешта сказаць, нават адкрывае рот, але бачачы, што прамоўца гаворыць далей, так і астаецца на некалькі хвілін як бы застыўшы...

Потым, як канчаюцца адказы на пытанні, падаецца яшчэ некалькі запісак:

— Каму Савецкая ўлада ўдзяляе больш увагі — работніцы ці сялянцы?

— Ці можна запісацца ў партыю малаграматнай?

Т. Нодэль адказвае і на гэта і потым гаворыць заключнае слова:

— Мы ў сваёй сям'і,— кажа ён,— і за гэтым можам пагаварыць па душах, нават часам горача паспрачацца, але потым сказаць адзін аднаму,— ну, а цяпер давайце дзела рабіць. Нам трэба ведаць,— дзе, і галоўнае, чаму кепска...

Слова яго канчаецца воплескамі ўсіх дэлегатак.

Наступае абедзенны перарыў...

Выходзячы з памяшкання і таўкучыся ў раздзявальні, адзеючыся, дэлегаткі гавораць, спрачаюцца.

— Я прыехала са станцыі Оршы,— чуцён голас,— дарэмна, гавару, скардзяцца, што ў горадзе лепш жыць, як у вёсцы. Мы атрымліваем па 13 чырвоных рублёў у месяц, дык ці ж можна з гэтага добра жыць?

— Я хачу папрасіць літаратуры,— чуваць другі голас.

Шумна гаворачы, ідуць у сталоўку.

### Вячэрняе пасяджэнне 6 сакавіка

Пасяджэнне адчыняе т. Муратава. Яна кажа, што ў прэзідыуме з'езда ёсць прапановы паслаць тэлеграмы прывітання ад імя з'езда ў бюро КПБ, ЦВКБ, Савета прафсаюзаў, сакратарыята жанаддзела... [...]

Прапановы гэтыя сустракаюцца бурнымі воплескамі.

Не ўспелі яны яшчэ заціхнуць, як чуецца з залы голас дэлегаткі:

— Паслаць тэлеграму прывітання Надзеждзе Канстанцінаўне Крупскай!

Новыя воплескі.

Т. Муратава абвяшчае, што Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт просіць з'езд дэлегатак пасля свайго пасяджэння быць на яго пасяджэнні...

З'езд прыступае да працы.

З дакладам выступае Наркамсабеса.

Ён кажа:

— Уся наша беднасць, усё гора, перажытае за часы вайны, з'яўляецца вынікам таго, што некалькі дзесяткаў капіталістаў хацелі абагаціцца. Яны можа хацелі даць раскошнае жыццё адной якой-небудзь сваёй графіні, і дзеля гэтага мучыліся мільёны работніц і сялянак. Вайна, якая трэба была капіталістам, пакінула нам страшную спадчыну: многа калек, многа знішчаных гаспадарак. Для нас цяпер адна дарога: дапамагчы гэтым пацярпеўшым. Савецкая ўлада гэта робіць па меры сваіх сіл. Наш Саюз пакрыт сеткаю інвалідных дамоў, у каторых мы не даём памерці з голаду інвалідам...

Што тычыцца да абяднеўшых за вайну гаспадарак, то і тут робіцца ўсё магчымае ў сэнсе дапамогі. Гэтымі днямі ў нашым сабесе было паднята пытанне, як бы дапамагчы такім і наогул бедным гаспадаркам у час веснавой сяўбы. У гэтым сэнсе шырокую работу могуць павясці камітэты ўзаемадапамогі. Трэба толькі, каб у іх увайшлі лепшыя людзі сучаснай вёскі; а такія людзі — гэта дэмабілізаваныя чырвонаармейцы і камсамольцы. Самыя адзыўчывыя людскому гору — гэта кабеты; і яны абавязкова павінны ўваходзіць у склад гэтых камітэтаў...

Дарогу кабеце ў камітэт узаемадапамогі!

Прамова Наркамсабеса выклікае многа розных пытанняў сярод дэлегатак.

Просяць слова... Пачынаюць гаварыць.

Вось на сцэне з'яўляецца кабета. Яна яшчэ, пэўна, не старая, але твар яе зморшчаны. Яна ў вераўчаных лапцях, у саматканай адзежы. На пагляд ёй гадоў за 50.

Ціхімі, часта блытанымі, словамі яна гаворыць:

— Я з вёскі Шоперава, Магілёўскага павета. Што мы тут гаворым, то ўсё вельмі добра. Але не заўсёды гэтак робіцца. У нас камітэт узаемадапамогі памагае толькі багатым, а бедны не даступіцца. У нас перасіляюць кулакі і падсмейваюцца над намі...

Гаворыць яна, не аглядаючыся назад і не зазіраючы ўперад, а пра жыццё сягонняшняга дня.

Зразу робіцца зразумелым, што ёсць глухія куткі, дзе яшчэ бедната толькі пачынае варушыцца, бо вёска раскалолася на кулакоў і беднякоў.

І вось гэтая старая, непісьменная, пэўна, кабета заве ў канцы свайго слова жанчын разам з мужчынамі ўзяцца за дзела.

Чутна бадзёрасць у канцы яе слоў.

У зале ціш. Нават сцены, якія раней бачылі тут толькі дваранскія сабранні, хмурна застылі, здаецца, перад небывалым прамоўцам.

А вось другая дзяўчына Мінскага павета Сёмкава-Гарадзецкай воласці.

У яе словах ужо ясна малюецца шлях жанчыны:

— Часцей трэба збірацца нам на такія канферэнцыі, а то мы цёмныя. Школа ў нас у 5-цёх вярстах. Трэба нам у вёску школу не адно для дзяцей, а і для нас.

Выступаюць больш, дэлегатак чалавек дванаццаць выходзяць гаварыць...

Гавораць дзяўчаты з вёсак, з саўхозаў...

Гавораць аб «непарадках», пытаюцца, што рабіць, даюць рады...

Вось чутно, што недзе там у вёсцы камітэт узаемадапамогі з кулакоў увесь выбран, а там недзе ў глухім кутку ён не працуе... Кепска дзела ідзе...

А вось чутно:

— А ў нашай вёсцы ўсё добра. Пажалуй, ідзём угору, паднімаемся. У нас усюды камсамол арудуе...

— Таварышы,— гаворыць новая дэлегатка.— Я сама член камітэта ўзаемадапамогі. На мяне скоса глядзяць мужчыны; тваё дзела, кажуць, прасці. А я кажу: прасці маё дзела, але і тут маё дзела. Работа ў нас як калі, часам кепская, часам добрая, няма каму працаваць у нашым камітэце...

— Адкуль? — чутны галасы.

— Вёска Курыцічы, Мазырскага павета, Петрыкаўскай воласці,— адказвае кабета.— Прозвішча маё Картыня...

Так доўга яшчэ гавораць. Выказваюць сваю радасць, гора.

Зразу кідаецца ў вочы, што адчуваюць сябе тут, як дома...

У прэзідыуме чалавек 15. Многа маладых дзяўчат, некалькі стараватых і саўсім старых кабет.

Вунь з боку стала, злажыўшы рукі, сядзіць жанчына, член прэзідыума. Худы твар яе ў дробненькіх маршчынах; на ім адбітак нейкае думкі. Вочы яе прыжмураны.

Можа, яны не выносяць электрычнага свету, прывыкшы за свой век к цёмнай газоўцы ў доўгія асеннія ночы.

Зычныя воплескі... звонкія галасы. Вакол пануе радасць...

Гэты жаночы з'езд будзе штуршком для ходу наперад нашых камітэтаў узаемадапамогі,— канчае сваё заключнае слова Наркамсабеса.

Са спевамі песняў, найбольш камсамольскіх, дэлегаткі пераходзяць праз некалькі вуліц на пасяджэнне гарадскога іспалкома.

## На пасяджэнні мінскага гарадскога іспалкома

Дзеля таго каб пазнаёміць з'езд з жыццём горада, з дакладамі выступілі члены гарадского іспалкома і загадчыкі аддзелаў іспалкома ў розных галінах.

Першым выступіў загадчык Мінскага аддзела аховы здароўя доктар Сляпян.

Ён гаварыў аб той рабоце, якую зрабіў аддзел у сэнсе аховы здароўя работніц і дзяцей. Ён адзначыў, што раней многа кабет губіла сваё здароўе, а падчас і жыццё ад так званых абортаў. Цяпер,— кажа ён,— калі работніцы няма як па якіх-небудзь прычынах раджаць, аборт павінен рабіцца ў поўных санітарных умовах, у спецыяльных прытулках, якія ёсць у Мінску, і дактарамі.

Далей т. Сляпян адзначыў, што ў Мінску ёсць 3 радзільных прытулкі, дамы для грудных, беспрытульных дзяцей... Ёсць яслі, дзіцячыя дамы, да якіх прыкамандзіраваны спецыяльныя дактары. Ёсць дзіцячая амбулаторыя. Ізучаецца здароўе падросткаў, якія працуюць на фабрыках і заводах.

Далей гаварыў т. Рабіновіч аб установах, якія маюць сваёю мэтаю ахову здароўя работніц і іх дзяцей, але знаходзяцца пад кіраўніцтвам аддзела народнай асветы. Ён адзначыў, што ў Мінску 16 дзіцячых садоў, у якіх да 700 дзяцей.

Далей член іспалкома Камінскі прапанаваў, каб іспалком сягоння пастанавіў адчыніць яшчэ адны дзіцячыя

яслі ў чэсць Усебеларускага з'езда сялянак і батрачак.

Прапанова гэтая была сустрэта бурнымі воплескамі.

Член іспалкома т. Клыс адзначыў, што і сялянка, так як і работніца, мае патрэбу ў яслях для дзяцей. Гаварыў ён яшчэ і аб тым, што часам выхаванне дзіцяці ў яслях розніцца ад таго выхавання, якое падносіцца дзіцяці тады, як яно з ясляў пападае на ноч дадому. Каб гэтага не было, трэба мець зносіны з бацькамі дзяцей. У гэтым напрамку многа ўжо зроблена, і ўсякае дзіця павінна выхоўвацца на сваім родным языку.

Дакладчыцы, якія выступаюць ад дэлегатак, адзначылі, што і ў вёсцы яслі трэба,— калі работніца ў горадзе, ідучы на фабрыку, пакідае дзяцей у яслях, то сялянка дзеля сваёй карысці павінна гэта рабіць, ідучы на поле.

Але часта, дзякуючы цемнаце сваёй, сялянкі баяцца гэтых ясляў, не ведаючы часам добра, што гэта такое... Многа вясковых кабет губіць сваё здароўе няўмелымі абортамі, якія робяць часта шаптуны і павітухі...

Цікава гаварыла дэлегатка Шушко, Глускай воласці, Бабруйскага павета. Вось што яна казала:

— Каб не было ўсяго таго страшнага для жанчыны, аб чым мы тут доўга гаварылі, нам патрэбна асвета. Вось мы гаворым, што ў нас няма школ, не маем сродкаў іх трымаць. Але ці падумаў хто, што мы даём 2 прадналогі замест аднаго. Другі прадналог — гэта папу. Вось мы школу, вучыцеля не можам трымаць, а папы ў нас ёсць, а потым скардзімся на дзяржаву. Так у нашай вёсцы, так я думаю і вакол. Улада наша камуністычная, яна хоча даць нам асвету. А хто ж улада, хто гэтая дзяржава?! Мы самі!

Доўга пасля гэтых слоў грымяць воплескі ўсёй залы.

Дэлегатка Барысаўскага павета Хадасевіч сказала:

— Калі нашы сыны будуць нашымі дактарамі, тады ахова нашага здароўя будзе для нас забяспечана. І вось к гэтаму дружна нам трэба ісці...

У канцы пасяджэння член іспалкома т. Абражук сказаў, што прадлажэнне т. Камінскага аб адчыненні ясляў у чэсць з'езда ён падтрымлівае, але дабаўляе, каб яслі былі адчынены за рысай горада.

Т. Муратава адзначыла ў заключным слове:

— З'езд наш мацней яшчэ звяжа вёску з горадам. Нашы прамовы выяснілі гэтую сувязь, якая ёсць дагэтуль;

высвілі, што вясковая кабета мала яшчэ прымае ўдзелу ў грамадзянскай працы.

Сягоняшні дзень нашага гэтага пасяджэння з'яўляецца днём смычкі праз іспалком...

Пасяджэнне выносіць пастанову: Заслухаўшы даклады аб рабоце гарісполкома ў галінах аховы маці і дзіцяці і народнай асветы, адкрытае пасяджэнне гарісполкома разам са з'ездам батрачак і сялянак Беларусі знаходзіць, нягледзячы на кароткі час работы ў мясцовых абставінах, у дзень вызвалення работніцы і аховы маці і дзіцяці, што ў рабоце гарісполкома ёсць шэраг дасягненняў, але працу ў гэтай галіне трэба ўмацаваць, палепшыць і павялічыць.

Пасяджэнне лічыць неабходным намеціць і прапанаваць гарадскому іспалкому правесці такія мерапрыяцці:

1) У самым хуткім часе адчыніць дом маці і дзіцяці.

2) Аб'яднаць дамы дзіцяці ў адну паказальную ўстанову.

3) Арганізаваць шэраг дзіцячых ясляў пры абшчажыццях для рабочых.

4) Арганізаваць інтэрнацыянальны дзіцячы сад.

5) Рэарганізаваць дом для адзінокіх жанчын у працавую рабочую камуну і пры доме арганізаваць майстэрні.

6) Арганізаваць вытворчы клуб-майстэрню для беспрызорных падросткаў.

7) У самым хуткім часе адвясці памяшканне для арганізацыі дома, беручы пад увагу малы лік дамоў па беспрызорнасці, якія ёсць у Мінску.

Пасяджэнне зачынілася ў паўгадзіны дванаццатага.

## Дняўное пасяджэнне 7 сакавіка

Адчыніўшы пасяджэнне, т. Мурагава абвяшчае, што на з'езд прыбыла з Масквы прадстаўніца ад ЦК РКП т. Калыгіна. Аднагалосна т. Калыгіна выбіраецца ў члены прэзідыума.

У сваёй прамове т. Калыгіна падкрэслівае вялікае значэнне жаночага з'езда на Беларусі, змучанай войнамі, находамі немцаў, палякаў і г. д. Усё гэта цяжка адбівалася на жыцці беларускай жанчыны. Нягледзячы аднак на гэта, характар з'езда паказвае, як паднялася беларуская жанчына. Далей т. Калыгіна малюе ўсю работу, якая зроб-

лена сярод жанчын СССР, гаворыць аб мэце гэтай работы, яе далейшых шляхах і той вялікай ролі, якую павінна сыграць жанчына, у сэнсе будаўніцтва новага быту.

Пасля т. Калыгінай робіць даклад т. Хатэнка — зам. камісара Наркамзема Беларусі. Даклад аб сельскагаспадарчай кааперацыі. Ён падкрэслівае, што смычку горада з вёскай можна зрабіць толькі праз кааперацыю.

Далей ён гаворыць аб адчыненні на Беларусі таварыстваў сельскагаспадарчага крэдыту, аб сельскагаспадарчых таварыствах, аб калектыўных гаспадарках. Далей т. Хатэнка падкрэслівае, што ва ўсіх гэтых установах і арганізацыях вялікую ролю павінна граць жанчына вёскі, бо многія галіны сельскай прамысловасці, як, напрыклад, малочная гаспадарка, знаходзяцца ў руках сялянкі. У нас на Беларусі (да пашырэння),— гаворыць т. Хатэнка,— у праўленнях кааператываў усяго 23 жанчыны. Гэты малы лік паказвае, які малы ўдзел прымае ў нас жанчына ў кааператыўнай працы.

Па дакладу т. Хатэнкі маюць словы многія дэлегаткі.

Выходзяць на сцэну адна за адной. Дзяўчаты і кабеты. Гавораць часам нясмела, а часам і саўсім ужо смела. Ад непрывычкі, ад навізны ўсяго гэтага, ніяк не могуць часта ўтрымацца ў рамках аднаго пытання; гавораць не толькі аб кааперацыі, а і аб камітэтах узаемадапамогі, аб асвеце. Вось маладзенькая дзяўчына, сціснуўшы рукі ў кулакі, крычыць:

— Я ўмею чытаць, але калі ёсць час для гэтага?! Летам жні, зімою прадзі, нават сну мала. Ну, калі чытаць, калі?!

Аж нешта страшнае чуецца ў голасе.

А вось пажылая кабета. Твар малады, але зморшчаны, і валасы выбіліся з-пад хусткі. І з непрывычкі здаецца як бы ненармальным, што ў яе заскарузлых, з неабмываемай сажаю руках блакнот і аловак. Гаворыць аб адносінах мясцовай улады да жаночай грамадзянскай працы — не бойся, сама ідзі: усё роўна ніхто там цябе не пазаве. Потым, блытаючыся ў словах, гаворыць аб Леніне, аб «радасці».

Воплескі не даюць ёй скончыць.

Вось дэлегатка з Барысаўскага павета, Вялікадолецкай вол<асці>.

— Горад ужо стаў на ногі,— кажа яна,— мы гэта бачым. А вёска асталася далёка ззаду. Чаму аб нас горад

мала ўспамінае? Чаму мала прысылае к нам сваіх сіл, якія збіраліся нас бараніць. Прысылайце камуністаў у нашы цёмныя куточкі.

* * *

Даклад т. Сянкевіча аб вясковым быце даўней, цяпер і ў будучыні — і жанчыне — зацікавіў, захапіў з'езд так, як ніводзін другі даклад.

— Наш новы быт,— гаворыць т. Сянкевіч,— выяўляецца ўжо нават у тым, што вы з сваёй, чыста жаночаю крыўдаю, часам з лапцямі і сярмягамі, сабраліся ў гэтай даўнейшай дваранскай зале. Даўней кабета вясковая была нявольніца нявольніка. Яе гаспадар быў нявольнікам пана, а яна была нявольніцай свайго гаспадара-мужа. Нявольніца яна яшчэ асталася і да гэтага часу. Яна малая, толькі навучылася хадзіць,— а ўжо з'яўляецца нянькаю свайго меншага брата ці сястры. Трохі падрасла — глядзіш, ужо цягне мяшок зелля з агарода або на сенажаці працуе. Праца цяжкая сустрэла яе ўжо з пялёнак. Дзявочыя песні яе вясёлыя, але вясельныя — поўны ўжо скаргі і жальбы. Ужо адзін царкоўны шлюб робіць яе нявольніцай. Ужо там у царкве «апостал» кажа: «а жана да баіцца свайго мужа». Ідзе яна замуж у большасці выпадкаў не па каханню, а затым, што можа прынесці ў чужую сям'ю карысць сваёю працаю ці пасагам. І к 30-ці гадам — яна ўжо саўсім старая. На кожным кроку яе жыцця — паны, шаптуны, заразлівыя хваробы, часта няўмелыя кустарныя аборты, якія губяць яе жыццё, цёмныя павітухі. У такую няволю аддала жанчыну царква. Ужо даўно, на адным усяленскім саборы паднімалася пытанне: — «ці мае жанчына душу»?..

Савецкая ўлада робіць усё магчымае, каб вызваліць жанчыну з гэтага пекла. І гэты наш з'езд мае гэтую ж мэту. Патрэбна барацьба з духавенствам, з усімі забабонамі. Без гэтага не будзе жанчыне дарогі к свету. Жанчына павінна разам з мужчынам прымаць удзел у грамадзянскім жыцці, ва ўсіх галінах дзяржаўных спраў — і ў кааперацыі, і ў галіне народнай асветы... Толькі такою дарогаю жанчына прыйдзе к свайму новаму быту. Савецкая ўлада — першая ўлада на зямлі, якая дала кабеце магчымасць дабіцца гэтага. Дык разам жа, кабета, з К<амуністычнай> п<артыяй> да свайго радаснага жыцця!

Доўга грымяць бурныя воплескі дэлегатак.

Выходзяць гаварыць дэлегаткі.

Вось зусім маладзенькая дзяўчынка з Гомельшчыны, Калінінскага пав<ета>, Касюкоўскай вол<асці>, Бухарына — пралетарскай камуны № 1.

Яна гаворыць: — Жанчыны! Пакіньце баяцца новага быту, ідзеце к яму.

Чаму сярод вас тут так мала камунарак? Нас раней палохалі камунаю, але мы не слухалі і арганізавалі яе. У нас усё адно. Мы там усе як браты і сёстры. У нашай камуне няма царквы, але ёсць затое яслі для дзяцей. Сваіх дзяцей мы не хрысцім, але растуць яны шчаслівыя. Камуна толькі і ёсць жыццё для нас.

Чутны воплескі.

А вось словы такой самай маладзенькай батрачкі-камсамолкі:

— Маладыя — усе ў камсамол, а старыя не перашкаджайце ім у гэтым.

Вось адна апавядае з свайго жыцця:

— Выйшла я замуж без вянца, але жыву шчасліва. Мае землякі і зямлячкі смяяліся нада мною, але цяпер ужо сталі задумвацца над гэтым.

Выступаюць больш... Зразу кідаецца ў вочы, што гавораць «па-свойму», як бы ў сябе дома. На маладых тварах вызначаецца радасны настрой, а на старых — сляды глыбокіх думак. Гэтыя старыя жанчыны выносяць можа (і пэўна, што гэта так) у сабе вялікую барацьбу двух, праціўных адно аднаму, пачаткаў. Бо вядома, як трудна вырываць, ды яшчэ і з карэннямі, тое, што глыбока ўрасло, тое, што ўсё жыццё панавала над думкамі, лічылася «ўсясветнай ісцінай» і на што цяпер адчыняюцца вочы.

Можа толькі сягоння вось тут, у гэтай зале дваранскага сабрання, многія з гэтых, без пары старых кабет, зразумелі настаяшчую праўду аб «грабіцелю-бальшавіку».

І нейкі філасофскі выгляд маюць зморшчаныя жаночыя твары...

### Вячэрняе пасяджэнне 7 сакавіка

На чарзе даклад т. Гярновіч, прадстаўніцы савецкай юстыцыі,— «Аб зменах у нашым заканадаўстве». (Адносна да жанчыны).

У дакладзе ярка малююцца адносіны між жанчынай і мужчынам у старыя часы, уся іх ненармальнасць...

Далей аб гісторыі жаночага руху ва ўсім свеце, аб тым, што гэтым рухам увесь час былі ахоплены толькі буржуазныя жанчыны. Іх рух чыста жаночы, абасоблены,— кажа дакладчыца,— і з нашым рухам ён нічога супольнага не мае. Наш рух не спецыяльна жаночы, а агульнапралетарскі, класавы.

Далей дакладчыца гаворыць аб савецкіх законах, абараняючых працу жанчыны, аб кодэксе ЗАГС, знаёміць з'езд з некаторымі цікавымі стаццямі кодэкса ўгалоўнага і ЗАГС.

Даклад выклікае многа розных пытанняў, і на сцэну зноў з'яўляюцца прамоўцы-дэлегаткі.

І тут так, як і раней на сваіх кароткіх прамовах, адзначаецца немагчымасць дэлегатак утрымацца ў рамках аднаго пытання. Гавораць аб асвеце і раптоўна пераходзіць на ўвесь цяжар жыцця, на беднасць, на несправядлівасць мясцовай улады. Гаворыць аб праднaлогу, аб дзераве і г. д. Гаворыць ад усяго свайго пачуцця, з сілай. Зразу відаць, як многа перажыла, перапакутавала вясковая кабета.

Гавораць аб адносінах да жанчын са стараны мясцовых органаў, аб адносінах да з'езда.

Вось дзяўчына — Лойка — гаворыць аб тым, як яе выбралі на з'езд, але ў воласці не хацелі даць ёй фурманкі, і яна пехатой з Сёмкава-Гарадзецкай вол<асці> ішла на з'езд. Расказвае, як палохалі яе дома гэтым з'ездам, як смяяліся. Яна заве кабету на шырокую дарогу.

Дэлегатка Старобінскай вол<асці>, Слуцкага пав<ета> Будрык задае перад усім з'ездам пытанне, як глядзіць Савецкая ўлада на брак, які не зарэгістраваны ў ЗАГСе, і прызывае з'езд вырашыць пытанне, ці можна лічыць законным брак, які не запісан.

І вось тут з'яўляюцца радасныя думкі аб тым, як высока паднялася за часы рэвалюцыі наша жанчына. Тут справа не ў тым, добрую ці кепскую папраўку яна хоча ўставіць у закон, а справа ў тым, што яна ўжо смела стала крытыкаваць дзяржаўныя законы і не толькі ў сябе дома, а на сваім з'ездзе, на сваім кангрэсе. Думаецца, як высока паднялася гэта нашая беларуская жанчына над хвалёнай культурнай жанчынай Захаду, якая на сваіх з'ездах гаварыла «аб модах, шляпах» і г. д., што відаць нават з тых часопісаў, якія выдаваліся кіраўнікамі іхняга руху.

У адказ на выступленне Будрык гаворыць дэлегатка Высоцкая, якая адзначае, што рэгістрацыя бракаў неабходна дзеля таго, каб лягчэй ахоўваць правы кабет... Для Савецкай улады няма законных і незаконных бракаў і дзяцей.

У сваім заключным слове т. Гярновіч закранула пытанне, падказанае дэлегаткамі аб прастытуцыі, барацьбе з ёю Савецкай улады і метадах гэтай барацьбы.

Потым адказвае на цэлы шэраг запісак.

З'езд заканчвае сваю сягоннягшнюю работу. Т. Муратава абвяшчае, што сягоння з прычыны пярэдадня свята жанчыны-работніцы розныя прафсаюзныя арганізацыі просяць дэлегатак пайсці ў іх клубы для святкавання.

Зачытваюцца тэлеграмы прывітання з'езду ад 1-й Мінскай жалезначыгуначнай школы, ад мінскай рабочай канферэнцыі, якая толькі што адбылася.

Явілася дэлегацыя ад саюза пішчавікоў, ад якой т. Бейніна ўручыла прэзідыуму з'езда чырвоны сцяг.

Дэлегаткі арганізавана разыходзяцца па рабочых клубах для святкавання дня работніцы.

## Дняўное пасяджэнне 8 сакавіка

Пасяджэнне, адчыненае т. Муратавай, пачынаецца словам прывітання т. Аксёлавай, прадстаўніцы ад жанок мінскіх рабочых, якая пасля свайго слова ўручыла з'езду падарунак — невялічкую бібліятэчку.

Пасля кароткай прамовы т. Муратавай наркамасветы [...] робіць даклад «Аб асвеце ў вёсцы».

Ён кажа, што ў агульным ліку ўсіх працаўнікоў асветы на Беларусі 45% займаюць кабеты. Гэтая лічба сведчыць аб тым, што ў галіне народнай асветы жанчына ўжо выявіла сябе, тут яна прымае актыўны ўдзел у працы, тады, як другія камісарыяты толькі заклікаюць к сабе жанчыну.

Далей [...] дае малюнак школьнай справы на Беларусі, гаворыць аб тым, што недахваткі сродкаў не даюць магчымасці развярнуць школьную працу так, як бы хацелася. Але ўсё гэта часовая з'ява.

Далей аб нашай школьнай сістэме: даўней толькі праз гімназію можна было «выйсці ў людзі». А гімназія ніколі не спускалася ў вёску. Нават не ў кожным павятовым горадзе была яна. Наша ж блізкая мэта — у кожнай валас-

ці адчыніць сярэднюю школу. Гэта з поспехам выпаўняецца — лік нашых сямігодак па вёсках і мястэчках з кожным годам павялічваецца. Быў час, [...] калі адсутнасць сродкаў заставіла нас увясці так званае самаабмежаванне, цяпер жа гэтага няма; з павелічэннем у нас сродкаў робіцца ўсё магчымае, каб забяспечыць школу ўсім тым, што неабходна для заняткаў. Адно з нашых вялікіх пытанняў сягоннешняга дня — гэта палепшыць матэрыяльнае становішча настаўніцтва, бо гэта многа значыць у справе народнай асветы... Мы хочам, каб школа наша давала навуку тую, якая нам патрэбна тут на нашым месцы. Наша краіна — краіна земляробства. І вось мы надзялілі школы зямлёю, на якой з цягам часу будуць «паказацельныя пункты земляробства». Зразу гэтага мы зрабіць не можам, а зямля ўсё ж такі дае карысць,— можа ёю пакарыстацца часам вучыцель, што дадае яму ахвоты лепш працаваць... У нашых школах навука выкладаецца на тых мовах, на якіх гаворыць жыхарства. У нас ёсць школы беларускія, расійскія, польскія... [...] У нас няма, як нам многія гавораць, «насільнай беларусізацыі»,— у нас школа беларуская там, дзе жывуць беларусы і дзеці іх, апрача беларускай, другой мовы не ведаюць... [...] Нам раней гаварылі, што беларуская мова некультурная, што гэта проста або мова «мужыцкая», або «жаргон». А мы кажам проста: плюнь ты, чалавеча, на тое, што табе кажуць «культурнае і некультурнае», а рабі так, як табе лепш... Для нас усе мовы культурныя, бо гэта мовы «людскія»...

Далей [...] гаворыць аб выхаванні дзяцей, у якім вялікую ролю павінна граць кабета; аб хатах-чытальнях, аб працы ў іх, аб ахове кніжак, якія часта дарэмна марнуюцца па вёсках...

Па дакладу [...] мае слова дэлегатка ад Самахвалавіцкай вол<асці> Мінскага павета т. Шыян. Яна гаворыць:

— Наша жанчына ўжо зразумела вялікае значэнне кнігі... Дайце нам больш настаўнікаў... Аб школе павінна думаць, клапатацца жанчына так жа, як і мужчына, бо чыё сэрца баліць, як не мацеры, як яе дзіця прыйдзе са школы з памёрзлымі рукамі і нагамі. Дык думай жа, кабета, аб палепшанні гаспадарчага становішча школы, вырашай гэтыя пытанні на сходах... не глядзіце коса, як гэта часта

робіцца, на вучыцеля: яму неабходны брацкія адносіны... і яшчэ неабходна звязаць дамашняе выхаванне са школьным.

На сцэне перад сталом прэзідыума — дэлегатка Чудная, з вёскі Шаперава, з Магілёўшчыны. Яна, гэтая старая кабета, гадоў за 50, гаворыць пасля кожнага дакладу, і часам па некалькі разоў. Кожны раз яна гаворыць аб страшнай беднасці, аб цяжары, аб горы, бядзе, у якіх жыве вёска. Вось учора яна гаварыла аб той несправядлівасці, з якою «савецкія чыноўнікі» бралі праднадог. Цяпер яна гаворыць аб тым, што школа ў іх вёсцы такая, у якой няма як вучыцца бедным — настаўніца дае «казённыя» кнігі таму, хто прынясе ёй торбачку гароху ці кусочак сала. І вось тут гэтая старая, простая кабета, сама таго нават не ведаючы, у сваіх кароткіх, блытаных словах так многа гаворыць, столькі, колькі не можа часам сказаць доўгая прамова вучонага прамоўцы. Зразу малюецца вялікая беднасць некаторай часткі сялянства, такая беднасць, што страта «торбачкі гароху» ёсць ужо нешта цяжкае. Малюецца і другое: вучыцелька кваліць на «торбачку гароху», значыць яна яшчэ галодная. І відаць сэнс слоў старое сялянкі: горад, падай сваю руку вёсцы, бо ёй дарага кожная «торбачка гароху!».

Вось дэлегатка Бурлыга, Горнаўскай вол<асці>, гаворыць яна нешта новае, яшчэ дагэтуль дэлегаткамі не гаворанае:

— Чаму ніхто з нас не гаворыць аб беспрытульных дзецях, якіх у нас па вёсках многа. Летам яны нам пасуць быдла, прыносяць карысць, і тады мы іх бачым. А зімою яны ўжо нам робяцца непатрэбнымі, мы ўжо аб іх забываем. Часам у нас, па вёсках, ёсць многа сродкаў, якія можна было б скарыстаць дзеля гэтых бедных, пакрыўджаных жыццём дзяцей. Гэта тая зямля, якая нарэзана школам, або якія-небудзь другія запасныя зямельныя фонды. Часам гэтыя землі засяваюцца нават не вучыцелем, гэта яшчэ нічога, але якім-небудзь старшынёю валіспалкома або якім-небудзь інструктарам. Добра, калі яшчэ карыстаецца гэтаю зямлёю ўвесь іспалком, як установа. Вось, па-мойму, і трэба ўсе такія сродкі абярнуць на беспрытульных дзяцей. Я прызываю перадаць гэтыя землі, хоць да часу, на карысць гэтых дзяцей.

Вось дэлегатка Дарэўская. Яна часта выступае. Яе ўжо ведае ўвесь з'езд, як моцную ў сваіх думках дэлегатку,

смелага прамоўцу, і за гэтым яе адно паяўленне на сцэне вызывае бурныя воплескі. Яна ў цяжкай, зрэбнай, чырвонай спадніцы, шэрай суконнай кароткай вопратцы. Выгляд яе нейкі здаровы, і здаецца, што можа яна кулаком адбіць рог у стала...

У час абедзеннага перарыву каля памяшкання з'езда, на вуліцы, стоячы на тратуары, яна гаварыла з другою дэлегаткаю:

— Вось ты гаварыла, што нам трэба рабіць,— сказала ёй дэлегатка. — Ну, але ці зробім мы ўсё гэта.

— Зробім,— адказала рашуча Дарэўская,— трэба нам адно: адзін другога лавіць. Калі знойдзеш гада ў іспалкоме, дык бярыся за яго — хадзі адно сюды, галубчык! А калі няма сілы ўзяць — заві камсамольца. Лаві і глядзі вакол!

Цяпер яна гаворыць:

— Вось адна дэлегатка гаварыла, што трэба ў вёсцы будаваць фабрыкі. А я кажу не, не трэба. Фабрыка — гораду, вёсцы — зямля. Горад павінен падтрымаць нас, а мы горад!..

Так і чуецца, праглядвае моцны, «тугі» розум гэтае «мужычкі», якога «абухам не перашыбеш». Яна ўжо будуе дзяржаву аднымі гэтымі сваімі словамі, ад якіх, здаецца, бярвенні гатовы варочацца...

Т. Муратава робіць даклад аб рабоце сярод сялянак і работніц.

У дакладзе малююцца этапы гэтай работы, яе бліжэйшыя мэты, пытанні аб ролі дэлегаткі ў вёсцы.

Са словам па дакладу т. Муратавай зноў выступае старая Чудная:

— Няхай ужо мы не ведалі свету, хай жа дзеці нашы яго ўбачаць,— кажа яна. Гаворыць далей, часта блытаючыся ў словах. Яна — член прэзідыума і пасля свайго кароткага слова садзіцца на сваё месца за чырвоным сталом на сцэне.

Пасля заключнага слова т. Муратавай выносяцца рэзалюцыі па ўсіх дакладах, у якіх адны матывы — праз працу — к светлай будучыні, у дзяржаўным будаўніцтве — вялікая роля жанчыны. Зачытваецца тэлеграма прывітання ад супрацоўнікаў Наркамзему.

Т. Муратава абвяшчае, што кожная дэлегатка атрымае па звонкай савецкай манеце, каб азнаёміць скарэй з новымі грашыма вёску.

Выходзяць са словамі прывітання прадстаўнікі ад Чырвонай Арміі, ад рабфака БДУ. Просяць дэлегатак пайсці паглядзець на іх жыццё...

Дэлегаткі раз'язджаюцца і разыходзяцца ў чырвоныя казармы, на рабфак, на адчыненне ясляў і кансультацыі ў імя дня работніцы.

## Вячэрняе пасяджэнне 8 сакавіка ў Беларускім Дзяржаўным тэатры

### *Зачыненне з'езда*

Дэлегаткам раздаюцца партрэты Леніна. Пасля прамовы т. Калыгінай і цэлага шэрагу выступленняў дэлегатак гаварыў прамову старшыня ЦВКБ т. Чарвякоў.

Ён сказаў:

— Трудна нашай Беларусі паднімацца, але як пойдзеш на нашы з'езды, то набіраешся сілы, радасці для далейшай працы будавання новага жыцця, замест старога, цёмнага.

Вось прадстаўніцы самых глухіх куткоў Беларусі з нейкім радасным пачуццём дзержаць у руках партрэт Леніна. Чутно было, як многія абяцалі павесіць гэты партрэт дома разам з абразамі. Гэта гаворыць аб тым, што кабета наша раздвоена, адной нагою яна ўжо ступіла на новае, другою яшчэ моцна стаіць на старым. Па заветах слаўнага бацькі нашага Леніна мы толькі самі можам выйсці на светлую дарогу. Мы павінны весці барацьбу з тымі, якія глядзелі на нас, асабліва на кабету нашу, як на «быдла». А гэта гаварылі тыя, што акружалі жыццё кабеты нашай іконамі, якія яшчэ і дагэтуль, вісячы па вуглах у хаце, гавораць: «павінуйся, цярпі». Дзесяць гадоў таму назад ніхто мабыць і не думаў, што цяпер, у гэтым дзяржаўным тэатры, наша вясковая кабета будзе вырашаць пытанні, не толькі звязаныя з сваёю дзяржаваю, але і звязаныя з Англіяй, Францыяй і другімі заходнімі «высокакультурнымі» дзяржавамі...

Вось тут наша кабета гаруе, а недзе далёка капіталіст, седзячы ў сваім кабінеце, думае, як бы скарыстаць яе працу. Вось, напрыклад, не вельмі даўно ліёнскія купцы прасілі нас загатаўляць для іх паяскі, якія вяжуць слуцкія кабеты і якія так ахвотна купляюць за граніцай; або другія западныя купцы прасілі нас загатаўляць для іх наш

лён, які столькі цяжкае працы патрабуе ад нашай кабеты і на якім яны абагачваліся б,— усё гэта і ёсць тая самая паншчына, але ў далікатнейшай, «культурнай» форме... Многія ў нас яшчэ не ведаюць усёй праўды аб К<амуністычнай> п<артыі>, многія не давяраюць ёй. Многія, нават, каб прыйшлося, не пайшлі б у гэты тэатр, лічачы гэта нечым пустым, непатрэбным. І вось з гэтай цемраю вядзём мы барацьбу. Але барацьба гэтая ў многа разоў цяжэйшая, чым з беднасцю, з разрухаю. Моцны фундамент ужо заложан. Ёсць у нас ужо і жанчыны, якія ўсё зразумелі. І везучы дадому партрэты Леніна, вы ўсе павінны ведаць, хто такі быў Ленін. Калі мы будзем верыць у Савецкую ўладу, што яна наша, мы справімся з цемраю, якая нас акружае. Ужо многія з вас, пабыўшы тут, скажуць, што бальшавікі не «абармоты», а хочуць шчасця чалавецтву і за гэта змагаюцца. Няхай жа жыве К<амуністычная> п<артыя>, няхай жыве вольная наша Беларусь, няхай жыве вызваленая сялянка і работніца!

Доўгія, гучныя воплескі пакрылі канец прамовы т. Чарвякова.

Далей прамова т. Багуцкага.

Прывітанне ад Чырвонай Арміі.

Зачытваюцца тэлеграмы прывітання ад работніц гарадоў Бранска і Уфы. Бранскія р<аботніцы> прызываюць святкаваць 8-е сакавіка замест якога-небудзь царкоўнага свята. Работніцы г. Уфы прызываюць 8-е сакавіка святкаваць замест «благавешчання». Прадлажэнне гэтае прымаецца з бурнымі воплескамі.

Пастаноўлена паслаць тэлеграму 3-му Інтэрнацыяналу, праз які вітаць Клару Цэткін і працоўных усяго свету.

Далей даклад т. Фрай аб камсамоле і яго працы. Пасля дакладу зачытваецца спіс дэлегатак, якія падалі заявы аб уступленні ў партыю і камсамол.

Сакратар ЦК КСМБ абвясціў, што падаўшыя заявы ў камсамол прымаюцца і далей прызываў іх к сумеснай рабоце.

Аб уступленні ў партыю падана 15 заяваў. Ім прапанавана звярнуцца па гэтай справе ў мясцовыя ячэйкі.

З'езд пастанаўляе, каб увекавечыць памяць Леніна, звярнуцца з адозваю да сялянства аб сазданні «Сялянскага фонду ў імя Леніна».

Спецыяльнымі дэлегатамі падносяцца падаркі з'езду: ад завода «Пралетарый» — партрэт К. Цэткін, ад дома

груднога дзіцяці — знімак з быту дома, ад жонак ваенна-служачых — Чырвонае знамя.

З'ездам пастаноўлена прасіць ЦВКБ прадаставіць 20 месц для членаў з'езда на маючым быць з'ездзе Саветаў пашыранай Беларусі.

Пасля заключнага слова т. Муратава зачыняе з'езд.

Духавы аркестр грае «Інтэрнацыянал». Пасля дэлегаткі і ўсе прысутныя пяюць «Адвеку мы спалі».

Пасля зачынення з'езда для дэлегатак ідзе п'еса «На Купалле».

# ЯК КАКОРЫНЦЫ, КАБ НЕ АСТАЦЦА Ў ДУРНЯХ, ШКОЛУ БУДУЮЦЬ

Каб какорынцам не астацца дурнямі, гул ішоў па лесе. Дакачваўся гул да валаснога мястэчка Капыля, разыходзіўся па ўсёй Случчыне.

— Нашто вы, браткі, лес пляжыце? — пыталі падарожныя ў какорынцаў.

— Школу будуем,— важна адказвалі какорынцы, абціраючы каравымі ад хваёвае і яловае смалы рукамі чырвоныя твары.— У нашай жа вёсцы Какорычах школы няма.

— А хто ж вам дазволіў лес сеч?

Какорынец убіваў у хвою сякеру, даставаў капшук з самарослаю табакаю і важна тлумачыў:

— Гэта ў нас, тым часове, пане-таварыш, школа ні к чорту годная, дык Савецкая ўлада нам і кажа: так і так, браткі-какорынцы, наце вам дзерава, будуйце школу, каб дурнымі вам не застацца.

— Верна, браткі,— здавальнёна адказваў падарожны,— будуйце школу, будуйце, каб дурнямі вам не застацца.

— Гы-гы, школу будуем,— крычалі какорынцы.

— Панцялей, давай, адно, вунь тую хвою абложым, не шкадуй — гэта ж будзе школа, не хвост сабачы. Старайся дурным не застацца.

— Верна, школа не хвост сабачы ж. Гы-гы.

— Давай пілу сюды, Марцін!

Стагнаў лес. Клаліся старыя хвоі. І ўсё для таго, каб какорынцам дурнямі не застацца.

* * *

Каб какорынцам не застацца дурнямі, было вывезена з лесу палавіна дзерава.

Пабудова школы — дзела, можна сказаць, агульнае. А калі хто ў агульным дзеле больш за ўсіх папрацуе, таго (спрадвеку гэтак вядзецца) дурнем лічаць.

І вось, каб не застацца дурнямі, какорынцы палавіну дзерава ў лесе пакінулі (каб вывезці — трэба папрацаваць).

— Каб гэта як, браткі, дзерава абчасаць, а то гніе пад карою,— гаварыў часам хто-небудзь з какорынцаў.

— Дурань ты,— адказвалі яму,— хто табе заплаціць за гэта. Ты ж тады дурным застанешся.

— Але ж часаць трэба?

— Хай табе ў грудзях чэша!

Дзерава гніло пад карою і дажджамі, а какорынец давольна пасміхваўся:

— Усё-дыкі я дурным не застануся, дарэмна працы не прылажу.

* * *

Каб не застацца ў дурнях, ноччу какорынцы прабуюць цягаць бярвенні. Выбера какорынец калоду па сваёй сіле, узваліць на плечы, аж вочы на лоб лезуць, і рад.

— Гы-гы, узяў. Сусед возьме, а я не. Я ж тады дурнем застануся.

* * *

Каб не застацца дурнямі, какорыцкія дзеці хочуць вучыцца. Какорынцы ж, каб не застацца дурнямі, баяцца прылажыць рукі да справы. Какорыцкія дзеці растуць няграматнымі дурнямі. Самі ж какорынцы лічаць сябе вельмі разумнымі.

А тая камісія, якая выбрана была кіраваць пабудоваю школы, застаецца ў разумных ці ў дурнях?

Няхай гэтая камісія, разам з какорынцамі, аб гэтым добра падумае.

# САМАХВАЛАВІЦКАЯ ЎЗАЕМАДАПАМОГА І САМАГОННЫЯ ТРУБКІ

Самахвалавіцкі самагоншчык цыкнуў праз зубы слінаю, весела падмаргнуў усяму свайму сходу і стаў гаварыць:

— Яжэлі, скажам, таварышы, самахвалавіцкая міліцыя каго-небудзь з нас за каршэль зловіць ды адбярэ, значыць, самагонныя нашы прылады — цабры і дзежы, чыгуны і бутлі, бочкі і шмочкі, глякі, трубкі і ўсякія іншыя шрубкі, дык стала быць па закону аддае яна іх не ў акруговы наш горад Мінск, а нашаму роднаму раёну, самахвалавіцкаму камітэту заемадапаможнаму. Дзякрэт, значыць, стала быць, таварышы, такі выйшаў і больш нічога.

А раз заемадапамога ёсць такая ўлада, якая памагае ўсім «пастрадаўшым», дык і мы, як «пастрадаўшыя» ад міліцыі, можам там трохі пад гэтае. Усе нашы і трубкі і шрубкі мы можам ад заемадапамогі назад купіць на сваё здароўе.

Нашы трубкі самахвалавіцкая заемадапамога прадае па два рублі, значыць, за штуку.

— Прашу слова,— пачуўся голас.

— Гавары.

— Я, таварышы, можна сказаць, пакуль што не самагоншчык — трубкі, значыць, не меў такое, не ведаў, дзе дастаць. І ці не будзе цяпер якога касацельства з боку таго, чыя трубка, калі я яе куплю ў самахвалавіцкае ўзаемадапамогі?

— Калі раней захопіш — маеш права купляць.

— Эх, маліна! Дзякуй табе, божа, і табе, самахвалавіцкая заемадапамога. Не буду абіваць чужых парогаў, шукаючы самагону. Прыйшла, нарэшце, і мне пара стаць самагоншчыкам! Ур-ра!

Сход гукнуў. Ура.

— К парадку, таварышы. Цяпер, стала быць, міліцыя накрые — заемадапамога трубкі не змарнуе, жывуць, браткі, нашы трубкі! Ур-ра!

Другое «ўра» было адказам.

## ПА ЎКРАІНСКІХ ПРАСТОРАХ

За Харкавам, пры жалезнай дарозе, таксама як і ў нас, трапечуць срэбнымі лісцямі слаўныя асіны і тая самая трава расце на адкосах. Толькі неба тут іншае, ды яшчэ вялікі прастор стэпу адчуваецца недзе за блізкімі ўзгоркамі і кустамі. А пасля, як застаўся ззаду прыгарад украінскай сталіцы — дачы, набегла з усіх бакоў роўная стэп.

Размах яе — як бяскрайнасць чыстага неба, колер яе нейкі цемнавата-сумны...

Стэп пустая, рэдка дзе відны на ёй пацямнеўшыя ад дажджоў мэндлікі позняга збожжа, многа нізкага, збітага быдлам іржышча і таксама многа цёмнай чарназёмнай раллі, месцамі роўна і гладка выбаранаванай.

Учора перад вечарам у Чарнігаўшчыне бачыў я з акна вагона, як украінцы ўзнімалі плугамі зямлю; па вузкіх палявых дарогах вазілі цэлымі абозамі бульбу, а цяпер, за Харкавам, поле амаль што пустое. І тут многа забаранаванай раллі, і на ёй ужо роўная зеляніна маладых усходаў, ды толькі выгляд тут стэпу зусім іншы. У Чарнігаўшчыне сям-там былі яшчэ лясы, а тут, станцыі праз тры ад Харкава, бяскрайні палявы размах.

Пры станцыях бахчы з гарбузамі, з кукурузаю, а пасля зноў роўная, пустая стэп.

Можа гэта мне з непрывычкі, але выгляд яе нейкі хмурны. Уяўляецца, што канца-краю няма нідзе гэтым прасторам.

Час ад часу прабягаюць міма ўкраінскія вёскі. Белыя мазанкі з нейкай як бы бяздумнай ухмылкай глядзяць з-пад саламяных стрэх; патанулі яны ў садах; між платоў уюцца дарогі-вуліцы, і здаецца, што на іх гразь, а гэта чарназём.

Калі дзе прабяжыць перад вачыма саўхоз — там вялікія кавалкі поля ўкрыты «падсолнухамі» і аруць там паравымі плугамі на калёсах. І непрывычна тое, што амаль не відно нідзе на полі дрэва.

Учора на захадзе сонца пры самай чыгунцы ляжала поле, засаджанае бульбаю, укрытае чорным бульбянікам.

Два хахлы запрагалі ў воз коні, а даль злівалася ў адну цёмную, трохі як бы туманную плянёнку.

І ўспомнілася Беларусь... Там у гэты час трохі пачаўшыя жаўцець дрэвы абліты праменнямі вячэрняга сонца, мацней пахне ў туманнай сырасці ядловец, крычаць па вёсках гусі і слаўна пахне свежаю, нядаўна выбранаю з зямлі бульбаю. Стаяў цягнік — наш і паравік браў ваду ці дровы на раз'ездзе. Я аж выйшаў з вагона — так захацелася пагутарыць мне з хахламі, якія ведаюць усё хараство палявых раніц і вечароў.

— Як гэты год картопля ў вас урадзіла,— запытаў я хахлоў.

Хахол не спяшаючы палажыў на зямлю плуг, які цягнуў на воз, абцёр каравыя рукі аб калені палатняных портак і радасна запытаў:

— А відкіля прыіхалы?

— З Мінску,— адказаў я.

— А скількі вам картоплі трэба? Але картоплі тут мала; гарбузів колі хочэце, то можна...

Я нічога не адказаў, пастаяў трохі, аглядаючы чорную зямлю, бачыў, як хахлы глыбакадумна на мяне глядзелі і маўчалі, і пасля пайшоў назад у вагон ад гэтых мілых, слаўных людзей, у «вобчаства» сваіх суседзяў па вагону — людзей «культурных», якія ўпэўнены ў тым, што калі нехаця дакранешся да чыйго-небудзь рукава ці нават чамадана, то гатова быць бяда, калі часам некалькі раз не скажаш «извините».

На станцыі Бахмач на паштовым аддзяленні шыльда па-ўкраінску: «пошта».

— Украінізацыя, значыт,— падмігнуў мне мой сусед-пасажыр.

— Хэ-хэ,— адказала важным смехам «дама», якая едзе ў Крым хіба можа для таго, каб пахудзець.

Цяпер ужо рэдка дзе відны праз акно вагона вёскі — амаль зусім іх няма. Ужо станцыяў сем ад'ехалі ад Харкава, а можа і больш. За стагамі саломы ў чыстым полі аруць параконным плугам, побач — барануюць дзеравяннымі баронамі, у якія запрэжаны старасвецкія валы, а праз некалькі вёрст зусім адна стаіць радавая сеялка і пры ёй сытыя коні з фурманам...

Стэп маўчыць. Толькі чыгуначныя станцыі з шыльдамі на ўкраінскай мове парушаюць мелодыю яе шырокай цішыні. Месячнымі начамі ў глухіх вёсках тут плаваюць

украінскія песні, плачуць вятры над вадою, «у канцы грэблі шумяць вербы», хіляцца вербы долу і месяц аблівае срэбрам белыя мазанкі. А ў бурныя ночы:

«До долу вірбы гне вісокі,
горамы хвілю підыма...»

Гэта стэп вялікага паэта Тараса Шаўчэнкі, гэта стэп вялікага ўкраінца — Гогаля, пабудаваўшага псіхалогію свае багатай творчасці на псіхалогіі глыбокай украінскай душы.

Сонца высока стаіць над стэпам. І з'яўляюцца думкі аб родных скошаных паплавах, аб крыклівых варонах над імі, аб пажоўклых ужо ад восені беларускіх лясах, аб залатых загонах іржышча. Уяўляецца поле з нявыбранаю бульбаю, людзі каля кустоў на полі і ціхая радасць залатых хат у сонечныя адвячоркі ранняй беларускай восені.

# НА КУРОРТАХ

У крымскіх санаторыях і дамах адпачынку жывуць і правяцца ўтомленыя працай і хворыя працаўнікі нашых савецкіх гарадоў і вёсак, а ў крымскіх прыватных дамах і гасцініцах жывуць і карнаваляць людзі — хто іх ведае якія; гэта «нэпачы», а можа проста, так сабе людзі...

Вечарам, калі мора кіпіць бляскам месяца і надберажных ліхтароў, наберажная горада Ялты завалена натоўпам «эфірных» жанчын і «поўных густу ды хараства» мужчын. Тут «на лоне дзіўнай прыроды», у курортных выгодах, утвараецца падняцце «тонкаэстэтычных» пачуццяў чысценькіх курортных жанчын і мужчын; на бліскучых панелях, на прыберажных вуліцах, на скверах і бульварах, на прытульных лаўках, пад густым, цёмным зелянівам паўднёвых дрэў людзі — не проста людзі, а людзі — жанчыны і мужчыны. У бесклапотнасці і бяздумнасці людзі «ў чарах» ад ночы паўднёвай краіны, ад свае чыстаты і зграбнасці, ды яшчэ, пэўна, ад надзвычайнай лёгкасці мазгоў, якія, калі яны больш-менш цяжкаватыя і чым-небудзь запоўнены, робяць часам не так-то лёгкім і ўсё цела...

Перад гэтым, перад «карнавальскім» вечарам, значыцца, ялцінскія гандляры пудраю, парфумай і зграбнымі палачкамі-«тростачкамі» ды хлыстамі добра зарабілі і не спыняюць свайго выгаднага гандлю і вечарам.

Натоўп «курортных» людзей узяў тут пад сваю ўладу філасофска-хмурны гоман марской вады, бесперастанку пранізваючы яго пустазвонам вясёлага смеху, узяў пад уладу чыстату паветра, напаўняючы яго пылам, і нават узяў пад уладу адзін з вялікіх і дзіўных твораў чалавечага пачуцця — музыку.

Каб весялей гулялася, каб лягчэй і непрыкметней пераправіць вячэру з прыберажных рэстаранаў, запітую віном, каб напудраныя і размалёваныя жанчыны яшчэ больш здаваліся «эфірнымі» — на бульвары грае музыка. Слаўныя твары вайсковых музыкантаў, спакойная постаць капельмайстра — відны між кустоў пры роўнай сцежцы. З блішчастых трубаў узнімаецца нявыказаная словамі бяскрайняя тонкасць і глыбіня. Яна напаўняе сабою ўсё

і, здаецца, можа варочаць не толькі чалавечай душой, але і цёмнымі абрысамі блізкіх гор ды змрокам ціхіх далін. Зыкі плывуць над горадам, імчацца над морам. Будучы вышынёй хараства, яны нейкім насмешнікам прызначаны забаўляць глухі для іх натоўп. Часам ускінуцца яны бяскрайняй вясёласцю, як бы смехам над глухімі, што на набярэжнай. Мора ж, злоснае і вялікае, вечна грозна шуміць і б'ецца ў берагі, як бы хочучы затапіць набярэжную, ведаючы, што на ёй адна толькі пустата...

Другое жыццё ёсць на курортах. З дамоў адпачынку кожны дзень выходзяць на бераг мора купацца ўтомленыя і хворыя працаўнікі. Але гэта можа «трэцяе» курортнае жыццё. Я ж хачу сказаць яшчэ аб адным. На тым двары, дзе жыву я, кожны дзень скрыпіць стары гармонік — гэта хахол з Курскай губерні прыехаў на курорт вылечыць «беркулёз» касцей у нагах. Ён шавец і для таго, каб пражыць, латае старыя сандалі; у самую ж гарачыню дня на мыліцах вылазіць з свае каморкі ў ніжнім паверсе белага дома і, каб весялей было «прымаць сонечныя ванны», рэжа на гармоніку бясконца доўгія і скрыпучыя «нумары». Насупраць брамы гэтага двара, на вуглу Вінаграднай і Марской вуліц прымае сонечныя ванны другі хворы — самарскі татарын, што прыехаў на курорт лячыць сухотныя лёгкія. З сонечнымі ваннамі ў гэтага справа лепш, як у хахла. Калі таму, для таго каб прыняць ванну, трэба адрывацца ад работы, дык гэты і ванну прымае і работу робіць, патрэбную для таго, каб пражыць на курорце: ён прадае квас. Угледзеўшы каго-небудзь на вуліцы, ён стараецца выгаварыць, глытаючы пры гэтым вулічны пыл:

— Квас, квас, самы першы сорт!..

Калі ніхто доўга квасу не купляе, татарын пераходзіць поперак вуліцу і, пільна паглядаючы на пакінены ў некалькіх кроках квас, садзіцца ў самай браме, на сонцы. Да яго прыходзіць кульгавы хахол з гармонікам, і пад яе скрыпучы акампанемент яны вось ужо некалькі дзён спяваюць адну вядомую ім абодвум песню:

Мне ў вочы глядзела,
За ручку брала!..

Спяваюць яны абодва ціха, наколькі дазваляюць слабыя лёгкія татарына і неабходнасць расцягваць гармонік

хахла. А пасля гаворaць яны з сумам аб тым, што ў Куршчыне ўжо прыбіраюць каноплі ды малоцяць пшаніцу, а ў Самаршчыне яго (татарына) жонка ў гэты час дню якраз недзе, мусіць, пайшла за ваколіцу, каб вылучыць з стада карову ды напаіць яе ў рэчцы, а пасля падаіць. У галасах іх сум па прывычнай працы, па пакінутым ладзе жыцця. І зноў яны пачынаюць ціха спяваць, пакуль якому-небудзь гандляру шашлыкамі не захочацца выпіць квасу...

Апрача квасу ды сандаляў на курортах зарабляюць, хто чым можа. Прыезджыя з Крымскай стэпі татары пякуць шашлыкі «па 5 кап. палачка», а хто прыехаў сюды не так для курорту, як для заработку, шукае сталай працы ці так сабе якіх-небудзь заняткаў...

Учора вечарам у Ялцінскім гарадскім садзе прафесар багасловія мітрапаліт Увядзенскі чытаў лекцыю аб тым, ці васкрасаў Хрыстос, ці не. Пакуль пачалася лекцыя, я сядзеў у садзе ў слаўнай і вясёлай грамадзе ялцінскіх рабочых, матросаў і «нізавой» інтэлігенцыі і слухаў глыбакадумныя вылічэнні, колькі лектар сягоння заробіць. У кемкіх рабочых вылічэннях бралася пад увагу, колькі каштуе «сад для лекцыі», колькі «падаходнага падатку» за лекцыю аб васкрасенні Хрыста, колькі білетаў раскуплена. Выходзіла, што заработак будзе «нічаво». Чуліся нават зайздросныя галасы, што добра, ліха на яго, быць гэтакаму чалавеку: і на курортах пабудзе і грошай заробіць. Побач жа са мной нейчы фаталістычна-спакойны голас выводзіў «дактрыну», што на свеце робіцца неяк, што жыў ці не жыў некалі той Хрыстос, а вось цяпер чалавек сядзіць і зарабляе на гэтым. От бо «устройства» на свеце!..

Мая грамада пачала разыходзіцца, не даслухаўшы лекцыі да канца — мусіць, ёй было цікавасці да пытання «васкрасаў Хрыстос ці не» столькі, колькі мне да таго, колькі каштуе кіло пудры. Не даслухаўшы да канца, пайшоў і я.

У начным шуме мора чуўся трагізм, але музыка не грала, і гудкі караблёў былі поўны «курортнага смеху».

# ВЁСКА НА НОВЫМ ШЛЯХУ

У дажджлівую пору я начаваў у вёсцы.

Поле вымакла пад асеннім дажджом, вуліца патанула ў гразі. Вечар паволі паўзе, і зліваюцца са змрокам мокрыя хаты. Запальваюцца агні, і асвечваюцца маленькія вокны.

Ціха на вуліцы.

І ў хаце, дзе я начаваў, ціха.

Гаспадыня — старая кабета — запальвае лямпу; трэ каравымі пальцамі шкло. Лямпа асвечвае хату.

Каля печы пад тапчаном насыпана дробная бульба.

— Чаму ў вас,— пытаю,— бульбу ў хаце сыплюць?

— А-ат,— адказвае гаспадыня,— нек прывыклі, не трэба кожны дзень у пограб лазіць. Хоць яно, ліха на яго, і нядобра — сцяна макрэе і вільгаць.

— Дык гэта яшчэ нічога,— гаворыць далей гаспадыня,— а як раней, дык па хатах карыты стаялі, ды гэта свіней кармілі. Нават і цяляты ў іншых стаялі ў маразы. А гэта патроху ўжо выводзіцца. От за апошнія два-тры гады многа чаго змянілася. Нек народ пачаў іначай жыць. Гэтыя маладыя дык смяюцца з нас старых: «Як вы,— кажуць,— жылі гэта раней, як у яме». Камсамольцаў многа ў нас...

На лаве стаяць тры прасніцы. Дзве з кудзеляю, а адна з воўнаю. Хутка знадворку прыходзяць дзве жанчыны — нявестка і дачка старое гаспадыні, і ўтраіх пачынаюць прасці.

— Дзе ж вашы мужчыны?

— А ў нас толькі адзін мужчына. Паехаў ён на кірмаш у мястэчка, ды от, мусіць, змачыў яго дождж. Але нічога, гуртам дык будзе весела ехаць — вельмі ж многа нашых людзей паехала сягоння на кірмаш, вядома — таму газы ды солі трэба, таму жыта прадаць, той каня купіць, а таму цану на што-небудзь выведаць.

Гаворыць старая кабета павольна — скрыпучым голасам, слініць нітку, круціць сухімі пальцамі верацяно.

— А ў вас пралкамі не прадуць?

— Гэта вы пра гэтыя калаўроты? Не, у нас не пра-

дуць. Туды за Слуцак, дык там, мужчыны гаварылі, ёсць гэтыя прыстройкі, а ў нас нек у моду не ўвайшло. Можа, яно і лепш было б, зручней, але от ніхто першы не адважыцца купіць.

Хутка пачынаюць сходзіцца на пасядзёнкі суседзі. Прыходзіць жанчына з прасніцаю, як я пасля даведваюся, жонка старэйшага сына, які аддзяліўся і жыве асобна. Пасля ўваходзіць трое мужчын — бацька і два сыны. Бацька стары, з чорна-сіваю барадою і на адно вока сляпы. Малодшы сын — вясёлы хлапчына, твар зусім яшчэ дзіцячы. Ён адразу пачынае дурэць з дзяўчынаю. А старэйшы сын дык упоўз у хату на каленях, ледзьве цераз парог перабраўся. Гэта ў яго ногі пакалечаны — змалку ён недзе, як бацька расказаў, захаладзіў іх, яны пачалі баленць, а пасля сагнуліся ў каленях, і ён прымацаваў да каленяў нешта з дзерава, накшталт лыжаў, ды так і ходзіць. Ён шавец. Маўчыць ён, ды толькі часам засмяецца, калі хто скажа што-небудзь смешнае. А бацька зараз жа пачынае расказваць, як ён сягоння «з дзвёх старых, нікуды нягодных набадраў, зрабіў адны, добрыя».

Гаспадар — малады мужчына, з'явіўся з кірмашу мокры. Кірмаш быў невялікі, і каня купіць не ўдалося.

Хутка прыйшоў мужчына гадоў пад сорак пяць. Ён ужо мне расказвае, як у 1905 годзе браў ад слуцкіх таварышоў рэвалюцыйную літаратуру і распаўсюджваў у сваёй вёсцы. А пасля, цэлы вечар, гаварыў аб вясковай цемры, аб старасвецкіх формах гаспадарання, аб тым, што іншыя суседнія вёскі перайшлі на пасёлкі ды пачалі заводзіць шматполле, а тут трудна ўзварушыць аднасельцаў.

— Хата-чытальня, дык у нас толькі што арганізоўваецца,— гаворыць ён,— а справа добрая, дык гэта з школаю — набылі добрае памяшканне.

Гэта перадавы селянін вёскі. Ён думае аб адвечнай цемры сваіх хат, аб дзедаўскім жыцці і аб з'явах новага, якое пачынае ўжо вакол прабівацца...

Вячоркі разыходзяцца позна. Але ўсё ж далёка яшчэ застаецца да дня — доўгія асеннія ночы.

* * *

Назаўтра я на фурманцы еду вузкаю, гразкаю дарогаю. Каля дарогі спацыравалі вароны, нешта дзяўблі ў калявінах і зусім не палохаліся фурманкі — так сабе спакойна і сядзелі каля самых калёс...

А ў галаве былі вясёлыя думкі, што вёска пад кіраўніцтвам кампартыі і Савецкай улады. Што вёска выходзіць на новую дарогу. Што надыходзіць час, калі не будзе кожны вясковец паасобку ездзіць на кірмаш за сваімі маленькімі патрэбамі, у адзіночку калупацца на сваёй вузенькай палосцы, не будзе сялянка слепнуць пры цьмяным агні за прасніцаю, а будзе моцны, радасны калектыў.

Да гэтага радаснага жыцця ідзе вёска поплеч са сваім старшым братам — горадам.

Што вось ужо ў гэтай глухой, цёмнай вёсцы адчыняецца хата-чытальня, што ўжо ёсць моцная веда пра новы шлях і ўжо вёска аднаею нагою моцна стаіць на гэтым новым, савецкім шляху.

# У РОДНАЙ ГЛУШЫ

Прыехаў я ў мястэчка Цімкавічы з мрокам хмурнаветранага асенняга дню. За ваколіцай стаяў дзядзька Міхал і глядзеў, не мігаючы, на поле. Чаго ён глядзеў і стаяў на адным месцы, не варушачыся,— хто яго ведае. Ці то гэта конь у яго ўцёк у чыстае поле, прыпомніўшы летнюю работу паплавоў ды загонаў (дзядзька Міхал прывучыў свайго каня да гэтай люботы. Не раз нават плаціў штраф суседзям за патравы канюшыны, пакуль сам не зрабіўся паплаўнічым), а то можа гэта проста надакучыла яму быць у сваёй душнай хаце дык от і выйшаў гэта ён дыхнуць ветрам. Хто яго ведае, аб чым думае стары чалавек, калі глядзіць у вольна-роднае поле задумёным вечарам, і лёгкі вецер чуць-чуць блытае яго сівую бараду.

Я праехаў далей. Па надворнаму выгляду, Капыльская вуліца ніяк не можа страціць сваіх традыцый — такая ўжо ў яе мусіць рэакцыйная натура. Таксама як і ў дзень стварэння свету, калёсы фурманкі па самыя калодкі патанулі ў гразь, так што дзядзька, з якім я ехаў, спешна расшпіліў каўнер і, таксама спяшаючыся, пачухаў шыю, сказаўшы:

— А-я-яй, ды што ж тут робіцца!..

У бацькаўскім двары гразі было менш, але затое была яна «мацнейшаю»: на вуліцы дык яна разбоўтаная, «нямоцная», а тут, калі ўсадзіш нагу, дык адразу не выцягнеш. Цяпер становіцца ясным, чаму гэта інвалід вайны (імперыялістычнай ці грамадзянскай — не выяўлена) — сляпы на адно вока бацькаўскі конь мае прывычку драмаць пасярод двара: от як уедуць ногі ў гразь, дык, утаміўшыся за дзень, неахвотна цягнуць іх назад, дык ён сабе мусіць і думае: «От, падрамлю трохі...»

— Чаму вы хоць пяском двара не высыплеце, усё сушэй было б.

— Ат, невялікае тут што,— адказалі дзядзькі-суседзі, якія прыйшлі, убачыўшы, як «у двор да суседа незнаёмы конь упягнуў незнаёмы воз»...

Сустракаць мяне выбегла сястра, якую да гэтага года я ўсё яшчэ лічыў малою. А ў хаце — старой бацькаўскай

хаце — віднатa, якое ніколі гэтыя сцены не бачылі: свеціць электрычнасць. А пад лямпачкай стол, а на стале куча газет і часопісаў... Сястра пагаварыла са мною, пасядзела, а пасля вячэры памыла гаршкі, прыадзелася і пайшла некуды на цэлы вечар.

— Гэта яна ў Доўгае (вёска) пайшла,— растлумачыў мне малы брат Юрка,— іхняя ячэйка сягоння там вечар робіць.

— А ты што робіш?

— Я рэдактар!

— Рэдактар?

— Але, гэта ў нас у школе піянерская газета ёсць, дык я там, значыцца...

Я паглядзеў на «рэдактара». Стаяў ён з белаю, астрыжанаю галавою, з вясёлым бляскам дзяціных вачэй, у вялікіх чаравіках, бо ў ботах, як я пасля даведаўся, адхваталіся падошвы ад несупыннага руху па цімкаўскіх тратуарах.

Пазней трохі прыйшоў пасядзець да бацькі сусед, бацькаў таварыш. Пагаварылі мы ўтрох аб тым, што ў Капылі не вельмі добра вырабляюць татары скуры, а пасля гаворка пайшла адной ёй вядомымі незлічонымі пуцінамі, пачаўшыся з таго, што ў нашай хаце даўней быў повен покуць абразоў, а гэта застаўся ўсяго адзін, ды і той «вельмі ж мяшае Ганне» (гэта той, што пайшла ў Доўгае). З гаворкі выявілася, што «от так, як гэта цячэ вада ў Бушылаўскай рэчцы (Бушылава — гэта кусты каля Цімкавіч), так усё ў жыцці плыве. І каб нябожчыка Рамана або Міхала Шапавалава (даўно ўжо памёрлі) як-небудзь падняць з магілы, дык не пазналі б яны Цімкавіч». Гэта нічога, што па Капыльскай вуліцы таксама ўвосень ходзяць «по морю, яко по суху», але па другіх справах ходзяць. Напрыклад, даўней, дык у гэтую самую асеннюю пару, па гэтай самай гразі, у такі самы цёмны вечар некаторыя дзядзі, не могучы стрымаць наплыву маладзецкіх сіл (ад высокага градуса) хадзілі «ўсміраць» багамольных людзей, якія збіраліся маліцца. Аднаму багамольнаму прыйшлося «за інтарэсам» выйсці на двор. Пайшоў ён ды схаваўся для свайго інтарэсу ў адну будыніну, якая мела выгляд невялікай шафы, на падгніўшых нагах. А дзядзі ўзялі ды, што робячы, палажылі гэтую прыстройку дзверцамі на зямлю, так што бедны чалавек ледзьве выратаваўся. Цяпер цімкавіцкія дзядзі паспакайнелі.

І ходзяць яны найбольш толькі на пасядзенні адзін да аднаго.

Хадзіць па Капыльскай вуліцы цяпер трохі спрытней — ляжаць тратуары. Праўда, трохі абляпаецца вадою твар, бо тратуары маюць неспакойны характар, і калі ступіць на яго адзін канец, дык другі падніменца вышэй тваёй галавы і вельмі спрытна падае і ляпае па вадзе. Але ўсё ж з асцярогаю можна сяк-так хадзіць.

— Яно-то можна лёгка паправіць тратуары,— выказваюцца цімкаўцы,— убіць усяго два цвікі ў дошку і дзела будзе скончана, але нашто мне канешне першаму за ўсіх пачынаць. Міліцыя пакуль што ніякага «распараджэння» не дае.

Вечарам моладзь збіраецца ў хату-чытальню. Толькі вось бяда: у чытальні бачыў я на стале газету і каля сцяны шафу. А што ў шафе — не ведаю, вельмі шчыльна яна замыкаецца. Толькі ўжо перад маім ад'ездам з Цімкавіч гаварылі мне, што трэба было раз камсамолкам дастаць часопіс «Работніца і сялянка», каб падрыхтавацца да жаночага сходу, дык усю «цімкаўскую акругу»ператраслі, пакуль выпадкова дасталі адзін нумар.

Позна вечарам ішоў я па вуліцы, у вайсковым пагранічным клубе ішла нейкая рэпетыцыя, у другім доме таксама рабілі рэпетыцыю музыканты аркестра мясцовай пажарнай дружыны.

— Граюць яны добра,— сказаў мне пасля бацька,— праўда, не тое што даўней, скажам, палкавая музыка, але гэта ж свае хлопцы... Вельмі ж Антосеў хлапец на флейце ўзяўся...

Пазней вечарам, на ганку каапрацыйнай сталоўкі-піўной знаёмымі дзядзькамі вялася гаворка аб тым, як даўней нейкі панамар «заўсёды піў просфары з чаем». Тэма была мусіць цікавая, бо чым далей вялася гаворка, тым больш збіралася дзядзькоў.

Дома застаў я хлапчукоў, якія сядзелі за сталом і языком рабілі экспертызу над каляровымі алоўкамі. Алоўкі заставаліся алоўкамі, а языкі хлопцаў патроху трацілі свой «язычы выгляд». Тут жа мне хлопцы сказалі, што ў Цімкаўскай сямігодцы ў ніжэйшых класах выкладаюць усё па-беларуску...

Назаўтра раніцаю глядзеў я праз акно на вуліцу. Скрозь суседні сад відны былі голыя «Бушалаўскія» кусты, а ў іх там недзе плыве сабе паціху родная Бушылаў-

ская рэчка. Там «Прускія» паплавы завуць у сваё бязмежжа — от так, здаецца, ішоў бы і ішоў па іх, а яны будуць усё новыя і новыя бясконцыя далі паказваць табе... А напроці майго акна «дзядзька Мікалай», падмаргваючы адным вокам, нешта думаў ды ўсё церабіў пальцамі правай рукі нешта ў кішэні сваіх шарачковых портак. Аб чым думаў ён?

Можа гэта несвядома прыпаміналіся яму тыя часы, калі кожную вольную часіну тырчаў ён у тракціры ў Фрумы, калі, бывала, ці то гэта весела, ці то гэта сумна, гулялі ўсе нябожчыкі ўжо: Павал, Міхал, Сцяпан і канца-краю няма гэтым імёнам. Можа гэта прыпомніў ён былую бойку «пад вясёлым градусам». Узляталі кулакі, макрэлі насы, ды не ад поту, а ад самай настаяшчай крыві. Хваціў быў Міхал Тодара, Тодар знячэўку заехаў Антосю. Антось таксама знайшоў сабе пару — падвярнуўся якраз пад рукі Юзік. Толькі небарак Павал не меў сабе пары, усё азіраўся вакол ды падморгваў Кастусю Агародніцкаму, які скептычна глядзеў на ўсю гэтую работу з вышыні Фрумінага ганка і меў на гэта, так як і на ўсё, свае ўласныя погляды. І тут раптам Паўлавы вочы ўбачылі, што родны яго дзядзька Сцяпан таксама не мае пары. Не змікіціў Павал, што дзядзьку Сцяпану і не трэба было пары, то ўжо не тыя гады, каб прабаваць сілу, а хаця пастаяць, паглядзець ды прыпомніць маладосць. Але хто яго там разбіраўся, ці мікіціў. Падбег Павал да дзядзькі ды лупянуў кулаком яму пад нос.

— А Павалка, за што ж ты мяне? — загаласіў акрываўлены дзядзька.

— За што?! — грозна адказаў Павал,— людзі б'юцца, а я дык што!..

Можа аб гэтых прайшоўшых часах думае Мікалай, стоячы ціха на вуліцы, а можа думае, што вось маладое пакаленне не крывавіць насоў... Аб многім можна думаць дзядзьку...

А з боку Бушылаўскіх кустоў плыве слаўны вецер, вее ён шырокай воляй, дзе і хвораму лёгка дыхаць...

Выйшаўшы на двор, пачуў я нейкія гулкія зыкі, як бы гэта ішоў атрад піянераў з бубёным гулам. Аказалася, што гэта падыходзіць пара снедання, а ў гэтую пору ідуць да калодцаў піць ваду каровы. А каровы, так як і ўсякія іншыя істоты, маюць упэўненасць, што тратуары кладуцца толькі для таго, каб па іх хадзіць. (Вядома жывёліна, ёй

недаступна думка, што тратуары часам з вялікім поспехам могуць служыць сродкам для калецтва або для арашэння твараў ды вокан буйнымі кроплямі вады). Дык вось, маючы такую ўпэўненасць, цімкаўскія каровы і спацыруюць сабе па тратуарах, а сусед, бачачы такія непарадкі, стаіць у варотах ды гулкім басам даводзіць перад усім светам, што калі тонкая і нямоцная дошка на тратуары, то яна вельмі спрытна ломіцца пад гавяжымі капытамі.

Пераначаваўшы яшчэ адну ноч, выязджаў я з Цімкавіч на аўтобусе. Згодна афіцыйнага паведамлення, аўтобус выходзіць з Цімкавіч на Слуцк у 7 гадзін. Каля аўтобуса застаў я цэлую грамаду цімкаўцаў. Стаялі тут і малыя, і старыя, і нейкіх няпэўных узростаў людзі. Кожны па чарзе падыходзіў і круціў аўтобусны рычаг.

— Што гэта яны робяць? — узбегла мне на думку запытацца першага, хто стаяў да мяне бліжэй.

— А што ім рабіць,— адказаў той,— от ходзяць ды пакручваюць.

Дык тут мне якраз і прыпомнілася, як гэта не вельмі нават даўно нябожчык Зэлік-парыкмахер брыў: ён брые аднаго, а дваццаць стаяць ды глядзяць, абкружыўшы ўсю гэтую работу цеснаю сцяною.

— От, што ім рабіць,— гаварыў нябожчык Зэлік,— стаяць ды глядзяць.

І сам таго не ведаў нябожчык Зэлік, што гэта надае яму бадзёрасці ў рабоце, а можа нават і ў жыцці; што находзіў на яго сум нейкі, калі не было ў яго і ў кліента над каркам вялікай грамады на гледачоў. Так адзін раз, адчуўшы ў часе такога адзіноцтва вялікі сум, абрыў ён свайго цімкаўскага кліента ўсяго левую палавіну твару і, нічога не кажучы, палажыў брытву, выйшаў з свае парыкмахерскай на вуліцу і пайшоў на рынак выкурыць з добрымі людзьмі папяросу. А той небарак, напалавіну абрыты, чуць не гадзіну чакаў Зэліка, які з'явіўся трохі ўжо весялейшы і ахватней скончыў брыццё, напяваючы раманс:

Время давно прошло,
Розы завяли!..

І глыбакадумна памаўчаўшы, дабаўляў:

Страсти потухли.

Пасля публіка пачала ад аўтобуса адыходзіць — вядома, усякая справа надакучае. Дык і пачалі ісці ў кааперацыйную чайную. А там, як і ва ўсякай чайной, пілі чай. І выйшла там зусім па-цімкаўску: адзін п'е, а дзесяць глядзяць, як у яго праз горла праходзіць чай...

Ну што ж, такое ўжо мястэчка Цімкавічы. Выехаў я з Цімкавіч каля паўдня. Свяціла над зямлёй слаўнае асенняе сонца; аўтобус ішоў па вуліцах паволі, так што можна было добра разглядзець, як на Клецкай вуліцы нейкая цёця гаварыла нешта нейкаму дзядзю. Аб чым яна яму гаварыла, гэта адным ім засталося вядомым; я ж толькі бачыў, як дзядзя ад цёцінай гаворкі рагатаў так, што твар яго здаваўся вядром вады, якую раптам ускалыхнулі, а «шляхетная» ватовая жакетка, што гладка ляжала на жываце, траслася, як сіта ў арфе; сам жывот таксама тросся, мусіць і ўсё, што было ў жываце, траслося... І ўяўлялася, што вельмі лёгка і весела было гэтаму чалавеку... Пасля з акна аўтобуса таксама добра было відаць, як нехта вёз калоць япрука; пасля прамігнулі два індыкі за апошнім агародам, і пайшло роднае поле.

Бегла яно насупраць шэрым сваім асеннім выглядам, весяліла вочы шырынёю ды сонцам, што свяціла над ім і было поўна цішыні, якая і ёсць вялікая мелодыя зямлі...

Вялікім размахам лажыўся на зямлю вецер, абвяваў яе, вялікую, абнімаў яе родную шыр. І разам з ім хацелася легчы на зямлю, выказаць усім тое вялікае, што ў ёй, што з'яўляецца ад таго, што вось адчуваецца пад табою вольная зямля і дарога на ёй...

Бегла зямля насустрач шырынёй...

# АЎТАБІЯГРАФІЯ

Радзіўся я ў сялянскай сям'і, на Случчыне. Дзяцінства правёў у адзіноце панскага фальварку, дзе бацька служыў. Пасля бацькі пераехалі на радзіму — у м. Цімкавічы, дзе пачалі заводзіць гаспадарку.

Вялікі ўплыў на развіццё адчуванняў і дум мела маці, жанчына простая, што навучылася чытаць сама праз сябе, але развітая і многа чытаўшая, пачынаючы бібліяй і канчаючы Львом Талстым і палітычнымі ўсякімі брашурамі,— што можна было ў нязначным ліку і з вялікімі труднасцямі дастаць у глушы. Памерла маці ад сухот, здабытых ад жыцця (страшная беднасць).

Скончыў я настаўніцкую семінарыю, адбываў вайсковую службу, а пасля пунктам імкненняў стаў універсітэт. Тады ў канцы лета 1923 г. прыйшоў я першы раз у Мінск. Ва універсітэт прынялі. Тады пачаў дабівацца стыпендыі. Студэнцкая арганізацыя, пасля допытаў і запаўнення анкет, прызнала, што ў стыпендыі не маю патрэбы. Пачаў грузіць на станцыях дровы, наймаўся калоць іх. Не еўшы два дні і пакалоўшы цераз сілу дроў, захварэў кішэчнай хваробай. У клініцы зрабілі аперацыю. Тады ўжо меў тры надрукаваных апавяданні ў «Савецкай Беларусі». Пасля аперацыі пачаў шукаць лягчэйшае працы. Знайшоў я яе ў рэдакцыі «Беларускай вёскі». Працы там аказалася столькі, што не было калі ні вучыцца, ні займацца літаратурай. А тут зусім пачало псавацца здароўе, і прыйшлося кінуць універсітэт. У 1924 г. стаў «маладняковцам».

Як пачынаў я пісаць, шчыра мяне спаткаў у рэдакцыі, з нейкай радаснай прыхільнасцю Змітрок Бядуля.

Усё, што напісаў дагэтуль — не тое, што б мяне задаволіла. Усё напісана прыхваткамі, пасля рэдакцыйнай працы... Больш усяго ў мяне напісана — дык гэта нататкаў у часе наглядання над людзьмі і жыццём — ды няма калі пісаць. Па гэтай прычыне амаль нічога і не чытаю.

Цяпер жадаю аднаго: каб такія рэчы, як літаратура, не тварыліся прыхваткамі і саматужна...

# І ВАДА ЗАЛІТА КРЫВЁЮ

## I

У вечнай стомленасці, з потам і слязьмі, сярод шэраньката дзерава душных хат, у недастатках і непакою спрадвеку цягнулася гэтае жыццё. Ад гэтага жыцця жанчына пад трыццаць год здавалася старою — звяўшы твар яе з самых маладых год набываў усе адзнакі цяжкае заклапочанасці, і вочы глядзелі тупа.

Маці трымала на руках дзіцянё, і яе постаць тады магла быць вялікім увасабленнем адвечнага гора і слёз.

Гэтая адвечная няпраўда, гэтая весялосць адных, вырасшая на пакутах другіх, выявілася як забітасць і загнанасць адвечных бедакоў-вяскоўцаў, як забітасць і ціхасць голых і босых жыхароў мястэчак і гарадоў.

І тут, у нас, на нашай вялікай гэтым горам зямлі, яшчэ і другая «форма» прыгнечання выявілася найбольш як дзе — ляжыць яна, Беларусь, там, дзе ганаровыя дыпламаты і палітыкі, вялікія гандляры, «апекуны культур», заваявацелі пракладвалі шляхі для сваіх паходаў, знаходзілі месца для сваіх крывавых спатканняў.

Беларусь, разам з Украінай, дала новы від пакутніка — назва якому бежанец, уцякач.

Усё гэта ўва ўсёй вастраце сваёй устае ў памяці цяпер, калі беларускія вёскі на захадзе задыхаюцца пад новай панскай навалай пілсудчыны.

У той нядаўны час, калі слёзы змяніліся на кроў і смерць, адчутае і пережытае пакутнікамі ці змагло расказаць аб сабе будучым пакаленням глыбінёю слядоў сваіх?!

З шматлікіх падзей, вось тут некалькі іх.

Малоў ён муку ў сваіх сенцах у жорнах саматугам — гаспадар у Селішчах, што 8 вёрст каля Слуцка. І тады ціха і спакойна ўвайшло двое польскіх салдат, так жа ціха адцягнулі яго ад жорнаў, вывелі на двор і далі прыкладам у твар.

Проста так, на пацеху.

Далі другі раз, пасля яшчэ спакайней трэці раз, і тады надышла смерць.

У век тэхнікі, у век аўтамабіляў, браневікоў, прыаружаных паветраных караблёў, танкаў і мінаносных караблёў — хто застаўся дамалоць муку на першабытнай прыстройцы, саматужных жорнах у цёмных сенцах?!

Тады Селішча баранілася — моладзь пайшла ў партызаны.

У адзін дзень зноў польскія салдаты разышліся па селіцкіх хутарах. І вось злавілі зноў селіцкага чалавека. Таму было за сорак год, гэтаму за дваццаць.

У лесе было зацішней, мусіць, мучыць; дапыталі і тады павялі яго. Мучылі тут у лесе таксама паволі. Паволі адрэзалі вуха, пасля пачалі выбіваць зубы.

Выбівалі ўсе да апошняга. Так, нацешыўшыся, пакінулі там уміраць.

Ніхто не ведае, колькі там канчаўся ён, гэты селянін з Селішчаў. Можа ён там канчаўся ўвесь той астатак дню і ноч, можа зваў каго.

Лес маўчыць.

Акрываўлены мох, лясная трава — нямыя сведкі, ды засталіся яшчэ слёзы і боль родных.

Там жа непадалёку Еўлічы пылалі ў агні.

Куды было дзецца?

## II

У гарачыя дні на сухую зямлю асыпалася пераспелае жыта. Яно мясцамі і зжата было, і глумілася ў перасохшых снапах, мясцамі стаяла нязжатым — ламалася саломаю і ападала. Палявыя дарогі маўчалі цяжкім пылам — пустыя былі яны ў тыя дні.

Як бы гэта было ўвасабленне вялікага жаху, смерці, якая ўзнялася ўва ўсім сваім вонкавым маўчанні.

Гарачыя дні маўчаннем сваім павялічвалі гэты жах.

У такі дзень, 20 ліпеня, гарэла вёска Кулакі, што ў Капыльскім раёне на Случчыне.

У поўдзень прыйшлі сюды 5 чалавек польскіх салдат. Можа кожны з іх паасобку, і напэўна, што гэта так, думаў тады аб сваім закінутым недзе там у Познані ці за Калішам полі з маргамі бульбы і загонамі пшаніцы; у глыбіні істоты кожнага з іх паасобку, мусіць, варушыліся адценні жалю і смутку па блізкіх людзях — там можа дзе і брат меншы быў хворы, і бацька стары немагушчы...

Але аб гэтым не можна гаварыць адзін аднаму, гэта трэба задушваць, і вось яно пералілося ўжо ў іншыя формы і паднялося як нянавісць да таго, хто жыве тут на гэтай чужой зямлі. І вось яны — ужо ўвасабленне панскай дзяржавы, самі выйшаўшыя з «хлапцоў» — абаронцы прыгнечання гэтых хлапцоў, жалезная сіла яснавяльможных, што маюць сабе падуладных — і там, у маёнтках, забітых і бяспраўных парабкаў, і тут, на вайне — паслушных і азвярэлых салдат.

Панская Польшча! Выведаўшая за часы царскага расійскага панавання ўсю цяжкасць прыгнечання і цяпер стаўшая найяскравейшым узорам краіны з самым цяжкім прыгнечаннем слабага моцным, мужыка панам і народа народам.

І за замацаванне гэтага прыгнечання выступіўшая тады ваяваць.

І вось у вёсцы Кулаках пяць салдат прайшлі па вуліцы, прайшлі, як гаспадары над забранымі. А гэтыя забраныя — ціха і баязліва сядзелі ў сваіх хатах.

Што будуць рабіць гэтыя салдаты?

Салдаты пачалі грабіць і выказваць рызыку маладых і храбрых ваякаў. Тады на абарону вёскі падышлі партызаны — з-пад мястэчка Цімкавіч, вёрст за тры.

Пяць польскіх салдат весела вярнуліся ў Кіевічы, да сваіх галоўных сіл і вось неўзабаве адтуль пад вёску Лешню вывезлі батарэю і пачалі біць па вёсцы Кулаках, па запалоханай і забітай вёсцы, дзе не было ніводнага вайсковага, ніводнага салдата і нават амаль не было моладзі. Заставаліся тут тады жанчыны, дзеці, стомленыя работай і трывожным непакоем гаспадары.

Так адбыўся абстрэл гэтае вёскі, абстрэл з батарэі, 20 ліпеня 1920 г. Як абстрэл спынілі, прыслалі тады сюды 50 салдат. І вось гэтыя 50 чалавек — азвярэлая сіла Польшчы — у 20 месцах пачалі падпальваць вёску. Падпальвалі праз кожную хату.

Хаты нізенькія і салома стрэх сухая — падыдзе салдат да хаты, запаліць запалку і ўткне ў салому страхі. І тады спакойная вясёласць з'яўляецца ў яго.

І патроху, неўзаметку, гэта перайшло ў пацеху і гэтага стала здавацца мала. Трашчаць толькі салома і дрэва ў агні, трэба яшчэ, каб хто, канчаючыся ў ім, крычаў, зваў на дапамогу, маліўся аб паратунку, моцна кідаючыся і чуць варушачыся ў пакутах.

І вось злавілі селяніна Макарэвіча Мікалая, абабралі яшчэ непадпаленую хату, увялі яго туды, замкнулі і хату падпалілі.

### III

Што адчуваў селянін Макарэвіч Мікалай, седзячы зачыненым у падпаленай хаце, абкружанай польскімі салдатамі? Ці мог цяпер яшчэ думаць ён аб зглумленым жыце на полі?

У агні і дыме высыхаць стала сарочка, чорным потам прыліпшая кагадзе да цела, і змучанае трывогамі апошніх дзён цела набыло раптам нервовую сілу, якая здольна ў востры момант ірвануць чалавека на нечалавечую патугу, а пасля кінуць яго ў знялюддзе на зямлю. І рвануўся там у агні селянін Макарэвіч Мікалай.

Салдатам надакучыла, мусіць, трохі аднастайнасць забаўкі, і яму ўдалося выскачыць з агню і пабегчы ў нямым жаху. Так удалося яму збавіцца.

* * *

Хто думаў з храбрых абаронцаў яснавяльможнае Польшчы аб тым — нашто гэтая маленькая забаўка ў ціхай, багатай лапцямі, саматужнымі жорнамі і ліпкім потам стамлёных ног беларускай вёсцы, забаўка — якая праз паўдня тут жа і забудзецца зусім і назаўсёды, як толькі знікнуць з вачэй попел і абсмаленыя косці!

Перад тым як падпальваць, пакінулі страляць, так і стала зусім ціха.

Крык тануў тут жа на вуліцы, а як гарэла салома і дзерава — толькі ціхі трэск быў і больш нічога.

Таксама ціхенька згарэў і ён — малы, пяцігадовы. Гуляў ён ціха ў хаце, пасля падпалілі хату, і ён там кончыўся. І ўсё. А перад гэтым ён у зрэб'і бегаў па вуліцы, плакаў, калі яго пакідалі аднаго, ідучы на работу, можа часамі недаядаў, а пасля, вырасшы, мог недасыпаць ад мноства работы... А цяпер згарэў, задушыўся ў дыме.

Ён там у агні і дыме, мусіць, заплакаў моцна, заенчыў, пазваў матку, пасля скурчыўся, пасля выпрастаўся на апаўшых гарачых вуголлях, але хто яго чуў адтуль?! А калі хто й чуў — хто што мог зрабіць.

На вуліцы стаялі салдаты Польшчы, далей за дымам і апаленымі платамі, дзе пачыналася поле — людзі. А тут хто быў — для яго была вялікая адзінота. А для анямелага дзіцяці — твары салдат, якімі яго палохалі, калі ён бачыў іх,— ці не здаліся яны яму вялікай пустыняй! А ў пустыні заўсёды маўчыць пясок і жаўцее спакойна неба.

Ціха і спакойна! І хто там пачуе плач дзіцяці!

## IV

Цяпер ён стаіць, сівы, стары, са змучаным жыццём тварам. І толькі ў вачах яго гараць агні, калі ён расказвае аб тым, як прабавалі выхватваць яны з агню набыткі свае. Як лавілі іх, адбіралі з рук і кідалі назад у агонь. Як схваціў ён два кажухі, а яго злавілі з вясёлым смехам:

— Кідай у агонь!

Ён маўчаў.

— Кідай у агонь!

І схвацілі за рукі, заламалі іх назад. Тады ён у слязах і болю прыгнуўся, як бы хацеў кінуцца на зямлю, і прыпаў губамі да рукі польскага салдата.

Жыць жадаў бядак!

У час вялікай барацьбы за знішчэнне прыніжанасці чалавека перад чалавекам Польшча прыслала на Беларусь абаронцаў гэтае прыніжанасці, на Беларусь, якая нядаўна тады ледзьве пазбавілася была ад «далікатнага» панства з абцалованымі белымі рукамі. І вось гэты ваяка за Польшчу з белымі рукамі, абцалованымі паднявольнымі слугамі — гэты ваяка раптам выпусціў рукі злоўленага вяскоўца і пусціў яго. Можа пасля ён і хацеў вярнуць яго, каб і кажухі яго і яго самога кінуць у агонь, а тады — пусціў: захапленне ахваціла яго, калі чалавек прымушаны быў прынізіцца перад ім.

І вось злавілі яны хлапчука — было яму тады гадоў трынаццаць. Злавілі, патрымалі, а пасля пхнулі і пагналі па вуліцы. І як пабег ён, зноў злавіць яго пажадалася ім і пачалі даганяць. Бегучы ён скінуў сарочку, каб не пазналі яго, а яго пазналі і дагналі. І вось узялі яго за плечы, падвялі да сцяны, што не паспелі яшчэ запаліць, і пачалі біць ім аб сцяну.

Чаго яны ад яго хацелі? Чаго ім ад яго трэба было?

І вось вясковец. Угледзеў ён, як падышлі падпальваць

яго хату. Тады з свайго двара кінуўся ён уцякаць. Пабег у бок палеткаў і адчуў, што па ім страляюць. Тады ён упаў і папоўз. Так пад абстрэлам поўз ён да спелых ячменяў і там у трывозе і непакою лёг на зямлю. Так і ляжаў і за шчасцем жыў застаўся.

У другім жа канцы ахвачанай агнём вуліцы лавілі і білі сялянак.

## V

Білі жанчын.

Маці, сястра — стаялі ў агні перад сцяпою яснавяльможнае панскае сілы, стаяла вечная пакутніца зямлі — прыбітая, зняважаная. Маці — сканаўшых у агні дзяцей, прыбітых галавою аб сцяну, маці дзяцей, уцёкшых у вялікай трывозе ў поле, страшнае цяпер і адзінокае. Сястра забітых жалезам у твар, заведзеных у лес на пакуты, жонка ўкінутых жывымі ў агонь.

Вялікая жанчына Беларусі — сялянка!

У яе не высыхаюць слёзы на змораным твары, слёзы па загінуўшых у пакутах.

Гэта маці тых герояў-сялян, якія трымалі некалькі месяцаў фронт на Бабруйшчыне, замяніўшы, калі трэба было, рэгулярную Чырвоную Армію.

Білі ў вёсцы Кулаках жанчын, а сама вёска дагарвала. Ціха, як свечка, ужо нават і нямоцны трэск дзерава ў агні сціх.

Пацеха была скончана, а пацешыцца хацелася больш, і вось пробавалі зганяць сялян, і чуваць была гаворка афіцэраў, што «патрэбна сабраць усіх і залпамі пастраляць».

Канчацца пачынаў дзень. Хто вырваўся з салдацкіх рук, хто раней пакінуў роднае папялішча — нічога тут не было ўжо вартаваць. Усё было скончана, быў попел, вуголле, абсмаленае дзерава і абгарэлыя косці.

Тады палякі ўспомнілі аб пажыве. Знайшлі выратаваную жывёлу і пагналі з сабою цэлае стада. Яшчэ знайшлі коней і пагналі з сабою 25 самых лепшых. І вось тут знаўцы кавалерыйскага хараства і хараства вышкаленых коней выявілі сваю прыхільнасць да выбару коней і прынялі гарачы ўдзел у гэтым — польскія афіцэры. Раней, як салдаты палілі вёску, кідалі ў агонь людзей і грабілі — тады яны былі вясёлымі наглядальнікамі, былі ў захапленні ад рэдкага гульбішча і давалі толькі загады. Тут у іх

не хваціла цярплівасці не дзейнічаць самім. Тут была пажыва...

Канец дню прынёс канец усяму на гэтым маленькім куточку Беларусі. Нацешыўшыся і пажывіўшыся, зніклі яны, тут жа, мусіць, забыўшы ўсю гэтую справу. І на месцы вёскі Кулакоў застаўся чорны твар руін і нямая пустыня душ, і страшная пустыня ў паўнаце, бо нічога не было выплакана і нічога не было выказана.

І цяпер сівы і слабы стаіць ён, выпакутаваўшы ўсё гэта, аддаўшы чорным здарэнням сваю жыццярадасць, ён захаваў у сабе вялікую чуласць. І вось па яго абветраным у полі твары, па маршчаках, на сівую бараду цякуць саромлівыя ціхенькія слёзы.

І ён ледзьве выгаварыў адну фразу, якая сказала ўсё. Ён сказаў:

— Колькі здароўя адабралі!

І больш нічога не гаварыў. І ўсе, хто быў тут, думаючы аб усім гэтым, былым, памаўчалі ў тую хвіліну...

Сем год прайшло. Хаты забудаваліся новыя. Забудуецца ўсё. Улетку поле зноў шуміць жытам і ўвосень цешыцца зялёнаю руннию. Зямля на сабе згладзіла сляды.

Але ці згладзяцца сляды ў людскіх істотах?

Ніколі не гляне весела сагнутая горам постаць, і ніколі не вернецца «адабранае здароўе».

Маленькі куточак зямлі ўпісаў у гісторыю Беларусі — у гэтую гісторыю толькі адных пакут краіны, пакут стагоддзяў — гісторыю новай пакуты. (...)

## VI

У Случчыне яшчэ вёска Быстрыца ўведала польскага салдата і афіцэра.

Быстрычанін павёў у кузню раскоўваць каня, і там жа гэтага каня польскі салдат адабраў. У той жа дзень у другога быстрычаніна забралі каня з дому. І рабавалі ўсё: і палотна і адзежу — такія «дробязі», як сялянская зрэбная адзежа, лічыць і не патрэбна была ім, але тут быў нейкі «ваяцкі прынцып».

У суседніх вёсках Дзярэчыне забралі табун коней, у Мацкевічах — таксама табун коней. Убачылі на быстрыцкіх палях стада кароў — і сержант польскае арміі Шуба заявіў аб патрэбе забраць і іх. Забралі.

Гэта было ўлетку, калі адступалі.

А зімою, у час «мірнае стаянкі», днём па вуліцы білі быстрычаніна Васіля Бабейку — старога, год семдзесят. Білі кулакамі ў твар, дзеравам вінтоўкі ў грудзі.

Летам, як забіралі ўсе набыткі, некалькі чалавек сялян прабавалі бараніцца — і вось цяпер шукалі «кіраўніка гэтае абароны».

І рабілі допыты над сялянамі — кулакамі, жалезам і дзеравам.

Перад самым адыходам са Случчыны, па Рыжскай згодзе, яшчэ паспелі наладзіць суд над 6-цю быстрычанінамі. Судзілі за тое, што ў іх вёсцы было некалькі прыаружаных сялян, якія некалі прабавалі бараніцца, калі ў цэлай вёскі забіралі коні, іншую жывёлу, дробныя рэчы. Засудзілі на розныя тэрміны турмы — некаторых на восем год. Зразу ж пасля суда прыйшлося ім пакідаць Случчыну — увайшла ўжо ў сілу Рыжская ўмова. І засуджаных сялян павезлі з сабою ў Польшчу. Павезлі з беларускай зямлі беларусаў у польскія турмы. Прыйшлі, аграбілі, паздзекаваліся. Калі прыйшлося пакінуць акупаваную зямлю, судзілі і павезлі з сабою, у свае турмы.

За што? І дзеля чаго? (...)

Усё перанёс беларускі селянін. Усякія пакуты ўведаў і ў вострыя моманты на ўсё здольны. І вось, дзякуючы вялікай напружанасці настрояў, вялікай рашучасці, засуджаным удалося ўцячы з падарожжа ў Польшчу.

## VII

Бачыў я адно здарэнне — польскі афіцэр патрабаваў у сялян нейкіх коней, нейкіх фурманак, яшчэ нечага мала патрэбнага яму. Нехта спрачаўся, нехта нешта сказаў... Тады ён закалаціўся ад злосці, ударыў каня свайго шпорамі і пад'ехаў да бліжэйшае хаты, гатовы падпаліць салому яе страхі.

Было гэта ў мястэчку Цімкавічы, на Случчыне, у пачатку лета.

Нехта заплакаў, нехта закрычаў.

І от падышоў хворы, стары яўрэй Г. С. Ён яшчэ некалькі момантаў пастаяў, як бы не могучы адразу зразумець становішча рэчаў. Пасля баязліва папрасіў:

— Панок, не губіце людзей.

Панок строіўся падпаліць страху.

Тады зноў сказаў ён:

— Панок, не губіце людзей.

Моцна ён не мог гаварыць, вочы, поўныя слёз ад старасці, падняў высока — на ўзровень твару паніча. Панок тады моцна закрычаў на яго.

Тады ён прыгнуўся ўсяею постаццю, раптам прыблізіў твар да стрэмя і пацалаваў у бот панку. І тады панок ад'ехаў — злосны і горды.

Ці не ўвасабленне гэта ўсяго таго, на чым і з чаго пабудавана панская цывілізацыя!

У гэтай пакорлівасці старога і хворага я не ўбачыў рабства. З гэтае «пакорлівае» ціхасці выліліся пасля хвалі паўстанняў на ўсёй Беларусі, гарэў агонь вялікага змагання за права чалавечнасці...

І цяпер, калі Беларусь яшчэ ўсё пакутуе, аблітая крывёю і слязьмі на ўсім Захадзе сваім, ад панавання над ёю польскай панскай цывілізацыі — цяпер: хіба можна спакойна быць і не быць у агні і бурах?!

Расстраляныя на родных палях, зажыва спаленыя ў сваіх уласных хатах, не могшыя нават падаць голасу аб дапамозе, катаваныя ўсімі спосабамі, якія толькі да гэтых дзён прыдумала навука і тэхніка буржуазных цывілізаваных краін — вось сляды ў нашай краіне Беларусі.

Глыбокая культура беларускіх рабочых і сялян, прыдушаная вякамі, і цяпер, ва ўсходняй савецкай частцы Беларусі, вызваленае з-пад ярма, атрымаўшая ўсе магчымасці развівацца, высока развіўшыся і даўшы вялікія каштоўнасці ў скарбніцу будучай інтэрнацыянальнай культуры — з'явіцца вялікім культурным помнікам над усімі пакутамі Беларусі.

Наша задача больш дасканала вывучыць ахвяры, якія былі вырваны з Беларусі паходам Польшчы. Вывучыць і больш падрабязна заявіць аб іх, каб панская Польшча, якая душыць цяпер Заходнюю Беларусь, не гаварыла аб Беларусі як аб нейкім козыры, якім можна «казыраць», а каб яна прымушана была сказаць, што гэты «козыр» ёсць жывая істота, ахвачаная вострымі пакутамі, у крыві і слёзах.

«Усю крыўду за сваю айчыну мы вылічым у судны дзень».

# З РОДНАЙ ГЛУШЫ

Вечар кладзецца на снежную вуліцу, з ціхіх палёў плыве сіні змрок. Вёска Кулакі скрыпіць варотамі, каля калодзезяў плюхае вада. Галасы дзяцей заціхаюць на вуліцы.

Прыйшоў вечар.

Вечарам у старшыні сельсавета Мікалая Ч. збіраюцца мужчыны пагаварыць. Гаворка ідзе аб самым патрэбным цяпер — аб дровах, аб лесе.

Заўсёды на свеце так — найбольш гавораць аб тым, што каму баліць.

— Для вёсак, якія далёка ад лясоў,— чуецца голас,— трэба больш даваць палёгкі, бо з дровамі трудна.

— З-за нядбайства лясніцтва нам позна адпусцілі лес, і за кароткі тэрмін не можам прыбраць яго. Наогул, лес позна адпускаюць, трэба з самае восені.

— Мераюць дрэнна дровы, не ў сажонках, а на пні, загэтым не хапае меры.

— Лясніцтва размяркоўвае лес не добра — далёкія вёскі едуць у нашы лясы, а мы ў іхнія — марна часу і працы шмат траціцца.

Лясніцтва Чырвона-Слабодскае знаходзіцца ў Орліку. Гаворка ідзе аб усякіх непрыемнасцях, якія лёгка зжыць, але пакуль яны ёсць, ад іх вельмі прыкра бывае. Расказваюць, як летась ляснічы прадаў быў на пні адны дровы двум пакупнікам.

Са смехам расказваюць пра дзелавода ў лясніцтве, які па ведамасці больш вылічыў грошай за лес, як належала.— Дык я яму праз некалькі дзён паказаў яго гэтую памылку. Ён паглядзеў ды і кажа: «Што праўда, то праўда, памыліўся, ліха на яго». Зараз чарканушў па ведамасці: «Я,— кажа,— паправіў». Аддай жа грошы,— кажу я. «Я з вас,— кажа,— правільна ўзяў».

Скардзяцца на пакражу дроў.

Адзін селянін падаў думку:

— Хіба ўвесці трэба лясную павіннасць: каб кожная вёска кожны год засявала пэўны кавалак лесу.

— Пападзецца дзе-небудзь ва ўстанове які-небудзь шмэндрык, які ўсю працу псуе, ды разводзіць валакіту...

Я іду ў другую хату. Хлопцы расказваюць:

— Слаба вядзецца барацьба з хуліганствам. Некаторыя хлопцы нап'юцца, возьмуць гармонію, рэжуць частушкі і хуліганяць.

— Пошта неакуратна дастаўляе газеты.

У адной хаце хлопцы паказвалі мне кнігі — брашуры па кааперацыі, па рэвалюцыйным руху... Кніг мала — непачаты кут работы нашым культурна-асветным установам.

Позна вечарам я гаварыў з старшынёю і сакратаром сельсавета — слаўныя працаўнікі, культурныя людзі, прадстаўнікі лепшае часткі вясковай моладзі.

Пленумам сельсавета ўведзена ў план працы на гэты год: арганізацыя тарфянога таварыства — маецца ў сельсавеце шмат торфу, які неабходна распрацаваць, пабудова лазні, арганізаваць пракатны пункт.

Вялася праца па землеўпарадкаванню. Пасёлак Маліnaўка перайшоў поўнасцю на шматполле, і цяпер гаспадары здаволены добрымі вынікамі.

Яшчэ ў плане працы сельсавета — пабудаваць у гэтым годзе школу ў вёсцы Кулаках. Тады школа павінна будзе быць уведзена ў сетку.

Ёсць імкненне адчыніць сельскагаспадарчую кааперацыю.

Вельмі патрэбна адчыніць у цэнтры сельсавета лячэбны пункт.

У вёсках гэтага сельсавета расказвалі сяляне аб забойстве ў вёсцы Дзярэчына сакратара камсамольскай ячэйкі, хвалілі яго як добрага працаўніка. Скрозь я чуў добрыя водзывы аб ім. Працаваў ён у кааперацыі старшынёю.

Следства нічога не выявіла. Перад тым, як знайшлі яго нежывым, быў сход ячэйкі. Яшчэ ёсць пагалоска, што ён сам застрэліўся. Ці так гэта?

Следства павінна раскапаць гэтую справу.

Назаўтра я ехаў у санях па вузкай дарозе. Стаялі ціха вёскі ў снегавых палях...

Мясцовасць гэтая пацярпела ад палякаў. Сляды польскага панавання згладжваюцца. Культура гаспадаркі пранікае ў гэтую глуш. Задача — развіццё сельскагаспадарчае прамысловасці — паўстае зараз тут ва ўвесь рост. Да культуры ідзе родная глуш. І прыйдзе.

І на занядбаных адвеку гонях «закрасуе вечнае ранне».

# РЭДАКЦЫЙНЫ ГОСЦЬ

Адзін раз да нас у рэдакцыю прыйшоў быў шчуплы і нізкарослы чалавек. Кароткі кажушок яго быў цесна падперазаны шырокім раменным паясом, а зімовая шапка вельмі ссунута была назад і адкрывала нізенькі лоб, спацелы і аблеплены рэдкімі мяккімі валасамі.

Ён зморшчыў нос, прыжмурыў вочы, палажыўшы гэтым на твар свой плаксівы выраз пакрыўджанага чалавека, і падаў некалькі лісткоў паперы, дробна спісаных сінім атрамантам.

У карэспандэнцыі гаварылася аб тым, што старшыня сельсавета не мае на яго вока і любіць выпіць. А выпіўшы заўсёды бывае п'яным. А паскольні п'яны, пастолькі няправільна дзела вядзе.

— Я вам паясню,— сказаў чалавек, калі карэспандэнцыя пачала прачытвацца,— я не магу не сказаць. Ён не савецкі элемент і не мае ў сабе ні каплі праўды. А ўсё, што ён робіць, належыць да абжалавання. Так! Чытайце, там усё сказана.

Далей у карэспандэнцыі гаварылася, што старшыня сельсавета ў нядзелю ніякіх захадаў не зрабіў, бачачы. як хлапцы і мужчыны рэзаліся ў тэфталя, а пасля перайшлі на рамс. Нават сам узлёг на спіны мужчын ззаду і нейкі час глядзеў, хто найбольш аграбае банкаў... Пасля гэтага, замест таго, каб пачытаць газету, пайшоў дадому ды лёг спаць. Наогул дрэнны чалавек, не савецкі элемент.

— Прашу друкаваць,— сказаў чалавек.

— А за што на вас старшыня вока не мае?

— Я яму ў косці ўеўся.

— А нашто вы яму ў косці ўядаліся?

— Вялікае дзела. Доўга расказваць. Гэта яшчэ з тых часоў, як ён у сельсавеце не быў. Па няправільнаму даносу, па злабе, значыць, усадзіў бы мяне ў астрог, каб я штрафам не пакрыў усяго.

— А за што ён вас так?

— Злабу меў. І маючы злабу, выдумаў і данёс, нібы я ганю самагонку.

— То можа вы і гналі?

— Што я вам, не сказаў бы?Каб гнаў, то сказаў бы.

— А за што ж вас аштрафавалі?

— Я ж кажу — па злабе... Знайшоў быў я нек на дарозе трубку нейкую — можа яна і ад апарата, чорт яе ведае. Я не лішне прыглядаўся там да яе, а ўзяў ды і закінуў у куток — у гаспадарцы, думаю, на што-небудзь скарыстаецца. А тут яны да гэтага і прычапіліся.

— Ну дык чаго вы хочаце?

— Надрукаваць.

— Для чаго?

— Каб нанава дрэва перадзялілі.

— А як яны яго падзялілі?

— Няправільна. Мне, напрыклад, усяго два пні далі, тады калі я маю права больш атрымаць.

— Чаму вы маеце права больш атрымаць?

Ён доўга тлумачыў аб самагонцы, аб злабе, аб несавецкіх элементах.

А праз два дні зноў прыйшоў у рэдакцыю і заявіў:

— Калі вы яшчэ не надрукавалі таго, што я вам пазаўчора падаў, дык не друкуйце — там выйшла памылка, а я от новыя факты сабраў.

У новай карэспандэнцыі было напісана, што старшыня не вядзе дзела.

— З чаго гэта відаць?

— Ваабчэ.

Праз тыдзень ён ізноў зайшоў у рэдакцыю і заявіў, што хоча быць сталым селькорам. Папрасіў тых ранейшых дописаў не друкаваць, а падаў новы. У гэтым было напісана, што евангелісты збіраюцца маліцца, а старшыня ніякіх захадаў не робіць і глядзіць на гэта скрозь пальцы. А яшчэ праз тыдзень ён прынёс верш, у якім гаварылася аб усім раней пісаным — аб самагонцы, евангелістах і старшыні — адразу.

І цяпер пачалася бяда — ён кожны амаль дзень заходзіў у рэдакцыю сварыцца, чаму не друкуецца яго верш. Абяцаў нават прынесці нейкі прыгавор з подпісамі грамадзян усяе вёскі... Што ён рабіў у горадзе — хто яго ведае.

Праз нейкі час на яго пасыпаліся ў рэдакцыю карэспандэнцыі, што ён пасек лес, а старшыні заявіў, што лес гэты мясцовага значэння і калі што — дык памятай! Я селькор!..

Пасля гэтага ён недзе знік і больш не прыходзіў.

## (РЭЦЭНЗІЯ НА ЗБОРНІК ВАСІЛЯ СТЭФАНІКА «ТВОРИ»)

Лёс Украіны апошнія стагоддзі быў падобен да лёсу Беларусі. Аднолькавая падвойная няволя была ў гэтых краінах — сацыяльная і нацыянальная. Заходняя Украіна гэтаксама, як і Заходняя Беларусь, аднолькава перажываюць і цяпер гэтую няволю.

Васіль Стэфанік — паэт Заходняе Украіны. Гэта паэт замучанага вякамі сялянства. Таго сялянства, якое вечна церпіць голад, вечна працуе на пана і чыноўніка.

Свае зямлі ў беднага сялянства Заходняе Украіны мала. Яе прыбіраюць да сваіх рук — паны, духавенства і заможнікі. Сялянская гаспадарка драбнее і знішчаецца. І самі «гаспадары» — робяцца, парабіліся жабракамі.

Калі чытаеш гэтую кнігу Васіля Стэфаніка (збор навел і апавяданняў), дык забываеш, што гэта кніга, а не само жыццё. Як жывыя, праходзяць перад табою страшныя малюнкі чалавечых пакут, змучаная душа гэтых пакутнікаў. Паэт падымае заслону перад чалавечаю душою і паказвае — які вялікі і глыбокі свет там, у чалавеку. У герояў Васіля Стэфаніка няма «звычайнага» стану ў іх настроях, характарах. Яны ўсе знаходзяцца ў стане тэй духоўнай напружанасці, якая бывае толькі ў якія-небудзь незвычайныя моманты жыцця. Бо і сапраўды, само жыццё гэтых герояў ёсць тая незвычайнасць, тая ненармальнасць, якая хоць і з'яўляецца спадарожнікам чалавеку з пялёнак і да труны бесперарыўна, але ніколі не можа стаць звычайнасцю. Голад, напрыклад, заўсёды будзе ненармальнасцю, колькі б чалавек ні галадаў.

Васіль Стэфанік — не пісьменнік быту. Хутчэй яго льга назваць тварцом псіхалагічнае навелы. Ён не расказвае пра бытаванне сваіх герояў, ён бярэ які-небудзь адзін момант, заўсёды характэрны і тыповы, і яго героі дзейнічаюць, гавораць. І гэткім спосабам яны паказваюць самі, чым і як яны жывуць.

Страшныя малюнкі хворае напружанасці чалавечае душы праходзяць перад чытачом. Напружанасць, якая хоць і не дае чалавеку спакою ўсё жыццё, усё ж не можа стаць абыклаю.

Апавяданне **«Кленови листки».**

У чалавека нарадзіўся сын. Але чалавек гэты — адвечны нявольнік. Гэта селянін, які працуе больш усяго на панскай зямлі, бо свае мае столькі, колькі хапае для таго, каб цяжка і шмат рабіць на ёй і ніколі не мець свайго хлеба. Дык і нараджэнне сына для гэтага чалавека не радасць, а няшчасце. Ён гэта і гаворыць суседзям, якія сабраліся на радзіны. Ён недзе дастаў гарэлкі і хлеба, частуе суседзяў і бядуе, што вялікае няшчасце спасцігла яго. Бо якую долю ён дасць свайму дзіцяці? Бо няўжо гэта бацьку радасць, што дзіця яго неўзабаве або зойдзецца з голаду і без догляду, або будзе ўзрастаць на пацеху багатым — з малых год парабкам, нявольнікам? Ён сумуе, бядуе, бо ў хаце яшчэ і без гэтага сядзяць галодныя дзеці і ляжыць ледзь жывая пасля радоў маці гэтых дзяцей. Ён, страшэнна любячы сваіх гэтых бедакоў-дзяцей, хварэючы душою і сэрцам над імі, над тым, што з першых дзён жыцця свайго спаткалі яны пакуту, гаворыць: «Та чому не летите з моэі голови? Я вам розчиню й вікна і двері, гай!

Діти засунулися на піч так, що їх не було вже видно.

— От сарана, ліш хліба та й хліба, та й хліба! А відкиль ж я тобі таго хліба наберу?!!»

І яшчэ гаворыць пра сябе:

— ...А ў вечар, лиш пакажешся до хати такий, як віхоть, а вони тобі в один голос... і жінка і діти: «нема хліба!» Та й ти не йдеш, бідній чоловіче, спати, але ти цягнеш ціп та й молотиш напотемки...

І там работа зваліць яго на ток, гэтак ён перабудзе ноч, а раніцаю ўстае зноў рабіць «такий чорний, що сонца перед тобою меркне».

А дзіця тое!

«...Я не чекаю, щоб воно убралося в силу... щоб воно коло мене нажилося. Коби лиш богач або пан раззявів пащеку, то я його туды кидаю, щоб лише збутися! А потім воно бігаэ коло худоби, ноги одна рана, роса їсть, стерня коле, а воно скаче та й плаче, ти б йому завернув худобу, поцілував б його в ноги, бо ти його сплодив та й сумління тебе п'э, але мінаэш, ще й ховаэшся від нього, щоб його не чути».

«Аж пачервонів, аж задихаўся».

А яно расце, ад голаду часамі ўкрадзе якую драбязу, а за гэта з'яўляецца ўлада, і зноў няшчасце над галавою гэтага бедака.

Гэтая споведзь чалавека адбываецца перад людзьмі, якіх пазваў ён на радзіны.

А праз тры дні, калі ён касіў, жонка яго, маці малых дзяцей, умірала ў хаце. І, уміраючы, паказвала старэйшаму Сымонку, як саліць гуркі, каб было што ім «есці з хлебам хоць першыя дні, пасля яе смерці».

Ёй муж дастаў булку. І Сымонка гаворыць маці:

— Тата казаў даваць вам сцюдзёнай вады і булку есці. Марыля (меншая дзяўчынка) тую булку ўхапіла і ўкусіла ўжо раз. Але я набіў яе і адабраў. Будзеце есці?

— Не хачу.

— Тата ссукалі яшчэ свечку і казалі, што як будзе ўміраць, каб даць у рукі і запаліць. Але я не ведаю, калі даваць.

Маці паглядзела вялікімі, бліскучымі вачыма на сына. Бяздонне смутку, увесь жаль і бяссільны страх сышліся разам у вачах і разам спладзілі дзве белыя слязінкі.

— Тата рана на панадворку таксама плакалі, так галавой аб вушак біліся. Заплаканы ўзялі касу дый пайшлі...

— Сымонка, прасі татку, што мама наказвала, каб вас любіў...

— Ежце булку...

— Спявай дзіцяці, хай не плача...

Сымонка ўзяў дзіцянё, але спяваць не ўмеў. Маці абцерла далоняю сухія губы і заспявала.

Гэта яна ўмірала.

«В слабім, уриванім голасі виливалася ї душа й потихеньку спадала між дітей і цілувала іх по головах. Слова тихі, невыразні, говорилі, що кленови листочки розвіяліся по пустім полю і ніхто іх позбирати не може, і ніколи вони не зазеленіють...»

Апавяданне **«Злодій»**.

Гэты злодзей пайшоў красці з голаду. І пайшоў красці да таго, каму хоць самому выбірайся з хаты дзеля гэтае ж справы. Гаспадар злодзея злавіў і пазваў суседзяў, каб памаглі біць яго. Тыя прыйшлі, бо «злачынства ж павінна быць пакарана». Біў яго гаспадар паленам, таптаў нагамі, скрываваіў. Злодзей не падаваўся без супраціўлення, сам біў даў гаспадару. Пасля біў перапынак у гэтай нечалавечай рабоце, у часе якога з'явілася адвечная спадарожніца бедакоў — гарэлка. Пілі і папрасілі ледзь жывога злодзея піць з імі. Папрасілі, а не загадалі. «Пі,— сказалі,— бо будзем цябе біць, дык каб быў мацнейшым цярпець».

І той пачаў піць, седзячы з імі поплеч за сталом, скрываўлены, змучаны. П'ючы, гаварылі без злосці, а сапраўды як у часе перапынку ў якой-небудзь рабоце.

Чалавек выправіў сына на заработкі, і ён там памёр. Бацька прыехаў убіраць яго на смерць і галасіў над ім.

Чалавек — які выбіраецца на заработкі, кідаючы дома галодную сям'ю і дашчэнту разбураную гаспадарку,— і што гаворыць і перажывае гэты чалавек!

Дзеці — гэтыя кветкі, гэтыя «кленови листки», яны, як пыл на дарозе, сапраўды як тыя «кленови листки», што апалі на дарогу — топчуцца жыццём у гразь!

Уся гэтая кніга — вялікае замілаванне найвыдатнейшага паэта Васіля Стэфаніка да людзей-бедакоў, скарга, пакутная паэзія бядняцкага неўрадлівага поля. Васіль Стэфанік — паэт заходне-ўкраінскага беднага сялянства.

У гэтую кнігу ўвайшлі яго ранейшыя творы. Яны нам зразумелыя і блізкія, бо ў іх мы можам угледзець сваю Беларусь — і пад царскай Расіяй, і цяперашнюю Заходнюю пад Польшчай. Гэта ўсё нам знаёма — і селяніну-бедняку, і гарадскому пралетару, і парабку, і, нарэшце, той частцы нашай працоўнай інтэлігенцыі, якая сапраўды ведае беларускае мужычае жыццё, бо сама выйшла з гэтых мужыкоў, парабкаў, гарадскіх пралетараў, з таго жыцця, у якім сапраўды руйнуюцца межы дазволенага і недазволенага. Кніга Васіля Стэфаніка — поўная мастацкае праўды — ёсць вялікі пратэст супраць сацыяльнае няроўнасці, супраць панавання адных і нявольніцтва другіх. Гэта пратэст своеасаблівы. Ён схаваны па-за ціхімі, чулымі словамі твора, але ў гэтым і ёсць сіла мастацтва. Гэта тыя «кленови листки», якіх неміласэрна топчуць у зямлю і якія, самым фактам гэтага, абуджаюць нястрыманае жаданне пратэставаць. Гэтая кніга належыць да тых кніг, якія пасля прачытання ніколі не забываюцца. Па сіле мастацкае глыбіні і праўды гэта найвыдатнейшы твор найвыдатнейшага мастака.

# ПЕРАД ДРУГІМ ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕМ

Дзесяцігоддзе БССР ёсць завяршэнне пэўнага этапа ў развіцці беларускае культуры. За гэты час мы маем вялікія дасягненні ў нашай гаспадарчай, культурнай працы. За гэты час вырасла шмат новых, маладых сіл, патрэбных для развіцця культуры і гаспадаркі. За гэты кароткі час Беларусь, тая краіна, якая доўгія вякі цярпела падвойную няволю — і сацыяльную і нацыянальную, якая не мела нават права звацца сваім імем — Беларусі — цяпер гэтая краіна стварыла сваю Акадэмію навук. Беларуская культура вырасла гэтак, што ў працэсе свайго далейшага развіцця падышла да вышэйшага афармлення. Гэта — вышэйшыя формы культуры.

Гэтае разуменне — вышэйшыя формы — не павінна звужацца да пэўных толькі літаратурных жанраў. Бо і гэтыя жанры, якіх бы яны высокіх кампазіцыйных і іншых якасцей ні дасягалі, залежаць ад агульнага афармлення культуры. Вышэйшая форма — гэта ўзвышэнне да культуры і нават, у нашых умовах, шмат дзе, да культурнасці творчае прадукцыі і спосабаў творчасці. А тут пачынаюцца ўжо межы вышэйшых літаратурных жанраў і кампазіцый. Галоўнае ва ўсім гэтым працэсе — змаганне за беларускія формы беларускае культуры (літаратура, тэатр, музыка, жывапіс...).

На першы план тут становіцца культура мовы. Гэта не ёсць толькі карэктыва асобных слоў і выразаў, тут больш важнае — гэта беларускасць моўнага кірунку, чыстата і культура моўнага афармлення з'яваў культуры ці то літаратурных твораў, ці то тэатральных паказаў, ці наогул мова ўсіх беларускіх кніг — літаратурных, навуковых, практычных, палітычных...

Тое ж самае і ў вобразах музыкі, жывапісу. І тут павінна быць змаганне за беларускасць вобразаў. А гэта вырашае пытанне стыляў. І гэта ж усё вырашае пытанне нацыянальнае формы культуры. Далейшае крышталяванне і культура нацыянальных форм, пры пралетарскім змесце — вось аснова тых вышэйшых форм.

Мінулае дзесяцігоддзе пакінула найбагацейшую спадчыну — і творчую практыку, і выразныя, рэчаісныя дасяг-

ненні культуры. І на грунце гэтае спадчыны будаўніцтва беларускае культуры на другое дзесяцігоддзе яе будавання набывае яшчэ шырэйшы і адказнейшы размах.

Вывучэнне вобразаў народнае творчасці, скарыстанне іх у справе стварэння нацыянальных форм культуры — вось патрабаванне нашай культуры да культурных працаўнікоў і інстытуцый, якое не зменшылася, а павялічылася.

Мінулае дзесяцігоддзе стварыла музычную і мастацкую школы (тэхнікумы). І гэтыя школы павінны даць не толькі пісьменных у сваёй галіне людзей,— патрэбных працаўнікоў. Задача яшчэ гэтых школ — і самая важная задача — выхаваць такіх працаўнікоў, якія б давялі беларускую музыку да яе вышэйшых формаў, якія б стварылі беларускі жывапіс (жывапіс разумеецца ў шырокім сэнсе). Каб гэтыя мастацтвы мелі сваю нацыянальную, беларускую форму. А гэта ўскладае на гэтыя школы зусім адмысловыя задачы. Гэтыя школы павінны мець гэтакі кірунак свае працы, каб стварыць усе ўмовы дзеля таго, каб стаць з цягам часу вышэйшымі беларускімі школамі музыкі і малярства. Задачы папулярызацыі беларускае песні павінны саступіць першае месца стварэнню вышэйшага беларускага музычнага мастацтва, якое павінна быць аснована на гэтай жа песні, на гэтым створаным і ўдасканаленым народам матэрыяле дзеля вышэйшых форм музычнае культуры. Вывучэнне ў мастацкім тэхнікуме сучасных мастацкіх дасягненняў, падрыхтоўка патрэбных працаўнікоў-мастакоў павінна гэтаксама ісці пад кірункам стварэння беларускага малярскага мастацтва і ўзвышэння яго да вышэйшых формаў.

Галоўная задача тэатра — стварэнне беларускага тэатральнага мастацтва. Гэтая задача цесна звязана з задачамі нашае літаратуры. Пытанне беларускага стылю, а значыцца, і беларускае нацыянальнае формы — тут на першым месцы.

Галоўныя мэты і тэатра і літаратуры — сыходзяцца. Гэта тое, што ў шырокім сэнсе можна назваць разуменнем жыццебудаўніцтва. І гэта робіць і літаратуру і тэатр найадказнейшымі галінамі нашае культуры.

Разуменне задачы літаратуры як «жыццебудаўніцтва» ёсць разуменне вялікае з'явы, прагрэсіўнае, дзейнае. Бо наш сённяшні дзень мае за сабою сваё мінулае і выразна ставіць задачы заўтрашняга. Таму і літаратура і тэатр не павінны «адбіваць эпоху» («адбіваць» — разумеюць —

«адлюстроўваць») або «ставіць праблемы», а тварыць эпоху і вырашаць праблемы. Толькі гэтакім чынам літаратура будзе сапраўды «жыццебудаўніцтвам», а не пазадкамі жыцця, будзе сапраўды зброяю ў руках пралетарыята.

Мінулае дзесяцігоддзе арганізавала новую беларускую паслякастрычніцкую літаратуру, пралажыла цвёрдыя шляхі для яе далейшага развіцця; наша савецкая рэчаіснасць дала ёй найвялікшыя магчымасці. І наша літаратура за гэты час мае вялікія дасягненні. І з кожным годам пралетарская літаратура, пралетарская культура робіцца і будзе рабіцца наймагутнейшаю з'яваю жыцця краіны, адным з сродкаў творчасці гэтага жыцця.

У выхаванні новага чалавека, чалавека сацыялістычнай грамады, літаратура адыграе вялікую ролю і гэтакую літаратуру праз сваіх прадстаўнікоў — літарататараў тварыць тая частка грамады, якая цярпела сацыяльнае прыгнечанне, а ў нас на Беларусі і нацыянальнае. Гэта рабочы клас і беднае сялянства. І галоўны герой нашае літаратуры — павінен быць рабочы, селянін. З'явы жыцця, што праходзяць у святле літаратуры, разглядаюцца з пункта гледжання гэтага героя. І гэта адна з перадумоў стварэння пралетарскай літаратуры.

Што да формы, дык выразныя, бліжэйшыя задачы ў творчым працэсе літаратуры, і шырэй — культуры, павінны зводзіцца да стварэння беларускіх нацыянальных стыляў (формы). Пытанне мовы павінна тут набыць першарадную значнасць, яно павінна быць пастаўлена адпаведнымі інстытуцыямі шырэй і іначай, як яно ставілася дагэтуль.

Нацыянальныя формы літаратуры, тэатра, музыкі, жывапісу — будуць толькі ўзвышаць яе, спрыяць яе развіццю. Наша літаратура ўсё больш будзе рабіцца магутным сродкам будаўніцтва жыцця і магутным фактам абуджэння да новага жыцця беларускіх сялян і рабочых. Тварыць гэтыя нацыянальныя формы — наша найадказнейшая задача.

Мінулае дзесяцігоддзе арганізавала сілы, вызначыла творчыя шляхі і палажыла пачатак новай беларускай літаратуры, літаратуры пралетарскай, літаратуры высокамастацкай.

Перамагаючы ўсе цяжкасці, беларуская пралетарская культура будзе ісці шляхам свайго далейшага магутнага развіцця.

# МАКСІМ ГОРКІ

Споўнілася 60 год з дня нараджэння і 35 год літаратурнай дзейнасці вялікага мастака слова расійскага пісьменніка Максіма Горкага.

Максім Горкі (сапраўднае прозвішча яго Аляксей Пяшкоў) радзіўся ў Ніжнім Ноўгарадзе. Бацька яго быў рабочы (абойшчык) і памёр тады, калі сын быў зусім маленькі. Хлопчыка тады стала гадаваць баба па мацеры. Гадаваўся ён у страшнай бядноце, жылі яны амаль што старцамі — збіралі на сметніках анучы. У 9 год Аляксея аддалі вучыцца за шаўца. Адтуль ён уцёк. Пасля пачаў вучыцца ў рысавальшчыка, пасля ў багамаза і інш. У 15 год ён пакінуў свой горад і рушыў у Казань. З гэтага часу пачынаецца яго брадзяжнае юнацтва. У гэты час ён працаваў пекарам, маляром, нагрузчыкам, чорнарабочым. У гэты час брадзяжыў па ўсёй Расіі, абышоў пехатой усе паўднёвыя яе вобласці.

За ўвесь гэты час ён шмат чытаў, імкнуўся да асветы. І пачаў пробаваць пісаць. У 1892 годзе было надрукавана яго першае апавяданне «Макар Чудра». Горкаму тады было 24 гады. Пасля таго неўзабаве з'явіліся ў друку больш яго творы, і слава яго пачала расці. За некалькі год ён стаў адным з самых вядомых расійскіх пісьменнікаў.

Максім Горкі пачаў зближацца з рэвалюцыйнымі арганізацыямі і прыняў удзел у іх працы. У 1901 годзе ён увайшоў у члены сацыял-дэмакратычнай партыі і пасля расколу ўвайшоў у бальшавіцкую фракцыю. Тады некалькі разоў сядзеў у турмах за рэвалюцыйную дзейнасць. Пасля 1905 года некалькі год жыў у Італіі. Прыехаўшы ў Расію, пачаў выдаваць часопіс «Летопись» і ўжо ў часе рэвалюцыі газету «Новая жизнь». Цяпер, з-за дрэннага стану здароўя, жыве ў Італіі.

Творы Максіма Горкага, як яны пачалі з'яўляцца ў друку, з'явіліся як бы нейкім свежым ветрам, які асвяжыў літаратуру, асвяжыў думку. Яго першыя апавяданні з жыцця басякоў былі зусім новымі ў літаратуры. У той час ён выводзіў герояў моцных, смелых, з цвёрдаю воляй.

У яго творы «Песня о Соколе» ранены сокал узлятае, каб хоць яшчэ раз пабачыць сонца. І разбіваецца насмерць. Але гэтае смелае жыццё лепш поўзання вужакі. Канчаецца твор словамі: «Безумству храбрых поем мы песню».

У другім перыядзе творчасці Максіма Горкага вызначыўся паварот ад адзіночак-герояў да калектыву. У гэты час напісаны аповесці — «Мать», «Враги». Гэтыя творы даюць права назваць Максіма Горкага першым пралетарскім пісьменнікам.

Жывучы цяпер у Італіі ў невялікім горадзе Сарэнта, Максім Горкі трымае жывую сувязь з Савецкай Расіяй. Ён атрымлівае амаль што ўсе часопісы і шмат газет з Расіі. Ён атрымлівае лісты ад тысячы селькораў з самых глухіх куткоў Расіі. І адказвае на гэтыя лісты. З радасцю глядзіць і перажывае будаўніцтва новага жыцця ў сваёй краіне, у той краіне, у якой ён у дзяцінстве пазнаў гэтулькі гора.

# ЗАМЕСТ ПАШТОВАЕ СКРЫНКІ

Маладыя аўтары, што прысылаюць свае творы ў рэдакцыю, вельмі мала клапоцяцца пра мову сваіх твораў, пра стыль. Мова і стыль — гэта тыя формы, у якіх падаецца чытачу думка твора. Дык формы гэтыя павінны быць прыгожымі, удасканаленымі. Нямецкая літаратура мае свае адмысловыя формы, яна напісана на нямецкай мове. Расійская літаратура мае свае формы, яна на расійскай мове. Гэтаксама і ўкраінская літаратура, і японская, і ўсякая іншая. Тое ж самае — беларуская літаратура. Нашы аўтары павінны клапаціцца, каб іх літаратурныя творы былі літаратурным мастацтвам. Яны павінны пісаць чыстаю беларускаю моваю. І трэба заўсёды вывучаць сваю мову, прыслухоўвацца да народных гутарак. Гэтакі вялікі расійскі мастак слова, як Леў Талстой, усё сваё жыццё вывучаў расійскую мову — гэта значыцца, тую мову, якая была для яго роднаю і якою ён пісаў.

Некаторыя нашы аўтары, ведаючы добра літаратурную расійскую мову, калі пішуць свае творы, дык у галаве іх фармулююцца сказы ў расійскай мове, і тут жа, пішучы, яны перакладаюць іх на беларускую мову. Вядома, што стыль гэткага твора не будзе мець прыгожасці і сілы, а мова будзе няправільная.

Вось, дзеля прыкладу, сказ з аднаго рукапісу:

«Ноч бясшумна спусцілася на зямлю... Тысячы зор асвяцілі прастор ласкавым мігаючым светам і з халодным нямым пытаннем заглядваюць у душу, у глыбіню істоты, туда, дзе сэрца і нервы новазагартованым молатам адчыканіваюць гукі жыцця».

І яшчэ з таго самага апавядання словы і моўныя звароты:

«Выпаў снег», «састарэўся», «усё бачыўшай, усё адчуўшай рукой», «шчэлачку», «жалка»...

Калі аўтар піша беларускаю моваю, дык ён трэба, каб ведаў добра народную беларускую мову. Тады яго творы будуць мець беларускія нацыянальныя формы.

Тав. Сталін, гаворачы пра нашу, савецкую літаратуру,

вызначыў, што яна павінна быць пралетарскаю ў змесце і нацыянальнай у форме.

Заўсёды аўтару гавораць: трэба апрацоўваць творы. Гэта значыцца, што трэба, каб аўтар не стараўся толькі абы-як выказаць думку свайго твора або абы-як паказаць у творы якіх-небудзь людзей, расказаць пра што-небудзь. А павінен аўтар глядзець на тое, як ён выказвае, як паказвае. Мова твора павінна быць па-мастацку простаю, жывою — гэтакаю, якою яна жыве, а не прыдумліваецца. Адзін аўтар пісаў: «вецер распаўсюджваў пах кветак». Расійскае «распространять» у нас пішуць «распаўсюджваць» («распаўсюджваць газеты», «распаўсюджваць аблігацыі»). У інструкцыі, у пратаколе, нарэшце ў артыкуле, дык гэткая мова яшчэ — паўбяды; але ў мастацкім творы, дык гэта вельмі суха і непрыгожа. Куды прыгажэй было б напісаць проста — «пахлі кветкі» або «дзьмуў вецер, і пахлі кветкі».

Некаторыя аўтары, захапіўшыся гэткаю моваю і думаючы, што для кніг яна патрэбна, пішуць, напрыклад, «зачыніў вочы», замест «заплюшчыў вочы» і да гэтага падобнае.

Трэба, каб творы пісаліся моваю жывою.

## ЛЕЎ ТАЛСТОЙ

Споўнілася сто год з дня нараджэння вялікага пісьменніка Льва Талстога. Леў Талстой не толькі расійскі пісьменнік, ён пісьменнік усясветны. Яго творы перакладзены на надзвычайна шмат моваў, і культурныя народы свету чытаюць яго. Стагоддзе з дня яго нараджэння святкуе ўвесь свет.

Талстой пакінуў нам, як пісьменнік, вялікую мастацкую спадчыну і шмат мастацкіх «дакументаў», якія моцна білі па капіталістычным ладзе жыцця. Яго творы адыгрывалі вялікую ролю ў справе змагання з царызмам. Але ў той жа самы час Талстой нічога не зразумеў у тых спосабах змагання супроць капіталізму, якімі карысталіся і карыстаюцца рабочыя і рэвалюцыйнае сялянства. Усе крытыкі-марксісты згаджаюцца, што Талстой, будучы панам (графам), не мог ніяк пазбавіцца ад пачаткаў светапогляду свайго класа.

Талстой быў панам. Але тым панам, які бачыў грахі панства, разумеў усю няпраўду жыцця, што аснована на панаванні адных і пакутнай працы другіх. І вось, у вялікіх мастацкіх творах Талстога гаворыць сумленне, які ўбачыў сябе ў роскашы, створанай на беднасці працоўнага люду. У творах яго мы бачым «пакуты гэтага сумлення».

Талстой не бачыў ролі горада ў развіцці культуры чалавечага жыцця, ён адмаўляў гэтую ролю. Гарадская культура для яго была чужою. Ён не прыняў пад увагу тую ролю, якую павінен быў адыграць горад у лёсе чалавецтва. Пан, які пакаяўся, Талстой быў сынам земляробскае вёскі, а горад лічыў дармаедам, які сядзіць на карку сялянства. І вядома — Талстой, дзякуючы свайму сацыяльнаму паходжанню, спатыкаўся ў горадзе з гарадскім панствам і не заўважаў рабочых. Талстой падышоў блізка да сялянства. Гэта было бліжэй да яго, бо ўсё сваё жыццё ён непасрэдна бачыў, як абшарнікі жылі ў маёнтках, побач з галоднымі сялянамі ў вёсках.

І якім жа чынам Талстой думаў палепшыць жыццё людзей на зямлі? Ён вучыў, што кожнаму чалавеку трэба палепшыць самога сябе, «нравственно усовершенствоваться», кожнаму быць добрым і дапамагаць усім. І ён адмаў-

ляў рэвалюцыйнае змаганне, гэтакае, як яго разумелі мы. А фактычна гэта была новая рэлігія, якую Талстой ствараў, безупынна пратэстуючы супроць дзяржаўнай царквы, усімі сіламі змагаючыся з ёю. «Непротивление злу» — вось асноўная думка пропаведзі Талстога-філосафа. Гэта значыць — не працівіцца дрэннаму, усе крыўды прымай з ціхаю пакораю, і ўсё дрэннае патроху згіне на свеце. Жыццё само, практыка рэвалюцыі — адвергла гэтую пропаведзь.

Чаму ж мы так урачыста адзначаем стагоддзе з дня нараджэння Талстога? Мы шануем Талстога, бо ён найвялікшы пісьменнік, які сваімі творамі прымушаў дрыжаць царскі лад. Выкрываючы няпраўды жыцця пры капіталізме, бязлітасна крытыкуючы буржуазію, ён, такім чынам, з'яўляецца нашым саюзнікам. Ён памыляўся, вырашаючы пытанне арганізацыі радаснага чалавечага жыцця, але ён безупынна шукаў праўды, ён імкнуўся да яе.

Мастацкія творы Талстога — вялікая культурная спадчына, якую мы цэнім і прымаем. Калі царкоўнае кіраўніцтва б. царскае Расіі (свяцейшы сінод) адлучыла Талстога ад царквы, Ленін пісаў: «Святы сінод адлучыў Л. Талстога ад царквы. Тым лепш. Гэта залічыцца яму ў час народнае расправы з чыноўнікамі ў расах, з жандарамі ў імя Хрыста, з цёмнымі катамі, якія падтрымлівалі яўрэйскія пагромы і іншыя ўчынкі чарнасоценнай царскае шайкі». Ленін даў найлепшую ацэнку Талстога, калі гаварыў аб процілегласцях у творчасці Талстога, аб тым, што ён ненавідзеў буржуазію і царызм, а з другога боку быў панам, які гаварыў — я гадкі, але я палепшваю сябе, я не ем мяса, бо забіваць нават жывёлу грэх — і прапаведваў не працівіцца злу.

Гэта быў найвялікшы мастак. Як прапаведніка мы яго не прымаем, але яго мастацкія творы, як кажа Ленін, заўсёды будуць цаніцца масамі, заўсёды будуць чытацца. Асабліва тады, калі працоўныя масы сваім змаганнем і будаўніцтвам створаць сабе чалавечыя ўмовы жыцця.

Леў Талстой — пісьменнік усясветны, яго мастацкія вобразы перавысілі нацыянальнае, расійскае. І таму Талстой быў адным з тых «великих писателей земли русской», якія ўзводзілі расійскі народ да агульначалавечай культуры, укладаючы ў яе сваё нацыянальнае багацце.

На творах Талстога вучацца і будуць вучыцца пісьменнікі, як пісаць, бо гэта найвялікшае літаратурнае мастацтва.

# ДЗЕСЯЦЬ ГОД

Дзесяць год жыве і развіваецца БССР — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. За гэтыя дзесяць год беларуская культура, культура беларускіх рабочых і сялян, прайшла слаўны і вялікі шлях свайго развіцця. Беларусь — тая краіна, якая была доўгія вякі ў няволі, у якой нават забаранялі ўжываць беларускую мову, гэтая краіна цяпер стварыла сваю Акадэмію навук — гэты найвышэйшы кіраўнічы і творчы цэнтр культуры.

Шпаркімі крокамі ідзе развіццё гаспадаркі, навукі, літаратуры. Усе нацыянальнасці, як роўныя браты, сярод якіх няма ні лепшых, ні горшых, развіваюць, твораць кожны сваю культуру — нацыянальную ў форме і пралетарскую ў змесце. Беларусь — родная сястра іншых савецкіх рэспублік, раўнапраўны член моцнае, магутнае сям'і Саюза Савецкіх рэспублік! Гэта спраўдзіліся словы Янкі Купалы, што Беларусь ідзе, каб «людзьмі звацца». Бо да Кастрычніцкае перамогі працоўных Беларусь была бяспраўнаю, прыціснутаю з аднаго боку расійскім царскім самаўладствам, расійскім чыноўніцтвам, якое здзекавалася над беларускаю моваю, старалася зрусіфікаваць Беларусь, знішчыць, задушыць беларускую культуру. Гэта Беларусь была пад нацыянальнай няволяй. З другога боку — тут панавала няволя сацыяльная. Гэта паны ўладалі зямлёю, а фабрыканты прадпрыемствамі. А працоўны чалавек быў у іх наймітам; мужык быў бяспраўным парабкам у пана.

Заходняя Беларусь і цяпер гэтак жыве. І цяпер там нашы браты працуюць на пана, на асадніка, якія трымаюць пад сабою ўсю зямлю. Польская панская навала там душыць беларускую культуру. Мы ведаем, што там нават паліцыя разагнала Таварыства беларускае школы. Замест школ там паны будуюць турмы.

За дзесяць год савецкага будаўніцтва беларускае культуры мы маем гэтакія дасягненні, пра якія не маглі нават і думаць тыя беларускія працаўнікі, якія ў часы царскае ўлады, перамагаючы страшэнныя цяжкасці, вялі культурную беларускую працу. І Беларуская Акадэмія навук,

і Беларуская сельскагаспадарчая Акадэмія, і Беларускі універсітэт — усё гэта нашы дасягненні за гэтыя гады. Таксама — развіццё тэхнікумаў, іншых вышэйшых, сярэдніх і ніжэйшых школ! Развіццё гаспадаркі, Асінаўская электрычная станцыя, палепшанне і абнаўленне форм сельскае гаспадаркі — усё гэта паказвае на наш вялікі і паспяховы размах у будаўніцтве.

Перамагаючы ўсе цяжкасці, бадзёрыя і моцныя, мы ўваходзім у другое дзесяцігоддзе БССР.

# ПРАЦУ ПІСЬМЕННІКА ПАВІННЫ ЛІЧЫЦЬ ПРАЦАЮ, А НЕ ЗАБАЎКАЮ

У сваім артыкуле «Умовы працы нашых пісьменнікаў» («Звязда», № 265 (3072) Змітрок Бядуля закрануў надзвычайна актуальнае пытанне нашага літаратурнага жыцця. Калі хто думае, што гэтая справа павінна цікавіць толькі літаратараў, дык той вельмі памыляецца. Гэтая справа павінна цікавіць усю нашу грамадскасць.

Літаратура — гэта адна з найгалоўнейшых галін нашае культуры. І стварэнне літаратуры — гэта не ёсць забаўка чалавека, якога завуць пісьменнікам. Стварэнне літаратуры — гэта ёсць найадказнейшая вытворчасць. Працэс літаратурнае творчасці адбываецца і павінен адбывацца не тады толькі, калі пісьменнік садзіцца за стол з пяром у руках. Творчы працэс ідзе ў істоце пісьменніка несупынна і ў часе пісання набывае толькі больш выразныя і інтэнсіўныя формы.

Гэта я прыгадаў не для таго, каб уводзіць каго-небудзь у псіхалогію літаратурнае творчасці, а для таго, каб не згадзіцца з тымі, хто на пісьменніцкую працу глядзіць, як на справу лёгкую. А гэткія погляды вельмі пашыраны. Пісьменніцкая праца — гэта не значыць «сеў і напісаў». Пісьменнік павінен (апроч усяго іншага, дзякуючы чаму ён творыць) уладаць яшчэ багатым фактычным матэрыялам жыцця, мець шырокую эрудыцыю, стаяць прынамсі на культурным узроўні свайго часу. Ён заўсёды павінен убіраць у сябе навакольную практыку жыцця і ператвараць яе ў выразныя каштоўнасці літаратурнае культуры. Ён павінен быць на чале культуры.

А дзеля ўсяго гэтага што трэба? Перш за ўсё патрэбна несупынная вялікая праца. *І гэтая праца павінна быць яго асноўнай працай, а не пабочнаю, другараднаю.* Што б мы сказалі, каб рабочы, напрыклад, з папяровае фабрыкі, хадзіў на гэтую фабрыку тады толькі, калі яму выдарыцца вольная часіна ад іншае працы, з якое ён хлеб есць? Што гэта была б тады за папяровая прамысловасць! Вядома, што мы б тады таго рабочага не называлі рабочым з папяровае прамысловасці і наконт гэтае прамысловасці не мелі б права выступаць перад ім з якімі б там ні было патрабаваннямі.

А да пісьменніка мы падыходзім з самымі жорсткімі патрабаваннямі. Мы вымагаем ад яго таго, чаго ён не можа даць, бо ён больш працаўнік якое-небудзь савецкае ўстановы, чым пісьменнік. Нельга вымагаць ад чалавека літаратурнае прадукцыі, калі літаратураю ён займаецца ўночы, тады, калі добрыя людзі адпачываюць, а ён, змораны дзённаю працаю, гэтага адпачынку не мае.

Беларускія тэатры не маюць беларускага рэпертуару. Чаму? Бо над драмай трэба працаваць у сярэднім не менш як год і працаваць толькі над драмай, не адрываючыся ад яе. Гэтакіх жа ўмоў нашы пісьменнікі не маюць. Але ніхто гэтага не хоча разумець.

Усе вымаганні ад пісьменніка ў нас нагадваюць справу з тым гаспадаром, які пабудаваў вельмі добрае гумно, а збожжа на полі забыўся пасеяць. Дык увосень гумно, вядома, было пустым, бо колькі ён мог сабраць у гумно таго, што вырасла каля дарог з выпадкова занесеных ветрам зярнят?

У нас няма літаратуры як вытворчасці, як пэўнае справы. У нас ёсць літаратурнае аматарства, якім літаратары займаюцца між іншым.

Што ж можна сказаць выразна?

Перш за ўсё выдавецтва павінна змяніць свае адносіны да пісьменніка і да яго працы. Каб пісьменнік адчуваў сябе ў выдавецтве чалавекам! Выдавецтва і дагэтуль лічыць, што робіць пісьменніку ласку, друкуючы яго кнігу.

Выдавецтва павінна ўважлівей адносіцца да беларускае літаратуры. З'яўленне арыгінальнага беларускага рамана, напрыклад, у нашых умовах буйная літаратурная з'ява. А тым часам бывае, што рукапіс гэткага рамана валяецца ў выдавецтве цэлы год «пад сукном», таму што ні з кім у выдавецтве аўтар не мае намеру быць у блізкай дружбе. Вядома, што пры гэтакай пастаноўцы справы беларуская літаратура будзе забытаю.

Павялічыць ганарар літаратарам і акуратна выплачваць яго.

Нашы заканадаўчыя органы павінны распрацаваць і зацвердзіць адмысловыя законы, якія далі б падставу Камісарыяту працы абараняць працу пісьменніка. Умовы працы пісьменнікаў можна дакладна вывучыць хоць бы шляхам анкет. Павінна быць разгледжана, між іншым, такая справа, як перадрук літаратурных твораў. Бо вельмі

часта які-небудзь чалавек (які бывае нават ніякіх адносін да літаратуры не мае) падручаецца скласці які-небудзь дэкламатар ці чытанку. Дык ён бярэ ножніцы, за адзін або два вечары навырэзвае з кніг і газет чужых твораў і нясе ў выдавецтва. І тады пішуць, што гэтая кніга выйшла пад рэдакцыяй вось гэтага. Або «склаў кнігу вось гэты». Зрабіўшы гэткім чынам кнігу, ён бярэ ганарар, як за сваю ўласную кнігу.

Народны Камісарыят асветы павінен клапаціцца аб стварэнні для пісьменніка ўмоў, якія б далі магчымасць яму сапраўды тварыць літаратуру. Усю вострасць гэтага пытання мы найвыразней адчуваем, напрыклад, у галіне беларускае драматургіі.

Гэтыя ўмовы можна стварыць хоць бы персанальным падыходам да кожнага пісьменніка. І трэба браць пад увагу толькі вартасць працы (з боку мастацтва і ідэалагічнага) і здольнасць пісьменніка, а не якія-небудзь іншыя яго якасці!

Галоўмастацтва не павінна збываць з рук усялякім камісіям справу з літаратурным домам, а павінна само зараз жа брацца за гэта.

## ЗАЎВАГА ДА ПЕРАКЛАДАЎ МАСТАЦКАЕ ЛІТАРАТУРЫ

Наша Дзяржаўнае выдавецтва распачало цяпер выданне перакладных на беларускую мову кніг. Гэтая добрая справа ў нас ёсць справаю новаю; у нас няма яшчэ практыкі, што да перакладаў, пэўных навыкаў у гэтай маруднай і цяжкай працы. Больш за ўсё перакладаецца з мовы расійскае. У слоўных карэннях расійская мова, можа, бліжэй да беларускай, як да ўсялякае іншае мовы. Але гэтага нельга сказаць пра тую безліч адценняў, якая ёсць у фразах і словах кожнае мовы, якая часта вымагае нават адмысловае інтанацыі, рознае сілы і вышыні голасу дзеля аднае і тэй жа фразы і слова,— гледзячы што трэба сказаць, выказаць. Вось гэта і ёсць галоўная цяжкасць у справе перакладу. Тут ёсць некалькі думак. Адны трымаюцца «даслоўнага перакладу», гэта значыцца, перакладу слова ў слова. Вядома, асаблівасці моваў (напр., неўласцівасць беларускай мове «деепричастий», якія ёсць адна з выдатных асаблівасцей расійскае мовы) прымушаюць парушаць гэта. Але прынцып такі: «даслоўны пераклад». Другія трымаюцца тае думкі, што важна ў перакладзе не пераказванне ці пераглумачванне літаратурнай рэчы слова за словам, як у арыгінале, а важна, хоць і не дакладным парадкам словаў, але перадаць самую рэч з усімі ўласцівымі ёй адценнямі ў разуменнях, думках, сэнсе. На маю думку, гэты другі спосаб найлепшы, ён дазваляе як мае быць, з усёй паўнатою, перакласці, ці, лепш, пераглумачыць літаратурную рэч. (Вядома, тут гутарка ідзе пра рэчы літаратуры мастацкай.) Які-небудзь артыкул можа і не вымагаць ад перакладчыка вялікага досціпу, даволі ведаць толькі жывую беларускую мову, а не штучную мёртвую мову сучасных часамі беларускіх газет і некаторых часопісаў. Не «даслоўны пераклад», а «бліжэй да арыгінала» павінна быць, на маю думку, прынцыпам у перакладзе мастацкай літаратуры. І разам з гэтым, першая ўвага — сэнсу фразы, яе пачуццёвасці і адценню моўных выразаў у ёй.

Я падам колькі выразных прыкладаў, якія я мог узяць з перакладных рукапісаў і кніг. Напрыклад, у ра-

сійскім тэксце: «Через щели в заборе доглядел Володька запустение»... Было перакладзена: «Праз шчыліны ў плоце ўбачыў Валодзька спустошанне»... Як бачым, тут выйшла зусім не тое. Цэнтр цяжкасці ў гэтым сказе слова «доглядел». А гэта зусім не тое, што «ўбачыў». «Убачыць» можа кожны, хто мае вочы, а «доглядеть» не кожны можа, дзеля гэтага трэба быць вельмі дасціпным і вельмі ўсюды даходным. Значыцца, тут слова «доглядел» выконвае дзве ролі — адна (другарадная), што там было спустошанне, і другая (галоўная) — характарыстыка самога Валодзькі. Такім чынам, каб гэтыя дзве ролі слова ў гэтым сказе «доглядел» не страціліся ў перакладзе, лепш за ўсё, памойму, сказаць: «Праз шчыліны ў плоце дапаў Валодзька вокам да спустошання». (Калі не ўжыць «даглядзеў», што няўдала, бо ёсць «дагледзець жывёлу». Слова «спустошанне» не перадае «запустение», бліжэй тут будзе ўжо слова «пустка», але дзеля мэты гэтага прыкладу гэта няважна.)

Такі спосаб перакладу дазволіць захаваць і перадаць беларускаю моваю стыль расійскага пісьменніка, дазволіць беларускаму чытачу мець поўнае ўяўленне пра пісьменніка, самы перакладзены твор паставіць бліжэй да арыгінала.

Вось яшчэ адзін прыклад. Расійскі тэкст: «Он тебя слушать будет, но о твоей беде не всплакнет». Перадасць гэты сказ з усімі яго адценнямі і сэнсам, напрыклад, вось які пераклад: «Ён цябе слухаць будзе, але слязы па тваёй бядзе з вока не спусціць».

Я выбраў два цяжкія прыклады ў сэнсе далёкасці іх расійскага тэксту ад даслоўнага беларускага, у сэнсе вялікае цяжкасці пераказаць тое самае ў іх расійскім тэксце тэкстам беларускім. Вядома, што такі пераказ не можа парушыць прынцыпу некаторае «даслоўнасці», якая заўсёды ёсць, можа і павінна быць у перакладах расійскага на беларускае. Але гэтая «даслоўнасць», разумеецца, умоўна і не павінна яна быць непарушным прынцыпам.

Такі спосаб перакладу шмат зробіць палёгкі і ў такой цяжкай справе, як пераклад на беларускую мову расійскага тэксту, што пабудаваны, напрыклад, на «деепричастиях», якія неўласцівыя беларускай мове.

Мне давялося азнаёміцца з перакладам на беларускую мову кнігі апавяданняў расійскай пісьменніцы Ларысы Рэйснер. Стыль кніг гэтае пісьменніцы цалкам пабудаваны на «причастиях» и «деепричастиях»; доўгія ад гэтага

перыяды, вельмі шмат напізаных адзін на аднаго сказаў. У арыгінале стыль гэты прыгожы, хоць і не лёгкі. Але ў беларускім тэксце зусім іншае. Перакладаў гэтую кнігу, як відаць, хтосьці, хто ведае беларускую жывую мову. Перакладзена гэтая кніга добра. Аўтару часта даводзілася карыстацца метадам, пра які я кагадзе гаварыў. Але ўсё ж у перакладзе кніга шмат страціць, бо ўсё ж даводзілася перакладчыку пільнавацца «даслоўнасці». А пры гэтакім цяжкім стылі даслоўнасці не лішне шмат патрэбна. Гэта не тое, што патрэбен быццам «вольны пераклад». Але бліжэй да арыгінала не пільнавацца даслоўнасці там, дзе яна не можа перадаць «душы» і сэнсу фразы, поўная ўвага адценням і ролі кожнае фразы — вось, па-мойму, што важна ў перакладзе. А адсюль — які лепш тэрмін — «перакласці» ці «ператлумачыць»?

Буду рад, калі таварышы, што маюць практыку ў гэтай галіне, дапоўняць мае думкі або пакажуць на лепшыя спосабы гэтае працы.

# ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫЯ НАТАТКІ

Нішто не бывае гэтакім прыкрым у літаратурным творы, ва ўсякім друкаваным слове, як фальш, непісьменная сухая штучнасць. Неахайнасць таго майстра, з рук якога выходзіць гэтакае дабро, яшчэ больш павялічвае гэтую прыкрасць. Часам жа гэта мінае межы адной толькі прыкрасці і набывае характар страшнейшы.

* * *

Уявім сабе, што мы на жаночым сходзе чуем, як старшыня сходу называе дэлегатак, напрыклад, гэтак: «мадэмуазелі дэлегаткі» або «таварыш мадам Агата». Мы, вядома, крывімся, мы адразу неўпадабалі гэтае «няпраўды». Таксама не лішне нам прыйдзецца даспадобы, калі мы пачуем вось гэтакі вінегрэт: да расійскага «Иван Иваныч» або «Фома Феофилактыч» які-небудзь мудрагель далучае беларускае шляхечае — «ягомасць», «вашаць», «васпане». Мы чуем: «васпане Фома Феофилактыч», «вашаць Иван Иваныч». Вядома, калі гэта сказана дзеля жарту, жартам можа і сысці. Калі ж мы гэтакую штуку ўбачым у друку, ды яшчэ ў літаратурным творы, і калі гэта не жартам ужыта, а як некаторая адзнака аўтаравае літаратурнае культуры, дык мы скрывімся яшчэ можа больш, як на тым жаночым сходзе. На сходзе — момантнае ўражанне. Скончыўся сход — і ўражанне можа згладзіцца, а ў кнізе — гэта застаецца надоўга. А яшчэ калі гэтакі твор раіцца да чытання як дасягненне, дык тут ужо і «меншыя» аўтары гатовы вучыцца гэтакай самай літаратурнай «пісьменнасці».

Я гэтым хачу сказаць пра непатрэбнасць і нават шкоднасць гэтакае надуманасці, штучнасці. Калі, напрыклад, які-небудзь малады аўтар, імкнучыся вывесці ў сваім творы беларускага шляхціца-кулака, назаве яго Янкам Трамбіцкім, дык адно ўжо гэтае прозвішча спрыяе ўяўленню гэтага чалавека. Калі ж ні з сяго ні з таго дадаецца яшчэ «Кляменцевіч» — «Янка Кляменцевіч Трамбіцкі», дык адразу траціцца ўяўленне Трамбіцкага. Вашаць Янка

Кляменцевіч! Адно лішняе слова! Тут аўтар што робіць? Ён стараецца як бы беларусізаваць «Иван Клементьевич» у дачыненні да свайго героя. А гэта якраз і псуе вобраз самога героя. Навошта гэта? Якія літаратурныя спосабы знаходзіць тут аўтар? Вядома, малады аўтар робіць гэта несвядома, і рэдакцыя павінна дапамагаць свайму аўтару набываць мастацкую пісьменнасць.

Я думаю, што гэтакія рэчы трэба цяпер разглядаць і ў справе культуры нашае мовы, беручы на ўвагу сённяшні стан развіцця нашае літаратурнае мовы.

Але ўсё ж гэтакая з'ява належыць да некаторых, калі льга так сказаць, літаратурных тонкасцей. Справа яшчэ горшая, калі мы бачым *моўную* непісьменнасць, калі часта трэба пільна ўчытвацца ў газету ці кнігу, доўга думаць, каб дадумацца — што ж тут трэба разумець.

* * *

У нашых установах, вельмі часта з газет, часопісаў, з радыёстанцыі — мы чуем не заўсёды чыстую, прыгожую мову, а часта нейкі жаргон. Канцыляры гавораць «адноснна прыспешання вытварэння выканання», газеты паведамляюць пра «адбіццё адпаведных настрояў». Адміністратары пішуць, напрыклад, пра выстаўку гэтак: «Нягледзячы на пастанову, з дачай поўнага тэрміну Галоўвыстаўкому, дырэкцыі, калегіі РСІ і другую пастанову ўрада, ад ВСНГ да сённяшняга дню плану ўдзелу прамысловасці як рэспубліканскай, мясцовай і саматужнай, а раўна патрэбнай плошчы, разбіўкі гэтай плошчы па акругам і неабходнага на гэту справу каштарысу, дырэкцыя яшчэ не атрымала, адсюль не дана ніякіх паказанняў акругам, што безумоўна дрэнна адаб'ецца ў далейшай працы...» (Гэта пісалася для сялянства!) Шыльды паведамляюць, што там вось «лясной склад», а «там вытвараецца пабудова». А радыёстанцыя часта пускае ў свет вось гэтакую моўную прыгажосць: «...для цэлага шэрагу галін прамысловасці, паскольку маючаяся тут быць пастаўлена пытанне не пастаўлена, пастолькі яно патрабуе пастаноўкі і правідловага вырашэння ў мэтах палепшання...»

Не астаюцца ад гэтага і некаторыя аўтары літаратурных твораў, у якіх «яна палегчана ўздыхнула», «ён доўга настойваў на сваім...» («она кастрированно вздохнула», «конь доўга пастойваў гной»).

* * *

А можа, ужо гэта і не такі вялікі страх? Можа, проста абвясціць гэта беларускаю моваю і даць гэтакай мове волю развівацца далей? Можа, выдаць гэта за беларускую літаратурную мову, і калі, скажам, сялянства не разумее яе, дык падвесці тут тэорыю адсталасці і непісьменнасці і «цягнуць цёмную масу да культуры» — да гэтага жаргону? Можа, так і заявіць: сялянства не дарасло яшчэ да літаратурнае мовы!

Я думаю, што гэта было б проста шкодніцтва. Каб не сказалі, што я кідаю словы на вецер, я падам прыклад жаргоннага «казусу». У нас да газетнай і кніжнай мовы прышчапілася слова «адбіць». Не ў праўдзівым яго сэнсе — «адбіць сук ад дрэва», а ў сэнсе «ўбачыць свой твар у люстэрку» («отразить», «адлюстраваць»). І часта тут бываюць страшэнныя няяснасці. Вось раз у газеце пісалася пра нашага класавага ворага: «У яго класавых інтарэсах мабілізацыя і згуртаванне кулакоў, нэпманаў і буржуазных інтэлігентаў супраць пралетарскай дыктатуры, бо ў яго інтарэсах выкарыстоўванне для гэтай справы і паасобных «камуністаў», якія *адбіваюць* націск класавага ворага». Тут толькі праз здогадку льга дайсці сэнсу. Выходзіць так: наш класавы вораг — нэпман, кулак — на нас націскае, нявытрыманыя «камуністы» адбіваюць гэты націск, ідуць, значыцца, на класавага ворага ў контратаку. Ну, дык чаго ж хацець? Вельмі ж добра! І якім чынам класавы вораг іх выкарыстоўвае для сябе, калі яны яго б'юць, яго націск адбіваюць контрнаціскам? Адно штучнае слова, слова ў неўласцівым яму ўжытку, робіць тое, што на вёсцы, напрыклад, людзі, якія не звыклі да гэтакае мовы, будуць толькі плячыма пацепаць, не ведаючы, завошта ж ганьбіць тых людзей, якія адбіваюць націск класавага ворага?

Моўная непісьменнасць не выкараняецца як належыць. І нікому з працаўнікоў тых грамадскіх трыбун, з якіх мы кожны дзень чуем гэтакае слова, гэта не абыходзіць. Часамі рэдакцыі нашых газет і часопісаў, работнікі тэатраў, школ, ВУЗаў, радыёстанцыя больш як з абыякавасцю глядзяць на гэтую найважнейшую дзялянку нашае культуры. Адзін з рэдакцыйных газетных кіраўнікоў раз быў сказаў з ганарыстаю кплівасцю: «Мы не пісьменнікі, каб добра ведаць мову». І вось гэткае дачыненне да мовы па-

нуе шмат дзе. Фельетаніст «Савецкай Беларусі» друкуе фельетон «Будзем моцна біць» («Савецкая Беларусь», № 252). Гэта значыцца біць тых, хто праціўіцца беларусізацыі. І гэты ж самы фельетаніст у сваім фельетоне (так мо шэсцьдзесят, не больш, газетных радкоў) вось што панапісваў: «спрабуючай», «выкрыта ва ўсёй непрыгляднасці», «гэта не столь важна» (зразумеўшы гэта ў беларускай мове і пераклаўшы на расійскую — будзе: «это не потолок важен»), «выхад з утварыўшагася становішча», «выхавацель»... Гэта проста безадказнасць! Заклікаючы біць праціўнікаў беларусізацыі, чалавек не пастараўся нават уразумець палітыку партыі — што ж такое беларусізацыя: вывучэнне беларускай мовы ці абеларушванне тае расійскае ці якое іншае мовы, якою гаворыць той, каму трэба беларусізавацца? Вядома, калі «Чырвоная змена» піша, што «наспела неабходнасць... адбіцця дзейнасці і псіхалогіі авангарда рэвалюцыі пралетарыяту»... дык усё гэта вельмі няясна. Не ўсе зразумеюць гэтак, як хоча рэдакцыя. Чалавек, які не прайшоў яшчэ школы штучнае мовы, адразу здзівіцца — чаму гэта наспела патрэба адбіць ад пралетарыята дзейнасць і псіхалогію?

Трэба, каб журналісты вывучылі хоць, нарэшце, як мае быць беларускую мову.

Трэба: 1) пераглядзець жаргонныя словы, тэрміны, звароты, сказы і 2) навучыць непісьменных працаўнікоў мове, а не зніжаць мову да іхняга невуцтва. Пісьменнасць моўная трэба каб вымагалася ад журналіста гэтак, як вымагаецца пісьменнасць палітычная. Праз газету ідзе палітыка ў масы, і часта з прычыны няўдалага ці непісьменнага слова яна даходзіць да мас вывернутаю на левы бок.

Тут галоўная бяда ад кансерватызма саміх работнікаў слова. Ці шмат вы знойдзеце ў рэдакцыях нашых усіх газет і нават у некаторых часопісах (літаратурных!) людзей, якія ведаюць ці вывучаюць беларускую жывую мову? Іх вельмі мала. І, вядома, гэтыя людзі фізічна не могуць нічога тут зрабіць.

Трэба яшчэ сказаць і пра моўную канцылярщчыну. Газеты і шмат кніг пішуцца гэтакаю моваю, якою пішуцца і канцылярскія паперы і ўсялякія пратаколы. Або радыёстанцыя! Заўсёды толькі і чуеш усялякія «прыспешанні выканання, палегчання...»

Сапраўды, новае збожжа зместу ў старых, дзіравых мяхах!

Ёсць на свеце дужа дынамічная істота — смоўж. Яго дынаміка выславілася тым, што ён, калі пастараецца, дык за дзень можа прапаўзці нават з чвэртку метра. Вось гэтакая дынамічная рухавасць часта ў нас у тых людзей, што клапоцяцца, ці трэба каб клапаціліся, пра культуру беларускае мовы.

Мы змагаемся за рацыяналізацыю ў прамысловасці. Сельскую гаспадарку, праз калектывізацыю, робім буйною. Сохі і драўляныя бароны пайшлі ў архіў, трактар робіцца і неўзабаве будзе самаю звычайнаю сельскагаспадарчаю машынаю. А вось пішам мы — першабытным спосабам.

Мы выпісваем з-за мяжы цудоўныя ратацыйныя машыны для друкавання нашых газет, часопісаў, кніг.

У газетах нашых глыбокі змест. Мы пішам пра вялікія рэвалюцыі быту, гаспадаркі, пра змену эпох у чалавечай гісторыі, пра найвялікшае будаўніцтва, пра нашы дасягненні тут. Мы крытыкуем усялякую рэакцыйнасць, тупую закаранеласць думкі, усялякі бюракратызм. І ўсё гэта ў нашых газетах часамі падаецца гэтакаю моваю, якая не варта таго, пра што яна гаворыць.

Я ўжо не гавару, напрыклад, пра прымітыўнае альфабэтнае напісанне гукаў «дз» і «дж»!

Гэтая дзялянка нашае культуры далёка засталася ад усіх іншых дзялянак нашага будаўніцтва.

Замест конкі пайшоў трамвай па Мінску, а тут смоўж сабе ціхенька паўзе і паўзе.

Гэта ёсць адарванасць моўнае культуры ад жыцця. Цудоўная друкарская машына, апошняе дасягненне тэхнікі, друкуе тэкст, складзены з нейкага жаргону, у якім нават не заўсёды сэнсу дойдзеш! Вось дык сапраўды ганьба. Новае збожжа нельга ссыпаць у дзіравыя мяхі.

* * *

Трэба колькі слоў сказаць пра артыкул праф. Бузука ў «Маладняку». Тут выйшла нейкае непаразуменне. Рэдакцыя «Маладняка», надрукаваўшы гэты артыкул, сама сябе высцебала. Вось хоць бы тое, што прафесар Бузук гаворыць пра патрэбу ў беларускай мове «дзеяслоўных прыметнікаў»... Артыкул надрукаваны, а ў той жа час

самі белапаўцы пачалі ўсё больш і больш выкідаць з сваіх твораў гэтыя формы.

Прафесар Бузук у гэтым сваім артыкуле навучае нас не клапаціцца пра культуру мовы, бо мы ў мове «саматужнікі» і «невукі». Не перашкаджаць, значыцца, займацца сабе патроху культураю мовы прафесару Бузуку, так як ён не перашкаджае інжынеру будаваць масты або доктару лячыць хворых. Вядома, што доктара не можна вучыць, як лячыць хворага. Але калі ў хворага баляць зубы, а доктар пачне лячыць гэтую хваробіну рыцынаю, дык тады і не доктар можа сказаць: выпі, лепш, шаноўны, гэтую рыцыну сам. Мы, пісьменнікі, заўсёды маем гэтакую ліхую натуру, што мова для нас — матэрыял для нашых твораў. І калі прафесар Бузук на 113 балоне, у 17 радку зверху ў тым жа самым артыкуле гаворыць: «...як бы не *бароліся* супраць іх украінскія некаторыя пурысты»... дык мы, «саматужнікі», усё ж маем права сказаць прафесару Бузуку, хоць ён і не «саматужнік», *боруцца*, прафесар Бузук, каровы на выгане, а пурысты з няўгоднымі ім плынямі *змагаюцца.* А што да навуковасці, дык хіба ж можна вызнаваць за навуковасць такі метад прафесара Бузука: дзеяслоўныя прыметнікі павінны ўкараніцца ў беларускую мову, таму што ва ўкраінскай мове іх ужываюць украінскія пісьменнікі? Няўжо гэта навуковы довад, што ў беларускай мове трэба рабіць тое самае? А я вось са сваёй мовы выкараняю гэтакія формы і магу без іх выказаць беларускаю моваю, што хачу.

Адна справа заганяць сваю думку ў глыб вякоў, у гісторыю моваў, ведаць, адкуль і як мова ўтварылася, і другая справа сённяшняя — культура мовы і жаргон, які шкодзіць гэтай культуры і пра змаганне з якім прафесар Бузук не напісаў, аднак, ні слова.

За крытыку трэба дзякаваць кожнаму, калі толькі гэтая крытыка імкнецца дапамагчы справе. Але калі гэтая крытыка ёсць своеасаблівае «мастацтва дзеля мастацтва», дык за яе дзякаваць няма чаго. Я ведаю аднаго чалавека, якога ўсе маюць за вучонага мовазнаўцу і які, перакладаючы нейкую кнігу, медычны выраз, што па-расійску будзе «в области пупка» пераклаў «у краіне пупка». І колькі б дыпломаў аб сваёй вучонасці гэтакі чалавек ні паказаў, усё ж ад яго трэба ратаваць моўную культуру.

Вось што добра сказаў прафесар Бузук, гэта тое, што пытанні культуры мовы «не так лёгка вырашаюцца, як

гэта здаецца на першы погляд». Зусім слушна. Асабліва калі замест працы над культураю мовы высмейваць тых людзей, якія змагаюцца за гэтую культуру. Калі пакепліваць з імкненняў узняць культуру мовы.

Выходзіць так: справа гэтая цяжкая, яе не лёгка рабіць, дык, значыцца, і думаць пра яе няма чаго. Няхай сабе яна павольненька, як хоча, робіцца, а калі і не робіцца, дык такое бяды. Апраўданне ёсць — «нялёгкая справа». Вось дык уцеха!

Тым, што гэта адразу не зробіш, не трэба апраўдваць тае бяздзейнасці, што яшчэ тут пануе.

# РЭАЛЬНАЯ ШМАТГРАННАСЦЬ І ФІЛАСОФСКАЕ АДЗІНСТВА[1]

...Уявім сабе кнігу мастацкае літаратуры на тэму аб пабудове электрастанцыі на тарфяным балоце. Як быццам мы маем справу з вытворчым жанрам. І гэта сапраўды так. Будзем існі ў гэтым плане. Магутнасць гэтай электрастанцыі прадбачыць вялікую лішніцу электраэнергіі ў тым выпадку, калі прадпрыемствы — спажыўцы энергіі — не пабольшацца паводле велічыні самое электрастанцыі. А калі пачаць з росту фабрыкі, дык гэты рост можа быць толькі тады, калі адначасна будзе рыхтавацца крыніца электраэнергіі. Так што адна тэма цягне за сабою другую. Тут жа вырастае і трэцяя тэма — сырэц. Уявім, што фабрыка тэкстыльная, і пашырэнне фабрыкі патрабуе павелічэння колькасці льну. Значыцца, вырасла трэцяя тэма — пра зямлю. Сам гэты план прадбачыць гэтае ўзаемадзеянне тэм, іх адзінства і раўнацэннасць — індустрыяльны гігант, гарадская прамысловасць, зямля (вёска, калектывізацыя). Мы знаходзімся ў сферы аднаго плана: перад намі адзнакі вытворчага жанра.

Паказаць толькі голае, і само па сабе, будаўніцтва індустрыяльнага гіганта — гэта значыцца яшчэ нічога не паказаць. Бо і электрастанцыя, і фабрыка, і ўсялякая машына не ёсць нейкая самамэта, рэч высокай тэхнічнай выдатнасці, што створана на тое, каб вечна захапляцца ёю і каб яна ўзвышалася над людзьмі, што яе стварылі. Машына цікавая толькі як сродак. Такім парадкам пераходзім у сферы іншых планаў таго ж самага творчага замыслу. Перад намі людзі.

Будаўніцтва электрастанцыі, або выкананне промфінплана на фабрыцы, або ўмацаванне калгаса, мы не можам паказаць без ударнікаў. А героі пяцігодкі, гэтыя энтузіясты сацыялістычнага будаўніцтва, не ёсць нейкія адмысловыя людзі, што ўзяліся немаведама адкуль. *Гэтыя людзі ёсць спадчыннікі*, якія крытычна засвойваюць вялікае напластаванне вякоў, яны не з неба зваліліся. Хто, напры-

[1] Свае «пісьменніцкія нататкі» пішу адначасна з новымі творамі і на іх матэрыяле. К. Ч.

клад, прыходзіць на пустое і дзікае балота будаваць электрастанцыю? Сярод усёй масы рабочых мы тут знойдзем таксама масу тых жа самых нядаўніх сялян. Можа, былых местачковых рамеснікаў. Калектывізуючы сваю зямлю, сяляне спрэс і да самага карэння зменьваюць самы твар зямлі і ўсё жыццё на ёй. Яны прыходзяць на будаўніцтва, развітаўшыся назаўсёды з сваёю гэтакаю зямлёю, якую яны аралі спрадвеку і якая спрадвеку ляжала страшным цяжарам на іхніх плячах.

Што пакінулі ўсе гэтыя людзі, прыйшоўшы на будаўніцтва, за сваімі плячыма? Яны прыйшлі разбураць старое і будаваць новае. А што гэта такое гэтае старое? У такой меры, як мы гаворым, што мала паказаць толькі адно голае будаўніцтва, у такой меры мы не можам мець дачынення і да старога, паказваючы яго, як якую-небудзь толькі вузкую палоску поля, пакорпанага дрэнным плугам, гнілую хату або цвілое сутарэнне рабочага. Трэба не забываць, што ўсе гэтыя бядоты, усялякая эксплуатацыя чалавека чалавекам заўсёды вельмі ўдала ўгрунтоўваліся філасофіяй эпохі, усяею ідэёваю накіраванасцю каштоўнасцей культуры, створанай нявольніцкімі вякамі культуры, калі ўзяць яе ў цэлым, без асобных яе кампанентаў, паганай. Але, можа, гэта не так? Можа, тыя «вечныя» ідэі, якія пралетарыят разбурае, ёсць чыннікі і сэнс чалавечага шчасця? Можа, напрыклад, высокія цемрашалы — кіраўнікі якіх бы там ні было рэлігійных плыней, пачынаючы ад каталіцызма і канчаючы будызмам, шчыра клапоцяцца пра шчасце людзей, прапаведваючы вечную праўдзівасць ідэі бога? Мы маем прыклады, калі царква ў некаторых праслойках нават рабочага класа — за межамі нават яшчэ і цяпер — трымае свой уплыў. Дык вось, паказваючы новых людзей, будаўнікоў новага жыцця, новай культуры, трэба паказаць і тыя працэсы, што адбываюцца ў іх і навокал іх, калі яны адпіхаюцца ад старых ідэй, ад старога свету і дзейна руйнуюць тое, што ў папярэднія вякі было як «вечнасць», вечнасць нявольніцкая і паганая. Маючы на ўвазе тут разбурэнне рэлігіі, мы такім парадкам уводзім твор у новы план: у план раскрыцця існасці рэлігіі. Твор перарастае свае вытворчыя рамкі і ўваходзіць у сферу філасофіі. Энтузіяст сацыялістычнага будаўніцтва не толькі будаўнік сацыялізма, гэтай новай культуры, якая самым фактам свайго росту знішчае старую культуру, убіраючы ў сябе ўсё, што ў ёй ёсць

каштоўнага, ён і знішчальнік усіх павеваў нявольніцкае гісторыі. Прычым ён усё гэта знішчае і ў самім сабе. Ён здымае замкі з «вечнасці». І гэтыя замкі з «вечнасці» павінна здымаць і літаратура.

Разам з тым, як змяньваецца ўсё, нават сама мясцовасць, змяньваюцца дачыненні паміж асобнымі людзьмі, змяньваюцца ў чалавеку густы і запатрабаванні. Адбываюцца змены ў побыце, перафармаванні ў сям'і. Такім парадкам твор уваходзіць у яшчэ адзін план: план сямейнабытавы.

У нас вельмі часта і паказ герояў сацыялістычнага будаўніцтва і паказ будаўніцтва і росту гігантаў сацыялістычнае прамысловасці робіцца ў мастацкіх творах ізалявана ад усіх гістарычных працэсаў, як штосьці гэтакае, што нейк раптоўна ўзнікла, без гістарычнае падрыхтаванасці. А гэта зніжае каштоўнасць твора. Калісьці і ў нас, у БССР, пачалі былі гаварыць пра гісторыю заводаў і пра гісторыю грамадзянскай вайны. Гэтую гісторыю, як і наогул гісторыю, мы павінны ведаць і заўсёды быць у яе сферы, калі пішам свае творы. Гэтага патрабуе хоць бы сабе момант выкрыцця існасці феадальнай і буржуазнай культуры, якую мы разбураем, будуючы культуру новую. Гісторыя заводаў, гэта ёсць гісторыя пралетарыята. А мы толькі тады здолеем напісаць паўнацэнныя творы, калі будзем ведаць гісторыю пралетарыята. (Таксама і гісторыю буржуазіі.) Нашы творы, значыцца, уваходзяць яшчэ ў адзін план: план гістарычны. Павевы гісторыі павінны быць у літаратуры.

Класавы вораг. Як ён змагаецца за свае ідэалы, як трымаецца за права на эксплуатацыю і як у новыя формы пераходзіць класавае змаганне. Класавае змаганне, нянавісць да класавага ворага і змаганне з ім павінна прасякнуць увесь твор пісьменніка.

Можа, вельмі ўмоўна я называю тут шматпланавасцю гэтакую распрацоўку матэрыялу, што калі, напрыклад, твор напісаны на тэму аб пабудове электрастанцыі і гэтая пабудова паказана, як героіка будаўнікоў, дык з гэтым цесна пераплецена ў творы і ёсць яго неадменны кампанент і змена мясцовасці тут, і змена псіхікі і жыцця тутэйшых людзей і таксама саміх будаўнікоў, і адміранне рэлігіі, станаўленне новай маралі, нараджэнне новых крыніц, з якіх вырастаюць новыя масы будаўнікоў-энтузіястаў. Паказ усялякіх катэгорый і разуменняў. Паказ зме-

пы самога жыцця замест ізаляванага паказу будаўніцтва. Аднак тэма аб пабудове электрастанцыі ставіць і распрацоўвае шмат праблем: дружба і варожасць, замілаванне і нянавісць...

Разам з тым, як пралетарыят чуе за сваімі плячыма змрок мінулых вякоў, ён рыхтуе ясноты вякоў наступных. Гэтай шырокай перспектыўнасці мы павінны дамагацца і ад сваіх твораў.

У святле ўсяго гэтага выразна вырысоўваецца вузкасць такіх твораў, як, напрыклад, мая «Вясна». Адной толькі тэматыкай адставанне літаратуры ад эпохі не знішчаецца. Калектывізацыя не ёсць толькі калектыўная апрацоўка зямлі і збор ураджаю. Калектывізацыя ўмешваецца і ў справы тае «вечнасці», пра якую вышэй гаварылася. Або ўспамінаецца яшчэ апавяданне (не маё) пра калгасніка Трыхона Жаролу. Гэты чалавек з чорнай мінуўшчыны прынёс у калгас з сабою сваё сапраўды хрысціянскае «смирение». Ён абураецца ўчынкам аднаго калгасніка, які сказаў, што ў калгаснай сталоўцы абед дрэнны. Як? У калгаснай сталоўцы можа быць дрэнны абед? Гэта ж «святотатство»! Новы чалавек пачнецца там, дзе скончыцца «смирение» і «славословие».

Адставанне літаратуры ад задач сацыялістычнага будаўніцтва ў тым, што наша рэчаіснасць расправілася з старою «вечнасцю», што яна пазрывала заскарузлыя дзяругі ідэй, народжаных нявольніцкімі вякамі, што яна дала тып ударніка, тып бальшавіка, тып сучаснага новага чалавека. А наша літаратура часта яшчэ ўсё на гэтага новага чалавека нацягвае назад — то дзяругі рамантызма, то мяшчанскага дабрабыту. А то гэтага шырокага і глыбокага сваім вырашэннем вялікіх задач, сваёю дзейнасцю чалавека паказвае як чалавека вельмі вузкага.

Мы павінны дамагацца, каб кожная новая кніга, што выходзіць у свет, ішла ў арсенал бальшавіцкае зброі. Літаратура накіроўвае, паказвае, вучыць. А няма лепшага настаўніка, як сама рэальнасць. І от кожны літаратурны твор павінен быць гэтакім шматгранным, як сама рэальнасць. Сіла літаратуры ў яе вялікай ідэёвасці, у зямной яе рэальнасці, у яе агні і напорнасці.

Агнём і полымем замілавання і нянавісці дыхаюць творы Віктора Гюго, на мяжы з навукай стаіць аналіз у творах Бальзака. Але не таму мы ўспамінаем гэтых класікаў, што нібы цераз іх мы раптам зразумелі патрэбнасць

нашай літаратуры агню («страстности» вобразаў і рэалізму), розуму, навукі. Наша літаратура не будзе на вышыні нашай эпохі, калі не будзе мець у сабе гэтых якасцей. І от, ідучы ад свае эпохі, ад свае літаратуры, ад сваіх задач, мы заўважаем на фоне старое культуры лепшых яе прадстаўнікоў, ні на хвіліну не забываючы таго (канкрэтна ў гэтым выпадку), што Віктор Гюго не разумеў сіл ходу гісторыі, што Бальзак ніяк не выйшаў з рамак свайго (буржуазнага) класа, які ён так высмейваў і крытыкаваў.

Шматграннасць літаратуры прадбачыць многасць спецыфічных прыёмаў, кірункаў, якія развіваюцца ў межах адзінага творчага метаду марксізма-ленінізма. І калі мы будзем спрыяць размежаванню літаратуры на гэтыя кірункі, дык мы гэтым самым будзем спрыяць росквіту нашай літаратуры...

# ПРА СВАЮ П'ЕСУ

«Бацькаўшчына» належыць да цыкла задуманых мною твораў, якія, разам узятыя, павінны даць карціну развіцця чалавечага грамадства за час ад паншчыны да бяскласавага грамадства (нараджэнне і рост капіталізму, а значыцца, і нараджэнне і рост пралетарыята і яго рэвалюцыі). Чалавечыя вобразы, праз якія аўтар развівае паказ гэтых працэсаў, належаць да тых класаў, якія дзейнічалі і дзейнічаюць за гэты час на Беларусі: рэшткі феадалаў, капіталісты, пралетарыят, сяляне і гарадская дробная буржуазія.

Галоўны ідэёвы стрыжань агульнага замыслу гэтых усіх твораў вось які: з самага пачатку чалавечае гісторыі і за ўвесь яе доўгі час устанавілася абсалютная праўда гэтае гісторыі: «чалавек чалавеку воўк». Гэта ёсць існасць філасофіі ўсіх класаў, якія калі-небудзь існавалі да пралетарыята.

Пралетарыят жа, як клас, не толькі прыйшоў на змену папярэдняму класу, а, прыйшоўшы на гістарычную дзейнасць, ён кладзе канец крываваму падзелу чалавецтва на класы, а значыцца, і назаўсёды знішчае старую, як свет, мудрасць: «чалавек чалавеку воўк». Да гэтага пралетарыят ідзе праз сваю рэвалюцыю. Цыкл гэтых твораў будзе ісці не толькі па лініі храналогіі, а адначасна і па лініі ідэёвых катэгорый (носьбітамі і творцамі якіх ёсць чалавечыя вобразы): *бацькаўшчына, уласнасць, закон, сваяцтва і г. д.*

Матэрыял на гэтыя творы ёсць матэрыял той, які не толькі аўтар можа лепш ведаць, а і адчуваць у вобразах: матэрыял беларускі. Такім парадкам найлепш будзе здзейснена паўнакроўнасць твора: *інтэрнацыянальны змест,* пададзены праз нацыянальную форму. Напрыклад, Сурвіла ў «Бацькаўшчыне» ёсць увасабленне ідэі кулацтва, агульнае ўсім нацыям. Разам жа з тым гэта вобраз беларускага кулака.

Чаму аўтар імкнуўся даць у «Бацькаўшчыне» цэлы комплекс вобразаў і з'яў, тлумачачы ідэю бацькаўшчыны? Чаму тут узята рэлігія (у тых формах, у якіх развівалася

хрысціянства на Беларусі: праваслаўе і каталіцызм), рост кулацтва, абядненне асноўнай масы сялянства, рэвалюцыйнае падполле, вайна і г. д.? Толькі гэтакі комплекс гістарычных з'яў мог стварыць супярэчнасці ў Леапольда Гушкі, сабраўшыся ў ім, як у фокусе, і павесці яго далей да бальшавізма.

Аўтар лічыць за правільны метад даваць вытокі творчаму вобразу з гістарычнай рэальнасці і толькі на гэтай рэальнасці развіваць рэальную філасофію. Тады і сацыялістычныя ідэі будуць па-мастацку рэалізавацца ў нацыянальных формах натуральна, а не штучна. Гэта ёсць адзнака сацыялістычнага рэалізму.

П'еса «Бацькаўшчына», як драматургічнае цэлае, яшчэ *не ёсць зусім закончаны твор.* Перад аўтарам яшчэ вялікая работа ў кірунку сшрубоўвання інтрыгі так, каб з твора нельга было ні выкінуць самае найменшае сітуацыі, фразы і слова, ні каб нельга было нічога гэтага дадаць. Яшчэ засталася работа над узмацненнем вобраза Марылькі, Адася Гушкі, над тым, каб у сэнсе інтрыгі давесці да канца вобраз Эдварда Лявэра і Данілы Раўтовіча.

Той акт, які цяпер ідзе на сцэне, як трэці акт, павінен быць паданы так, як першыя два акты: каб падзеі ў ім прайшлі праз індывідуальнае праламленне галоўных персанажаў твора, без адрыву ад іх, у маналітнасці з імі. Аўтар хоча давесці свой твор да ўзорнай закончанасці, да найбольшай злітнасці формы з ідэяй.

# ПРАМОВА НА ПЕРШЫМ ПАШЫРАНЫМ ПЛЕНУМЕ АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТА ССПБ

Таварышы, справа ідзе аб перабудове вялікай культуры. Гэта культура сацыялістычная. Вялікая яна таму, што яна не толькі прыйшла на змену культуры старой, так як скажам буржуазная культура змяніла культуру феадальную, аставіўшы ў сабе існасць сваёй папярэдніцы. Сацыялістычная культура будуецца абсалютна на процілеглых прынцыпах, чым тая культура, якую яна змяняе. Старая культура мела за свой прынцып, на якім яна трымалася, які яна абараняла,— прынцып і існасць,— адну сваю праўду — гэта эксплуатацыя чалавека чалавекам.

Новую культуру мы будуем у класавым змаганні. Ігнаруючы класавае змаганне, мы новую культуру не пабудуем. Значыцца, у такім важным моманце, у такім моманце, які прасякае ўсю нашу працу, павінна быць наша найвялікшая адказнасць. Хіба мы гэту адказнасць заўсёды адчуваем на сабе, калі мы доўгі час не рэагуем на выступленні класавага ворага на нашым фронце, не рэагуем да таго часу, пакуль нам на яго не пакажуць. Гэта гаворыць аб нашай безадказнасці. Мы дрэнна працуем на сваім фронце.

Мы, калектыўная сіла работнікаў культуры, у прыватнасці работнікаў культуры літаратурнай, толькі тады створым паўнакроўныя каштоўнасці, калі мы будзем бачыць сваім творчым зрокам усе падзеі нашай рэвалюцыі, і нават усе падзеі, якія яе падрыхтавалі, калі мы сваім зрокам будзем ісці ў самыя далёкія гісторыі.

Гэта неабходна для таго, каб тое самае тыповае, аб чым мы гаворым, даць з вялікім размахам, каб яно было сапраўды тыповым і каб яно было атулена філасофіяй.

За гэтыя гады мы надзвычайна многа зрабілі. Савецкая літаратура мае такі росквіт, што на сёння мы можам гаварыць аб тым, што нашы творы будуць жыць не адзін дзень, што нашы творы ўваходзяць у гісторыю савецкай літаратуры. Тым больш, мы стаім перад такімі перспектывамі ў сваёй блізкай будучыні.

Мы павінны мысліць у сваёй рабоце ў вялікіх маштабах, мы не павінны корпацца ў малепькім, нецікавым. Мы павінны рабіць вялікія абагульненні, і мы аб гэтым добра ведаем.

Але мы не заўсёды змагаемся за тое, каб усе гэтыя абагульненні ў літаратуры мелі свае спецыфічныя формы. Мы, напрыклад, бярэм голую формулу, скажам — «Эксплуатацыя чалавека чалавекам». У літаратуры мы павінны гэта перавесці на мову вобраза. Ужо вельмі даўно было сказана гэта вобразна: «чалавек чалавеку — воўк». Вось у такой спецыфіцы мы павінны падаваць ідэі, а не ў голым выглядзе.

Мы часта гаворым, што літаратура павінна адлюстроўваць нейкі працэс. Мне здаецца, што самы гэты тэрмін — «адлюстраваць» з'яўляецца няправільным. Гэта адразу параджае думку аб нейкім пасіўным адлюстраванні. Мы гаворым аб ідэйным творы. Што паказвае нам практыка? Часта, напрыклад, мы маем творы, дзе няма вялікае ідэі. Вось, напрыклад, на заводзе ліквідацыя прарыву. Завод ліквідуе прарыў, каб рушыць наперад гісторыю, а ў нас гэты прарыў часта паказваецца толькі для таго, каб паказаць, што ліквідуецца прарыў. Але ніякай філасофскай думкі тут няма.

Так напісана мая аповесць «Вясна». Там проста ствараецца калгас.

Яны жнуць многа жыта,— і гэта ўсё. Вось такая фактаграфія, такая адсутнасць ідэі маецца і ў нашых творах, мне хочацца гэтым упракнуць і такія творы, як «Мядзведзічы», як «Спалох на загонах», як «Напор». Мне здаецца, што бяда ў тым, што мы глядзелі на маленькія кавалкі жыцця, фактычна на эпізоды.

Ідэйнасць твора павінна ісці ад тых рэальных працэсаў, якія ёсць у жыцці.

Калі я пісаў «Бацькаўшчыну», мяне менш за ўсё цікавіла сама ідэя «Бацькаўшчыны». Я бачыў перад сабою жыццё людзей, да чаго яны ідуць і да чаго яны прыйшлі. Леапольд Гушка прыйшоў да таго, што ён сутыкнуўся з ідэяй уласнасці, ідэяй бацькаўшчыны і вось тады пачаў ад уласнасці і буржуазнае бацькаўшчыны бараніцца.

Неканкрэтнасцю грашаць часта і нашы тэарэтычныя выказванні. Мы гаворым пра рэалізм, пра рамантызм. Гаворым так, як быццам гэта дзве зусім розныя плыні, зусім супрацьлеглыя. Дрэннае ў гэтым тое, што, як мне здаецца,

пра рэалізм і пра рамантызм мы гаворым, выходзячы толькі з практыкі класічнай літаратуры, а не з практыкі нашай канкрэтнай работы.

Наша творчасць выходзіць з нашага разумення светабудовы. Вядома, мы не можам не скарыстоўваць спадчыны. Без гэтага мы не можам, нават, калі б і хацелі, пабудаваць свае культуры. Але наша тэорыя выходзіць з нашай практыкі, а не з тых узораў, якія мы маем перад сабой, з культуры класічнай.

...Мы механічна карыстаемся старой тэрміналогіяй, каб назваць новае, тое, што ідзе ад савецкай рэчаіснасці. Рамкі старой тэрміналогіі вузкія і справа не ў тым, ці гэта рамантызм, ці рэалізм, справа ў тым, які гэта рэалізм і які рамантызм.

Мы ведаем рэальны закон светабудовы, мы прымаем рэчаіснасць як факт, але наша дачыненне да рэчаіснасці такое, каб гэту рэчаіснасць перарабіць. Наш погляд на свет зусім рэальны. Мы рэалісты. А наш рамантык, хіба ён іначай адчувае свет? Гавораць пра рамантычны ўздым, а я думаю, што калі твор вельмі ўдалы, хоць бы мы яго назвалі рэалістычны, ён безумоўна павінен мець і гэтую вялікую ўзнятасць. Нам патрэбна несупыннае рэальнае вывучэнне рэчаіснасці. Мы павінны быць цвёрдымі практыкамі.

Сам матэрыял падказвае нам жанры. Маючы пэўны матэрыял, мы заўсёды будзем яго рэалізаваць у такіх формах, у якіх мы найлепш здолеем яго рэалізаваць. Адзін пісьменнік казаў: вось я прыдумаў найцікавейшую форму для апавядання, але толькі не ведаю пра што пісаць. Ён ужо на працягу двух год гэта кажа. Гэта Калюга. Гэта крызіс светапогляду.

Мы вельмі мала думаем пра асобныя дробныя кампаненты літаратуры, трэба ведаць, што мы працаўнікі літаратуры і нас аглядае ўся краіна; і адказнасць мы асабліва павінны адчуваць.

Хвалёная неканкрэтнасць крытыкі якраз у тым, што яна вельмі часта, да апошняга часу, і амаль што заўсёды, не адчувала гэтай спецыфікі літаратурнага твора.

Гавораць пра літаратурны твор, што ў ім выказваецца пэўная ідэя, а як выказваецца? Можа тая форма, праз якую ідэя рэалізуецца, апаганьвае самую ідэю? Можа гэты твор проста не мастацкі? Такой неканкрэтнасцю грашыць хоць бы даклад тав. Бэндэ пра Коласа, дзе ён кажа, што

Якуб Колас у такім-то годзе то-то выказаў. А праз якую сістэму вобразаў выказваў?

(Тав. Бэндэ: Гэты ж артыкул не надрукаваны).

Ты ж выступаў з прамовай, людзі чулі. Гэтак можна сказаць і пра любы публіцыстычны артыкул, а не мастацкі твор.

Наша крытыка часам не заўважае мовы твора, сістэмы вобразаў, стылістыкі, фразеалогіі, усе гэтыя кампаненты вельмі часта, амаль заўсёды праходзяць па-за ўвагай нашай крытыкі. Канкрэтна гаварыць пра мастацкі твор можна тады, калі разабраць усе кампаненты твора. Гэтым пытаннем трэба заняцца. Гэта павядзе да ўздыму літаратуры і крытыкі.

# ВЯЛІКАЯ І МАЛАЯ ТЭМА

*Разварот творчага замыслу*

Увечары вярнуліся з работы і сабраліся ўсе ў свайго брыгадзіра Косціка Раўтовіча, каб падзяліць мануфактуру. Мануфактуру гэтую кааперацыя адпусціла на ўсю брыгаду. Яе было гэтулькі, што ўсім прыйшлося па кавалку, і яшчэ асталася адна хустка, добрая, вялікая, з жаўтаватага паркалю і ў кветкі.

Неяк гэтак выйшла, што не прыйшлося нічога з гэтай мануфактуры адной толькі жанчыне, Марылі. Праўда, яна апошнія дзён шэсць не хадзіла разам з усімі жаць жыта, але не таму, што не хацела, а таму, што ёй даручылі варыць есці дзецям у яслях. Можна сказаць, не то што даручылі, а проста-такі ўпрасілі, бо яна доўга не хацела станавіцца на гэтую работу. Гэта трэба заўважыць, бо пра гэта цяпер увечары ў Косцікавым двары такая пачалася гарачая гаворка, што кончылася яна слязьмі і спрэчкай.

Сам розум дыктаваў даць гэтую паркалёвую хустку Марылі: ёй не прыйшлося мануфактуры, а хустка гэтая асталася. І кожны гэтак думаў, не дурныя ж людзі былі ў брыгадзе. Усё так ішлося, што адразу гэтак і зрабіць трэба было, аднак жа адразу гэтага не зрабілі.

Мануфактуру дзялілі паміж сабой, вядома, тыя, што працавалі ў брыгадзе. Праца была цяпер цяжкая. Жанкі жалі сярпамі жыта, а мужчыны дакошвалі куп'істую сенажаць. Сярпамі жалі жыта не таму, што ў калгасе не было жняяркі. Дзве жняяркі, простая і снопавязалка, жалі ў іншым палетку. А сярпамі жалі там, дзе быў засаджаны сад. Маладыя яблынькі адно самымі вяршкамі выглядалі паверх жыта. Пусціць туды жняярку значыцца зглуміць сад і жняярку сапсаваць: шчэпы былі паабгароджваны калкамі. Работа жанкам на жніве была цяжкая. Дык з-за гэтага і пайшоў гармідар.

— Што будзем рабіць з хусткаю? — падаў голас брыгадзір Косцік Раўтовіч, калі падзялілі мануфактуру.

Бачачы, што ўсе маўчаць, ён падказаў сваёй брыгадзе, куды павярнуць гэтую хустку.

— Што будзем рабіць з Марыляю? — сказаў ён. Тады

абазвалася з свайго месца маленькая жанчына Волечка, густавалосая, бялявая:

— Даць Марылі гэтую хустку.

— Даць, даць! — пачулася некалькі галасоў.

Косцік ужо ўзяў хустку з табурэта, што стаяў пасярод двара і на якім мералі мануфактуру, і хацеў ужо даць яе Марылі. Але Марылі ён перад сабой не бачыў.

— Марыля,— сказаў ён,— бяры хустку.

Марыля не падышла і не ўзяла хусткі.

— Марылі няма,— сказаў хтосьці.

— А дзе ж яна?

— Яна з самага пачатку, як толькі пачалі дзяліць, пайшла дадому — там яна адно дзіця пакінула. Яна мне сказала, каб я ўзяла яе частку і занесла ёй. Давайце сюды хустку.

Гэта сказала Волечка, і ўсе глянулі на яе.

— А-а, якраз і няма яе,— сказаў Косцік, рушыўшы да Волечкі, каб перадаць ёй хустку.

— Узяла б дзіця на рукі і прыйшла б сама,— пачуўся раптам бурклівы голас.

Гэта сказаў стары Уладзя Гельскі. Ён заўсёды пра ўсё гаварыў гэткім тонам, ці рад чым, ці не рад, тон яго заўсёды аднолькавы, бурклівы. Раз, напрыклад, ён убачыў, як араты спыніў коней і адвярнуўся ад ветру прыкурыць папяросу. Левы конь за гэтую паўхвіліну паспеў ублытацца ў пастронкі. «Каб на табе, хлопча, шэрсць курэла з тваім куравам разам,— сказаў Уладзя Гельскі.— Бачыш, конь ублытаўся... Кураць, смокчуць без канца і без меры. У цябе ўжо, мусіць, у вантробах, як у коміне, усё пракурана». І, сказаўшы гэта, Уладзя Гельскі здарава пыхнуў махорачным дымам з вішнёвага папяросніка. Другі раз было гэтак: хтосьці прынёс на сенажаць біклагу вельмі добрага хлебнага квасу. Дык і Уладзя Гельскі такі ніштавата пацягнуў з біклагі разам з усімі. І ўжо як падменчваў касу, прабурчэў сабе пад нос: «От, каб квасу, канешне! А вады з-пад гнілое крыніцы не хочаш?!»

Дык і цяпер гэтаксама прабурчэў ён пра Марылю, што яна, не дачакаўшыся канца дзяльбы, пайшла дадому.

— Я ж кажу, што я ёй занясу хустку,— яшчэ раз сказала Волечка.

— Занясі, занясі,— бацькаўскім тонам сказаў Уладзя Гельскі.

Дык тут... і пачалася гаворка. Перш за ўсё падаўся

крыху наперад Ёсіф Катлубайскі. Ён падаўся наперад гэтулькі, каб яго добра заўважыў сам брыгадзір Косцік Раўтовіч. Але і не на гэтулькі ён вылез наперад, каб вельмі аддзяліцца ад натоўпу. Усё было зроблена неўзаметку і ў меру.

— Даць гэтую хустку Косцікавай Галене.

Гэта значыцца, Косцікавай жонцы. А гэта Косцікава Галена на работу чамусьці не хадзіла. Сама яна стаяла цяпер тут жа.

Волечка ад гэтых слоў уся ўстрапянулася, але ў справу спачатку не ўмяшалася, не думаючы, каб справа сапраўды павярнула ў гэткі бок. І без яе тут абыдзецца, а сказаць што-небудзь супраць Галены таксама не добра, бо заўсёды яны жылі, як блізкія таварышкі. Бачачы ж, што ўсе на момант прыціхлі, яна сказала гэтак, каб не пакрыўдзіць Галену:

— Чаму гэта не даваць хустку Марылі?

Ёсіф Катлубайскі ўставіў вочы сабе ў боты і ўпарта буркнуў:

— Каб ёй патрэбна была гэтая хустка, яна б была тут.

— У яе дзіця малое.

— Магла б узяць дзіця на рукі і прынесці сюды.

— Як жа гэта будзе, усім што-небудзь прыйшлося, а Марылі нічога?

— Эт, усе на полі робяць да сёмага поту, а ёй там дзецям есці наварыць — невялікая работа. Яшчэ і сваіх дзяцей там лепш прыкорміць.

Тут і пачалася спрэчка. З аднаго боку, дзе задавала тон Волечка, крычалі:

— Яна не хацела ісці ў яслі! Яна лепш бы, ахватней была разам з усімі на полі.

— А есці варыць, дык гэта не работа? Яна раней за цябе ўстае зранку, пакуль збярэ, з чаго варыць!

— Тут не ідзе гаворка пра гэтае варыва, а пра Марылю. А яна нават лепш за ўсіх рабіла. Яна як рабіла на полі, дык больш за ўсіх жала.

На гэта не было чаго сказаць, дык з таго боку, дзе задаваў тон Ёсіф Катлубайскі, адно чуваць было раз-поразу:

— Ай, цацка вялікая — паркалёвая хустка! Гэтулькі крыку з-за няма нічога. Шкада, каб хустку ўзяла Галена! От бо народ! Бяры, бяры, бяры, Галена, хустку.

Нарэшце ўжо справа павярнулася гэтак, што выйшла

было не тое, што Марылі не прыйдзецца хустка, а тое — як гэта Галена возьме хустку, калі яна на поле не ходзіць рабіць, тады, калі ўсе, што дзялілі мануфактуру, робяць дзень пры дні на полі.

— Вазьму хустку,— апраўдвалася Галена,— а пасля ўсе гаварыць будуць, што калі жонка брыгадзіра, дык і хустку ўзяла.

— А брыгадзіравай жонцы хусткі не трэба, ці што? — рубам паставіў справу Ёсіф Катлубайскі. І косці ў ягоных сківіцах заварушыліся.— Бяры, бяры, Галена, хустку.

Галеніны вочы проста-такі гарэлі, як кідала яна позіркі на хустку: ёй вельмі хацелася гэтую хустку ўзяць.

— Ліха ведае, што рабіць? — гаварыў адно раз-пораз збянтэжаны Косцік.— Не хачу я гэтае хусткі. Пасля адно крыўды не абярэшся.

І ён паклаў хустку на табурэт.

— Бяры, бяры, Галена, бяры! — крычаў усё Ёсіф Катлубайскі.

Але Галена чакала, каб ёй хто даў гэтую хустку ў рукі.

— А як жа Марыля будзе? — крычала Волечка.

Хустка ўсё ляжала на табурэце. Ніхто яе не чапаў. Усе пакрысе адступаліся ад табурэта. Нарэшце па адным пачалі разыходзіцца, бо было позна, даўно змеркла, і толькі захад яшчэ ўсё ружавеў. Так усе і разышліся. Волечка ішла дадому, крычучы сваім:

— Катлубайскі думае, што калі Косцік брыгадзір, дык ужо і начальнік? Мы ж яго самі выбралі за брыгадзіра. Гэта ж гэтак падлізвацца к Косціку! От чалавек! Падлізваецца! Падхлебнік нейкі, а не чалавек!

Усе ведалі, што гэта і сапраўды так. Таксама ведалі, што няма ніякае патрэбы Ёсіфу Катлубайскаму падлізвацца да Косціка Раўтовіча.

Але ўжо раз хустка асталася на дварэ, а кожны сваё атрымаў, а тым часам позна было, а заўтра, ледзь дзень нахопіцца, уставаць трэба будзе, дык усе разыходзіліся, пачынаючы ўжо гаварыць пра сваю кожнадзённую работу. Адна толькі Волечка ўсё гаварыла пра «падхлебніка Ёсіфа Катлубайскага», а як адышлася далей, дык загаварыла і пра Галену:

— Сквапная якая! Няма, каб сказала, што не трэба мне, значыцца, гэтае хусткі, дык не — каб самой глынуць.

Неўзабаве ўсе разышліся, толькі некалькі мужчын і хлопцаў спыніліся на вуліцы закурыць на адыходак. І от

яны ўбачылі, як Косцік з вельмі гаспадарлівым заклапочаным выглядам прайшоў паўз іх да калгаснага двара з метроўкаю (меркай) на плячы. Гэтаю метроўкаю ён цэлы той дзень мераў палеткі: разбіваў аратым дзялянкі і правяраў скошаныя сенажаці.

Так гэта было ці не так, але некаторым здалося, што Косцік гэта сумысля і без патрэбы пайшоў гэтакі заклапочаны на калгасны двор, каб паказаць, што ён вельмі многа стараецца, многа мае клопату. А значыцца, няма вялікае ў тым бяды, калі жонка яго ўзяла хустку. Так падумалі людзі.

— Узяла Галена хустку ці не? — сказаў паціху хтосьці.

Усе адступілі пад Косцікаву хату. У хаце гарэла газовачка. Яна ледзьве асвятляла гэтую старую, трухлявую, чорную, як склеп, хацінку. Малюсенькае люстэрачка вісела ў ёй на сцяне, і Галена стаяла перад ім у той самай хустцы на галаве, углядаючыся, ці да твару ёй гэтая хустка.

Убачыўшы гэта, усе і разышліся. І пра ўсё гэта назаўтра забыліся.

Не забылася толькі адна Волечка. Ёй не давала спакою «гэтая няпраўда». І назаўтра з самага рання, калі яшчэ не выганялі на поле жывёлу, яна пабегла да Марылі. Тая збіралася ісці ў абору па малако ў яслі. Яна стаяла перад люстэркам і ўглядалася ў яго, ці да твару ёй новая паркалёвая хустка. Волечка хацела расказаць Марылі пра ўчарашнія справы з хусткаю і не толькі расказаць, а заявіць, што яна гэтае справы так не пакіне. Але яна як бы пачала пазнаваць хустку, што была на галаве ў Марылі.

— Якая гэта хустка? — запытала Волечка.

— А гэта мне толькі што Косцік прынёс.

— Што ж ён гаварыў? — не сцярпела Волечка.

— А ён гаварыў, што ўсе паднімалі гаворку ўчора, каб гэтую хустку даваць не мне, а ягонай Галене. Але раз Галена на работу цяпер не ходзіць, а я раблю, дык ён гэтую хустку прынёс мне. Не хачу, кажа, каб пасля звягалі, што раз брыгадзір, дык сабе толькі найбольш глядзіць.

— Я адразу казала. Я яшчэ ўчора казала, што так трэба зрабіць. Дык мяне ўчора не слухалі. А цяпер — дык самі... Каб я ўчора не пакрычала, дык так і асталося б,— весела гаварыла Волечка.

* * *

Гэта апавяданне. Яно напісана гэтак: аўтар бачыў усё так, як тут пададзена, і гэта запісаў, зрабіўшы толькі пэўны падбор фактаў. Некаторыя толькі другарадныя факты тут прыдуманы. Напрыклад, не ўпісана сюды ўсё, што не належыць да справы з гэтаю паркалёваю хусткай, доўгія гутаркі пра надвор'е, пра смольнае бярвенне на Косцікавым двары, пра калгаснага барана, на якім дзеці спанатравалі ездзіць конна. Не запісана таксама пра нейкі «панскі спірытус». Уладзя Гельскі расказваў. Ён яшчэ быў малады, даўно гэта было. У нейкім панскім двары яго пачаставалі адной чаркай гэтага спірытусу: «І я ад аднае гэтае чаркі звіўся адразу к чортавай матары. От мацунак, каб яго агні высмалілі». Гэтак расказваў Уладзя Гельскі з самага пачатку справы з паркалёвай хусткай.

І шмат іншых было гутарак у той вечар на Косцікавым двары. Але аўтар пісаў апавяданне наконт справы з паркалёвай хусткаю, дык ён узяў толькі тое, што круцілася навакол гэтае справы. Ён выбраў патрэбныя яму факты і запісаў іх.

Але гэта не значыць, што гэта адзіны, ці прынамсі самы важны спосаб пісаць апавяданні. Абсалютна ніякага спосабу нельга кананізаваць. Усялякая кананізацыя толькі звязвала б індывідуальную волю кожнага аўтара, яго творчую арыгінальнасць. Можна, напрыклад, не выбіраць факты з аднаго часу і месца, як у гэтым апавяданні. Можна выбіраць факты, што былі не ў адзін вечар, а ў год — у два... І не ў адным месцы, а ў шмат якіх месцах. Можна іх бачыць самому, а можна чуць або чытаць пра іх. І пасля складаць іх, падабраўшы іх і выбраўшы іх паводле творчага замыслу.

Можна і «выдумляць» факты. Напрыклад, у гэтым апавяданні, каб даць характарыстыку Уладзю Гельскаму, прыдумана справа з квасам на сенажаці. Але аўтар не так проста выдумаў гэта, а ў залежнасці ад усяго складу Уладзі Гельскага як характару. Аўтар ужо ведаў ягоную справу з аратым (калі араты курыў, а коні заблыталіся ў пастронках), аўтар ведаў і больш штрыхоў, уласцівых гэтаму чалавеку. І аўтар прыдумаў у залежнасці ад гэтага «факт рэальны», прачытаўшы пра які, ніхто не сказаў бы: «Гэтага Уладзя Гельскі зрабіць (або сказаць) не можа». Гэта выдумка з квасам патрэбна была аўтару на тое,

каб паказаць, чаму Уладзя Гельскі пачаў раптам бурчэць, як дазнаўся, што калгасніцы Марылі няма на Косцікавым двары. Вось якога гатунку гэта выдумка.

Адным словам, аўтар запісаў факты гэтакія і гэтулькі, каб выйшла апавяданне, дадаўшы сюды некаторую частку выдумкі (толькі ў дэталях для службовае ролі).

Апавяданне напісана, малая тэма пра дзяльбу мануфактуры скончана таксама, як скончылася справа з тою паркалёваю хусткаю.

* * *

Але не скончылася справа з чалавечымі вобразамі, з тымі *вялікімі прычынамі*, якія вымушалі людзей рабіць *малыя справы*, калі ў брыгадзіравым двары спрачаліся за паркалёвую хустку. Падумаем пра некаторыя моманты.

1. Ёсіф Катлубайскі, калі пачаў угаварваць Косціка, каб ягоная жонка ўзяла хустку, «падаўся наперад гэтулькі, каб яго добра заўважыў сам брыгадзір Косцік Раўтовіч. Але і не на гэтулькі ён вылез наперад, каб вельмі аддзяліцца ад натоўпу. Усё было зроблена неўзаметку і ў меру».

2. «Так гэта было ці не так, але некаторым здалося, што Косцік гэта сумысля і без патрэбы пайшоў гэтакі заклапочаны на калгасны двор, каб паказаць, што ён вельмі многа стараецца, многа мае клопату. А значыцца, няма вялікае ў тым бяды, калі жонка яго ўзяла хустку».

3. «Газоўка ледзьве асвятляла гэтую старую, трухлявую, чорную, як склеп, хацінку» (Косцікаву).

4. Волечка ўсё гаварыла пра «падхлебніка» Ёсіфа Катлубайскага».

Хоць бы гэтыя моманты.

Волечка сапраўды мела рацыю, калі абзывала Ёсіфа Катлубайскага падлізнікам, ці як яна казала — падхлебнікам. Гэты чалавек выразна падлізваўся да брыгадзіра. Брыгадзір, значыцца, быў яму гэткая асоба, гэткі начальнік, якому трэба падлізвацца. (Бо Ёсіф Катлубайскі не такі ўжо і дурань: добра ж ён ведае, што нязручна было Галене браць тую хустку). Але Ёсіф Катлубайскі стараўся і не вылазіць лішне наперад, каб гэта ўсё не лішне кідалася ў вочы людзям. Можна здагадвацца, што гэты чалавек хацеў бы, каб было гэтак: каб сам брыга-

дзір ведаў, што ён яму спрыяе, а каб больш ніхто пра гэта не ведаў. Бо часам, калі людзі не здаволены сваім брыгадзірам, Ёсіфу Катлубайскаму добра б тады зусім шчыра аблаяць брыгадзіра (за вочы, вядома). Але яму могуць сказаць: «Што ж ты яго лаеш цяпер, а раней дык ты падлізваўся да яго».

Вось які выявіўся чалавек Ёсіф Катлубайскі. Чалавек няшчыры, падлізнік. Чалавек дваісты. Стараецца думаць і рабіць гэтак, як дзьме вецер. Гэта, можна сказаць, хітры чалавек.

Але якая гэта хітрасць?

Кожная чалавечая якасць пазнаецца з яго дзейнасці. Як жа жыў і жыве Ёсіф Катлубайскі? І нашто яму канечне падлізвацца да брыгадзіра?

Вывучаючы гэтага чалавека, як прататыпа да стварэння чалавечага вобраза ў літаратуры (калі карыстацца гэтым спосабам), аўтар даведаўся, што гэты чалавек ёсць тып гаротніка. Кажуць, што ягоны бацька быў «заядлы чалавек»: разбіў калісьці вялікім каменем галаву суседу за тое, што суседскі певень выграб яму ў гародзе каліў тры тытунёвай расады. Гэта было яшчэ за старым часам. Колькі магла каштаваць тая расада? Некалькі капеек. Значыцца, на суседа ў яго была капеечная крыўда. А за гэтую капеечную крыўду магла прапасці суседская галава. Жыццё нават у гэтых людзей мералася капеечнаю крыўдаю. Так сказаць, жыццё мела капеечны бюджэт. Натуральна гэтакім бюджэтам прывык мераць жыццё і сын, Ёсіф Катлубайскі: гадаваўся ж ён пры бацьку. Можна смела гаварыць, што і падлізванне яго да брыгадзіра ёсць яго капеечная «хітрасць». І хіба мы можам сказаць, беручы пад увагу гэту яго несімпатычную рысу, што гэта не калгаснік, што гэта чалавек не савецкі? Вось якое пытанне ўзнікае. Тое ж самае і наконт брыгадзіра Касціка Раўтовіча. Скажам, ён сапраўды гэта ў той вечар сумысля і без патрэбы праходзіў перад людзьмі на калгасны двор з метроўкаю, каб паказаць сваю стараннасць. Гэта рыса, вядома, несімпатычная, але — «газоўка ледзьве асвятляла гэтую старую, трухлявую, чорную, як склеп, хацінку».

Што, чалавечае жыццё магло быць калі-небудзь у гэтай хацінцы? Асуджаныя на век вечны людзі жыць гэтак — хіба яны маглі быць гарманічныя, ясныя? А Касцікавы ж бацькі, дзяды жылі гэтак, неслі на сабе праз

усё жыццё сваё гэтую асуджанасць. Цяперашні брыгадзір радзіўся на свет у гэтай самай чорнай нары.

Назаўтра Косцік панёс хустку з хаты. Ён не вытрымаў «злачынства». Дзень пры дні ён заўсёды вельмі старанна вёў сваю брыгадзірскую работу, таксама, як і Ёсіф Катлубайскі, ёсць адзін з добрых калгаснікаў. І разам з тым выступаюць і несімпатычныя рысы.

Такім парадкам, мы кінулі позірк на людзей у часе: мы зірнулі ў глыб гэтага часу і там, ва ўчарашнім дні, стараліся знайсці крыніцы сённяшніх чалавечых учынкаў. І цяпер нам сталі ясныя некаторыя моманты ўсяе гэтае справы — людзі носяць у сабе спадчыну і ад яе не могуць вызваліцца ў адзін дзень. І чым больш яны ўрастаюць у сваю новую справу (калгас), чым больш яны гэтую справу адводзяць ад спраў учарашняга свайго спосабу жыцця, чым больш яны гэтую сваю новую справу вылушчваюць з спраў учарашніх, тым больш і самі вылушчваюцца з гэтых учарашніх спраў. Прыклад таму Волечка. Яна свой калгас выпакутавала, можна сказаць; яна ў калгасе больш за ўсіх тых, што былі ў той вечар на дварэ, яна належыць да ліку арганізатараў калгаса. Гэта пасля аўтар высветліў, калі вывучаў гэты характар.

Дык вось: у ход пайшлі сённяшнія ўчынкі людзей, псіхалагічная спадчына, прычыны, што нарадзілі тое, што засталося ў спадчыну (пражытыя ўжо часы гэтымі людзьмі). І ўсё гэта ўзнікла з патрэбы даць тлумачэнне людскім учынкам, паказаць гэтых людзей у ходзе іхняга развіцця. Мы бачым, што ўжо да гэтага моманту тэма пачынае разрастацца. Мы прымушаны гаварыць пра маленства і юнацтва гэтых людзей, а значыцца, пра тыя падзеі, што адбываліся тады (у сувязі з гэтымі падзеямі фармаваліся людзі). Мы, значыцца, прымушаны загаварыць пра тое, як гэтыя людзі жылі, раслі, фармаваліся, зменьваліся, у які бок ішлі па сваіх дарогах.

А тым часам у гэты самы час, калі гэтакія эвалюцыі перажывалі гэтыя людзі, былі якраз войны, рэвалюцыі, перадваенныя і перадрэвалюцыйныя гады. А пасля — некалькі этапаў нашае рэвалюцыі да сённяшняга дня. Гэтыя людзі так ці інакш праходзілі войны, так ці інакш праходзілі рэвалюцыі, ці, прынамсі, мелі дачыненне і да вайны і да рэвалюцыі. А якое дачыненне? І як?

Косцік Раўтовіч, напрыклад, быў мабілізаваны ў канцы імперыялістычнай вайны, удзельнічаў пасля ў вайне

грамадзянскай як чырвонаармеец і вярнуўся пасля дадому, пасля гэтае вайны.

Мы бачым, як шырока разгарнулі тэму, мы дайшлі ўжо да зусім новага творчага замыслу. Перад намі паўстаюць ужо людзі ў малюнках вайны і рэвалюцыі. Перад намі ўжо малюнкі нават, як ішла рэвалюцыя, якая была вайна, якое месца ў гэтых працэсах займала старая Касцікава чорная, як склеп, хаціна... Больш таго, хаціне гэтай, напэўна, ужо год пад семдзесят. (Рэчы пераживаюць людзей.) Як выглядаў свет тады, калі будавалася гэта хата? Якія людзі будавалі яе? Нас пачынае цікавіць жыццёвы працэс у гэтай хаце ці каля яе, з моманту пабудовы яе і да нашага часу, калі мы напярэдадні бяскласавага грамадства.

Маштаб нашага замыслу шырыцца. Усе героі малога апавядання просяцца ў большыя творчыя замыслы, у шырэйшыя планы. Яны хочуць паказаць сябе: і Ёсіф Катлубайскі вымагае шырокага псіхалагічнага развароту, і Косцік Раўтовіч, і Волечка. І нават бацькі гэтых людзей. Вырасла вялікая тэма. Яна перарасла межы апавядання. Перад намі працэс жыцця, наш замысел накіроўвае нашу ўвагу на гістарычную абумоўленасць жыццёвых падзей, чалавечых учынкаў, чалавечых вобразаў.

У гэтакім стане быў разварот вялікае тэмы ў аўтара праз малы час пасля таго, як малая тэма рэалізавалася ў апавяданне. Але неўзабаве аўтар знайшоў яшчэ такое «дапаўненне» да сваіх замыслаў, якое пачало прэтэндаваць на заняцце галоўнае, цэнтральнае лініі ва ўсёй тэме.

* * *

Папоўдні было на вуліцы пуста. Спёка стаяла ў паветры. Сонныя вароны відны былі на жэрдзяных загарадзях ля паплавоў.

Была прытульная мясціна на прызбе ля самае старое хаты: хата стаяла крыху ў глыб двара, і перад ёю раслі клёны і каштаны. Там, на прызбе, і сядзеў цяпер Уладзя Гельскі. Шырока і цвёрда паставіўшы ногі на зямлю, ён, здавалася, урос у гэтую прызбу. Саломінаю ён калупаў зубы.

Неўзабаве выйшаў да яго гаспадар той хаты, ля якое ён сядзеў, высокі чалавек.

— Хутка трэба ісці,— сказаў высокі.

— Пойдзем зараз,— адказаў Уладзя Гельскі.
— Сёння бадай-што мы гэтае сена і высушым.
— Можа быць.
— У мяне зуб у граблях зламаўся. Дык ты пасядзі тут, а я пайду гэты зуб устаўлю, і тады пойдзем.
— Ідзі ўстаў, і тады пойдзем.
— Я марудзіць не буду. Я от зараз. Яшчэ не позна, яшчэ ніхто нават і снапы вязаць не ішоў пасля абеду.
Уладзя Гельскі астаўся адзін.
Неўзабаве падышла да яго калгасніца Рыва.
— Ішлі ўжо жанкі снапы вязаць? — запытала яна.
— Уга,— заспяваў Уладзя Гельскі,— даўно пайшлі.
— Не можа быць! — перапалохалася жанчына.
— От табе і не можа! — холадна прабубніў Уладзя Гельскі.
— У каторы ж яны палетак пайшлі? — аж калацілася жанчына.
Уладзя Гельскі спачатку яшчэ памучыў: ён спакойна калупнуў зубы, пачухаў за каўняром і дастаў тытунь з кішэні. Пасля ўжо даў адказ:
— Не ведаю, галубка, у які палетак пайшлі.— І твар яго быў спакойны і халодны, нічога на гэтым твары ў гэты момант не адлюстравалася.
— У які ж мне палетак бегчы?
— А што я ведаю?
Жанчына пабегла.
Ужо ўвечары стала ведама, што яна дала ў той дзень ходу, шукаючы вязальнікаў: яна абегла два палеткі і нідзе нікога не найшла. Яна ўбачыла, што з яе накпілі, што яшчэ вязальнікі не прыйшлі пасля абеду на работу.
Яна адна пачала вязаць снапы. Нейкі час яна вязала і, бачачы, што ніхто не прыходзіць, кінулася ў другі палетак, там ужо ішла работа.
— Позна прыходзіш! — накінуліся на яе.
— Я раней за ўсіх прыйшла. Я ў тым палетку вязала! — пачала апраўдвацца яна.
— Чаму ж ты разам з усімі не ходзіш? Трэба раней гэты палетак скончыць.
Яна пачала расказваць, як з яе накпіў Уладзя Гельскі. Яна заплакала.
Увечары Волечка, бялявая маладая жанчына, крычала на ўсю вуліцу перад натоўпам:
— Папытайцеся вы, нашто Гельскі гэтакія кпіны

строіў! За гэтакі здзек не трэба даравань. Дзядзька Пракоп,— зірнула Волечка ў вочы высокаму чалавеку, ля хаты якога накпіў Уладзя Гельскі з жанчыны,— ты разам з Гельскім сена гроб, можа, ён табе гаварыў што-небудзь пра гэта? Нашто ён кпіны гэтакія строіць?

Пракопа ўсе ведаюць як чалавека, які не любіць гвалту, гармідару. Але ён не вытрымаў доўгага Волечкавага позірку:

— Ён мне нічога не казаў пра гэта,— ціха выгаварыў ён,— але раней ён гаварыў, што паналазілі жыды на зямлю, што калгасы — гэта паншчына...

Усё было скончана. Паміж Пракопам і Уладзем Гельскім стварылася прорва. Гэта адразу ўбачыў і сам Пракоп.

— А чаго ж ён у калгасе, калі калгас паншчына? — крыкнула Волечка.

— Як на мой розум,— сказаў павольна слова за словам Пракоп,— дык каб ён быў індывідуал, то яму, значыцца, не выгадна быць за індывідуала.

Прорва яшчэ павялічылася. Яна ўжо ўсталявалася на цэлы век. І Пракоп сekануў далей:

— Ты, Волечка, пытаеш. А ты ж сама ведаеш, ён увесь час супраць калгаса. Ён з самае вясны стараўся пасварыць калгаснікаў аднаго з адным.

І тады пачалося. Пачалі ўспамінаць усё пра Уладзю Гельскага. І тое, што ён перад вайною быў сальнік, і што ён у вайну скупліваў свіней і прадаваў вайсковым часцям, і што ў яго цяпер заўсёды можна паўлітра гарэлкі дастаць (больш як паўлітра зараз не дае — баіцца). Так і пачалі крычаць. Крычаў хтосьці і пра тое, што Уладзя Гельскі, напэўна, мае яшчэ і золата, закапанае дзе-небудзь у гаршку.

— Чаму ж дагэтуль мы ўсе маўчалі! — грозна спытала Волечка.

У калгасе не на жарты пачалася справа з Гельскім.

* * *

Такім парадкам у новым святле паўстала постаць Уладзі Гельскага. Калі ў справе з паркалёваю хусткаю ён тлумачыўся як бурклівы смяхун і ўрэшце ўсяго ён нейкі дабрадушны чалавек з смешнаю фантазіяй, дык цяпер паўстае ён як хітры і дваісты тып. Хіба можа не быць думкі, што ён не так сабе хацеў, каб Марыля не

атрымала хустку? Тут быў пэўны замысел: было б нездавальненне, спрэчкі, неспакой. А з дробнага вырастае вялікае. А шмат дробных фактаў, злучаных разам, могуць скончыцца не жартам.

Мы бачым класавага ворага. Ён дзейнічае гэтак тонка, што можа ўяўляцца як добры жартаўнік. Гэтакі ён уцёрся ў першае апавяданне «Паркалёвая хустка». І нават прымусіў аўтара выдумаць яму дзеля ягонае характарыстыкі справу з квасам на сенажаці. Уладзя Гельскі, гэты хітры тып, даў аўтару здаравенную пстрычку ў нос. Аўтар сам прызнаецца ў гэтым. З Уладзі Гельскага нельга зняць і яго жартаўлівасці і, дзе трэба, трапнасці ягонага слова. Гэта так. Але за гэтым усім хаваецца сапраўдны твар гэтага чалавека. Чалавек выявіўся ў дзейнасці. Уладзя Гельскі паказаў аўтару на памылкі яго першага апавядання.

Уладзя Гельскі разгарнуў нашу тэму.

Перад намі — сялянства. Яно папаўняе сабою розныя катэгорыі. Каб паспрыялі ўмовы, Уладзя Гельскі мог бы вырасці ў больш мацнейшага гандляра, а там, можа, дарос бы і да немалога купца, у прадпрыемцу. Таксама гэта накіроўвае наш позірк туды, дзе сяляне, трапляючы на фабрыкі і заводы, папаўнялі сабою пралетарыят. Вобразы пралетарыяту вырысоўваюцца перад намі.

Войны, рэвалюцыі, фармаванне класаў, увесь працэс гісторыі — вось да якіх гіганцкіх карцін вырасла наша тэма. У цэлы комплекс тэм перарасла яна.

## ЗАЎВАГІ ПРА ДРАМАТУРГІЮ

Кажуць часта так: тэма аб грамадзянскай вайне яшчэ не ўстарэла. Або так: грамадзянская вайна яшчэ доўга будзе тэмай для літаратуры (ці драматургіі). Я думаю, што, гаворачы так, няправільна ставяць пытанне тэмы. У гэтым выпадку тэму ставяць ізалявана ад усяго працэсу жыцця, як быццам бы тыя працэсы, што вычэрпваюцца ў тэме, не маюць сувязі з мінуўшчынай і не ёсць тая неабходнасць, праз якую трэба прайсці, якую трэба зрабіць, каб тварыць наступнае. Грамадзянская вайна, гэты як быццам бы ўжо здабытак гісторыі, ёсць этап нашай рэвалюцыі. І гэты этап жывымі і вострымі сувязямі звязаны з нашым сённяшнім днём. І калі гавараць, што грамадзянская вайна яшчэ доўга будзе ўдзячнай тэмай, дык, значыцца, прыйдзе гэткі час, калі грамадзянская вайна не будзе тэмай, іначай кажучы, яна пакіне цікавіць, яна страціць як бы тое значэнне, якое яна мае для нашай рэвалюцыі, а значыцца, і для ўсяго далейшага развіцця чалавечага грамадства. Сапраўды ж не толькі грамадзянская вайна ніколі не страціць у нас вялікае цікавасці да сябе, а нават (можа, каму гэта будзе здавацца смешным) іспанская інквізіцыя, скажам, з глыбіні сярэдніх вякоў уздымаецца перад намі як выключная цікавасць. Чаму? Таму, што нас цікавяць усе вострыя выяўленні грамадскіх працэсаў як этапы, як напластаванні, як згусткі класавых канфліктаў у чалавечай гісторыі. Чалавецтва прайшло вялікі шлях, і гэты шлях нас вучыць. Калі прызнаць устарэласць тых працэсаў, якія паступова хаваюцца за даўнасцю гадоў, мы можам сказаць, што і Парыжская Камуна, і першыя з'езды нашай партыі, і першыя класавыя канфлікты, што характарызавалі першыя выхады на арэну гісторыі пралетарыята як класа, і працэсы нараджэння пралетарыята як класа,— што ўсё гэта, зацягнуўшыся засціламі часу, зробіцца нецікавым. Аднак у сапраўднасці гэтага ніколі не будзе.

Часта не так ставіцца пытанне пра тэматыку, як яго трэба ставіць. Ставіцца і рэалізуецца гэта пытанне тэмы гэтак: адбывалася пэўная з'ява, ну, скажам, у часы гра-

мадзянскай вайны, вялікі бой з белапалякамі. І вось гэты эпізод у творы паказваецца менавіта як эпізод. У паказе ёсць і героі-чырвонаармейцы, і камандзіры, у паказе ёсць абрысы або і вобразы людзей з варожага лагера. Паказ, скажам, праз мастацкія вобразы зроблены не кепска, добра. Але калі гэта ўсё будзе паказана менавіта як эпізод, без сувязі з мінулым і наступным, дык гэта надзвычайна зніжае ідэёвую каштоўнасць твора, звужае яго значэнне. Справа ў тым, што бой гэты быў нездарма. Ён ёсць складаная частка цэлай сістэмы, а значыцца, ён мае пэўны ўплыў і на ўсю сістэму. Змаганне за ўзмацненне якога-небудзь паасобнага калгаса ёсць змаганне за ўсю калгасную сістэму. Значыцца, у кожнай тэме мы павінны выводзіць у святло тыя лініі, якія ідуць як тыповыя лініі ўсёй сістэмы. Гэтае шырокай перспектыўнасці мы і павінны дамагацца ў сваіх творах. Ад вырашэння справы грамадзянскай вайны залежала далейшае сацыялістычнае будаўніцтва, ад вырашэння справы сацыялістычнага будаўніцтва залежыць і будучыня ўсяго чалавецтва.

Канкрэтыка ў мастацкіх вобразах. Ад таго, што на грамадзянскай вайне босы і галодны чырвонаармеец, якога мы ўзялі за героя свайго твора, палажыў галаву, аддана ідучы ў бой за пралетарскую рэвалюцыю, ад гэтага залежыць лёс, скажам, яго дачкі, якая, каб тая рэвалюцыя, за якую развітаўся з жыццём бацька, спазнілася, ну — на адно пакаленне, была б нявольніцаю, парабчанкаю або забітаю без пары, старою ад жыцця, рабочаю жанчынаю ці беднаю сялянкаю. А так — яна праз сваю ж працу ў сацыялістычным будаўніцтве дажыве да той яснай пары, за якую бацька ішоў у бой на грамадзянскай вайне. Чырвонаармеец уміраў на вайне, ведаючы, за што ён умірае. Уміраў, свядома ідучы на смерць, ненавідзячы ворага, стараючыся знішчыць яго і сам хочучы жыць, не хочучы ўміраць. Але ў гэтай трагедыі ёсць аптымізм, бо мы бачым далейшую справу гэтага «эпізоду» — рух цэлага класа, рух рэвалюцыі праз тых, блізкіх таму чырвонаармейцу людзей, што далей павялі яго справу, а значыцца, сваё асабістае жыццё. Перад намі выразныя людзі і іх выразная сувязь з падзеямі, гэтая сувязь мае вялікую перспектыўнасць.

У нашай драматургічнай практыцы шмат ёсць такіх з'яў: ідзе на сцэне п'еса і лічыцца яна за самую актуальную сваёю тэмаю, сваімі ідэямі. Але вось праходзіць самы

малы час, і гэтая п'еса робіцца неактуальнай, проста-такі часта не цікавай. Хоць бы некаторыя п'есы пра калектывізацыю або пра змаганне за промфінплан на заводзе (так званыя «вытворчыя» тэмы). Справа, бачыце, такая, што «гэтыя п'есы ўстарэлі», што «прайшоў ужо той этап, які яны тэматычна тлумачылі». Этап прайшоў, гэта праўда, п'есы ўстарэлі, гэта таксама праўда. Але хіба той этап згінуў без следу? Хіба ён не вырашыў вялікіх пытанняў, ад якіх залежаць наступныя этапы? Хіба ён не астаўся, як гістарычная з'ява? Ён-то астаўся, але творы, якія нібыта ўвасаблялі яго ў сваіх мастацкіх вобразах, не асталіся. Чаму? Таму, што ў іх якраз не было філасофіі таго ж «этапу», таму, што пытанні, пастаўленыя ў гэтых творах, не ішлі па тых вялікіх «сістэмных» лініях, што ідуць углыб і ўгару руху грамадства, у маналітнасці з гэтымі лініямі, бо яны ж самі і ёсць гэтая ж лінія. А пытанні гэтыя пастаўлены, як эпізадычныя, а праз іх і сама справа фактычна зводзіцца да, як каштоўнага толькі на тым этапе, эпізоду.

Успомнім «Жакерыю» Праспера Мерыме. Свой гэты твор ён напісаў у 1828 годзе — больш як сто год таму назад. За тэму гэтага твора ён узяў паўстанне французскіх сялян у XIV стагоддзі. Аднак гэты твор і да сённяшняга дня не «ўстарэў». Наадварот, ён мае і для нас сваю пэўную «актуальнасць». Бо гэты твор мае дачыненне да тых ліній, па якіх і цяпер ідзе наша ўвага: сялянскае паўстанне ў XIV стагоддзі не скончылася перамогаю, так як яно не можа скончыцца перамогаю і цяпер, калі сялянства само па сабе, без пралетарскага кіраўніцтва, ізалявана ад яго, будзе ісці на змаганне хоць бы з буйнымі землеўласнікамі. Бо само сялянства, у сярэдзіне самога сябе, раз'ядаецца супярэчнасцямі, і перамога над тым, супроць каго было паўстанне, цягне за сабою новае змаганне, «новае паўстанне» паміж ужо тымі ж паўстанцамі, якія толькі што разам паўставалі. Так гінуць заваёвы паўстання. У капіталістычных краінах мы і цяпер можам гэта бачыць, так як гэта было і ў XIV стагоддзі. Фактычна мы гэта можам заўважыць у выданай «Жакерыі» Праспера Мерыме. На «Жакерыі» мы, драматургі, пры крытычным падыходзе можам навучыцца, хоць гэты твор і буржуазнага пісьменніка.

У нашай драматургіі не хапае часта гістарычнае перспектывы. Метад рэалізму якраз і ёсць такі метад, які

прадбачыць наша рэальнае разуменне рэчаіснасці, а на грунце гэтага разумення (калі мы правільна зразумелі рэчаіснасць) і нашы вобразы будуць гаварыць аб рэальных ідэях, аб рэальных справах чалавечага грамадства.

Мы вельмі мала думаем пра высокія літаратурныя якасці нашай драматургіі. Бадай-што не памылюся, калі скажу, што як бы нават усталяваўся да некаторай ступені клопат толькі пра сцэнічнасць п'есы, пра дынаміку сцэнічнай дзеі. Гэта добра, але гэта аднабока, калі не разумець, што раз са сцэны слова гучыць фальшыва, дык яно зніжае і сцэнічныя якасці. Бо без маналітнасці слова і дзеі не можа быць выдатнага драматургічнага твора. Часта бывае так, што драматургу пакажуць на слова або на фразу і гавораць хоць бы так: тут слова дрэнна гучыць, або: тут сінтаксічна дрэнна сказ пабудаваны. З лёгкім сэрцам, доўга нават не думаючы, аўтар часта пытае: а як тут трэба сказаць? Дарадчык радзіць, і аўтар нават не пытае, ці знаёмы ён з усім папярэднім тэкстам п'есы. Адразу правіць паводле парады. А дарадчык таксама не думае — а можа, тут сумысля ўжыта няправільная пабудова фразы, можа, гэта ёсць прыналежнасць героя? Нашы драматургі не цэняць мовы. Большасць нашай беларускай савецкай драматургіі хварэе на проста-такі зусім слабыя літаратурныя якасці. Мова павінна быць варта дзеі, дзея павінна быць варта мовы. І разам усё павінна быць варта вялікіх ідэй, без якіх наша драматургія не будзе вялікая. А подыхі гэтых ідэй мы павінны бачыць ва ўсёй нашай кожнадзённасці. І самыя малыя справы гэтае кожнадзённасці мы павінны ўзводзіць на вышыню вялікіх ідэй. Вядома, разумеючы пад «малымі» справамі справы тыповыя, якія толькі могуць здавацца малымі, бо мы да іх прывыклі.

# СІЛА НАШАЙ КУЛЬТУРЫ — У ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМЕ

Мінуў год з часу апублікавання пастановы ЦК ВКП(б) аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый. Гэты год фактамі паказаў, якое вялікае значэнне мае гэтая пастанова для развіцця савецкай мастацкай культуры. Пастанова з'яднала для творчай працы лепшыя савецкія літаратурныя сілы, гэта дало выдатныя вынікі. Пастанова шырока адчыніла дзверы для дзейнасці ў літаратурным руху тым пісьменнікам, якія раней мелі ў сваёй творчасці буйныя памылкі і зрывы, а часам і сістэму непралетарскага мыслення.

Але яны ў выніку руху ўсёй краіны на вялікі сацыялістычны наступ, а значыць, і на канчатковую ліквідацыю эксплуататарскіх класаў, рашуча сталі на шлях перабудовы, раз і назаўсёды вызначылі сваё месца ў гэтым вялікім працэсе. БелАПП недаацаніў гэтай з'явы і пакінуў быў гэтых работнікаў як бы па-за літаратурным рухам.

БелАПП змагаўся за генеральную лінію партыі ў літаратуры, але не ўбачыў перабудовы лепшых пісьменнікаў, што знаходзіліся па-за БелАППам, не ўбачыў таго, што значная частка гэтых пісьменнікаў пачала перарастаць у дзейных змагароў за лінію партыі, і трымаў перад імі зачыненыя дзверы для выхаду на гэтую дзейнасць. Гэтыя дзверы адчыніла пастанова ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. Савецкія пісьменнікі за гэты год прарабілі вялікую працу ў сэнсе творчасці і ў сэнсе працы над тэорыяй марксізма-ленінізма. Цесна з'яднаўшыся ў працы з пралетарскім пісьменніцкім крылом былога БелАППа, яны разам усе стаяць на шляхах да стварэння вялікіх каштоўнасцей бальшавіцкае літаратуры.

За гэты год савецкі літаратурны рух БССР даў выдатныя факты савецкай літаратуры. Але не толькі з'яўленнем гэтых новых твораў мы павінны мерыць рост нашай літаратуры. Пленум Аргкамітэта ССПБ паказаў, што наш літаратурны рух узняўся на вышэйшую ступень. Павевы вялікай культуры відны ў нашым літаратурным руху.

Беларуская сацыялістычная культура расце як культура вялікая: яна найбагацейшыя свае элементы, у выглядзе створаных вялікіх каштоўнасцей, нясе ў сацыялізм, у вялікую інтэрнацыянальную культуру. Уся вялікасць беларускай савецкай культуры ў тым, што яна ўжо даўно «заваявала» ўвесь свет, бо ў ёй ставяцца і вырашаюцца праблемы, цікавыя і патрэбныя ўсяму чалавецтву. Гэта не тая «заваёва», пра якую марылі нацдэмы, гэта не тая «культура», якая ў канечным сваім развіцці павінна душыць культуры іншых народаў, гэта не тая беларуская культура, што тоіць у сабе зерне беларускага вялікадзяржаўніцтва.

Наша беларуская культура — не культура ўціску і эксплуатацыі. Наша савецкая беларуская культура — культура вялікага і адзінага прагрэсу. Наша беларуская культура працiўная культуры нацдэмаўскай Беларусі, той Беларусі, шлях якой быў бы адзін: стаць у шэрагі міжнародных жандараў. Наша савецкая беларуская культура — гэта тая культура, якая расце толькі ў бязлітасным змаганні з другою беларускаю культураю — «культураю» нацдэмаўскаю, «культураю» беларускіх эксплуататарскіх класаў. Наша культура развіваецца раўналежна з развіццём брацкіх культур працоўных іншых народаў.

Перад намі, савецкімі пісьменнікамі, стаяць найвялікшыя і найадказнейшыя задачы. Маса каласальных пытанняў, вялікіх праблем стаіць перад нашай літаратурай. Яны выцякаюць з таго працэсу, які адбываецца па ўсім свеце: яны выцякаюць з працэсу сацыялістычнага будаўніцтва.

Мы павінны распрацаваць у літаратурнай спецыфіцы ўсё багацце вобразаў нашай сучаснасці, а таксама і часта нечапаныя яшчэ літаратурай напластаванні гісторыі. *Стварэнне найвялікшых сваёю сілаю вобразаў бальшавіцкай літаратуры — вось тая мэта, дзеля якое мы ёсць удзельнікі савецкага літаратурнага руху.* А дзеля гэтага нам патрэбна шмат літаратараў. Таму наша кожнадзённая творчая праца павінна ісці ў маналітнасці з выхаваннем маладых пісьменнікаў, з выхаваннем ударнікаў, закліканых у літаратуру. Гэтую працу мы павінны так праводзіць, каб у нашай літаратуры заўсёды адчуваўся прыток новых моцных пісьменніцкіх індывідуальнасцей.

Ва ўсёй гэтай працы мы павінны трымаць на ўвазе той момант, што літаратура, так сказаць, «справа тонкая»,

таму тут да тонкасці павінна даходзіць і наша класавая пільнасць. Нам трэба навучыцца больш тонка разбірацца ў ідэёвасці літаратурных твораў, бо бывае, што пад маскай савецкай літаратуры крыецца ідэя супроцьсавецкая. Будзе смешная наіўнасць, калі каму пачне здавацца, што ўжо адышлі ў нябыт мары пра тую беларускую «культуру», аб якой я вышэй успамінаў.

Таксама не скончылася нянавісць да беларускай савецкай культуры і з боку тых, хто жадаў бы бачыць усюды «единорусскую» культуру, гэта значыць, вярнуць нацыянальнае і сацыяльнае падняволенне ўсіх народаў СССР.

Хочацца ўспомніць, якое ўражанне на некаторых людзей была зрабіла пастанова ЦК аб перабудове літаратурных арганізацый. Былі такія людзі з літаратурнага асяроддзя, якія хацелі бачыць у гэтай пастанове спыненне класавага змагання ў літаратуры. Ім было не лёгка бачыць, што гэтая пастанова адзначала, фактычна, узмацненне фронту сацыялістычнага наступу на класавых ворагаў у літаратуры. Фронт савецкай літаратуры пашырыўся. І калі гэта для іх стала ясна, яны на свае нацдэмаўскія ідэалы нацягнулі «савецкую» маску.

На пленуме Аргкамітэта ССПБ мне даводзілася ўспамінаць пра аднаго літаратара, які пакутаваў ад наяўнасці «цікавае формы і адсутнасці тэмы». «Я прыдумаў,— казаў ён часта,— вельмі цікавую форму для твора, але толькі не ведаю, пра што пісаць». Я не веру, што гэтаму чалавеку няма пра што пісаць. Прычына тут у тым, што чалавек стаіць на пазіцыях тае беларускае культуры, якая праціўна беларускай культуры *савецкай*. Справа толькі ў гэтым, бо які-небудзь твор, накшталт «Цеснаватай куртачкі» выкрывае самога яе аўтара: яму якраз ёсць пра што пісаць.

Наша літаратурная крытыка, узмацняючы класавую пільнасць, авалодваючы марксісцка-ленінскай метадалогіяй, павінна асвоіць як мага глыбей літаратурную спецыфіку. Бо інакш яна будзе бяссільным змагаром з ворагам. Пустым словам нічога не зробіш. (Ды і не толькі таму. Калі наша літаратура дарасла да высокае свае ідэёва-мастацкае культуры, дык і крытыка не павінна ад яе адставаць.)

Не прыходзіцца верыць у тое, што быў бы росквіт хоць які-небудзь у таго пісьменніка, які «пакутуе ад бястэм'я», калі б ён апынуўся, скажам, дзе-небудзь хоць

бы ў Заходняй Беларусі. Там, праўда, дазволена з поўнаю воляй падтрымліваць фашызм і змагацца супроць рэвалюцыі. Там, праўда, дадзена поўная свабода прапаведваць і падтрымліваць рэакцыю і рэгрэс. Гэта ўсё праўда. Нягледзячы ж, аднак, на такую свабоду, гэтая літаратура там стаіць у такім заняпадзе, у такой убогасці, што часта наогул яе цяжка аднесці да катэгорыі мастацкай літаратуры. І гэта ясна чаму. Ад буржуазнай культуры адыходзяць усе лепшыя сілы і становяцца ў шэрагі рэвалюцыі, каб змагацца з капіталістычным светам. Бо там сапраўды ўжо няма пра што пісаць, хіба толькі аб смерці, аб сконе. Бо ўся сістэма капіталістычнага свету ідзе да свае пагібелі.

І перад гэтаю пагібеллю капіталізм яшчэ стараецца выратавацца, душачы ўсялякія выступленні рэвалюцыі. І вось беларуская контррэвалюцыйная нацдэмаўшчына ўсімі сіламі хоча ператварыць Беларусь у вернага жандара міжнароднага капіталізму. Іхняя Беларусь, іхняя беларуская культура вельмі моцна пахне чарнасотніцтвам, яўрэйскімі пагромамі, парабкоўскім бяспраўем. Гэтая нацдэмаўская паршывая навалач варта вялікадзяржаўніцкіх гадаў, якім таксама не да густу беларуская савецкая культура.

Сіла беларускай савецкай культуры ў яе інтэрнацыяналізме. Факты нашай культуры ёсць здабыткі культуры агульнапралетарскай, агульначалавечай.

Мы, савецкія літаратары, ідзём шляхам вялікіх тэм, вялікіх праблем, вялікіх пытанняў, вялікіх магчымасцей і перспектыў. Ніколі літаратары не мелі такіх перспектыў у сваёй працы. Нашы кнігі, нашы тэатральныя паказы ўжо ёсць вялікі здабытак культуры. І сваю работу мы павінны паглыбіць, каб бесперапынна тварыць усё новыя каштоўнасці бальшавіцкай інтэрнацыянальнай культуры.

# ПІСЬМЕННІКІ АДКАЗВАЮЦЬ КАМСАМОЛЬЦАМ-«КАМУНАРАЎЦАМ»

У «Літаратуры і мастацтве» быў надрукаваны ліст камсамольцаў завода «Камунар» да савецкіх пісьменнікаў. У гэтым лісце камсамольцы заклікаюць пісьменнікаў напісаць творы аб камсамоле, аб нашай моладзі. Сярод прозвішчаў вышэйназваных пісьменнікаў стаіць у лісце і маё імя. З гэтае прычыны я хачу сказаць некалькі слоў аб сваёй новай працы, аб рамане «Трыццаць год» (назва ўмоўная), які я здам у друк у гэтым годзе.

Для таго каб паўней даць у літаратуры вобраз нашай моладзі, трэба даць поўную карціну жыцця, увесь яго працэс, у якім расце і фармуецца наша моладзь. Мой новы раман — гэта раман аб моладзі; аб той моладзі, якая ў імперыялістычную вайну была ў гадах падросткаў, рэвалюцыю спаткала першым юнацтвам і ў наш час стаіць у шэрагах партыі. Такі Валодзя Кастрыцкі, адзін з галоўных персанажаў рамана. Такая Наталя Паўлоўская, работніца з завода. Такі Коля Высоцкі, хоць гэты прайшоў цяжкі шлях дробнабуржуазных хістанняў.

Ёсць у рамане тыпы і іншай моладзі. Гэта Клава Снацкая. Яна вырасла ў сям'і чалавека, які ўсё жыццё сваё выбіваўся ў капіталісты (Сёмка Фартушнік), калі яго туды не пускала большая птушка — Хурс, купец і прадпрыемец. І ён, нарэшце, стаў ручным Хурсавым сабакам, які шмат шкоды прынёс рэвалюцыі і які, пад старасць, у нашы ўжо дні, перавыхаваўся ў працкалоніі ДПУ. Клава Снацкая, будучы дачкою жонкі гэтага тыпа, ужо з самага маленства ўзненавідзела яго і ўсё тое жыццё, якое акружвала. Абставіны вялі яе да гэтага. Яна бачыла, як гэтае жыццёператварыла яе маці ў прадажную рэч. Але яна да самых, можна сказаць, нашых дзён не разумела Валодзі Кастрыцкага, Наталі Паўлоўскай, якія сваёю рэвалюцыйнаю дзейнасцю якраз знішчалі той жах, які засцілаў увесь жыццёвы далягляд Клавы Снацкай. Ясныя далягляды ў жыцці яна знайшла ў нашы часы ў сацыялістычнай працы.

Ёсць яшчэ персанаж — Міхал Піліпоўскі. Гэта той тып, якога ў часе партыйнай чысткі выкідаюць з партыі.

Гэта коратка аб найбольш цэнтральных і важных персанажах.

Я стаўлю сабе мэту паказаць праз гэты раман, як расла і фармавалася ў дзейных будаўнікоў сацыялізма наша моладзь; як, вырастаючы, яна ўдзельнічала ў рэвалюцыі і сама рабіла яе, змагалася за яе, якія мела дачыненні з варожаю рэвалюцыі буржуазнаю моладдзю; як лепшыя прадстаўнікі дробнабуржуазнай моладзі прыходзяць да рэвалюцыі — да ідэй сацыялізма.

Пачынаючы пісаць раман, я паставіў перад сабою задачу: каб ад усяе кнігі ішлі павевы бальшавіцкае праўды, якая, перабудоўваючы свет на сацыялістычны лад, знішчае назаўсёды той жах чалавечага жыцця, які панаваў на працягу ўсёй папярэдняй чалавечай гісторыі.

Наколькі ўсе гэтыя задачы мною вырашаны, можна будзе гаварыць пасля таго, калі кніга пройдзе суд грамадства.

# ПРА ПЛАНАВАСЦЬ ПРАЦЫ

Што такое планавасць у рабоце Аргкамітэта? Мы памылімся, калі будзем гэту планавасць уяўляць толькі як патрэбу вызначыць на пэўны час наперад пэўныя мерапрыемствы. Напрыклад, вызначыць і правесці пэўны лік творчых вечароў, пэўны лік пісьменніцкіх выездаў і г. д. Трэба, каб і гэтыя вечары і гэтыя выезды былі вынікам нейкай канкрэтнай патрэбы.

А гэтыя канкрэтныя патрэбы нашага літаратурнага руху мы будзем ведаць толькі тады, калі дасканала вывучым увесь наш літаратурны рух. Тут патрэбна крытычнае асмысленне ўсяе нашае літаратурна-мастацкае прадукцыі. І калі наш творчы штаб — аргкамітэт,— будзе дасканала ведаць творчы твар кожнага пісьменніка, ён здолее дапамагчы пісьменніку ў яго творчых патрэбах.

Якія ж гэтыя творчыя патрэбы? А гэта ўсё тое, без чаго пісьменнік не можа працаваць над сваімі творамі. Пісьменніку патрэбен матэрыял, каб напісаць кнігу. І патрэбна марксісцкая вучоба, каб умець арганізаваць гэты матэрыял. Трэба, значыцца, быць пісьменніку ў самай гушчы нашага жыцця, удзельнічаць у сацыялістычным будаўніцтве. Адсюль вынікае патрэба творчых камандзіровак пісьменніка. Але трэба планаваць гэтыя выезды так, як гэта дасць найбольш непасрэднай карысці таму, хто едзе ў гэтую камандзіроўку. Самае месца для паездкі павінна быць выбрана такое, якое дасць пісьменніку якраз той матэрыял, які патрэбен для яго вытворчых планаў. У аснову гэтага планавання трэба класці індывідуальны падыход да кожнага пісьменніка, маючы на ўвазе, што ўсе не могуць працаваць над адной тэмай, што ўсе неаднолькава ўладаюць адным і тым жа матэрыялам, што кожнаму патрэбен не адзін і той жа матэрыял. Адзін, напрыклад, добра ведае калгас, а не ведае завода, і наадварот. Адзін адчувае і ведае вобразы калгаснікаў, а не адчувае і не ведае вобразаў індустрыяльнага пралетарыята, і наадварот. І от, ведаючы найбольш слабое месца ў творчасці пэўнага работніка літаратуры, трэба памагаць яму ліквідаваць гэтыя слабыя месцы.

Бывае, што сам пісьменнік не заўсёды разбіраецца ў слабых і дадатных момантах свае працы. І калі пакідаць такога пісьменніка на самога сябе, дык гэта значыць не дбаць пра рост нашае літаратуры.

А ў нашай практыцы ёсць такія факты, што за ўвесь час літаратурнай работы некаторых пісьменнікаў не было сталага разгляду яго творчасці. Часам такі пісьменнік, здольны і працаздольны, блытаецца паміж рознымі стылямі, знаходзіцца ў палоне ўплываў буржуазных пісьменнікаў, сам не можа разабрацца ва ўсім гэтым, не маючы перад сабой крытычнага разгляду сваіх кніг.

Такіх з'яў не будзе ў нашай практыцы, калі мы перабудуем працу свайго творчага штаба — Аргкамітэта, так, каб гэтая праца стаяла на прынцыпе: *канкрэтна ведаць, што ў нас ёсць і чаго няма,* ведаць усе дэталі літаратурнага руху, асвоіць літаратурную справу. Перад намі тады будзе план, не выдуманы, а рэальны, складзены на аснове таго, што мы маем і што нам патрэбна.

У гэтым сэнсе вялікае значэнне маюць так званыя творчыя нарады. У нас адбыліся нарады па драматургіі, па дзіцячай літаратуры, па паэзіі. *На чарзе — нарада па прозе.* Нават калі гэтыя нарады і маюць у справе свайго правядзення шмат недахопаў, усё ж яны спрыяюць вывучэнню нашага творчага фронту. Толькі дрэнна будзе, калі яны астануцца толькі як пэўныя кампаніі і не пакладуць пачатак бесперапыннаму, сістэмнаму вывучэнню нашага росту, які ўсё шырыцца і мацнее з кожным днём. Гэты рост мы мелі б яшчэ большы, каб мелі план у сваёй рабоце — а значыцца, каб дасканала ведалі, што ў нас ёсць і што патрэбна. Мы гэта ведаем найбольш абстрактна, не вывучаючы часта «дробязей». А гэтыя «дробязі» часта многа значаць.

Мы цяпер перад з'ездам савецкіх пісьменнікаў. Тая актывізацыя ў рабоце, якая пачынае заўважацца, не павінна быць толькі перадз'ездаўскай кампаніяй. З'езд таксама не кампанія. Ён выцякае з сістэмы. Ён этап у лініі нашага творчага росту, у справе яшчэ большай актывізацыі савецкіх і пралетарскіх сіл літаратуры navакол задач, пастаўленых Камуністычнай партыяй.

Планавасць у рабоце Аргкамітэта мы наладзім толькі тады, калі ў самую працу навакол Аргкамітэта будзе ўцягнены ўвесь пісьменніцкі актыў. Але як? Толькі ў раз-

рэзе творчай работы. Я хачу растлумачыць гэта прыкладам.

За апошні час мне давялося прачытаць шмат твораў маладых аўтараў, якія толькі што пачынаюць пісаць. Большасць аўтараў яшчэ не маюць літаратурнае культуры, літаратурная вучоба яшчэ перад імі наперадзе. Шмат іхніх твораў ёсць толькі спробы літаратурнае творчасці; у іх, вядома, амаль што ўсе фармальныя прыёмы голыя, не закрытыя тым, што ўжо *ёсць літаратурная культура.* Таму тут усё з першага ж разу кідаецца ў вочы. Тут з першага ж слова відаць, дзе сапраўды аўтарава філасофскае дачыненне да рэчаіснасці, дзе яно ідзе ў разрэз з яго сапраўдным адчуваннем свету, а ёсць вынік яго начытанасці, кніжнасці, наследаванне тым пісьменнікам, якіх ён прачытаў, прасцей кажучы — літаратуршчына. І от такім парадкам, устанаўляючы сувязь паміж шмат якімі творамі маладых аўтараў і тымі творамі нашае літаратуры, залежнасць ад якіх у маладых аўтараў вельмі яскравая, мне сталі вельмі ясныя некаторыя моманты з нашае літаратурнае культуры. Я вельмі выразна адчуў у нашай савецкай беларускай літаратуры і павевы натуралізму, і сентыменталізму, і часам спробы растлумачыць праявы сентыменталізму як рамантызм і г. д.

Адзін аўтар хоча даць вобраз маладога рабочага, які цэлы дзень працаваў ля машыны на заводзе. Аўтар дае гэтага рабочага як прадстаўніка індустрыяльнага пралетарыята. І гэтага ж самага рабочага аўтар абкружае такімі вобразамі: «дрэва, як сваха, якая прыбралася на вяселле». Паколькі ўсё гэта не схавана за ўмелы збор слоў, фраз, папярэдніх вобразаў, дык адразу шмат што растлумачыла. У мяне адразу сфармулявалася тое, што дагэтуль я толькі адчуваў у практыцы нашага літаратурнага фронту. Я мог канкрэтна, на прыкладах нашае літаратуры, а не ў агульнай тэорыі, вывесці залежнасць фармальных прыёмаў і вобразаў ад светапогляду. Я зноў успомніў, што ў маёй рэальнай творчасці, якая ішла ад ідэалістычнага светапогляду, хаты не проста стаялі, а думалі.

Такім парадкам чытанне твораў маладых аўтараў уключылася ў працэс мае літаратурнай работы, і праца з гэтым маладым аўтарам становіцца маналітнаю часткай мае ўсяе працы.

***Усялякую пісьменніцкую працу наш штаб творчасці — Аргкамітэт,— павінен планаваць як адзіны творчы***

*працэс.* І паездкі, і работа з кадрамі, і ўсялякія кампаніі павінны быць гэтак спланаваны, каб былі часткаю творчага працэсу пісьменніка.

Умела і вельмі канкрэтна мы павінны расставіць навакол Аргкамітэта сілы ўсяго пісьменніцкага актыву, бесперапынна павялічваючы гэты актыў. Кожнаму трэба даць канкрэтную работу, каб ён за яе адказваў. Але трэба, каб гэтая работа стала часткаю яго творчай работы, каб яна толькі ўзбагачала працэс яго творчасці, пашырыла размах яе.

У літаратурны рух мы павінны ўнесці планавасць і назаўсёды расквітацца з абязлічкай.

# ПРАЦУ З КАДРАМІ — У ТВОРЧЫ ПЛАН

Наш літаратурны фронт павінен бесперапынна папаўняцца новымі сіламі. Працэс падрыхтоўкі кадраў павінен бесперапынна адбывацца ў нашым літаратурным руху. Нам патрэбна многа новых маладых, здаровых літаратараў. Літаратараў-бальшавікоў. Перад нашай літаратурай вялікія задачы і не меншыя магчымасці і перспектывы. І чым вышэй мы ўзнімаемся, чым больш з кожным днём расцём, тым шырэй вырысоўваюцца перад намі нашы перспектывы і магчымасці, тым больш цвярдзей паўстаюць перад намі нашы задачы і тым больш мы адчуваем патрэбу моцнага прытоку новых літаратурных сіл. Стварэнне ў літаратуры жывых вобразаў бальшавіцкай эпохі — гэта справа такая ж вялікая, як і неабходная, і гэтая справа вымагае бесперапыннай кожнадзённай працы вялікага ліку людзей. Пра ўзмацненне новымі сіламі гэтага працаздольнага актыву і павінен заўсёды дбаць наш Аргкамітэт, а разам з тым і кожны пралетарскі, савецкі пісьменнік.

Выхаваўчая работа з заклікаными ў літаратуру ўдарнікамі, маладымі аўтарамі — гэта ёсць адна з самых галоўных галін працы Аргкамітэта, і ў гэтай рабоце не могуць не ўдзельнічаць усе савецкія пісьменнікі.

Маладыя аўтары ідуць у нашу літаратуру найбольш з заводаў і калгасаў. Гэта асноўнае і пераважнае ядро ў прыліве маладых сіл на літаратурны фронт. Гэтыя людзі самі ўдзельнікі сацыялістычнага будаўніцтва, ім даскапала знаёмы працэс сацыялістычнай вытворчасці, яны маюць багаты вопыт у гэтай вытворчасці. Яны глыбока ведаюць канкрэтных людзей — работнікаў заводаў і калгасаў. Многія з іх удзельнікі партыйнай і савецкай кіраўнічай работы. Ім самім у сваёй кожнадзённай рабоце шмат даводзілася і даводзіцца мець практычнага дачынення да ўсялякіх людзей і спраў. Іначай кажучы, яны маюць вялікі матэрыял для свае літаратурнае работы, здабыты імі сваёю ўласнаю практыкаю. А гэта самае важнае ў работніка літаратуры.

Уладаючы багатым матэрыялам, маладыя аўтары не маюць яшчэ ўмельства літаратурнае арганізацыі гэтага матэрыялу. І перад Аргкамітэтам задача — зрабіць з мала-

дых аўтараў майстроў літаратуры. Бо натуралістычная падача матэрыялу, хоць сабе і пісьменная, яшчэ не ёсць літаратурная творчасць. Маладым аўтарам трэба вучыцца з сырога матэрыялу рабіць літаратурныя творы. Гэта аснова, гэта ясна і, можа, пра гэта не трэба было б успамінаць, каб не той факт, што некаторая частка маладых аўтараў мае імкненне падаваць самы матэрыял без усялякага творчага вымыслу, без творчае фантазіі. І вельмі часта гэтая падача матэрыялу ішла ў друк пад назваю «нарыс», а калі гэта мела большыя памеры, аўтар называў гэта «аповесць». Бывалі такія выпадкі, што гэта прымалася як дадатны факт, а значыцца, выхаваўчае работы з аўтарам не вялося. Аналагічныя з'явы здараліся і ў паэзіі.

Па-мойму, работу з маладым аўтарам трэба пачынаць з таго, што ўжо з самага пачатку ставіць перад ім праблемы творчага вымыслу, творчае фантазіі.

Што гэта значыць?

Гэта значыць, перш за ўсё, што трэба вучыць маладога аўтара абагульняць факты і рабіць з іх пэўныя філасофскія вывады. Аўтар, напрыклад, ведае добра матэрыял, з якога можна зрабіць літаратурны твор. Матэрыял гэты аўтар прынёс з завода, з калгаса. Разам з тым, трэба ставіць перад аўтарам задачу бачыць падзеі за заводам, за калгасам. І чым шырэйшы будзе той круг, на якім заўважаюцца аўтарам гэтыя падзеі, тым большы будзе рост аўтара. І трэба вучыцца аўтару канцэнтраваць падзеі з шырокага круга ў адзін пункт, які і ёсць літаратурны твор.

Без філасофскага асмыслення падзей будзе толькі механічнае злучэнне фактаў. І мы павінны нашу работу з маладымі аўтарамі праводзіць «у філасофскім плане» — гэта значыць у плане станаўлення марксісцкага светапогляду маладога пісьменніка. Без гэтага наш аўтар не навучыцца майстэрству.

У гэтай кожнадзённай вучэбнай рабоце павінна канцэнтравацца практыка ўсяго актыву савецкіх пісьменнікаў. Гэта павінна быць адна лінія работы на адным вялікім фронце, на якім расстаўлены і «старыя», і «маладыя» пісьменнікі, і пісьменнікі з творчай практыкай, і пісьменнікі пачынаючыя. Урэшце гэта можа быць агульная вучоба.

Уласна кажучы, я выразна не бачу той мяжы, па адзін бок якое стала б праца з маладым аўтарам, а па другі — творчая работа самога пісьменніка. Нам трэба знайсці такія формы работы, якія б выхаванне кадраў зрабілі б не-

адлучнаю часткаю творчага працэсу ўсяго пісьменніцкага калектыву. Хіба наш пісьменнік аддзяляе сваю ўласную вучобу ад свае кожнадзённае працы над напісаннем твораў? Не, гэтага падзелу нельга зрабіць. Так жа сама мы павінны паставіць працу і з кадрамі, не ўзвальваючы гэту вялікую справу толькі на пэўную частку аргкамітэтаўскага апарата.

У нас ёсць кабінет ударніка, які як належыць яшчэ не працаваў. Чым павінен быць гэты кабінет? Ён павінен быць такою лабараторыяй, дзе б маладыя аўтары вучыліся пісаць літаратурныя творы. У гэтай лабараторыі павінна быць сканцэнтравана праца з маладымі аўтарамі ўсіх савецкіх пісьменнікаў. Але для гэтага трэба вялікая ўвага да гэтае лабараторыі з боку самога Аргкамітэта.

І ўрэшце — пра нашу пісьменніцкую абломаўшчыну ў справе працы з маладымі аўтарамі. Яна ёсць, гэтая абломаўшчына, што тут таіцца. Яе трэба вырваць з усімі яе карэннямі. Але як? Перш за ўсё яе трэба знішчыць на ўсім літаратурным фронце, а яна часамі ўсюды трапляецца. А па-другое, калі гаварыць пра актывізацыю пісьменнікаў у працы з кадрамі, дык тут трэба гэту пісьменніцкую актывізацыю паставіць у літаратурна-творчы план, а не ў план арганізацыі літгурткоў. Найбольш гэта справа прафсаюзных арганізацый. А пісьменнікаў трэба выкарыстаць па спецыяльнасці. Толькі паставіўшы пісьменніка ў план творчай работы з маладымі аўтарамі, можна як належыць актывізаваць яго ў гэтай справе.

Мінулаю вясною мне даводзілася знаёміцца з працаю літгурткоў у Бабруйску. Працы там ніякае не было, і ні адна арганізацыя пра гэта не думала. Здаецца, тое самае там і цяпер.

Калі можа добра працаваць кабінет ударніка? Тады, калі па-за кабінетам будзе наладжана праца літгурткоў, калі, так сказаць, будзе стварацца аўдыторыя для самога кабінета.

З самага апошняга прыходу ў літаратуру маладых аўтараў можна назваць такія імёны, як Краўчанка, Бірыла, Лагвіновіч, Румянка, Паўлоўскі. Гэтыя празаікі пачалі выяўляцца толькі за гэты год. Але гэтае «выяўленне» адбылося выпадкова, самацёкам. Гэтыя маладыя празаікі пачынаюць друкавацца. Мы маглі б выявіць здольных людзей значна больш, каб працу з імі ўвялі ў сістэму кожнадзённае свае працы. І гэта наша першачарговая задача.

# НАША МОВА ДАСЯГНУЛА ВЯЛІКАГА РОСКВІТУ

Пастанова СНК БССР аб рэформе беларускага правапісу ёсць вынік вялікага росту беларускай савецкай культуры. Рэформа беларускага правапісу не магла не адбыцца, бо ў маналітнасці з вялікім ростам усяе краіны, ростам гаспадарчым і культурным, вырасла, развілася, набыла больш высокія і складаныя формы і наша мова. Чым ніжэй культура, тым прымітыўней і мова. У БССР за часы рэвалюцыі, за часы сацыялістычнага будаўніцтва зусім змянілася жыццё, склаліся новыя формы грамадскіх узаемаадносін, і ўсё гэта развіло нашу мову, узбагаціла яе.

Тут справа не толькі ў тым, што ў мове з'явіліся новыя словы з прычыны прыходу ў жыццё новых рэчаў. Тут справа яшчэ і ў новых кірунках фразеалогіі. У нас склалася і развіваецца далей новая мова, адпаведная новаму грамадству. Мова гэта развіваецца шпарка і спрыяць гэтаму развіццю — задача ўсіх культурных работнікаў, асабліва работнікаў слова. Гэтая жывая мова, выходзячы з багатых крыніц нашай савецкай рэчаіснасці, павінна быць з усёй адказнасцю зафіксавана формаю літаратурнае мовы ў нашай савецкай літаратуры.

Гэты працэс далейшага развіцця і ўдасканалення ў новым кірунку нашай літаратурнай мовы — працэс натуральны, неабходны і здаровы. Пастанова ўрада аб рэформе правапісу грунтуецца якраз на прынцыпах гэтага працэсу культурнага развіцця мовы. Пастанова ўрада вызначыла асноўныя кірункі, па якіх павінна ісці далейшая праца над мовай. Фармаванне літаратурнай мовы павінна ісці з крыніц жывой, сапраўды народнай мовы, мовы нашай савецкай рэчаіснасці — мовы мільёнаў пралетарыяту і калгаснікаў. І калі мы параўнаем нашу літаратурную мову з гэтай сапраўды народнай моваю, мы ўбачым, як наша сучасная літаратурная мова засмечана элементамі старой аджытай мовы — элементамі мовы феадальнай, мовы сярэдневяковых замкаў, мовы эксплуататарскіх класаў. У гэтым кірунку шмат папрацавалі ў свой час нацдэмы, хоць іхняе «мовазнаўства» і не мела нічога агульнага з сапраўднай навукай, аднак яны з няўхільнай паслядоўнас-

цю праводзілі лінію на спыненне развіцця мовы ў савецкім кірунку і на застыгласць мовы ў штучна створаных формах, крыніцы якіх яны знаходзілі ў мове феадалізма. Гэта ўсё зусім свядома накіроўвалася нацдэмамі на барацьбу з Савецкай уладай у мэтах інтэрвенцыі, у мэтах адрыву Савецкай Беларусі ад Савецкага Саюза.

Савецкую рэформу беларускага правапісу заходне-беларускія фашысты спаткалі выццём і гвалтам, што і зусім нармальна. Было б ненармальна, каб яны хвалілі пастановы Савецкага ўрада. Мільённыя працоўныя масы ў Савецкай Беларусі ідуць да вялікай культуры. Мы маем вялікі росквіт гаспадаркі. Беларускія гарады, да рэвалюцыі больш падобныя на глухія мястэчкі, ператварыліся цяпер у буйныя індустрыяльныя цэнтры. Мы маем вялікі росквіт літаратуры, тэатральнага мастацтва. І чым больш развіваецца наша культура, тым больш самы ўжо гэты факт набліжае гібель фашысцкай нацдэмаўскай беларускай «культуры», той «культуры», якая сапраўды і не культура, і не навука, а лакейства перад усімі чорнымі сіламі капіталістычнай Еўропы.

Недабітая нацдэмаўшчына ў нас таксама злосна шэпчацца наконт рэформы правапісу. Тут таксама справа ясная. Калісьці была на Палессі прыказка, якую нацдэмаўскія пісьменнікі любілі часта карыстаць у сваіх творах:

— Ты што за чалавек?

— Я не чалавек, а пінчук.

Да такой самавольнае страты сваёй чалавечай годнасці мог дайсці чалавек толькі пад страшнай эксплуатацыяй, пад уціскам, ва ўмовах голаду і холаду, ва ўмовах жабрацтва. Ды ўрэшце і пан і чыноўнік бедняка-селяніна і батрака за чалавека ніколі не лічылі.

Які кантраст з савецкай рэчаіснасцю. У нас пачынаецца пара бяскласавага грамадства. У гэтым грамадстве на пытанне — хто ты? — кожны кажа толькі адно — чалавек.

Вось да якога росквіту чалавечай асобы мы ідзём. І от як змяняецца мова і які новы сэнс яна набывае, гэта мова новага сацыялістычнага чалавецтва, дзе няма ні «палешукоў-пінчукоў», ні іхняга голаду і бяспраўя, ні паноў, ні падпанкаў, а ёсць толькі чалавек, вольны ад усялякага прыгнечання, а значыцца — тут зліццё ўсіх народаў. Гэты інтэрнацыяналізм і непакоіць нацдэмаў, бо ён нямыслім ва ўмовах буржуазнага грамадства. Нацдэмы плачуць аб той «самабытнасці» беларуса, калі ён быў «не чалавек» і яго

можна было эксплуатаваць беларусу з хутара або з маёнтка. Адміранне «самабытнага» «я не чалавек, я — пінчук» — азначыла гібель эксплуатацыі, надыход тае пары, калі і пан Луцкевіч, і пан Астроўскі страцілі свае маёнткі, фальваркі і ўсю сваю панскую годнасць. Лепш жа беларускаму пану і яго падпанку разам з хутаранцам і гарадскім купцам, і купчыкам панаваць над бедняком, які нават «не чалавек».

Былы «не чалавек» цяпер у БССР робіць агульначалавечую бальшавіцкую справу. Беларускія тэатры грымяць на ўвесь Савецкі Саюз. Беларуская савецкая літаратура даўно пакінула за сабой рамкі этнаграфізма, яна ставіць і распрацоўвае ўсясветныя праблемы.

Савецкая Беларусь стала перадавой калгасна-індустрыяльнай рэспублікай. А на Пінскім Палессі «не чалавек, а пінчук» ірвецца з няволі і глядзіць на Савецкі Саюз.

Наша мова дасягнула вялікага росквіту. Ёй было цесна ў рамках старога правапісу. Мы маем новы правапіс, які ставіць перад намі задачы далейшай працы над новай беларускай мовай, над ачышчэннем літаратурнай мовы ад архаізмаў, над развіццём мовы ў кірунку інтэрнацыяналізма.

Сучасная руская мова ў дачыненні да рускай мовы часоў Пятра Вялікага або Карамзіна — што гэта, прагрэс ці рэгрэс?

Рашуча змагаючыся і з нацдэмамі, і з вялікадзяржаўнікамі, з вульгарызатарамі,— мы паскорым прагрэс сваёй мовы.

## ПАВЫСІЦЬ ЛІТАРАТУРНУЮ ТЭХНІКУ

Самае важнае для работніка літаратуры і драматургіі, гэта аўладанне тэхнікай свае справы. Бо задача нашае літаратуры і тэатра ёсць: праводзіць у жыццё вялікія ідэі сацыялізма, будаваць сацыялізм. Гэтую вялікую задачу літаратура выканае толькі тады, калі яна будзе стаяць на вялікай ідэйнай вышыні і мець не меншую дасканаласць фармальную.

Я буду шчаслівы, калі ў маіх новых работах ёсць адзнакі працы ў гэтым кірунку. Закончыў я раман «Трыццаць год» і п'есу «Наталя Паўлоўская» (назва п'есы ўмоўная). Працую над п'есай «Замілаванне і нянавісць».

# МАЛАДЫЯ ПРАЗАІКІ

У гэтым альманаху надрукаваны творы маладых празаікаў. Некаторыя з гэтых імён (А. Туманскі, С. Шаўцоў) ужо вядомы ў друку, некаторыя (Т. Бірыла, С. Паўлоўскі і інш.) друкуюцца першы раз. З жанравага боку — мы тут спатыкаем апавяданне, нарыс, аповесць (урыўкі з аповесці С. Шаўцова).

Тут надрукаваны чатыры закончаных апавяданні. У рэдакцыйных матэрыялах, адкуль рэдакцыя выбірала творы для гэтага альманаха, найбольш ёсць апавяданні. Гэта трэба расцэньваць як дадатную з'яву, па-першае, таму, што апавяданне і навела самі па сабе надзвычайна цікавы жанр і вельмі патрэбны ў савецкай літаратуры; па-другое,— гэты жанр вымагае бадай больш, як так званае «вялікае палатно», самае карпатлівае работы над найдрабнейшымі дэталямі ўсіх кампанентаў твора, а гэта ўжо само па сабе ёсць добрая школа для аўтара; па-трэцяе, самы факт таго, што маладыя аўтары бяруцца за складаны літаратурны жанр, ужо сведчыць аб росце маладога аўтара.

Гэтым апошнім я хачу сказаць от што. Быў час, што найбольш маладых аўтараў пачыналі сваю літаратурную працу з нарыса. Часамі гэта нават рэкамендавалася. Гэта, перш за ўсё, зніжала самы нарыс як жанр, зводзіла яго на нейкую ніжэйшую ступень, праз якую трэба пераступіць, ідучы ў старэйшую літаратурную групу. Пасля — гэта адразу ўжо ўводзіла аўтара ў план найменшага развіцця творчае фантазіі. Чаму? Хіба нарыс не ёсць такі жанр, дзе патрэбна творчая фантазія? Хіба нарыс сапраўды-такі ніжэйшы жанр, які не стаіць на лініі творчасці? Не. Успомнім нарысы Глеба Успенскага, М. Горкага, іх нарысы — гэта класічныя літаратурныя творы. Але справа ў тым, што ў нас часта разумелі нарыс, як толькі натуралістычную падачу фактаў, якія аўтар наглядае. Хоць гэтая падача фактаў ішла па лініі пэўнай ідэі, аднак жа яна не спрыяла развіццю творчае фантазіі аўтара. А работу з маладым аўтарам, па-мойму, трэба пачынаць з таго, што адразу ўжо будзіць у ім творчую фантазію, накіроўваць яго на творчы вымысел. А для гэтага і нарыс трэба паста-

віць у шэраг усіх іншых жанраў, які мае сваю спецыфіку, таксама як і раман ці навела вымагае вялікіх ідэйных абагуленняў.

Свае творы нашы маладыя аўтары пішуць на сучасным матэрыяле. Гэты матэрыял яны добра ведаюць. І літаратурная вучоба маладых аўтараў павінна ісці па лініі набыцця ўмельства літаратурна аформіць гэты матэрыял, зрабіць з яго літаратурны твор. А для гэтага аўтар павінен развіваць у сабе творчую фантазію, ісці на мастацкі вымысел. Гэты вымысел — рэальны вымысел. І сутнасць яго ў тым, што аўтар падае факты, з'явы, вобразы, характэрныя і тыповыя, але сабраныя не з аднаго толькі завода ці калгаса, а сканцэнтраваныя ў творы з самага шырокага круга. Пры гэтым факты самыя цікавыя і характэрныя. Аўтар выходзіць за межы свайго толькі завода ці калгаса. Ён у сваім мысленні стварае падзеі, канцэнтруе іх у вузел. Гэтыя падзеі маюць сваіх прататыпаў у жыцці або, калі не маюць дакладнага свайго прататыпа, ці калі аўтар не бачыў яго, дык усё ж гэтыя падзеі ёсць рэальныя. Гэта значыць, што на аснове законаў гісторыі, законаў свету яны могуць быць.

Сваім героям — тым людзям, якія дзейнічаюць у творы, аўтар павінен стварыць такія сітуацыі, дзе б героі маглі сябе найбольш выявіць, самі паказаць сябе, без аўтарскіх тлумачэнняў.

Фантазія аўтара будзе ствараць цікавыя і філасофскі правільныя вымыслы толькі тады, калі аўтар будзе ведаць, як і што павінен рабіць у дадзеным выпадку яго герой. Для гэтага трэба «набываць практыку» — глыбока вывучаць жыццё і ўмець з паасобных з'яў жыцця рабіць правільныя вывады. А без марксісцкага разумення свету пісьменнік не можа даць правільнага тлумачэння ўчынкам людзей, з'явам і падзеям. Адгэтуль вывад адзін: творчая вучоба маладога (гэтак як і кожнага) пісьменніка, авалоданне тэхнікай літаратурнае работы павінна ісці пад знакамі марксісцкага мыслення, пад знакам вывучэння марксізма-ленінізма.

У гэтым сэнсе і мысліцца намі літаратурнае майстэрства: умець, на аснове рэальных фактаў і правільнага іх разумення, «выдумаць» і звязаць у адзін вузел такія падзеі, якія б адабразілі ў сабе тыя з'явы ў жыцці, з якіх яны «спісаны-выдуманы». Але гэта павінна быць зроблена для таго і так, каб той, хто чытае кнігу, так сказаць, пера-



Янка Купала і Кузьма Чорны сярод удзельнікаў радыёмітынгу прадстаўнікоў беларускага народа. 1942.

жывае гэтыя з'явы нанава, зрабіў дакладныя з іх вывады. Тады, калі ў жыцці не кожны мог бы з гэтых самых з'яў зрабіць вывады такія, якія ўжо зрабіў аўтар і зрабіў з такой пераканальнай праўдзівасцю і з такім агнём, які б абуджаў бы ў чытача імкненне да дзейнасці ў кірунку той ідэі, якая пакладзена ў аснову твора.

Для гэтага мабілізуюцца ўсе мастацкія сродкі аўтара. Для гэтага павінна ісці ўпартая праца над усімі кампанентамі твора.

У гэтым альманаху надрукован нарыс У. Козляка «Вынаходцы». У гэтым нарысе расказваецца пра тое, як малады рабочы ў мэтах рацыяналізацыі вытворчасці ўдасканаліў машыну. У часе працы на заводзе ён вывучаў машыну, рабіў чарцяжы ў сваім блакноце, захапляўся гэтаю справаю так, што нават забываў пайсці на канцэрт у клуб. Нарэшце ўначы, дома, пры дапамозе свайго таварыша, вынаходства было зроблена. Тут рэальныя факты, пададзеныя праўдзіва. Але яны творчай фантазіяй аўтара не ўзведзены на ступень такога літаратурнага твора, дзе б той самы малады рабочы паказаў сябе, як жывога, каб перад намі быў паўнакроўны вобраз рабочага-рацыяналізатара.

Калі аўтар не мог знайсці на сваім заводзе прататыпаў для адпаведных сітуацый, у якія варта было б паставіць героя, трэба іх «выдумаць» на аснове рэальнага вывучэння жыцця і працы рабочага калектыву. Герой мог бы спаткацца, скажам, з перашкодамі, або, наадварот,— з такою дапамогаю, якая б абудзіла ў ім думкі пра новыя дэталі ў вынаходніцтве. У гэтую справу мог быць умешаны другі чалавек, які, скажам, нядаўна паявіўся ка заводзе. Паміж гэтым чалавекам і рабочым-вынаходцам маглі, скажам, раней быць нейкія дачыненні, якія цяпер аднавіліся, і гэта ўсё так ці інакш уплывае на працу героя ў справе вынаходства. Гэта гаворыцца для прыкладу таго, што пісьменніку няйначай трэба развіваць у сабе творчую фантазію.

У гэтым сэнсе цікавае апавяданне «Старая дошка». Тая рэдакцыйная праўка, якая тут ёсць, ішла па той лініі, якую вызначыў аўтар. Гэта лінія — псіхалагічнай эвалюцыі старога калгасніка, які, працуючы ў калгасе, зменьвае свае погляды, настроі, зжывае з сябе, так сказаць, псіхалагічную спадчыннасць старога жыцця. Тут аўтар якраз пайшоў па лініі творчай фантазіі.

Значную працу правяла рэдакцыя альманаха з аўтарам апавядання «Знаёмы чалавек». Рэдакцыя дамагалася ад аўтара сюжэтнай сцісласці і закончанасці. Аўтар працаваў над гэтым апавяданнем пад наглядам рэдакцыі.

Апавяданне «Памылка» сведчыць аб умельстве аўтара (С. Пінчука) працаваць ужо зусім самастойна. Гэты аўтар у шэрагу маладых пісьменнікаў стаіць ужо досыць высока.

Гэтае ж самае трэба сказаць пра аўтара аповесці «Дзеці вуліцы» С. Шаўцова, урыўкі з якое тут надрукаваны, і пра А. Туманскага — аўтара апавядання «Макар-абібок».

С. Шаўцоў даўно ўжо вядомы ў друку як аўтар нарысаў і апавяданняў. Аповесць «Дзеці вуліцы» (яшчэ зусім не скончаная) цікава, па-першае, сваёю тэматыкаю. Яна напісана на тэму: як беспрытульныя дзеці становяцца на шлях выхавання і ўключэння ў шэрагі будаўніцтва сацыялізма. У першых раздзелах аповесці аўтар паказвае карэнні беспрытульнасці: вайна, акупацыя, народныя бядоты, голад, беднасць, смерць бацькоў ад усіх гэтых прычын. Пасля — самое беспрытульніцтва. І от тут, у гэтых наступных раздзелах, аўтару трэба працягнуць лініі сувязі жыцця беспрытульнікаў з тымі працэсамі жыцця краіны, якія ўрэшце прыводзяць да знішчэння ўсялякай беспрытульнасці. Адсутнасць гэтага — адзін з галоўных недахопаў нават і гэтых раздзелаў, што надрукаваны ў гэтым альманаху. С. Шаўцоў здольны аўтар. Ён уладае для свае творчасці цікавым і канкрэтным матэрыялам. У яго ёсць здольнасці двума-трыма штрыхамі даць вобраз, нарысаваць лінію характару. У яго ёсць фантазія, ён смела ідзе на мастацкі вымысел. Дапрацоўваючы гэтую аповесць, яму трэба будзе працаваць над адборам толькі тыповых дэталей, над сюжэтнай стройнасцю і заканамернасцю, чаго яшчэ бракуе аповесці.

Апавяданне А. Туманскага «Макар-абібок» напісана ў сатырычным плане — у плане высмейвання гультайства і абломаўшчыны. Ужо самая стылістыка апавядання накіроўвае чытача ў план кпін з Макара-абібока. Гэты прыём паказвае, што аўтар ужо свядома стараецца паставіць на службу ідэі кампаненты твора. Што гэта не выпадкова, а зусім свядома ў аўтара, гаворыць той факт, што ранейшае яго апавяданне «Няскончаная аповесць», якое было надрукавана ў № 3 часопіса «Заклік», не ідучы ў пла-

не сатыры, напісана зусім іншымі стылістычнымі прыёмамі.

«Ветрык, мякка-ваўняны, чуць-чуць калыхаў паветру сыраватую». «Іскрынкамі-лункамі пабліскваe электрычная лямпачка». «Шыр паднябесная раскінулася неабмерна-шырокая; поле, ой, поле — дываном белым заслана».

Гэта ўзоры стылістыкі ў адным апавяданні. Гэтыя «ветрыкі мякка-ваўняныя», гэтыя «іскрынкі-лункі», гэтае — не проста поле, а «поле, ой, поле» — усё гэта акружвае Макара-гультая, абібока, прагульшчыка. Яго цягне спаць пад хвойкаю. Яго цягне не да працы, не да дзейнасці, а да санлівага наглядання гэтых «хвоек, хвоечак, сонейка, поля, ой, поля». Гэтая саладкавасць, сентыментальнасць гучыць, як іронія.

Фразы ў аўтара маюць кірунак да старадаўняга сялянскага сказа. Напрыклад, «вісела кайстра чорная», «памацае макраватаю лапаю за сцены сухія» (замест «чорная кайстра», «за сухія сцены». «Вецер, мякка-ваўняны, чуць-чуць калыхаў паветру сыраватую». «Шкадавала сына свайго шалаўлівага, распуснага».

Успомнім старую народную легенду: «Братец Иванушка и сестрица Аленушка». Там гаворыцца: «Точат мечи булатные» (Іванушку рэзаць). І гэтакая стылістыка адпавядае зместу, адпавядае светапогляду таго асяроддзя і таго часу, у якім была створана гэтая казка. Гэта ўзор злітнасці формы са зместам.

Але што было б, каб мы механічна запазычылі гэтую форму і перанеслі яе на змест нашае савецкае пралетарскае літаратуры? Напрыклад, так форму фразы — «Точат мечи булатные» — перанеслі ў фразу з іншым зместам: «ужываюць угнаенні суперфасфатныя» або — «камбайны звышмагутныя — ой, наша база індустрыяльная!»

Мы бачым, як некрытычнае засвойванне, механістычнае перанясенне формы ў чужы ёй змест гучыць больш чым смешна. І гэта павінны ведаць маладыя аўтары і засвойваць спадчыну крытычна. (Гэта таксама трэба памятаць і некаторым нашым немаладым пісьменнікам, у якіх маладыя аўтары вучацца).

Прыйшлося спыніцца на гэтым таму, што апавяданне А. Туманскага ў значнай ступені ўдала выкарыстоўвае старую форму. Гэта літаратурны прыём, і тым больш гэта каштоўна, што гэта зрабіў малады аўтар, неспрактыкаваны яшчэ ў складанасці літаратурных прыёмаў.

Падбіраючы для гэтага альманаха мастацкую прозу, рэдакцыя мела на ўвазе падабраць гэтакія творы, якія б давалі ўзоры розных літаратурных прыёмаў, якімі так ці інакш вызначылі, ці спрабуюць вызначыць сябе маладыя аўтары. Пры рэдагаванні твораў рэдакцыя старалася захаваць і развіць лінію індывідуальнай асаблівасці кожнага аўтара. Чым яскравей будуць вызначацца гэтыя індывідуальныя асаблівасці пісьменніка, тым цікавей будзе яго творчасць.

## ПИСАТЕЛЬ ПИСАТЕЛЮ — БРАТ

Я задумал цикл романов, причем возможно, что, по мере работы, некоторые романы будут превращены в пьесы. Цикл этот должен охватить период времени с момента выхода пролетариата как класса из подполья на арену истории до момента построения в нашей стране бесклассового общества. Все романы вместе составят как бы последовательный исторический цикл произведений.

Роман, над которым я начал уже работать — «Зребное полотно»,— охватывает эпоху конца империалистической войны, начало революции и гражданской войны. В книге будет показана судьба трех братьев, пути которых расходятся в силу разности их мировоззрений: в ходе исторических событий они примыкают к различным классам.

Разработан уже и план романа «Люция Невада», который будет состоять из трех частей.

Фабула первой части романа построена на столкновении обострившихся капиталистических собственнических инстинктов, приведшим к гибели крестьянскую семью. Во второй части будет дано психологическое раскрытие образов двух мальчиков-сирот, оставшихся после развала одной крестьянской семьи и с детства попавших в разные условия жизни, под влиянием которых складывалась различная, чуждая одна другой психология каждого мальчика. Третья часть романа посвящена проблеме наследственности.

Уже написан роман «Тридцать лет». События, описанные в романе, происходят в наши дни, но первая часть романа является как бы вводом к этим событиям; в ней дан период от довоенного времени до конца гражданской войны.

Вот над чем я теперь работаю. Раньше иногда возникала мысль, что мои работы не получат достаточного резонанса, что дальше пределов Белоруссии они не пойдут. Во время работы не было ощущения, что пишешь в Минске, а прочтут везде, не было того ощущения, которое счастливо сопутствует работе русских писателей. Оторванность, изолированность от русских, украинских, армянских чита-

телей, территориальная замкнутость — вот что мешает. Ведь когда пишешь какую-либо вещь, то в основу ее кладешь не тот или иной образ, не то или иное событие, а определенную проблему, которая в рамках национальной формы должна перерастать в социалистическое содержание. Типы, носящие белорусские имена, взятые из белорусской жизни, должны стать обобщенными образами, понятными всем национальностям. «Поднятая целина», написанная о Кубани, рассказывающая о событиях и людях местного колхоза, с одинаковой силой звучит и на Урале, и на Северном Кавказе, и в центре Союза, и в Белоруссии, и в УССР — всюду и везде, где актуальна проблема коллективизации и классовой борьбы в деревне. В этом смысле я и упомянул о резонансе своих вещей.

В большинстве случаев все мы владеем русским языком, а кто, кроме белорусов, знает наш язык? Возникает, таким образом, проблема перевода наших произведений. Нужно, чтобы за перевод взялся писатель, близкий к творческому методу переводимого автора. Но как такой писатель (желательный переводчик) может заинтересоваться вещью, если он, допустим, совершенно не знает белорусского языка? Получается замкнутый круг.

Как же найти из него выход? Нужно создать действенную творческую взаимосвязь писателей разных республик. Не официальную, декларативную связь, выражающуюся во взаимных признаниях на пленумах и съездах. Мыслится мне подлинный, теплый интерес писателей к писателям братских республик. Проблема перевода будет стоять до тех пор, пока у писателей и критиков не появится настоящего интереса к тому, что делают их товарищи по перу из нацреспублик.

Всесоюзный съезд писателей должен внести перемену в эти наши отношения.

Недавно у нас была бригада московских писателей. Этот приезд московских товарищей сделал большое дело. Завязались личные знакомства, связи. Рассеиваются ощущения замкнутости, национальной ограниченности. Наша задача — до конца искоренить эту национальную ограниченность, следы которой еще часто ощущаются в нашем литературном движении. Задача русских товарищей — помочь нам в этом.

# НЕКАЛЬКІ ЗАЎВАГ ДА ВУЧОБЫ ПАЧЫНАЮЧЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ

У літаратурных работах нашых маладых аўтараў, не толькі тых, якія за апошні час ужо ўвайшлі ў літаратуру, а і тых, што толькі пачынаюць уваходзіць у літаратуру,— ужо можна вельмі выразна заўважыць так ці інакш выражаныя фармальныя кірункі або адзнакі пэўных фармальных кірункаў. Я тут разумею наяўнасць у кожнага аўтара пэўных прыёмаў распрацоўкі аднае і тае ж тэмы ў кірунку да рэалізацыі аднае і тае ж ідэі. Пра больш маладых аўтараў, зусім пачынаючых, можна сказаць, што ў іх льга заўважыць адзнакі тых будучых фармальных кірункаў, да якіх яны могуць быць бліжэй. Вядома, тут гаворыцца пра такіх пачынаючых аўтараў, першыя работы якіх сведчаць пра тое, што пры належнай працы з імі яны ўвойдуць у нашу савецкую літаратуру як добрыя літаратары.

Выхаваўчую працу з імі трэба праводзіць так, каб захаваць і развіць іх аўтарскія індывідуальнасці, выхаваць з іх моцныя і яркія пісьменніцкія індывідуальнасці.

З маладых празаікаў, якія ўжо выявіліся і выяўляюцца, можна назваць т.т. Краўчанку, Лагвіновіча, Манцэвіча, Марчанку, Пінчука, Ермаловіча, Шырокага, Бірылу, Левановіча, Туманскага, Пашуту, Шаўцова, Козляк і інш.

Можна сказаць, што, як правіла, нашы маладыя аўтары пішуць свае творы на сучасным матэрыяле. Літаратурная кваліфікацыя, умельства літаратурна аформіць матэрыял у маладых аўтараў неаднолькавае. Можна назваць т.т. Краўчанку, Ермаловіча, Пінчука, Туманскага, Шаўцова як такіх маладых пісьменнікаў, якія ў шэрагу пачынаючых стаяць ужо даволі высока.

Палітычнае выхаванне маладых пісьменнікаў — вывучэнне марксізма-ленінізма — павінна быць той асновай, на якой грунтуецца ўся літаратурная кваліфікацыя. Можна прасачыць на фактах работы з маладымі аўтарамі, што няведанне, як філасофскі, ідэалагічна растлумачыць тую ці іншую з'яву ў жыцці, робіць уплыў і на форму твора.

У маладых аўтараў гэта асабліва можна заўважыць на праявах сентыментальнае саладкавасці ў стылі. Гэтая форма часта выцякае з таго, што аўтар сам не ведае таго, што ён хоча сказаць сваім творам, і тады, у імя простае літаратуршчыны, ён пачынае соладка апісваць пейзажы — «бярозкі зялёна-кудравыя» або голас жанчыны «пяшчотна-ласкавы». Бывае часам наадварот: механістычнае перанясенне ў савецкую літаратуру гэтае формы, некрытычна запазычанае ад якога-небудзь мёртвага аўтара, скажае самую ідэю. У рабоце з маладымі аўтарамі мне прыходзіцца стыкацца з такімі з'явамі і пасля заўважаць, як па меры развіцця і росту аўтара выпрацоўваецца ў яго выразнасць думкі ў творы, выражанай праз зусім рэалістычныя прыёмы.

Я хачу прывесці адну цікавую з'яву ў справе творчасці маладых пісьменнікаў. У альманаху «Ударнік» № 3 друкуецца апавяданне маладога пісьменніка А. Туманскага «Макар-абібок». А. Туманскі ўдала выкарыстаў старую сентыментальшчыну-літаратуршчыну як прыём для таго, каб высмеяць прагульшчыка на заводзе. Механістычна перанёсшы ў савецкую абстаноўку гэты складаны стылёк, мы атрымалі сатыру. Гэта тым больш цікава, што гэта зрабіў малады аўтар, яшчэ мала спрактыкаваны ў літаратурных прыёмах.

Мы бачым, як некрытычнае засваенне, механістычнае пераняcенне формы ў чужы ёй змест гучыць не проста смешна, а шкодна. Гэта павінны ведаць не толькі маладыя аўтары, а і некаторыя аўтары немаладыя, у якіх маладыя вучацца. У нашай савецкай літаратуры мы яшчэ часам можам знайсці рэшткі гэтакага стылю. Гэтае пытанне цесна прымыкае к пытанню аб ачышчэнні нашай мовы ад архаізмаў, ад нацдэмаўскае спадчыны. Змаганне за нашу савецкую стылістыку ў літаратуры найшчыльнейшым парадкам звязана з змаганнем за новыя словы, за новыя кірункі фразеалогіі ў нашай мове.

Прыйшлося спыніцца на апавяданні А. Туманскага таму, што гэты малады пісьменнік удала выкарыстоўвае старую форму ў сэнсе прыёма. У чужым нам змесце гэтая форма станоўчая, у нас яна дасягае адваротнага — гучыць, як іронія.

Заслугоўвае ўвагі такі аўтар, як Краўчанка. У яго выпрацоўваецца свая ўласная манера пісаць. Ён не быў ніколі ў палоне натуралістычных прыёмаў, якія ёсць у шмат

якіх маладых аўтараў. Ён смела ідзе на мастацкі вымысел, на творчую фантазію. Самыя апошнія яго апавяданні пераконваюць у гэтым.

Натуралістычная падача матэрыялу, без тыпізацыі, без адбора не ёсць яшчэ мастацкі твор. Часамі ў нас такую падачу матэрыялу называлі нарысам. Гэта перш за ўсё зніжала сам нарыс як жанр, зводзіла яго на нейкую ніжэйшую ступень, праз якую трэба пераступіць, каб перайсці ў вышэйшую літаратурную групу (некаторыя рэкамендавалі маладому аўтару пачынаць не іначай, як з нарыса). Пасля — гэта адразу ўжо ўводзіла аўтара ў план найлепшага развіцця творчай фантазіі. А хіба ж нарыс і сапраўды такі ўжо ніжэйшы жанр? Не. Успомнім нарысы Глеба Успенскага, Максіма Горкага. Іх нарысы (нрз). Адсюль і некаторыя разумелі нарыс як натуралістычную падачу фактаў, якія аўтар наглядае.

Я думаю, што ў маладога аўтара трэба будзіць і развіваць творчую фантазію, накіроўваць яго на мастацкі вымысел. Гэты вымысел — рэальны вымысел. І сутнасць яго ў тым, што аўтар падае факты, з'явы, стварае вобразы — характэрныя і тыповыя, але сабраныя не з аднаго толькі завода ці калгаса, а сканцэнтраваныя ў творы з самага шырокага круга. Пры гэтым — факты самыя цікавыя і характэрныя. Аўтар выходзіць за межы свайго толькі завода і калгаса. Ён у сваім мысленні стварае падзеі, канцэнтруе іх у вузел. Гэтыя падзеі маюць сваіх прататыпаў у жыцці, або калі не маюць дакладнага свайго прататыпа ці калі аўтар бачыў яго, дык усё ж гэтыя падзеі ёсць рэальныя. Гэта значыць, што на аснове законаў жыцця, руху, развіцця грамадства, на аснове законаў свету — яны могуць быць.

І тут нельга абысціся без філасофскага развіцця пісьменніка, без вывучэння філасофіі Маркса-Леніна, якая дае адзіны правільны ключ да правільнага разумення свету.

Выходзячы з практыкі работы маладых аўтараў, можна вызначыць некаторыя моманты першапачатковай работы з імі.

Развіваць творчую фантазію, смела ісці да яе, ісці па лініі рэалістычнага вымыслу, разумець сентыментальны стыль як чужы нам, перамагаць натуралізм. Гэта важныя моманты.

Праца над мовай! Без гэтага нямысліма ніякая літаратурная вучоба. Выразнасць, точнасць, мяккасць слова і фразы — от над чым трэба заўсёды працаваць літаратару.

Трэба слухаць і заўважаць, як гавораць людзі, працуючыя на сацыялістычным заводзе і на сацыялістычнай зямлі. Не так як трэба сказанае слова, можа перакруціць у другі бок увесь сэнс. Гэта выразна даводзяць рэшткі хоць бы сабе таго сентыментальнага стылю, пра які гаварылася вышэй.

# ПРАЦАВАЦЬ НАД ДРАМАТУРГІЧНЫМ СЛОВАМ

Творы вялікіх драматургаў заўсёды былі бліскучым укладам у скарбніцу не толькі культуры тэатральнай, але і культуры літаратурнай. Гэтыя творы сапраўды былі вышэйшым відам літаратуры. Адсюль вынікае вельмі просты і не менш важны вывад: у вялікіх драматургічных творах на вышыні ўсе іх кампаненты — і тыя, што належаць да спецыфікі тэатра, і тыя, што зазвычай называюцца літаратурнымі якасцямі драматургіі. Гэтую простую мысль мы не заўсёды маем на ўвазе. Наша драматургія часта хварэе аднабаковасцю: у пагоні за так званымі сцэнічнымі эфектамі часта мы забываем, што якая б высокая сцэнічнасць пэўнай п'есы ні была, яна сапраўды і не сцэнічнасць, калі ў п'есе няма ўнутранай, мастацкай праўды, калі гэтая «сцэнічнасць» зроблена як самамэта і ігнаруе іншыя бакі драматургічнага твора.

Што трэба разумець пад так званымі літаратурнымі якасцямі драматургіі? Трэба разумець не толькі слова, а маналітнасць слова з тыповасцю вобразаў. Гэта тыповасць — канкрэтная, вельмі выразная прыналежнасць выведзеных у п'есе людзей да пэўнай сацыяльнай катэгорыі. Значыцца, мы маем справу з сацыяльнай тыповасцю самога слова, прычым, мова тыпізуецца яшчэ і ўнутры вышэйпамянутай катэгорыі, яна індывідуалізуецца па тыпах, па вобразах. Кожнае слова павінна быць на месцы і выражаць пэўны канкрэтны змест, мець вялікую насычанасць. Такое слова ў напісаным творы не так ужо лёгка замяніць словам другім. Гэтая замена слова ёсць ужо таксама працэс творчасці, працэс упартай работы, а не механічная замена крыху блізкім словам. Да такой вялікай дакладнасці мы павінны імкнуцца ў сваіх драматургічных работах.

Мы прывыклі гаварыць, што драматургія павінна быць у саюзе з літаратурай. Гэта правільная мысль няправільна фармулюецца. На аснове адзінага творчага метаду і літаратура, і драматургія маюць у сваім развіцці, у сваёй культуры зусім агульныя моманты, і блізасць гэта ёсць справа натуральная, а не штучная, не падагнаная пасля перыяду

некаторай «няблізасці», некаторага адрыву. Калі мы кажам, што пэўная п'еса на вельмі нізкім літаратурным узроўні, дык гэтая п'еса, значыцца, і на вельмі нізкім узроўні драматургічным. Кожны драматург павінен быць літаратарам. Гэта не значыць, што ён павінен, нараўне з драматургіяй, займацца і іншымі, чыста літаратурнымі жанрамі. Гэта значыць, што ён павінен ведаць цану слова ў такой меры, у якой павінен ведаць цану рэальнага становішча свайго героя, як ён павінен ведаць цану драматургічнай сітуацыі, збегу падзей і з'яў, якія ёсць у творы ў выніку творчай фантазіі, творчага вымыслу аўтара.

Здаецца, гэта вельмі простыя ісціны і не трэба пра іх так шмат гаварыць. Аднак жа гаварыць прыходзіцца, бо бывае, што цікавы спектакль псуе... слова. Бывае, што слова ў п'есе не варта самой п'есы. І пакуль герой маўчыць, пакуль ён дзейнічае без слоў, пакуль ён толькі з'яўляецца на сцэну, або калі яго чакаеш на сцэну, у выніку ранейшай падрыхтоўкі на сцэне да яго прыходу, ён, гэты герой, ёсць сіла. А калі ён загаворыць, якасць яго сілы, якасць падачы яго як вобраза, як тыпа, зніжаецца. Слова, якое яму ўклаў у вусны аўтар, не варта яго самога.

Работа над словам ёсць задача для драматурга вялікай важнасці. У гэтай справе мы маем такі вялікі аўтарытэт як Максім Горкі. У драматургіі Максіма Горкага дакладнасць, выразнасць і насычанасць слова такая вялікая, што гэта слова, здаецца, вельмі цяжка замяніць іншым. Мастак слова знайшоў такую мову, якая якраз тут павінна быць на гэтым месцы.

Гэта пытанне ёсць адно з важных пытанняў справы авалодання тэхнікай драматургіі і літаратуры. Гэтая справа не толькі належыць да спраў драматурга, не ў меншай меры яна належыць і да спраў акцёра. Бывае, што добрае слова ў п'есе са сцэны гучыць нядобра. Гэта належыць да авалодання сваёй тэхнікай акцёрам.

Наша эпоха дала новых вялікіх людзей. Калі мы хочам паказаць у сваіх драматургічных творах вобразы бальшавікоў, то мы павінны ведаць, што гэтыя вобразы, гэта новая парода новага чалавецтва не можа быць падана ў неўласцівай ёй спецыфіцы, бо такая падача была б, у лепшым выпадку, самай сапраўднай халтурай.

Сацыялістычнае чалавецтва мае і сваю сацыялістычную мову. Бальшавік мае сваю бальшавіцкую мову.

Адна з самых найважнейшых задач нашай драматургіі і тэатра — стварэнне вобразаў бальшавікоў. Працуючы над гэтым вобразам, трэба працаваць і над мовай, прыналежнай гэтаму вобразу.

Спецыфіка мовы, спецыфіка стылістыкі — вялікая справа. Трэба шукаць дакладнага слова для яснай і дакладнай фармуліроўкі.

Пакапаўшыся ў нацдэмаўскім моўным арсенале, мы вельмі лёгка заўважым не толькі спецыфічна нацдэмаўскія словы, а нават і спецыфіку пабудовы фраз, адпаведную стылістыку. Ачышчэнне савецкай беларускай мовы ад гэтай нацдэмаўскай спецыфікі можна з поспехам зрабіць толькі праз канкрэтныя моўныя доследы, праз практычную работу работнікаў мастацкага слова над мовай мастацкіх твораў.

У тэатры мы не толькі глядзім, мы і слухаем. У тэатры мы чуем слова, сіла якога да найвялікшых размераў узмацняецца дзеяй. От чаму мова нашай драматургіі павінна быць пад асаблівай вялікай нашай увагай.

Мы павінны вывучаць спецыфіку вобразаў і тыпаў, якіх выводзім у сваіх творах, і ні ў якім разе мы не можам механічна надаваць сваім тыпам неўласцівыя ім рысы.

Тэатр — адзін з найбольш даходчывых да мас відаў мастацтва. Гэта адзін з найбольш масавых відаў мастацтва. Таму і адказнасць работнікаў тэатра і драматургіі большая, чым якіх бы то ні было іншых работнікаў мастацтва. Гэта мы не павінны забываць. Мы адказваем за кожнае слова, за кожную рысу ў сваёй рабоце.

Я думаю, што наша тэатральная крытыка вельмі мала ўвагі надае такому пытанню, як пытанне слова, пытанне мовы ў тэатры, у драматургіі. Разгляд мовы нашай драматургіі — гэта бліжэйшая справа нашай крытыкі.

Наш тэатр павінен даць вялікія вобразы людзей нашай бальшавіцкай эпохі. А для гэтага і драматургі, і работнікі тэатра павінны беспярэпынна, рэальнымі спосабамі вывучаць наша рэальнае шматграннае і багатае жыццё.

# ВУЧОБА І ТВОРЧАСЦЬ ПАЧЫНАЮЧЫХ ЛІТАРАТАРАЎ

Наша літаратура мае найвялікшыя магчымасці і перспектывы. Не меншыя стаяць перад ёю і задачы. Гэтыя задачы могуць быць вырашаны з поспехам толькі тады, калі над іх вырашэннем будзе працаваць чым найбольш кваліфікаваных літаратараў.

Пытанне аб літаратурных кадрах у нас надзвычайна вострае. Вучобу маладых пісьменнікаў трэба разгортваць як мага шырэй, пытанне гэтай вучобы павінна ставіцца так, каб маладыя пісьменнікі як мага хутчэй маглі авалодаць літаратурнай тэхнікай.

Тэхніка літаратурнай работы павінна ўдасканальвацца ўвесь час, літаратурная вучоба фактычна ў пісьменніка ніколі не спыняецца. Самыя найвыдатнейшыя класікі да апошняга дня сваёй літаратурнай работы заўсёды былі ў працэсе сваёй вучобы.

Кожны з маладых аўтараў павінен разумець, што літаратурная работа — гэта цяжкая работа.

Мы гаворым пра літаратурную тэхніку. Гэтае пытанне мы падзяляем на паасобныя моманты. Мы гаворым пра паасобныя кампаненты твора. Мы гаворым пра сюжэт, мы гаворым пра вобраз і публіцыстыку. Мы гаворым пра мову.

Над нашымі маладымі аўтарамі (і не толькі над маладымі) навісае, часта шкодны, уплыў старых стыляў. Натуралізм і сентыменталізм асабліва многа ўплываюць на аўтараў. Але калі мы возьмем асноўную масу нашых літгурткоўцаў, то гэтыя ўплывы ёсць сапраўды толькі ўплывы і ідуць яны не ад іхняга светапогляду, а ад прачытанае імі літаратуры.

У большасці выпадкаў гэта літаратуршчына, штучная кніжнасць. Гэта ідзе яшчэ і ад таго, што сам аўтар яшчэ не можа праз адпаведныя літаратурныя формы рэалізаваць замысел свайго твора, а бярэ ўжо гатовыя формы.

Тое самае можна сказаць і пра голы псіхалагізм, які заўважаецца ў некаторых маладых аўтараў.

У нашу літаратуру, вядома, могуць пранікаць людзі і не з нашым светапоглядам, пра іх гутарка асобная. Але тут я гавару пра нашу літаратурную моладзь. Няўмельства

будаваць свой твор часта прыводзіць да таго, што ў творы ідэалізуецца той персанаж, якога сам аўтар хацеў скампраметаваць.

Мы гаворым, што сюжэт — гэта вельмі важны момант у літаратурным творы. Сюжэт заўсёды звязан са зместам. Калі аўтару ёсць што сказаць, калі ў яго ясна прадумана дзеянне яго герояў, калі ён добра ведае матэрыял свайго твора,— аўтару лягчэй тады цікава разгарнуць сюжэт. Можна, напрыклад, бачыць на рабоце аднаго пачынаючага аўтара, як цікавы змест твора дае магчымасць цікава разгарнуць сюжэт.

Я гавару пра маладога аўтара Бірылу, пра яго апавяданне «Старая дошка» (надрукавана ў альманаху «Ударнік» № 3).

Я не гавару, што аўтар тут цалкам справіўся з тымі магчымасцямі, якія ў яго былі ў часе працы над тэмай гэтага апавядання, але я хачу сказаць, што цікавы змест дае вялікія магчымасці для пісьменніцкай работы.

Сутнасць апавядання ў тым, што цяперашні калгаснік зжывае сваю ранейшую рэлігійнасць. Падзеі разгортваюцца так: калі ў калгасе малацілі, гэты калгаснік убачыў дошку, падкладзеную пад станок малатарні. Гэта была тая ікона, якую некалькі год таму назад ён вынес з хаты. І от тут перад гэтым калгаснікам, у яго думках, праходзяць цэлыя карціны яго жыцця, пачынаючы з самых малых год. Гэтыя карціны — і вясёлыя, і сумныя, і трагічныя. Але ён у гэты момант ужо канчаткова вызваляецца ад усялякіх рэлігійных уплываў, разам з вызваленнем ад перажыткаў ранейшага пакутнага жыцця.

На гэтым матэрыяле можна разгарнуць найвялікшае літаратурнае палотнішча. Тут можна даць вялікія карціны жыцця цэлае грамады. Але для гэтага патрэбна, апроч фактычнага матэрыялу, яшчэ фантазія аўтара. Патрэбен мастацкі вымысел. Вымысел гэты зусім рэальны.

Працуючы з маладымі аўтарамі, трэба ставіць перад імі пытанне фантазіі, мастацкага вымыслу.

Фантазія аўтара заўсёды дапаможа з'яднаць у адно стройнае цэлае матэрыял з розных пунктаў чалавечае дзейнасці.

У тым самым альманаху надрукованы нарыс маладога празаіка Козляка. Тэма — вынаходніцтва на заводзе. Рабочы ўдасканальвае сваю машыну. Ён некалькі вечароў папрацаваў упарта і зрабіў гэтую справу. От і ўсё. Такая

падача матэрыялу аддае натуралізмам. Каб цікавей падаць гэты матэрыял, аўтар мог бы разгарнуць тут якія-небудзь канфлікты паміж паасобнымі людзьмі. Тут, напрыклад, можна было паказаць старое пачуццё зайздрасці да ўдачнай работы гэтага рабочага з боку яго ж таварыша: зайздрасць гэтая ідзе ад дробнабуржуазных перажыткаў. Такім чынам, тэма аб вынаходніцтве паралельна паставіла б і развіла б другую тэму — тэму зжыцця рабочым сваіх дробнабуржуазных перажыткаў.

Вымысел цесным парадкам звязан з пытаннем цікавасці твора. Твор тым каштоўнейшы, чым ён цікавей чытаецца, такім парадкам да чытача лепш дойдзе і сама ідэя твора. У гэтым кірунку вельмі многа мы можам павучыцца ў класікаў літаратуры.

Аўладанне тэхнікай ні ў якім разе не павінна адрывацца ад працы над глыбокім зместам. Часам у маладых аўтараў бывае, што, паводле свайго ўзроўню, яны не дрэнна аўладалі літаратурнай тэхнікай. У аўтара і мова цікавая, часам відаць ужо з самае работы аўтара, што ён разумее і тыя класічныя творы, на якіх ён вучыцца. Але ў самым творы, напісаным аўтарам, змест такі не глыбокі, падзеі такія не цікавыя і не тыповыя, што сам твор не мае ніякае важкасці. Часамі гэта бывае. І от тут узнікае найважнейшая справа: пачынаць працу над творам пасля таго, як прадуман змест, і калі аўтар адчувае, што змест гэты важны і глыбокі.

Той жа самы аўтар тав. Бірыла ў сваім другім апавяданні «Па шляху» якраз не прадумаў да канца зместу, а гэта ў сваю чаргу не дазволіла яму і цікава падаць матэрыял,— там выйшлі толькі паасобныя нецікавыя зарысоўкі.

Пытанне сюжэтнасці, пытанне тыпізацыі герояў, пытанне дыферэнцыяцыі мовы па героях — цесна звязана са зместам пытання фантазіі аўтара — мастацкага вымыслу.

Але, працуючы з маладымі аўтарамі, трэба мець да кожнага з іх індывідуальны падыход. Ужо з самага пачатку відаць, якія лініі для пэўнага аўтара будуць больш характэрныя. Прынамсі гэта можна заўважыць пасля некаторай працы з аўтарамі. І, зыходзячы з гэтага, трэба старацца захаваць гэту індывідуальнасць аўтара, каб пасля ён мог развіваць у сваёй рабоце свае ўласныя прыёмы. Трэба мець на ўвазе індывідуальнасць аўтара. Пад адну мерку ўсіх ставіць нельга.

Малады празаік Краўчанка ўжо з самых сваіх першых літаратурных спробаў паказаў, якія прыёмы, які падыход да распрацоўкі тэмы яму найбольш блізкія. Апроч усяго іншага, у яго заўважаецца тонкі гумар. І таму можа быць, што гэтаму аўтару патрэбна гэтую лінію развіваць далей. Тым больш што гэтая лінія вельмі ўдала вызначаецца ў яго мове.

Мы толькі тады створым выдатны твор, калі ён будзе ісці ад рэальнага разумення свету. Гэта наш адпраўны пункт у справе вызначэння сацыялістычнага рэалізма як стылю.

Тыповасць людзей, тыповасць іх учынкаў, тыповасць тых абставін, у якіх яны дзейнічаюць — гэта асноўнае. Тыповасць павінна быць ва ўсім.

Адзін малады аўтар у сваім апавяданні піша:

«Эх, як добра адчуваецца. Як лёгка ўдыхаць у свае старыя грудзі гэты вясновы прыемны пах. Вясна — гэта другая маладосць, яна ўзнімае вясёлы настрой, адважнасць».

Гэта гаворыць стары калгаснік. Ці тыпова для яго такая фармуліроўка яго настрою? Не, не тыпова. Тут аўтар хоча сказаць, што гэты чалавек перад тым, як выехаць у поле, меў добры настрой, што здаровая раніца, сонца будзілі ў ім нейкі ўздым. І от аўтар фармуліроўку ўсяго гэтага ўкладае ў вусны самім героям. Тады як гэта фармуліроўка не героя, а аўтара.

Такія моманты да пэўнай ступені характэрны для большасці нашых пачынаючых аўтараў, хоць гэта, вядома, не вычэрпвае ўсёй гэтай творчасці. Вельмі часта сваю ўласную філасофію аўтар пераносіць на персанажы свайго твора.

Тыповасць павінна быць ва ўсім. Таксама і ў апісанні таго пейзажу, на фоне якога разгортваецца дзея твора. Пейзаж павінен быць скарыстан для ярчэйшай рэалізацыі ідэі твора.

Адзін аўтар так пачынае сваё апавяданне:

«Каб табе скалынулася ветка ці ў закасаных ветрам дахах саломка — так ціха, і ціхі вечар доліў сівыя дагаркі дня. Белыя пятны калючкамі крышталёў вешаліся або на голыя, драцяныя жмені прысад, на плот, або раўнамерна ўсцілалі зямлю...»

Адным словам, аўтару трэба было сказаць, што было вельмі ціха і не замяталіся ветрам на снезе сляды. Для гэтага падаецца цэлы пейзаж, які толькі адцягвае ўвагу

ад галоўнага. Апроч таго, самае апісанне ў аўтара зроблена не простай звычайнай мовай, а з надуманым злучэннем слоў, часта не жывых. Гэта літаратуршчына.

Наша крытыка вельмі мала дагэтуль зварочвала ўвагі на такую справу, як выкараненне з нашай літаратуры рэштак сентыменталізму. Побач з натуралізмам гэты стыль часам яшчэ трымаецца ў нашай літаратуры і робіць уплыў на маладых аўтараў.

Часам бывае: малады аўтар прыносіць свае першыя літаратурныя спробы. Здаровы малады чалавек цэлы дзень працаваў на заводзе пры машыне, чалавек з нашым здаровым светапоглядам, жыццярадасны. А ў творы яго пейзажы «з баваўнянымі воблачкамі», з «пахучымі ветрыкамі» і г. д. Гэта простае пераймане з літаратуры дрэннага гатунку.

Самая пабудова фраз, самая мова, ідучы ад гэтага стылю, набывае нездаровы характар.

Сентыментальны стыль асабліва быў развіты ў нацдэмаўскай літаратуры. Нацдэмаўскія пісьменнікі шмат пісалі пра інтэлігенцыю, прычым іхнія гэтыя «інтэлігенты» заўсёды былі мяшчане і найбольш мястэчковыя. А гэты мястэчковы мешчанін нёс у літаратуру і свой падсалоджаны, сентыментальны стылёк. (Пасля гэты інтэлігент у сапраўднасці заўсёды аказваўся заядлым контррэвалюцыянерам.)

* * *

Пытанне вучобы нашых маладых аўтараў вельмі цяжка аддзяліць ад вучобы ўсіх нашых пісьменнікаў. Калі правільна паставіць гэтую справу для пісьменнікаў, то яе вельмі цяжка аддзяліць ад самой літаратурнай работы. Работа з маладымі аўтарамі ўжо сама па сабе ўздымае пытанне стылю. Я лічу, што на нашай цяперашняй нарадзе мы павінны завастрыць увагу на тым, каб у рабоце з маладымі аўтарамі былі ўцягнуты ўсе нашы лепшыя пісьменнікі. А гэтага ў нас яшчэ няма.

Мы павінны на нашай нарадзе прад'явіць рахунак нашым пісьменнікам, нашаму выдавецтву, кабінету ўдарніка — рахунак у справе сталай работы, глыбокай вучобы, глыбокай пастаноўкі тых вялікіх пытанняў нашай вучобы, якія стаяць перад намі. Гэтыя пытанні ідуць ад той вялікай філасофіі, таго глыбокага зместу, якімі павінны быць насычаны творы савецкіх пісьменнікаў.

# ПРА ВУЧОБУ І ТВОРЧАСЦЬ ПАЧЫНАЮЧЫХ

Маладых аўтараў мы маем не адзін дзесятак. Па іх літаратурным узроўні, па іх рабоце мы іх можам падзяліць: большасць, гэта, так сказаць, самыя пачынаючыя, перад якімі задача — увайсці ў план разумення літаратуры як такое, зразумець, што вылаяць капіталіста, гэта не значыць стварыць літаратурны вобраз ці тып паразіта на целе чалавечага грамадства. Да гэтых аўтараў належаць не толькі тыя, што напісалі першы твор. Тут ёсць і такія, што вельмі туга паддаюцца літаратурнай вучобе. Тут ёсць такія, якія пасля, мусіць, адсеюцца ў працэсе вучобы, як няздольныя да літаратурнай працы; а ёсць і такія, якім, па раду прычын, цяжка адразу знайсці сваю правільную дарогу.

Ясна адно: пры падыходзе да кожнага з гэтых апошніх трэба мець на ўвазе яго індывідуальныя схільнасці і ступень развіцця кожнага, каб не павесці яго па дарозе, на якой ён не можа выявіць сваіх здольнасцей. Нават раіць чытаць выдатныя літаратурныя творы, па-мойму, трэба не ўсім адны і тыя з пачатку вучобы аўтараў.

Вось як можна характарызаваць тыповую суму слабасцей у творах большасці пачынаючых.

Ідэя, якую аўтар хацеў выразіць у творы, відна не з самога твора, а з аўтарскага дачынення да яе. Гэтае дачыненне да ідэі відно з аўтарскіх рэмарак і прыпісак, якія часта мала чаго агульнага маюць з арганізмам самога твора. Выведзеныя аўтарам людзі дзейнічаюць у пэўным кірунку не таму, што гэтая дзейнасць ёсць працэс іх жыцця, а таму, што іх вымушае аўтар да гэтага. У такім выпадку ні аўтару, ні герою твора не верыш. Ты ведаеш, што для жыцця гэта характэрна, але раз гэты матэрыял пападае ў твор, ён скажаецца. Гэты момант надзвычай важны, я лічу, што гэта асноўны момант справы якасці літаратуры, і на ім трэба спыніцца добра, тым больш што ён пранізвае не толькі творчасць саміх пачынаючых, ён праходзіць у значнай ці ў малой меры праз творчасць некаторых і з старэйшага пакалення, і нават не зжыт у той ці іншай меры ў некаторых выяўленых пісьменнікаў, і асаб-

ліва трымае ў палоне некаторых крытыкаў. З гэтым момантам цяжэй за ўсё змагацца, паколькі ён, як слабасць літаратурнай якасці, знаходзіць сабе апраўданне часам у некаторых ускосных поглядах на мастацкую літаратуру, як на палітграмату, не маючую сваіх спецыфічных уласцівасцей. З гэтага моманту вынікае другі — момант публіцыстыкі, які часта падмяняе сабою вобраз.

Тут справа ў жыццёвай практыцы, у рэалістычным разуменні рэальнага жыцця. Сацыялістычныя ідэі не выдуманы беспадстаўнай фантазіяй. Яны рэальныя і ёсць вынік гістарычнага развіцця чалавечага грамадства. І для таго, каб вырашыць іх у мастацкай літаратуры, трэба выказваць іх не праз голую пропаведзь, а каб яны самі з'яўляліся як вынік сістэмы паданых у творы рэальных фактаў. На гэта ёсць простае ўказанне Энгельса: «Тэндэнцыя павінна выцякаць з становішча і дзеі сама па сабе без адмысловых на тое ўказанняў, і пісьменнік не абавязан навязваць чытачу будучае гістарычнае вырашэнне паказваемых ім грамадскіх канфліктаў» (перапіска з М. Каўцкай). Калі гэты момант як мае быць і да канца будзе панаваць у нас, то мы тады скажам, што наш літаратурны рух на вялікай вышыні. Гэта трэба ведаць пра гэты важны момант, па-першае, таму, што з яго заўсёды прыходзіцца пачынаць літаратурнае выхаванне кожнага пачынаючага, а па-другое, таму, што ігнараванне гэтага моманту ў пашане ў некаторых пісьменнікаў і асабліва ў крытыкаў, у якіх моладзь вучыцца. Чым будзе вышэй стаяць наш літаратурны рух наогул, тым большы поспех мы будзем мець у справе выхавання маладых кадраў. Не магу не прывесці прыкладу: аднойчы маладому аўтару тлумачылі некаторыя слабыя моманты ў яго творы. Ён слухаў, слухаў, а пасля разгортвае кніжку і паказвае на твор аднаго вядомага пісьменніка. «Тут жа так, як і ў мяне. А вы кажаце, што гэта дрэнна»,— сказаў ён. І гэта была праўда. Твор, на які ён спасылаўся, быў расхвален нашай крытыкай, як узор дасягненняў нашай літаратуры. Вы сабе можаце ўявіць становішча таго літаратурнага, так сказаць, настаўніка, які паказваў на творчыя слабасці пачынаючаму? Можа, тут можна было б сказаць так: ад якасці ўсяе нашай літаратуры, нашага літаратурнага руху залежыць і якасць справы выхавання літаратурных кадраў.

Сярод тых маладых аўтараў, якія ў пэўнай ступені ўжо выявіліся ці выяўляюцца, мы вельмі выразна можам заў-

важыць неаднолькавасць іх работы ў сэнсе іх індывідуальных асаблівасцей. Я лічу, што гэта з'ява дадатная і вельмі важная. Пакуль што рана гаварыць пра ўжо вызначаныя стылёвыя прыёмы, своеасаблівыя плыні ў іх творчасці.

Я не гавару пра творчасць маладых пісьменнікаў як такіх. Я гавару пра творчасць пачынаючых пісьменнікаў (тэма аб кадрах — змест майго даклада). Але магчымасць развіцця ў пэўным кірунку ўжо можна заўважыць у гэтых аўтараў. Вядома, я бяру на ўвагу самых здольных, найбольш выяўленых, або такіх, якія бясспрэчна зараз цікава выявяцца.

Бадай-што можна назваць тры асноўныя кірункі, да якіх схіляюцца маладыя аўтары. Вось першы.

Імкненне да псіхалагічнага аналізу. Тут найбольш выяўляюцца слабасці маладых аўтараў: часта псіхалагічны аналіз ідзе ў форме разваг і тлумачэнняў, праглынаючы сабою сюжэт, падзеі апавядання ці аповесці. Сюжэтная лінія ў такіх выпадках ледзь трымаецца. Прычым, тут шмат зрываў у сэнсе таго, што малады аўтар не ведае як належыць самое практыкі жыцця ці, прынамсі, не можа даць жыццёвым з'явам ацэнкі і зрабіць з іх вывадаў. Таму часта ў гэтай катэгорыі пачынаючых бываюць у творах неапраўданыя ўчынкі герояў, фальшывы рух іх настрояў і паводзін. Але трэба сказаць, што з ліку гэтай катэгорыі аўтараў пачынаюць цікава выдзяляцца такія, якія перамагаюць гэтыя слабасці. Я назаву трох найбольш яркіх: Шырокаў, Бірыла, Ермаловіч. Гэтая лінія ці плынь літаратурнай работы найбольш цяжкая, і таму тут самы найбольшы адсеў. Гэтыя тры аўтары выдзяляюцца тым, што, маючы нахіл у сваёй рабоце да вышэйадзначанага мною псіхалагічнага аналізу, яны, па меры сваёй вучобы, удасканальваюцца на гэтай лініі творчасці, знаходзячы ўсё больш і больш рэальна верных, мастацка апраўданых момантаў чалавечых паводзін і ўчынкаў.

Прычым, калі раней заўважалася ў іх імкненне аслабляць сюжэт за лік унутранае напружанасці герояў па лініі ці то пасіўных настрояў, ці то бяздзейных разваг, то цяпер гэты момант імі перамагаецца. Вырысоўваецца ўсё больш і больш стройнасць сюжэтнай пабудовы, павялічваюцца знадворныя падзеі, і іх сувязь з псіхалагічным рухам герояў робіцца больш і больш арганічнаю.

Шырокаў цяпер працуе над аповесцю. Тэма аповесці

ў нас не новая: беспрытульнік перавыхоўваецца і робіцца дзейным будаўніком сацыялістычнага грамадства. Гэта тэма, ад якое ідзе аўтар, як ад тэмы, так сказаць, першапачатковай. Аўтар здолеў, наколькі гэта відаць з ужо закончанай першай часткі, даць усе тыя жывыя ніткі, якімі яго герой звязан з абстаноўкай, з грамадою. І тут вырысоўваецца новая якасць творчага замыслу: ва ўвесь рост паўстаюць гістарычныя карэнні біяграфіі выведзенага аўтарам героя. Ярка абрысавана тое асяроддзе, якое нарадзіла героя аповесці. Гэта той пласт сялянства, які папаўняў сабою батрацкія шэрагі ў панскіх маёнтках і кулацкіх хутарах. У гэтым асяроддзі расце дзіця, якому традыцыі бацькоў і дзядоў наканоўваюць батрацкі шлях, голад і гора, але гэты шлях знішчаецца рэвалюцыяй. Рэвалюцыя адчыніла герою дзверы ў новы, шырокі свет, і з прычыны гэтага ён, прадстаўнік таго пласта грамадства, які на сваім гарбу нёс цяжар сацыяльнага прыгнёту, становіцца выдатным чалавекам новай эпохі, знатным чалавекам краіны. Але да гэтага ён праходзіць пакуты і супярэчлівы шлях перамагання таго, што называецца: рэшткі капіталістычнага ладу (батрацтва на кулацкіх хутарах у часы нэпа). Такім парадкам, першапачатковая тэма аб былым беспрытульным перарастае ў новую шырачэзную тэму: змена самога вобліку вышэйназванае сацыяльнае групы. Гэты другі тэматычны план трымаецца на сувязі і ўзаемадачыненні героя з сваёй сям'ёй і паступовым руху самой гэтай сям'і.

Аўтар адчувае тыповае. Вобразы бацькоў героя аповесці выражаны як жывыя, і гэта зроблена літаральна толькі некалькімі штрыхамі. І от гэтую сваю здольнасць аўтару трэба вылучыць з няўмельства карыстацца сваім адчуваннем тыповага: натуралістычнае награмаджэнне сырога матэрыялу трымаецца побач з трапнымі штрыхамі і з густам сканструяванымі малюнкамі. Гэта перашкаджае аўтару стройна развіваць сюжэт і заўсёды трымаць яго на лініі вырашэння ідэі твора.

Вельмі блізка стаіць да Шырокава ў справе выпрацоўкі прыёмаў Бірыла. З яго апавяданняў найбольш вызначаюцца два: «Старая дошка» — апавяданне, надрукаванае ў альманаху «Ударнік» № 3, і апавяданне «Ключы», нядаўна напісанае. Бірыла хістаецца паміж двух фармальных спосабаў: ці трымаць на першым плане ўнутраны рух сваіх герояў, а падзеі, маналітныя з гэтым рухам,

трымаць на другім плане (так напісана «Старая дошка»), ці наадварот: на першым плане прымаць знадворныя падзеі, а душэўны рух герояў павінен адчувацца з падзей і ўчынкаў, з удзелу ў гэтых падзеях, і толькі калі-нікалі аўтар падае сам, парадкам як бы растлумачальным, душэўны стан сваіх герояў. Другі спосаб найбольш цікавы і дзейны, але Бірыла ўладае магчымасцямі, яшчэ, праўда, толькі да некаторай ступені вызначанымі, даваць у першым выпадку цікавую напружанасць развіццю твора. Прыклад — апавяданне «Старая дошка». Калі ў гэтым апавяданні стары чалавек, калгаснік ацэньвае зусім па-новаму тое, што раней было для яго жыццёвай філасофіяй і не магло радавацца яго ацэнцы, калі падкладзеная пад сталом малатарні, як звычайная дошка, старая ікона, якую ён раней шанаваў, не выклікае ўжо ў ім прывычных раней душэўных рухаў, і гэта ўсё паказана аўтарам спосабам атрымання на першым плане, так сказаць, душы героя, то зусім іншы прыём у апавяданні «Ключы». Тут разгортваюцца падзеі, і чалавек (псіхалагічны рух ёсць змест апавядання) спачатку працівіцца падзеям, а пасля, пад іх непасрэдным уплывам, сам пачынае ў іх уключацца. Такім чынам паказана, як перавыхоўваецца чалавек пад уплывам падзей. Псіхалогія чалавека тут чуецца ў кірунку саміх падзей, якія на яе ўплываюць. Пакуль што цяжка сказаць, які кірунак найбольш стане арганічным для аўтара, але можна меркаваць, што прыём апавядання «Ключы», (нрз) і гэта будзе цікавей.

Калі пра Шырокава і Бірылу можна сказаць, што ім здорава перашкаджаюць натуралістычныя моманты, а пра Бірылу гэта трэба сказаць у большай меры, чым пра Шырокава, то ніяк гэтага нельга сказаць пра трэцяга аўтара з гэтай групы — пра Ермаловіча. У Бірылы занадта многа не толькі натуралістычных момантаў, але і зусім непатрэбных дэталей. Што да апавяданняў Ермаловіча, то тут ёсць небяспека іншага парадку, зусім супрацьлеглая. Ермаловіч свядома любіць апавяданне як жанр. Гэта свядомае дачыненне да жанру паказвае на аўтараву літаратурную культурнасць. І от, стараючыся зрабіць апавяданне стройным, сціслым, эканомна сціскаючы матэрыял, аўтар робіць гэта часта адарвана ад справы разгортвання саміх падзей, не ўлічваючы таго, што гэтыя падзеі павінны быць да канца высвенены чытачу. Занадта ўжо шмат чытачу прыходзіцца здагадвацца, занадта шмат цьмяных намё-

каў на нейкія падзеі, якія важны тут, але якія адбываюцца дзесьці за кулісамі. Гэты прыём у прынцыпе надзвычай цікавы, але трэба, каб павевы гэтых падзей былі настолькі выразныя, што выяснялі б іх саміх, так як мы можам заўважыць сілу хвалявання вады ў цэнтры возера па тых хвалях, якія даходзяць да берагоў. У самых першых апавяданнях Ермаловіча імкненне да лаканічнасці пераходзіла патрэбную меру і прыводзіла аўтара да фармалістычнай штучнасці ў шмат якіх кампанентах твора. У апошнім апавяданні вышэйназваныя адмоўнасці ў вельмі значнай ступені зжыты.

Тэматыка гэтых трох аўтараў — калгасная, сялянская. Аповесць Шырокава перарастае гэтыя тэматычныя рамкі. І гэта зусім натуральна, паколькі ў аўтара тут шырокі ахват падзей. Тут і вясковая абстаноўка і гарадская. Тут і вясковыя тыпы і вобразы, і рабочыя. Герой праходзіць праз усю гэтую абстаноўку.

Трэба сказаць, што тэматыка ўсёй гэтай пачынаючай вызначацца плыні, найбольш яркімі прадстаўнікамі якое з'яўляюцца вышэйназваныя тры аўтары, тэматыка найбольш сялянская.

Вызначаецца, і да некаторай ступені ўжо вызначылася, група пачынаючых пісьменнікаў, галоўнаю асаблівасцю якіх можна лічыць імкненне да пэўнай дакладнасці з'яў. Перамаганне статычнага збора матэрыялу — гэта першая задача гэтай групы. Калі ўмоўна дапусціць, што можна гаварыць пра пэўныя ўжо тут кірункі, то гэтая група стаіць блізка да натуралістычных навыкаў работы. Тут справа не толькі ў дэталях, у мове, тут справа ў самім падыходзе да матэрыялу.

Першым з гэтых аўтараў, хто стаў перамагаць гэтыя якасці, быў Шаўцоў. Шаўцоў пачынае пісаць з нарысаў. Ужо тады вызначалася ў яго здольнасць заўважаць такія рысы ў характары, якія важна заўважыць, каб стварыць літаратурны тып. Так былі ў яго ўдалыя зарысоўкі ўдарнікаў на заводзе. Пасля Шаўцоў распрацоўвае іншыя жанры — аповесць, апавяданне. І тут выявілася, як трэба было з самага пачатку літаратурнай вучобы перад маладымі аўтарамі паставіць пытанне, што нарыс не ёсць нейкі ніжэйшы від творчасці, дзе ўзаконена награмаджэнне сырога матэрыялу без усякага адбору. Нарыс лягчэй пісаць, бо ў ім можа не быць напружанае астраты сюжэта, але гэта не значыць, што нарыс ёсць збор сырога матэрыялу.

І от, калі Шаўцоў пачаў перамагаць такога парадку збор матэрыялу, ён пачаў не заўважаць часам, што ў творы важна даць не вынік, а працэс. Так, у аповесці «Дзеці вуліцы», на тэму аб тым, як беспрытульнікі перавыхоўваюцца ў будаўнікоў сацыялізма, ігнаравана шмат момантаў самога гэтага перавыхавання. Некаторыя героі з'яўляюцца ўжо гатовымі, так сказаць, да новае дзейнасці, паказваюцца адразу на новай рабоце пасля беспрытульніцтва. У прынцыпе гэта не ёсць загана, каб адчуваліся ў аповесці канкрэтныя павевы і прычыны гэтага перавыхавання. А то бывае, што самыя думкі кінуць беспрытульніцтва і шукаць работы або вучобы прыходзяць беспрытульнікам самі па сабе. І гэта пасля таго, калі нядаўна яшчэ яны рабілі адваротнае, уцякалі з прытулкаў і школ. Аўтар вельмі добра ведае матэрыял, але задача — навучыцца перамагаць яго. Сюжэт гэтай аповесці разгортваецца даволі цікава, толькі шмат ёсць неапраўданых рэальнасцю штучных спатканняў, абцяжарванне сюжэтнай лініі лішнімі асобамі і з'явамі. Гэты другі момант ёсць яшчэ ранняя прывычка аўтара да нагрaмаджэння сырога матэрыялу.

Бадай-што можна блізка паставіць да Шаўцова Козляка. Вядома, Шаўцоў як аўтар уладае большай ступенню майстэрства. Яго аповесць, нягледзячы на вышэйпаказаныя хібы, ёсць сапраўды аповесць, хоць над ёю аўтару трэба яшчэ шмат працаваць. На Козляка ў большай меры, чым Шаўцова, ціснe матэрыял. І яго трэба перамагаць выпрацоўкай стройнасці сюжэта, а для гэтага набываць навыкі, заўважаць і адбіраць характэрнае і патрэбнае для кожнага твора.

Тэматыка Шаўцова і Козляка — выключна завадская, гарадская. У нашых умовах гэта надзвычай важна. Завадская тэматыка больш блізкая для Шаўцова, і тут у яго большыя магчымасці для працы і вучобы. Там, дзе ён спрабуе свае сілы на тэматыцы вясковай, там адразу відаць, што ён слабей адчувае матэрыял.

Падсобныя першапачатковыя прыёмы былі не зусім яшчэ зжыты Лагвіновічам. Гэты аўтар у большай меры, чым Шаўцоў, гаворачы ўмоўна, натураліст, Лагвіновіч працуе над апавяданнямі. Праца над гэтым жанрам павяла аўтара па лініі хутчэйшага перамагання сырога матэрыялу. Лагвіновіч выпрацаваў у сабе адчуванне сюжэта. Займальнасць у апавяданнях Лагвіновіча на даволі высо-

кім узроўні. Але толькі ў самых апошніх апавяданнях Лагвіновіч пачаў перамагаць такую натуралістычную дакладнасць у характарыстыках і апісаннях, якая вельмі абцяжарвала стройнасць самога сюжэта. Тэматыка Лагвіновіча калгасная. Апошняе апавяданне яго «У Свірні» з усёй яго творчасці самае ярчэйшае. Тут асабліва відно адчуванне сюжэта і даволі ярка абрысаваны тыпы. Залішне дэталей — вось галоўная хіба.

Гэтая група пачынаючых пісьменнікаў мае перад сабою задачу — узвысіць сваю творчасць над паасобнымі праявамі бытавізму. Гэта асабліва трэба ўявіць Лагвіновічу. У Шаўцова тут найменшая небяспека. Ва ўсякім выпадку, Шаўцоў ужо стаіць на даволі высокім узроўні разумення момантаў творчасці, тут відаць яго некаторую практыку.

Шаўцоў і Лагвіновіч, па-мойму, найбольш яркія прадстаўнікі той групы маладых пісьменнікаў, якія пачыналі сваю працу з імкнення да бытавое прозы. Шаўцоў можа выкарыстаць бытавыя моманты для рэалізацыі пэўных ідэй сваіх твораў, у Лагвіновіча быт часта як бы самамэта. Па гэтай лініі рост Шаўцова бясспрэчны. Лагвіновіч у гэтым моманце адстаў ад росту іншых момантаў сваёй творчасці.

Ёсць пачынаючы пісьменнік Краўчанка. Што характэрна для яго творчасці? Не адыходзячы ніяк ад бытавых з'яў, ён карыстае іх не для таго, каб гэты быт апісваць, а для таго, каб вывесці характары, народжаныя гэтым бытам, і на гэтых характарах рэалізаваць пэўныя ідэйныя замыслы. Такія творчыя імкненні закладзены ў яго рабоце. Ёсць адна рыса, якую нельга не адзначыць. Краўчанка пачаў пісаць, не ў прыклад усім пачынаючым іншым, з пэўным густам. Яго такія апавяданні, як «Міціна памылка» і «Тры няўдачы», гавораць, што ў аўтара ўжо ёсць не толькі адчуванне тыповага, а нават ужо ўмельства насычаць мову тонкім гумарам, перадаваць гумар гнуткасцю мовы. (...) У Краўчанкавых апавяданнях стройны сюжэт (калі браць на ўвагу, што Краўчанка пачынаючы пісьменнік), умельства валодаць словам. Толькі трэба зварочваць увагу на паглыбленне ідэйнасці. Гэта значыць, што створаныя аўтарам характары мелі большае значэнне ў жыцці, каб іх літаратурнае выяўленне ішло ў справе большых падзей, каб была большая значымасць і актуальнасць тых вывадаў, якія чытач робіць з кожнага твора.

Я выбраў найбольш яркіх літаратурных тыпаў з пачынаючай моладзі. Яркіх у тым сэнсе, што праз іх можна бачыць асноўныя тэндэнцыі ў творчасці пачынаючых. Можна, да некаторай ступені, заўважаць пачынаючыя вызначацца як бы плыні, якія пасля могуць больш акрэслівацца або зменьвацца.

Вядома, тут можна было б назваць Каплеўскага, Туманскага, Пінчука, Паўлоўскага, Дашкевіча, Калачынскага, Кузьмянкова, Гайшука і шмат іншых. Але справа ў тым, што іх творы можна ахарактарызаваць так, як і творы аўтараў, пра якія вышэй гаварылася.

Справа літаратурнай вучобы маладых аўтараў павінна набыць новую якасць. Яна павінна быць перабудавана не толькі па лініі пісьменніцкай арганізацыі, але і па лініі тае справы, якую я вышэй назваў літаратурным выхаваннем моладзі.

Вучоба пачынаючых вельмі шмат пацярпела ад безадказнасці саміх пісьменнікаў. Яна не ўключана ў наш літаратурны рух. Але таксама мы павінны дамагацца адказнасці і ацаніць пачынаючых. Калі БелАПП праводзіў заклік ударнікаў у літаратуру, ён зрабіў вялікую памылку ў тым, што абвясціў пачынаючага пісаць цэнтральнай фігурай літаратурнага руху. А гэта, фактычна, зняло зусім пытанне вучобы. Трэба сказаць проста: вучоба і развіццё некаторых маладых пісьменнікаў праходзіць вельмі марудна.

## ПРА П'ЕСУ «НА ПЛАТФОРМУ» В. СТАШЭЎСКАГА

П'еса Васіля Сташэўскага «На платформу» напісана для вясковага тэатра. З большасці п'ес для самадзейнага тэатра п'еса Сташэўскага выдзяляецца сваёй сталасцю, прыёмамі, якімі яна напісана, сваімі літаратурнымі якасцямі.

Перш за ўсё, п'еса не мае нічога агульнага з тымі плакатнымі агіткамі, апроч якіх наш вясковы тэатр часта нічога не меў. Дзея п'есы разгортваецца, я б сказаў, на псіхалагічнай аснове: на ўзаемаадносінах паміж членамі сям'і. Узят, так сказаць, прыватны выпадак, а да канца п'есы ён набывае шырокі характар.

Тыпы, выведзеныя ў п'есе — ёсць не абязлічаныя людзі, не плакатныя маскі. Яны індывідуалізаваны, яны жывыя. І авантурыст і прыспасабленец Корба, і калгасны брыгадзір Цімошак — яны рэальныя жывыя людзі. У меншай меры, па-мойму, гэта трэба сказаць пра Віцю, асабліва пра Веру. Тут мала індывідуальных рыс, але не гэта самае важнае ў п'есе.

Пераход Уласа з індывідуальнай на калгасную «платформу» адбываецца не ў выніку плакатнай, галаслоўнай агітацыі, а ў выніку самога ходу жыцця: калгас такая справа, якая развязвае чалавеку рукі на жыццё і працу. Чалавек будзе жыць і працаваць смела і радасна таму, што ён член калектыву і над ім не павісае пагроза яго ўласнага няшчасця, да якога нікому няма ніякай справы. Калі нелады ў сям'і і адно аднаму ненавісны, то такую сям'ю трэба раскідаць. Тады аднаўляецца радасць, шчасце. Але паспрабуй гэта зрабіць там, дзе над сям'ёй вісяць інтарэсы цеснай індывідуальнай гаспадаркі. На гэтай аснове ў мільёнах сялянскіх хат была заўсёды калатня і жылося, як у пекле; самая цесната індывідуальнай гаспадаркі спрыяла нянавісці паміж паасобнымі членамі сям'і.

Логіка жыцця прыводзіць Уласа — героя п'есы — «на платформу» — да калектыву.

Нельга не адзначыць у п'есе такога моманту: паказ станоўчай асобы. Ёсць у п'есе калгасны брыгадзір Цімошак. Ён як бы рэзанёр, носьбіт «калгаснай праўды». Та-

кія героі зазвычай слаба ўдаюцца аўтарам, найчасцей яны стаяць на хадулях абстрактнай дабрачыннасці. У дадзенай п'есе гэта асоба жыве. Тут аўтар карыстаўся прыёмамі тонкага гумару, прыёмам надання гэтаму герою не сухога абстрактнага выказвання ісцін, а жывой мовы, канкрэтна звязанай з тым, што адбываецца на сцэне. Прычым сам аўтар заўважае ў гэтым надзвычай сімпатычным чалавеку смешныя рысы, з якіх добра пасмяяцца, і гэты смех яшчэ больш зближае нас з гэтым чалавекам, бо тут таварыскасць, а не кпіны. Напрыклад, Цімошак часта ў сваю мяккую мову ўкліньвае сухое слова «дэталёва». Гэта аўтарскі прыём.

Або калі пасля таго, як Улас да канца намерыўся ісці ў калгас і разышоўся з жонкаю (а да гэтага ён хістаўся, быў нерашучы і мяккі), Цімошак гаворыць яму: «Але круты, васпан, чалавек!» Зусім ён не круты, і гэта Цімошак паджартоўвае з Уласа.

Такі прыём дае жыццё людзям у п'есе. Сташэўскі такімі прыёмамі карыстацца ўмее. Тут на месцы і старое шляхечае слова «васпан». Як — могуць сказаць некаторыя — такое слова ўжывае наш савецкі чалавек і ў дачыненні да чалавека, які ідзе ў калгас? У тым-та і справа, што па ходу сітуацыі і па ходу развіцця характараў гэтае слова тут не так-то лёгка якім-небудзь іншым замяніць.

Я думаю, што Віця не павінен гаварыць так: «Не зробіш своечасова, то і згіне сена», «А няхай яго з яго прыказкамі». Тут першая фраза супярэчыць другой. Слова «своечасова» ў супрацьлегласці з другой фразай, за якой чуецца не камсамолец, а пажылы і нават з налётам пэўнай флегматычнасці чалавек. Ну, напрыклад, сам Улас.

Усё гэта мы павінны заўважаць. Пакуль не будзем мы аддаваць увагі гэтым «дробязям», датуль не дойдзем да дасканалай адшліфаванасці і мастацкай закончанасці нашых твораў. Мы, пісьменнікі, павінны заўважаць адзін у аднаго ўсё добрае і цікавае і ўносіць яго ў справу практыкі нашага літаратурнага руху.

# СКАНЦЭНТРАВАЦЬ ЛІТАРАТУРНЫЯ СІЛЫ

Мы, пісьменнікі, павінны блізка стаяць да свае газеты «ЛіМ», бо гэта наш аператыўны орган, праз які мы павінны гаварыць пра патрэбы і стан нашага літаратурнага руху, даваць свае ацэнкі пэўным літаратурным фактам і з'явам.

Поспех работы нашай газеты залежыць у многім ад нас саміх. Мы павінны дамагчыся таго, каб наша газета стала выдатнай трыбунай, кожнае слова з якой было б — глыбокі аўтарытэт.

Рэдкалегія газеты павінна сканцэнтраваць каля газеты літаратурныя сілы, дамагчыся таго, каб газета была ўдарнай.

# РЭАЛЬНАСЦЬ, ФАНТАЗІЯ, ВЫМЫСЕЛ

Героі нашых твораў павінны мець сваю біяграфію. Гэта ясна чаму. Біяграфія героя — гэта значыцца рух чалавека, а гэта ўжо само сабою мае на ўвазе рух падзей.

Мы маем два віды біяграфій, тыповых для нашага часу. Гэта, па-першае, пакаленне людзей, якія радзіліся пасля рэвалюцыі. У прынцыпе, біяграфія гэтага чалавека ў сацыялістычным часе. Душа гэтага чалавека не разарвана на часткі гістарычнымі парогамі. Дачыненні паміж падобнымі героямі, або, як гаворыцца, канфлікты, цалкам у часе пабудовы сацыялізма.

Але ні ў якім выпадку мы не павінны ізаляваць гэтую біяграфію маладога чалавека нашага часу ад тых падзей, што папярэднічалі нашым дням і падрыхтоўвалі іх. Наш малады чалавек не павінен у нашых творах быць без нейкай, можа быць нават часам хоць і не непасрэднай, сувязі з тымі вельмі вялікімі падзеямі, што не толькі яшчэ не згладзіліся з нашай памяці, а наогул яшчэ адчуваюцца як нядаўнія і страшна вялікасныя. Праз гэтыя падзеі ішла біяграфія другога тыповага для нашага часу чалавека. Гэта — войны і рэвалюцыі. Гэтыя падзеі яшчэ чакаюць свайго мастацкага літаратурнага нараджэння. Ідучы праз гэтыя падзеі, чалавек набываў новыя якасці, зменьваў сваю натуру. Дробны ўласнік або пачынаў ненавідзець свае ранейшыя ідэалы і ішоў у рэвалюцыю, або, наадварот,— умацоўваў свае ўласніцкія інстынкты. Пралетарый таксама набываў у гэтых падзеях новыя свае чалавечыя якасці.

Хіба гэтыя тыпы не павінны паслужыць аб'ектам з'яўлення выдатных старонак нашай літаратуры?

Мы павінны фантазіраваць. Мы павінны так вывучаць рэчаіснасць, каб на аснове яе законаў наша фантазія магла смела ствараць **рэальна магчымыя падзеі**. Вельмі часта мы праз меру прытрымліваемся простае натуры. Гавораць часам, што пакуль якое-небудзь прадпрыемства толькі будуецца і яшчэ не закончана, на яго матэрыялах амаль што нельга стварыць твора аб яго, напрыклад, пабудове. Гаворачы так, мы не пакідаем месца ма-

стаку, з яго вымысламі, фантазіяй, думкамі. Ці не лепш жа тады зняць усю натуру з пачатку і да канца па кінаплёнку?

Гавораць часамі, што класічныя формы нягодныя для вобразаў нашага часу. А вось бальзакаўскі Ватрэн! Хіба ён, набыўшы своеасаблівыя рысы іншага часу і месца, не трапіў на будаўніцтва Беламорканала і ці не пачалося там яго перараджэнне? І хіба гэта не мае на ўвазе выкарыстанне класічнай формы?

Мы павінны заўсёды займацца збіраннем рыс. Рысы ўдарніка, напрыклад, павінны быць сабраны з усёй краіны; гэтыя рэальныя рысы павінны прайсці праз мастацкі вымысел аўтара. Толькі ў такім выпадку мы дамо месца рабоце мастака.

Мы недастаткова клапоцімся, каб наш твор перамагаў матэрыял. Матэрыял намі ўладае. Творчасць — гэта не ёсць умелая падача гатовага матэрыялу. Творчасць — гэта ператварэнне матэрыялу ў новыя якасці. А калі так, то мы не павінны цягнуцца ў канцы падзей.

Вобраз новага чалавека не можа быць проста спісан з аднаго прататыпа. Сабраныя рысы з многіх прататыпаў мастак павінен яшчэ па-свойму перапрацаваць і злучыць у адно цэлае.

# МЫ ВЕДАЕМ, ХТО НАШ ВОРАГ

Рабочыя, сяляне і былыя парабкі выгнаных ад нас у 1920 годзе на Захад паноў *праходзяць свае ўласныя вышэйшыя школы, выдзелілі з свайго асяроддзя шмат выдатных вучоных і літаратараў.* Былы спрадвечны парабак, няшчаснае стварэнне, панскі нявольнік, якому нават не толькі не давалі хлеб пасля катаржнай працы, а нават здзекаваліся за тое, што ён гаворыць па-беларуску (так, як паляк, скажам, гаворыць па-польску, немец — па-нямецку),— гэты чалавек цяпер далучаецца ў нас да вышэйшых дасягненняў усясветнай культуры. Ён ведае, цэніць і любіць Гётэ і Шэкспіра, Л. Талстога і Адама Міцкевіча, Тараса Шаўчэнку, Янку Купалу. *Ён ведае і цэніць выдатных дзеячаў культуры больш, чым тыя, хто яго калісьці эксплуатаваў.* Бо ён узяў у рукі справу пабудовы новай агульначалавечай культуры, і для гэтай справы ён мае ў сваім распараджэнні ўсё, што стварылі калі-небудзь лепшыя прадстаўнікі чалавецтва.

Знаходзяцца часам «апекуны» гэтага чалавека (напэўна, з тых, што з 1920 года страцілі свой зямны рай на тэрыторыі Савецкай Беларусі). Яны «апекуны» і беларускага народа, і беларускай літаратуры, і беларускай інтэлігенцыі, і ўсяго, што толькі беларускае. Небарак гэты, значыцца, беларускі народ. Масква яго душыць за горла, дыхнуць яму не дае гэтая Масква. Што гэта за Масква — проста страшэнная моц! — ныюць гэтыя «апекуны». І сапраўды, ёсць, скажам, сталіца Савецкай Беларусі — Мінск, былы губернскі горад у нябожчыцы Рускай імперыі. У Мінску Беларуская Акадэмія навук, у Мінску Беларускі дзяржаўны універсітэт, у Мінску Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр, у Мінску Беларускі дзяржаўны оперны тэатр, Беларуская дзяржаўная бібліятэка (роўная бібліятэкам некаторых іншых сталіц, якія не з'яўляюцца так, як Мінск, братамі ці сёстрамі Масквы). У Мінску нядаўна пабудаваны Дом Беларускага Савецкага ўрада (дом, якім могуць паганарыцца і такія гарады, як тая ж Масква або Ленінград). Мінск стаў буйным цэнтрам навуковай думкі: у Мінску бярэ свой пачатак і распрацоў-

ваецца «праблема вялікага Дняпра» — справа нечуванага значэння для гаспадаркі Беларусі. Куды «апекунам» за ўсім гэтым угнацца!

Мы не будзем гаварыць ні пра новае грамадства, новае, шчаслівае пакаленне, якое не ведае ніякага — ні сацыяльнага, ні нацыянальнага — уціску. Ні пра школы не будзем гаварыць, ні пра знойдзеную і здабытую чалавечую годнасць мільёнаў працоўных, ні пра шпаркі рух мільёнаў да заможнага калгаснага жыцця, ні пра тое, што беларуская, скажам, літаратура ў той самай страшэннай Маскве па праву лічыцца як адна з самых перадавых літаратур Савецкага Саюза. Пра гэта гаварыць не будзем, каб не ўгнявіць «апекуноў». Яны могуць угневацца, папершае, таму, што гэта высокая і ўсё больш і больш растучая культура ёсць культура бальшавіцкая, па-другое, яна беларуская. Гэтыя два словы і палохаюць «апекуноў». Што іх палохае бальшавіцкая культура, то гэта ясна, чаму: самі яны не бальшавікі. Наадварот, з бальшавіцкай ласкі яны страцілі зямны рай на тэрыторыі Савецкай Беларусі. А наконт таго, ці беларусы яны, ці не, то гэта не так важна — ні нам, ні ім. Іхняя ласка і пацеха наконт беларускага народа (гаварылі б ужо нечага проста, па-свойму — мужыкі, хлопы) ёсць проста злосць на тое, што ў Савецкай краіне беларускі народ стаў раўнапраўным з усімі народамі СССР і беларуская мова стала мовай дзяржаўнай.

У нас такі вялікі ўздым беларускай савецкай культуры, якога не дасягалі ніколі, на працягу гістарычнай практыкі, ніякія народы. І гэта таму, што наша справа — справа вялікай пралетарскай рэвалюцыі. Нашым ворагам з'яўляецца кожны, хто імкнецца нам перашкодзіць.

Беларуская савецкая інтэлігенцыя стаіць пад сцягам Камуністычнай партыі.

# НА НОВЫЕ ВЫСОТЫ

Наше литературное движение имеет тот главный недостаток, что часть наших литераторов не сознает себя литературными производственниками, они мало занимаются литературной спецификой.

Особенно грешит этим наша критика. За словом «отобразить» она не видит того, как же отобразить, и это слово превращается для нее в голую абстракцию. Для многих наших критиков художественные средства литературного произведения — это дело второстепенное, а иногда прямо-таки незначительное.

Все это происходит вследствие низкого литературного и культурного уровня подобных литераторов.

Такие явления ни в коем случае не характеризуют всего нашего литературного движения. Белорусская литература за время революции выросла в большую литературу. Это тем более требует от нас борьбы с остатками всего того, что так или иначе задерживает развитие советской литературы.

Взгляд на художественную литературу как на механическую иллюстрацию к политграмоте, без внимания к художественным средствам литературы, без внимания к ее художественной значимости, ни в коем случае не благоприятствует литературному воспитанию масс. У нашей молодежи не вырабатываются литературные вкусы. В наших школах художественная литература как таковая не всегда изучается. Я позволю себе привести конкретный пример. На экзамене в семилетке спрашивают ученика:

— Что вы можете сказать про повесть Якуба Коласа «На прасторах жыцця»?

Ученик отвечает:

— Повесть Якуба Коласа «На прасторах жыцця» характерна тем, что автор тут недооценил роль пролетариата в деле перестройки деревни.

— Хорошо, теперь скажите, что такое советский писатель?

— Советский писатель — это такой писатель, кото-

рый в прошлом имел политические ошибки, а теперь приближается к генеральной линии.

Экзамен по литературе считается сданным. Что такой ученик после окончания школы будет знать о художественной литературе? Абсолютно ничего. Виноваты и учителя, и наши школьные учебники по литературе. Они часто составлены таким образом. И это имеет непосредственное отношение к остаткам неизжитых слабостей всего нашего литературного движения.

Практика работы с начинающими авторами показала, что каждого талантливого автора нужно выводить из сферы привитых ему очень узких, а иногда и косных взглядов на литературу, приходится развивать в нем возможность к выработке литературного вкуса (а это должна была сделать школа), приходится доказывать молодому автору, убеждать его в том, что ругать капиталиста — это еще не значит создать образ или тип паразита на теле человеческого общества.

Позорные остатки упрощенчества — вот враг литературной культуры. Остатки примитивного мышления должны быть вытравлены из среды литераторов. Некоторые из литераторов любят направо и налево бросать фразу о том, что наша эпоха — великая. Но они не задумываются над тем, что величие нашей эпохи видно из самой эпохи, и литераторам надо работать так, чтобы величие нашей эпохи было видно и из художественных произведений. Художественная литература разрешает политические задачи своими собственными художественными средствами.

Писатели Советской Белоруссии разрабатывают нетронутые еще, можно сказать, залежи интереснейшего материала.

Величайшие исторические события происходили в Белоруссии. На этой территории кончалась империалистическая война.

Здесь происходила и другая война — война с белополяками. За время пятилетки здесь на месте довоенных полуфеодальных панских имений возникли гиганты социалистической промышленности. Самое изучение этих материалов дает мысли широкий размах. На этом уровне мы и должны держать наше литературное движение. Ориентировать его мы должны на большую литературу, а для этого мы должны перевоспитать каждого из нашей среды,

кто не видит великих дел и явлений из-за явлений мелких, не характерных и не важных для развития литературной культуры. Эти «мелкие дела» возникают или из групповщины или от некультурности, чаще всего — от привычки к узким масштабам мысли. С высот, уже завоеванных нашей литературой, наш съезд должен указать нам подъем на новые высоты.

# <ДУМКІ АБ З’ЕЗДЗЕ>

Для літаратур капіталістычных краін вельмі характэрна з’явішча ўвядання талентаў. Мастак супакойваецца на дасягнутым, ён адрываецца ад жыцця, і фарбы на яго палітры хутка засыхаюць у стаячай атмасферы кабінета, нават у тым выпадку, калі пісьменнік ужо даўно пакінуў традыцыйную мансарду і выбраўся ■ багемавай дрыгвы.

У нас гэтага не можа быць. Той, хто ўзяў пяро з цвёрдым рашэннем аддаць усе свае здольнасці служэнню справы пралетарскага мастацтва, таго не можа сустрэць творчая дэпрэсія, бо пісьменнік прымае ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве, бо яго абавязвае шукаць, працаваць, расці мудрая воля партыі. Энергетычнай базай для яго з’яўляюцца невычарпальныя крыніцы энтузіязму мільённых мас будаўнікоў сацыялізма. Савецкаму пісьменніку даны фарбы дзіўнай харошасці, цудоўнай жыццёвай цеплыні. І мы гэта павінны выкарыстаць для стварэння высокамастацкіх палотнаў.

# ТЭАТР З БУДУЧЫНЯЙ

Пра наш «Тэатр рабочай моладзі» (ТРАМ) цяпер ужо трэба гаварыць няйначай, як пра сталы, сапраўдны тэатр, які з поспехам прайшоў час свайго вучнёўства і ўваходзіць у сям'ю нашых асноўных тэатраў.

Спектакль «Працяг будзе» паклаў канец вучнёўскаму перыяду тэатра. Тэатр пачаў быць самастойнай адзінкай. У гэтым выдатная роля М. А. Зорава, мастацкага кіраўніка тэатра, аднаго з нашых лепшых акцёраў. Яго роля ў справе росту ТРАМа вельмі вялікая.

М. А. Зораў развіваўся і ішоў да свайго акцёрскага майстэрства ў калектыве Першага Дзяржаўнага тэатра (БДТ-1). На шляху свайго росту тэатр гэты перамог шмат цяжкасцей. Тэатр перамагаў нацдэмаўскія ўплывы, а маналітна з гэтым і правінцыяльныя метады фармальнага парадку (натуралізм, бытавізм). І от у гэтым змаганні за ідэалагічную чыстату і вышыню мастацкіх форм у калектыве БДТ-1 вырасла і сфармавалася шмат акцёраў-майстроў, кожны з сваімі яскрава выяўленымі індывідуальнымі творчымі рысамі. І гэта найважнейшая справа, гэта перадумовы для развіцця шматграннасці ў тэатральным мастацтве.

Мне ўспамінаюцца некаторыя персанажы з спектакляў БДТ-1, напрыклад, у «Бацькаўшчыне» Леапольд Гушка (Ул. Уладамірскі) і Евель Цывін (М. Зораў). І адна, і другая, гэтыя ролі выконваліся па-майстэрску, выкананне было на вышыні. І разам з тым, кожная з гэтых ролей выконвалася ў іншакшым плане. Фармальны кірунак быў не адзін і той жа. Тое самае, па-мойму, можна сказаць і пра ігру Ул. Уладамірскага і У. Крыловіча ў «Жакерыі». У спектаклі гэта, вядома, парушае цэласць стыля, але ў самым гэтым факце, як такім, ёсць дадатнасць, бо гэта паказвае, што нашы тэатральныя сілы выраслі і можна ўжо гаварыць пра беларускі савецкі тэатр, як пра тэатр пэўнага свайго кірунку. І мы гэта бачым на прыкладзе БДТ-1.

Сацыялістычны рэалізм якраз і прадбачыць багацце розных кірункаў.

М. А. Зораў — майстар акцёрскай ігры, з яскрава выяўленай сваёй творчай індывідуальнасцю. І ўласцівы яму кірунак ён развівае як і рэжысёр. Стыль сцэнічнага вобраза Евеля Цывіна і стыль сцэнічнага вобраза прафесара ў спектаклі «Працяг будзе» — у выкананні М. А. Зорава — гэта адзіны стыль.

Трэба сказаць, што тэкставы матэрыял у «Евелі Цывіне», дадзены аўтарам, не багаты. Роля «прафесара» мае больш матэрыялу, але таксама няшмат. Але М. А. Зораў знаходзіць для свае ігры моманты ў глыбіні самога вобліка персанажа, там, дзе часта рух адбываецца ўнутры чалавека і вонкава можа выяўляцца мала. І гэта з выдатным майстэрствам выконваецца Зоравым там, дзе гэта трэба. Пачуццё меры і такту — гэта адна з уласцівых аднаму Зораву рыс.

Чаму ж так даводзіцца гаварыць пра М. А. Зорава, калі справа ідзе пра спектакль ТРАМа? Таму што тут відзён уплыў Зорава як рэжысёра.

Вядома, ніякім парадкам нельга гаварыць пра спектакль «Працяг будзе» як пра дасканала вытрыманы спектакль. Па-першае, як было сказана, тэатр толькі што пачаў існаваць як такі, дагэтуль ён праходзіў першае сваё вучнёуства. Цяпер тэатр увайшоў у паласу далейшае свае вучобы, вучобы ўжо вышэйшай. Цяпер справа ідзе аб набыцці майстэрства ў самых падрабнейшых дэталях. А гэта доўгая, няспынная і цяжкая работа. Але ўжо і цяпер льга заўважыць, што маладыя акцёры, нядаўнія яшчэ вучні, ужо маюць адчуванне пэўнага аднаго плана; відно, што ў іх ужо закладзены тэндэнцыі да далейшага развіцця якраз у адным кірунку. Гэта аснова. І таму, мне здаецца, тэатр пры далейшым добрым мастацкім кіраўніцтве здолее развіцца як тэатр свайго пэўнага кірунку, і ў гэтым заслуга М. А. Зорава.

У гэтым маладым тэатры ёсць здаровае таленавітае ядро маладых акцёраў, і гэта будзе жывым цэнтрам росту тэатра. Багацце жанраў, фармальных кірункаў на аснове сацыялістычнага рэалізму, прывядзе да ўзнікнення і развіцця новых прыёмаў акцёрскай ігры; якраз і трэба ўжыць усе захады, каб малады тэатр набываў свой творчы твар.

І гэта ўжо відно з работы ТРАМа.

Невыпадкова, што тэатр выбраў для пастаноўкі п'есу такую, дзе менш за ўсё можна, кажучы хадзячай фразай,

«узяць публіку» якім-небудзь знадворным эфектам. Тэатр перанёс цэнтр увагі на чалавечыя персанажы.

Такі кірунак кладзе ў аснову не тэатральны тэкст, як такі, ён не падкрэслівае сцэнічнай умоўнасці, а стушоўвае яе. І гэта глыбей дзейнічае на гледача. Там жа, дзе ўмоўнасць падкрэсліваецца, там увага гледача раздвойваецца: сваё ўспрыняцце спектакля глядач дзеліць папалам з бесперапынным адчуваннем, што ён у тэатры, а ў тэатры, значыцца, чаго не бывае!

Ёсць у спектаклі «Працяг будзе» адзін цікавы, з боку мастацкага выканання, персанаж (адзін з іншых цікавых), гэта хлопчык, самы малады з удзельнікаў «клуба беспартыйных».

Ён астаецца ў памяці не таму, што ў п'есе ён мае якое-небудзь важнае значэнне. Гэты персанаж эпізадычны. Але ён астаецца ў памяці з прычыны таго, што здольны малады выканаўца ўведзен у цікавы і адпаведны яго нахілам план ігры. Гэта я ўспамінаю для ілюстрацыі таго, як рэжысёр адчувае індывідуальныя нахілы выканаўцаў ролей, ставіць іх у магчымасць іх індывідуальнага развіцця і ўсё гэта трымае ў плане свайго замыслу, свайго кірунку.

Нельга не адзначыць выканання ролі Густа (акцёр С. Клікман), Трэйнчке (Драздоў) і Фрыдль (Яноўская) — усе яны, пры сваіх індывідуальных асаблівасцях, ідуць у адным плане.

На такі шлях пастаўлены ўсе асноўныя сілы маладога тэатра.

Нельга не адзначыць Е. Д. Міронавай. І не толькі з прычыны яе таленавітай ігры ў спектаклі «Працяг будзе» (яе майстэрства мы ведаем з яе працы ў БДТ-1), а і з прычыны таго, што яна сваім удзелам у маладым тэатры памагае маладым акцёрам расці і развівацца. У гэтым заслуга Е. Д. Міронавай.

Я не ставіў сабе задачу ў гэтых кароткіх заўвагах даваць які-небудзь падрабязны аналіз спектакля «Працяг будзе». Я хачу толькі выказаць свае ўражанні і перакананні ў справе ўзнікнення ў нас новага тэатра.

Тэатр ужо мае свайго гледача. Яго спектаклі праходзяць пры перапоўненай публікай глядзельнай зале. Глядач да канца спектакля не зніжае свае ўвагі.

Малады і цікавы тэатр павінен быць абкружан самай чулай увагай, яму павінны быць створаны самыя лепшыя

ўмовы — для таго, каб яго далейшы рост і фармаванне ішлі з поспехам і скора.

Думаю, што асабліва цяпер важнае значэнне для маладога тэатра мае выбар адпаведнага рэпертуару, такога, які спрыяў бы росту акцёраў. П'еса аб нашай рэчаіснасці, з вострымі канфліктамі і яркімі персанажамі — гэта быў бы ўдзячны матэрыял.

## СТВАРЭННЕ ТЫПАЎ І ВОБРАЗАЎ ЖЫЦЦЯ

Дзіўна ўспомніць той час, калі да пастановы ЦК ВКП(б) аб перабудове мастацкіх арганізацый бытавала самая заядлая групаўшчына, гэты сапраўдны біч усялякай творчасці. Групаўшчыну мы цяпер зжылі і зжываем самыя апошнія яе рэшткі. Наша літаратура развіваецца вельмі шпарка і з вялікім уздымам. Беларуская савецкая літаратура за гэтыя тры гады стала на высокі пункт уладання самымі высокімі мастацкімі формамі рамана, драмы, навелы, апавядання, паэмы. Да вялікіх вышынь дайшла наша савецкая лірыка. Наша проза і драма стварылі выдатныя ўзоры тыпаў і вобразаў.

У чым галоўная перамога нашай літаратуры? У разгроме класавага ворага. Хіба гэта не перамога, што наша лірыка адзываецца поўным сугучным водгукам у савецкім грамадстве, што наша проза і драма далі чалавечыя тыпы і вобразы, мастацкая яркасць якіх сапраўды манументальная! Абсалютна нельга параўноўваць, нават і для кантрасту, гэтых напластаванняў нашага літаратурнага мастацтва з убогасцю сентыментальнага стылька нацдэмаўскай прозы і жабрачага лірніцкага скрыпу нацдэмаўскай паэзіі.

Перад намі, савецкімі літаратарамі, высіцца скала, якую мы павінны распрацаваць — выплавіць з яе руды дарагі метал. Тыпы і вобразы сучаснасці і мінуўшчыны, ва ўсіх сваіх жыццёвых выяўленнях, просяцца ў нашы творы, і мы не былі б савецкімі пісьменнікамі, мы не выканалі б свайго абавязку, калі ў самы бліжэйшы час з нашых твораў не выйдзе ў жыццё новая галерэя вялікіх тыпаў нашых дзён. Такіх літаратурных тыпаў, якія былі б сваёй мастацкай сілай варты жыццёвых сваіх прататыпаў — правадыроў партыі, наркомаў, калгаснікаў, ударнікаў, рабочых, чэкістаў, камандармаў, камандзіраў арміі, вучоных — тыпаў з нашага жыцця, літаратурны вобраз якіх быў бы своеасаблівай літаратурнай скульптурай.

Падзеі і сітуацыі! Маляўнічая відовішчнасць! — узнікненне новых сацыялістычных гарадоў, фармаванне і рост сталіц, фармаванне новых душ, фармаванне чалаве-

чай годнасці, прыход к сапраўднаму жыццю ранейшых нявольнікаў жыцця!

Класавы вораг! Ён яшчэ не дабіт. Стварэнне літаратурных тыпаў хоць бы такой разнавіднасці ворага як нацдэмаў — хіба гэта не павінна быць зроблена ў мэтах удару па гэтаму ж ворагу.

Мінуўшчына! Вобразы яе мы павінны даць у літаратуры, паказаць яе твар, даць тыпы і вобразы нашых папярэднікаў і папярэднікаў нашых ворагаў. З нашых твораў і наша пакаленне і будучыя пакаленні павінны пачуць звон разрываемых ланцугоў закаванага ў феадалізм і капіталізм чалавецтва.

Скалу нечапанага матэрыялу мы будзем з большай яшчэ заўзятасцю і ўпартасцю пераплаўляць.

Мы на самым высокім пункце свету. Адсюль мы бачым да шырокіх даляглядаў наперад і да самага змроку жыцця першабытнага чалавецтва — назад. Наш светапогляд бязмежны, усечалавечы. З бальшавіцкіх вышынь мы бачым навылёт і душу чорнай фашысцкай рэакцыі і супрацьлеглую ёй душу вялікага прагрэсу.

Тых магчымасцей і перспектыў, якія нам дадзены, мы не можам не апраўдаць.

За кожнадзённую, бесперапынную ўпартую працу! Мы не можам не быць працаўнікамі.

На вялікія вышыні нас паставіла бальшавіцкая партыя.

# ЗАЎВАГІ ДА СТЫЛЁВЫХ ТЭНДЭНЦЫЙ У ТВОРЧАСЦІ СЯРГЕЯ ЗНАЁМАГА

•

Першыя кніжкі Сяргея Знаёмага выйшлі ў 1930 годзе. Там ёсць нарыс «Дом № 31». У нарысе гэтым расказваецца, як у рабочым пасёлку не ў ладах жылі, сварыліся жанчыны. Аднойчы «чорны, худы, брудны, з вачыма, зацёкшымі гноем, прыплёўся аднекуль сабака на двор дома № 31. Сваім галодным енкам і брэхам ён пабудзіў сварлівую Матруну. Яна дала сабаку кавалак хлеба». Назаўтра таксама накарміла сабаку. А суседка, убачыўшы гэта, кінула сабаку кавалак кілбасы. Суседкі, не сварачыся, пагаварылі адна з адной і пачалі разам карміць сабаку. Да іх далучылася яшчэ некалькі жанчын. Сабака вартаваў пасёлак і належаў усяму калектыву. Гэтая малая справа як быццам унесла змену ў дачыненні жанчын паміж сабою. У іх знайшлася нейкая агульная, хоць можа і нязначная справа, яна належала ўсім ім і з-за яе не было прычыны сварыцца. Гэта навяло аднаго рабочага на думку завесці на пасёлку калектыўнага кабана. Тут пайшла ўжо большая калектыўная справа, якая дэкляроўвала выразную карысць. Справа яшчэ больш памірыла сварлівых жанчын.

Гэта аснова нарыса. Як бачым, развіццё падзей тут паслядоўнае, лагічнае. Але да гэтай «асновы» ў нарысе дадаюцца яшчэ іншыя моманты (напрыклад, вучоба рабочых). Калі мы гэтыя «дадатковыя» моманты выведзем з нарыса, нарыс не толькі нічога не страціць у сваёй закончанасці, а яшчэ набудзе больш кампазіцыйнай стройнасці. Калі ж мы адкінутыя «дадатковыя» малюнкі будзем разглядаць як самастойны нарыс, то таксама яны ў сваёй цэласці нічога не страцяць.

Тое самае мы можам сказаць і пра нарыс «Каця Астаповіч» і пра шмат іншых тагачасных нарысаў Сяргея Знаёмага. У тыя першыя гады сваёй літаратурнай работы аўтар рабіў толькі зарысоўкі (і чарнавыя) сырога матэрыялу і як бы не стараўся ператвараць яго ў якасці літаратурнага твора. Там зарысоўваліся факты, натура, і калі самае развіццё падзей, зарысаваных аўтарам, у натуры нагадвала як бы нейкую лінію даволі стройнага

сюжэта, такую якасць набываў і сам нарыс, што мы бачым у нарысе «Дом № 31». Аўтарам валодаў матэрыял, аўтар не перамагаў яго, не вылушчваў з гэтай сыравіны толькі тое, што патрэбна і важна для твора. Тут мы бачым збор пад адным загалоўкам многіх фактаў, многіх дэталей, выпадковых адзін каля аднаго, супярэчлівых адзін аднаму. Факты гэтыя не прыведзены ў сістэму, а таму іх, непадобраных і неадабраных, цяжка накіраваць на ўдалае вырашэнне пэўнай ідэі, якая лажылася ў аснову твора паводле замыслу аўтара. Чытачу даводзілася перамагаць аўтара, самому пра шмат што здагадвацца, самому рабіць вывады, шукаць іх недзе па-за творам. Такім парадкам часта зніжалася, а часамі сыходзіла на нішто, мастацкая якасць некаторых першых нарысаў.

Падзеі, факты браліся часам тады аўтарам не ў развіцці, не ў руху, а ў застыласці аднаго моманту. Браўся момант, а не злучэнне момантаў, якія адзін з аднаго выходзяць, адзін з аднаго паслядоўна развіваюцца.

У Каці Астаповіч ёсць блізкі хлопец Віктар Корзун. Паміж імі блізкія, радасныя, маладыя дачыненні. Але Кацю пасылаюць на работу ў іншы горад. Там яна забываецца на Віктара, уцягваецца ў нядобрыя бытавыя з'явы, якія там ёсць сярод пэўнай часткі рабочай моладзі і нават у асяродзішчы камсамольцаў, даходзіць да мяжы з распустай. Цяжарная, думае аб самагубстве, пасля канчаюцца гэтыя цяжкія моманты, і яна зноў становіцца на добрую дарогу актыўнай работніцы і камсамолкі.

У гэтым нарысе найбольш можна ўбачыць адмоўнасці і дадатнасці тагачаснага Сяргея Знаёмага як пісьменніка. Тут сабрана найбольш канкрэтнага матэрыялу, самага непасрэднага і жывога. І простая, калі льга так сказаць, бясхітрасная падача яго не абцяжарана якімі-небудзь аўтарскімі высновамі або імкненнем да філасофскіх абагульненняў.

Няважна, колькі тут аўтарскай фантазіі ці зусім тут яе няма, а проста запісаны здарэнні і факты. Для разумення тагачаснага стану творчасці Сяргея Знаёмага тут важна бачыць, што тут не асмысляюцца праявы быту, а даюцца ў сваёй момантнай застыласці. Часамі гэтыя факты могуць глыбока хваляваць, але гэта ад іх саміх, ад таго, што яны ад самага жыцця. Што ж да аўтара, то часам яго тут трэба перамагаць. Замест таго каб кампазіцыйнай камбінацыяй гэтых самых фактаў, адпаведнай абрысоў-

кай людзей, узмацненнем і аслабленнем (дзе як трэба) пэўных рыс і дэталей весці чытача праз твор да пэўнай ідэі, узяць яго ў палон вобразаў і такім парадкам дзейнічаць на яго, аўтар пакідае чытача перад тварам голых, адарваных ад працэсу свайго развіцця і ператварэння, застылых у пэўным моманце фактаў, страшна супярэчлівых, супрацьлеглых, без яснага апраўданага канца і пачатку. Аўтар пакідае чытача перад тварам фактаў, не прыведзеных у сістэму, характэрную кожнаму мастацкаму твору. Аўтар абмяжоўваецца толькі фатаграфічнай падачай матэрыялу, падачай застылага і нерухомага моманту.

Каця Астаповіч [redacted] камсамольскай вышыні спусцілася ў мяшчанскае балота, пасля зноў узышла на ранейшую дарогу. Гэта толькі азначэнне факта, без якога б там ні было абагульнення, тыпізацыі, доказу, без сістэмы, якая выходзіць з пэўнай ідэйнай устаноўкі. Часта факт не выцякае з факта. Наадварот, супярэчыць яму.

У чым фатаграфічнасць моманту, іх застыласць саміх у сабе, без сувязі з папярэднім і наступным? У адным месцы нарыса малады рабочы так гаворыць яўрэйскай дзяўчыне, работніцы: «Нашы-та бацькі, дарагая Тырца, Смольны бралі, а вашы-та на рынку з людзей скуру дралі!» Пасля ўжо чытач пачынае з нарыса бачыць апраўданне гэтай фразы: бацькі гэтай дзяўчыны былі гандляры. Але пакуль да гэтага, то ў пэўнай часткі чытачоў (выхоўванню і перавыхоўванню якіх спрыяе літаратура) могуць вынікнуць нечаканыя і непажаданыя для аўтара асацыяцыі. Гэта да таго, што дзея застыла сама ў сабе, без сувязі з думкамі таго, хто яе сказаў.

«Тырца нацэлілася на эканомпрацаўніка Сцёпку Васюковіча. Прыгожы хлопец. З залатымі зубамі, заўсёды чысценькі». Зафіксаваны адзін момант. Калі на адну секунду зірнуць на чалавека і пасля адвесці ад яго вочы, то сапраўды можа быць так: прыгожы. Што можа мільгануць у гэтую хвіліну для вока? Скажам, колер валасоў, рост, стройнасць, колер і характар адзежы і бляск залатых зубоў, калі ён, скажам, усміхнуўся. Прыгожасць яго можна заўважыць. Таксама можна заўважыць і тое, што ў яго залатыя зубы. Але для Тырцы, якая даўно яго ведае,— ці ўваходзяць залатыя зубы ў арсенал тых уласцівасцей, якімі ён ёй падабаецца? Напэўна не, гэта хутчэй дэфект.

«А ён, прытуліўшыся да грудзей, слухае, як б'ецца яе сэрца. Яго рука непрыкметна спаўзала на Кацяна спягно... Ён мацней пачаў прыціскаць да сябе Кацю, тужачыся паваліць яе на траву».

У гэтыя часы сваёй літаратурнай работы Сяргей Знаёмы мог часамі распісваць падобныя моманты без усякай патрэбы, не думаючы, якую функцыю нясе ў творы падача такога моманту. Момант проста зафіксоўваўся. Таму ў гэтых нарысах мы маглі спаткаць моманты, якія не заўсёды адпавядалі нормам эстэтыкі. І такая вульгарызацыя ў паасобных мясцінах уносіла блытаніну ў чытацкае адчуванне асоб і падзей у нарысе, зневажала, так сказаць, тых людзей, душу якіх аўтар стараўся паказаць перад чытачом. Тут чытач павінен быў перамагаць аўтара. Ён павінен быў, чытаючы твор, не ўсё браць пад увагу, а карыстацца творам для таго, каб думаць, што сапраўды ў жыцці ёсць такія факты, і рабіць з іх свае высновы, незалежныя ўжо ад самога твора. Матэрыял куды мацнейшы за самы твор.

У гэтых першых сваіх нарысах аўтар яшчэ рыхтуецца да літаратурнай работы, будучы абкружан фактамі жыцця. Ён яшчэ не можа адрозніць характэрнага ад нехарактэрнага, патрэбнага ад непатрэбнага. Лішнія эпітэты, няўдалыя на пэўным месцы словы, лішнія малюнкі і эпізоды, як нейкая прыкрасць, праходзяць праз шмат якія нарысы.

У нарысе «Выпадак на хутары» (выданне 1932 г.) трэба даць карціну тых вялікіх чалавечых пакут, з нетраў якіх выйшла дзіця — дзяўчынка, далейшая гераіня нарыса. От як творыцца гэтая карціна: «Амаль увесь эшалон галадаючых з Паволжа выкаціў тыфус. Вознікі вазамі тарабанілі мерцвякоў на могілкі». Два вельмі ўдалыя на пэўным месцы словы (выкаціў, тарабанілі), узятыя непасрэдна з народнай мовы, у няўдалым іх ужытку, надаюць фразе адваротны сэнс. Фраза аддае здзекам з тых людзей, лёс якіх павінен служыць матэрыялам для стварэння аўтарам абстаноўкі, з якой выйшла дзіця.

Усё гэта мы маем справу з няўмельствам аўтара карыстацца матэрыялам. У ранейшых прыкладах быў матэрыял у форме жыццёвых падзей і здарэнняў, тут — у форме мовы. Але калі ў першых выпадках мы вельмі часта бачылі адсутнасць арганізацыі матэрыялу, даволі часта не бачылі пераплаўкі яго ў новую якасць (якасць літара-

турнага твора, замест сырой падачы матэрыялу), то ў другім выпадку аўтар мацнейшы. У справе ведання народнай мовы (слоўнік, фразеалогія) аўтар даволі моцны. І гэта вельмі часта аздараўляе агульны каларыт усяго нарыса. Часта ўдалая фраза адыгрывае ролю дэталі і характарызуе тып. Напрыклад, такі дыялог:

— Усім цэхам трэба абвясціць сябе ўдарнымі.

— Ну, дык абвяшчай, хто табе не дае!

Апошняя фраза нагэтулькі жывая, сакавітая і характэрная, што за ёю, як жывы, чуецца тып. Такую з'яву мы даволі часта сустракаем у творчасці Знаёмага. Гэтая дадатнасць шмат што выратоўвае ў першых яго нарысах.

Але аўтар і тут не да канца паслядоўны. Мы ўжо бачылі, як «вознікі вазамі тарабанілі мерцвякоў на могілкі». Апроч гэтага нельга не заўважыць яшчэ аднаго моманту. Ведаючы даволі добра народную мову і, што вельмі важна, любячы, адчуваючы яе, аўтар аднак часта вытрымлівае свае творы, ці, прынамсі, шмат іх тэксту, у духу пэўных стылізацый пад народную мову. Па лініі гэтых стылізацый ідуць часта і аўтарскія рэмаркі. Калі слова, фраза насычана бытам, сам кірунак мовы рэалістычны, здаровы, дзе мова іскрыцца ўсімі сваімі шматлікімі гранямі, калі ў адной фразе гучыць народны гумар, у другой — непаразуменне, у трэцяй — сарказм і змрочны здзек, у чацвёртай — весялосць,— такія фразы і словы ствараюць здаровы і цікавы элемент у рабоце аўтара. Але аўтар часта без разбору карыстаецца гэтымі якасцямі мовы, часта перамешвае іх з якасцямі іншымі. Аўтар карыстаецца стылёвымі якасцямі фальклору. З фальклору ён уносіць элементы ў свой стыль. А тут трэба быць вельмі асцярожнымі, выпрацоўваць у сабе пачуццё меры і густу. Выпрацоўваць у сабе мастацкі густ — гэта трэба і пісьменніку, і чытачу.

У фальклоры ёсць усялякія элементы. Там ёсць і сентыментальнасць, і суровасць. Побач з дамавітай гаспадыняй і, разам з тым, разгульнай бабай Лявоніхай, там ёсць і сумная сірата — дзяўчына, якая сыпле слёзы ў крыніцу. Побач з «Чарнаморцам», які не толькі прынёс з вайны ў цэласці сваю галаву, а яшчэ і сямёра коней прывёў, выступае самотная і слязлівая постаць божай маці, якая сумна глядзіць на «небаракаў-сіротак». Тут і сасонка якая вырасла, на сваё няшчасце, пры вялікай дарозе і на карэннях і пад голлем якой падарожныя купцы, везучы та-

вары, агонь клалі, і таму сасонка «не зелена, бо яе карэнне гарэла, бо яе голлейка смылела», тут і ваяка Янка, які едзе «ваяваці» і якому ў гэты момант дзяўчына толькі замінае. Усё гэта фальклор. Ён не аднолькавы ў самой прыродзе сваёй. У ім аддадзена багатая даніна месцу, часу, абставінам. Тут відзён характар народнай творчасці, супраць каго і за каго яна, чыя яна і адкуль. Супраць якога класа яна і за які клас. Песня пра Лявоніху — гэта адно, пра сірату — гэта другое. У народнай творчасці можам вельмі выразна заўважыць зусім супрацьлеглыя адзін аднаму стылі.

І от, у першыя часы сваёй літаратурнай работы Сяргей Знаёмы трымае каларыт сваіх фраз вельмі часта ў плане як бы фальклорных форм, але выключна такіх, дзе «сцежачкі і крынічанькі, сонейка і матачка». Не пра гэта піша Сяргей Знаёмы. Ён піша пра заводы і камсамольскую моладзь, пра фабрычныя карпусы і сацыялістычнае будаўніцтва. Але стыль свой ён мае нахіл зводзіць да вышэйназванага плана. Ён піша:

«Плакала Каця, калі давялося разлучыцца з фабрыкай, з горадам, са знаёмымі. Плакала ад таго, што давозілася пакідаць Віктара».

Або: «Тадора з сынам у горад пераехала. Тадора ваду насіла. Янка пямёлы з мётламі вязаў. Спрабаваў Янка ў школу хадзіць. Дзве зімы правучыўся, а на трэцюю маці і кажа:

— Навука не для цябе, Яначка. Лепш бы табе на завод.

Ціхі быў Янка, па бацьку ўдаўся».

Параўнаем з такім тэкстам:

«Хадзіў Хрыстос з Пятром па зямлі ды вучыў людзей, як жыць на свеце... Было ў іх трохі хлеба. Не вытрымаў Пятро, ушчыкнуў крыху хлеба ды і есць. Пазнаў Хрыстос, што робіць Пятро, дый пытае ў яго: што зрабіць людзям на патрэбу?» (Народная казка «Адкуль пайшлі грыбы»).

У пададзеных урыўках мы бачым блізасць стылёвай дынамікі.

«И жить, говорит божий человек, больше неохота. Только б помереть...

Безнадежный я теперь остался человек.

И сказал ему старичок:

— Нехорошо ты говоришь... нам нельзя божьи дела судить». (Л. Талстой «Где любовь, там и бог»).

Талстоўскі геній глыбока адчуваў, што свае пропаведзі «непротивления злу» ён найбольш блізка давядзе да «кроткой» душы, так сказаць, масавага свайго Платона Каратаева тады, калі зробіць іх у стылі якраз такога стылёвага кірунку народнай творчасці.

Усе вышэй пададзеныя тэкставыя вытрымкі маюць аднолькавы свой унутраны рытм.

Цяпер возьмем такую вытрымку:

« — Прыйшлі яны раненька і паглядаюць сюды-туды. Вёска як вёска. Шырокая вуліца, паабапал хаты, а на канцы вялізная хата з крыжам на даху». І далей: «Пачалі людзі разыходзіцца з царквы, от наш чалавек і пытае тамашняга старога: што гэта ў вас за свята і што гэта вы рабілі ў царкве? А той і кажа: сёння святога Дрыгуна, от мы і рабілі святое падрыгванне».

Нельга гаварыць, што гэтая вытрымка не мае нічога агульнага ў сваім стылі з вытрымкай пра Хрыста і Пятра. Справа ў тым, што гэтая казка «Святое падрыгванне» запісана адначасна з казкаю «Адкуль пайшлі грыбы», і запісаны яны ў адной мясцовасці з расказаў жывых людзей. Гэтыя старыя казкі запісаны ўжо ў эпоху капіталізацыі вёскі, былі ўжо тады павевы вайны і рэвалюцыі. К таму ж абедзве гэтыя казкі, як і наогул казкі палешукоў, вельмі мала маюць хрысціянскага духу. Але ўсё ж у стылі гэтых дзвюх казак можна вельмі лёгка заўважыць неаднолькавыя, нават супрацьлеглыя, моманты. Там фраза ўкладваецца ў Хрыстовы вусны, тут чалавек высмейвае праваслаўнае богаслужэнне. І гэты змест кладзе свой след на ўвесь стыль казкі.

Возьмем такі тэкставы ўрывак з Сяргея Знаёмага:

« — У Янкі Шарко бацька быў леснікам. Каб сказаць чалавек дрэнны, дык не. Ат, так сабе. З сялянамі не сварыўся і перад панам Рыгаровічам не выслужваўся. Жыў, як шмат хто з сялян. Ціхі быў чалавек. Жыў ціха і памёр ціха».

А от з народнай казкі «Дзеўкі і чорт». «Ён рана заўдавеў і астаўся толькі з маленькаю дачкою. Прыгожая ды здатная на ўсялякую работу была сіротка, але, вядома, дзіця — не можа ўправіцца і ў дамоўцы, не то каб яшчэ даглядзець гаспадарку».

От дзе цікавы стыль: рэалістычны, з густым водарам быту. Такі ж каларыт мае і прыведзеная вытрымка з Сяргея Знаёмага.

Вядома, той будзе самы сапраўдны вульгарызатар, хто стане гаварыць, што Сяргей Знаёмы кладзе перад сабою якія-небудзь зборнікі народнай творчасці і кіруецца імі ў час сваёй работы. Усё гэта ў аўтара ідзе ад таго, што ён ведае народную мову і любіць яе, і яна робіць свой уплыў на ўвесь стыль яго твораў. Але паколькі народная мова не маналітная, не аднолькавая для розных пластоў насельніцтва, паколькі яна развіваецца, зменьваецца ў залежнасці ад часу, то трэба глядзець, каторы стыль народнай мовы можа быць на месцы тут, а не там, і наадварот. Інача́й кажучы, трэба ведаць, як карыстацца мовай.

Таксама трэба ведаць, як карыстацца і фальклорам. Тут справа яшчэ вастрэй стаіць. У Сяргея Знаёмага, у першых яго нарысах і аповесцях мы не заўсёды бачым асцярожнасць і ўмельства ў справе карыстання фальклорнымі стылямі. (Няважна, што адзнакі фальклору прыходзяць тут у стыль аўтара мусіць толькі праз народную мову, а не непасрэдна з фальклору.) Няўмелае карыстанне фальклорнымі стылямі прыводзіць часта аўтара да самага поўнага сентыменталізму і да разрыву зместу з формай. Гэтая супярэчлівасць даволі выразна праходзіць праз стыль усіх першых нарысаў С. Знаёмага і праз часткі тэксту аповесці «Ганчары». І гэта ідзе побач з здароваю і цікаваю, рэалістычнай плыннею ў яго стылі.

«Зялёна-жоўты мох упрыгожваў улонні бору. Дзенідзе валялася сухое лісце. Рознае птаства знаходзіла тут сабе сельбішча. Бесперапынна звінела жаўна... А на тоўстай даўжэзнай сасне адпачываў каршун пасля начной стомы. Азіраючыся навокал, сарока цікавалася сесці ў сваё гняздо».

Стройныя суровыя фразы, быццам разьба па сталі. Здаровы стыль з нахілам у здаровую рэалістычную рамантыку. Гэта вытрымка з нарыса «За дамбаю». А от пачатак аповесці «Ганчары»:

«Каля лесу віецца-сцелецца сцяжынка. Ой бяжыцьбяжыць, непратаптаная каля пушчы, верасы абапал нахіліліся, тонкае голейка сухое навалілася. Трашчыць голейка сухое пад нагамі, колюць гліцы-чамярыцы ногі босыя. Ідуць хлопцы моўчкі. Ідуць, пазіраюць... паперадзе ідзе меншы... за ім другі з плячыма шырокімі і грудзьмі пакатымі. Ступае ён цвёрда, крокі робіць шырокія. Дзе ступіць, дык і прыцісне долу верас. Далёка адыдзецца, але верас ляжыць, не ўстае...» (От вытрымка з старасвецкага

народнага рэлігійнага верша: «Гарацць агні неўгасімыя, кіпіць смала незгараемая»).

Сапраўды, паміж перадапошняй і апошняй вытрымкай з Сяргея Знаёмага няма нічога агульнага. Сваімі стылёвымі накіраванасцямі яны супрацьлеглы адна адной, як агонь і вада. Возьмем вытрымку з «Ганчароў». Можа быць, гэта аўтарскі прыём? Можа быць, гэта сумысля ствараецца атмасфера нейкага казачнага лесу, нейкай легендарнай сцяжынкі, нейкай містычнай хады двух хлапчукоў, пасля якіх верасок ляжыць і не ўстае? Можа гэтыя хлапчукі ідуць ад суеты чалавечай, цераз лясы, у які-небудзь манастыр стаць схімнікамі? Не, гэта ідуць нашы сучаснікі, ранейшыя парабчукі, а пасля рабочыя савецкага завода.

У чым жа справа? Чаму Сяргей Знаёмы, аўтар такіх цікавых стылёвых узораў, пра якія я ўспамінаў, калі падаваў нядаўна вытрымку з нарыса «За дамбаю», збіваецца на такія «ой сцяжынкі»? Мне здаецца, што тут зноў жа простае няўмельства ператварыць стыль народных гутарак і стылі фальклорныя ў сваю пісьменніцкую зброю.

У той жа аповесці «Ганчары» ёсць такое месца. Уміраe змучаная адвечным жыццёвым горам маці і гаворыць свайму сыну-хлапчуку: «Сынок мой Максімка, Юрачка яшчэ маленькі, яшчэ дурненькі. Ты ж большанькі, глядзі за ім. Ды помні, што бацька твой, маці твая век свой пражылі ў чужой хатачцы і на той свет пайшлі на чужой лавачцы. Нічога не мелі і вам не пакідаюць. Дык самі майце розум. Падрасцеце — руплівіся, дбайце, каб хоць пад старасць мець свой куток, свой прытулачак».

Тут такая стылізацыя на месцы. Такі маналог гармануе з вобразам гэтай жанчыны. Як уяўляе свет гэтая жанчына? Законы развіцця чалавечага грамадства недасяжны яе разуменню. Яна не разумее тых сацыяльных прычын, з-за якіх яна не жыла на свеце, а пакутавала. І яна думае, што «і калі брат брату не паможа, то і ніхто не паможа». Гэтая цёмная жанчына-пакутніца прасіла шчасця ў бога. Ёй былі вядомы і стыль сірочых песень і жабрачых стогнаў. Прычым, яна перажывала ў момант смерці нечалавечыя пакуты душы, пакідаючы ў «такім жорсткім свеце» сваіх небаракаў-дзяцей сіратамі. І гэты надрыў, гэтае вялікае замілаванне ў яе гучэла праз словы «Максімка, Юрачка, хатачка, лавачка, прытулачак». Замілаванне ў час пакуты стварылі інтымнасць, але свое-

асаблівую, уласцівую толькі гэтаму моманту і гэтай абстаноўцы. Калі ж стыль гэтай жанчыны перанесці на ўсю аповесць, або, прынамсі, на шмат якія яе мясціны, то самы змест яе пойдзе пад уплыў гэтага стылю, што мы і бачым у пачатку, калі адпаведная стылізацыя пейзажу ператварае двух вясковых парабчукоў у нейкіх таемных лясных вандроўнікаў, надае ім траха не містычны каларыт. Значыцца, першае з'яўленне перад чытачом двух братоў зроблена няўдала. Атмасфера інтымнасці ў абрысоўцы гэтых сірот-хлапчукоў павінна была ісці ў іншым кірунку, каб іх вобразы перад намі паўставалі з нашага пункта погляду, а не з пункта погляду іх маці, да якое наша замілаванне і пашана павінны мець таксама наш стыль. З пункта погляду нашага стылю мы глядзім і на яе стыль. Наш светапогляд узвышаеца над яе светапоглядам. Аўтар павінен узвышацца над тым стылем, які ёсць прадукт, так сказаць, хоць дарослых, але дзяцей.

Трэба сказаць проста: наццэмаўская літаратура кананізавала гэты сентыментальны стылёк. Наша ж літаратура нічога агульнага не можа мець з ім, ён скажае самы змест нашай літаратуры.

Сам жыццёвы матэрыял скіроўвае аўтара на здаровы стыль, узоры якога я падаваў вышэй. Нездаровыя ж плыні ў яго стылі ідуць на разрыў са зместам.

Імкненне стварыць каларыт інтымнасці ідзе ў аўтара вельмі аднабока. Яно ідзе па лініі ўжывання памяншальнай формы слоў, эпітэтаў. Напрыклад, «заработак невялічкі», «у руках з кіёчкам», «цэглы-красуні», «запрасіў хуценька», «ветрык». Наданне паняццям і рэчам эпітэтаў з неадпаведнай ім катэгорыі: «мароз-абібока», «вые вецер-злодзей». (Вядома, тут усё ў пераносным сэнсе, але гэта не абы-дзе і як трэба ўжываць, а толькі ў адпаведных стылізацыях.)

Памяншальнасць пранізвае наскрозь яго нарысы і аповесць «Ганчары». У гэтых рэчах гэта стала неадменнай адзнакай стылю. І замест інтымнасці, блізасці да герояў налажыла на творы каларыт нейкай шэрасці, аднастайнасці, дробнасці. Як бы загароджваючы ўзлёты ў шырокія маштабы. «Рашылі назваць сабаку так: Жук, бо ўвесь чорны, поўстачка маленькая, адкорміцца і будзе як жучок». Такія словы, як «невялічкі», «звычайны такі», «просценькі» — гэта нязменныя характарыстыкі амаль

што ўсіх людзей, з'яў і рэчаў у нарысах Сяргея Знаёмага, уключаючы сюды і аповесць «Ганчары».

«Велізарныя карпусы Гомсельмашу. Увойдзе чалавек і нязначным робіцца. Невялічкім... У зборачным цэху закурваць пачнуць, слоўцам перакінуцца, глядзіш — і гадзіна на вецер. У ліцейнай на дзяўчат хлопцы заглядзяцца, шпільку адколюць па іх адрасу, у выніку гадзінка ў расход».

«Ён нагінаўся над верстаком, і хутка з яго рук выскокваў невялічкі гарнушачак». Як быццам бы незнарок пісьменнік падводзіць чытача да свайго героя якраз тады, калі ён робіць не які-небудзь гаршчочак, а якраз маленькі гарнушачак.

Пра Сяргея Знаёмага можна сказаць, беручы на ўвагу яго тэматыку, што гэта пісьменнік рабочы, але не якіх-небудзь буйных індустрыяльных цэнтраў, а рабочых ускраін, рабочых пасёлкаў, рабочых з ранейшых павятовых гарадоў. Блізасць к сялянству — гэтая пячаць даволі выразна пакладзена на творчасці Сяргея Знаёмага. Глыбокае веданне быту, жыцця, працы вышэй успамянутага рабочага асяроддзя — гэта рысы Сяргея Знаёмага як пісьменніка. Веданне гэтае вельмі канкрэтнае, вельмі выразнае і арганічнае. З гэтым матэрыялам Сяргей Знаёмы адчувае сябе як гаспадар. У падачы гэтага матэрыялу ён канкрэтны. Тут няма аніякае лакіроўкі, аніякае надуманасці. Гэты момант вельмі важны для пісьменніка. Але сюды ўкліньваецца наносная стылізацыя — шэранькі каларыт дробнасці, сентыментальшчына.

«Невялічкі горад», «шэранькія людзі». У гэтым горадзе і ў гэтых людзей трэба шукаць вялікіх спраў, заўважаць іх, і на гэтым самым матэрыяле надаваць творчасці вялікі размах. Трэба біцца ў большыя творчыя маштабы. Трэба вучыцца ў класікаў.

Першыя старонкі «Ганчароў», вытрымку з якіх я падаваў, ёсць літаратуршчына, уплыў ці наплыў, але гэта наносная непатрэбшчына. Яна абсалютна не вынікае ні з аўтарскага светапогляду, ні з яго творчых установак. Яна ёсць чужародная з'ява ў дачыненні да таго здаровага і цікавага матэрыялу, з якога зроблена аповесць. І мы бачым, што далей, на працягу ўсёй аповесці, гэты стылёк мала дзе з'яўляецца. Рэалістычнасць — галоўная, стрыжнёвая плынь гэтай аповесці. Тут ужо відны адзнакі аўтарскага творчага твора.

Гісторыя двух братоў — гэта тэма «Ганчароў». Аўтар вельмі добра ведае матэрыял, гэта відаць адразу. І гэта паспрыяла таму, што асобы двух братоў някепска вырысоўваюцца перад намі як вобразы. Дыялагі тут цікавыя, а не стылізаваныя з дрэнным густам.

Стылізацыя аўтарскіх рэмарак пад мову герояў ужываецца толькі ў спецыфічных выпадках. У «Ганчарах» такая з'ява ёсць, і, мне здаецца, гэта зроблена часта някепска. Гэтым прыёмам аўтар часта дасягае таго, што ствараецца інтымная абстаноўка, каларыт інтымнасці навокал хоць бы сабе Юркі, аднаго з персанажаў аповесці. Мне здаецца, што ў далейшым, калі аўтар пачне ўжо дыферэнцыраваць мову па персанажах, калі ў аўтара персанажы загавораць кожны сваёй мовай, аўтару трэба будзе старацца захаваць гэтую інтымнасць і не страціць яе ў дачыненні да персанажаў нам блізкіх. Аўтар тады павінен будзе расчляніць народную мову на элементы сарказму і ласкі, смеху і змрочнасці, суму і весялосці. Трэба знайсці ў мове і ласкавае слова, і гром, і замілаванне, і нянавісць. Можа быць, у гэтай «інтымнасці» і хаваецца тое зерне, якое павінна выявіць арыгінальнасць Сяргея Знаёмага, патрэбную кожнаму пісьменніку.

Аўтар дасягнуў інтымнасці ў шмат якіх мясцінах сваё аповесці. Але мову ён узяў узроўня, так сказаць, такога, дзе няма вялікіх хваляванняў, агністых людскіх навальніц. Ён узяў мяккі гумар, часамі лірычны, але на ўзроўні сярэдняга абыходку, быту людзей глухога горада, дробных майстэрань, арцеляў. Усё гэта добра. І сама дзея аповесці разгортваецца ў такім гарадку, і людзі сваю шэрасць скідаюць нялёгка. Але ж мы помнім, як умірала маці двух братоў. Мы помнім, на якой мяжы свайго душэўнага ўздыму яна была ў той момант. Мы там па-за радкамі адчуваем у гэтай істоце больш можа, чым сказаў сам аўтар. І от паўстае пытанне: чаму б да ўзроўню больших чалавечых хваляванняў, да большай дзейнасці, да больших і гарачэйшых сутычак не давесці герояў? Калі фактычны матэрыял, вывучаны аўтарам, не такі, то трэба выклікаць да жыцця фантазію. Без творчага вымыслу няма вялікага мастацкага твора, без фантазіі няма творчасці. Я не гавару, што ў аўтара «Ганчароў» няма фантазіі, але яе трэба ўзнімаць да большага ўзроўню, трэба натхняцца ўсім важным і глыбокім. Сяргею Знаёмаму, які так шмат пісаў і піша дакументальных нарысаў, трэба

ў такіх жанрах, як аповесць і апавяданне, не захапляцца вельмі фактычнай дакументальнасцю, а ў сваёй фантазіі выклікаць да жыцця тыя сітуацыі, якіх хоць і няма ў пэўных дакументах і з'явах, з якімі аўтар меў справу, але якія могуць быць (дзе-небудзь, скажам, у іншым месцы, а можа нават і ў часе) на аснове рэальных законаў жыцця чалавечага грамадства. Часта і сам матэрыял можа схіляць аўтара да большай глыбіні («Каця Астаповіч»), але аўтар як бы не мае смеласці пераступіць парогі простага быту і перайсці ў сферу большых праблем. Раней шы малавядомы шэры чалавек у нашай савецкай краіне скідае сваю шэрасць і робіцца выдатным чалавекам. Мы ведаем, што героі Савецкага Саюза — і чалюскінцы, і лётчыкі, што іх ратавалі, і ўсе нашы выдатныя людзі — людзі гіганцкіх узлётаў думкі, людзі сусветных бальшавіцкіх спраў — выйшлі з нашых звычайных гарадоў і вёсак.

Трэба выбрацца ў шырокія размахі і вывесці туды сваіх герояў, праблема «малога, нязначнага, нясмелага, шэрага» чалавека таксама можа быць тэмай. Але ж гэты чалавек зменьваецца, асімілюецца. Ды ўрэшце, не павінен ён накладаць свае пячаці на ўвесь стыль. Стыль гераічных размахаў нашай эпохі гэта не «невялічкасць». Гэты эпітэт можа быць ужыты толькі да паасобнага героя, але не класці свайго адлюстравання на ўвесь стыль. Тыя смеласць, размах, якія, напрыклад, закладзены ў матэрыяле нарыса «Каця Астаповіч», зніжаюцца такім стылем, а часта зводзяцца на нішто.

У 1934 годзе надрукавана аповесць Сяргея Знаёмага «Біяграфія майго героя». Гэтая аповесць для Сяргея Знаёмага ёсць немалы крок наперад. Тут ён развітваецца з сентыментальным стылем. Тут герой не прыціскае ўжо нагамі нейкі легендарны верас, тут ужо няма і знарочыстае стылізацыі пад «гліцы-чамярыцы». Праўда, тут матэрыял крыху іншы. Тут вялікі горад. Але на самым пачатку літаратурнай работы аўтар мог бы і сюды ўнесці сентыментальны стыль.

Назва гэтай аповесці характэрная. Гэта сапраўды біяграфія. У гэтым сэнсе яна мае падабенства да «Ганчароў». «Ганчары» таксама ёсць біяграфія двух братоў. «Біяграфія майго героя» пабудавана так, што дзея разгортваецца, кажучы ўмоўна, унутры героя. Я разумею тут тое, што ўсе падзеі, якія адбываюцца навокал героя, займаюць толькі

тое месца, дзе з'яўляецца ў пэўны момант герой. Тут няма такіх падзей, якія б незалежна ад таго, ці трапіўся б тут герой, ці не, усё адно зрабілі б уплыў на яго лёс, накіравалі б яго на пэўную далейшую дарогу. Тут ёсць толькі тыя падзеі, што адбываюцца на месцы дзеяння героя. Герой ёсць той стрыжань, на які нанізваюцца справы, рэчы і падзеі — усё, што трапляецца на яго дарозе. Калі герой адыходзіць у іншы пункт, тое, што яго на ранейшым месцы абкружала ці мела да яго дачыненне, тут жа канчаецца і больш у аповесці не з'яўляецца. Шмат што з гэтых момантаў пакідае свой след на далейшым руху героя. Аўтар ходзіць поплеч з героем, і яны абодва бачаць адны і тыя ж рэчы.

У аповесці ёсць такі момант. Герой, будучы беспрытульнікам, выпадкова спаткаў жанчыну (тады работніца бальшавіцкага падполля). А пасля ўжо, у нашы дні, гэтая жанчына, ужо выдатная работніца сацыялістычнага будаўніцтва, бярэ таго ранейшага беспрытульніка пад сваю апеку, і ён становіцца працаўніком на фабрыцы і ўдарнікам. Гэты момант у аповесці зроблен так, што ўсё як бы зрабілася выпадкова. Па-мойму, гэты момант трэба аднесці да слабых момантаў аповесці. Замест такой выпадковасці трэба, каб была логіка грамадскага развіцця. А дынаміка развіцця героя, аснаваная не на выпадку, выцякае з самога стылю аповесці. Толькі часам аўтар паддаўся лягчэйшай лініі.

Вышэйназваная структура аповесці выходзіць з самой прыроды літаратурнай работы Сяргея Знаёмага. Я вышэй гаварыў пра элементы інтымнасці ў стылі яго твораў. Імкненне трымацца непасрэдна свайго героя, ісці толькі яго следам, не ствараючы ў часе і прасторы пэўных сітуацый, незалежных ад героя — гэта ёсць даволі выразная асаблівасць Сяргея Знаёмага. Тут ужо ў яго пэўныя навыкі, і сваю гэтую аўтарскую рысу пісьменнік павінен развіваць і ўдасканальваць. У вялікай літаратуры мы маем прыклад такіх прыёмаў. Такія прыёмы мы спаткаем, напрыклад, у аповесці «В людях» Максіма Горкага. Гэта я гавару для ілюстрацыі таго, што прыёмы гэтыя ўваходзяць у арсенал вялікай літаратуры. Наогул жа няма таго закону, які ўзаконьваў бы пэўныя прыёмы, як абсалютна верныя, і адкідаў бы другія, як нягодныя. Справа ў тым, з якой сілай, як ужываюцца і выконваюцца пэўныя прыёмы.

Ужо ўспаміналася, што «Біяграфія майго героя» ёсць для аўтара дасягненне. Перш за ўсё ён тут развітаўся з сентыменталізмам. Тут аўтар развівае далей тыя здаровыя тэндэнцыі, якія вызначаліся ў той ці іншай меры ў яго ранейшых творах. Удасканальваючы яшчэ далей гэтыя тэндэнцыі, узнімаючы іх да далейшых дасягненняў свайго майстэрства, аўтар павінен разам з тым імкнуцца да большай стройнасці свайго твора, большай гарманічнасці ў змене эпізодаў, сітуацый, большай прычыннай сувязі, большай ступені іх узаемадзеяння, іх узаемнага ўплыву. Каб твор быў адзінай мелодыяй, да канца цэлай, а не паасобнымі акордамі, хоць паміж сабою блізкімі.

У дачыненні да «Біяграфіі майго героя» трэба зрабіць яшчэ наступную заўвагу. Тут даецца абстаноўка, тут вырысоўваюцца персанажы, але тут ёсць яшчэ рэшткі той схематычнасці, якую мы наглядалі ў ранейшых творах і асабліва ў нарысе «Каця Астаповіч». У «Ганчарах» такой схематычнасці мала. Можа быць, у «Біяграфіі майго героя» аўтар слаба, не да канца ведае матэрыял? Гэтую думку можна дапусціць. Сцэна, напрыклад, у падпольнай кватэры, схематычная, не напоўнена жывымі рысамі і дэталямі жыцця і быту, якія вызначаюцца ў «Ганчарах» і пад якімі ажываюць героі, чуюцца, як жывыя, з жывым сваім воблікам. Такой неканкрэтнасцю грашыць не адно гэтае месца ў аповесці. Больш ажываюць, адчуваюцца выразна, як жывыя, людзі ў другой палове аповесці, дзе дзея адбываецца на заводзе. Заводскі матэрыял аўтар ведае і адчувае добра.

Мне думаецца, што асаблівасць прыёмаў і навыкаў Сяргея Знаёмага ідзе на ўнутранае развіццё інтрыгі, а не знадворнае (якое можа даходзіць да эфекта ў развіцці сюжэта). Тут інтрыга ўнутраная, без якіх бы там ні было знадворных вострых сітуацый.

У свой час Сяргей Знаёмы напісаў шэраг кароткіх нарысаў, сабраных галоўным чынам у кніжцы «Дом № 31». Гэта аперацыйныя публіцыстычныя нарысы, злабадзённыя. У нашым перыядычным друку яны заўсёды адыгрываюць вялікую ролю. Гэта першыя нарысы Сяргея Знаёмага. Элемент газетнай публіцыстыкі там больш, чым элемент вобразнасці. Тут аўтар сам робіць перад чытачом вывады сваімі словамі, растлумачвае чытачу факты, не разгортваючы перад ім сістэмы вобразаў, не ствараючы

карцін, з якіх бы чытач сам сабою бачыў тое, што хацеў сказаць і паказаць аўтар.

Напрыклад: «Мы ўпэўнены, што рабочыя завода «Камунар» прыкладуць усю моц і энергію, каб імя іхняга завода не сцерлі з чырвонай дошкі».

Гэтыя нарысы ў свой час друкаваліся ў нашай перыядычнай прэсе. Яны адлюстравалі змаганне за прамфінплан на заводзе, моманты ўсялякіх кампаній, яны адзначаюць добрае і выкрываюць адмоўнае ў жыцці і працы нашых заводаў. Ясна, што тут не ішла справа аб шырокіх абагульненнях сістэмай вобразаў, аб стварэнні чалавечых вобразаў і тыпаў. Тут падаваўся фактычны матэрыял публіцыстычнымі прыёмамі. Тут не ішла справа аб сюжэтным развіцці твора, аб аўтарскай творчай фантазіі. Тут ішла справа аб тым, каб дасканала вывучыць і падаць матэрыял, каб да канца ведаць справу і людскія ўчынкі.

Гэта адыграла добрую ролю ў справе фармавання літаратурных навыкаў Сяргея Знаёмага. Знаёмячыся з усім ім напісаным, мы заўважаем адну цікавую рысу, якая праходзіць праз усе яго творы. Гэта тое, што аўтар ідзе ад самога жыцця, а не ад абстрактнай ідэі. Сваю ідэю ён стараецца давесці ўсім комплексам самага супярэчлівага матэрыялу. Ужо само гэта вымагае складанасці творчай работы. І мы бачым, што ў такіх рэчах, як «Каця Астаповіч», узяты самы найцяжэйшы і найсупярэчлівейшы матэрыял. І калі рэч аўтару не ўдалася, то гэта з прычыны яшчэ малой спрактыкаванасці аўтара.

Тое ж самае і з такім нарысам, як «Выпадак на хутары». Аўтар не пабаяўся вельмі цяжкой тэмы, але яе не перамог, яе матэрыялу. Таму выйшла толькі зарысоўка. Такія зарысоўкі, як «Выпадак на хутары», ёсць як бы толькі збор фактаў у пісьменніцкім блакноце для яго далейшай работы. Сапраўды, «Выпадак на хутары» ёсць найцікавейшы матэрыял для рамана ці драмы. Гэта да жаху цікавая тэма. Тут захаваны такія найвялікшыя магчымасці для пісьменніка, якія заўсёды пісьменнікі-прафесіяналы шукаюць. З гэтага матэрыялу, з тых намёкаў, якія там ёсць, льга стварыць найскладанейшы раман або драму. Тут можна даць душу эпохі.

Мне думаецца, што далейшая ступень, на якую павінен узысці аўтар у справе свайго росту, гэта заўважаць тое вялікае, што ёсць у жыцці, і адпаведна гэтаму ўсклад-

няць сваю творчасць. Маштаб і глыбіня павінны быць большыя. З улюбёнага аўтаравага «невялічкага, такога звычайнага, просценькага» чалавека трэба стварыць героя, убачыць у гэтым чалавеку справы і рэчы глыбейшыя, мерaць яго інакшай мастацкай меркай. Больш даць яму агністасці і гэтую агністасць перанесці ў стыль.

Дыферэнцыраваць мову па героях, больш акрэсліць моўныя стылі для ўласных аўтарскіх рэмарак, для маналогаў усяго аўтарскага расказу і паказу, для ўсёй апавядальнасці.

Удасканальваць свой мастацкі густ, развіваць у сабе творчую фантазію, пачуццё меры і такту.

Сентыментальны стыль ужо не пагражае аўтару. У апошнім яго нарысе ўжо няма і адзнак гэтага стылька. Падам вытрымку з апошняй рэчы.

«Ён зноў зірнуў на рэчку. Цяпер чалавек аберуч пхаў пад ваду тоўстае бервяно. Адагнаўшы далёка, ён прымайстраваўся на бервяне і павольна паплыў, разлёгшыся плашмя. І добра відаць было, як павольна пакачваецца яго шырокае і моцнае цела, адліваючы добрым загарам пад пякучым сонцам. Даплыўшы да таго месца, дзе ляжала вопратка, ён моцна пхнуў бервяно ў тоўсты торац і сам пайшоў апранацца. І ўжо надзеўшы трусы, доўга глядзеў, як калыхалася і плыло пасярод плёсы бервяно».

Або вось з нарыса «На шляхах шчасця».

«За дамавінай ішла ўся слабада. Разгневаны і нездаволены такой раптоўнай смерцю, ішоў збоку слабадскі доктар Антон Сцяпанавіч. Ён важна перастаўляў ногі і часта праціраў акуляры. Над зямлёй церушылася імгла, і на пакудлачаных валасах сялянскіх галоў віселі невялікія кроплі вады».

Калі мы выкінем ужыты ў дачыненні да кропель эпітэт «невялікія» як неўласцівую ў гэтым месцы і непатрэбную, а таму і не мастацкую дэталізацыю, то нішто не будзе парушаць строгай гарманічнасці гэтага тэкставога ўрыўка.

Што тут ёсць ад ранейшай сентыменталыпчыны? Нічога.

Трэба да канца выгнаць публіцыстычнасць адтуль, дзе развіваецца сістэма вобразаў. Карыстацца публіцыстыкай як прыёмам, а не як самамэтай.

Строга прытрымлівацца моўных норм. І яшчэ важней: упартая праца над мастацкай дэталлю, развіваць у гэтым

кірунку свой мастацкі густ. У гэтым момапце часта яшчэ вызначаюцца слабасці Сяргея Знаёмага.

Важны момант — гэта да канца перамагчы «невялічкага, звычайнага, такога просценькага» чалавека ў тым сэнсе, каб уплыў яго не адчуваўся на ўсім стылі. Захаваць тую інтымнасць, якая ёсць у «стылёвай душы» твораў аўтара. Трэба біцца ў большыя размахі свайго творчага палёту, у большыя ўзлёты тых інтарэсаў, якімі жывуць персанажы творчасці. Бесперапынна займацца справамі тэхналогіі мастацкай літаратуры.

## ТЕНИ МРАЧНОГО ПРОШЛОГО

С детства живет в моей памяти эта картина.

Пан Эдвард Войнилович приехал в свое имение Винцентово. В деревне — ни живой души. Батраки работали в поле. Пан зашел в первую хату. Никого. Пан толкнул стеком оконную ра́му. Окно раскрылось.

По улице шел пастух Степан Бирук.

Пан крикнул:

— Иди сюда.

Степан Бирук был боязлив. И он испугался: беда, пан прогонит его, придется идти нищенствовать по нищим дорогам.

Услышав голос пана, пастух остолбенел. У него подкашивались ноги, глаза заслезились. На бегу сорвал он с головы шапку и, чтобы убедить весь мир в своей приниженной покорности, бросил шапку тут же на землю и вполз в хату.

Пан Войнилович не ударил «хлопа». Но от этого было еще страшней за человека; раб был так принижен, что пана перекорежило, когда до его колена дотронулись трясущиеся мужичьи губы.

Обычно все целовали шляхетское колено. Руки целовать допускалась только высшая панская челядь. Батрак должен был нагибаться до земли, целовать колено. И было это не при крепостном праве. Это было накануне империалистической войны. В глухих углах Белоруссии, в панских гнездах до самой революции сохранились обычаи времен крепостничества.

У пана Войниловича много имений: Борки, Винцентово, Матынево, но жил он в своей главной резиденции — в Савичах. А вокруг холодали-голодали люди в домотканых суровых рубахах и рваных онучах. «Лавочные штаны» одевались два раза в жизни — на свадьбу и в гроб.

Пан Эдвард считался «общественным деятелем». Заседал в Государственной думе. Родовитый был пан. В минском музее есть медная доска — родословное дерево Войниловичей. Оно уходит своими корнями в глубь столетий, вгрызается в белорусскую землю.

Ох, как вгрызается. Был на свете человек без земли, без семьи, без родных. Фамилия его Адамчук. Вырос человек и стал думать, как дальше жить, ни земли, ни хлеба. А человек крепкий, жить хочет. За что взяться? И Адамчук придумал. У пана Войниловича были запущенные пустоши. Спокон веков зарастала здесь земля кустарником. Адамчук заарендовал у пана кусочек этой земли. Деньги заплатил большие и три года до первого сева заливал своей кровью клочок заветной землицы, корчевал, руками вырывал корни, взрыхлял целину.

Адамчук женился. Вместе с женой надрывались на своей земле. Можно наконец сеять. Три года ждал Адамчук этого дня. Но вот накануне первого сева прискакал верхом эконом и заявил Адамчуку:

— Пану невыгодно, чтобы вы тут сеяли. Пан сказал, что сами эту землю будем сеять.

— Так пусть бы пан сделал одолжение и сам ее раскорчевал. Я вот этими руками корчевал ее,— не выдержал Адамчук.

— Видно, не догадался пан спросить у тебя, как ему лучше делать,— ухмыльнулся панский холуй.

Адамчук подал в суд. Нужно ли говорить, чем этот суд закончился? Пошел после суда Адамчук со своей молодой женой по свету собирать милостыню.

У пана были огромные суммы в банке. Как это золото собиралось, мы видели из истории Адамчука. Окрестные крестьяне говорили: «Зачем ему столько богатства, в могилу возьмет?» Эдвард Войнилович был одинок. Дочь и сын умерли приблизительно в 1905 году. Дочь была уже невестой. В савичский дворец съезжались родовитые кавалеры.

Приезжал сюда сам князь Радзивилл. Это мрачное имя известно каждому крестьянину Белоруссии. Нельзя было выйти ни на одну дорогу, чтобы не наткнуться на владения Радзивилла. Главная княжеская резиденция — всего в 20 километрах от Савичей — город Несвиж. Радзивилловский замок, эту средневековую крепость, можно и теперь видеть по ту сторону границы. Башни замка видны с советской территории, если стать на холмик у деревни Якубовичи...

Банкеты в Савичах тянулись по нескольку дней, в липовом парке гремела музыка, когда ограбленный Адамчук уходил с торбой за плечами по полевой дороге.

Но неожиданно сын и дочь Войниловича умерли. Прекратились банкеты, в панских покоях навис траур, и Войнилович поставил два костела. Один в имении Борки, другой — в Минске. Минский «красный костел» в 1932 году превращен был в здание польского государственного театра. В «красном костеле» по заказу пана перед главным алтарем нарисовали картину: божья мать, а возле нее два ангела — дочь и сын. Религиозные люди молились перед этой иконой, не зная, каким «ангелам» они поклоняются...

Стар стал пан Эдвард, но всеми силами цеплялся за земное, за именья. После войны с поляками, когда устанавливалась государственная граница, вышло так, что Савичи оказались как раз на самой линии границы. Именье могло отойти по ту или другую сторону. Пан Войнилович унизился до того, что сам явился уговорить савичан, пусть требуют у смешанной комиссии: Савичи дайте Польше. За это Войнилович обещал отдать «хлопам» сенокосные луга. Но савичане ответили так:

— Спасибо ясновельможному пану, но теперь и без твоей ласки луга эти наши.

Савичи остались на советской территории.

Пятнадцать лет назад «ясновельможный» кровопийца навсегда ушел вместе с оккупантами с нашей земли. Одна западнобелорусская ксендзовская газета так писала про него лет 8 назад:

«Далеко от родных имений, в изгнании, в тоске и одиночестве отдал богу душу патриот края Эдвард Войнилович».

Вот и хорошо. Зато миллионы людей имеют счастье жить в Советской Белоруссии. И если в день всенародного торжества наша память выносит из мглы черных дней минувшие дела и навеки проклятые образы проклятого прошлого, то пусть не посетует на нас молодежь. Пусть она знает, от какого мрака избавили ее отцы.

8 Зак. 2390

# ОТ АВТОРА

«Батьковщина» (первая часть трилогии) принадлежит к циклу задуманных мною произведений, которые, взятые вместе, должны дать в художественных образах картину развития человеческого общества от крепостничества до бесклассового общества. Весь цикл этих произведений по моему замыслу должен быть как бы одним большим произведением, частью которого является трилогия и отдельные произведения. С формальной стороны замысел этот начал реализовываться мною в романах и пьесах.

«Батьковщина» как драматургическое произведение не является простой инсценировкой одноименного романа. Из романа взяты основные человеческие образы, идейное их движение и только часть ситуаций. Появились также и новые персонажи, как, например, Евель Цывин.

«Батьковщина» — первая часть драматической трилогии, другая ее часть — «Павел Немира» — должна дать процесс прихода Павла Немиры к революции. Там уже действие будет происходить в Западной Белоруссии. И третья часть — «Леопольд Гушка» — первый период социализма.

# АБУДЖАЦЬ ЛЕПШЫЯ ДУМКІ І ПАЧУЦЦІ ЧЫТАЧА

Вялікім класічным творам заўсёды папярэднічала вялікая гісторыя існавання і развіцця мастацкай літаратуры. Нам жа, беларускім пісьменнікам, нават цяпер даводзіцца прарабляць вялікую чарнавую работу. Гэта дае сабе адчуваць перш за ўсё ў рабоце над мовай.

Пра беларускіх пісьменнікаў нельга сказаць, што яны пішуць на гатовай літаратурнай мове. Працэс развіцця беларускае літаратурнае мовы ідзе да таго шпарка, што мы, удзельнічаючы ў гэтым працэсе, часам самі гэтага не заўважаем. Калі, напрыклад, даводзіцца пераглядаць для перавыдання старыя творы, напісаныя гадоў пяць таму назад, дык мы знаходзім у іх багата архаізмаў.

Апрача таго, у беларускай літаратуры існавала як бы некалькі падмоў. Кожны пісьменнік прыносіў у літаратуру словы той мясцовасці, адкуль ён прыйшоў. Беларуская літаратурная мова фармуецца на аснове народнае мовы. У сувязі з гэтым нельга не ўспомніць пра Інстытут мовы Беларускай Акадэміі навук. Магчыма, я памыляюся, але мне здаецца, што ніякай работы Інстытут не вядзе.

Можна багата гаварыць пра вялікія і бяспрэчныя дасягненні нашай літаратуры, пра тое, што яна ў некалькі год стала вялікай літаратурай Савецкага Саюза. Але на гэтым дзелавым пленуме мне хочацца сказаць некалькі слоў і пра недахопы і, галоўнае, пра адзін вялікі недахоп беларускай літаратуры.

У шмат якіх выпадках мы паказваем жыццё больш бледным, чым мы яго бачым. Без фантазіі, без творчага вымыслу не можа быць створана ніякага вялікага мастацкага твора.

Сіла нашай літаратуры не ў тым, што яна прыгожа можа расказаць, як пабудован камбінат, а ў тым, каб яна хвалявала чытачоў, абуджала лепшыя іх думкі і пачуцці, гартавала іх. Гэта — простае прызначэнне мастацтва.

Давайце думаць пра літаратуру як пра мастацтва.

# ШМАТ У НАС АБЛОМАЎШЧЫНЫ, БЕЗАДКАЗНАСЦІ

Артыкулы «Праўды» вучаць нас глядзець на літаратуру як на мастацтва. Мы часта забываемся на тое, што літаратура ёсць мастацтва, і прывычка да гэтага ў нас укаранілася бадай з тых часоў, калі мы вучыліся пісаць.

Справа ідзе не пра адзін толькі натуралізм ці фармалізм, а наогул пра павышэнне якасці нашай літаратуры: і пра звычайную граматнасць, і пра літаратурную граматнасць — усё гэта рэчы аднаго парадку.

Фармалізму, як ярка выражанай школы, я ў беларускай савецкай літаратуры не заўважаю. Фармалізм у нашай літаратуры ідзе не ад таго, што пісьменнік лічыць гэта сваёй школай, а, мусіць, ідзе ад нейкай другой прычыны.

Я гавару пра літаратуру беларускую савецкую і не маю на ўвазе наогул беларускай літаратуры. Мы ведаем, што такія паэмы Дубоўкі, як «Кругі», «Ветразі», гавораць аб тым, што аўтар свядома ставіць там свае задачы. Я гавару не пра гэту літаратуру, а пра літаратуру сучасную савецкую.

Возьмем паасобныя моманты ў нашай літаратуры, якія можна назваць фармалістычнымі. Можна прыгадаць паэму Мікуліча «Наша сонца» і «Аманал» Куляшова. Я думаю, што тут справа прасцей чым мы думаем. Тады гэтыя аўтары былі літаратурная моладзь, тады Мікуліч быў амаль падлеткам, жыцця не ведаў, і ўплыў фармалістычнага стылю на яго мог быць моцны.

І цяпер мы бачым, што новая аповесць Мікуліча «Дружба» адыходзіць ад гэтага стылю. Гэта аповесць гаворыць, што Мікуліч стаў на другі шлях, і тут ён сапраўды выявіць свой талент. Тое самае можна сказаць і пра Куляшова. Яго паэма «Гарбун» не падобна на паэму «Аманал».

Фармалістычныя моманты часта бываюць ад таго, што чалавеку няма чаго сказаць. Калісьці я напісаў аповесць «Вясна», на тэму аб калектывізацыі. Тады яшчэ самі калгасы толькі пачыналі сваё існаванне, а я хацеў даць малюнак жыцця ў калгасах. І ясна — у мяне не было аб чым канкрэтна пісаць, я не меў матэрыялаў, і таму, без мае доб-

рае волі, аповесць напісана так, што ў ёй ніякай літаратурнай формы няма. Ёсць устаўныя навелы, разважанні пра грамадзянскую вайну, пра дзяцей. І чытаць гэтую аповесць і цяжка, і нецікава.

У нашай рабоце ёсць яркія прыклады таго, што калі аўтару няма чаго сказаць, то ён робіць прыпіскі і дапіскі непатрэбныя, іх можна назваць калі не фармалістычнымі, то ва ўсякім выпадку пустымі. Другая частка рамана «Трэцяе пакаленне» канчаецца тым, што Несцяровіч выходзіць слухаць шум ветру. Ніхто з другіх герояў — ні Зося, ні кравец — гэтага не робяць, ім я здолеў даць іншую, важнейшую работу. А Несцяровіч не быў мне да канца ясны, тут я не меў матэрыялу, і я прымушан быў рабіць непатрэбнае апісанне прыроды, якое, калі і выкінуць, не зменіць нічога ў рамане.

Я лічу, што публіцыстычнасць — адна з вялікіх слабасцей нашай літаратуры. Калі прасачыць усю нашу прозу, то ў кожным творы элементы публіцыстыкі вельмі моцныя. Яе многа і ў маім рамане «Трэцяе пакаленне». Там прамова на судзе Назарэўскага наскрозь публіцыстычная з'ява, бо яна не мае там, калі можна так сказаць, вобразнай функцыі. Гэта не значыць, што ў раман наогул не можа быць уведзена падобная прамова, але яна павінна была б у гэтым выпадку хоць бы дапоўніць вобраз самога Назарэўскага. Выйшла ж так, што Назарэўскі пасля прамовы зусім знік з рамана, а сама прамова сваім публіцыстычным спосабам растлумачвае тое, што павінна быць вядома без усялякай публіцыстыкі і толькі з сістэмы вобразаў.

Слабасці нашага літаратурнага руху не толькі ў асяроддзі нашай пісьменніцкай работы. Слабасць нашага літаратурнага руху яшчэ знаходзіцца, па-мойму, па-за нашай работай. Яна ў справе выкладання літаратуры, у справе мастацкага выхавання мас, у справе прывіцця нашай моладзі літаратурных густаў і г. д. Як выхоўваюцца мастацкія густы нашай моладзі? Што прывіваецца ёй у справе літаратуры? Ёсць хрэстаматыя Васілёнка для 9—10 класаў. На гэтым падручніку вучыцца наша моладзь, якая канчае сярэднюю асвету. У гэтай хрэстаматыі выказваюцца такія думкі: «Ідэйнае афармленне аповесці вельмі добрае, але мастацкае афармленне слабейшае». Гэта не даслоўная цытата, гэта змест яе. Што гэта дае нашай моладзі? Гэта абсалютна скажае само паняцце мастацкай літаратуры, гэ-

та шкодная думка. Гэта значыць, што ў мастацкім творы ідэя можа існаваць паасобна ад формы, форма можа існаваць асобна ад зместу.

У гэтым падручніку вы не сустрэнеце нідзе думкі якога-небудзь выдатнага літаратуразнаўцы, выдатнага, прагрэсіўнага, рэвалюцыйнага, у якога можна павучыцца. Але там ёсць цытаты з Сідарэнкі, і нават там гаворыцца, што ў Сідарэнкі яшчэ было ахвосце. Значыць, Сідарэнка — гэта была такая велічыня, такі тэарэтык, які меў яшчэ ахвосце.

Так што ў нас не толькі ў літаратурным руху ёсць недахопы, а ёсць страшэнныя балячкі ў справе выкладання, папулярызацыі літаратуры ў масах, і асабліва ў справе прывіцця літаратурных густаў нашай моладзі.

Я лічу, што літаратурны рух павінен некаторым чынам уключаць у сябе і гэтую справу, і можа тут праўленне нашага саюза павінна ўзяць на сябе ініцыятыву, каб палепшыць гэтую справу. Справа не толькі ў стварэнні літаратуры, а і ў выкладанні, папулярызацыі яе.

Я думаю, што слабасць нашага літаратурнага руху была б можа не такой вялікай, калі б у нас стварыўся тып сапраўднага пісьменніка-прафесіянала. Як быццам у нас такія пісьменнікі і ёсць, але фактычна яны не сапраўдныя пісьменнікі-прафесіяналы.

Як я сабе ўяўляю такога пісьменніка-прафесіянала? Гэта чалавек, які заўсёды ў сферы мастацкай творчасці, які заўсёды вучыцца быць майстрам літаратуры. Думаю, што ў нас няма амаль такіх пісьменнікаў. Шмат абломаўшчыны ў нашым літаратурным руху, у нас саміх, шмат безадказнасці. Як быццам мы не з'яўляемся адказнымі за сваю творчасць.

Няма ў нас і крытыка-прафесіянала. Я даўно сумую па такім крытыку, які быў бы вялікім эрудытам і любіў бы і адчуваў літаратуру.

Нашы пісьменнікі не вывучаюць натуры так, як яе вывучаюць мастакі.

Я проста не бачу ў нас такіх пісьменнікаў, якія б да глыбіні ўсяе свае істоты жылі літаратурай як сваёй справай.

Надыходзіць 20-годдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі. Я не магу сказаць, каб мы пра гэта глыбока думалі, каб мы трывожыліся, што можам не спаткаць гэтай даты глыбокімі творамі. На гэты час я вынес бы з Дома пісьменніка

більярд, бо ён, па-мойму, стаў не адпачынкам ад работы, але якраз літаратура стала адпачынкам ад яго.

Мы павінны больш думаць пра літаратуру, мы павінны мець больш рыс пісьменніка-прафесіянала. Пісьменнік павінен з пункта гледжання свае прафесіі, свайго рамяства вывучаць само жыццё для таго, каб у творы даць вобразы яго.

Мы павінны глядзець на слабасці нашага літаратурнага руху з пункта гледжання змагання не толькі з фармалізмам і натуралізмам, але з пункта гледжання павышэння пісьменнасці, культурнасці.

# ЗБІРАЦЬ І ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ ВОПЫТ ТВОРЧАЙ РАБОТЫ

Трымаць сваю творчасць у плане і на ўзроўні вялікіх ідэй і праблем нашага часу і зрабіць іх у мастацкім выяўленні лёгка даступнымі чытачу кнігі ці гледачу тэатральнага спектакля — гэта ёсць майстэрства.

Мастацкая літаратура толькі тады будзе дзейснай і сапраўднай зброяй у руках партыі, калі яна будзе сапраўды мастацкай, а не сурагатам мастацтва. І драматургія, і мастацкая проза будзе вялікім мастацтвам толькі тады, калі яна будзе ствараць чалавечыя тыпы і вобразы вялікай мастацкай сілы.

Сіла класічнай літаратуры ў тым, што, гаворачы аб часе, у які яна стварылася, мы называем класічнымі літаратурных персанажаў, праз якіх мы часта і маем уяўленне аб шмат якіх грахах і рысах тагачаснага жыцця. Слабасць нашай творчасці ў тым, што, гаворачы аб нашым часе, мы яшчэ мала можам назваць літаратурных персанажаў, праз якія можна было б бачыць многа жывых рысаў нашай вялікай сучаснасці. Праўда, наша сучаснасць ёсць нікалі небывалая раней у чалавечым жыцці з'ява, але гэта якраз і вымагае ад нас імкнення да вялікага майстэрства.

На вялікі жаль, гэтыя, так сказаць, тэхнічныя пытанні літаратурнай творчасці не знаходзілі сабе месца ў рабоце Праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў. Можна сказаць з упэўненасцю, што немалыя дасягненні нашай літаратуры, якія ў нас сапраўды ёсць, найбольш ствараліся без удзелу Праўлення. Трэба збіраць і выкарыстоўваць вопыты і практыку лепшых нашых работнікаў літаратуры, памятаючы, што вялікія справы робяцца калектыўнай сілай. Яднаць і накіроўваць на вялікую творчасць гэтыя сілы — гэта значыць кіраваць літаратурным рухам і гэта значыць на справе выконваць гістарычную пастанову ЦК ВКП(б) аб перабудове літаратурных арганізацый.

# ЯСНЫ ДЗЕНЬ КРАІНЫ

## Мары народа здзейснены

То гнучыся да зямлі, то грозна ўзнімаючы галаву і выпростваючы плечы, ад пакалення ў пакаленне, з стагоддзя ў стагоддзе чалавек нёс мару аб шчасці і радасці. Чуючы сабе назву то «быдла», то «мужык», называючы сам сябе «простым чалавекам» і маючы сапраўднае сваё слаўнае імя — беларускі народ,— ён данёс сваю мару да яснага дня.

У роднай зямлі тлеюць косці продкаў, жыццё якіх ішло і канчалася ў пакутах. Вялікае наша замілаванне да іх будзе жыць вечна, таксама як і нянавісць да іх прыгнятальнікаў. Зямля прыняла вядомых і невядомых герояў, якія не гнулі ад пакоры плеч і загінулі за вызваленне народа і ажыццяўленне яго спрадвечнай мары. Ясная памяць аб іх будзе навекі!

Па нашай зямлі бесперапынна разыходзіўся гул і грукат ад хады войск. Аброслыя ядлоўцам шведскія курганы навек задзірванелі, таксама як і замчышчы старадаўніх мясцовых магнатаў, польскі дух якіх, як чума, уядаўся ў косці працоўнага чалавека. Верныя спадчыннікі іх, выгнаныя рэвалюцыяй польскія паны, знайшлі сабе прыемную радзіму ў Польшчы і дагэтуль не кідаюць думкі зноў цягнуць жылы з вольнага беларускага народа. Але не тая пара цяпер!

Сто дваццаць пяць год таму назад на берагах беларускай ракі Бярэзіны, пры вёсцы Студзянцы, Напалеонназаўсёды злез з белага каня і перасеў у сані. З гэтага моманту ён пакінуў быць імператарам Францыі і ўладаром паўсвета. Але нават і навала напалеонаўскіх войск, якая праз Беларусь ішла на Маскву і якую пасля рускі народ гнаў назад, была толькі цяжкім момантам у жыцці народа, у параўнанні з гаспадараннем тых, ад якіх тхне польскім духам.

Раптоўная смерць лягчэй за павольную. Але яшчэ большы жах у той павольнай смерці, у часе якой ірвуць душу і цягнуць жылы. Калі на беларускай зямлі адбывалася і канчалася імперыялістычная вайна, то народ даў свету новы від пакутніка — бежанца, выгнанца. На скры-

жаваннях беларускіх дарог вы і цяпер убачыце магілы з крыжамі і без крыжоў. Гэта выгнаны ў беспрасветнасць народ уміраў у чыстым полі ў 1915 годзе. Але і гэтая чорная пара не пакінула так многа помнікаў народнага гора ў выглядзе песень і апавяданняў, як пара панавання польскага панства. Паганы дух яго назаўсёды выдзьмуў адсюль вецер рэвалюцыі, таксама як і нямецкіх рагатых свіней. 11 ліпеня 1920 года назаўсёды скончыліся пакуты беларускага народа. Рускі пралетарыят вёў за сабой іншыя народы ў вялікім змаганні, і на дапамогу Чырвонай Арміі выйшаў беларус-партызан. Ужо гэты чалавек, несучы ў сабе нянавісць да панства, ваяцкую адвагу і замілаванне да свайго народа, быў пачаткам таго тыпу новага чалавека, воблік якога сфармаваўся да сённяшніх дзён. Гэта інтэрнацыянальны сваёй душой і сэрцам чалавек, багаты ўсёй глыбінёй сваіх нацыянальных рыс.

Пачнем з таго, хто найбольш нёс і вынес на сабе пакут жыцця. Беларуская жанчына! Чыё гэта галашэнне чулася з стагоддзя ў стагоддзе над хворымі і памерлымі дзецьмі? Чые гэта дзеці паміралі з голаду і холаду? З каго гэта здзекаваўся вяльможны прахвост, патрапаны рэвалюцыяй паТомак якога знайшоў сабе радзіму ў Варшаве? Ці не дзеля яе ён узаконіў права першай ночы і ці не яе грудзьмі карміў сваіх шчанят? Хто гэта бедаваў і гараваў, калі раджалася дзіцё — лішні рот у галоднае жыццё? І хто — яшчэ зусім нядаўна — ламаў у роспачы рукі, чуючы енкі сваіх дзяцей, укінеых польскімі акупантамі ў агонь падпаленай імі ж хаты?

Усё вынесла яна! І мудрая задуменнасць легла на яе дарагі сэрцу твар. Як мы растлумачым нашаму маладому пакаленню колішні смутак нашай жанчыны, калі ў яе раджалася дзіця? Як мы раскажам равеснікам Кастрычніка, што такое тое ганебнае праклянцце, што, як вядомы біблейскі першародны грэх, спатыкала чалавека ўжо з першай хвіліны яго нараджэння на свет? Невядома было, як будзе гадавацца гэтае дзіця і што будзе яно рабіць і з чаго жыць, калі вырасце. Урачыстасць нараджэння чалавека ператваралася ў бяду і гора.

Але мы сёння чуем у беларускім народзе такую песню:

Жадаем яшчэ вам
Прыбытку у хаце,
Ні мала, ні многа —
Штогод па дзіцяці.

Не будзе вам крыўды
Яшчэ і за тое,
Калі пашанцуе
На год і па двое.

Дзе, калі гучалі ў песнях беларускага народа такія словы? Нараджэнне дзіцяці стала радаснай з'явай, і тое пакаленне, якое радзілася ў гэты шчаслівы час, носіць у сабе пэўныя рысы той чалавечай натуры, вытокі і ўласцівасці якой ёсць аптымізм. Чалавек радзіўся, і перад ім адкрыты ўсе дарогі. Думка аб заўтрашнім дні не мучыць яго бацькоў і не кладзе змрочнасці на яго маленства і юнацтва. Ён не толькі не ведае, што такое голад і холад, яго спатыкае школа і універсітэт і ўсе здабыткі чалавечай культуры. Шчасце дзяцей! Ці не аб гэтым марыла спрадвеку жанчына-маці? Мінулыя пакуты і цяперашняе шчасце! Хіба не гэта кіруе сумленнем беларускай жанчыны, калі яна памагае пагранічніку ахоўваць граніцу? І хіба не самыя лепшыя і высокія пачуцці да свае савецкай радзімы кіравалі саракагодняй Марыяй Людвігаўнай Янкоўскай, калі яна сем разоў затрымлівала, у часе свае звычайнай працы, парушальнікаў граніцы. За ўдзел у ахове дзяржаўных граніц яна ўзнагароджана ордэнам.

Усенародная адданасць да савецкай радзімы зрабіла Савецкую Беларусь магутным фарпостам Савецкага Саюза.

Бальшавіцкая Беларусь, наша слаўная рэспубліка!

З мясцовасці ў мясцовасць бягуць дарогі, як сама вечнасць, імкнуцца рэчкі, неабсяжнасць даляглядаў узнімае празрыстасць сініх засцілаў. Бяроза і Дзвіна, Дняпро, Сож і Прыпяць высока ў берагах трымаюць імклівую ваду. Берагі іх гучаць параходнымі гудкамі і песнямі плытагонаў. На ўзгорках купчасцяцца лясы, балоты аддаюць чалавеку торф — чорнае золата. Абноўленая зямля дае незлічоныя багацці.

Па выслаўленых на ўвесь Савецкі Саюз, зробленых у гэтыя гады беларускіх шасейных дарогах — каменных і асфальтаваных — імчацца аўтамашыны. Па палявых дарогах, замест даўнейшага замучанага працай каня, які, таксама як і яго гаспадар, хістаўся ў бакі ад слабасці, коцяцца калгасныя грузавікі. Замест сагнутых жаночых спін над спелым жытам ідзе жняярка, а на змену ёй прыходзіць камбайн і пры ім — гордасць і слава краіны — мала-

ды чалавек, найбольш аднагодак рэвалюцыі, выхаваны сталінскім часам — стаханавец, дзяўчына ці хлопец.

Стук саматужнага цэпа стаў небывалай з'явай. Прайдзіце ад Слуцка да Оршы,— дзе вы яго цяпер пачуеце? Гэты гук дыхае ўжо такой старадаўняй дзікасцю, як і папоўская пропаведзь. Нават параконны плуг, колішні прыгажун маёнткавай і хутаранскай зямлі, набывае ўжо ў нас характар саматужнай прылады. Трактар заўладаў полем! Тып панскага прыганятага адышоў у нябыт і жыве толькі ва ўспамінах. Вусаты шляхціц не кідае пагардлівага позірку на свайго парабка. Вяльможны хам не называе нашага чалавека быдлам. Самыя словы — парабак, батрак, бядняк, галота, галетнік — выйшлі з быту. Жыццё стала перад чалавекам ва ўсёй панаднасці, хараστве і радасці. Сусед суседа не есць за кавалак гнілой вяроўкі. Жыццё ў калгасе зрабіла яго інтарэсы больш шырокімі, яго асабістыя інтарэсы патрэбны ўсёй грамадзе. У яго душы адмерла дробязнасць, і ён стаў дзеячам.

## Заможнасць

Машына імчыцца асфальтавым шасэ. Мясцовасці бягуць насустрач і змяняюць адна адну. Імчацца масівы ялін і сосен, дуба і граба. Кіламетр за кіламетрам. Палявая даль змяншае свой рух на даляглядах. Мігацяць перад вачыма калгас за калгасам, дзе скрозь новыя пабудовы: школы і клубы, амбулаторыі і чытальні. І новыя хаты — ужо не з саламянымі стрэхамі і без паўаршынных дзірак замест акон. Новыя хаты — гэта ўжо не хаты ў тым сэнсе, па якому гэтая назва чалавечага жылля была знаёма нам раней. Калгаснік, які будуецца цяпер, мала каторы ставіць хату менш як на тры, а то і на чатыры чыстых пакоі. З'явілася патрэба ў вялікіх вокнах і ў чыстай падлозе. На месцы голых выганаў засаджваюцца паркі. На тарфяным апале, на штучных рэчных вадаспадах і на нафтавых рухавіках пускаюцца электрастанцыі.

Перад намі прамільгнулі і аборы з сытымі каровамі, і стайні з коньмі. Пастух пры калгаснай чарадзе махнуў нам рукой, стоячы пад прыдарожным дрэвам, правёўшы нас позіркам, ён зноў паглыбіўся ў чытанне газеты. І зноў бяжыць насустрач лес ці тарфяны масіў з горамі нарэзанага торфу, ці хрыбет маляўнічых узгоркаў, якія хвалююцца густым калоссем і з-за якіх зноў відны вершаліны

дрэў... Здаецца, набягае сперадy прыемная навісь зялёнага голля, дзе ў ціхай лагодзе так уціхамірваецца душа і адпачывае галава. Глыбей і глыбей! Машына зварочвае ўбок, ідзе ледзьве выраўненымі прагалінамі, палянамі і нават сцежкамі. Глуш! Мацней пахне палявы чабор і гусцей купчасціцца верас. «Тут далёка да людзей і, можа быць, блізка да мядзведзяў»,— з'яўляецца думка. Тут хадзіў паляшук, дзеручы лыка і крадучы ў панскім лесе дрэва на санныя вязы. Ужо трэба варочацца назад, але робіш, пехатой ужо, некалькі яшчэ крокаў: апошні раз перад паваротам назад зірнуць у дзікую гушчырню і яшчэ пацягнуць яе паветра. Але нечаканы пробліск паміж стволля! Яшчэ крок наперад і... замест вымеркаванай уяўленнем балотнай хмызнячыны — сінее высокае неба над прасторнай лагчынай, асака і лаза адступілі ў бакі ад раптоўна замільгацелай перад вачыма новай дарогі, і проста перад вачыма дымяць угару каміны гіганцкага завода. На сонцы блішчаць шкляныя скляпенні, гудуць ваганеткі паветранай электрычнай дарогі, і густы доўгі гудок сотнямі водгукаў праходзіць па прасторах. Нязвыклае вока спачатку разглядае асфальтавы тратуар паўз шматпавярховую вышыню сцяны. На асфальт згінаецца асака і збоку суседзіцца чамярыца — гэтыя нядаўнія тут паўнапраўныя тубыльцы.

## Індустрыя. Гарады

Праз паўгода ці праз год асака адступае яшчэ далей, збягае ў канавы вада. Замест асакі, яшчэ праз нейкі час, цвіце канюшына, навокал завода з'яўляецца малады парк, мураваныя дамы ўзнімаюцца навокал, кожны дзень на бліжэйшай чыгуначнай станцыі стаіць новы эшалон з прадукцыяй завода, гатовы ў дарогу. Каля завода спяваюць дзеці, вечарамі пад дрэвамі глядзяць на зоры закаханыя пары. Слуцкая гутарка змешваецца з магілёўскай, украінец расказвае пра свае стэпы, і рускі пачынае ўстаўляць у сваю мову беларускія словы. У глушы і дзічы радзіўся завод, выславіў мясцовасць і ўстанавіў сяброўства паміж людзей.

Шклозавод каля Гомеля — гэта гігант, які мае ўсесаюзнае значэнне. Мы не зусім пра яго думалі, калі гаварылі вышэй аб узнікненні завода, але мелі на ўвазе і яго. Усе яны, разам узятыя, зрабілі нашу рэспубліку індустрыяльнай. Гэта ўжо не краіна лапцей, чаўноў-душагубак і

скрыпучых аднаколпых вазоў. Гэта краіна індустрыі, буйнай сельскай гаспадаркі, яе прамысловасці і гарадоў.

Агульны ўздым і рост характарызуецца і ростам гарадоў. І гарады нашы ўжо маюць характар буйных прамысловых цэнтраў. І Магілёў стаў славен заводамі і фабрыкамі. Яго фабрыка штучнага шоўку адна з большых і лепшых ва ўсім Саюзе Савецкіх рэспублік. І Гомель. Асабліва Гомель! Нават Бабруйск! Слова «нават» трэба апраўдаць і растлумачыць. Бабруйск — былы павятовы горад, нават у літаратуры выслаўляўся як увасабленне глухога застою. А цяпер, нядаўна, у Бабруйску адбываўся Усесаюзны з'езд работнікаў дрэваапрацоўчай прамысловасці. Сюды з'язджаліся лепшыя людзі гэтай справы з Ленінграда і Архангельска, Украіны і Урала. І Бабруйскі лесакамбінат — цэлая сістэма заводаў — славіцца на ўвесь Саюз як адзін з двух-трох лепшых гігантаў. Што ўжо гаварыць пра такі горад, як Віцебск, калі дробныя павятовыя гарадкі павыраслі ў індустрыяльныя цэнтры!

Мінск! Тут гутарка асобная. Мінск сталіца нашай рэспублікі. З кожным годам ён выростае ў вялікі горад сталічнага размаху.

У савецкім разуменні сталіца, гэта не ёсць які-небудзь адміністрацыйны цэнтр, і толькі. Савецкая сталіца — гэта цэнтр развіцця ўсіх сіл народа, усёй яго культуры. Прыклад таму Масква, якая яднае росквіт усіх шматлікіх народаў Савецкага Саюза, і прыклад таму кожная сталіца кожнай савецкай рэспублікі, якая ёсць цэнтр культуры свайго народа.

## Культура

Пакуль не прыйшоў да ўлады рабочы клас, кіруемы Леніным і Сталіным, беларускі народ не быў гаспадаром у сваёй краіне. Польскія, а пасля і рускія імперскія каланізатары душылі ўсякае выяўленне нацыянальнага развіцця, мову яго абвясцілі хамскай. Але і пад такім вялікім прыгнётам ён фармаваўся як народ, стварыў багатую сваю творчасць, сфармаваў свой нацыянальны воблік. І, як толькі адбылася Кастрычніцкая рэвалюцыя, былі змецены з савецкай зямлі польскія акупанты і разгромлена беларуская контррэвалюцыя, у сталіцы Савецкай Беларусі — Мін-

ску — пачалі адкрывацца ўстановы, якія сведчаць аб тым, што ў Савецкім Саюзе беларускі народ стаў поўным гаспадаром у сваім доме.

Беларуская Акадэмія навук!

Беларускі дзяржаўны універсітэт!

Мінск стаў цэнтрам беларускай навукі, беларускай літаратуры, беларускага мастацтва. Ператварэнне горада стала грандыёзным ператварэннем.

Беларуская народная песня ўвасабляецца ў опернай форме. Тая песня, якую каланізатары называлі хамскай і якую аднак жа кралі сабе, стала агульнавядомай, як сама прыгажосць і народнае багацце.

Беларуская вышэйшая музычная школа — кансерваторыя!

Тэатр драмы і тэатр оперы і балета, які стане адным з новых цэнтраў сталіцы!

Беларуская савецкая літаратура! Яна выйшла на шырокі шлях вялікага літаратурнага мастацтва і разам з літаратурамі ўсіх братніх народаў ёсць з'ява ўсясветнага значэння.

Беларуская дзяржаўная бібліятэка і каштоўнасцю і колькасцю сваіх кніг лічыцца трэцяй у СССР.

Быў да рэвалюцыі беларускі народ бяспраўны. Нацыянальную гордасць яго таптaлі боты царскага дзяржыморды. У колах імперскай «інтэлігенцыі» слова, сказанае беларускай мовай, падымалася на смех. І от, гэты народ мае сваю рэспубліку. Тысячы стаханаўцаў гарадоў і поля змагаюцца за вышыню прамысловасці і гаспадаркі, дзесяткі тысяч народнай моладзі з'язджаюцца ў сваю сталіцу і дзесяткі тысяч у іншыя гарады, каб атрымаць на роднай мове вышэйшую асвету ў дзесятках вышэйшых навучальных устаноў.

Былая яўрэйская рыса аселасці стала месцам росту сіл і яўрэйскага народа. На зямлі і на заводах — пануе роўнасць, брацтва і сяброўства нацый. Мы бачым яўрэйскі аддзел Акадэміі навук, яўрэйскія аддзелы ў вышэйшых навуковых установах, яўрэйскія школы, яўрэйскі драматычны тэатр. Там, дзе да рэвалюцыі гаравала яўрэйская бедната і дрыжала ад пагромаў, там мы бачым росквіт і паўнакроўнае жыццё.

Савецкая індустрыялізацыя, ператварыўшая гарады, ператварыла гарадскога чалавека і нарадзіла новы воблік яго. Гарады сталі рабочымі цэнтрамі. Рабочы клас Белару-

сі ёсць галоўная сіла ў беларускім грамадстве. Рабочы клас вырас і, змяньваючыся сам, змяньваў краіну і ўсё яе грамадства.

«Прыемна і радасна ведаць, што кроў, багата пралітая нашымі людзьмі, не прайшла дарма»,— сказаў вялікі правадыр.

Не прапала дарма! Партыя давяла да шчасця краіну. Думка аб заўтрашнім дні і аб лёсе сваіх дзяцей не мучыць ні інтэлігента, ні... паводле старога стылю, рука імкнецца напісаць — «просталюдзіна». Гэтае супрацьстаўленне — інтэлігент і просталюдзін — у Беларусі, як у нацыі прыгнечанай, калісьці было вельмі вострым. Чалавек, які з народа выбіваўся хоць у якую інтэлігенцыю, павінен быў забываць нават сваю родную мову, бо на гэтай мове не было навукі, літаратура ледзьве зараджалася, не было беларускай дзяржаўнасці. А што такое цяперашні беларускі «просталюдзін»? Гэта бацька сына-інжынера або дачкі-доктара. Маладзейшыя дзеці яго — камбайнеры і лётчыкі, сам ён не пасіўны бядак, якому важна, каб абы-як пражыць на свеце, а ён дзеяч свайго горада ці калгаса.

Вы спаткаеце гэтага «просталюдзіна» як члена ўрада свае рэспублікі і на з'ездзе Саветаў, і на з'ездзе партыі — там ён гаворыць, як весці далей наперад усю краіну. Стаўшы інтэлігентамі, дзеці яго бачаць, што яны расцэньваюцца на вагу золата. Не ў прыклад якой-небудзь Польшчы, дзе настаўнік і інжынер не могуць знайсці сабе працу, у нас такія людзі працуюць аднachасна ў некалькіх месцах: іх у нас не хапае, хоць кожны год іх і выпускаюць нашы вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Беларускі народ гэтулькі ў мінулым перажыў гора, што нават у часе сваіх пайрадаснейшых урачыстасцей цяпер нашы людзі аддаюцца ўспамінам аб сваім ранейшым жыцці. І гэта вядома чаму: ёсць з чым параўнаць сваё мінулае. І ў сваіх прамовах на з'ездах, і на святочных заводскіх балах, і на калгасных банкетах,— усюды вы пачуеце ноткі ўспаміну. Даўжэзныя сталы гнуцца ад гор смажаніны, пара ўзнімаецца ад засмажанай птушкі, вясёлая гамана, музыка і песні зліваюцца ў гул народнага піру — жывая натура для мастака фламандскай школы,— і от падымаецца паджылы чалавек з чаркай у руках. З твару яго яшчэ не сышла заўзятая весялосць ад няскончанай гутаркі з суседам, але вачмі пачынае апаноўваць задуменнасць. І тут чуецца яго голас.

— Мы дажылі да шчасця і таму ўспомнім, як мы жылі раней!..

Шмат каго вучаць гэтыя ўспаміны, і ў першую чаргу тых, хто не пакідае думкі зноў пачаць цягнуць жылы з народа.

Усё дасягнута ў змаганні і працы. Нялёгка здабыт шчаслівы лад. Партыя вытрымлівала і вытрымлівае змаганне з шматлікімі ворагамі народа. І беларускія фашысты, называючыся нацдэмамі, рабілі ўсё, што толькі маглі, каб скіраваць краіну так, як хоча вяльможнае польскае панства і нямецкі майстар жалезнага здзеку над чалавекам. І самі гэтыя замежныя крывавыя майстры слалі і шлюць сюды сваіх шпіёнаў і дыверсантаў.

Трэба было і з імі змагацца, і пачынаць аднаўляць усё жыццё спачатку, бо і палякі і немцы пакінулі тут руіны. Увесь народ ішоў і ідзе за партыяй. Мы думаем аб лепшых прадстаўніках гэтага руху, які выяўляўся ў форме ўдарніцтва і выяўляецца ў форме стаханаўства. І заўсёды ў форме палітычнай пільнасці.

Шмат беларускіх людзей узнагароджаны ордэнамі за тое, што памагаюць пагранічнікам ахоўваць граніцу. Мы можам успомніць шмат іх імён. Многа нашых людзей узнагароджана ордэнамі за тое, што самаадданa ўзнімалі прамысловасць і сельскую гаспадарку. У нас сфармаваліся і спрактыкаваліся выдатныя дзеячы земляробства, жывёлаводства, машынабудаўніцтва і транспарту, навукі і літаратуры.

І Юхневіч Мацвей Сцяпанавіч раскажа вам, як у сваім калгасе (у Рычаўскім сельсавеце, Тураўскага раёна) ён павышаў ураджайнасць зямлі, і даярка саўгаса Рачкавічы (Чырвонаслабодскага раёна) Зося Грыгаровіч раскажа аб сваёй працы, за якую яна таксама ўзнагароджана ордэнам Леніна. І Батоўкін Мікіта Ермалаевіч успомніць сваё колішняе жыццё і цяперашнюю высокую ўзнагароду, і Ліза Белая — брыгадзір жывёлагадоўлі ўсміхнецца весела і радасна сваёй маладой усмешкай, расказваючы, як за сваю стаханаўскую працу яна носіць на грудзях ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга. Ліза не можа ўспомніць старога жыцця. Спаткала яна рэвалюцыю чатырохгадовай дзяўчынкай. Жыццё яе не праходзіла, як жыццё старэйшага пакалення, яна не памятае панскай эксплуатацыі, яна належыць да шчаслівейшага пакалення.

Барушкоў Грыгор Мінавіч пражыў 68 год. І толькі

ў наш час знайшоў плённы ўжытак свайму ўмельству ладзіць гаспадарку. Высокая яго ўзнагарода — гонар чалавека-працавіка.

Мы ўспамінаем ордэнаносцаў і Коўдзерку Марыю, і Бляхераву Раісу, і Няшчыліну Анну, і Ганусу Юстына, і Кірмашук Антаніну, і таварыша Скабло, і таварыша Прахарэнку, і шмат, шмат іншых. Мы думаем аб цэлай кагорце слаўных людзей, чыё сумленне давала прыклад усім і чыё ўмельства і майстэрства рабілі цуды. Праца іх узышла на вышэйшую ступень. Вытокі яе — у сувязях са сваім народам, а значыць,— і адданасць Камуністычнай партыі. Кожны дзень выяўляюцца новыя героі гаспадаркі і абароны ў горадзе і ў калгасе.

Колькі было страчана марных надзей і бясплодных дум у чалавека, калі ён яшчэ не быў гаспадаром у сваёй краіне! Вечная сялянская мара аб зямлі, вечная мара рабочага аб працы і хлебе! У беларускай літаратуры сярод іншых яе вобразаў узвышаецца трагічная постаць Міхала з «Новай зямлі» Якуба Коласа. Гэты чалавек сваю мару аб зямлі панёс у магілу. Колькі разоў яму здавалася, што ён бачыць перад сабой панадныя шчаслівыя берагі, да якіх ён плыў праз усё сваё жыццё. Прывід зямлі, то ў няясных, то ў выразных абрысах, стаяў перад ім. Скромнасцю і зборлівасцю, сумленнасцю і працаю ён сабраў за жыццё грошай, каб купіць кавалак зямлі і скінуць з сябе сабачую годнасць служыць пану. Нарэшце — зямля! Але ў гэты самы момант душа яго ўбачыла змрок магілы. Не мог працоўны чалавек прыдбаць сабе зямлі сумленнай працай. Уласную зямлю мог набыць толькі эксплуататар і махляр. Рэшта народа сядзела на сваіх мізэрных надзелах або зусім не мела зямлі. Працавіты чалавек мог толькі страціць сілы і згубіць здароўе. Так стала і з Міхалам. Страціўшы сілы, ён сканаў.

## Высока трымаем сцяг працы і абароны

Наша рэчаіснасць назаўсёды адкінула марную трату сіл жывога чалавека. Вечнае ўладанне зямлёй замацована за тымі, хто на ёй працуе паводле дзяржаўных актаў. Зямля навечна народу! І цяпер, у дні перад святам дваццацігоддзя Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі ўвесь савецкі народ усіх рэспублік рыхтуецца да выбараў у вышэйшы свой дзяржаўны орган, калі ва ўсім народзе гучаць непарушныя

словы Канстытуцыі СССР, у гэтыя дні думка надоўга спыняецца на самых вострых момантах чалавечай гісторыі.

Мы чуем гром мінулых войнаў, бачым скрываўленую і здратаваную салдацкімі ботамі зямлю і саміх салдат, з праколанымі грудзьмі і жахлівымі ад пакут тварамі. Гістарычныя гады з веку ў век урываліся на беларускую зямлю, рабілі з народа пакутніка і салдата, гонячы на вайну і прымушаючы ваяваць за тое, што было глыбока варожа самому народу. Вялікая сям'я савецкіх народаў уступіла ў новую паласу чалавечай гісторыі.

Народ высока трымае савецкі сцяг працы і абароны. Слаўная і магутная Чырвоная Армія атулена вялікім народным замілаваннем. Наша рэспубліка варта высокай годнасці фарпоста Савецкага Саюза! Граніца на замку! Савецкая Беларусь — неаддымная частка ўсяго Савецкага Саюза — кіпіць энергіяй і радасцю.

І хочацца сказаць беларускаму народу па той бок граніцы:

Прывітанне вам, браты, ад нашых радасных сэрцаў. Няхай гарыць у вашай душы агонь вялікіх імкненняў і надзей.

Пройдуць гады, і яшчэ больш будзе яснот і кіпучай радасці.

# ПАЛКАВОДЗЕЦ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ АРМІІ

У дні вялікіх урачыстасцей народаў Савецкага Саюза, калі мільёны сэрцаў зліваюцца ў кіпучы парыў прывітання і ўдзячнасці свайму правадыру за здабытую радасць жыцця і калі сотні тысяч дэманстрантаў ужо гатовы прайсці паўз Маўзалей найвялікшага генія і там мець шчасце ўбачыць на трыбуне таго вялікага і роднага, што ў дзень вялікай жалобы даў клятву непахісна весці народы да далейшага шчасця і гэтую клятву здзейсніў,— у той самы момант з гістарычнай крамлёўскай брамы на баявым кані выязджае палкаводзец. У яго светлы твар і ясныя вочы, і нават у час задумы пячаць жыццярадаснай усмешкі прабіваецца з-пад такіх знаёмых і родных мільёнам людзей рыс яго твару.

Клім Яфрэмавіч Варашылаў, адзін з сузор'я вялікіх імён, найвялікшы ваеначальнік у гісторыі ваеннага руху народаў, першы Маршал Савецкага Саюза.

Часці Чырвонай Арміі стаяць у суровым маўчанні перад сваім палкаводцам, які ў гэты час праязджае перад іх фронтам. І от маршал вітае байцоў. Нястрымнае «ўра» агалашае пляц, дзяржаўная гісторыя якога падыходзіць пад тысячагоддзе і якому нарэшце суджана было стаць месцам, на якое накіраваны вочы ўсяго чалавецтва. Танкі і гарматы стаяць у суровым маўчанні. Жалезныя рады пяхоты застылі ў чаканні, кавалерыя падрыхтавана да нястрымнай сваёй імклівасці. Усё зліваецца ў адну магутную скалу. І да волі аднаго маху рукі слаўнага маршала, каб гэтая жалезная лавіна рушыла наперад і да канца пачала крышыць усё, што ёй варожае.

Гэтая сіла наймагутнейшай у свеце арміі мае сваю багатую і складаную гісторыю, і гісторыя гэта цесна звязана з імем Кліма Яфрэмавіча Варашылава. Спачатку, пасля рэвалюцыі, Чырвоная Армія ўзнікала з слаба ўзброеных пасобных часцей і атрадаў, а жалезны маршал яе — чалавек, абкружаны такім народным замілаваннем, такой папулярнасцю і армейскай адданасцю — пачынаў свой ваеначальніцкі шлях з камандзіра арганізаванага ім партызанскага атрада.

Гэта было адразу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, але датуль Клім Яфрэмавіч прайшоў ужо вялікую школу рэвалюцыйнага змагання. У маленстве дзевяцігадовы пастушок у панскім маёнтку, пасля падростак-рабочы на шахтах з дзесяцікапеечным заработкам у дзень, ён з малых дзён зазнаў гора. І яго асабістае гора было неаддзяліма ад гора народнага. Верны сын народа, ён пайшоў у змаганне за народ.

У 1899 годзе Клім Яфрэмавіч, васемнаццацігадовы юнак, арганізуе забастоўку кранаўшчыкоў на металургічным заводзе пры станцыі Алчэўскай, дзе ён сам працаваў рабочым. Клім Яфрэмавіч быў арыштаваны. Пасля вызвалення з-пад арышту пачаліся вандраванні маладога рэвалюцыянера ў пошуках работы, і гэтыя пошукі былі своеасаблівай формай рэвалюцыйнай працы. У 1905 годзе Клім Яфрэмавіч арганізуе стачкі і кіруе дзейнасцю баявых атрадаў. У Луганску ён арганізуе забастоўку, якая скончылася рабочай перамогай. Неўзабаве была арганізавана і другая забастоўка, пасля чаго Клім Яфрэмавіч быў арыштаваны. Праз некаторы час тысячны натоўп рабочых падышоў да турмы, дзе паліцыя трымала Кліма Яфрэмавіча, і запатрабаваў яго вызвалення. Спалоханая паліцыя выпусціла маладога рэвалюцыянера, і ён зноў пачаў рэвалюцыйную працу сярод рабочых.

На Стакгольмскім з'ездзе партыі Клім Яфрэмавіч упершыню спаткаўся з Леніным. Пасля з'езда ён прымае ўдзел у справе ўзбраення рабочых. У 1907 годзе прымае ўдзел на Лонданскім з'ездзе партыі. У тым жа годзе яго арыштоўваюць і высылаюць на тры гады. З высылкі ён уцякае ў Баку і там працуе ў падпольнай бальшавіцкай арганізацыі разам з Сталіным. Пасля пераязджае ў Пецярбург, дзе зноў арыштоўваецца і высылаецца ў Архангельскую губерню. Рэвалюцыйнай працы ён не спыняе і ў ссылцы. У Архангельску ён сядзіць у турме, там жа яму павялічваюць тэрмін высылкі. У 1912 годзе, адбыўшы высылку, ён варочаецца ў Данбас, адкуль яго зноў высылаюць у Чардынскі край.

У часе імперыялістычнай вайны Клім Яфрэмавіч працуе ў Царыцыне рабочым на гарматным заводзе. У 1915 годзе, хаваючыся ад паліцыі, пераязджае ў Петраград, дзе працуе разам з петраградскімі бальшавікамі.

Клім Яфрэмавіч — арганізатар Савецкай улады з першых дзён рэвалюцыі.

У 1917 годзе, у момант захопу бальшавікамі ўлады, Клім Яфрэмавіч вядзе бязлітасную барацьбу з меншавікамі ў Луганску. У тым жа годзе назначаецца камісарам Петраграда і разам з Феліксам Дзяржынскім арганізуе ВЧК. З 1918 года пачынаецца ваенная праца Кліма Яфрэмавіча.

Так вобраз Кліма Яфрэмавіча вырысоўваецца перад намі як вобраз аднаго з вялікіх стваральнікаў савецкай дзяржавы.

На працягу ўсяго часу сваёй слаўнай дзейнасці Клім Яфрэмавіч збіраў масы навокал партыі, выкрываў эсэраўска-меншавіцкіх ворагаў партыі, бязлітасна змагаўся са здраднікамі радзімы. Разам з таварышам Сталіным ён да канца і паслядоўна вёў барацьбу з ворагамі народа. Так устае перад намі вобраз найвыдатнейшага бальшавіка, які ўдзельнічаў у стварэнні партыі, заўсёды змагаўся за ленінскае адзінства яе, разам з Сталіным заўсёды высока трымаў і трымае сцяг барацьбы з ворагамі народа, з ворагамі партыі, высока трымае сцяг маналітнасці і чыстаты партыйных радоў.

Арганізацыя рэвалюцыйных гурткоў і праца ў іх, арышты і ссылка, уцёкі, зноў арышт і ссылка, зноў уцёкі і рэвалюцыйная праца, удзел у з'ездах партыі, якія арганізоўваў Ленін у эміграцыі, блізкае знаёмства з Леніным — усё гэта фармавала будучага кіраўніка сіл абароны сацыялістычнай краіны.

Усясветная гісторыя пакінула ў чалавечай памяці шмат вобразаў палкаводцаў і военачальнікаў. Сярод іх былі дэспаты, былі вузкія ваенныя спецыялісты, былі сапраўдныя ваенныя геніі, былі народныя душыцелі, былі і такія, армія пад камандай якіх выражала народны парыў змагання за сваю нацыянальную незалежнасць. Але ніколі яшчэ ў чалавечай гісторыі не было такога палкаводца, армія якога б, не будучы прыведзена ў ваеннае дзеянне, будучы ў стане міру, а не вайны, стрымлівала б самым фактам свайго грознага існавання захопніцкія апетыты шмат якіх агрэсараў. Армія, якою камандуе Клім Варашылаў, ёсць армія абароны, а не захопу, хоць гэта самая магутная ў свеце армія самай магутнай краіны. І гэта таму, што наша Чырвоная Армія ў поўным сэнсе слова армія народа.

Рабоча-сялянская Чырвоная Армія, як і ўвесь Савецкі Саюз, гатова заўсёды жыць у міры з усім светам. Але Чырвоная Армія таксама гатова кожны міг у парашок сцерці ворага, які адважыцца напасці на краіну працоўных.

«Наша Армія існуе не для нападу, але толькі да нападу ворага на нашу радзіму. Яна будзе самай нападаючай з усіх калі-небудзь нападаўшых армій, калі вораг яе прымусіць да гэтага» (Варашылаў).

Гістарычныя прыклады паказваюць, што масам працоўнага народа не ўласцівы агрэсарскі дух, народныя войны — гэта або войны супраць сваіх нацыянальных эксплуататараў або супраць чужаземных захопнікаў і за сваё нацыянальнае вызваленне. Руская армія, якая выгнала напалеонаўскае войска з Расіі, была моцная агульнанародным парывам нянавісці да агрэсара.

Воблік Кліма Варашылава як ваеначальніка найлепш адлюстроўваецца ў духоўна маналітным адзінстве яго асобы з усёй армейскай масай байцоў і камандзіраў. Вялікі стратэг і чалавек вялікай душы, ваенны талент-самародак — вось якасці Кліма Яфрэмавіча.

Гуманізм і пачуццё абавязку перад народам рабілі Кліма Яфрэмавіча палкаводцам незвычайным. Ужо з самага пачатку вайны ён робіцца такім камандзірам, які вядзе за сабой не толькі ўзброеныя сілы, але і масы няўзброенага народа, бежанцаў. Ён выратоўвае з пагібелі ад раз'юшаных белагвардзейскіх банд масу народа.

Дзесяткі тысяч дэмаралізаваных, змучаных, абарваных людзей і тысячы вагонаў з маёмасцю рабочых і іх сем'ямі трэба было правесці праз поўны белагвардзейшчыны Дон. І Клім Яфрэмавіч зрабіў гэта будучы сапраўдным народным правадыром.

Калі пад напорам добра ўзброеных нямецкіх войск атрады Чырвонай Арміі вымушаны былі спачатку адступіць, Клім Варашылаў не дапусціў дэмаралізацыі, арганізаваў парадак, абпадзеіў і падбадзёрыў байцоў як бацька і друг. Ён правёў атрады да Царыцына, на Волгу, і там з іх была сфармавана 10-я армія. Ён ажыццяўляў стратэгічны план таварыша Сталіна — план паходу праз Данбас.

Клім Яфрэмавіч кіраваў абаронай Царыцына. Гэта была адна з эпапей змагання з узброенымі да зубоў ворагамі народа.

Клім Яфрэмавіч, камандуючы ўкраінскім фронтам, кіраваў абаронай Кіева.

У адзін з рашучых момантаў грамадзянскай вайны таварыш Сталін пасылае Кліма Яфрэмавіча ў Першую конную армію ўзмацняць яе і весці да перамог разам з таварышам Будзённым. Вось як успамінае гэты час таварыш

Будзённы: «Са з'яўленнем у радах Коннай Арміі тав. Варашылава, які ўзначаліў ваенна-палітычнае кіраўніцтва гэтай аграмаднай масай, пачаўся шпаркі рост партыйных арганізацый, у палках узмацніўся колькасна і якасна палітычны і асабліва камісарскі склад. Моцная партыйная арганізацыя, загартаванае ядро старых байцоў і камандзіраў, у кароткія тэрміны ператварылі новы чалавечы матэрыял, ператвараючы яго ў адзіную адточаную баявую зброю. Гэта забяспечыла Коннай Арміі велізарную прабіўную сілу і жалезную ўстойлівасць у моманты самых цяжкіх баявых іспытанняў».

У чэрвені 1920 года Конармія атрымала задачу разграміць і знішчыць Кіеўскую групу польскага войска. Гэтая справа была зроблена бліскуча. Ёсць на Украіне сяло Ваbooладарка, дзе ў дзень той слаўнай аперацыі былі Варашылаў і Будзённы. Клім Яфрэмавіч з тав. Будзённым зранку ўзыходзілі на званіцу, каб разглядзець мясцовасць, але густы туман засцілаў усё навокал, і толькі гарматныя ўзрывы разрэзвалі яго. Тав. Варашылаў накіраваўся да артылерыі і ўзяў яе пад сваё камандаванне, тав. Будзённы камандаваў кавалерыйскімі часцямі. Агульным моцным ударам польскі фронт быў разарваны, і армія рынулася ў тыл палякам. Палякі ачысцілі Кіеў і пачалі адступаць.

Кіраўнік абароны Царыцына, камандарм 14-й арміі, арганізатар прарыву польскага фронту, адзін з арганізатараў разгрому Дзенікіна і Урангеля, палітычны і аператыўны кіраўнік Коннай Арміі — вось справы вялікага палкаводца. Калі белапалякі пачалі адступаць, Клім Варашылаў, камандуючы 4 і 14 кавалерыйскімі дывізіямі, дэзарганізаваў і знішчаў польскія часці. Будучы заўсёды на самых перадавых пастах, слаўны Клім Яфрэмавіч не раз быў пад пагрозай смерці. У 1921 годзе Клім Варашылаў ачысціў Паўночны Каўказ ад белагвардзейскіх банд.

Шматлікія франты грамадзянскай вайны бачылі Кліма Варашылава сваім непераможным камандзірам.

Адзін з арганізатараў дзвюх пяцігодак, Клім Яфрэмавіч належыць да таго слаўнага штаба, які кіраваў справай ператварэння нашай краіны ў магутную, багатую, індустрыяльную дзяржаву з наймагутнейшай у свеце арміяй.

Мільённая маса байцоў і камандзіраў накіроўвае позірк на любімага і адважнага свайго палкаводца. У той момант, калі Клім Яфрэмавіч праязджае па Чырвоным плацы перад баявым парадам Чырвонай Арміі, з-пад чырвонаармей-

скіх шлемаў з замілаваннем і з гатоўнасцю ісці за ім глядзяць на яго прадстаўнікі шматлікіх нацыянальнасцей вялікай нашай Радзімы. І калі Клім Яфрэмавіч скажа першае слова чырвонаармейскай прысягі, шматлікія сэрцы людзей, адзетых у форму абаронцаў сацыялістычнай бацькаўшчыны, пачынаюць біцца мацней, і вочы загараюцца энтузіязмам, крыніцы якога — у шчырай душы кожнага з гэтых сыноў слаўнай радзімы.

«Я сын працоўнага народа!..»

У гэты ўрачысты момант спакойна і ўпэўнена цвіце і ўзнімае свае сілы Украіна, дзе ў гады народных пакут і народнага энтузіязма так шмат паклаў свае энергіі Клім Яфрэмавіч, узначальваючы змаганне з белагвардзейцамі і чужаземнымі захопнікамі.

У гэты момант моцна стаіць на варце дзяржаўнай граніцы Беларусь, якая часта бачыць у сябе дарагога Кліма Варашылава, арганізатара і натхніцеля баявой вучобы і падрыхтоўкі войск Беларускай ваеннай акругі. Беларускі народ ведае, што палякі пачалі ачышчаць яго зямлю ад свайго паганага панскага духу тады, калі Варашылаў праравіў польскі фронт на Украіне.

У гэты момант слухае чырвонаармейскую прысягу Волга,ператвораная на шчаслівы сацыялістычны лад, дзе так слаўна бараніў Царыцын Клім Яфрэмавіч.

У гэты час квітнеюць і радуюцца поўнач і поўдзень, усход і захад, усе краіны вялікага Савецкага Саюза, усе яго рэспублікі. Сыны ўсіх шматлікіх савецкіх народаў радасна і шчыра прыносяць сваю прысягу служыць працоўнаму народу. І гэтую прысягу прымае самы верны сын народа, шчыра і да канца яму адданы — жалезны маршал, вялікі палкаводзец і ваенны стратэг, чалавек простай душы і вялікага сэрца і розуму — Клім Варашылаў.

Клім Яфрэмавіч прыняў прысягу чырвонаармейцаў і становіцца на трыбуне. І тады пачынаецца ўрачысты рух Чырвонай Арміі, дэманстрацыя непераможнай яе сілы. А пасля паўз трыбуны праходзіць народ — дэманстрацыя адданасці правадыру і сваёй радзіме.

Народ спакойны за сваю краіну, бо ён сам, увесь,— абаронная яе сіла. Чырвоная Армія — лепшая, узброеная частка савецкага народа, кіруе ёю выпрабаваны ў баях саратнік Сталіна, адважны і слаўны Клім Варашылаў.

# МІНСК

Сёмага лістапада 1937 года ў сталіцу Савецкай Беларусі з'ехаліся лепшыя людзі рэспублікі і пад сцягам дваццацігоддзя Вялікай сацыялістычнай рэвалюцыі сталі шчыльнай сцяной вакол бронзавага манумента генію ўсіх народаў і часоў. Гордыя за сваю краіну, яны бачылі, як перад імі разгортвалася грандыёзная карціна народнай урачыстасці.

Жалезны рух пяхоты, імклівасць кавалерыі, грукат шпарка ідучых гармат і танкаў — змяніўся бясконцым патокам дэманстрацыі. Магутнасць і гонар, слава і радасць, мудрасць і весялосць — былі матывамі гэтай карціны. І от, з самых нетраў людскога мора выплыла калона дзяцей і падросткаў. Пад урачысты гром музыкі дзеці, ідучы, танцавалі. Форма іх квяцістага адзення мела за свой пачатак народныя ўборы, суладдзе колераў было такое гарманічнае, што на ім адпачывала вока, а зіхаценне гэтай квяцістасці клала бляск на запоўнены народам пляц перад урадавым палацам, па якім плыла стодваццацітысячная дэманстрацыя. Танец усёй калоны быў фонам для сінявокай «прымабалерыны», якой не было яшчэ і дзесяці год. Агульны танец залежаў ад пластычнага руху гэтай дзяўчынкі, і яна была самым ідэальным увасабленнем дасканаласці, дасціпнасці і грацыі. Ад кожнага руху густыя фалды яе адзення ўзніміліся і ападалі. На яе плячах ляжала злучэнне колераў арнаментальнай вышыўкі, і таму блузка яе так нагадвала вышытую кашулю беларускай сялянкі, што гэты праабраз паўставаў як жывы. Тут быў прынцып народнага мастацтва, узведзены на вышыню дзяржаўнага размаху.

Дзіця беларускага народа ў дзень дваццацігоддзя вялікай рэвалюцыі выступіла як сімвал прыгажосці абноўленага жыцця. І, можа, гэтае дзіця было найлепшым увасабленнем народнага імкнення да хараства, з якога партыя Леніна зняла ярмо лапцей і ануч, андаракаў і сярмяг.

Мы заўважаем жаночы твар, на якім ляжыць пячаць таго, чым поўніцца ў гэтыя хвіліны душа. Вочы жанчыны не сыходзяць з дзяўчынкі. Яна цешыцца з дачкі сваёй ці ўнучкі? І адданае народу сэрца адчувае, што значыць заду-

меннасць гэтай жанчыны. Гэтая ціхая радасць. Тут глыбокае разуменне таго, што значыць для народа партыя і Сталін, і адсюль пачынаецца мудрая сталасць. Маленства гэтай жанчыны праходзіла, можа, якраз на гэтым самым месцы, дзе цяпер выступае дзіця народа як само чалавечае хараство. Тут узнімаецца ўрадавы палац, які мог бы заняць паважнае месца ў любым горадзе сусветнага размаху. Тут, можа, больш як дзе ў беларускай сталіцы, сабраліся адзнакі вялікага савецкага горада. А на гэтым самым месцы, яшчэ за нашу памяць, стаялі спарахнелыя чалавечыя прытулкі, сярод якіх таксама хадзіла па зямлі дзіця народа, але хараство яго было задушана: наша памяць бачыць перад сабой вобраз дзіцяці, плечы якога ціснула сярмяга, а ногі раз'ядалі гнілыя анучы.

Дваццаць год таму назад! Пяцьдзесят! Сто! Пяцьсот! Тысяча!

З імглы вякоў уяўленне выклікае вобразы жыцця народа, гісторыя якога заходзіць у тысячагоднія глыбіні.

У самую сівую старадаўшчыну гэта быў драўляны горад. Кожныя год дзесяць-пятнаццаць яго разбуралі міжусобныя войны і палілі пажары. Бярвенчатыя пабудовы то гусціліся на нямігскіх берагах, то выстройваліся доўгім радам па Свіслачы. Цішыня навакольных хваёвых і яловых лясоў парушалася паляўнічым крыкам узброенага лукам славяніна. Тут жа, на месцы зліцця дзвюх рэк, барадаты земляроб абменьваў самаробны зрэбны андарак на вычасаную з разгацістага дрэва саху. Пастукваў на таку цэп, у ганчарнях абпальваліся гаршкі і міскі, звінеў молат на кавадле — майстры выкоўвалі вілы, нарогі, мячы і аправу для шчытоў. З двароў чуліся галасы кароў, авечак і коз. Шыракаплечы лясны бортнік таргаваўся з майстрам на дробныя хатнія рэчы, якія ён выменьваў на мёд.

Гусцей узнікаюць паселішчы вакол Мінска. На месцы зліцця дзвюх рэк купляюць, прадаюць і мяняюць кожны свае вырабы. Тут больш паяўляецца майстроў і пачынаюцца першыя адзнакі рамесніцтва. Мінск робіцца мацнейшым і сталейшым аселішчам гарадскіх людзей.

З самых найдаўнейшых часоў у Мінску скрыжоўваліся гандлёвыя шляхі з усходу на захад і з захаду на ўсход. Дзве вялікія дарогі ішлі праз Мінск. Паўночная — праз старадаўні Лагожск (цяпер мястэчка Лагойск), Барысаў, Оршу, Смаленск — у Маскву; паўднёва-заходняя — праз Слуцак на Валынь і далей да Царграда, а на захад — праз

Брэст. Гандлёвыя дарогі спрыялі таму, што горад стаў моцны і багаты. Яшчэ ў трынаццатым стагоддзі пачынае вызначацца гэты бок жыцця горада. У чатырнаццатым стагоддзі гэта нават вызначае твар Мінска. Тут прывозяцца з далёкіх месц дарагія тавары і завязваюцца гандлёвыя сувязі. На мінскім скрыжаванні вялікіх шляхоў адбываюцца дзелавыя спатканні. З гарачых гутарак, поўных гандлёвых спраў, сачылася палітыка тагачасных дзяржаў, інтарэсы якіх сутыкаліся ў канфліктах.

У першай палове чатырнаццатага стагоддзя Мінск робіцца горадам Літоўскай феадальнай дзяржавы. У канцы таго ж стагоддзя Мінску дадзена Магдэбургскае права.

Купцы і гандлёвыя абознікі спыняюцца ў карчмах. Людская гамана не змаўкала. Масквіч распытваў валынца, што там у іх чуваць. Валынец адказваў, што «зноў, мусіць, з ляхам узагрудкі схватка будзе». За тым жа доўгім карчомным сталом і сам той варшаўскі шляхціц натапырваў ганарыстае вуха, шукаючы патрэбных яму палітычных павеваў.

Саладоўні і мядоўні, тут жа, за два крокі ад карчмы, выраблялі дабрэнны напітак, які не мог тут доўга трымацца ў запасе. На Свіслачы грукацела не менш чатырох вадзяных млыноў. Рамеснікі сядзелі ў сваіх крамках. Тут кожны выробляў рэчы паводле свайго рамяства. Бляхары і шапачнікі, шаўцы і злотнікі прадавалі тут жа, на месцы, тое, што выходзіла з-пад іх рук. Кірмашны гандаль ішоў уздоўж па Нямізе. На мастах цераз рэкі стаялі мытныя скарбнікі і бралі кірмашную плату з кожнага воза, які ўязджаў у рынавую зону з якім-небудзь таварам. На гэты ж кірмаш з ваколічных сялянскіх паселішчаў прыходзіў палюдзець на грамадзе земляроб — у лыку, анучах і зрэб'і. Ён не вельмі смела расхаджваў па Мінску: тут часта відны былі княжыя службоўцы, дзяржаўцы, феадальныя магнаты і іхнія панкі і падпанкі. Просты чалавек мог кожнага з іх зняважыць нават сваім позіркам, які мог здацца высокаму пану ці высакаватаму падпанку непачцівым. А за зняву такой асобы дзяржаўны закон мог прысудзіць простага чалавека не толькі да розаг, а і да адсячэння рукі («Літоўская метрыка»).

На Замкавай гары стаяў замак — на правым беразе Свіслачы. На земляным вале вострымі зубамі ўгору ўзвышаўся тын з дубовых плашак. Некалькі мураваных вежаў узнімалася над тынам. Драўляныя і мураваныя пабудовы

былі ў сярэдзіне. Там жа стаяла і царква — адна з першых мінскіх цэркваў.

Ад гэтага замкавага месца, уздоўж па Нямізе, пачала выбудоўвацца ўжо мураваная вуліца. Узнікалі вуліцы з крамамі і яткамі, выбудоўваліся гандлёвыя рады. Вуліцы выцягваюцца спачатку на поўдзень, пасля на поўнач і забіраюць у гарадскую рысу дробную рачулку Пярэспу, ад якой да нашых часоў не засталося і следу.

З некаторага часу, каля мясцовых феадалаў і грашовых магнатаў, таксама як і каля чужаземных купцоў, якія тут спыняліся, пачаў круціцца хітры варшаўскі тып. Можна сказаць, што якасцямі сваіх метадаў, паводзін і натуры гэта быў прататып пазнейшага езуіта і яшчэ пазнейшага шпіёна, якога адна суседняя дзяржава ўзяла моду засылаць да нас. Гэты тып адзяваўся найчасцей у адзенне духоўнай асобы. Спачатку ён шукаў ахвотнікаў да авантур, пасля вынюхваў, дзе якому ўплывоваму легкадумцу можна паабяцаць залатыя горы, якіх Варшава не мела. Ён шукаў прыхільнікаў да Варшавы, завязваў сувязі з чужаземцамі.

У 1569 годзе адбылася Люблінская унія, і Мінск уваходзіць у склад Польска-Літоўскай дзяржавы. З гэтага часу горад пачынае напаўняцца місіянерамі-папістамі.

Беларускі народ, звязаны з народам рускім блізасцю мовы, бытавым укладам, звычаямі і, нарэшце, адзінствам веравызнання, увесь час не паддаваўся польскаму ўплыву, які палякі стараліся ажыццяўляць тут яшчэ і да Люблінскай уніі. Унію яны рыхтавалі задоўга да гэтага.

Блізасць беларускага народа з рускім мела пачаткі яшчэ ў сівой старадаўшчыне («Полацкая Русь», «Кіеўская Русь»). З часоў уніі пачынаецца самая жудасная паласа ў гісторыі беларускага народа — час панавання над ім польскага панства. Польскія магнаты, паны і падпанкі наязджаюць сюды і садзяцца на беларускіх землях. І ў гэты ж час Польская дзяржава выдае акты, якімі запрыгоньвае сялян. У Маскоўскай Русі паншчыны, як такой, яшчэ тады не было. Паншчына там устанавілася пазней. Беларускае сялянства рэзка павярнула свае вочы на Маскву, і самаўладная расправа польскіх паноў з беларускім сялянствам набыла ўжо выразны характар польскай дзяржаўнай палітыкі. Варшава навадняла Беларусь каталіцкім духавенствам. Апалячванне народа ішло праз форму абярнення яго ў каталіцызм. Такім чынам, змаганне за права-

слаўную царкву стала формай змагання народа з прыгняральнікамі.

Час панавання ў Беларусі польскага панства быў часам паглыблення элементаў трагізму і суму ў слоўнапесеннай народнай творчасці. Засталіся і дайшлі да нас цыклы народных песень таго часу, слоўны матэрыял якіх і мелодыка прымушаюць страсянуцца кожнага ад глыбіні трагізму.

У гэтыя часы ў Мінску пачаў асталёўвацца каталіцызм. Папісты засноўвалі каталіцкія манастыры (кляштары). Пачынаючы з канца XVI стагоддзя і да 70-х гадоў XVII стагоддзя ў Мінску было пабудавана 11 манастыроў з школамі і езуіцкімі калегіямі. Твар горада набывае адмысловы выгляд.

У XVI стагоддзі ў Мінску пасяліліся татары. Гэта былі палонныя, якія трапілі ў палон у бітве пад Клецкам. Пасяліўшыся ў Мінску, палонныя татары заснавалі з цягам часу цяперашняе татарскае прадмесце Людамант.

У самым пачатку XVII стагоддзя ў Мінску быў страшэнны голад. Старыя дакументы паказваюць, што на вуліцах валяліся трупы памерлых з голаду людзей. У палавіне XVII стагоддзя на Міншчыне была доўгая сялянская вайна супроць паноў. У навакольных лясах хаваліся сяляне і не прапускалі па дарогах ні аднаго пана, ні яго службоўца. Дакументы гавораць, што сяляне ў Мінскім павеце «паноў разаралі» і «шляхту мучылі». Пасля задушэння паўстання ў Мінску быў суд над злоўленымі сялянамі. За мінскім астрогам, у самым горадзе, іх, згодна судовай пастановы, закапалі жывымі ў зямлю.

У часе войнаў рускага цара Аляксея Міхайлавіча з Польшчай за Украіну Мінск быў узят рускім войскам пад камандай князя Хварасціна і не малы час быў у складзе Маскоўскага царства.

XVI, XVII і XVIII стагоддзі — час развіцця ў Мінску рамесніцкіх цэхаў і бесперапыннага ўмацавання і росту гандлёвай буржуазіі. Узнікаюць цэхі злотнікаў, бляхароў, краўцоў, шаўцоў, кавалёў, шапачнікаў, катляроў, гадзіншчыкаў, мечнікаў, нажоўнікаў...

Пры Екацерыне II Мінск, як і ўся Беларусь, быў далучаны да Расіі. Мінск стаў губеранскім горадам у складзе Расійскай імперыі. У 1812 годзе Мінск быў заняты французскім войскам. За часы напалеонаўскага паходу ў Расію ў Мінску было забіта і загінула без вестак каля 35 000 чалавек.

Усталёўвалася ў Беларусі эпоха рускага самадзяржаўя. Праваслаўная царква стала сімвалам казённага прыгнечання і казарменнага рэжыму. Губернатар і архірэй, паліцыя і кансісторыя пачалі вызначаць вонкавы выгляд горада.

У XIX стагоддзі каля Мінска ўзнікаюць суконныя фабрыкі Скірмунта і Слатвінскага і Лагойская баваўняна-ткацкая фабрыка графа Тышкевіча. У Мінску ўзнікаюць чыгуналіцейныя, абутковыя і гарбарныя заводы. Пачынае вырастаць пралетарыят. У другой палове дзевятнаццатага стагоддзя праз Мінск прайшлі і ў ім перакрыжаваліся Маскоўска-Брэсцкая і Лібава-Роменская чыгункі. Яны як быццам бы замянілі сабой старадаўнія мінскія гандлёвыя шляхі. Мінск стаў буйной станцыяй на дарогах паміж усходам, захадам і поўднем.

У кіпучую таўкатню і гармідар гарадскіх кварталаў у святочныя і кірмашныя дні ўрываліся гукі старэчага хору пад акампанемент лір. Грымела па горадзе губернатарская карэта: «ангел Минской церкви» архірэй праязджаў на сваім чацверыку. Гулі гудкі мінскіх заводаў, праходзілі з працы і на працу рабочыя. Правінцыяльная вандроўная трупа давала ўвечары спектакль, выходзілі газеты губеранскага маштабу. Рог Саборнага пляца і Губернатарскай вуліцы сапраўды ўпрыгожваў стыльны і цікавы пяціпавярховы будынак гасцініцы «Еўропа» — гасцініцы, якая, трэба сказаць, апраўдвала сваю назву і тады, і цяпер.

Быў жа і просталюдзін, чалавек бедны і працавіты, які ў лыку, зрэб'і і шарачку прыходзіў у Мінск з вёсак. На мінскім рынку ён прадаваў свой няшчасны бядняцкі набытак. Тут жа ён шукаў абы-якой работы. Такі ж самы чалавек раніцой спяшаўся на завод ці фабрыку. Ён марыў аб заработку і аб зямлі, ён ненавідзеў губернатарскую карэту і панскі фаэтон. З самых старадаўніх часоў — і з эпохі панавання над ім польскага панства, і з эпохі ўціску яго Расійскай імперыяй — ён ствараў сваю творчасць: у песнях і казках ён выяўляў філасофскую глыбіню сваёй трагічнай і, разам з тым, аптымістычнай душы. У афіцыйны свет ён не мог глядзець як чалавек: яго беларускую мову той, хто меў над ім неабмежаваную ўладу, называў мужычай.

У такім жа бяспраўі жыў тут і другі народ. Так жыў другі просталюдзін — яўрэй.

Душа народа поўнілася воляй да вызвалення. У народзе спрадвеку жыла нянавісць да прыгнятальнікаў і нястрымнае імкненне да змагання з імі. Народ ніколі не быў маў-

клівым нявольнікам, і мы можам з гонарам за сваю беларускую сталіцу сказаць, што Мінск мае багатую мінуўшчыну ў справе агульнанароднага змагання з прыгнётам. Гэтае змаганне ідзе праз паўстанні супроць феадальных замкаў у часы Літоўскага княжаства, праз сялянскія войны супроць польскіх паноў, праз паўстанцаў, якія жывымі закапаны за мінскім астрогам, праз бунты і дэманстрацыі мінскіх цэхаў, праз нянавісць да біскупаў, ксяндзоў і архірэяў. Паяўленне гарбарань і металаапрацоўчых і іншых арцелей, а пасля фабрык і заводаў, узнікненне і пашырэнне ў канцы XIX і пачатку XX стагоддзяў даволі буйных паводле таго часу і маштабаў горада майстэрань спрыяла фармаванню і росту пралетарыяту. Асаблівую рэвалюцыйную актыўнасць мелі чыгуначныя майстэрні ў 1905 годзе. Адгэтуль пачаліся тады агульнагарадскія рабочыя забастоўкі. Студзень, люты, сакавік, красавік і май таго года былі месяцамі мінскіх забастовак.

З таго часу дагэтуль не згладзіўся ў памяці мінчан курлоўскі расстрэл народнай дэманстрацыі. Вестка аб царскім маніфесце была атрымана 28 кастрычніка. Народ сабраўся каля Віленскага вакзала. Пачаўся рэвалюцыйны мітынг. Губернатар Курлоў, напалоханы рэвалюцыяй, даў загад разагнаць мітынг стрэламі ў натоўп. Салдаты пачалі страляць з розных бакоў і стралялі хвілін дзесяць. Увесь час чулася афіцэрская каманда. Забітых было 60 чалавек і параненых — больш сотні.

На Савецкай вуліцы ў Мінску ёсць драўляны дом, пераробраны цяпер у музей, дзе ў 1898 годзе адбываўся першы з'езд РСДРП.

У часе імперыялістычнай вайны Мінск быў прыфрантавым горадам. Пад канец вайны тут стаялі кіраўнічыя ўстановы Заходняга фронту. Скапленне салдацкіх мас, бежанскія абозы, абозы вайсковыя, артылерыя, земскія саюзы — зрабілі горад цесным. Ён разбураўся і стаў запушчаным. На вуліцах і пляцах натоўпы бежанцаў і салдатаў раскладвалі вогнішчы, пры агні на саломе і пяску ляжалі хворыя дзеці, на вуліцах ляжалі хворыя і паміралі. Тагачасны Мінск быў горадам, у якім да жудасці згусціўся накіп народнага гора. Дзесяткі тысяч людзей, выгнаных вайной у беспрытульнасць, збіраліся тут. На рагу Кіраўскай і Валадарскай вуліц ёсць вялікі трохпавярховы дом, які доўгі час пасля вайны меў неафіцыйную назву дома смерці. Там адзін час быў цэнтральны бежанскі камітэт. Там жа мелі

свой часовы прыпынак бежанцы, найбольш няшчасныя і хворыя. У калідорах, пакоях і залах гэтага дома, у кутках, на падлозе тыфозныя людзі паміралі дзесяткамі і сотнямі ў дзень.

Народ, ідучы за сваёй вялікай ленінскай партыяй, устанавіў на сваёй савецкай зямлі спакойную радасць працы і творчасці. І, памятаючы свае пакуты ад навязанай яму вайны, народ цалкам паўстане супроць усялякай спробы таптаць яго зямлю ботамі чужаземнага салдата.

У моры народнага няшчасця не патухала і разгаралася іскра рэвалюцыі. Рэвалюцыйныя камітэты і арганізацыі салдатаў Заходняга фронту спрыялі таму, што Мінск стаў у рад самых рэвалюцыйных гарадоў эпохі вайны і рэвалюцыі. Сярод салдат Заходняга фронту вёў рэвалюцыйную работу Міхаіл Васільевіч Фрунзе. Першым старшынёй Савета сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерній быў Міхаіл Васільевіч. Ён жа быў членам Мінскага гарадскога савета і членам франтавога камітэта армій Заходняга фронту. У часе карнілаўшчыны Міхаіл Васільевіч быў начальнік штаба рэвалюцыйных войск Мінскага раёна. І, нарэшце, наш гонар за сталіцу нашай рэспублікі ўзнімаецца яшчэ больш, калі мы ўспамінаем, што на пасяджэннях Цэнтральнага Камітэта нашай партыі напярэдадні 1917 года Мінск спамінаецца як актыўны рэвалюцыйны горад, які патрабуе паўстання. Вось словы Леніна: «Абласны з'езд і прапанову з Мінска трэба скарыстаць для пачатку рашучых дзеянняў».

У 1918 годзе Мінск перажыў нямецкую акупацыю, а ў 1919 годзе — акупацыю польскую. На руінах пакутнай мінуўшчыны беларускага народа панская Польшча старалася ўваскрасіць былое сваё над ім панаванне. Можа, змрочныя стагоддзі з глыбіні гісторыі беларускага народа і не паўставалі б у такіх жывых вобразах перад нашымі вачыма, калі б не польская акупацыя. Але сярэдневяковая змрочнасць шматлікіх момантаў з нашай гісторыі ўстае перад намі як жывая, калі мы думаем аб 1919 годзе. Польскага пана нічому не навучыла нацыянальная гісторыя Польшчы. Яго не навучыла нічому і Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя ў Расіі. Ён, як і яго сярэдневяковы продак, быў і ёсць у вачах нашага народа вобразам бессаромнага злодзея, жудаснага ката і крывавага забойцы. У часе акупацыі ў Мінск прыязджаў пан Пілсудскі. Гэтым актам Польшча хацела быццам маральна ўзаконіць сваё імкненне

ажыццявіць падуладнасць Беларусі Пальшчызне. Беларуская контррэвалюцыя ў асобе Беларускай цэнтральнай рады ўрачыста вітала Пілсудскага ў Мінскім тэатры і называла яго сваім бацькам. Беларускі народ адказаў на гэта партызанскім паўстаннем супроць палякаў. Якраз у той самы час ствараліся атрады і мінскіх партызанаў.

11 ліпеня 1920 года Чырвоная Армія з боем увайшла ў Мінск. Масквічы і разанцы, паволжцы і падняпроўцы — чырвонаармейцы, салдаты Вялікай рэвалюцыі, адваявалі Мінск і, разам з атрадамі беларускіх партызанаў, пагналі ворага далей. Разбураны і спалены палякамі, у многіх сваіх мясцінах больш падобны да руін, чым да жывога горада, Мінск пачаў новую эпоху ў сваёй шматвяковай гісторыі. Беларускі народ увайшоў у вялікую братнюю сям'ю савецкіх народаў, і Мінск стаў яго сталіцай.

Улетку 1936 года былі ўзарваны і звезены два няўклюдныя помнікі эпохі царызма: праваслаўны сабор на Пляцы Волі, царква каля Заходняга чыгуначнага моста, на тым месцы цэнтральнай магістралі Мінска, адкуль пачынаецца Савецкая вуліца. Стылёвыя асаблівасці гэтых будынкаў рэзалі вока нават тады, калі Мінск не меў яшчэ такіх, як цяпер, сталічных рыс. Ад знішчэння гэтых дзвюх былых цвярдынь імперскага праваслаўя пачалося ажыццяўленне вялікага плана перабудовы горада.

Дзевяціпавярховы ўрадавы палац, пабудаваны яшчэ год чатыры таму назад, стаў цэнтральным месцам сталіцы. Тут сканцэнтраваны вышэйшыя рэспубліканскія ўстановы. Пачынаючы з дзевяці гадзін раніцы і да чатырох дня ў гэтым квартале Савецкай вуліцы не спыняецца кіпучы рух. Бесперапынна пад'язджаюць і ад'язджаюць легкавыя машыны, паток дзелавых людзей плыве да пад'езда палаца. Бронзавы манумент Леніна ўзнімаецца перад палацам на вышыню трох паверхаў.

У гэтым месцы пачынае вызначаць будучыя свае абрысы Ленінскі пляц. Дом урада займае амаль што квартал. Ленінскі пляц будзе яго абкружваць. Пляц пачынаецца ад Заходняга моста і даходзіць да Універсітэцкага гарадка, пабудаванага раней за Дом урада. Ад гэтага месца і да тэатральнага сквера — пяць кварталаў Савецкай вуліцы з цямна да цямна запоўнены патокам людзей. Натоўпы ўліваюцца ў вызваленую ад транспартнага руху Ленінскую вуліцу і займаюць усю яе шырыню. Тут сканцэнтраваны буйны магазінны гандаль.

Пляц Волі стаў ціхім месцам магазінаў і ўстаноў. Неўзабаве тут пачне будавацца Дом прафсаюзаў. Пляц гэты будзе злучацца новымі вуліцамі з пляцам Тэатра оперы і балета, які пабудаваны ўжо на былым пляцы Траецкага рынку і цяпер абсталёўваецца. Кошт будаўніцтва тэатра — 13 мільёнаў рублёў. Памерамі будынка і сваім унутраным сцэнічным абсталяваннем тэатр належыць да лепшых узораў сусветных тэатральных будынкаў.

У нас увайшло ў прывычку гаварыць «дом» там, дзе трэба сказаць «палац». Дом Чырвонай Арміі, пабудаваны на Чырвонаармейскай вуліцы, паблізу Драматычнага тэатра і побач з домам ЦК КП(б)Б, ёсць узор прыгажосці і дасканаласці. Гэта цудоўны палац. Побач дома ЦК КП(б)Б пабудавана Дзяржаўная беларуская бібліятэка. Колькасцю кніг, іх каштоўнасцю і падборам бібліятэка займае трэцяе месца сярод бібліятэк Савецкага Саюза.

Беларускія цэнтральныя газеты, Акадэмія навук, кансерваторыя, даследчыя і навуковыя інстытуты, два драматычныя тэатры, Тэатр юнага гледача і Тэатр оперы і балета — усё гэта створана ў наш час.

Восем трамвайных маршрутаў звязваюць гарадскія раёны. Варштаты і абсталяванне для заводаў, мэблю і абутак, адзежу і найлепшыя гатункі абутковага тавару выпрацоўваюць заводы і фабрыкі беларускай сталіцы. Заводскія варштаты, зробленыя ў Мінску, экспартуюцца за граніцу.

Вялікія і стыльныя пабудовы ўзнікаюць на месцы старых. Ад новапабудаванага дома альбо палаца ўся вуліца адразу зменьвае свой выгляд. Перад тварам новага мацней выступаюць яе старыя рысы, адразу відно, якая ўжо яна цесная паводле размаху гарадскога жыцця. Праходзіць год-два, і ад яе ранейшага выгляду не застаецца і следу. Яна ўся забудоўваецца нанава, новыя пабудовы адступаюць углыбіню, вуліца робіцца шырокай і прыгожай. Так стварылася, на месцы былой Падгорнай вуліцы, вуліца Карла Маркса, адна з бліскучых магістралей Мінска.

У «Старым горадзе», на месцы знесеных старых дамоў,— засаджваюцца скверы. Прыгарадныя лясы ўваходзяць у гарадскую рысу як паркі і месцы адпачынку. Былы Камароўскі лес ужо «стаў горадам», і адсюль пачынаецца Пушкінскі праспект — новая вуліца, на якой выраслі будынкі Політэхнічнага інстытута, універсітэцкіх клінік, Дома друку, Акадэміі навук, школ і кватэрных дамоў. Тут знішчаны прынцып старога разумення гарадской ускраіны.

Праз некалькі год гэта будзе бліскучы квартал сталічнага горада, які сваімі манументальнымі будынкамі будзе пачынацца адразу з палеткаў пшаніцы.

Сотні стаханаўцаў беларускай сталіцы высока трымаюць яе прамысловасць. Дзесяткі тысяч шчаслівай моладзі з'язджаецца сюды атрымаць вышэйшую асвету на сваёй роднай мове ў дзесятках вышэйшых навучальных устаноў. Мінск — цэнтр беларускай літаратуры, музыкі і ўсіх відаў мастацтва.

Мінск — першы савецкі горад па дарозе з Заходняй Еўропы ў Савецкі Саюз. Экспрэс «Столбцы — Маньчжурия» спыняецца на пероне Мінскага вакзала, і цікаўныя замежнікі прыпадаюць тварамі да вагонных вокнаў, старзючыся разгледзець першы на іх дарозе савецкі горад.

Да граніцы ад Мінска недалёка. Па той бок граніцы беларускі народ не мае сваёй сталіцы. Як і раней, яго мову называюць там хамскай. Але і на нашым карку калісьці сядзелі польскія паны, а цяпер на нашай зямлі стаіць наша нацыянальная сталіца — вялікі савецкі горад — з цэнтрамі культуры вялікага народа.

Мы патрыёты сваёй краіны. Савецкія народы вялікай сваёй гісторыяй, гераічным змаганнем з прыгнятальнікамі і эксплуататарамі заваявалі паўнакроўнае жыццё сваіх рэспублік. І наш народ, разам з усімі савецкімі народамі, высока трымае свой гераізм і славу.

Мы патрыёты сваёй сталіцы. Шматвяковы горад мы пераўтвараем у бліскучае ўвасабленне сваёй гордасці.

# ВАСІЛЬ СЫМОНАВІЧ КЕДРЫК

Кіламетраў за шэсць ад Чырвонай Слабады, на Случчыне, сярод бязмежных калгасных палеткаў стаіць вялікая вёска Бучаціна — цяперашні калгас імя Войкава. Жыты навакол яе аж сінеюць —такія яны ўдалыя. На захад ад Бучаціна сінеюць лясы. Гэта блізкі лясны далягляд ужо на той бок граніцы — там Польшча.

З года ў год калгас цярпеў вялікія няшчасці. Свінні на ферме былі заражаны чумой. Коні хварэлі на анемію. І спатрэбілася доўгае і вялікае напружанне, каб ратаваць жывёлу ад пагібелі.

Вораг арудаваў умела і спрытна. Раённы ветэрынар Андруковіч някепска выконваў заданні сваіх гаспадароў з-за блізкай граніцы. Аднойчы адтуль явіліся ў Бучаціна двое людзей. Яны перайшлі граніцу там, дзе добра ведалі мясцовасць. Гэта былі бучацінскія кулакі, якія ў часы калектывізацыі пайшлі ў Польшчу. Яны мелі заданне ад тых жа самых гаспадароў, якія кіравалі і Андруковічам. Заданне гэта было яснае: спаліць Бучаціна. Каб заблытаць сляды, яны надумаліся грабці жар чужымі рукамі: яны злавілі дванаццацігадовую дзяўчынку і — то грозьбаю, то абяцанкамі на падарункі — угаварылі яе зрабіць падпал. У Бучаціне згарэла 43 сялібы. Гэта было ўлетку 1933 года. Праз месяц бучацінцы напоўнілі свае гумны ўраджаем. І вось зноў пачаўся пажар. Гэты раз згарэла каля пяцідзесяці поўных гумён.

У такой абстаноўцы трэба было ставіць на ногі калгасную гаспадарку, а для таго, каб мець тут поспех, трэба было знайсці ворагаў і вывесці калгас з жудаснага стану. І вось старшынёй калгаса стаў Васіль Сымонавіч Кедрык, тутэйшы калгаснік.

Васіль Кедрык нарадзіўся ў 1901 годзе ў сям'і бедняка, які на сваім дробным кавалачку поля рабіў прыхваткамі, а найбольш ліў пот на зямлі пана Ліпніцкага. З дзесяці год Васіль Кедрык пачаў пасвіць жывёлу на хутары Вайцахоўка, у кулака Кныша. За лета Кныш плаціў Васілю 9 рублёў.

Зімой, спрацаванае за лета, напалоханае горам, няшчаснае дзіця рвалася да навукі. У парваным халаціку Васіль

хадзіў у трохкласнае вучылішча. І калі ён пасля гэтага вучылішча захацеў вучыцца далей, бацька паглядзеў сыну ў вочы і з сумам сказаў, што ніякай рады на гэта няма, бо і так ледзьве можна пражыць на свеце. Васіль пайшоў у вёску Садавічы вучыцца на шаўца.

Калі адбылася Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, Васілю было 16 год. З таго часу і да 1929 года Васіль Кедрык працаваў на зямлі, выключаючы час, калі ён быў у Чырвонай Арміі.

У 1929 годзе ў Бучаціне арганізаваўся калгас, і адным з першых яго заснавальнікаў быў Васіль Сымонавіч. Ён працаваў на полі шчыра і аддана, і вось калгаснікі робяць яго брыгадзірам. Яго брыгада стала перадавой і ўзорнай.

Аднойчы, калі няпрошаныя госці з таго боку граніцы спалілі вёску Бучаціна, некаторыя хісткія і слабавольныя людзі з калгаса, напалоханыя і даведзеныя няшчасцем да адчаю, не хацелі выходзіць на працу, махнуўшы рукою нават на тое, што на полі асыпаецца пераспелае жыта. У гэты цяжкі момант брыгадзір Васіль Кедрык здолеў арганізаваць сваю брыгаду на ўборку хлеба з поля. Ураджай выратавалі.

Калгаснікі выбралі Васіля Кедрыка намеснікам свайго старшыні, а пасля і старшынёй праўлення калгаса. Так у працы і змаганні вырастае чалавек, якога грамада любіць і якому давярае.

Калгас з поспехам выйшаў з шматлікіх няшчасцяў, якія прынеслі яму дыверсанты. Летась ужо калгаснікі атрымалі на працадзень збожжа каля двух кіло.

У гэтым годзе чакаецца вялікі ўраджай і яшчэ больш важкі працадзень.

Так выйшла вёска Бучаціна на добрую дарогу. Так яна ідзе далей па гэтай шчаслівай дарозе.

Блізасць граніцы накладае адмысловую пячаць на яго працу як старшыні калгаса. Памятаючы сваё пакутнае маленства, успамінаючы беднасць і гора, у якіх гадаваліся і раслі яго таварышы, у якіх жылі бацькі і дзяды, бачачы, што з-за блізкага лесу можа ў кожны момант з'явіцца агідны госць з атрутай для жывёлы і з куляй для чалавека, Васіль Сымонавіч не шкадуе сваёй энергіі на тое, каб якое-небудзь новае чорнае здарэнне не парушыла спакойнага жыцця радзімы.

Змяркаецца. Лес на даляглядзе зацягваецца сіняй смугою. Калгаснікі пасля працы збіраюцца на кароткі момант

на двор праўлення калгаса. Сярод іх і Васіль Сымонавіч Кедрык. Ён паведамляе аб тым, што атрымана новая падзяка ад начальніка пагранатрада за добрую дапамогу пагранічнікам у змаганні з дыверсантамі.

Вялікая адказнасць ляжыць на старшыні калгаса. Ён гэта адчувае. Ён не спіць часам начамі. Ён больш за ўсіх адказвае ў сваім калгасе за спакой, за ўраджай, за тое давер'е, якім яго абкружылі аднавяскоўцы.

Васіль Кедрык ад узбуджанасці не можа заснуць. Ён выходзіць на двор. Пачынаецца світанне. Прасторы поўняцца пахам жыта, якое сцяною стаіць навакол хат, усё ў красе. Добра кусціцца ярына. «Будзе ўраджай,— думае Васіль Кедрык.— І калі будзе наша пільнасць, то будзе шчасце і спакой».

— Старшыня нас не падвядзе. Ён дапаможа нам ісці па правільнай дарозе,— сказаў стары калгаснік тав. Гарбуз на тым сходзе, дзе Васіля Сымонавіча вылучалі кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР.

І гэта сапраўды так. Чалавек, які ўсёй сваёй істотай звязан з народам, заўсёды будзе верным яго сынам.

# Н. В. ГОГОЛЬ

*К 130-летию со дня рождения*

Среди великих русских писателей прошлого, воспитанных неумирающим гением народа, Николаю Васильевичу Гоголю принадлежит одно из славных и почетных мест. Наряду с выдающимися своими современниками А. С. Пушкиным и М. Ю. Лермонтовым он вырос на народной почве, вдохновился жизнью и борьбой народа, в нем нашел смысл и своей личной жизни и деятельности.

Николай Васильевич Гоголь родился 31 марта 1809 года в селе Сорочинцы, Полтавской губернии. Нудное домашнее воспитание под руководством невежественного семинариста восполнялось живыми и яркими впечатлениями жизни народа, его труда, быта, легенд и песен. В 1828 году Н. В. Гоголь окончил гимназию в Нежине и направился в Петербург. Холодно и неприветливо встретил Петербург молодого Гоголя. Более года не мог найти он работы. Наконец, он устроился в качестве канцеляриста в одном из петербургских департаментов. Служба произвела на Гоголя самое удручающее впечатление. С горечью жалуется он в письме своей матери на то, что вынужден «переписывать старые бредни и глупости господ столоначальников».

Вступление Н. В. Гоголя в жизнь совпало с периодом жестокой эксплуатации народов царской России.

Трагические образы казненных Николаем I декабристов еще волновали сердца передовых русских людей. Стараниями Николая I Россия превращалась в огромную казарму, в которой, под непрекращающийся треск барабанов, секли солдат, насмерть забивали крестьян, изнемогающих под ярмом крепостнического гнета. По стране рыскали жандармы Николая I в поисках «бунтовщиков». Уделом передовых людей русского народа становилась тюрьма, каторга, виселица.

Дикость, застой, казнокрадство, невежество и ограбление масс утверждались как незыблемые основы государственности, помещиком, всей чиновной бюрократией, выпирающим на передний план купцом-приобретателем. Это была, по выражению самого Гоголя, «презренная жизнь, жизнь, исполненная пустоты и праздности».

В такой атмосфере начиналась литературная деятельность Н. В. Гоголя. После неудачной поэмы «Ганс Кюхель-

гартен» Н. В. Гоголь упорно и настойчиво продолжает работу над целым рядом произведений, из которых составились затем «Вечера на хуторе близ Диканьки».

«Вечера на хуторе близ Диканьки» прочно утвердили место Н. В. Гоголя в литературе. После выхода «Вечеров» А. С. Пушкин писал в одном из своих писем: «Сейчас прочел «Вечера близ Диканьки». Они изумили меня. Вот настоящая веселость, искренняя, непринужденная, без жеманства, без чопорности. А местами какая поэзия, какая чувствительность! Все это так необыкновенно в нашей литературе, что я доселе не образумился».

Жизнь, быт и нравы украинского народа дали писателю неисчерпаемый запас образов, они дали ему тот выразительный яркий язык, который определил успех книги. Именно в народе нашел он простых и самоотверженных людей, с искренними и сильными чувствами, людей, свободных от алчности и эгоизма эксплуататоров. Это настоящие мужественные люди, люди-герои. Их первое и наиболее благородное качество — тесная связь с народом. Борьба за родину, за счастье и процветание народа — вот чем живут эти люди. В «Страшной мести» есть чрезвычайно показательное в этом смысле место. Пан Данило бросил в тюрьму отца своей жены Катерины, предателя и изменника родины. Катерина, тронутая лицемерным раскаянием отца, выпустила его на свободу. Какой бурей гнева был охвачен Данило, узнав о бегстве изменника. «Он убежал, проклятый антихрист. Ты слышала, Катерина, он убежал,— сказал пан Данило, приступая к жене своей. Очи метали огонь; сабля, звеня, тряслась при боку его». Одна мысль о том, что кто-нибудь из казаков мог только подумать об освобождении изменника, заставляет его тут же заявить: «...Я бы и казни ему не нашел!»

А когда затем Катерина испуганно его спрашивает: «А если бы я?» — он сурово отвечает:

« — Если бы ты вздумала, тогда бы ты не жена мне была. Я бы тебя зашил тогда в мешок и утопил бы на самой середине Днепра!»

Горячая любовь к родине, глубокая ненависть к врагам ее нашли в этих словах Данилы наиболее полное выражение.

«Вечера на хуторе близ Диканьки» — это, по выражению Белинского, «порождение легкой, светлой, юношеской фантазии, веселые песни на пиру еще неизвестной

жизни». Действительно, молодой Гоголь еще мало был знаком со всеми мерзостями николаевского режима. Правда, сквозь непринужденную веселость «Вечеров» уже прорывались очень грустные нотки раздумий над пустотой окружающей жизни. И чем дальше, тем все более писатель начинает смотреть «на жизнь взором глубоким, пронзительным и грустно-важным...» (Белинский), тем взором, который сделал из Гоголя блестящего сатирика крепостнической и варварской России помещиков, купцов и бюрократов и утвердил за Гоголем славу писателя, прочно закрепившего критическое направление в русской литературе.

Вершиной сатирического творчества Гоголя явилась гениальнейшая комедия «Ревизор» — классический образец этого жанра. К концу 1835 года комедия была готова. Долго, тщательно и упорно работал Гоголь над «Ревизором». Произведение получилось не только «смешнее черта», как писал о ней сам автор Пушкину, но оно стало, во-первых, острой социальной сатирой, беспощадным и суровым обвинительным актом против царской России. Перед зрителем встала ужасающая картина произвола, дикости, казнокрадства, пошлости «пьяной и тягостной администрации» (Герцен). Впечатление, произведенное «Ревизором», было потрясающим. Как гениальный художник он дал настолько яркую, правдивую жизненную картину тогдашней бюрократически крепостнической России, что комедия его стала отрицанием всей социальной системы, утверждавшей бесправие и жестокую эксплуатацию трудящихся масс. Так именно была воспринята комедия передовой революционно-демократической интеллигенцией, поднявшей горькую правду «Ревизора» как знамя в борьбе за народные идеалы.

Огромная ненависть крепостников к «Ревизору» была прекрасным мерилом его социальной и художественной значимости. Нападки реакционной критики принесли немало огорчений писателю. Однако это не сломило волю художника. Сатирическая линия его творческого дарования нашла свое дальнейшее развитие в «Мертвых душах». Много хлопот пришлось положить самому Гоголю и его друзьям на то, чтобы добиться разрешения на печатание произведения. И это было неудивительно. На огромном полотне «Мертвых душ» был нарисован омерзительный облик крепостнической России. Человеческое скудоумие, духовная нищета и вырождение предстали перед читателем в омер-

зительных типах «хозяев» страны. В лице паразитически-бездеятельного Манилова, ничтожного и вздорного Ноздрева, утратившего человеческий облик скряги Плюшкина, обжоры, клеветника и «кулака» Собакевича, сладкоречивого афериста и жулика Чичикова Гоголь показал самые разнообразные экземпляры хищников-крепостников «рабов власти без достоинства и тиранов без сострадания своих крепостных, высасывающих жизнь и кровь народа с той же естественностью и наивностью, с какой питается ребенок грудью своей матери» (Герцен).

Подобно образам «Ревизора» образы «Мертвых душ» стали нарицательным обобщением ограниченности, человеческого вырождения — черт, типичных для эксплуататорского общества. Вот почему эти гоголевские образы так широко вошли в жизненный оборот. Ленин в борьбе с либеральствующими представителями буржуазии часто использовал гоголевские образы. Товарищ Сталин в своем докладе на VIII Чрезвычайном съезде Советов «О проекте Конституции Союза ССР» дал блестящую характеристику клеветнической зарубежной печати, которая склонна была расценивать проект Конституции, как «сдвиг вправо». «А знают ли вообще эти господа,— говорил товарищ Сталин,— чем отличается левое от правого?» И далее товарищ Сталин приводит пример из «Мертвых душ». «Если вспомните, кучер Селифан счел нужным отчитать Пелагею за смешение правого с левым, сказал ей: «Эх ты, черноногая... не знаешь, где право, где лево». Мне кажется, что следовало бы так же отчитать наших незадачливых критиков, сказав им: «Эх, вы, горе-критики... не знаете, где право, где лево». И совсем еще свежи в памяти слова тов. Жданова на XVIII съезде партии. Характеризуя тип клеветника, пролезшего в партию, он обратился к образу Собакевича из «Мертвых душ» Гоголя. «Очевидно,— говорил тов. Жданов,— праправнуки Собакевича дожили и до наших времен, кое-где даже пробрались в партию. Надо взять метлу покрепче и вымести из нашего партийного дома подобный мусор».

«Мертвые души» Гоголя — блестящая сатира на феодально-крепостнический мир и одновременно выражение огромной любви писателя к своей родине. В многочисленных лирических отступлениях раскрывается глубокая привязанность писателя к своему народу. Каким неподдельным, поистине патетическим чувством любви к родине и

народу проникнуты слова Гоголя, обращенные к России: «Русь, Русь, вижу тебя из моего чудного прекрасного далека, тебя вижу: бедно, разбросанно и неприютно в тебе... Но какая же непостижимая тайная сила влечет к тебе... Русь! Чего же ты хочешь от меня. Какая непостижимая связь таится между нами? Что глядишь ты так и зачем все, что ни есть в тебе, обратило на меня полные ожидания очи? И еще, полный недоумения, неподвижно стою я, а уже главу осенило грозное облако, тяжелое грядущими дождями, и онемела мысль пред твоим пространством. Что пророчит сей необъятный простор? Здесь ли, в тебе ли не родиться беспредельной мысли, когда ты сама без конца. Здесь ли не быть богатырю, когда есть место, где развернуться и пройтись ему? И грозно объемлет меня могучее пространство, страшною силой отразясь во глубине моей, неестественной властью осветились очи мои: У! Какая сверкающая, чудная незнакомая земле даль! Русь!»

Сколько неисчерпаемой и гордой веры и силы народа-богатыря в этих словах писателя, какая пламенная надежда на величественное будущее своей родины! Гоголь был великим патриотом своей родины. Только при этом условии он мог создать произведение «чисто русское, национальное, выхваченное из тайника народной жизни, столько же истинное, сколько патриотическое, беспощадно одергивающее покровы с действительности и дышащее страстною, нервистою, кровною любовью к плодовитому зерну русской жизни» (Белинский). Любовь к родине и народу — вот то основное, что вносит в творчество Гоголя истинное величие и благородство.

Начиная «Вечерами» и кончая «Мертвыми душами», Гоголь остается верным своему великому патриотическому чувству. А какая величественная эпопея народной борьбы показана Гоголем в исторической повести «Тарас Бульба». «Тарас Бульба» — это поистине пламенная песнь любви к родине и ненависти к захватчикам. Это восторженный, идущий из самых глубин души и сердца писателя гимн народной доблести, гимн защитника родины.

Эта священная идея любви к родине делает Гоголя нашим великим современником. Он живет в многомиллионном нашем советском народе, который пламенную мечту писателя о счастье человечества сделал живой, чудесной былью, создав под водительством партии Ленина цветущую страну социализма.

# ДУМКІ ПРА ПАЎЛЮКА ТРУСА

Дзесяць год таму назад, на дваццаць пятым годзе жыцця, памёр выдатны беларускі паэт Паўлюк Трус. Гэта была вялікая страта для беларускай літаратуры, якая адчуваецца і сёння. Паўлюк Трус быў выдатным талентам, ён рос бурна і моцна, ён ужо дайшоў да сваёй спеласці, ужо быў на грані свайго вялікага росквіту, ён ужо раскрываўся ва ўсёй сваёй шырыні. Перад гэтым талентам і ў ім былі вялікія магчымасці.

Паўлюк Трус прыйшоў у літаратуру ў 1924 годзе. Гэты талент быў тады яшчэ стыхіяй, ён, як крыніца, бурна выходзіў з нетраў народнага жыцця і плыў кіпучым струменем. І вельмі скора ён пачаў уваходзіць у роўную шырыню берагоў паэтычнай дзейнасці.

Самай важнай і цікавай рысай паэзіі Паўлюка Труса была яе народнасць. Ён быў увесь у сучаснасці. Рэвалюцыя, родная прырода, народны быт — вось тыя моманты, якія поўным голасам гучаць у яго паэзіі. Тонкая лірыка і эпічнасць з глыбокімі адценнямі народнага гумару — здабыткі яго паэтычнага слова.

Момант з'яўлення ў беларускай паэзіі Паўлюка Труса быў часам, калі ў нашай краіне толькі што скончылася грамадзянская вайна, калі вызвалены і шчаслівы народ, пасля вялікіх сваіх ваенных перамог, браўся за мірную працу па пераўтварэнню сваёй радзімы. Гэту радасць перамогі востра адчувала душа паэта.

Гасне цемры панаванне,
Шчасцем поўніцца душа,—

гучыць музыка Трусавай паэзіі (верш «Асенняя праца»).

Якія элементы ўваходзяць у паняцце «народнасці» паэзіі і наогул літаратуры? Трэба памятаць, што народ не ёсць штосьці абстрактнае. Рэвалюцыя — гэта ёсць канкрэтная дзейнасць народа. Народ жыве ў пэўных прыродных умовах. Народ мае свой быт. Народ мае сваю мову. Творчасць Паўлюка Труса мела гэтыя моманты за свае вытокі. Яго творчасць грунтавалася на матывах рэвалюцыі. Гэта былі вершы і паэмы, у якіх рэвалюцыйныя матывы не гучалі аб-

страктна. Гэта была сама канкрэтнасць, выражаная мастацкім словам. Народ робіць рэвалюцыю ў пэўных умовах і ў пэўным часе. І калі паэт піша аб «краіне бяссмертнага Леніна» («Сёмая гадавіна»), калі ён піша:

...Гэта звоніць кужэльная вёска,
Да Кастрычніка туліцца ўся...—

то гэта ідзе ад самой прыроды Трусавай паэзіі, якая заўсёды была звязана з канкрэтным бытам народа. У тыя часы вёска была яшчэ кужэльная, яна толькі што яшчэ скінула з сябе панскае панаванне і:

На ўлонні тых жывых, чырвоных гоняў,
Дзе ўчора бура нам спраўляла баль,—
Жыццё хвалюецца і пеніцца сягоння,
З грудзей зямлі змывае смутак-жаль...

*«Золак вясны»*

Чытаючы вершы Паўлюка Труса аб рэвалюцыі, мы адчуваем, што гэта адбываецца дзесьці тут, блізка, каля нас, што тут дзейнічаюць людзі, нам добра вядомыя, мы адчуваем усёй душой, што гэта ідзе да новага шчаслівага жыцця родны нам чалавек-просталюдзін, аптымізмам і радасцю якога поўніцца ўсё навакольнае. Мы адчуваем, што ў гэтым працэсе быццам бы (і сапраўды!) удзельнічаюць і палі, і лясы, і азёры, і рэчкі, і ветры, і шырокія разлогі. Больш таго, мы адчуваем нават каларыт пары года і пах быту. Мы бачым палявыя дарогі і ўзлескі, чуем гоман лясоў і гукі машын, мы чуем мову, поўную высокай лірычнай узнятасці і тонкага бытавога гумару. Паўлюк Трус, гэты тонкі лірык, быў у той жа час і самым сапраўдным эпікам, і вельмі часта ў адным і тым жа творы гэтыя дзве плыні зліваліся ў адно музычнае гучанне.

Вобразы Паўлюка Труса заўсёды канкрэтныя. Вобраз правадыра ў яго паэтычным мысленні асацыіруецца з жыццём і бытам народа. Ён мысліць правадыра ў народзе:

Песню «Ленін» красулі-дзяўчаткі
Прапяюць у жніво пад капною,—
Прапяе і пастух каля статку
Пад зялёнакудравай вярбою...

*«На смерць Леніна»*

Дзіўная рэч, але наша крытыка чамусьці заўважала толькі адзін бок паэзіі Паўлюка Труса, яе лірычнасць, тады калі нельга поўнасцю ацаніць яе, ігнарыруючы яе эпічнасць. Тым больш гэта дзіўна, што гэтыя дзве плыні ў творчасці Труса нельга аддзяліць адну ад другой.

Многія вершы Паўлюка Труса ёсць апавяданні аб пэўных здарэннях і падзеях, многія яго вершы — гэта жанравыя карціны, карціны быту, карціны працы.

Паўлюк Трус быў такім талентам, які бурна рос і фарміраваўся. Ён убіраў у сябе лепшыя здабыткі літаратуры. Літаратурныя густы Паўлюка Труса лішні раз выяўляюць прыроду яго таленту. У літаратуры яго цікавіла тое, што было сапраўды народным. Вось чаму ён так любіў Тараса Шаўчэнку. Яго вабіла да сябе лірыка-эпіка вялікага ўкраінскага паэта. Паўлюк Трус дэкламіраваў на памяць «Макара Чудру» і «Песню аб Сокале» Максіма Горкага і цэлыя раздзелы з «Новай зямлі» Якуба Коласа. Пушкінскую «Палтаву» ён называў недасягальным шэдэўрам. Някрасаў быў яго любімым паэтам. Сваім вострым паэтычным чуццём ён адчуваў сапраўдную вялікую паэзію. Адным з яго любімых паэтаў быў і Максім Багдановіч.

Бадай самым выдатным творам Паўлюка Труса была паэма «Дзесяты падмурак». У гэтым творы грамадскія матывы гучаць найбольш шырока. Паэма напісана да дзесяцігоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Гэта быў час, калі пачыналася вялікае індустрыяльнае будаўніцтва, калі краіна ўжо залячыла раны пасля войнаў, голаду і разрухі.

Дні прайшлі, адшалясцелі зоры
На гарачых крыллях навальніц.
І пульсуе радасць у прасторах,
Залатыя свецяцца агні.

Асоба паэта раствараецца ў жыцці краіны:

І тады я стану пад гарою,
Каб пазбыцца смутку і журбы,
Буду слухаць песні Асінстрою,
Захаплюся музыкай турбін.

У гэтай паэме поўна выяўлена лірычнае «я» паэта, і лірыка паэмы знайшла і знаходзіць водгук у пачуццях масавага чытача, яна раствараецца ў настроях яго. І ў гэтым сіла і важнасць паэмы.

Яго лірыка чаруе чытача. Вы можаце чытаць яго вершы аб прыродзе, дзе, здавалася б на першы погляд, ёсць толькі адно захапленне паэта хараством прыроды, і ў працэсе чытання вы пачынаеце адчуваць гэта як штосьці вельмі важнае і неабходнае. Гэта — захапленне роднай прыродай чалавека, які бачыць, што рэвалюцыя прынесла

шчаслівае жыццё ў родную краіну, дзе чалавек зжыўся з хараством яе прыроды.

Сярод гэтай прыроды співаюць жнеі, выходзяць на працу хлопцы-юнакі, «яна», гэта значыць вясковая жанчына, пачувае сябе гаспадыняй на сваёй савецкай зямлі:

Яе сёння шырокае поле
Грамадзянскаю працаю кліча...

І ўсюды чуецца:

Звон шырокі, сэрцу родны,
Звон глыбокі, малады,—

гэта гукі вольнай, радаснай працы. І ўсё гэта сярод роднай прыроды. Гэта нацыянальны момант у творчасці Паўлюка Труса.

Шмат месца ў творчасці паэта займала змаганне са спадчынай старога свету — былой вясковай цемрай, са старым бытам. Паўлюк Трус працаваў у штодзённай прэсе, актыўна жыў «злобай дня».

Творчасць і грамадская праца характарызуюць паэта. У вершы «Пасля буры» чытаем:

Сціхлі грымоты сярдзітыя,
Сэрца не страшыць іх водгулле,
Дожджыкам буйным абмыты, я
Смела вяслую ў прыволле.

У гэтым вершы, мажа, паўней як дзе раскрываецца асоба самога паэта. Адгрымелі громы рэвалюцыі — і гэта была ачышчальная сіла. Свет стаў чыстым. Абмыты гэтым буйным дажджом, паэт-юнак плыве ў шчаслівае прыволле радаснага жыцця.

У паэме «Дзесяты падмурак» паэт гаварыў:

...О, край, калі ж ты станеш
Краем фабрык дымных і машын?

Заўчасная смерць не дазволіла паэту дажыць да нашых дзён, калі БССР стала краем фабрык дымных і машын, калі краіна стала індустрыяльнай і магутнай, калі гераіня адной з паэм паэта, сірата Алеся, стала знатным, шчаслівым чалавекам, калі жыццё стала цудоўным і поўным, калі здзейсніліся лепшыя мары паэта — тое, што ён бачыў і адчуваў у зародках і што вітаў усёй душой.

Мы любім Паўлюка Труса як выдатнага, таленавітага паэта і чыстага душой чалавека, як чалавека і паэта нашай савецкай радзімы. Мы шануем яго слаўную памяць.

## ГІСТАРЫЧНАЯ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

Шчаслівы, радасны момант!

Адбылася вялікая гістарычная справядлівасць.

Адбылася вялікая справа вызвалення народаў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны.

Два дзесяцігоддзі панская Польшча трымала ў жудасных пакутах беларускі і ўкраінскі народы, якія апынуліся пад уладай польскай дзяржавы. Гэта дзяржава бязлітасна і неміласэрна душыла народы. Раз'юшанае польскае панства адабрала ў народа ўсё: і зямлю, палітую яго потам і крывёю, і чалавечую долю. Топчучы паганымі нагамі свяшчэнную зямлю беларускага і ўкраінскага народаў, польскае панства імкнулася адабраць ад народа і яго чалавечую годнасць, называючы яго «быдлам».

Слаўная наша Чырвоная Армія пайшла на вызваленне нашых братоў — беларусаў і ўкраінцаў. Жудасны цяжар прыгнечання спадае з плеч чалавека. Наш родны, любы брат, аб якім так балела заўсёды сэрца, робіцца шчаслівым і радасным. Народ варочаецца да жыцця.

Ад усёй душы, ад самых лепшых пачуццяў, просіцца слова:

Падзяка і слава вялікай Камуністычнай партыі, якая няспынна дбае аб шчасці народаў! Няхай жыве наша слаўная Чырвоная Армія!

Жыві ў шчасці, красуй у радасці, вызвалены, вольны народ!

# НА ТРЫБУНЕ «ПРОСТЫ ЧАЛАВЕК»

«Просты чалавек». Колькі ў гэтым слове вялікага сэнсу! Быў жа час, што ўвесь беларускі народ зваўся «простым народам», ці яшчэ інакш, «тутэйшым народам». З стагоддзя ў стагоддзе «простым чалавекам» на беларускай зямлі зваўся той, хто мазалём і крывёю здабываў хлеб панству і чыноўніцтву, а сам быў галодны і раздзеты. Польскае панства не задаволілася нявінным тэрмінам «просты чалавек», яно назвала гэтага чалавека «быдлам». Сталін казаў: «Народ — бяссмертны». Беларускі народ за стагоддзі нацыянальнага і сацыяльнага прыгнечання не толькі не страціў сваёй нацыянальнай годнасці і свайго нацыянальнага твару, а яшчэ мацней вызначыў яго. Народ Савецкай Беларусі прынёс у сацыялізм сваё вялікае нацыянальнае багацце — сваю мову, сваё мастацтва, свае вялікія сілы, свой вялікі аптымізм, сваю працавітасць і здольнасць. Гэтыя народныя якасці яшчэ больш расцвілі і ўдасканаліліся ў эпоху, якая з'яўляецца эпохай вялікай волі чалавека. «Просты чалавек» стаў вялікім чалавекам у вялікай дзяржаве. Слава былых каранаваных заканадаўцаў меркне перад славай «простага чалавека», які ў нас з дзяржаўнай трыбуны выражае волю народа. Былыя каранаваныя заканадаўцы будавалі свае дзяржаўныя акты на народных касцях. Наша савецкая дзяржава мае за сваю аснову чалавечае шчасце.

12 лістапада 1939 года на Унечарговай Трэцяй Сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі адзін момант быў асабліва велічным, поўным асабліва вялікага сэнсу. Гэты момант астанецца назаўсёды ў памяці. На дзяржаўную трыбуну ў вялікай зале Дома ўрада БССР узышоў «просты чалавек». Гэта — выбраннік народа Заходняй Беларусі і галоўны дакладчык на Сесіі — селянін вёскі Гулі, Слабадской воласці, Вілейскай вобласці — Малевіч. Менш як два месяцы таму назад гэты чалавек быў бяспраўны і няшчасны — ён быў падданы спрадвеку ненавіснай нашаму народу польскай панскай дзяржавы. Цяпер ён прыехаў перадаць Сесіі просьбу ўсяго народа Заходняй Беларусі прыняць Заходнюю Бела-

русь у састаў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Як слаўна і горда гучала з яго вуснаў беларуская мова, і асабліва ў гэтым месцы і ў гэты вялікі гістарычны момант, на вялікім сходзе Беларускага парламента, на сходзе дзеячаў Беларускай Сацыялістычнай Дзяржавы! Мы стараліся ўгледзецца ў рысы твару гэтага чалавека, якому народ даверыў вялікую сваю справу. Якая веліч у гэтым слаўным твары!

Бурная авацыя ўсёй залы рванулася насустрач яго словам. Выдатныя людзі рэспублікі, яе дзяржаўныя дзеячы — члены Вярхоўнага Савета Беларусі — уся зала ўстала з сваіх месц. Бурная авацыя, крыкі «ўра», радаснае захапленне ніяк не маглі заціхнуць. Стаялі каля сваіх месц военачальнікі Чырвонай Арміі, якая нядаўна вызваліла Заходнюю Беларусь, стаялі лепшыя работнікі сацыялістычных палёў, сацыялістычных фабрык і заводаў, стаялі дзеячы савецкай навукі і мастацтва — члены савецкага парламента. Крыкі «ўра», нястрымны гром апладысментаў! І перад усімі на трыбуне — гэты, дарэчы, яшчэ «просты чалавек», які ў момант вырастае ў вялікую фігуру ў дзяржаве.

— Ад імені народа Заходняй Беларусі я прашу прыняць Заходнюю Беларусь у састаў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі,— гаворыць ён.

Авацыя ўсёй залыператвараецца ў нястрымную стыхію.

Стыхія бушуе з новай сілай. Чалавек на трыбуне горда ўзнімае галаву. Бляск яго вачэй робіцца магутным. Дзесьці на векі вечныя ў небыцці Рыдз-Сміглы і Масціцкія, якія не давалі гэтаму чалавеку чалавекам звацца. Чалавек назваўся чалавекам! Просты чалавек стаў дзяржаўным дзеячам! Народ лікуе! Шчасце і радасць! Вялікі момант! Так, сам народ вырашае свой лёс!

# МАЕ ТВОРЧЫЯ ПЛАНЫ НА 1940 ГОД

У 1939 годзе адбылася ў жыцці беларускага народа вялікая падзея, якая мае непасрэднае дачыненне да нашай літаратуры. Гэта — з'яднанне ўсяго беларускага народа ў адзінай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы. Мы ўсе марылі аб той часіне, калі на заходняй беларускай тэрыторыі згіне навекі панаванне польскага панства. Але са смуткам думалася: гэта будзе праз доўгі час, можа пройдзе многа дзесяткаў год, пакуль гэта здзейсніцца.

У мінулым 1939 годзе я працаваў над раманам аб жыцці дзвюх родных сясцёр. Адна жыла ў Савецкай Беларусі, а другая ў Заходняй Беларусі. Паводле майго замыслу, кніга павінна была закончыцца тым, што старэйшая сястра з Заходняй Беларусі, пасля гібелі яе сям'і (да гібелі лагічна і заканамерна давёў сям'ю лад польскай панскай дзяржавы), ідзе ў бальшавіцкае падполле, дзе ёй, як я думаў, прыйдзецца доўгія гады змагацца за вызваленне свайго народа. Гістарычныя падзеі адбыліся хутчэй чым думалася. І гэта дало новы змест маёй кнізе. Гераіня рамана, заходнебеларуская сястра, становіцца членам Народнага Сабрання, якое ўстанавіла ў Заходняй Беларусі Савецкую ўладу.

Над заканчэннем гэтага рамана я буду працаваць у пачатку новага, 1940 года. Пасля гэтага буду працаваць над раманам «Вялікае выгнанне» — аб імперыялістычнай вайне і падрыхтоўцы Кастрычніцкай рэвалюцыі. Над раманам гэтым я ўжо працаваў ў мінулыя гады. Апроч таго, у планах маёй працы на 1940 год ёсць п'еса на тэму аб вызваленні Заходняй Беларусі з-пад польскага прыгнёту.

Таксама мяркую скончыць у гэтым годзе пачатую яшчэ ў 1938 годзе крытычную працу аб «Новай зямлі» Якуба Коласа — аб гэтым найвыдатнейшым творы нашай літаратуры, які, на маю думку, яшчэ не быў правільна ацэнен.

# АБ ЭДУАРДУ САМУЙЛЁНКУ

Прайшоў год з дня смерці Эдуарда Самуйлёнка, і да жудасці цяжка аб гэтым думаць. Час — найлепшы доктар, але год — занадта малы час, каб залячыць смутак аб дарагім і выдатным чалавеку. І яшчэ быццам чакаеш, што прыйдзе ён і, са звыклай сваёй ноткай жарту, скажа:

— Здароў, стары, ну, што парабляеш? А ведаеш, каб яны гарэлі, з маёй галавы не вылазяць мае землякі. Нават аднаго я сніў.

Яго «землякі» — гэта тыпы, якія ён калі-небудзь бачыў у жыцці, якія пэўнымі сваімі рысамі назаўсёды засталіся ў яго памяці. Тут былі і сапраўдныя землякі, сяляне з Полаччыны, але многа было і людзей з іншых мясцовасцей, дзе прыходзілася іх бачыць. Многа было ленінградцаў (у гэтым горадзе Эдуард Самуйлёнак жыў некалькі год у часы свайго маленства). Ён падоўгу, бывала, расказваў аб гэтых сваіх «земляках», і з выразу яго твару, і з тону слоў можна было бачыць, што да рэальных рысаў жывога чалавека, якога ён ведае, усё больш і больш дадаецца фантазіі расказчыка і... тут пачынаецца ўжо творчасць. Смешная рыса вырастае ў непамерны камізм, звычайная непрыемнасць ператвараецца ў вялікае гора. Так умеў ён рысаваць карціны людскіх спраў.

Аднойчы ён сказаў:

— Адна толькі вёска, дзе я нарадзіўся і вырас, можа даць тыпаў на паўсотню раманаў. Ты не палохайся, што гэта з адной вёскі і раманы могуць выйсці аднародныя сваім матэрыялам. Перш за ўсё, гэта чалавечыя тыпы, якія можна ставіць у розныя ўмовы і сітуацыі.

Ён насіў у сабе вялікія магчымасці, гэта быў сапраўдны талент. Гэта быў інжынер, які глядзіць на кавалак металу і думае аб тых магчымасцях, якія затоены ў гэтым кавалку. У фантазіі інжынера ўстаюць машыны і прылады, што будуць зроблены з металу. Малады пісьменнік думаў аб тых карцінах жыцця, якія ён нарысуе ў сваіх раманах.

Творчыя планы Эдуарда Самуйлёнка былі вельмі шырокія, і ў гэтых планах ён перш за ўсё быў рэалістам. Яго, напрыклад, цікавіў тып селяніна, які некалькі год упарта

не хацеў ісці ў калгас, але жыў побач з калгасам, у роднай яму вёсцы, і з дня ў дзень наглядаў усё, што рабілася ў калгасе. Ён сам таго не заўважаў, што душой сваёй даўно ўжо стаў калгаснікам. Яму вельмі добра былі відны тыя непаладкі, што былі ў калгасе. Іх ён заўважаў, можа, лепш, як хто іншы. І, нарэшце, ён не вытрымаў. Сумленне сказала яму, што ён павінен ісці ў калгас, каб навесці там сапраўдныя парадкі. Эдуард Самуйлёнак расказваў пра гэтага чалавека, які сапраўды вельмі многа карысці прынёс калгасу. Ён гаварыў, што гэты тып, ці, як ён казаў, «гэты мой зямляк», цікавіў яго як тып «звычайнага чалавека».

— Вось тып, на аснове якога я ствару вобраз савецкага патрыёта. Часамі чалавек быццам бы чым-небудзь і незадаволен, нешта бурчыць сабе пад нос, а калі прыйдзецца да справы,— ён выявіцца як сапраўдны патрыёт радзімы. І за яе аддасць жыццё.

У Эдуарда Самуйлёнка гэта былі самыя першапачатковыя абрысы аднаго з тых твораў, якія ён меркаваў напісаць. Тут яшчэ не было канкрэтных раманных сітуацый, быў толькі пачатак ідэйнага замыслу, які ўзнік тады, калі пісьменнік пазнаёміўся дзесьці на Полаччыне з успамянутым вышэй калгаснікам.

Аб сваіх творчых планах на самы бліжэйшы час Эдуард Самуйлёнак, незадоўга да сваёй смерці, так пісаў: «Гэты год — найбольш прадукцыйны ў маёй творчасці. У сакавіку я скончыў работу над першай кнігай рамана «Будучыня». Зараз заканчваю п'есу «Пагібель воўка», прызначаную для Дзяржаўнага драматычнага тэатра. Яшчэ ў гэтым годзе мяркую распачаць работу над сцэнарыем для кінастудыі «Савецкая Беларусь».

Але мы ўсе добра ведалі, што Эдуард меркаваў неўзабаве брацца за другую кнігу рамана «Будучыня», а пасля гэтага,— часта казаў ён,— будуць раманы, дзе будуць дзейнічаць «мае землякі». Заўчасная смерць не дала здзейсніцца гэтым планам. Раман «Будучыня» ён пісаў ужо хворым. Ён жыў тады ў Пухавічах, ён прыехаў сюды, каб, як сам казаў, «застацца аднаму са сваім раманам». Ужо тады ён вельмі хутка стамляўся і не мог падоўгу сядзець за працай. А п'есу «Пагібель воўка» ён пісаў ужо вельмі і вельмі хворым. Ён спяшаўся чым найхутчэй давесці да канца працу над п'есай, быццам бы адчуваючы блізкую смерць. Аднак ён бадзёрыўся да самага канца. Звыклы яму гумар не пакідаў яго.

У яго былі планы і яшчэ на адну п'есу. Апошнімі гадамі ён усё больш і больш уваходзіў у сферу сваіх літаратурных замыслаў,— так прыйшла яго творчая спеласць і сталасць. Гэта быў талент, які многа зрабіў бы для нашай літаратуры.

Ужо зусім хворы, ён не пакідаў працы бадай да самай смерці. І «Будучыню» і «Пагібель воўка» ён напісаў, перамагаючы хваробу. Гэта быў высокі гераізм, варты таго, каб яму наследаваць.

У жыцці ён цікавіўся ўсім. Запас ведаў у яго быў вялікі. Як сапраўдны знаўца рэчаў, ён мог гаварыць і аб раслінах, і аб звярах, і аб гатунках глебы, і аб мінулых гістарычных падзеях, і аб якасцях тканін. Прыроду ён любіў вельмі моцна. Перад акном яго кватэры расло некалькі маладых садовых дрэў. Яго заўсёды радаваў гэты кавалачак прыроды ў горадзе. Ён любіў расказваць аб прыродзе Палаччыны — мясцовасці, дзе ён нарадзіўся і вырас. Адчуванне хараства прыроды клала свой след і на яго творчасць. Цудоўнае яго апавяданне «Паляўнічае шчасце» напісана з такім адчуваннем прыроды, што ўсё яно гучыць, як музыка зімы ў полі і ў лесе. Успомнім ноч, снег і лес, калі герой апавядання начуе ў лесе, каб злавіць звера.

Вялікае замілаванне да «простых савецкіх людзей» гучыць ва ўсёй яго творчасці. З якой шчырасцю ён выпісваў вобразы калгаснікаў у сваіх апавяданнях і ў п'есе «Пагібель воўка». Чалавек чыстага сумлення і высокай прынцыповасці — вось якім рысуецца мне вобраз Эдуарда Самуйлёнка — савецкага грамадзяніна, пісьменніка.

Светлая памяць аб табе, дарагі і любы Эдуард, ніколі не згасне ў сэрцы!

# ТВОРЧАЯ ЎДАЧА ТЭАТРА

Зусім натуральна, што нашы драматургі, працуючы над стварэннем у драматургіі вобраза Леніна, пачыналі працу як бы нясмела, першыя іх крокі ў гэтым кірунку мелі характар спробы, хоць часта і даволі ўдалай. І гэта не дзіва. Стварыць у літаратуры вобраз Леніна, чалавека, у якім умяшчаецца ўсё чалавецтва,— гэта задача, вартая такога гіганта літаратуры, як Леў Талстой.

Першай удалаю спробаю стварыць у драматургіі вобраз Леніна была п'еса М. Пагодзіна «Чалавек з ружжом». Там толькі эпізадычна з'яўляўся Ленін. «Крамлёўскія куранты» — гэта ўжо вельмі значны крок наперад у справе стварэння вобраза Леніна. Тут дадзен не статычны момант. Тут мы пачынаем адчуваць жывыя рысы душы непараўнанага ні з кім чалавека.

Паводле прызнання самога драматурга М. Пагодзіна «Крамлёўскія куранты» — гэта п'еса, дзе аўтар імкнуўся даць толькі адзін момант з жыцця Леніна. Гэта праўда, але гэты «момант» ужо выводзіць нас за межы ранейшай статычнасці.

Мы бачым Леніна ўначы ў садзе пры Крамлёўскай сцяне. Зорная ноч. З пасяджэння, якое вельмі позна зацягнулася, Ленін выйшаў сюды. Ён ходзіць паўз сцяну і марыць. У яго марах і думках — і зорная ноч, і змучаная войнамі і разрухай Расія, і многамільённы народ, і электрыфікацыя краіны. Тут жа ён гаворыць з трамвайнымі рамонтнымі рабочымі; тут жа ён гаворыць і з жабрачкай, пасля гаворкі з якой так сказаў:

— Гэта ж жах! Нават жабракі жывуць горш, чым да вайны. Па вёсках людзі жывуць пры лучыне... І далей: «Я даўно размышляю аб электрыфікацыі Расіі...» А перад гэтым Ленін гаварыў з персанажам п'есы Рыбаковым аб каханні:

— А добра кахаць? Пачуццё цудоўнае!

Вось таму «Крамлёўскія куранты» і здаюцца мне новай драматургічнай з'явай у справе стварэння вобраза Леніна, што тут драматург працуе ў плане раскрыцця мнагаграннасці асобы Леніна.

Наша драматургія створыць вобраз Леніна з такой сілай, што перад намі зазззяе асоба неўміручага генія ўсімі гранямі сваёй усеабдымнай душы. І гэта справа можа нават недалёкай будучыні. «Крамлёўскія куранты» ёсць цікавы вопыт у распрацоўцы «вялікай ленінскай тэмы» ў драматургіі.

П'еса М. Пагодзіна цікавая для тэатра тым, што тут ёсць многа жывых рысаў. Ужо і роля Леніна тут для акцёра, як «жывая роля», з усімі адзнакамі жывога характару, не гаворачы ўжо аб такіх ролях, як, скажам, Забелін, Рыбакоў...

«Крамлёўскія куранты» ў Віцебскім драматычным тэатры вельмі цікавы спектакль. Гэта адзін з тых яркіх спектакляў, дзе раскрываюцца вялікія творчыя магчымасці тэатра. Народны артыст БССР Малчанаў іграе ролю Леніна на ўсю сілу свайго таленту. Бачачы і слухаючы Леніна ў выкананні Малчанава, мы верым у тое, што сапраўды была такая зорная ноч, калі Ленін выйшаў з Крамля ў сад са сваім цяжкім раздум'ем аб тым, у якую беднасць увяла Расію вайна, якія пакуты перажыў народ. Мы верым, што ў гэту ноч Ленін пад яснымі зорамі позняй ночы марыў аб вялікай будучыні краіны і народа. Мы верым, што ў адну з такіх мінут ленінская мара аб электрыфікацыі набывала рэальныя рысы канкрэтнай справы, гатовай ужо да свайго выразнага ажыццяўлення.

Бачачы ў першай дзеі Малчанава ў ролі Леніна ў той момант, калі ён жартуе з сялянскімі дзецьмі, мы верым у гэту рысу ленінскага характару. І з кожнай мінутай у нас усё больш вырастае веданне таго, колькі аптымізму было ў ленінскай душы. Гэтаму аптымізму не было граніц. І разам з тым мы думаем — як многа слаўнага гумару меў Ленін у быту, ва ўзаемаадносінах з навакольнымі людзьмі. А пасля, у сцэне з англійскім пісьменнікам, мы думаем аб тым, як гэта бытавы гумар вырастаў у гумар і сарказм філасофскі. І так, праз гэту адну рысу мы выразна пачынаем уяўляць сабе, як слаўны, добры чалавек, які як магнітам цягне да сябе ўсё лепшае і яснае, што ёсць у людзях, раптам паказваецца перад намі новай гранню сваёй натуры: мы бачым вялікага дзяржаўнага дзеяча з ясным розумам, вялікай упэўненасцю і непахіснай воляй. І ўсе гэтыя рысы, пачынаючы з мяккага бытавога гумару перад дзецьмі і канчаючы суровым сарказмам перад самаўпэўненым англічанінам, які з'явіўся на прыём к Леніну як ненавіс-

нік ленінскай справы,— усе гэтыя рысы зліваюцца ў адно гарманічнае цэлае вялікай натуры.

Гледзячы «Крамлёўскія куранты», мы ва ўсё гэта верым, а значыць, акцёр Малчанаў у гэтай ролі яшчэ раз паказаў свой выдатны талент і сваю акцёрскую культуру. Так, Малчанаў выдатны артыст.

Другой яркай роляй, бліскуча праведзенай акцёрам, ёсць роля інжынера Забеліна. Заслужаны артыст рэспублікі Сяргейчык выконвае яе таксама з вялікім майстэрствам. Гэта роля збітага з тропу інтэлігента, які варожа спаткаў рэвалюцыю, як відаць, таму, што нічога ў ёй не зразумеў. Гэты буйны спецыяліст электрыфікацыі займаецца тым, што прадае запалкі на вуліцы. Ён бачыць разруху, ён бачыць, што замоўклі крамлёўскія куранты, і яму ўяўляецца, што прыйшоў канец усёй культуры. Гэта не мысліцель, які розумам дойдзе да разумення сэнсу рэчаў, гэта, тым больш, не той чырвонаармеец, які паблізу яго на вуліцы купляе ў гандляркі ляльку, каб хоць што-небудзь прывезці «з вайны» сваёй малой дачушцы і які гаворыць Забеліну проста і адкрыта, што яго за контррэвалюцыйныя словы трэба «да сценкі прысланіць». Забелін толькі вузкі спецыяліст, вучоны майстар электрычнасці.

У спектаклі, на вачах у публікі, адбываецца перватварэнне гэтага чалавека, калі сам Ленін даручае яму пачынаць у самых канкрэтных формах справу электрыфікацыі. Гэта правобраз той тэхнічнай інтэлігенцыі, якую поспехі рэвалюцыі і сацыялізма перацягнулі на свой бок і якая пасля перапоўнілася энтузіязмам вялікага будаўніцтва.

Гэта вельмі цяжкая роля. Яна ўся ў супярэчнасцях. Ёсць мясціны ў ёй, дзе глядач павінен больш адчуваць, чым бачыць і чуць. Чалавек, які толькі займаўся тым, што выказваў сваё нездаволенне рэвалюцыяй, спачатку ашаламіўся, а пасля бярэцца за справу, але не ведае, з чаго пачынаць, бо ўсё трэба рабіць на пустым месцы. І вось тады да яго прыходзіць на дапамогу камуніст-матрос Рыбакоў.

Вобраз Забеліна, можа, не такі яркі ў тэксце п'есы, у выкананні яго Сяргейчыкам на сцэне вырастае ў адзін з самых важных персанажаў спектакля. Талент Сяргейчыка выступае тут з вялікай сілай.

Інжынер Забелін выклікаецца ў Крэмль як спецыяліст па электрычнасці. У кабінеце Леніна з ім гавораць Ленін, Сталін і Дзяржынскі. Ідзе гаворка аб тым, дзе

можна будаваць у Расіі вялікія электрастанцыі. Вобраз Сталіна не выпісан у п'есе ў такім плане, як вобраз Леніна. Дадзен толькі адзін статычны момант. Гэта акалічнасць — скупы тэкст ролі — ставіла перад акцёрам многа цяжкасцей, калі не гаварыць ужо аб тым, якая вялікая адказнасць ускладаецца на акцёра, якому выпала працаваць над вобразам Сталіна. Народны артыст БССР Ільінскі цікава правёў гэту ролю, ён вельмі добра справіўся з пастаўленай перад ім задачай. Ігра Ільінскага поўна шчырасці.

Спектакль «Крамлёўскія куранты» ёсць творчы поспех, творчая ўдача Віцебскага драматычнага тэатра. Пры жаданні, можа, тут і можна знайсці якія-небудзь паасобныя дробныя недахопы, але ўсё пакрываецца агульным тонам спектакля, усім яго гучаннем. Яшчэ раз трэба сказаць — Віцебскі драматычны тэатр мае ў сабе вялікія творчыя магчымасці.

# ДУМКІ І ІМКНЕННІ НАРОДА

У творчасці Янкі Купалы сышліся і знайшлі сваё выражэнне надзеі, імкненні і парывы беларускага народа. Усё тое, што мы называем цудоўным жыццём народа, раскрываецца ў паэзіі вялікага паэта, паэта народнага ў самым поўным і непасрэдным сэнсе гэтага слова.

Да рэвалюцыі, калі беларускі народ быў у цяжкай сацыяльнай і нацыянальнай няволі, паэт убіраў у сябе імкненні і парывы душы народа і ператвараў іх у высокую якасць сваёй паэзіі. Яе ён аддаваў народу, клічучы яго да змагання за чалавечыя правы — «людзьмі звацца» і ісці «да сонца і да зор». Бунтарства супроць прыгнятальнікаў было тады магутным матывам паэзіі Янкі Купалы. І ў гэтым было адлюстраванне душы народа, які ніколі не мірыўся з няволяй.

Беларускі народ стварыў сабе шчаслівае жыццё ў магутнай сям'і шматлікіх савецкіх народаў. І Янка Купала, заўсёды будучы з народам, выражае душу народа сваёй новай паэзіяй.

Беларускі народ разам з усімі іншымі народамі Савецкага Саюза творыць свае нацыянальныя багацці для агульначалавечай культуры. І нацыянальная глыбіня паэзіі Янкі Купалы ёсць той элемент, праз які яна робіцца здабыткам не толькі беларускага народа. Нацыянальная форма паэзіі Янкі Купалы надае ёй сілу для выражэння думак беларускага народа, а гэтыя думкі ёсць разам з тым і думкі ўсіх савецкіх народаў. Мы ведаем вершы Янкі Купалы, што ў перакладзе на рускую мову друкаваліся ў «Правде». Яны хутка сталі любімымі-песнямі ўкраінскага народа, які пераклаў іх на сваю родную мову. Змест гэтай паэзіі глыбока інтэрнацыянальны.

Асабліва вялікая заслуга Янкі Купалы ў справе фармавання беларускай літаратурнай мовы.

Янка Купала і Якуб Колас сталі пачынальнікамі беларускай літаратурнай мовы, той мовы, якая ляжыць у аснове сучаснай беларускай літаратуры. Ужо з самых першых вершаў мова паэзіі Купалы загучала як мова вялікага народа, які мае сваё законнае нацыянальнае жыц-

цё; з самага пачатку мова вершаў Купалы загучала ўсёй сілай сваёй народнасці. Хіба словы першага купалаўскага верша «... Бо я мужык, дурны мужык...» не гучаць суровай магутнай ірoніяй чалавека, які поўны аптымізму і ведае: «я буду жыць, бо я мужык!». У тым і асаблівасць вялікага паэта, што ён заўсёды тонка адчувае душу народа і выдатна перадае яе ў сваёй паэзіі. Самую тонкую лірыку, самыя найтанчэйшыя адценні перажыванняў чалавечай душы, таксама як і выражэнні самага бурнага праяўлення народнага гневу або радасці, выразіў Янка Купала мовай таго ж самага «простага народа», аб якім і ад імені якога гаварыў. Багацце нацыянальнай формы і поўная яе злітнасць са зместам, які выводзіць літаратуру за вузка нацыянальныя межы,— гэта характэрна і для Янкі Купалы, і для Якуба Коласа.

Паклаўшы ў аснову сваёй творчасці ўсё тое, што мы разумеем пад словам «народнасць», Янка Купала стаў вялікім паэтам. Творачы сваё паэтычнае слова з мовы народнай, паэт узводзіў родную мову ў новую якасць, у якасць мовы літаратурнай. Збіраючы моўны скарб, паэт нават самыя «этнаграфічныя» і «мясцовыя» элементы яго ператвараў у новае гучанне.

Шчаслівы паэт, які, прайшоўшы такі вялікі і складаны шлях, бачыць такія багатыя вынікі сваёй дзейнасці. Шчаслівы паэт, які разам са сваім народам прыйшоў да «сонца і да зор», які бачыць радасць свайго народа і сваім паэтычным словам гаворыць аб гэтай радасці.

# АЎТАБІЯГРАФІЯ

Я радзіўся ў 1900 годзе ў маёнтку Боркі, на Случчыне (цяпер Чырвонаслабодскага раёна), дзе мой бацька служыў парабкам у пана Вайніловіча. Ён пайшоў у парабкі таму, што меў усяго адну дзесяціну зямлі, ды і тая была падзелена напалам з яго бацькам, маім дзедам. Жыць з сям'ёй на паўдзесяціне зямлі не было як. Калі мне споўнілася восем год, бацькі мае пачалі думаць пра тое, што добра было б, каб я навучаўся як-небудзь грамаце. Каля маёнтка Борак школ блізкіх не было, і з гэтай прычыны бацька кінуў службу і пераехаў на сваю радзіму ў мястэчка Цімкавічы, Капыльскага раёна. Але як пражыць на паўдзесяціне зямлі? Ні каня, ні каровы ў нас не было — не было за што купіць і на чым трымаць. Бацька ведаў плотніцкае рамясло і пачаў хадзіць на падзённую працу з сякераю. Гэтым ён займаўся да 1920 г., калі пасля адыходу палякаў і прыходу Чырвонай Арміі нам далі зямлю паводле ліку душ у сям'і. З 1930 г., з моманту масавай калектывізацыі, бацька мой стаў калгаснікам. Ён памёр зімой 1938 г. на 73-ім годзе жыцця.

Маці памерла ў 1921 г. ад сухотаў, на 45-ым годзе жыцця. Нас было пяцёра чалавек дзяцей. Адзін брат мой настаўнік, другі — тэхнік-меліяратар, адна сястра фельчарыца, другая — калгасніца. Я скончыў Цімкаўскае народнае вучылішча, пасля чаго рыхтаваўся да паступлення ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, у якую паступіў у 1916 г., калі мне было 16 год. У настаўніцкую семінарыю я пайшоў таму, што гэта была найбольш зручная школа для тых, хто не меў за што вучыцца: там не бралі платы за навуку, а лепшым вучням, якія добра вучыліся, давалі стыпендыю. Закончыць асвету ў настаўніцкай семінарыі мне не ўдалося з той прычыны, што зімой 1919 г. палякі закрылі семінарыю, а пасля адыходу палякаў Нясвіж застаўся на польскай тэрыторыі.

З лета 1920 г. (з прыходам Чырвонай Арміі) я працаваў у Цімкавіцкім валасным рэўкоме, у ваенным аддзеле, а пасля быў пераведзен на працу ў Слуцкі павятовы ваенны камісарыят на канцылярскую работу.

Звольніўся з працы ў ваенкамаце я ўлетку 1922 г. Увосень 1923 г. я паступіў у Мінскі універсітэт на літаратурнае аддзяленне педагагічнага факультэта. У гэты ж час я друкаваў свае творы ў мінскіх газетах. Першым, а значыцца, і самым важным маім літаратурным настаўнікам быў Змітрок Бядуля. Ён многа зрабіў для мяне сваімі парадамі і памог мне, тады маладому і пачынаючаму пісьменніку, стаць на творчую дарогу.

У гэты ж час я пачаў працаваць літаратурным работнікам у газеце «Беларуская вёска», і тады ж у мяне з'явіліся першыя адзнакі туберкулёза. Я быў пасланы ў Крым на лячэнне. Мне ўдалося вылечыцца.

Прайшоў я два курсы універсітэта. Пакінуў працаваць у рэдакцыі ў 1928 г. З таго часу займаюся толькі літаратурнай працай. За гады маёй літаратурнай працы мною напісана звыш 15 кніг — сюды ўваходзяць раманы, аповесці і многа апавяданняў. Апрача таго, мною напісана не мала артыкулаў на літаратурныя тэмы. Найбольш спелымі з маіх твораў я лічу п'есу «Бацькаўшчына», раманы «Трэцяе пакаленне», «Люба Лук'янская», «Трыццаць год» і апавяданні апошніх год. Цяпер я заканчваю раман «Судны дзень» і адначасова працую над п'есай на тэму аб вызваленні з-пад панска-польскага панавання народаў Заходняй Беларусі — на тэму аб вялікіх гістарычных падзеях восені 1939 г. Пасля сканчэння гэтых твораў буду працаваць над сканчэннем рамана «Вялікае выгнанне», які ў большай частцы ўжо напісан.

Раманы «Трэцяе пакаленне», «Люба Лук'янская», «Судны дзень», «Вялікае выгнанне» ўваходзяць у задуманы мною цыкл раманаў, у якіх я імкнуўся ў меру маіх сіл і здольнасцей нарысаваць у мастацкіх вобразах гісторыю беларускага народа за часы ад знішчэння паншчыны і да нашых дзён — эпоха сацыялізма і рух народаў да камунізма. Самымі важнымі, можна сказаць, цэнтральнымі, момантамі ва ўсім гэтым цыкле раманаў будуць: першая імперыялістычная вайна, падрыхтоўка рэвалюцыі, Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя і грамадзянская вайна да моманту яе заканчэння (трылогія «Вялікае выгнанне»); стварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і ператварэнне жыцця ў ёй на сацыялістычны лад, выкарчоўванне рэштак капіталізму з свядомасці чалавека, панаванне над Заходняй Беларуссю панскай Польшчы, вызваленне Заходняй Беларусі і з'яд-

нанне навекі беларускага народа ў адзінай Савецкай Беларускай рэспубліцы (раманы «Судны дзень», «Трэцяе пакаленне», «Люба Лук'янская» і яшчэ два задуманыя мною раманы).

Гэта частка майго замыслу, на выкананне якога спатрэбіцца многа год пільнай і ўпартай працы. Я цвёрда спадзяюся, што мне ўдасца выканаць гэту сваю працу. Я ўспамінаю жыццё сваіх бацькоў і сваё маленства. Гэта быў жудасны час, калі кавалак хлеба і палатняная рубашка — адна на год, здаваліся шчасцем. Так жылі ўсе тыя людзі, сярод якіх я вырас і выгадаваўся. Так жыў народ. Бацькі мае цьмяна марылі аб нейкай невядомай ім лепшай долі для сваіх дзяцей. Я стаў пісьменнікам. Больш таго, я пішу на мове тых простых людзей, сярод якіх і вырас. Гэтыя людзі сталі шчаслівымі на зямлі, іх мова стала дзяржаўнай мовай. Я пішу аб гэтых людзях у сваіх кнігах.

Вялікае шчасце для пісьменніка пісаць аб народзе і яго шчасці і самому быць шчаслівым разам з народам. За гэта няспынна гарыць у душы шчырая і сардэчная ўдзячнасць партыі вялікага Леніна.

# «СЕНТЫМЕНТАЛЬНЫ ВАЛЬС»

П'еса О. Літоўскага «Сентыментальны вальс» ёсць своеасаблівае лірычнае апавяданне ў драматычнай форме аб лёсе адной сям'і.

У першыя годы рэвалюцыі ў акупіраваным белагвардзейцамі прыморскім невялікім горадзе вядзе падпольную бальшавіцкую работу наборшчык Віктар Лапін. У яго ёсць жонка Наташа і друг Мікалай Мельгуноў. Усе яны маладыя людзі. Абстаноўка для падпольнай работы была вельмі небяспечная і трывожная, і аднойчы Віктар Лапін сказаў свайму другу Мікалаю Мельгунову, што ён даручае сваю цяжарную Наташу яму, калі адбудзецца штонебудзь страшнае. І гэтае «страшнае» неўзабаве здарылася. Віктара арыштавалі белыя і, як пасля гаварылі, расстралялі. Мікалай Мельгуноў стаў клапаціцца аб Наташы і, калі ў яе нарадзіўся сын, ён яго ўсынавіў. Хлопчыка назвалі Віктарам, у памяць аб яго загінуўшым бацьку. Такім чынам, склалася новая сям'я — Мікалай, Наташа і Віктар.

Прайшло 19 год. Віктар вырас і стаў музыкантам. Ён лічыць сваім бацькам Мікалая Мельгунова, а аб Віктару Лапіне ведае з расказаў як аб колішнім другу сваіх бацькоў.

А тым часам Віктар Лапін жыве. Ён не памёр ад раны ў часе расстрэлу, а выратаваўся і не можа знайсці сваёй сям'і, галоўным чынам таму, што пасля ўсяго перажытага некаторыя моманты яго жыцця сцьмелі ў яго памяці, нават зніклі з яе. Ён не можа іх успомніць; замест іх у памяці — пустата. Ён жыве адзін, стаў выдатным хімікам (а хіміяй ён займаўся яшчэ ў падполлі) і працуе на авіязаводзе. Мікалай жа Мельгуноў стаў лётчыкам.

Ад работніцы авіязавода Сцяпанавай адзінокі Віктар Лапін пачуў знаёмую мелодыю: яна напявала «Сентыментальны вальс» Чайкоўскага. І ён пачаў успамінаць былое. Гэты вальс калісьці грала яму яго Наташа, гэтая музыка была ў іх нечым накшталт «сямейнай мелодыі». Ён успомніў Наташу. Акалічнасці справы сышліся так, што ён знайшоў сваю сям'ю. Але ён убачыў, што яго сын,

якога ён ніколі не ведаў, малады шчаслівы юнак, лічыць сваім бацькам Мельгунова і што ў гэтай сям'і пануе поўнае шчасце. І вось ён, Наташа і Мікалай у час сустрэчы вырашаюць — нічога не гаварыць сыну Віктару, каб не трывожыць яго шчаслівага юнацтва. Віктар Лапін бярэ сабе толькі на памяць партрэт свайго сына.

Вось беглы пералік галоўных пунктаў усяго расказа. Як бачым, перад гледачом праходзіць многа год жыцця герояў п'есы, а само сабою ясна, што паказаць у спектаклі хоць бы вузлавыя моманты гэтага жыцця ў іх развіцці нялёгка, калі не сказаць больш — немагчыма. Таму аўтар п'есы і выбраў форму апавядання. Перад кожным актам выступае перад публікай акцёр з словам «ад аўтара» і тлумачыць, што гэта за людзі на сцэне, колькі часу прайшло з моманту першага паяўлення іх перад гледачом. І вядома — у самым развіцці ўсёй дзеі, у жыцці герояў ёсць вялікія прабелы, мы можам толькі паверыць на слова, што ў той час адбывалася. Адсюль і палажэнне герояў перад намі — не ў іх беспераыпынным руху, а ў асобных, я сказаў бы, застылых момантах. Так, у другім акце, адразу пасля падняцця заслоны мы бачым Мікалая ўжо ў форме лётчыка і намнога пастарэлага, тады як у першым акце мы бачылі яго юнаком. Персанажы п'есы не маюць уздзеяння на падзеі, а толькі сцвярджаюць тое, што ёсць, як пэўны факт.

Адсюль паўстаюць цяжкасці для рэжысёра і акцёра. Паколькі героі толькі сцвярджаюць свае палажэнні, і прытым у атмасферы лірычнай прыўзнятасці, была вялікая небяспека ўпасці ў фальшывы тон, у тон не «сентыментальнага вальса», а прыкрай сентыментальнасці. І трэба было мець вялікае пачуццё меры і добры густ, каб вывесці акцёраў з гэтага плана. Гэта ўдалося ў асноўным рэжысёру Н. Б. Лойтару.

Заслужаны артыст рэспублікі Звездачотаў з вялікім тактам вядзе ролю Лапіна. Заўсёды ён стрыманы і скупы на слова і на жэст — нічога лішняга, нічога прыкрага. Ён зразумеў і замысел п'есы, і тэкст яе. Лірыку гэтай п'есы можна было б параўнаць з ціхім хваляваннем вады ля берага возера пасля таго, як на сярэдзіне возера вада ўзнялася бурнай кіпучай сцяной ад разрыву якога-небудзь гарматнага снарада. Адбыліся бурныя падзеі рэвалюцыі, і як водгук іх — усё тое, аб чым расказваецца ў п'есе.

З вялікім густам і з верным пачуццём выконвае ролю Наташы заслужаная артыстка рэспублікі М. Бялінская. У паасобных мясцінах ігра яе даходзіць да высокага драматычнага лірызму.

Асобна трэба адзначыць артыстку Радзялоўскую ў ролі Сцяпанавай. З эпізадычнай і тэкстуальна небагатай ролі Радзялоўская стварыла яркі вобраз.

У ролі рабочага авіязавода Каршунова выступае заслужаны артыст рэспублікі Іваноў. Роля і ігра яго пастаўлены ў плане лёгкага, жартаўлівага гумару.

Артыстка Мазалеўская вядзе сваю ролю ў бытавым плане, хоць, па-свойму, яна, можа быць, і права. Гэта роля пажылой, а ў астатніх дзеях зусім старой жанчыны Васілісы, друга сям'і. Роля бедная тэкстам і асабліва сцэнічнымі палажэннямі. У гэтай ролі, да некаторай ступені, ёсць элементы і рэзанёрства.

Нягледзячы, аднак, на лірызм, які сапраўды з'яўляецца асаблівасцю гэтага спектакля, ёсць у ім нейкі момант, нейкая незаўважная грань, дзе раптам пачынае гучаць нешта адваротнае лірыцы. Гэта асабліва выступае ў ролі Віктара-сына. Да некаторай ступені гэта гучыць і ў ролі Мікалая (апроч першай дзеі). Калі ў першай дзеі заслужанаму артысту рэспублікі Шэлегу трэба сапраўды іграць ролю, несці пэўныя і цікавыя ў сцэнічным сэнсе функцыі, то ва ўсіх астатніх дзеях яму трэба толькі быць у лётчыцкай форме і гаварыць час ад часу пэўныя рэплікі аб самалёце, аб музыцы. Калі Віця грае і пытае ў яго, ці добра, яму трэба сказаць, што добра, толькі праявіць пры гэтым больш жвавасці. Усё гэта ў атмасферы сямейнага шчасця, якое паказваецца гледачу бадай-што толькі праз падобныя рэплікі. Адсюль і салодкі выраз на твары, і пачынаецца штосьці, накшталт пастаралі. І артыст Шэлег робіцца не падобным да самога сябе ў першым акце, дзе ён сапраўды жыве на сцэне.

Віцю — 19 год. Ён вучыцца ў кансерваторыі, у ім выявіўся талент музыканта. Мы яго бачым толькі ў атмасферы музыкі і ў яго фразах: «Эй, як хораша жыць... якая ты сёння прыгожая, мама». К таму ж яшчэ яго выглажаны выгляд, усе фалдачкі яго гарнітура адпрасаваны акуратна, і заўсёды салодкая ўсмешка, якая, мусіць, павінна быць адзнакай таго, як яму хораша жыць. Ён «прабывае» ў атмасферы салодкіх гукаў, салодкіх фраз, і калі ён спіць у памежным пакоі, Мікалай гаворыць

Наташы: «Заграй... Толькі зусім ціха — Віця спіць». Пачынае здавацца, што гэты Віця жыве ў нейкай цяплічнай, ліманаднай атмасферы, што гэта фальшывы вобраз, што яму добра жывецца таму толькі, што яго кормяць нейкай салодкай кашай, што гэта выпешчаны мамін сынок, які зусім не ведае жыцця — сапраўднага, прыгожага сваім праўдзівым хараством. У гэты момант хочацца, каб на сцэну ўвайшла Васіліса, так, як яе грае Мазалеўская, і сваім суровым тонам, які выбіваецца з «плана спектакля», унесла нейкую новую ноту ў падобную сцэну. Гэта раптоўная і рэзкая рэакцыя на тыя моманты ў спектаклі, якія збіваюцца з узроўню сапраўднай лірычнасці. У такой атмасферы прыкрай саладкаватасцю гучаць словы Наташы да Мікалая: «Глядзіш на цябе і на Віцюшу — гэта такое шчасце — вас і вадой не разальеш».

Віктар-сын — гэта не роля артыста Фадзеева, які бывае моцны ў ролях іншага плана. Апрача таго, роля Віктара — гэта роля статычная, без развіцця і дынамікі, без супярэчнасцей, і іграць яе — нялёгкая задача.

Фальшывым, у дрэнным сэнсе слова, сентыментальным момантам у спектаклі кладзе канец Звездачотаў, паяўляючыся на сцэне. Ён узводзіць спектакль зноў на яго сапраўдны ўзровень.

У спектаклях, падобных гэтаму, трэба мець вялікае пачуццё меры і вялікае адчуванне тону ігры.

# МАЯ «ІРЫНКА»

Вызваленне народа Заходняй Беларусі з-пад прыгнёту польскага панства было вялікай гістарычнай справядлівасцю і неабходнасцю. Пераход Чырвонай Арміяй былой граніцы, якая рэзала жывое цела народа напалам, быў актам вялікай і глыбокай савецкай гуманнасці: вызвален народ з бяспраўя і гора, вызвалена сама чалавечая годнасць — чалавек стаў звацца чалавекам. Вось гэтыя думкі я і паклаў у аснову замыслу драмы «Ірынка».

Ірынка — беднае, няшчаснае дзіця. Ёй дзесяць год. Яна і яе сям'я дайшлі да такой мяжы ў сваім жыцці, за якой пачынаецца ўжо гібель. Бяздомная і бяспраўная, Ірынка можа, хіба, толькі бадзяцца па дарогах роднай зямлі, на якой пануюць акупанты: на якой яна вымушана адчуваць сябе, як сярод варожага і чужога ёй свету. Чырвоная Армія аддае ёй яе радзіму, дом, сям'ю, будучыню і чалавечае права на ўсё жыццё. Ірынка не толькі персанаж драмы, яна яшчэ як бы сімвал усяго лепшага, добрага і слаўнага, што жыве ў народзе, за што трэба змагацца, што трэба абараняць ад ворагаў народа, дзеля чаго Чырвоная Армія прынесла ў Заходнюю Беларусь ясныя прасторы жыцця на векі вечныя.

Другі персанаж драмы, другі вобраз, лёс якога развіваецца раўналежна з вобразам Ірынкі, гэта Юзя Тамашэўская, служанка асадніка Лямэнта. Гэта моцная натура. Яна імкнецца да шчасця, шукае і стараецца стварыць сабе радасць жыцця. Яна верыць, што існуе і жыве на свеце вялікая любоў, благародства чалавечых учынкаў, яна адчувае, што чалавек — стварэнне яснае, светлае, а не змрочнае і злое. Яна адчувае, што ў чалавека трэба верыць і чалавека трэба любіць. Але ў панскай Польшчы ўсе яе найлепшыя пачуцці і імкненні, яе пошукі шчасця тапталіся бруднымі нагамі тых, хто спрадвеку пісаў на сваім сцягу, што чалавек чалавеку воўк. Чырвоная Армія вызваляе і гэты вобраз для поўнай волі благародных імкненняў і радасці.

Ірынка і Юзя — канкрэтныя персанажы самога акта вызвалення, яны носьбіты замыслу драмы. Гэтыя два

вобразы ў апошніх сцэнах зліваюцца як бы ў адно цэлае.

Праца з Віцебскім беларускім драматычным тэатрам дала мне многа творчай радасці. І асабліва мне хочацца гэта сказаць аб маёй працы разам з пастаноўшчыкам «Ірынкі» заслужаным артыстам БССР Цімафеем Мікалаевічам Сяргейчыкам.

Ц. М. Сяргейчык — рэжысёр, які ў сваёй творчай працы мысліць нацыянальнымі вобразамі, які разумее і адчувае народнасць мастацтва, глыбока ведае быт і мову народа. Усё гэта дало яму магчымасць надаць спектаклю сапраўды нацыянальную форму.

Я высока цаню мастака Б. Малкіна, які аформіў спектакль з тонкім густам, у сапраўдных нацыянальных тонах, без якога б там ні было прыкрага бытавізму і этнаграфізму.

# ПРАЎДА АБ ЧАЛАВЕКУ

У спектаклі «На дне» пануе над усім адна вялікая рыса, якая падначальвае сабе ўсё, гэта — праўда, вялікая праўда жыцця, праўда чалавека, праўда аб чалавеку. Адсюль і самая глыбокая народнасць гэтага спектакля. І няма ніводнага моманту ў спектаклі, у які глядач не верыў бы. Ні на секунду не можа з'явіцца думка, што ты ў тэатры.

І калі пасля пачынаеш думаць аб спектаклі, перад табой паўстаюць паасобныя моманты творчасці гэтага найвыдатнейшага ў свеце тэатра. Іх адчуваеш, і ўзнікае пачуццё радасці ад таго, што ў нашай краіне існуе такое вялікае мастацтва.

Лука, Сацін, Барон, Насця, Бубноў, Кастылёў і ўсе іншыя — толькі такія яны былі ў жыцці. І гэтая праўда ёсць аснова вялікага тэатральнага мастацтва.

Толькі так мог гаварыць Лука — тып з простага рускага народа, толькі так ступаць нагамі, толькі такую мець хітрасць, толькі так цешыць сваёй «праўдай» ці «няпраўдай» другіх.

Думаецца і яшчэ аб адным: гледзячы спектакль «На дне», бачыш, як тэатр і мова народа ёсць адзін непадзельны маналіт. Магутная руская мова гучыць са сцэны Вялікага тэатра як найглыбейшае хараство. І яшчэ больш узнікае імкненняў працаваць у гэтым кірунку і ў нашым беларускім тэатры.

# ВЯЛІКАЯ ШКОЛА ДЛЯ ЎСІХ ТЭАТРАЎ

Спектакль МХАТа «На дне» пастаўлен многа год назад, і лік яго паказаў ужо ідзе на другую тысячу. Аб гэтым вялікім тэатральным тварэнні напісаны тамы доследаў — і ў нас, і за граніцай. Але такая ўжо асаблівасць усяго геніяльнага, што тэму яго вычарпаць нельга. Колькі б ні глядзеў гэты спектакль, ён абуджае ўсё новыя думкі, прымушае дзейнічаць і розум, і сэрца. Думаецца аб многім. Разам з усім іншым, разам з думкамі аб чалавеку, аб яго мінулай прыніжанасці і аб яго жывым і гордым жыцці, аб яго праўдзе і аб складаных працэсах жыцця, абуджаюцца думкі і аб самім тэатральным мастацтве.

Думаецца пра тое, што не перавышанае нікім мастацтва гэтага тэатра дасягаецца тым, што вялікія заснавальнікі яго і далейшыя ахавальнікі іх традыцый паклалі ў аснову свайго мастацтва праўду. Ні адзін жэст, ні адно слова, ні адна самая найдрабнейшая і найтанчэйшая інтанацыя слова не гучаць тут няпраўдзіва. Наадварот, чым танчэйшая дэталь,— такая тонкая, што яе адразу можна не заўважыць,— тым яна гучыць тут выразней за ўсё, так, каб яна дайшла да людзей і каб яе заўважылі. Лука гаворыць толькі так, як гаварылі яго жывыя прататыпы ў старым рускім жыцці.

Гэта не ёсць абстрактнае і прыблізнае падабенства. Гэта ёсць сама праўда, і яна ідзе ад праўды ўнутранай, той праўды, што з'яўляецца асабістай прыналежнасцю душы гэтага чалавека, нічым неўласцівым яму ён не можа раскрыць сваёй душы. Адгэтуль і пачынаецца неабходнасць зусім закончанага, а значыцца, і высокага майстэрства. І Сацін, і Насця, і Кастылёў, і Квашня, і Барон, і Актор, і Татарын, і ўсе, і ўсе іншыя — кожны з іх паказвае праўду сваёй душы толькі сам сабою, гэта значыцца толькі так, як гэта ён можа сам, індывідуальна паказаць самога сябе. Адсюль і няўхільная неабходнасць самай дакладнай дасканаласці слова з усімі інтанацыямі, самымі найтанчэйшымі, і з усімі ўласцівымі гэтаму слову ў гэты момант жэстамі, рухамі, выразамі твару і вачэй. А адсюль і магутная музыка рускай мовы са сцэны гэтага найвялікшага ў свеце тэатра.

Мова і тэатр! Нідзе так поўна, як са сцэны МХАТа, не гучыць тая ісціна, што тэатр і мова народа ёсць адзін непадзельны маналіт. Таксама, як і класічная літаратура, тэатр збірае, абагульняе і ўзводзіць у новую, вышэйшую якасць «простую мову народа» — і так ствараецца магутная скала культуры народа. І гэтая моўная культура гучыць са сцэны тэатра ўсёй сваёй магутнай прыгажосцю і сілай. Такім парадкам, МХАТ ёсць самая высокая школа тэатральнай культуры для ўсіх тэатраў нашай краіны і, асобна трэба сказаць, для ўсіх тэатраў нацыянальных рэспублік. У сувязі з гэтым узнікаюць думкі і аб нашым беларускім тэатры. Чым больш нашы тэатры будуць вывучаць свой народ і чым глыбей ведаць яго, тым вышэй яны будуць узнімаць сваё мастацтва. Чым глыбей яны будуць пазнаваць глыбіні жыцця народа, чым больш будуць злівацца з народам, тым больш праўды будзе ў іх мастацтве — вялікай народнай праўды, а значыцца, і праўды ўсёй вялікай Савецкай радзімы і Савецкай дзяржавы, якія і ёсць выяўленне народнай праўды. Абыякавасць да слова — гібель для тэатральнага мастацтва.

На спектаклях МХАТа мы не адчуваем, што мы ў тэатры. Мы зліваемся з жывым жыццём сцэны, мы п'ём вялікую асалоду зліцця з гэтым жыццём так, як стомлены чалавек агортваецца радасцю адпачынку, альбо як бадзёры чалавек — радасцю дзейнасці і працы. І нічога няпраўдзівага не рэжа нашага вуха і не коле нашага вока. І адчуваеш, як жыве тут талент у поўным зліцці з упартай працай.

Гэта вялікі прыклад і вялікая школа для ўсіх вялікіх і малых нашых талентаў.

# НАРОДНАЯ НЯНАВІСЦЬ

Яны ішлі ляснымі сцежкамі і глухімі закуткамі. Ішлі з дзецьмі. Меншых неслі на руках. Яны былі маўклівыя. У гэтай маўклівасці іх было адно-адзінае для ўсіх іх пачуццё — вялікае і наймацнейшае ад усяго, што было цяпер у іх жыцці. Гэта была нянавісць, агністая і непераможная нянавісць да подлага забойцы і бессаромнага злодзея, нянавісць, якой няма канца і межаў і якая не можа скончыцца раней таго, пакуль хоць адна пара акаваных жалезам капытоў каго-небудзь з гітлераўскай банды будзе таптацца на роднай зямлі.

Найбольш гэта былі жанчыны. Былі маладыя, былі і сярэдніх год, і пажылыя. Але ішла сярод іх адна «жанчына» з «сваімі дзецьмі», у якой адной з'ядналася бадай-што ўсё, што было напісана на многіх тварах, што жыло ў многіх душах. Гэтай «жанчыне» было год трынаццаць. Вяла яна з сабой двое дзяцей. Большаму хлопчыку было год сем, меншай дзяўчынцы — год пяць. Гэтую дзяўчынку яна нават разы са два спрабавала падносіць на руках. Я гэта сам усё бачыў. Было гэта поблізу і раўналежна Н-скай шасэйнай дарогі. Бадай-што кожны з гэтых людзей перажываў сваю «асабістую» крывавую драму. Адзін не ведаў, дзе ў страшную мінуту дзеліся бацькі, другі не ведаў, дзе дзеліся дзеці. Дзеці, якія ішлі адны, не ведалі, дзе дзелася маці. Але ўсе ішлі, не жадаючы астацца ў ворага. Усё асабістае ў кожнага злілося ў адно агульнае і злівалася з пачуццямі і імкненнямі ўсяго народа.

Трынаццацігадовая «жанчына», якая вяла «сваіх дзяцей», не ведала, што гэта за дзеці. Яна іх спаткала на дарозе адных і ўзяла іх пад сваю апеку. Калі выйшлі на паралявую дарогу і калі з'явіўся над галовамі нямецкі драпежнік, яна цвёрдым голасам загадала «сваім дзецям» упасці на зямлю ў жыта і ўпала сама. Увесь натоўп жанчын і дзяцей ляжаў на зямлі, пакуль пералятаў далей крывавы ненаеднік. Здавалася, што ён ужо мінуў гэтае месца. Але раптам выпусціў на дарогу град куль з кулямёта. Бессаромны забойца не мог вытрымаць, каб не пасеяць смерць сярод жанчын і дзяцей.

Грызе жарству, гарачы крышыць камень,
За кожны куст хапаецца рукамі,
Каб толькі вузкае не перасохла горла,
Каб толькі прагнасць не памёрла.

Гэта паэтычны вобраз упартасці і волі да жыцця, да змагання і да перамогі. Гэты матыў у кнізе нараджаецца з вобразаў жыцця ў роднай краіне сярод блізкіх з'яў, рэчаў і прыроды. Нараджаецца з горычы дзён, калі на родную зямлю ступіла нага чужынца, да якога накіраваны словы, гнеўныя і жорсткія. Яны ёсць няўхільны вынік развіцця пачуцця: замілаванасць да радзімы нараджае ўпартасць змагання і бязлітаснасць да ворага. Без нянавісці не можа быць змагання:

Што заслужыў — не абмінеш. Прымай:
Прымай, сусветны кат, нянавісцю кляймёны!
. . . . . . . . . . . . . . . .
Той судны дзень у твар табе глядзіць
Бязлітаснымі прагнымі вачыма.
Дык падніміся ж, помста, і ідзі
Па ўсёй айчыне.
І ўсюды, дзе засцігнеш, папялі
Апошніх вылюдкаў, увесь іх нарад.
Ты гнеў людскі збяры з усёй зямлі,
Ляж цяжкай хмарай.

З сапраўдным паэтычным густам і парадкам логікі вобразаў складзена гэтая кніжка вершаў. Сама ў сабе яна ёсць стройнае цэлае і ў магутнай сімфоніі сучаснай беларускай паэзіі — важны, уздымны, мілагучны і гучны акорд. Маючы на свой пачатак чалавечую душу, навек уражаную вобразамі роднай краіны, лірыка «Гартавання» даходзіць да эмоцый чытача. Гэта лірыка беларуская, нацыянальная ў самым канкрэтным сэнсе гэтага слова. Яна ідзе ад найканкрэтнейшых, самых выразных з'яў і рэчаў. Усё тое, ад чаго яна ідзе, роднае беларускаму чытачу, які любіць Беларусь за сваё маленства, юнацтва і сталасць, за сіняе беларускае неба, за пах і шум хвойнага лесу, за свой вялікі народ, за хараство прыроды, за «карэц халоднага бярозавага соку», за «хмурынку, што на Случчыну імкнецца», дзе ўвосень «бывае, ліст прысохне да кары», дзе родны дом, дзе

Зазелянеў магутны ляс,
І зноў вясна склікае нас,

дзе

На дарожным схіле, паміж кветак,
Між травы закрасавала: «Сталін».

Тут усё, аб чым будзіць думкі гэтая кніжка, што выклікае з самых глыбокіх эмоцый, усё адно за адным у вялікім адзінстве. Гэта адчуванне вобразаў роднай зямлі і жыцця там, у маленстве, юнацтве, сталасці. Уяўляюцца прасторы поля, сонечныя дні, восень, вясна, вёска з калодзезным жураўлём і кузняю, працавітасць людзей, і сярод усіх гэтых шматлікіх з'яў фармуецца натура, характар таго, хто ў нашы дні вялікага змагання гнеўна падняў руку на наглага чужынца. Бо нельга беспакарана рваць у чалавека з душы тое, што ёй навек дарагое.

Накіраванасцю да патрыятычных пачуццяў таго, хто адчувае радзіму самымі глыбокімі сваімі эмоцыямі ад дзён свайго маленства, і вызначаецца аблічча зборніка вершаў Цімоха Крысько «Гартаванне».

# СЛУЦКІЯ СУРВЭТЫ

Год за дзесяць да скасавання паншчыны, у радзівілаўскіх маёнтках на Случчыне пачаў развівацца выраб сурвэт. Пэўнай частцы прыгонных кіраўнікі радзівілаўскіх уладанняў давалі павіннасць: замест працы на княжым полі — вырабляць пэўны лік сурвэт. Пачалося з таго, што прыгонны чалавек з вёскі Агароднікаў (цяпер Капыльскага раёна) Міхалевіч недзе навучыўся сурвэтнай справе. Ён стаў сапраўдным майстрам. У тых жа Агародніках, пад яго наглядам і паводле яго планаў, Радзівіл пабудаваў вялікую сурвэтную майстэрню, дзе прыгонныя ткачы выраблялі сурвэты. У гэтай майстэрні не толькі выраблялі сурвэты, але Міхалевіч навучыў ткачоўскай справе маладых хлопцаў і дзяўчат. Майстэрня была сама сабой, а маладым ткачам давалася павіннасць у сябе дома ткаць сурвэты і здаваць князю штогодна пэўную колькасць іх.

З цягам часу ткачоўскае рамяство шырылася па ўсёй Случчыне. Ткачы адбывалі паншчыну не на зямлі, а ў сябе дома або ў Агародніцкай майстэрні. Яны развілі сурвэтны выраб да вялікай дасканаласці. І з'явіліся першакласныя майстры гэтай справы. Сурвэты ішлі не толькі на панскі ўжытак, але і прадаваліся панствам у далёкія мясцовасці. Яны вывозіліся ў Польшчу і ў Германію. Пасля скасавання прыгоннага права былыя прыгонныя ткачы не атрымалі зямельных надзелаў, як гэта было з тымі сялянамі, якія адбывалі паншчыну на зямлі. Кожны ткач атрымаў на выплату толькі адну дзесяціну зямлі. Такім парадкам і сталася тое, што на Случчыне аж да самай рэвалюцыі было многа так званых «дзесяцінных» гаспадарак. Гэта былі напалову земляробы, напалову раменнікі-ткачы. Увесь час на Случчыне было многа саматужнікаў-сурвэтнікаў. Яны бралі заказы на выраб сурвэт з нітак заказчыка. Былі цэлыя мястэчкі і сёлы, дзе займаліся больш ткачоўствам, чым зямлёю. Сяло Жавалкі, мястэчка Цімкавічы, вёска Пляшывічы да самых нашых дзён выраблялі сурвэты.

Сурвэтнае майстэрства перадавалася з пакалення ў пакаленне. Выпрацаваліся спосабы вырабу, формы варш-

татаў, дасэні і памеры сурвэт. Сурвэты ткаліся шырокія, на ўсю шырыню вялікага стала. Варштат меў дванаццаць панажоў (ці, як там казалі, «падножак») і дванаццаць нітоў. Кожны ніт складаецца з дзвюх самастойных палавін — нітоў. Дасэні рэзка дзяліліся на два самастойныя гатункі — «просты» і «павучковы». Кожны з гэтых дасэняў меў дваццаць чатыры «паддасэні». «Просты» дасэнь меў у сваёй аснове народны арнамент, складзены з квадратаў. «Павучковы» дасэнь з'явіўся на аснове народнага арнамента не квадратовага, а з крывых ліній. Гэта ўжо былі формы кветак, лісткоў, цэлых раслін. Першапачатковай жа асновай гэтых дасэняў быў рысунак круглай кветкі, ад якое разыходзіліся карэнні навокал. Гэта нагадвала форму павука з растапыранымі лапамі. Адсюль і назва — «павучковы» дасэнь. За адзін пастаў на варштаце выраблялася звыш сарака сурвэт. На просты дасэнь і на павучковы ніткі ўкідаліся ў ніты па спецыяльных рысунках, у якіх мог разабрацца і якія рабіў самы спрактыкаваны майстар. Бёрды вырабляліся з чароту. У сувязі з гэтым на Случчыне аж да самай рэвалюцыі, калі ткачы атрымалі надзелы зямлі, былі берднікі, варштатнікі і майстры вязаць ніты. На Случчыне сеялася многа льну. Сурвэты ткаліся з шэрых суравых нітак. Або аснова клалася шэрая, а ўток з беленых нітак або з белай крамнай бавоўны. Але, паводле спецыяльных жаданняў заказчыка, сурвэты рабіліся любых колераў і рознакаляровыя. Варштат быў даволі складаны і часткова механізаваны. Ён складаўся з мноства дробных дэталей, драўляных і жалезных. Кожная дэталь мела сваю назву — шаўграт, шпаруты, чапёлкі, пругі... Былі шліхтавальныя шчоткі: мачулкі, якімі змочвалася пража, і шліхты, якімі пража націралася.

За дзесяцігоддзі на Случчыне і далёка за ёю назапасілася ў людзей вельмі многа сурвэт. Былі нават такія, што збіралі калекцыі іх. У час незадоўга да імперыялістычнай вайны арандатар маёнтка Дошнава (цяпер Чырвонаслабодскага раёна) чэх Валек павёз да сябе на радзіму ў Чэхію вялікую калекцыю слуцкіх сурвэтаў. Апошнімі гадамі сурвэтная справа на Случчыне занепадала. Сурвэтнікі пераходзілі на земляробства. У 1914 годзе ў мястэчку Цімкавічы памёр выслаўлены майстар слуцкіх сурвэт Міхал Парыбак. Перад смерцю ён перадаў усе сакрэты гэтага майстэрства (укіданне нітак у ніты дзеля кожнага дасэня) свайму маладому земляку Клемансу Хрысцінічу, які

ўвесь час і быў галоўным настаўнікам і кансультантам усіх ткачоў на Случчыне. Клеманс Хрысцініч жыве цяпер у мястэчку Цімкавічы, Капыльскага раёна. Выдатная сурвэтніца, дачка Міхала Парыбка, Глікерыя, прозвішча па мужу Раманоўская, памерла ў 1921 годзе. Пасля яе астаўся вялікі сшытак, дзе былі вырысаваны бацькам і братам яе ўсе дасэні, якія толькі былі. Усяго было зарысавана звыш двухсот дасэняў — простых і павучковых. Гэты сшытак купіў Сальвесцер Шаравар з вёскі Крывасёлкі, Капыльскага раёна. Ён ткаў сурвэты да самых апошніх часоў.

*2 ліпеня 1944 г.*

Можа заўтра, а можа паслязаўтра наша армія забярэ Мінск. Падыходзіць канец нашым пакутам. Дзякаваць богу, і хвароба мая пакрысе пакідае мяне. Ад часу, калі я хварэў, прайшло ўжо год і сем месяцаў. Не было яшчэ такога, каб мая паправа спынілася. Увесь час павольна сочыцца ачуньванне. На гэта я спадзяюся на далейшае, і гэта трымае маю душу ў жывой раўнавазе. Ужо і цяпер як мае быць, лёгка і многа, як і да хваробы, працую. Якое гэта шчасце! Гэтымі днямі я заўважыў, што ўжо добра бачу ліст паперы ўвесь так, каб пісаць на ім роўным радком, які б шырокі ліст паперы ні быў. А яшчэ пэсць месяцаў таму, калі пачынаў перапісваць «Пошукі будучыні», мне была пакута выпісаць роўна загаловак і першы радок. Я цыркулем мераў раўналежнасць радка ад берага паперы. Учора паслаў у Цімкавічы паштоўку, хоць там можа яшчэ і немцы. Але пакуль паштоўка туды дапаўзе, то напэўна ўжо берлінскага гадаўя там не будзе. Сёння быў дождж. На двары мокра. Я пішу, бачу з акна мокры дах, і ў душы маёй ціхая радасць, вялікая: як добра я ўжо бачу! Сем гадзін перад вечарам. Дома са мной толькі адна Іра, любая мая ўцеха! Заўтра да паўдня трэба напісаць артыкул для «Известий». Цяжка мне пісаць па-руску, а ў іх няма перакладчыка з беларускай мовы... Трэба яшчэ думаць, як бы павячэраць. Ад дрэннай яды (і тае вельмі мала) я апошнім часам аслабеў.

*4 ліпеня 1944 г.*

Учора нашы забралі Мінск. Нямецкая навалач прэ з Беларусі на ўсе застаўкі. З гэтае прычыны ўчора ўвечары сабраліся: я, Цімох Крысько, Алеся Александровіч. Больш нікога няма, усе нашы ў Гомелі. Я выпіў добрую шклянку віна, гэта ўпершыню пасля хваробы. І нічога. Дзякуй богу, я здаравею. Учора ўночы паведамілі ў зводцы, што ўзялі Цімкавічы, Вялікую Раёўку, Жавалкі... Родныя мае мясціны. Як мая душа рвецца туды! Яна заўсёды там.

Там жывуць усе мае персанажы. Усе дарогі, пейзажы, дрэвы, хаты, чалавечыя натуры, пра якія я калі-небудзь пісаў. Гэта ўсё адтуль, сапраўднае. Пішучы пра Скіп'ёўскае Пераброддзе, я думаю пра Скіп'ёва каля Цімкавіч, паміж лясамі Скіп'ёўшчынай і Ліхадзіёўшчынай, мілае Малое Селішча, хараством якога заўсёды захаплялася мая маці-нябожчыца.

*5 ліпеня 1944 г.*

Яшчэ няма шасці гадзін. Толькі што званілі з радыё. Ледзьве адпрасіўся, каб не пісаць сягоння, а няхай ужо хоць заўтра пра заняцце нашымі Баранавічаў. Жаночы голас быў упарты і непадатлівы. Значыцца, Баранавічы, відаць, ужо забраны. Раз перадача для заграніцы, то трэба напісаць аб беларускай нацыянальнай трагедыі, рэштках старых акопаў, былой польскай граніцы...

*8 ліпеня 1944 г.*

Вострае ўзбуджанне з прычыны вызвалення Мінска ападае. Я ўжо спакайней працую. За ўчора і сёння давёў да канца другі раздзел «Скіп'ёўскага лесу». Мучуся ад паняверкі, што батальныя сцэны мае не што іншае, як глупства. Хоць бы хутчэй ужо дапасці да таго, калі можна будзе на ўсе бокі паказваць душу Канстанціна Прыбыткоўскага. Думаў многа пра тое, што трэба вырысоўваць разнастайныя тыпы нашага народа. Буду кіравацца сам сваімі думкамі, якія сфармуліраваў у сваіх артыкулах — перадавых у № першым часопіса «Беларусь» «Дзень добры, Беларуская зямля» і № трэцім «За шчасце народа». Учора ўвечары быў нешта ў трывозе і неспакоі.

*9 ліпеня 1944 г.*

Зранку ездзіў з Цімахом у Ізмайлаўскі парк. Тры гадзіны мы адседзелі на пнёх. Я расказваў што-нішто з гісторыі мястэчка Цімкавіч і характар і паходжанне цімкаўцоў і іх прозвішчаў. З сямі да дзевяці пад вечар пісаў «Скіп'ёўскі лес». Думаю аб драме. Чытаў Л. Ляонава ў «Правде» «Взятие Великошумска», і паняверка мая, што «Скіп'ёўскі лес» пішацца вельмі дрэнна, зменшылася. Дай божа па-сапраўднаму ачуняць. Пасля вайны буду пісаць, як хачу і магу.

*10 ліпеня 1944 г.*

Сёння рана пайшоў у рэдакцыю. Там пісаў, пакуль нікога не было. Цяпер каля шасці гадзін па паўдні. Сумна, пайсці няма да каго, нашы бадай-што ўсе ўжо то ў Гомелі, то ў Мінску. Адзіная мая ўцеха ў працы, яна мяне ратавала заўсёды. Калі ўжо заеду ў Мінск, тады не будзе смутку. А сёння яшчэ да вечара многа пісаць трэба.

*8 жніўня*

Колькі чаго парабілася за месяц! Ужо і ў Мінск незадоўга. Можа ўжо будзе свой сталы прытулак, і можа мне суджана яшчэ пабачыць мілыя Цімкавічы. А што, калі хата мая асталася і стаіць? Гэта будзе вялікае шчасце. Там жа, у ціхім жыцці, можна будзе ачуняць як мае быць і напісаць усе задуманыя раманы. Прыязджала з Мінска Х. Яна асталася такая ж мілая, разумная і практычная ў самым найлепшым сэнсе. Усё ўмее і можа зрабіць і ўсё ацаніць праўдзіва. Яна сказала: адна з вашых сёстраў увосень сорак першага года прыязджала ў Мінск шукаць вас. Анюта гэта ці Маша? Мілая Маша, у годы майго студэнцтва яна была мне як маці. У часы ўсіх маіх няшчасцяў гэта была шчырая сястра. Яна і Рэня — самыя мае блізкія. Калі жыва яна цяпер і здарова! Ужо больш як месяц ніяк не магу напасці на яе след. Апошнія дні вельмі трывожыўся аб гэтым. Зімою дзевяцьсот дваццаць шостага года многа пісаў аб ёй у дзённіку.

*9 жніўня*

Я сам не свой увесь гэты час. У Маскве страшна аставацца далей жыць. Гэты вялікі горад не дасць мне як мае быць ачуняць. І жыць не ў Беларусі больш не магу. А дзе жыць у Мінску? І як там жыць на попелішчы? Што там ёсць? Пайшоў сёння рана ў рэдакцыю. Думаў, пакуль яшчэ там нікога не было, пісаць перадавы артыкул у «Беларусь» № 5. Артыкул ужо напісаны, але рэдактар вымагае, каб там было як найбольш шаблону. Ратуй мяне божа ад гэтай работы больш. Аднак жа ў рэдакцыі нічога не рабіў, бо адразу найшло людзей, падняўся гармідар, і ўсе мае дуды вобземлю. Сазваніўся з Глебкам у выдавецтве.

*20 жніўня 1944 г.*

Ужо больш за тыдзень прайшло, а яшчэ не сышло з мяне зусім уражанне ад мае гаворкі з П. К. Панамарэн-

кам. На тым тыдні ў пятніцу папрасіўся на прыём. Я не мог больш цярпець. Я падрыхтаваў тэзісы і хвілін сорак дакладваў яму: 1) аб Д., якая мову беларускай літаратуры хоча перайначыць на свой лад, 2) аб тым, што я не маю магчымасці пісаць свае раманы і 3) што я, як чорнарабочы, пісаў і пішу бесперапынна публіцыстычныя тэксты без подпісу, яны друкуюцца, устанаўляюцца ў тэксты рэзалюцый антыфашысцкіх, скажам, з'ездаў, друкуюцца ў зборніках. (...) А я хаджу спрацаваны і хворы і жыву ў катуху. Гаворка ішла гадзін тры, да паўночы. Я паставіў пытанні проста. П. Панамарэнка ў часе гаворкі сказаў, што ён вызначае мерапрыемствы: адчыненне пры Акадэміі навук двухгадовых курсаў Інстытута мовы. Сабраць туды такую нізавую інтэлігенцыю, як сялянскіх маладых настаўнікаў, і зрабіць з іх ахавальнікаў чыстаты беларускай мовы ў школах і нізавым друку. Адчыненне пры Беларускім універсітэце факультэта журналістыкі. Панамарэнка сказаў, што здыме з пасады Д. (...) Уражанне ад гаворкі было добрае, я паспакайнеў і крыху супакоіўся. Я паказаў яму забракаваны мой перадавы артыкул у № 5 «Беларусь». Там — аб тым, што нямецкая акупацыя была для беларускага народа не толькі парою пакуты, але і парою ўзвышэння, гартавання і гістарычнага ўзняцця народа як нацыі і ўзмацнення яго нацыянальнай самасвядомасці. Народ пакінуў быць пастухом і стаў генералам. Наша шчасце, што мы належым да СССР, каб не — то што было б з намі? Панамарэнка сказаў, што гэта яго думкі, «артыкул бліскучы». (...) Гаварылі пра ўсякую драбязу, але мне важную: я папрасіў памагчы мне ў Мінску дастаць, дзе жыць, хоць хату якую. Ён абяцаў. Назаўтра ён выклікаў з Мінска Лынькова. Чакаю хуткага пераезду ў Мінск, паспакайнець там душою, узмацнець целам і пісаць раман за раманам, а то ўжо тут не магу больш. Нешта такі ў лесе здохла: час ад часу пачаў заходзіць Глебка.

Ужо дзён чатыры як хварэю на грып. Хвароба пагоршвае настрой. Смутак. Міхала і Юрася, мусіць, няма жывых. Пісьмо з Цімкавіч. Маша і Анюта жывы. Дом згарэў. Каб быць у Мінску ў сваім ціхім кутку і пісаць!

*21 жніўня 1944 г.*

Грып. Слабасць. Хіліць у пасцель. А ляжаць не магу. Думкі мучаць. І Рэня адчувае сябе дрэнна. І ёй вельмі не-

здаровіцца. Небарака, янаператамілася, гэтулькі ёй клопату і працы! (...)

Сённяшні момант беларускай гісторыі важан не толькі выгнаннем з Беларусі немцаў. Беларусь — усходняя славяншчына. Немец тут ніколі не будзе панаваць. Вельмі важным момантам сёння ёсць нам тое, што адбываецца ў Польшчы. Здаецца, што кладзецца канец польскаму зямельнаму магнацтву. Польшча без зямельных магнатаў — гэта ўжо малое зло. Наўрад ці ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі Польшча будзе сунуцца зноў рабіць на Беларусі сваю граніцу, хоць спробы даводзіць, што Польшча «мае права» аналячваць Беларусь, могуць быць. Як бы там ні было, а раман аб Рыгору Сухменьчыку калі-небудзь павінен быць напісан. Пісаць буду, ужо здаўшы ў друк «Вялікі дзень», «Пошукі будучыні», «Скіп'ёўскі лес», «Смагу», кнігу аповесцей «Сумліцкая хроніка», «Млечны Шлях», «Лявончыкава Ліда і якубаўскі карчмар Сымон Біруля», раман «Сыны Хведара Нявады» і драма.

Каб не выветрылася з памяці, запішу аб рамане пра Рыгора Сухменьчыка.

**Асобы рамана:**

1. Залеўскі (Эдвард Вайніловіч?), зямельны магнат.
2. Рыгор Сухменьчык, аканом, праваслаўны мужык з Кудзінавіч, салдат.
3. Сухменьчыха. Каталічка.
4. Анця. Дачка.
5. Яраслаў. Сын.
6. Фэлька, Сухменьчышын брат, Сцяпура.
7. Яго жонка.
8. Юрась, іх сын.
9. Бацька Фэльчыхі, сарвэтнік у Сумлічах — Папры, Жупранах.
10. Другая жонка Залеўскага ў эміграцыі (у Польшчы).
11. Сын Залеўскага ад другой жонкі.
12. Васіль-Лукаш Брандэцкі.
13. Сцяпан Хлябцэвіч.
14. Хлябцэвічыха.
15. Зоя Хлябцэвіч.
16. Студэнт Адамчук, яго трагічная смерць пасля.
17. Муж Зоі Хлябцэвіч.
18. Фэлькава дачка, Юрасёва сястра.

## Дзе адбываюцца падзеі рамана.

1. Рачкевічы, Залеўскага ўладанне.
2. Мястэчка Сумлічы, адкуль родам Фэлькава жонка.
3. Сцяпура Фэлька родам з Якубаўшчыны. Там на вузкіх палосах паміж двух лясоў паставіў сабе хату і жыў там. (Гэта калі пашыралася пасля рэвалюцыі мястэчка Сумлічы).
4. Міроўшчына, прададзеная Залеўскім, дзе Рыгор Сухменьчык купіў сабе рату зямлі.
5. Горад Нясвіж. Каля яго дробны маёнтачак Раткава, дзе знайшоў сабе другую жонку з грашыма Залеўскі, пасля лета 1920 года.
6. Мінск.
7. Варшава.

1. У рамане павінна быць добра і дакладна сказана аб мясцінах і пунктах, дзе адбыліся падзеі ў розныя часы і дзе завязаліся і развязаліся справы.
2. Павінен быць распрацаваны дакладна лёс кожнага персанажа.
3. Распрацаваць квадры — абсягі — малюнкі рамана.
4. Часткі рамана. Раздзелы. Змест іх усіх і нумарацыя.
5. **Назва рамана.** (...)

*25 жніўня*

Здароўе крыху як бы лепш. І настрой лепшы. Працаваў сёння над «Скіп'ёўскім лесам». Ужо гэта адно добра, бо тыдняў тры ўжо не браўся за яго. Заўтра пастараюся як-небудзь паслаць у Мінск міламу Максіму Лужаніну пісьмо. А бліжэйшымі днямі параю добрых слоў падзякаваць П. К. Панамарэнку за добрую гаворку. Назбіраюцца справы — зноў пайду да яго вырашаць. Гэта будзе ўжо не раней зімы або ў канцы яе.

*6 верасня*

Сёння скончыў трэці раздзел «Скіп'ёўскага лесу». Можа добра, а можа і вельмі дрэнна. Такі я змучаны і духам і целам і так цяжка жыву, што не адчуваю. Патрэбен доўгі час у цішыні і спакоі.

*8 верасня 1944 г.*

За шэсць дзён пераклаў «Позняе каханне» Астроўскага — так гнаў мяне ў карак тэатр. І ўжо месяц ляжыць гатовы тэкст, і не забіраюць. Гэта ўсё азіятчына ў еўрапейскай краіне Беларусі. Я мог бы звацца не Чорны Кузьма, а Чорнарабочы. Колькі за свой век я зрабіў гэтых перакладаў і напісаў усяго, што без майго подпісу запоўнівае старонкі ўсёй нашай прэсы! І ўсё на кавалак хлеба! Хлеб наш насушчны, усіх нас пасушыць.

Быў сёння ў ГИХЛе. Дагаварыўся аб «Скіп'ёўскім лесе» і зборніку апавяданняў. Каб хоць у Мінск, цішыня і спакой, хоць і на попелішчы. Абы ціхі кут і штодзень спакойна пісаць.

*10 верасня 1944 г.*

Учора ўвечары і сёння да паўдня чытаў К. Федзіна «Горький среди нас». Федзін — сапраўдны пісьменнік і разумны чалавек. Я ўпэўнен: пра М. Горкага ён напісаў праўду. Сапраўды, мусіць, так жыў і такі быў М. Горкі, вялікі рускі інтэлігент з рукамі рабочага.

У вялікай літаратуры персанажы маюць сваю біяграфію. А каб пісаць біяграфіі людзей, трэба ведаць, што народ — гэта мільёны індывідуальнасцей, кожны з сваім індывідуальным абліччам і лёсам, хоць і падначаленым аднаму закону жыцця — нацыянальнаму і дзяржаўнаму. Чамусьці пасля кнігі К. Федзіна я пачаў думаць пра вечнае — сваё: пра Францыска Багушэвіча. Кожная тая кніга добрая, калі яна ўзбівае чалавека на сталыя і важныя думкі.

*29 верасня 1944 г.*

Пятніца. Ужо якраз тыдзень, як у Мінску. Яшчэ жыву на падлозе ў доме, дзе Саюз пісьменнікаў. Няма дзе адаспацца і адляжацца. Усе дні баліць галава, хіліць на сон, і зрок пагоршаў. Але, здаецца, гэта ўжо апошні мой злы этап. Як-небудзь агораю кватэру і буду дбаць аб здароўі і пісаць. За гэтыя дні бачыўся з Р. Шырмам. Ад яго пачуў тое, што ўжо чуў ад П. Пестрака і М. Танка. Каталіцкае духавенства, дзе якое было раней і якое дзе цяпер з'явілася, стала агентурай пана Сасноўскага, паланізуюць сваіх парафіян і тлумачаць, што няма ніякай Беларусі, а ёсць Польшча. Усё ідзе ад віленскага біскупа Ялжбыкоўскага.

*3 кастрычніка*

Аўторак. У нядзелю ўвечары Пестрак расказваў Лужаніну, як яго мучылі ў польскай турме. Алаўкі паміж запальцаў, пампавалі ваду праз нос, білі гумавым кіем, замыкалі рукі ў кайданы. Я слухаў. Пестрак умее цікава расказваць. (...)

Сёння ўночы пацукі не далі спаць. Я ўпоцемку думаў аб Антаніне Лукашэўскай і двох яе сынах. Усё гэта можа пад маім пяром ажыць і жыць доўгім поўным жыццём. І да мяне прыйшла шчырая радасць. Перад світаннем я заснуў без трывогі і суму. Калі ўжо будзе тая кватэра і ціхі кут, каб пісаць! Просіцца з пяра артыкул у «Звязду» аб літаратуры.

*4 кастрычніка*

Серада. Хмурна. Дождж. Пісаў «Скіп'ёўскі лес». Трэба далей так, кожны дзень.

*5 кастрычніка*

Нічога не пісаў. Няма дзе падзецца і прыткнуцца з пяром. Чалавек з паўсотні за дзень перавярнулася. Мала ўсяго, дык прыехала яшчэ і ўлезла ў мой кут, дзе я жыву на голай падлозе, нейкая Н. з хлапчуком, які адразу пачаў ірваць мяне за камізэльку.

*6 кастрычніка*

Пятніца. Пісаў вельмі мала. Горне на сон. Баліць сэрца. Клопат і думкі аб кватэры, Рэня і Іра спяць на падлозе. Учора ўвечары заўважыў, што ногі апухлі да каленяў. Сэрца! (...) Прага мець свой ціхі кут і пасцель і вылежацца як мае быць. А тут абяцаюць, што кватэра можа быць толькі праз два тыдні. Гэта значыць, што не менш месяца трэба чакаць. А два месяцы, то напэўна. Баюся, што не вытрымаю да пасцелі і падушкі. Здань смерці мучыць мяне. Так я доўга не працягну. И кому повем печаль мою? Хоць бы адзін хто блізкі і разумны, а Рэню буду берагчы ад трывог.

*11 кастрычніка*

Сёння многа і, здаецца, добра пісаў. 7 кастрычніка заходзіла да мяне невядомая мне дагэтуль Марыля Шутовіч з Вільні... Яна прыехала ў Мінск, каб дайсці тут якоенебудзь рады: віленскі біскуп Ялжбыкоўскі садзіць усюды

па Беларусі на парафіі палякаў ксяндзоў, якія і прапаведуюць з амбонаў, што ўсе беларусы каталікі ёсць чыстыя палякі. Гэтая жанчына вельмі прыемная асоба, тыповая яшчэ нашаніўка. Да мяне прыйшла з просьбай надаць усяму гэтаму не рэлігійны, а палітычна-нацыянальны характар і так падаць у адпаведныя рэспубліканскія ўстановы.

Прыехаў з Вільні мастак Сергіевіч. Мілы чалавек і з вялікім талентам. Заходзіць часта. Пражыўшы з маленства і дагэтуль на Заходняй Беларусі, ён у нас аніяк не можа арыентавацца. Шукае падтрымкі і пасад. Гэта нацыянальны мастак, поўны як мае быць.

*22 лістапада*

...Божа, напішы за мяне мае раманы, хіба так маліцца, ці што?

# КАМЕНТАРЫІ

У дадзены том уваходзіць публіцыстыка 1923—1944 гг. Большасць публіцыстычных і літаратурна-крытычных артыкулаў, фельетонаў і нарысаў была апублікавана пры жыцці пісьменніка ў перыядычным друку: газ. «Звязда», «Савецкая Беларусь», «Літаратура і мастацтва», «Беларуская вёска», час. «Полымя рэвалюцыі», «Узвышша», «Чырвоны сейбіт», газеце-агітплакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», зборніку «Кат у белай манішцы». Некаторыя публіцыстычныя творы часу Вялікай Айчыннай вайны друкуюцца па аўтографах, якія захоўваюцца ў сям'і пісьменніка.

## ПЫТАННЕ СЁННЯШНЯГА ДНЯ (стар. 7)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1923, № 238, 17 кастрычніка, дзе змешчан упершыню.

## ЛІСІЦА Ў ІСПАЛКОМЕ (стар. 8)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1924, № 32, 9 лютага, дзе змешчан упершыню.

## З'ЕЗД ДЭЛЕГАТАК — СЯЛЯНАК І БАТРАЧАК (стар. 11)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1924, № 56, 8 сакавіка, № 57, 9 сакавіка, № 58, 11 сакавіка і № 59, 12 сакавіка, дзе змешчан упершыню.

З'езд Саветаў пашыранай Беларусі — Надзвычайны VI Усебеларускі з'езд Саветаў праходзіў 12—16 сакавіка 1924 г. у Мінску пасля далучэння да Беларусі асобных паветаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў.

## ЯК КАКОРЫНЦЫ, КАБ НЕ АСТАЦЦА Ў ДУРНЯХ, ШКОЛУ БУДУЮЦЬ (стар. 30)

Друкуецца па газ. «Беларуская вёска», 1924, № 77, 1 снежня, дзе змешчан упершыню.

## САМАХВАЛАВІЦКАЯ ЎЗАЕМАДАПАМОГА І САМАГОННЫЯ ТРУБКІ (стар. 32)

Друкуецца па газ. «Беларуская вёска», 1924, № 79, 10 снежня, дзе змешчан упершыню.

## ПА ЎКРАІНСКІХ ПРАСТОРАХ (стар. 33)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1925, № 203, 9 верасня, дзе змешчан упершыню, з падзагалоўкам «Падарожныя ўражанні».

## НА КУРОРТАХ (стар. 36)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1925, № 212, 19 верас-

ня, дзе змешчан упершыню, з падзагалоўкам «Ліст з Крыма»; у канцы паметка: «10 верасня, г. Ялта».

## ВЁСКА НА НОВЫМ ШЛЯХУ (стар. 39)

Друкуецца па газ. «Беларуская вёска», 1925, № 95, 13 лістапада, дзе змешчан упершыню, з падзагалоўкам «Малюнак з падарожжа».

## У РОДНАЙ ГЛУШЫ (стар. 42)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1925, № 267, 25 лістапада і № 268, 26 лістапада, дзе змешчан упершыню, з падзагалоўкам «З падарожжа».

## АЎТАБІЯГРАФІЯ (стар. 48)

Друкуецца па машынапісе, які захоўваецца ў сям'і пісьменніка. Датуецца 25 лютага 1926 г.

## І ВАДА ЗАЛІТА КРЫВЁЮ (стар. 49)

Друкуецца па газ. «Беларуская вёска», 1927, № 17, 11 лютага, № 18, 13 лютага, № 19, 16 лютага, № 20, 18 лютага, № 22, 23 лютага і № 23, 25 лютага, дзе змешчан упершыню.

## З РОДНАЙ ГЛУШЫ (стар. 58)

Друкуецца па газ. «Беларуская вёска», 1927, № 24, 27 лютага, дзе змешчан упершыню, пад псеўданімам М. Р-кі. (Псеўданім М. Р-кі раскрыт на падставе сцверджання паэта Максіма Лужаніна).

Шмэндрык — тут валакітчык, бюракрат.

## РЭДАКЦЫЙНЫ ГОСЦЬ (стар. 60)

Друкуецца па газ. «Беларуская вёска», 1927, № 45, 5 мая, дзе змешчан упершыню, з падзагалоўкам «З рэдакцыйнага жыцця».

Тэфталь, рамс — гульня ў карты.

Евангелісты — члены рэлігійнай секты.

## ЛІТАРАТУРНЫЯ ТВОРЫ ПРОЗАЙ ВЯСКОВЫХ АЎТАРАЎ (стар. 62)

Друкуецца па час. «Чырвоны сейбіт», 1927, №№ 17, 18—19, дзе змешчан упершыню.

## АЎТАБІЯГРАФІЯ (стар. 70)

Друкуецца па кн.: Клейнборт Л. М. «Молодая Белоруссия», ДВБ, Мінск, 1928, дзе змешчана ўпершыню. Датуецца 27 лютага 1928 г.

## НЕБЕЛАРУСКАЯ МОВА ў БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ (стар. 72)

Друкуецца па час. «Узвышша», 1928, № 5, дзе змешчан упершыню.

Паасобнік — асобны нумар часопіса.

Балона — старонка.

## (РЭЦЭНЗІЯ НА ЗБОРНІК ВАСІЛЯ СТЭФАНІКА «ТВОРИ») (стар. 86)

Друкуецца па час. «Узвышша», 1928, № 5, дзе змешчана ўпершыню.

## ПЕРАД ДРУГІМ ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕМ (стар. 90)

Друкуецца па час. «Узвышша», 1928, № 6, дзе змешчан упершыню, з падзагалоўкам «Некалькі думак пра будаўніцтва беларускай культуры».

## МАКСІМ ГОРКІ (стар. 93)

Друкуецца па час. «Чырвоны сейбіт», 1928, № 4—5, дзе змешчан упершыню, пад псеўданімам М. Р. (Псеўданім М. Р. раскрыт на падставе сцверджання паэта Максіма Лужаніна).

## ЗАМЕСТ ПАШТОВАЕ СКРЫНКІ (стар. 95)

Друкуецца па час. «Чырвоны сейбіт», 1928, № 5, дзе змешчан упершыню.

## ЛЕЎ ТАЛСТОЙ (стар. 97)

Друкуецца па час. «Чырвоны сейбіт», 1928, № 9, дзе змешчан упершыню, пад псеўданімам М. Р.

## ДЗЕСЯЦЬ ГОД (стар. 99)

Друкуецца па час. «Чырвоны сейбіт», 1928, № 12, дзе змешчан упершыню, пад псеўданімам М. Р.

## ПРАЦУ ПІСЬМЕННІКА ПАВІННЫ ЛІЧЫЦЬ ПРАЦАЮ, А НЕ ЗАБАЎКАЮ (стар. 101)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1928, № 277, 2 снежня, дзе змешчан упершыню.

## ЗАЎВАГА ДА ПЕРАКЛАДАЎ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ (стар. 104)

Друкуецца па час. «Узвышша», 1929, № 8, дзе змешчан упершыню.

## ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫЯ НАТАТКІ (стар. 107)

Друкуецца па час. «Узвышша», 1929, № 9—10, дзе змешчан упершыню.

Каштарыс — рахунак.

«Артыкул праф. Бузука ў «Маладняку».— Маецца на ўвазе артыкул «Культура мовы» ў «Узвышшы», змешчаны ў час. «Маладняк», 1929, № 5—6.

## РЭАЛЬНАЯ ШМАТГРАННАСЦЬ І ФІЛАСОФСКАЕ АДЗІНСТВА (стар. 114)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1932, № 2, 6 сакавіка, дзе змешчан упершыню.

## ПРА СВАЮ П'ЕСУ (стар. 119)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1932, № 275, 10 снежня, дзе змешчан упершыню.

## ПРАМОВА НА ПЕРШЫМ ПАШЫРАНЫМ ПЛЕНУМЕ АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТА ССПБ (стар. 121)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1933, № 8, 19 сакавіка, дзе змешчана ўпершыню.

Першы пашыраны пленум Арганізацыйнага камітэта ССПБ праходзіў з 24 лютага па 2 сакавіка 1933 г. у Мінску.

## ВЯЛІКАЯ І МАЛАЯ ТЭМА (стар. 125)

Друкуецца па час. «Заклік», 1933, № 3, дзе змешчан упершыню.

С п а н а т р а в а ц ь — знайсці спосаб.

## ЗАЎВАГІ ПРА ДРАМАТУРГІЮ (стар. 138)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1933, № 12, 23 красавіка, дзе змешчан упершыню.

## СІЛА НАШАЙ КУЛЬТУРЫ — У ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМЕ (стар. 142)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1933, № 12, 23 красавіка, дзе змешчан упершыню.

## ПІСЬМЕННІКІ АДКАЗВАЮЦЬ КАМСАМОЛЬЦАМ-«КАМУНАРАЎЦАМ» (стар. 146)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1933, № 26, 29 верасня, дзе змешчан упершыню.

## ПРА ПЛАНАВАСЦЬ ПРАЦЫ (стар. 148)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1933, № 27, 16 кастрычніка, дзе змешчан упершыню.

## ПРАЦУ З КАДРАМІ — У ТВОРЧЫ ПЛАН (стар. 152)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1933, № 28, 26 кастрычніка, дзе змешчан упершыню.

## НАША МОВА ДАСЯГНУЛА ВЯЛІКАГА РОСКВІТУ (стар. 155)

Друкуецца па кн. «Пісьменнікі БССР аб рэформе правапіса беларускай мовы». Выд-ва Беларускай Акадэміі навук, Мінск, 1934, дзе змешчан упершыню.

ПАВЫСІЦЬ ЛІТАРАТУРНУЮ ТЭХНІКУ (стар. 158)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1934, № 1, 6 студзеня, дзе змешчан упершыню.

МАЛАДЫЯ ПРАЗАІКІ (стар. 159)

Друкуецца па альманаху «Ударнікі», ДВБ, Мінск, 1934, дзе змешчан упершыню.

ПИСАТЕЛЬ ПИСАТЕЛЮ — БРАТ (стар. 165)

Друкуецца па «Литературной газете», 1934, № 12, 4 лютага, дзе змешчан упершыню.

НЕКАЛЬКІ ЗАЎВАГ ДА ВУЧОБЫ
ПАЧЫНАЮЧЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ (стар. 167)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1934, № 8, 16 лютага, дзе змешчан упершыню.

ПРАЦАВАЦЬ НАД ДРАМАТУРГІЧНЫМ СЛОВАМ (стар. 171)

Друкуецца па зб. «Драматургія», выд-ва Беларускай Акадэміі навук, Мінск, 1934, дзе змешчан упершыню.

ВУЧОБА І ТВОРЧАСЦЬ
ПАЧЫНАЮЧЫХ ЛІТАРАТАРАЎ (стар. 174)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1934, № 19, 12 красавіка, дзе змешчан упершыню.

ПРА ВУЧОБУ І ТВОРЧАСЦЬ ПАЧЫНАЮЧЫХ (стар. 179)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1934, № 34, 27 чэрвеня, дзе змешчан упершыню.

ПРА П'ЕСУ «НА ПЛАТФОРМУ» В. СТАШЭЎСКАГА (стар. 188)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1934, № 40, 28 ліпеня, дзе змешчан упершыню.

СКАНЦЭНТРАВАЦЬ ЛІТАРАТУРНЫЯ СІЛЫ (стар. 190)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1934, № 41, 31 ліпеня, дзе змешчан упершыню.

РЭАЛЬНАСЦЬ, ФАНТАЗІЯ, ВЫМЫСЕЛ (стар. 191)

Друкуецца па кн. «Пісьменнікі БССР на І Усесаюзным з'ездзе», кн. 2, ДВБ, Мінск, 1935. Датуецца жніўнем 1934 г.

Упершыню — «Литературная газета», 1934, № 115, 22 жніўня, пад загалоўкам «Мы должны фантазировать».

МЫ ВЕДАЕМ, ХТО НАШ ВОРАГ (стар. 193)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1934, № 175, 9 жніўня, дзе змешчан упершыню.

НА НОВЫЕ ВЫСОТЫ (стар. 195)

Друкуецца па «Литературной газете», 1934, № 72, 2 жніўня, дзе змешчан упершыню.

<ДУМКІ АБ З'ЕЗДЗЕ> (стар. 198)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1934, № 203, 11 верасня, дзе змешчан упершыню ў падборцы выказванняў удзельнікаў Першага Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў.

ТЭАТР З БУДУЧЫНЯЙ (стар. 199)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1935, № 10, 27 лютага, дзе змешчан упершыню.

СТВАРЭННЕ ТЫПАЎ І ВОБРАЗАЎ ЖЫЦЦЯ (стар. 203)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1935, № 21, 26 красавіка, дзе змешчан упершыню.

ЗАЎВАГІ ДА СТЫЛЁВЫХ ТЭНДЭНЦЫЙ
У ТВОРЧАСЦІ СЯРГЕЯ ЗНАЁМАГА (стар. 205)

Друкуецца па час. «Полымя рэвалюцыі», 1935, № 5.

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1935, № 6, 2 лютага, пад загалоўкам «Стылёвыя тэндэнцыі ў творчасці С. Знаёмага».

ТЕНИ МРАЧНОГО ПРОШЛОГО (стар. 223)

Друкуецца па газ. «Правда», 1935, № 189, 11 ліпеня, дзе змешчан упершыню.

ОТ АВТОРА (стар. 226)

Друкуецца па кн. «БДТ-І. XV лет существования. 1920—1935», ДВБ, Мінск, 1935, дзе змешчан упершыню.

АБУДЖАЦЬ ЛЕПШЫЯ ДУМКІ
І ПАЧУЦЦІ ЧЫТАЧА (стар. 227)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1936, № 16, 27 лютага.

Упершыню — «Литературная газета», 1936, № 10, 14 лютага.

ШМАТ У НАС АБЛОМАЎШЧЫНЫ,
БЕЗАДКАЗНАСЦІ (стар. 228)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1936, № 22, 28 сакавіка, дзе змешчан упершыню.

ЗБІРАЦЬ І ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ
ВОПЫТ ТВОРЧАЙ РАБОТЫ (стар. 232)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1937, № 94, 23 красавіка, дзе змешчан упершыню.

## ЯСНЫ ДЗЕНЬ КРАІНЫ (стар. 233)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1937, № 57, 2 лістапада, дзе змешчан упершыню.

## ПАЛКАВОДЗЕЦ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ АРМІІ (стар. 244)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1937, № 63, 26 лістапада, дзе змешчан упершыню.

## МІНСК (стар. 250)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1937, № 71, 31 снежня, дзе змешчан упершыню.
Яткі — ларкі.

## ВАСІЛЬ СЫМОНАВІЧ КЕДРЫК (стар. 261)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1938, № 35, 26 чэрвеня, дзе змешчан упершыню.

## Н. В. ГОГОЛЬ. К 130-ЛЕТИЮ СО ДНЯ РОЖДЕНИЯ (стар. 264)

Друкуецца па газ. «Орджоникидзевская правда», 1939, 30 сакавіка, дзе змешчан упершыню.

## ДУМКІ ПРА ПАЎЛЮКА ТРУСА (стар. 269)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1939, № 31, 3 верасня, дзе змешчан упершыню.

## ГІСТАРЫЧНАЯ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ (стар. 273)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1939, № 33, 21 верасня, дзе змешчан упершыню. Надрукаван таксама ў зб. «Вызваленым братам. Ад пісьменнікаў Савецкай Беларусі», ДВБ, Мінск, 1939.

## НА ТРЫБУНЕ «ПРОСТЫ ЧАЛАВЕК» (стар. 274)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1939, № 263, 15 лістапада, дзе змешчан упершыню, з падзагалоўкам «З пасяджэння сесіі».
Малевіч А. С. — дэлегат Нечарговай трэцяй сесіі Вярхоўнага Савета БССР (12—14 лістапада 1939 г.), які выступіў ад імя Паўнамоцнай камісіі Народнага Сходу Заходняй Беларусі.

## МАЕ ТВОРЧЫЯ ПЛАНЫ НА 1940 ГОД (стар. 276)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1940, № 1, 1 студзеня, дзе змешчан упершыню.
«...працаваў над раманам аб жыцці дзвюх родных сясцёр...» — Рукапіс рамана «Судны дзень» загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны.
«...буду працаваць над раманам «Вялікае выгнанне».— Рукапіс рамана загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны.

«...ёсць п'еса на тэму аб вызваленні Заходняй Беларусі...» — Маецца на ўвазе п'еса «Ірынка».
«...мяркую скончыць... крытычную працу аб «Новай зямлі» Якуба Коласа...» — Па сведчанню Р. І. Свераноўскай рукапіс артыкула загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны.

### АБ ЭДУАРДУ САМУЙЛЁНКУ (стар. 277)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1940, № 5, 11 лютага, дзе змешчан упершыню.
«...любіў расказваць аб прыродзе Полаччыны — мясцовасці, дзе ён нарадзіўся».— К. Чорны памыляецца. Э. Самуйлёнак нарадзіўся ў Пецярбурзе.

### ТВОРЧАЯ ЎДАЧА ТЭАТРА (стар. 280)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1940, № 30, 28 верасня, дзе змешчан упершыню, з падзагалоўкам «Уражанні гледача».

### ДУМКІ І ІМКНЕННІ НАРОДА (стар. 284)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1940, № 283, 8 снежня, дзе змешчан упершыню.

### АЎТАБІЯГРАФІЯ (стар. 286)

Друкуецца па кн. «Беларуская літаратура. Хрэстаматыя для 9 класа сярэдняй школы», ДВБ, Мінск, 1940, дзе змешчана ўпершыню, за подпісам Кузьма Чорны (Рамапоўскі Мікалай Карлавіч).

### «СЕНТЫМЕНТАЛЬНЫ ВАЛЬС» (стар. 289)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1941, № 29, 5 лютага, дзе змешчан упершыню.

### МАЯ «ІРЫНКА» (стар. 293)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1941, № 11, 15 сакавіка, дзе змешчан упершыню.

### ПРАЎДА АБ ЧАЛАВЕКУ (стар. 295)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1941, № 143, 19 чэрвеня, дзе змешчан упершыню.

### ВЯЛІКАЯ ШКОЛА ДЛЯ ЎСІХ ТЭАТРАЎ (стар. 296)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1941, № 25, 21 чэрвеня, дзе змешчан упершыню.

### НАРОДНАЯ НЯНАВІСЦЬ (стар. 298)

Друкуецца па аўтографу.
Упершыню — газ. «Звязда», 1941, № 165, 20 ліпеня.

ЖЫЛА І ЖЫЦЬ БУДЗЕ БЕЛАРУСКАЯ ЗЯМЛЯ! (стар. 301)

Друкуецца па аўтографу.

Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1941, № 196, 24 жніўня.

БЛІЗАК ЧАС РАСПЛАТЫ (стар. 302)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1941, № 208, 13 верасня, дзе змешчан упершыню.

В РАЗВЕДКЕ (стар. 305)

Друкуецца па агітплакату «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1941, № 21, верасень, дзе змешчан упершыню, пад псеўданімам Ігнат Булава з-пад Турава. (Псеўданім Ігнат Булава з-пад Турава раскрыт на падставе сцверджання Р. І. Свераноўскай).

СПОР ОБ АРИЙСКОЙ КРОВИ (стар. 306)

Друкуецца па агітплакату «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1941, № 21, верасень, дзе змешчан упершыню. (Аўтарства раскрыта на падставе сцверджання былога рэдактара агітплаката М. Чаўскага).

КАК НЕМЕЦ НА СВИНЬЕ В ВЕЧНЫЙ ПОКОЙ ВЪЕХАЛ (стар. 307)

Друкуецца па агітплакату «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1941, № 23, верасень, дзе змешчан упершыню, пад псеўданімам Ігнат Булава з-пад Турава.

ДУША В ШТАНАХ (стар. 308)

Друкуецца па агітплакату «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1941, № 24, верасень, дзе змешчан упершыню, з падзагалоўкам «Из рассказов Игната Булавы из-под Турова».

КРУЖЕВНОЕ ПРИКРЫТИЕ (стар. 310)

Друкуецца па агітплакату «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1941, № 25, верасень, дзе змешчан упершыню, пад псеўданімам Ігнат Булава з-пад Турава.

БЕЛАРУСКІ НАРОД ЗМАГАЕЦЦА З АКУПАНТАМІ (стар. 311)

Друкуецца па газ. «За Савецкую Беларусь», 1941, № 27, 3 кастрычніка, дзе змешчан упершыню, з падзагалоўкам «З пісем беларускіх партызан».

ЧИСТОКРОВНАЯ ВОШЬ (стар. 313)

Друкуецца па агітплакату «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1941, № 26, кастрычнік, дзе змешчан упершыню, з падзагалоўкам «Из рассказов Игната Булавы из-под Турова».

ПЕРАМОГА БУДЗЕ ЗА НАМІ! (стар. 314)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1941, № 4, 7 лістапада,

дзе змешчан упершыню, без подпісу. (Аўтарства раскрыта на падставе сцверджання Свераноўскай Р. І.).

## У ІМЯ БУДУЧЫНІ (стар. 317)

Друкуецца па аўтографу.
Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1941, № 4, 7 лістапада.

## СЛАДЕНЬКОГО ЗАХОТЕЛИ... (стар. 319)

Друкуецца па агітплакату «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1941, № 27, лістапад, дзе змешчан упершыню, з падзагалоўкам «Из рассказов Игната Булавы из-под Турова».

## БУДЗЕМ АДЗІНАДУШНЫМІ І НЕПАХІСНЫМІ (стар. 320)

Друкуецца па аўтографу; у канцы паметка: «Напісана ў Казані 28 снежня 1941 г. К. Чорны».
Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 10, 20 студзеня, з падзагалоўкам «Прамова пісьменніка Кузьмы Чорнага».

## НЕМЦЫ ЎСТАНАЎЛЯЮЦЬ ПАНШЧЫНУ (стар. 322)

Друкуецца па аўтографу.
Датуецца сакавіком 1942 г.

## СУПРАЦЬ ЗВЕРА (стар. 324)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 11, 1 лютага, дзе змешчан упершыню.

## ЛЕЎ ДАВАТАР (стар. 327)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 20—21, 16 лютага, дзе змешчан упершыню, пад псеўданімам М. Сідарэўскі. (Аўтарства раскрыта на падставе сцверджання Свераноўскай Р. І.).

## ЖЭНЯ ПАЛТАЎСКАЯ (стар. 330)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 20—21, 16 лютага, дзе змешчан упершыню.

## ВЕРНАЯ ДАЧКА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА (стар. 333)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 22, 19 лютага, дзе змешчан упершыню.

## НАША АРМІЯ І НАРОД — АДЗІНЫ (стар. 335)

Друкуецца па аўтографу.
Мяркуючы па змесце, датуецца лютым 1942 г.

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, БЕЛАРУСКАЯ ЗЯМЛЯ! (стар. 337)

Друкуецца па аўтографу; у канцы паметка: «Кузьма Чорны. Сакавік 1942 г., г. Масква».
Упершыню — газ. «Известия», 1942, № 72, 27 сакавіка, пад загалоўкам «Непокорная и непокоренная Беларусь».

## НА НАШАЙ ЗЯМЛІ ХОЧА ГАСПАДАРЫЦЬ НЯМЕЦКІ ПАН (стар. 342)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 33, 30 сакавіка, дзе змешчан упершыню.

Рукапісны варыянт пад загалоўкам «Немцы ўстанаўляюць паншчыну» па змесце амаль супадае з названым артыкулам.

## ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА (стар. 344)

Друкуецца па аўтографу.

Мяркуючы па змесце, датуецца сакавіком 1942 г.

## БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРАТАРЫ Ў ДНІ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ (стар. 351)

Друкуецца па аўтографу; у канцы паметка: «Для газеты «Савецкая Беларусь». Сакавік 1942 г.».

## (НЕ ВЕРЦЕ НІВОДНАМУ НЯМЕЦКАМУ СЛОВУ!..) (стар. 352)

Друкуецца па аўтографу.

Мяркуючы па змесце, датуецца сакавіком 1942 г.

## ФАШЫСТ КУРЦ РАВЕ ЖАЛАСНА (стар. 354)

Друкуецца па аўтографу; у канцы подпіс: «Кузьма Чорны».

Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 35, 6 красавіка.

## КАТ У БЕЛАЙ МАНІШЦЫ (стар. 355)

Друкуецца па зб. «Кат у белай манішцы», выдавецтва «Савецкая Беларусь», Мінск, 1942.

Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 39, 21 красавіка.

## НАША ВЯСНА (стар. 357)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 42, 1 мая, дзе змешчан упершыню.

## АБАРОНЦЫ НЯМЕЦКАЙ ТЫФОЗНАЙ ВОШЫ (стар. 359)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 44, 7 мая, дзе змешчан упершыню, з падзагалоўкам «Пісьмо з Віцебска», пад псеўданімам М. Біруля. (Псеўданім М. Біруля раскрыт на падставе сцверджання Сверапоўскай Р. І.).

## «ВЫХВАЛЯЎСЯ, ВЫХВАЛЯЎСЯ ДЫ І ЗДОХ» (стар. 360)

Друкуецца па зб. «Кат у белай манішцы», выд-ва «Савецкая Беларусь», Мінск, 1942.

Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 44, 7 мая.

### ДАЛІКАЦТВА КАЛЯ ВІСЕЛЬНІ (стар. 362)

Друкуецца па зб. «Кат у белай манішцы», выд-ва «Савецкая Беларусь», Мінск, 1942.
Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 46, 15 мая.

### ШАРЛАТАНСКІ ЗБРОД НА СЛУЖБЕ Ў НЯМЕЦКІХ АКУПАНТАЎ (стар. 364)

Друкуецца па аўтографу; у канцы подпіс: «Кузьма Чорны».
Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 48, 23 мая.

### «КОСЬ, КОСЬ, ПАКУЛЬ У АГЛОБЛІ» (стар. 366)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 49, 27 мая, дзе змешчан упершыню.

### ПАЭТ НАРОДА (стар. 368)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 50, 30 мая, дзе змешчан упершыню.

### НЯМЕЦКІ ПАСЛУГАЧ ВЫЎ, ЯК СУКА (стар. 371)

Друкуецца па агітплакату «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1942, № 43, май, дзе змешчан упершыню, з падзагалоўкам «З апавяданняў Ігната Булавы з-пад Турава».

### ПОДЗВІГ ЦІХАГА ЧАЛАВЕКА (стар. 372)

Друкуецца па аўтографу; у канцы паметка: «Славянскім камітэтам паслана ў Амерыку для славянскіх газет. Май месяц 1942 г.».

### БЕЛАРУСКАЕ МАСТАЦТВА Ў ЧАСЕ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ (стар. 375)

Друкуецца па аўтографу.
Мяркуючы па змесце, датуецца маем 1942 г.

### БЕРЛІНСКІ АНУЧНІК (стар. 378)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 52, 7 чэрвеня, дзе змешчан упершыню.

### ЦУДОЎНАЯ ПЕДАГОГІКА (стар. 379)

Друкуецца па зб. «Кат у белай манішцы», выд-ва «Савецкая Беларусь», Мінск, 1942.
Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 54, 13 чэрвеня.

### ДУБОВАЯ ГАЛАВА І САБАЧАЯ НАТУРА (стар. 381)

Друкуецца па зб. «Кат у белай манішцы», выд-ва «Савецкая Беларусь», Мінск, 1942.
Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 58, 24 чэрвеня.

ШТО ПАСЕЕШ — ТОЕ І ПАЖНЕШ (стар. 384)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 60, 28 чэрвеня, дзе змешчан упершыню.

ЗЯМЕЛЬНЫ НАДЗЕЛ ДУРНОГА БАДЗІЛЮКА (стар. 385)

Друкуецца па агітплакату «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1942, № 50, чэрвень, дзе змешчан упершыню, з падзагалоўкам: «З апавяданняў Ігната Булавы з-пад Турава».

БАНДЫЦКАМУ ФЮРЭРУ, КРЫВАВАМУ ЛЮДАЕДУ, СУСВЕТНАМУ АБАРМОТУ І ПРАХВОСТУ, ДУРНОМУ АДОЛЬФУ ГІТЛЕРУ — ПІШУЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ПАРТЫЗАНЫ З АТРАДА БАЦЬКІ МІНАЯ (стар. 387)

Друкуецца па агітплакату «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1942, № 51, чэрвень, дзе змешчан упершыню, пад псеўданімам Арцём Чамярыца. (Псеўданім раскрыт на падставе сцверджання Сверапоўскай Р. І.).

СЁМАЯ СКУРА (стар. 389)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 65, 17 ліпеня, дзе змешчан упершыню.

НЕ ВЕР ВУШАМ СВАІМ (стар. 391)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 68, 28 ліпеня, дзе змешчан упершыню.

ГАЎЛЯЙТАР І ЯГО ПАДЛІЗНІКІ (стар. 393)

Друкуецца па аўтографу; у канцы подпіс: «Кузьма Чорны».
Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 70, 4 жніўня.

НЕМЦЫ ЗНІШЧАЮЦЬ БЕЛАРУСКУЮ КУЛЬТУРУ (стар. 395)

Друкуецца па аўтографу; у канцы паметка: «Перадавы артыкул у «Савецкую Беларусь».
Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 73, 15 жніўня.

ГАЎЛЯЙТАРСКАЯ «АКАДЭМІЯ» (стар. 397)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 75, 22 жніўня, дзе змешчан упершыню.

НЯМЕЦКАЯ ЦАЦА ШЫРОКАГА СПАЖЫВАННЯ (стар. 399)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 77, 29 жніўня, дзе змешчан упершыню.

«АКАДЭМІЧНЫ» ФРЫЦ (стар. 401)

Друкуецца па агітплакату «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1942, № 59, жнівень, дзе змешчан упершыню.

## БЕЛАРУСКАЯ ПРОЗА І ДРАМАТУРГІЯ ЧАСУ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ (стар. 403)

Друкуецца па аўтографу.
Мяркуючы па змесце, датуецца жніўнем 1942 г.

## ГЕРОЙ САВЕЦКАГА САЮЗА ЦІХОН ПІМЕНАВІЧ БУМАЖКОЎ (стар. 413)

Друкуецца па аўтографу; у канцы паметка: «4 верасня 1942 г.». Упершыню — кн. К. Чорны «Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў», выд-ва «Савецкая Беларусь», Мінск, 1943.

## БУРГОМІСТР І КУРЫЦА (стар. 428)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 81, 13 верасня, дзе змешчан упершыню, пад псеўданімам Раман Талапіла. (Псеўданім раскрыт на падставе сцверджання Свераноўскай Р. І.).

## НЯМЕЦКАЕ ВАРАННЕ НАД СЛУЧЧЫНАЙ (стар. 429)

Друкуецца па аўтографу; у канцы подпіс: «Кузьма Чорны». Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 82, 17 верасня, з падзагалоўкам: «Акупанты ствараюць яшчэ 60 маёнткаў».

## ЗАПЛАЦІМ ПАНУ І ЯГО ПАСЛУГАЧУ (стар. 430)

Друкуецца па аўтографу; у канцы подпіс: «Кузьма Чорны». Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 83, 19 верасня.

## ДУХ ПРАГНАСЦІ (стар. 432)

Друкуецца па агітплакату «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1942, № 61, верасень, дзе змешчан упершыню. (Аўтарства раскрыта на падставе сцверджання былога рэдактара агітплаката М. Чаускага).

## СІМПАТЫЧНАЯ ДУБІНА (стар. 433)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 92, 21 кастрычніка, дзе змешчан упершыню.

## ВЯЛІКІ ПАЭТ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА (стар. 435)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 95, 31 кастрычніка, дзе змешчан упершыню.

## (БЫЎ ЧАС У ЖЫЦЦІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА...) (стар. 437)

Друкуецца па аўтографу.
Мяркуючы па змесце, датуецца кастрычнікам 1942 г.

## АБ НАШАЙ ГОРДАСЦІ (стар. 440)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 97, 7 лістапада, дзе змешчан упершыню.

## ШЧАНЮК З БЕРЛІНСКАЙ САБАКАРНІ (стар. 442)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 101, 21 лістапада, дзе змешчан упершыню.

## КРЫВАВЫ АПЯКУН (стар. 444)

Друкуецца па аўтографу; у канцы подпіс: «Кузьма Чорны».
Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1942, № 102, 24 лістапада.

## ТОНКАЯ ДУША ТОЎСТАЙ ГАДЗІНЫ (стар. 446)

Друкуецца па зб. «Кат у белай манішцы», выд-ва «Савецкая Беларусь», Мінск, 1942, дзе змешчан упершыню.

## (НОВАЯ ПАРА ГІСТАРЫЧНАГА ЖЫЦЦЯ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА...) (стар. 449)

Друкуецца па аўтографу; у канцы подпіс: «К. Ч.»
Мяркуючы па змесце, датуецца 1942 г.

## НЯМЕЦКІЯ ФАШЫСТЫ ЗНІШЧАЮЦЬ КУЛЬТУРУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА (стар. 451)

Друкуецца па аўтографу.
Мяркуючы па змесце, датуецца 1942 г.

## ЧТО ТАКОЕ ГИТЛЕРОВСКИЙ «СОЦИАЛИЗМ»? (стар. 454)

Друкуецца па аўтографу.
Мяркуючы па змесце, датуецца 1942 г.

## АБ СВАІМ НОВЫМ РАМАНЕ (стар. 456)

Друкуецца па машынапісе, які захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР.
Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 11.
Датуецца 1942 г.

## НЕМЦЫ ЗНІШЧАЮЦЬ БЕЛАРУСКУЮ КУЛЬТУРУ, ТОПЧУЦЬ АСВЕТУ І НАВУКУ, МАСТАЦТВА І ЛІТАРАТУРУ (стар. 457)

Друкуецца па машынапісе, які захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР.
Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 11.
Датуецца 1942 г.

## ПРАКЛЯЦЦЕ КАТУ ГІТЛЕРУ (стар. 461)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1943, № 44, 17 красавіка, дзе змешчан упершыню.

## ЗАБІЯЦКІ ПЫК (стар. 463)

Друкуецца па агітплакату «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1943, № 90, май, дзе змешчан упершыню, пад псеўданімам Сымон Чарпакевіч. (Псеўданім Сымон Чарпакевіч раскрыт на падставе сцверджання Свераноўскай Р. І.).

### ЗА БЛІЗКІХ І РОДНЫХ (стар. 465)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1943, № 80, 18 жніўня, дзе змешчан упершыню.

### СМЕРЦЬ ГАЎЛЯЙТАРА Ў МІНСКУ (стар. 468)

Друкуецца па аўтографу.
Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1943, № 92, 25 верасня, пад загалоўкам «Канец крывавага ката».

### НАСТАЎ ВЯЛІКІ ДЗЕНЬ (стар. 470)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1943, № 93, 28 верасня, дзе змешчан упершыню.

### АВТОБИОГРАФИЯ (стар. 472)

Друкуецца па аўтографу; у канцы паметка: «Н. Романовский. 5/X 1943 г.».

### ВАЎКІ РАТУЮЦЬ СКУРУ (стар. 474)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1943, № 96, 6 кастрычніка, дзе змешчан упершыню.

### ВОЛЯ РВЕ ЛАНЦУГІ (стар. 476)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1943, № 107, 7 лістапада, дзе змешчан упершыню.

### ВАРОЧАЕЦЦА ЖЫЦЦЁ (стар. 478)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1943, № 113, 27 лістапада, дзе змешчан упершыню.

### НЕПАРАЗУМЕННЕ (стар. 480)

Друкуецца па агітплакату «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1943, № 111, лістапад, дзе змешчан упершыню, пад псеўданімам Сымон Чарпакевіч.

### ФРАНТАВАТЫ КАМЕНДАНТ (стар. 483)

Друкуецца па агітплакату «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1943, № 113, снежань, дзе змешчан упершыню, пад псеўданімам Сымон Чарпакевіч.

### ЯНКА КУПАЛА (стар. 485)

Друкуецца па аўтографу.

### ДАРАХВЕЕВЫ ПОРТКІ (стар. 496)

Друкуецца па агітплакату «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1944, № 115, студзень, дзе змешчан упершыню, пад псеўданімам Сымон Чарпакевіч.

## ПА СЛЯДАХ НЯМЕЦКАГА ЗАВАЁЎНІЦТВА (стар. 498)

Друкуецца па час. «Беларусь», 1944, № 1, дзе змешчан упершыню.

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, БЕЛАРУСКАЯ ЗЯМЛЯ! (стар. 501)

Друкуецца па аўтографу.
Упершыню — час. «Беларусь», 1944, № 1; без подпісу.

## АБ ЗБОРНІКУ «ГАРТАВАННЕ» (стар. 504)

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1945, № 14, 12 жніўня, дзе змешчан упершыню; у канцы паметка: «Красавік 1944 г., г. Масква».

## СЛУЦКІЯ СУРВЭТЫ (стар. 508)

Друкуецца па аўтографу.
Упершыню — час. «Беларусь», 1945, № 10.

## ДЗЁННІК (стар. 511)

Друкуецца па аўтографу.
Упершыню — час. «Полымя», 1965, № 4.
Датуецца 2 ліпеня — 22 лістападам 1944 г.

Стар. 513
«Ад часу, калі я захварэў, прайшло ўжо год і сем месяцаў».— К. Чорны захварэў 24 лістапада 1942 г.

Стар. 513
Ц і м к а в і ч ы.— У мястэчку Цімкавічы Капыльскага раёна прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады пісьменніка, у час Айчыннай вайны там жылі яго сёстры.

Стар. 513
І р а — дачка К. Чорнага, сапраўднае імя — Рагнеда.

Стар. 513
Ц і м о х  К р ы с ь к о — сапраўднае прозвішча беларускага паэта Васіля Віткі.

Стар. 514
«...ездзіў з Цімахом...» — з Цімохам Крысько (Васілём Віткам).

Стар. 515
А н ю т а — сястра К. Чорнага Анна Карлаўна Высоцкая.

Стар. 515
М а ш а — сястра К. Чорнага Марыя Карлаўна Раманоўская.

Стар. 516
Р э н я — жонка пісьменніка Рэвека Ізраілеўна Свераноўская.

Стар. 516
М і х а л — брат К. Чорнага Міхаіл Карлавіч Раманоўскі.

Стар. 516
Ю р а с ь — брат К. Чорнага Георгій Карлавіч Раманоўскі.

Стар. 520
А н т а н і н а  Л у к а ш э ў с к а я — персанаж задуманага рамана «Захар Пагуда».

## 1900

*Чэрвень, 24*

Нарадзіўся Мікалай Карлавіч Раманоўскі (Кузьма Чорны) у маёнтку Боркі Слуцкага павета Мінскай губерні (цяпер Чырвонаслабодскі раён Мінскай вобласці). Бацька яго, Мікалай Карлавіч Раманоўскі, служыў парабкам у пана Вайніловіча.

*К. Чорны. Аўтабіяграфія, 1940*

## 1900—1906

«За паўкіламетра ад маёнтка Боркі ў чыстым панскім полі стаяла хата і панскае гумно. Гэта называлася «фальварак Лапацічы». Там жыў мой бацька... У гэтых Лапацічах, пры Борках, і прайшлі мае шэсць год жыцця».

*Ліст К. Чорнага да Алесі Александровіч, 27 жніўня 1944 г. (зб. «Кузьма Чорны». Мінск, 1959, стар. 161).*

## 1907—1908

Пасля Борак бацькі пераехалі ў фальварак Вінцаптова. Тут будучы пісьменнік навучыўся чытаць з дапамогай сваёй маці. «Вялікі ўплыў на развіццё адчуванняў і дум мела маці, жанчына простая, што навучылася чытаць сама праз сябе, але развітая і многа чытаўшая».

*К. Чорны. Аўтабіяграфія, 1926*

«Калі мне споўнілася восем год, бацькі мае пачалі думаць пра тое, што добра было б, каб я навучаўся як-небудзь грамаце. Каля маёнтка Борак школ блізкіх не было, і з гэтай прычыны бацька кінуў службу і пераехаў на сваю радзіму ў мястэчка Цімкавічы, Капыльскага раёна».

*К. Чорны. Аўтабіяграфія, 1940*

## 1908—1910

У Цімкавічах «Колю адразу паслалі ў пачатковую школу. Вучыўся ён добра, з першых дзён паказаў свае здольнасці... Першы

яго настаўнік... быў Шыш, а другі — Ляхоўскі. Ён быў немалады і сам скончыў у свой час Нясвіжскую семінарыю». Ляхоўскі вылучаў найбольш здольных вучняў і рыхтаваў іх да паступлення ў семінарыю. Мікола Раманоўскі ўваходзіў у гэтую групу.

*З успамінаў М. К. Раманоўскай. «Беларусь», 1960, № 7, стар. 8.*

## 1916

«Я скончыў Цімкаўскае народнае вучылішча, пасля чаго рыхтаваўся да паступлення ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, у якую паступіў у 1916 г., калі мне было 16 год».

*К. Чорны. Аўтабіяграфія, 1940*

## 1919

«Закончыць асвету ў настаўніцкай семінарыі мне не ўдалося з той прычыны, што зімой 1919 г. палякі закрылі семінарыю, а пасля адыходу палякаў Нясвіж застаўся на польскай тэрыторыі».

*К. Чорны. Аўтабіяграфія, 1940*

## 1920

*Ліпень*

З лета 1920 г. (з прыходам Чырвонай Арміі) працаваў у Цімкавіцкім валасным рэўкоме, у ваенным аддзеле.

*К. Чорны. Аўтабіяграфія, 1940*

## 1921

*29 мая (ст. ст.)*

Ва ўзросце 45 год памерла маці пісьменніка Гліцэра Міхайлаўна.

*К. Чорны. Аўтабіяграфія, 1943*

*Вясна — лета*

К. Чорны пераведзен на працу ў Слуцкі павятовы ваенны камісарыят, дзе выконваў абавязкі справавода ў мабілізацыйным аддзеле.

*К. Чорны. Аўтабіяграфія, 1943*

*Восень*

Працуе сакратаром Аддзела народнай асветы пры Цімкавіцкім валасным рэўкоме.

*К. Чорны. Аўтабіяграфія, 1943*

## 1922

*Восень*

Пачаў працаваць настаўнікам у Цімкавіцкай сямігадовай школе. Настойліва займаўся самаадукацыяй.

*К. Чорны. Аўтабіяграфія, 1943;*
*К. Чорны. Бібліяграфічны даведнік, складзены Н. Б. Ватацы. Мінск, 1954*

## 1923

*Май, 5*

Апублікавана ў «Савецкай Беларусі» апавяданне «На граніцы». З гэтага часу К. Чорны заняўся сталай літаратурнай працай.

*Май, 29*

У «Савецкай Беларусі» змешчана апавяданне «На варце» з подпісам: К. Ч.

*Ліпень, 1*

У «Савецкай Беларусі» змясціў верш пад назвай: «Роднае поле», які быў напісаны ў сувязі з першым выпускам рабфака Беларускага дзяржаўнага універсітэта (30 чэрвеня).

*Восень*

«Увосень 1923 года я паступіў у Мінскі універсітэт на літаратурнае аддзяленне педагагічнага факультэта.

У гэты ж час я пачаў працаваць літаратурным работнікам у газеце «Беларуская вёска», і тады ж у мяне з'явіліся першыя адзнакі туберкулёза. Я быў пасланы ў Крым на лячэнне. Мне ўдалося вылечыцца».

*К. Чорны. Аўтабіяграфія, 1940*

*Лістапад, 21 і 22*

У «Савецкай Беларусі» надрукавана апавяданне «Вёска».

*Снежань, 10, 12, 13*

У «Савецкай Беларусі» апублікавана апавяданне «Маё дзела цялячае» (датуецца 8/XII-23 г. Мінск).

## 1924

*Студзень, 18 і 19*

У «Савецкай Беларусі» надрукавана апавяданне «Будзем жыць».

*Студзень, 31, люты, 1 і 2*

У «Савецкай Беларусі» змешчана апавяданне «На беразе».

*Люты, 9*

У «Савецкай Беларусі» надрукаваны фельетон «Лісіца ў іспалкоме».

*Люты, 21, 22, 29*

У «Савецкай Беларусі» надрукавана апавяданне «Дзень».

*Сакавік, 6*

У «Савецкай Беларусі» надрукавана замалёўка пад назвай «Усяму свой час».

*Сакавік 8, 9, 11, 12*

У «Савецкай Беларусі» даецца інфармацыя К. Чорнага аб «З'ездзе дэлегатак — сялянак і батрачак» (З'езд адбыўся ў Мінску 5—8 сакавіка).

*Сакавік*

«Маладняк» рыхтуе да друку зборнік прозы (К. Чорнага, А. Бабарэкі і інш.).

*«Полымя», № 3, стар. 176*

*Красавік, да 13*

К. Чорны прыняты ў члены аб'яднання «Маладняк».

*«Радавая рунъ», № 1, 13 красавіка*

*Красавік, 20*

У «Савецкай Беларусі» надрукавана апавяданне «Андрэй Клыга» (Чырвоныя штрыхі).

*Красавік, 29 і 6 мая*

У «Савецкай Беларусі» надрукавана апавяданне «Палявыя людзі».

*Красавік*

Апублікавана апавяданне «Жалезны крык».

У часопісе паведамлялася, што К. Чорным за апошні час напісаны апавяданні «Міколавы лапці», «Зямля», «Граніца». Зараз ён піша аповесць.

*«Полымя», № 4, стар. 182.*

*Май, 25*

Пачаў працаваць літаратурным работнікам у газеце «Беларуская вёска». Супрацоўнічаў у рэдакцыі да студзеня 1928 года.

*Ліст К. Чорнага да Алесі Александровіч ад 27 жніўня 1944 г. (зб. «Кузьма Чорны». Мінск, 1959, стар. 162).*

*Май, 24—29*

У «Савецкай Беларусі» надрукавана апавяданне «Ноч пры дарозе».

*Май*

У час. «Маладняк», № 5 надрукавана апавяданне «Дзякуй богу, як шклянка».

*Верасень, 23—25, кастрычнік, 1, 2*

У «Савецкай Беларусі» надрукавана апавяданне «Максімка».

*Кастрычнік, 7 і 9*

У «Савецкай Беларусі» надрукаваны арт. З. Бядулі «Б'юцца ў адчыненыя дзверы». У якасці дадатнага прыкладу тых пісьменнікаў, што знаходзяць цікавыя сюжэты, аўтар называе Кузьму Чорнага і Максіма Гарэцкага.

*Кастрычнік, 14*

У газ. «Беларуская вёска» апублікавана замалёўка «Як у дзень ураджаю церабілаўцы ў людзі выйшлі».

*Кастрычнік, 16 і 17*

У «Савецкай Беларусі» надрукавана апавяданне «Быльнікавы межы» з падзагалоўкам «Малюнак».

*Снежань, 13, 14*

У «Савецкай Беларусі» надрукавана апавяданне «Мяшчане ў густой пары».

*Снежань, 27*

У «Савецкай Беларусі» надрукавана апавяданне «Вясковая ветэрынарыя».

## 1925

*Студзень*

Апублікавана апавяданне К. Чорнага «Новыя людзі».

*«Полымя», № 1*

У час. «Маладыя араты» (№ 1) пад псеўданімам Сусед Вясёлы надрукавана апавяданне «Заработак».

У час. «Маладыя араты» (№ 2) пад псеўданімам Сусед Вясёлы надрукавана апавяданне «Папоўскі вялікдзень» (Гутарка царкоўнага папячыцеля).

*Люты, 9*

К. Чорны прачытаў сваё апавяданне «Бяздонне» членам мінскай філіі «Маладняка».

*«Полымя», № 2, стар. 206;*
*«Савецкая Беларусь», 11 лютага*

*Люты, 14*

У Мінску, у клубе КІМа, адбыўся вечар «Маладняка». Даклад

зрабіў А. Бабарэка. Кузьма Чорны і Паўлюк Трус чыталі свае творы.

*«Савецкая Беларусь», 17 лютага*

*Сакавік*

У час. «Беларуская работніца і сялянка», № 3 надрукавана апавяданне «Радасць жанчыны».

*Красавік*

Апавяданне «Свята працы і свету» надрукавана ў «Беларускай работніцы і сялянцы», № 6.

*Май, 12, 13, 14*

У «Савецкай Беларусі» надрукавана апавяданне «Мельнікі».

*Май, першая палова*

Надрукавана апавяданне «Фэст» пад псеўданімам Сусед Вясёлы.

К. Чорны разам з А. Александровічам, П. Трусам увайшоў у склад Прэзідыума мінскай філіі «Маладняка».

*«Малады араты», № 3*

*Май, 26 і 27*

У «Савецкай Беларусі» надрукавана апавяданне «Не пі густога чаю».

*Май*

Апавяданне «У вёсцы» надрукавана ў час. «Малады араты», № 4. Перапрацавана ў 1930 г. і змешчана ў кн. «Выбраныя апавяданні» (1932) пад загалоўкам «Малюнак».

Выйшаў зборнік твораў К. Чорнага пад загалоўкам «Апавяданні».

*«Трибуна искусства», № 4*

Надрукавана апавяданне «Жаночая праўда і мужчынская крыўда».

*«Беларуская работніца і сялянка», № 7*

*Чэрвень, 9*

Час. «Трибуна искусства», № 14 паведамляе аб тым, што К. Чорны заканчвае драму ў 5 дзеях з сучаснага жыцця. (Магчыма, драма пад назвай «Вуліца»).

*Чэрвень*

У час. «Маладняк», № 6 апублікавана апавяданне «Срэбра жыцця» (датуецца 30 лістапада 1924 г.).

*Ліпень*

У час. «Маладняк», № 7 надрукавана апавяданне «Забойства» (датуецца сакавіком 1925 г.).

*Жнівень, да 2*

Разам з Я. Купалам, А. Гурло, А. Дударом, М. Чаротам, У. Ду-

боўкам, К. Крапівой, П. Трусам і інш. удзельнічаў у літаратурным вечары, прысвечаным наладжванню культурнага шэфства над гуртком ваенкораў Мінскага Беларускага палка.

*«Савецкая Беларусь», 2 жніўня*

*Жнівень*

Надрукавана апавяданне «Па дарозе».

*«Маладняк», № 8*

*Жнівень — верасень*

Змешчана сцэна-сатыра К. Чорнага «Не пішы чорт ведае як».

Здадзены ў друк чарговыя нумары маладнякоўскай кніжніцы (бібліятэкі): № 11 — Кузьма Чорны. Апавяданні.

*«Маладняк», 1925, № 9, стар. 65—70; 121*

*Верасень, 9*

У «Савецкай Беларусі» змешчан нарыс пад назвай «Па ўкраінскіх прасторах» (Падарожныя ўражанні).

*Верасень, 13*

«Савецкая Беларусь» паведамляе, што здаецца ў друк зборнік апавяданняў К. Чорнага «Срэбра жыцця».

*Верасень, 19*

У «Савецкай Беларусі» надрукаваны ліст К. Чорнага з Крыма пад загалоўкам «На курортах».

*Верасень*

К. Чорны скончыў камедыю з гарадскога жыцця.

*«Полымя», № 7, стар. 185*

У сувязі з хваробай вымушаны быў кінуць вучобу. «Я прошел два курса университета. В 1925 г. у меня начал развиваться туберкулез легких, и я вынужден был оставить учебу...»

У гэтым жа годзе пачаў працаваць сакратаром у газ. «Беларуская вёска».

*К. Чорны. Аўтабіяграфія, 1943*

*Верасень — кастрычнік*

Выйшаў з друку зборнік апавяданняў «Срэбра жыцця».

*«Чырвоны сцяг», № 5—6; «Полымя», № 7, стар. 184*

*Кастрычнік, 9*

У «Савецкай Беларусі» надрукавана імпрэсія «Восень і радасць» (Настроі).

*Кастрычнік, да 30*

К. Чорны і Я. Пушча выехалі ў Гомель і Слуцк для правядзення прадз'ездаўскіх канферэнцый.

*«Савецкая Беларусь», 30 кастрычніка*

*Лістапад, 1—2*

К. Чорны прымаў удзел у рабоце першай акруговай канферэнцыі слуцкай філіі «Маладняка». З дакладам аб літаратурных кірунках беларускай літаратуры і суседніх літаратур выступіў Я. Пушча.

*«Савецкая Беларусь», 15 лістапада*

*Лістапад, 22*

У «Савецкай Беларусі» апублікаваны ўрывак з апавядання «Па дарозе».

*Лістапад, 25 і 26*

Нарыс пад назвай «У роднай глушы» апублікаваны ў «Савецкай Беларусі».

*Снежань, 16*

Урывак з апавядання «Снегавыя дарогі» пад назвай «Мяцеліца» апублікаваны ў «Савецкай Беларусі».

## 1926

*Люты — сакавік*

Апублікавана апавяданне «Буланы» (датуецца 1925 г.).

*«Маладняк», № 11*

*Сакавік, да 4*

З рэдакцыі «Беларускай вёскі» накіраваны на працу ў Інбелкульт у якасці рэдактара выдавецкага аддзела. Адначасова з К. Чорным тут працавалі Я. Пушча — сакратаром літкамісіі і А. Гурло — сябрам слоўнікавай (правапісна-тэрміналагічнай) камісіі.

*«Савецкая Беларусь», 4 сакавіка*

*Сакавік, 21*

У «Беларускай вёсцы» надрукаваны артыкул «У рэдакцыйным катле», прысвечаны пятай гадавіне існавання газеты.

*Сакавік, 21—23*

Прымаў удзел у з'ездзе селькораў газ. «Беларуская вёска», які адкрыўся ў Мінску 21 сакавіка. Разам з Я. Купалам, Я. Коласам, К. Крапівой і М. Чаротам быў абраны ў Прэзідыум з'езда.

*«Беларуская вёска», 23 сакавіка*

*Сакавік, да 27*

Выйшаў з друку зборнік апавяданняў пад назвай «Па дарозе» (Мінск, выд. ЦБ «Маладняка»).

*«Савецкая Беларусь», 27 сакавіка*

*Сакавік*

Пад псеўданімам Сусед Вясёлы ў «Маладым аратым», № 6 змешчана апавяданне «Вучоны».

*Красавік, пасля 12*

На бліжэйшым сходзе мастацкай рады БДТ будзе зачытана драма К. Чорнага «Вуліца». (Драма не захавалася).

*«Савецкая Беларусь», 12 красавіка*

*Красавік, да 14*

Абраны кіраўніком драматургічнай секцыі пры мінскай філіі «Маладняка».

*«Чырвоная змена», 14 красавіка*

*Май, 9*

У «Савецкай Беларусі» апублікавана апавяданне «Пробуюць грушы шумець».

*Май, 21*

У «Беларускай вёсцы» апублікавана апавяданне «На пыльнай дарозе».

*Май, да 26*

Падпісаў разам з П. Глебкам, У. Дубоўкам, К. Крапівой, М. Лужаніным, А. Бабарэкам, Я. Пушчай, П. Трусам, В. Шашалевічам ліст аб выхадзе з «Маладняка».

*«Савецкая Беларусь», 10 ліпеня*

*Май, 26*

Утварылася беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне «Узвышша». У склад яго акрамя К. Чорнага ўвайшлі А. Бабарэка, З. Бядуля, П. Глебка, С. Дарожны, У. Дубоўка, К. Крапіва, М. Лужанін, Я. Пушча, В. Шашалевіч.

*«Узвышша», 1927, № 1, стар. 164*

*Май*

У час. «Чырвоны сейбіт», № 5 з подпісам Максім Алешнік змешчана апавяданне «Малатарня».

У час. «Малады араты», № 9 надрукавана апавяданне «Гутарка ноччу ў дарозе» (датуецца 1925 г.).

*Чэрвень, 5*

Разам з Я. Купалам, З. Жылуновічам, З. Бядулем, В. Шашалевічам, Е. Міровічам і інш. падпісаў «Статут беларускага таварыства драматычных пісьменнікаў і кампазітараў».

*Чэрвень, да 19*

Здаў у Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі зборнік апавяданняў «Хвоі гавораць». Яго ж зборнік «Пачуцці» ўжо знаходзіцца ў друку.

*«Звязда», 19 чэрвеня*

*Чэрвень*

У час. «Маладняк», № 4 апублікавана апавяданне «Старыя сляды». У зб. «Хвоі гавораць» яно змешчана пад назвай «Захар Зынга».

*Ліпень, 9 і 11*

У «Чырвонай змене» апублікавана апавяданне «Як мы пакінулі хутар» (датуецца 3 ліпеня 1926 г.).

*Ліпень*

К. Чорны абраны старшынёй Прэзідыума ва «Узвышшы», К. Крапіва — памочнікам, А. Бабарэка — сакратаром.

Выйшлі з друку зборнікі апавяданняў «Пачуцці» і «Хвоі гавораць».

*«Полымя», № 7, стар. 189*

*Жнівень, 29*

Апавяданне «На шлюбе» надрукавана ў газ. «Беларуская вёска».

*Кастрычнік, 19*

У першым нумары «Чырвонага сейбіта» (літаратурна-мастацкага дадатку да газ. «Беларуская вёска») апублікавана апавяданне К. Чорнага «Выпадак увосень» (датуецца 17 кастрычніка 1926 г.).

*Лістапад*

Т. Глыбоцкі (А. Дудар) выступае з арт. «Аб фальшы камертонаў», у якім крытыкуе «Узвышша», у прыватнасці творчасць У. Дубоўкі, Я. Пушчы і К. Чорнага.

У гэтым жа нумары ў «Хроніцы» адзначана, што К. Чорны падрыхтаваў да друку творы «Зямля», «Вясна» і драму ў 4 дзеях «Вуліца».

*«Маладняк», № 9, стар. 107*

## 1927

*Студзень, 25*

Урывак з апавядання «Снегавыя дарогі» (датуецца 1925 г.) апублікаваны ў «Чырвоным сейбіце», № 6—7.

*Люты, 11, 13, 16, 18, 23, 25*

У «Беларускай вёсцы» апублікавана апавяданне «І вада заліта крывёю».

*Люты, 25*

Надрукавана апавяданне «Таварыш Сімянюк» у «Чырвоным сейбіце», № 8—9.

*Люты, 27*

Пад псеўданімам М. Р-кі К. Чорны змяшчае ў «Беларускай вёсцы» артыкул «З роднай глушы».

*Сакавік, 30*

У «Беларускай вёсцы» пад псеўданімам Сусед Вясёлы апублікавана апавяданне «Актывісты» (Жыццёвая казка).

*Сакавік*

Апублікавана апавяданне «Сцены» (датуецца лістапад — снежань 1926 г.).

*«Узвышша», № 1*

Пачаў друкавацца раман «Вецер і пыл» у час. «Полымя», 1927, № 3. Урывак пад назвай «Міхал Макарэвіч» друкаваўся ў час. «Чырвоны сейбіт», 1928, № 9. Урывак пад назвай «Местачкоўцы» — у час. «Узвышша», 1929, № 1. Урывак пад назвай «На пасёлку» — у час. «Узвышша», 1929, № 3. Раман застаўся не завершаны.

*Май, 5*

У «Беларускай вёсцы» надрукаваны фельетон К. Чорнага «Рэдакцыйны госць» (З рэдакцыйнага жыцця).

*Май, 13, 14 і 15*

У «Савецкай Беларусі» З. Жылуновіч надрукаваў артыкул «Ці сапраўды «Узвышша» ёсць «Узвышша»?», у якім крытыкуецца апавяданне К. Чорнага «Сцены».

*Май, 25*

Апавяданне «Спатканне» надрукавана ў газ. «Беларуская вёска».

*Май*

Ва «Узвышшы», № 2 апублікаваны пачатак рамана К. Чорнага «Сястра» (Працяг у №№ 3, 4, 5, 6 за 1927 г. і №№ 1, 2, 3, 4 за 1928 г.).

*Ліпень, 10*

У «Беларускай вёсцы» надрукавана апавяданне «Буры».

*Ліпень*

Апавяданне «Начлег у вёсцы Сінегах» апублікавана ў час. «Беларуская работніца і сялянка», № 7 (датуецца ліпенем 1927 г.).

*Жнівень, 21*

У «Беларускай вёсцы» надрукавана апавяданне пад псеўданімам Сусед Вясёлы «Для ачысткі голасу».

У «Звяздзе» змешчана апавяданне «Трагедыя майго настаўніка».

*Лістапад*

Ажаніўся з Рэвекай Ізраілеўнай Свераноўскай.

## 1928

*Студзень*

У гэты час К. Чорны кінуў працу ў рэдакцыі і стаў займацца толькі літаратурнай працай.

*К. Чорны. Аўтабіяграфія, 1940*

*Люты, 27*

Піша аўтабіяграфічны ліст да Клейнбарта Л. М. «Апроч рамана і аповесці займаюся цяпер драматургіяй, дзе імкнуся даць жывых людзей, як самае важнае, што жыве і дзейнічае сярод падзей на свеце, у іх, з імі і на фоне іх. Праблема жывога чалавека займае мяне ўвесь час. Гэтае фактычнае наватарства ў беларускай літаратуры прымушае шукаць новых формаў, працаваць над імі».

*ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 218, л. 1*

*Сакавік, да 25*

Увайшоў у арганізаваную пры Наркамасветы камісію па правядзенню 60-гадовага юбілею Максіма Горкага.

*«Звязда», 25 сакавіка*

*Сакавік*

У «Чырвоным сейбіце», № 3 надрукавана апавяданне «Не хачу так».

*Красавік, 5*

Прысутнічаў на нарадзе беларускіх пісьменнікаў па пытанню ўтварэння рэпертуару для беларускіх тэатраў. У рабоце нарады прынялі ўдзел: Я. Колас, К. Крапіва, М. Чарот, У. Галубок, А. Александровіч, З. Бядуля, В. Сташэўскі і інш.

*«Савецкая Беларусь», 7 красавіка*

*Красавік, да 12*

Запрошаны для ўдзелу ў нарадзе па пытанню «Якая п'еса патрэбна вёсцы?». Запрашэнне атрымалі таксама У. Галубок, В. Сташэўскі, М. Грамыка, Ц. Гартны, Я. Колас, Я. Купала, М. Зарэцкі, М. Чарот, І. Гурскі, В. Вольскі, В. Шашалевіч, П. Глебка і інш.

*«Звязда», 12 красавіка*

*Красавік*

К. Чорны апублікаваў артыкул «Максім Горкі» і пераклад на беларускую мову апавядання М. Горкага «Едуць».

*«Чырвоны сейбіт», № 4—5*

*Май, 6*

У «Звяздзе» апублікавана апавяданне «Веснавыя дарогі» (датуецца 22 красавіка 1928 г.).

*Май, 28*

На сходзе, прысвечаным другой гадавіне існавання «Узвышша», К. Чорны разам з А. Бабарэкам і У. Дубоўкам быў абраны ў рэдакцыйную камісію.

*«Узвышша», № 3, стар. 169*

*Май*

Надрукаваў артыкул «Небеларуская мова ў беларускай літаратуры». Змясціў рэцэнзію на кнігу: Васіль Стэфанік «Твори». Держ. вид-во Украіни.

*«Узвышша», № 5*

*Чэрвень, да 3*

Абраны ў склад рэдакцыйнай калегіі час. «Узвышша». Акрамя К. Чорнага ў рэдакцыю ўвайшлі: У. Дубоўка, К. Крапіва, З. Бядуля і інш.

*«Звязда», 3 чэрвеня*

*Чэрвень — ліпень*

Надрукаваў пераклад адной з найлепшых навел В. Стэфаніка «Кляновае лісцейка».

*«Чырвоны сейбіт», № 6—7*

*Ліпень — жнівень*

Змешчана апавяданне «Вераснёвыя ночы».

*«Узвышша», № 4*

*Верасень, да 13*

Разам з М. Зарэцкім і З. Бядулем уваходзіў у стылістычную камісію па выданню асобных твораў У. І. Леніна.

*«Савецкая Беларусь», 13 верасня*

*Верасень*

Выйшаў з друку зб. апавяданняў «Хвоі гавораць» (выд. другое).

*«Летапіс беларускага друку», № 8—9*

У час. «Чырвоны сейбіт», № 9 за подпісам М. Р. надрукаваны артыкул «Леў Талстой».

*Кастрычнік, 23*

«Звязда» паведамляе, што К. Чорны працуе цяпер над гістарычным раманам «Вялікае выгнанне» (Раман аб імперыялістычнай вайне).

*Лістапад, да 4*

Здаў у друк зборнік апавяданняў «Вераснёвыя ночы».

*Літаратурны дадатак да «Савецкай Беларусі», 4 лістапада*

*Лістапад, 5*

Газета «Звязда» паведамляе, што 5 лістапада ў кіно «Культура» адбудзецца вялікі вечар беларускай мастацкай літаратуры і музыкі. З чыткай сваіх твораў акрамя К. Чорнага будуць выступаць: Я. Купала, Я. Колас, Ц. Гартны, М. Чарот, М. Зарэцкі, З. Бядуля, А. Александровіч і інш.

*Лістапад, 24*

Нарадзілася дачка Рагнеда.

*Снежань*

У «Звяздзе» надрукаваны артыкул К. Чорнага «Працу пісьменніка павінны лічыць працаю, а не забаўкаю» (Водгук на арт. З. Бядулі «Умовы працы нашых пісьменнікаў»).

Выйшаў з друку асобным выданнем раман «Зямля».

*«Летапіс беларускага друку», № 12;*
*«Звязда», 3 лютага;*
*«Савецкая Беларусь», 3 лютага*

## 1929

*Люты, 23*

К. Чорны напісаў ліст у газ. «Звязда» аб яго працы над раманам «Зямля».

*«Звязда», 24 лютага*

*Люты*

Апублікавана апавяданне К. Чорнага «Ліст Якуба Малькевіча» (датуецца лютым 1929 г.) і дзве рэцэнзіі на раман К. Чорнага «Зямля» — С. Нортмана і Я. Плашчынскага.

*«Узвышша», № 2, стар. 7—17, 94—95, 98—99*

*Сакавік*

Надрукавана апавяданне К. Чорнага «На пасёлку».

*«Узвышша», № 3*

*Красавік, да 10*

Выйшаў у свет зборнік апавяданняў «Вераснёвыя ночы».

*«Звязда», 10 красавіка;*
*«Савецкая Беларусь», 12 красавіка*

*Красавік, 17*

«Савецкая Беларусь» паведамляе, што ў Доме пісьменніка па-

вінен адбыцца сход літаратурнай секцыі Навуковага марксісцкага таварыства. На парадку дня даклад Р. Мурашкі аб рамане К. Чорнага «Зямля».

*Май, 1*

У «Беларускай вёсцы» надрукаваны ўрывак з аповесці К. Чорнага «Вясна».

*Май, 26*

Выступіў на адкрыцці трэцяга гадавога сходу літаратурнага згуртавання «Узвышша». Даклад зрабіў А. Бабарэка. К. Чорны абраны старшынёй Прэзідыума «Узвышша», К. Крапіва — нам. старшыні і А. Бабарэка — сакратаром. Акрамя таго, К. Чорны ўвайшоў у склад рэдакцыйнай калегіі.

*«Узвышша», № 5, стар. 120*

*Май*

Надрукавана апавяданне «Справа Віктара Лукашэвіча».

*«Узвышша», № 5*

*Ліпень — жнівень*

У 7 і 8 нумарах час. «Узвышша» пачала друкавацца аповесць К. Чорнага «Лявон Бушмар». Канец аповесці апублікаваны ў № 9—10.

*Жнівень*

Надрукаваны артыкул «Заўвага да перакладаў мастацкай літаратуры».

*«Узвышша», № 8, стар. 100—101*

*Верасень, 6*

У «Беларускай вёсцы» надрукаваны артыкул «Няма больш Паўлюка Труса».

*Кастрычнік*

Выдавецтва «Красная газета» (РСФСР) выпусціла альманах сучаснай беларускай літаратуры. Тут змешчаны творы К. Чорнага «Мельники» і «В дороге», а таксама пераклады твораў Я. Купалы, Я. Коласа, А. Александровіча, Я. Пушчы, М. Зарэцкага і інш.

*«Маладняк», № 10, стар. 132*

## 1930

*Красавік*

К. Чорны выязджаў у творчую камандзіроўку на Навабеліцкую запалкавую фабрыку (Гомельшчына).

*«Полымя», № 4, стар. 183*

*Красавік — май*

У час. «Узвышша», № 4—5 пачаў друкавацца раман «Ідзі, ідзі». Працяг у №№ 6, 7, 8, 9—10.

*Ліпень*

У час. «Полымя», № 7 апублікавана навела «Сям'я Юрыя Гарэйкі» (датуецца чэрвенем 1930 г.).

*Кастрычнік, да 11*

Разам з Я. Купалам, Я. Коласам, З. Бядулем, Ц. Гартным, П. Глебкам, К. Крапівой, В. Сташэўскім, І. Харыкам, М. Чаротам і інш. выступіў у абарону сялянства Заходняй Украіны.

*«Звязда», 11 кастрычніка*

*Лістапад*

Выйшлі з друку наступныя творы К. Чорнага: «Нянавісць» (Апавяданні). Мінск. БДВ. 1930; «Буры» (Апавяданне). Мінск. БДВ. 1930; «Лявон Бушмар» (Аповесць). Мінск. БДВ. 1930.

*«Маладняк», № 11, стар. 141*

*Лістапад — снежань*

Апублікавана аповесць «Вясна».

*«Полымя», № 11—12*

## 1931

*Студзень, 3*

У складзе дэлегацыі Савецкай Беларусі К. Чорны прыбыў у Маскву на Тыдзень Савецкай Беларусі. Сярод дэлегатаў — А. Александровіч, М. Лынькоў, К. Крапіва, П. Глебка, П. Галавач, Р. Мурашка, М. Чарот і інш. На Беларускім вакзале дэлегацыю сустрэлі Л. Ляонаў, П. Паўленка, А. Селіваноўскі і інш.

*«Литературная газета», 4 студзеня*

*Студзень, 4*

У сувязі з Тыднем Савецкай Беларусі, які праходзіў з 3 па 10 студзеня, у «Литературной газете» разам з творамі М. Лынькова, М. Чарота, А. Александровіча, М. Хведаровіча і інш. было надрукавана апавяданне К. Чорнага «Путь Вингеля».

*Студзень, да 14*

Разам з рускімі і беларускімі пісьменнікамі К. Чорны падпісаў пратэст савецкіх пісьменнікаў супраць траўлі М. Горкага, цкавання яго ў заходнім друку.

*«Литературная газета», 14 студзеня*

*Люты, 25*

К. Чорны ўваходзіць у склад дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў, вітаўшых X Усебеларускі з'езд Саветаў.

*«Маладняк», № 3, стар. 131*

*Красавік*

У час. «Узвышша», № 4 апублікаваны раман «Бацькаўшчына» (першая частка). Працяг рамана — у час. «Узвышша», №№ 5, 6—7, 8 і канец — у № 9.

*Красавік — май*

Адбыліся вечары, прысвечаныя творчасці К. Чорнага.

Дакладчыкам выступіў А. Кучар. У спрэчках акрамя К. Чорнага выступілі П. Глебка, К. Крапіва і інш.

*«Маладняк», № 5, стар. 124*

*Жнівень, 17*

Прысутнічаў на Першым Усесаюзным з'ездзе польскіх пралетарскіх пісьменнікаў (адкрыўся 17 жніўня).

*«Савецкая Беларусь», 20 жніўня*

*Жнівень, да 20*

Удзельнічаў у сустрэчы беларускіх і яўрэйскіх пісьменнікаў з дэлегатамі Першага Усесаюзнага з'езда польскіх пралетарскіх пісьменнікаў.

*«Савецкая Беларусь», 20 жніўня*

*Жнівень, да 23*

Разам з польскімі і беларускімі пісьменнікамі — Б. Ясенскім, М. Лыньковым, П. Броўкам, І. Харыкам, В. Сташэўскім, М. Лужаніным і інш. падпісаў рэзалюцыю «Прэч крывавыя рукі ад замежных нашых братоў», прынятую на інтэрнацыянальным вечары.

*«Литературная газета», 25 жніўня*

*Жнівень, да 28*

Выйшла з друку асобнай кнігай аповесць «Вясна». Для гэтага выдання твор быў дапрацаваны аўтарам.

*«Савецкая Беларусь», 28 жніўня;*
*«Летапіс беларускага друку», № 7—8*

*Лістапад 25 — снежань 3*

Прымаў удзел і выступіў у спрэчках на канферэнцыі Мінскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў.

*«Звязда», 25, 28 лістапада,*
*1, 3 снежня*

*На працягу года*

Пераклаў на беларускую мову твор Карэла Ванэка «Прыгоды ўдалага ваякі Швэйка» (частка шостая). БДВ, 1931.

*Студзень*

Выйшаў у свет зборнік К. Чорнага «Брыгадзіравы апавяданні».

*«Летапіс друку БССР», № 1*

Уваходзіць у склад супрацоўнікаў час. «Беларусь калгасная».

*Сакавік, 6*

У газ. «Літаратура і мастацтва» надрукаваны артыкул К. Чорнага «Рэальная шматграннасць і філасофскае адзінства». Да артыкула маецца наступная заўвага аўтара: «Свае «пісьменніцкія нататкі» пішу адначасна з новымі творамі і на іх матэрыяле».

*Сакавік, 18*

Разам з З. Бядулем, П. Глебкам, Т. Кляшторным, К. Крапівой, М. Лужаніным і інш. падпісаў пастанову літаратурна-мастацкага згуртавання «Узвышша» аб самароспуску.

*«Літаратура і мастацтва», 18 сакавіка; «Узвышша», 1931, № 11—12, стар. 178—180*

*Красавік*

Выйшлі асобнай кнігай «Выбраныя апавяданні».

*«Летапіс друку БССР», № 4*

*Чэрвень, 1*

Адбылося першае пасяджэнне Аргкамітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі. К. Чорны разам з М. Клімковічам, М. Лыньковым, А. Александровічам, Х. Дунцом абраны ў Прэзідыум Аргкамітэта. Акрамя таго, К. Чорны ўвайшоў у дэлегацыю Аргкамітэта Усесаюзнага Саюза савецкіх пісьменнікаў.

*«Савецкая Беларусь», 5 чэрвеня*

*Чэрвень, 18*

Напісана апавяданне «Злачынца пакараны» (надрукавана ў час. «Чырвоная Беларусь», № 16).

*Чэрвень, 27*

К. Чорны напісаў п'есу «Бацькаўшчына» для БДТ-1. Цяпер выходзіць з друку яго раман «Бацькаўшчына».

З 12 нумара К. Чорны ўвайшоў у склад рэдкалегіі газеты «Літаратура і мастацтва».

*«Літаратура і мастацтва», 27 чэрвеня*

*Чэрвень*

У Бабруйск прыязджае брыгада беларускіх пісьменнікаў. У склад яе ўваходзяць: К. Чорны, А. Александровіч, Ц. Даўгапаль-

скі, І. Барашка, Б. Мікуліч і інш. Мэта паездкі — папулярызацыя апошніх пастаноў партыі аб перабудове літаратурных арганізацый. Тая ж брыгада выязджала ў Гомель і Жлобін.

*«Камуніст», 27 чэрвеня;*
*«Беларусь калгасная», № 6—7*

*Чэрвень — ліпень*

Выйшла ў свет кніга К. Чорнага «Два апавяданні» (Бібліятэка для малапісьменных).

*«Летапіс друку БССР», № 6—7;*
*«Кніга — масам», № 6—7*

У час. «Беларусь калгасная», № 6—7 надрукавана п'еса «Лета».

*Ліпень, да 10*

Разам з М. Лыньковым і М. Клімковічам К. Чорны вылучаны Аргкамітэтам ССП БССР у тройку па падрыхтоўцы арганізацыйных пытанняў да з'езда пісьменнікаў Беларусі.

*«Літаратура і мастацтва», 10 ліпеня*

*Жнівень, да 18*

К. Чорны разам з М. Лыньковым, А. Александровічам і І. Харыкам абраны ў склад Усесаюзнага Аргкамітэта Саюза пісьменнікаў.

*«Правда», 18 жніўня;*
*«Литературная газета», 23 жніўня*

*Жнівень, да 20*

Увайшоў у састаў рэдкалегіі час. «Полымя рэвалюцыі» (адказны рэдактар П. Галавач), які пачаў выходзіць замест час. «Полымя».

*«Полымя рэвалюцыі», № 1, стар. 175*

*Жнівень, пасля 24*

БДТ-1 да 15-годдзя Кастрычніка будзе ставіць п'есу К. Чорнага «Бацькаўшчына».

*«Звязда», 24 жніўня*

*Жнівень*

Надрукавана апавяданне «Семнаццаць год».

*«Полымя рэвалюцыі», № 2*

*Верасень, да 10*

Разам з другімі беларускімі пісьменнікамі падпісаў прывітанне Я. Купалу ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння народнага паэта. Сярод падпісаўшых: П. Броўка, П. Глебка, А. Куляшоў, К. Крапіва, П. Галавач, А. Кучар, Ю. Таўбін і інш.

*«Літаратура і мастацтва», 10 верасня*

*Верасень, да 18*

К. Чорны здаў у друк п'есу «Бацькаўшчына».

*«Савецкая Беларусь», 18 верасня*

*Верасень, да 25*

Разам з П. Броўкам, П. Галавачом, П. Глебкам, А. Куляшовым, К. Крапівой, С. Баранавых, Я. Скрыганам і інш. падпісаў прывітанне Максіму Горкаму ў сувязі з 40-годдзем літаратурнай дзейнасці вялікага пралетарскага пісьменніка.

*«Літаратура і мастацтва», 25 верасня*

*Лістапад, да 6*

У сувязі з XV гадавінай БССР К. Чорны разам з Я. Купалам, М. Чаротам, А. Александровічам, М. Лыньковым, К. Крапівой, Б. Платонавым, У. Уладамірскім, Л. Рахленкам і інш. падпісаў зварот пісьменнікаў і артыстаў Беларусі «Да ўсіх работнікаў культуры БССР».

Да канца года, паведамляе газета «Літаратура і мастацтва», выйдзе з друку першы том Збору твораў К. Чорнага.

*«Літаратура і мастацтва», 6 лістапада*

*Лістапад, да 21*

Адбылася прэм'ера ў БДТ-1 п'есы К. Чорнага «Бацькаўшчына».

*«Звязда», 21 лістапада*

*Снежань, першая палова*

За раман і п'есу «Бацькаўшчына» атрымаў прэмію Наркамасветы БССР, якая была абвешчана за лепшыя літаратурна-мастацкія творы, прысвечаныя 15-годдзю Кастрычніка.

*«Літаратура і мастацтва», 15 снежня*

*Снежань, 10*

«Звязда» прысвяціла цэлую старонку спектаклю па п'есе К. Чорнага пад агульным загалоўкам: «Бацькаўшчына» — новы этап у развіцці БДТ-1».

На гэтай жа старонцы К. Чорны апублікаваў артыкул «Пра сваю п'есу». «Бацькаўшчына»,— пісаў пісьменнік,— належыць да цыкла задуманых мною твораў, якія, разам узятыя, павінны даць карціну развіцця чалавечага грамадства за час ад паншчыны да бяскласавага грамадства...»

*Снежань, да 11*

Разам з М. Клімковічам, М. Лыньковым, П. Галавачом, І. Харыкам, В. Вольскім і інш. уваходзіць у склад камісіі для правядзення святкавання 50-гадовага юбілею з дня нараджэння Якуба Коласа.

*«Звязда», 11 снежня*

*Снежань, 15*

У газ. «Літаратура і мастацтва» Б. Мікуліч надрукаваў артыкул «Дыскусійнае слова пра «Бацькаўшчыну».

*Снежань, 24*

«Звязда» паведамляе аб дыспуце ў Беларускай Акадэміі навук па спектаклі «Бацькаўшчына» ў БДТ-1. Дыспут павінен адбыцца 25 снежня. На ім выступяць з дакладамі рэжысёр спектакля Л. М. Літвінаў і прафесар М. М. Піятуховіч.

## 1933

*Студзень, 18*

«Літаратура і мастацтва» паведамляе: «Кузьма Чорны па заданню тэатра грунтоўна перапрацаваў «Бацькаўшчыну», так, замест апошніх 3-й і 4-й дзей, напісана зусім новая 3-я дзея, якая больш глыбока і кампактна завяршае развіццё галоўных вобразаў у п'есе».

У гэтым жа нумары ёсць паведамленне аб тым, што 1 лютага БДТ-1 выязджае з пастаноўкай «Бацькаўшчыны» ў Маскву.

*Люты, пасля 21*

У пачатку сакавіка К. Чорны і М. Гарэцкі выязджаюць у творчую камандзіроўку на кінафабрыку ў Ленінград.

*«Савецкая Беларусь», 21 лютага*

*Люты, 24—27*

К. Чорны удзельнічаў у рабоце Першага пашыранага пленума Аргкамітэта ССПБ.

*«Літаратура і мастацтва», 27 лютага*

*Люты, 28*

Выступіў у спрэчках на Першым пашыраным пленуме Аргкамітэта ССПБ. Сярод выступіўшых: І. Харык, А. Александровіч, Р. Мурашка, Х. Дунец і інш.

*«Звязда», 1 сакавіка*

*Сакавік, 17*

У «Литературной газете» змешчаны ўрывак з п'есы «Бацькаўшчына» на рускай мове пад назвай «В хате Леопольда Гушки».

*Сакавік, 19*

У газ. «Літаратура і мастацтва» апублікавана прамова К. Чорнага на Першым пашыраным пленуме Аргкамітэта ССПБ.

*Сакавік*

Апублікаваны артыкул К. Чорнага «Вялікая і малая тэма» (Разварот творчага замыслу).

*Час. «Заклік», № 3*

Надрукавана п'еса «Бацькаўшчына» (Мантаж для клубных пастановак).

*Час. «Напагатове», № 2—3*

*Красавік, да 12*

Да нарады па драматургіі К. Чорны апублікаваў артыкул «Заўвагі пра драматургію».

*«Літаратура і мастацтва», 12 красавіка*

*Красавік, 15—19*

К. Чорны ўдзельнічаў у Першай Усебеларускай нарадзе па драматургіі, скліканай Аргкамітэтам ССПБ.

*«Літаратура і мастацтва», 23 красавіка*

*Красавік, 23*

У газ. «Літаратура і мастацтва» апублікаваны артыкул К. Чорнага «Сіла нашай культуры — у інтэрнацыяналізме» (Да гадавіны з часу апублікавання пастановы ЦК ВКП(б) аб перабудове літаратурных арганізацый). У гэтым жа нумары надрукавана яго апавяданне «Трухлявае кола».

*Красавік*

Апублікавана апавяданне «Брыгадзірава памылка».

*«Полымя рэвалюцыі», № 4*

*Май, да 12*

Абраны ў склад часовага бюро секцыі драматургаў БССР.

Накіраваны ў Бабруйск для правядзення падрыхтоўчай работы да з'езда ССПБ і правядзення райканферэнцый.

*«Літаратура і мастацтва», 12 мая*

*Чэрвень, 16*

К. Чорны выступіў на вечары сустрэчы драматургаў з ударнікамі. Вечар быў прысвечаны конкурсу на лепшую п'есу.

*«Літаратура і мастацтва», 26 чэрвеня*

*Чэрвень, 26*

А. Кучар у газ. «Літаратура і мастацтва» надрукаваў артыкул «Бацькаўшчына» — новы варыянт пастаноўкі».

*Ліпень, да 9*

Прысутнічаў на вечары ў Доме пісьменнікаў. Вечар быў прысвечаны прыезду дэлегацыі мардоўскіх савецкіх пісьменнікаў (Нікул Эркай, А. Лук'янаў, С. Ляонцьеў). Вечар адкрыў М. Лынькоў. У прэзідыуме акрамя К. Чорнага былі Я. Купала, У. Галубок, П. Галавач і інш.

*«Літаратура і мастацтва», 9 ліпеня*

*Жнівень, 13*

У газ. «Літаратура і мастацтва» апублікаваны адкрыты ліст камсамольцаў Мінскага машынабудаўнічага завода «Камунар» Я. Купалу, Я. Коласу, З. Бядулю, Ц. Гартнаму, К. Чорнаму, К. Крапіве.

*Жнівень, 25*

К. Чорны напісаў заяву ў Дзяржаўнае выдавецтва (ЛіМ) з просьбай адтэрмінаваць здачу рукапісу рамана «Бацькаўшчына» да 7 верасня г. г. «з той прычыны, што ў трэцяй частцы рамана (пасля перарабкі ўсяго рамана) я прыпісваю яшчэ два новыя раздзелы, якія, на маю думку, павінны даць больш поўны малюнак рэвалюцыйнага змагання ў Заходняй Беларусі».

*«Літаратура і мастацтва», 27 чэрвеня 1975 г.*

*Верасень, 22*

Выступіў на пасяджэнні Аргкамітэта ССПБ пры абмеркаванні справаздачы польскай секцыі. Сярод выступіўшых — М. Лынькоў, П. Глебка, Р. Мурашка і А. Александровіч.

*«Літаратура і мастацтва», 29 верасня*

*Верасень, 29*

У газ. «Літаратура і мастацтва» змешчаны адказ К. Чорнага камсамольцам-«камунараўцам» са Случчыны (пісьмо да пісьменнікаў і драматургаў БССР надрукавана ў «Чырвонай змене», 18 верасня). «Мой новы раман (маецца на ўвазе «Трыццаць год».— *Рэд.*) — гэта раман аб моладзі, аб той моладзі, якая ў імперыялістычную вайну была ў гадах падросткаў, рэвалюцыю спаткала першым юнацтвам і ў наш час стаіць у шэрагах партыі».

*Верасень*

Кіруе секцыяй прозы, створанай пры кабінеце ўдарніка пры Доме пісьменнікаў.

*Кастрычнік, 1—5*

К. Чорны прысутнічаў на пасяджэнні Аргкамітэта ССПБ. Выступіў у спрэчках па пытанню аб падрыхтоўцы да Першага з'езда пісьменнікаў БССР.

*«Літаратура і мастацтва», 16 кастрычніка*

*Кастрычнік, 26*

Надрукаваны артыкул «Працу з кадрамі — у творчы план».

*«Літаратура і мастацтва», 26 кастрычніка*

*Кастрычнік*

Апублікавана апавяданне «Звяга».

*«Полымя рэвалюцыі», № 10*

*Лістапад, 29*

«Литературная газета» паведаміла, што ў сувязі з падрыхтоўкай да Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў на рускай мове будзе выдадзены твор К. Чорнага «Бацькаўшчына», а таксама «Дрыгва» Я. Коласа і «Над ракою Арэсай» Я. Купалы.

## 1934

*Студзень, да 14*

П'есай К. Чорнага «Бацькаўшчына» БДТ-1 адкрыў свой сезон. (П'еса ідзе ў новым літаратурным варыянце).

*«Звязда», 14 студзеня*

*Студзень, 16*

У «Звяздзе» надрукаваны ўрывак з рамана К. Чорнага «Трыццаць год» пад назвай «Спатканне».

*Люты, 4*

У «Литературной газете», якая прысвяціла цэлую старонку пісьменнікам Беларусі, змешчаны артыкул К. Чорнага «Писатель писателю — брат».

*Люты, 16*

Апублікаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва» артыкул К. Чорнага «Некалькі заўваг да вучобы пачынаючых пісьменнікаў».

*Люты*

У «Полымі рэвалюцыі», № 2 пачаў друкавацца раман у 2 частках «Трыццаць год». Працяг у № 3—4. (Завершана толькі першая частка рамана).

*Сакавік, да 15*

Брыгада Аргкамітэта ССПБ (П. Броўка, М. Клімковіч, М. Хведаровіч і інш.) плануе выезд у Гомель, дзе 15 сакавіка павінна адбыцца творчая справаздача К. Чорнага.

*«Літаратура і мастацтва», 12 сакавіка*

*Сакавік, 16*

«Літаратура і мастацтва» паведамляе, што выдавецтва «Советская литература» плануе выданне на рускай мове рамана К. Чорнага «Трыццаць год».

*Сакавік, 17*

«Літаратура і мастацтва» паведаміла, што К. Чорны выступіў у спрэчках у г. Добрушы на фабрыцы «Герой працы», дзе творчую справаздачу рабіў П. Броўка.

*Сакавік, 20—22*

К. Чорны выступіў у спрэчках на Усебеларускай нарадзе маладых празаікаў. Даклад «Праблема стылю ў творчасці маладых празаікаў» зрабіў Я. Бранштэйн.

*«Літаратура і мастацтва», 22 сакавіка;*
*«Звязда», 24 сакавіка*

*Сакавік*

Апублікаваны артыкул К. Чорнага «Наша мова дасягнула вялікага росквіту» ў кн. «Пісьменнікі БССР аб рэформе правапіса беларускай мовы» (Выд. Бел. Акад. навук. Мінск. 1934).

*«Летапіс друку БССР», № 3*

*Красавік, 7*

К. Чорны выступіў з дакладам «Вучоба і творчасць пачынаючых літаратараў» на Усебеларускім злёце літгурткоўцаў, які праходзіў у Мінску 5—7 красавіка.

*«Літаратура і мастацтва», 12 красавіка*

*Красавік, 23*

Разам з Я. Купалам, Я. Коласам, М. Лыньковым, І. Харыкам, Я. Бранштэйнам і інш. быў абраны ў Прэзідыум Другога пашыранага пленума Аргкамітэта ССП БССР.

*«Літаратура і мастацтва», 26 красавіка*

*Красавік, 24—25*

Прысутнічаў на з'ездзе пісьменнікаў Заходняй вобласці ў Смаленску.

Дэлегацыя сустракалася са студэнтамі Смаленскага педінстытута. На сустрэчы К. Чорны расказаў аб сваёй працы над раманам «Бацькаўшчына». Чыталі свае творы Я. Купала, А. Александровіч, М. Ісакоўскі.

*«Літаратура і мастацтва», 6 мая*

*Май, 8*

Прыняты ў члены Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР.

*«Літаратура і мастацтва», 12 мая*

*Чэрвень, 8*

У 72 нумары «Литературной газеты», цалкам прысвечаным Усебеларускаму з'езду савецкіх пісьменнікаў, змешчаны артыкул К. Чорнага, П. Глебкі і М. Клімковіча пад назвай «Белорусская литература к своему с'езду».

«Литературная газета» друкуе артыкул К. Чорнага «На новые высоты».

*Чэрвень, 8—14*

Прымаў удзел у рабоце Першага Усебеларускага з'езда савецкіх пісьменнікаў. Выступіў з дакладам аб рабоце з маладымі аўтарамі. Абраны ў склад Праўлення Саюза пісьменнікаў і дэлегатам на Першы з'езд ССП СССР з правам рашаючага голасу. Сярод дэлегатаў на Усесаюзны з'езд: Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, К. Крапіва, І. Харык і інш.

*«Звязда», 15 чэрвеня*

*Чэрвень, 20*

«Звязда» друкуе выказванні К. Чорнага, Я. Коласа і М. Лынькова аб чалюскінцах у сувязі з прыбыццём апошніх у Маскву.

*Чэрвень, 27*

У газ. «Літаратура і мастацтва» апублікаваны даклад К. Чорнага на Першым з'ездзе пісьменнікаў Савецкай Беларусі «Пра вучобу і творчасць пачынаючых».

*Чэрвень*

Выйшла з друку п'еса К. Чорнага «Бацькаўшчына».

*«Летапіс друку БССР», № 6*

*Ліпень, 26*

У «Звяздзе» апублікавана апавяданне «Святая папружка».

*Ліпень, 31*

Газ. «Літаратура і мастацтва» паведамляе, што ў новы склад рэдкалегіі ўваходзяць: К. Чорны, Я. Колас, Я. Браншгэйн, І. Гурскі, Х. Дунец, М. Клімковіч. У гэтым жа нумары надрукаваны артыкул К. Чорнага «Сканцэнтраваць літаратурныя сілы».

*Жнівень, 9—10*

Пад агульнай рубрыкай «Бурна расце і квітнее беларуская сацыялістычная культура» газ. «Звязда» змяшчае выступленні К. Чорнага, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Лынькова, Ц. Гартнага і М. Зарэцкага.

*Жнівень, 15*

К. Чорны разам з дэлегацыяй беларускіх пісьменнікаў (Я. Купала, Я. Колас, К. Крапіва, П. Броўка, І. Харык) прыбыў у Маскву для ўдзелу ў Першым Усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў.

*17 жніўня — 1 верасня*

К. Чорны прымаў удзел у рабоце Першага Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў у Маскве. Выступіў на з'ездзе з прамовай «Рэальнасць, фантазія і вымысел».

*Жнівень, да 25*

Прызначаны кіраўніком літаратурнага аб'яднання пры Доме Чырвонай Арміі ў Бабруйску.

*«Літаратура і мастацтва», 25 жніўня*

*Жнівень, да 26*

К. Чорны прымаў удзел у сустрэчы дэлегацыі ССПБ з рэдакцыяй газеты «Правда», якая адбылася ў час работы Першага Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў.

*«Литературная газета», 26 жніўня*

*Жнівень, да 28*

Выйшла ў Дзяржаўным выдавецтве мастацкай літаратуры (ГИХЛ) «Антология белорусской литературы». У раздзеле прозы змешчаны твор К. Чорнага «Семнадцать лет».

*«Литературная газета», 28 жніўня*

*Верасень, 11*

У «Звяздзе» змешчаны «Думкі аб з'ездзе». Сярод выступіўшых пад гэтай рубрыкай К. Чорны, а таксама М. Чарот, З. Аксельрод, Э. Самуйлёнак, Ц. Гартны.

*Верасень, 23*

Удзельнічаў у рабоце першай агульнагарадской нарады пачынаючых пісьменнікаў. Выступіў па пытаннях творчай работы маладых.

*«Звязда», 26 верасня*

*Верасень, 18, 26*

Са справаздачай аб выніках Першага Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў К. Чорны выступіў у Мінску (18 верасня) і ў Бабруйску (26 верасня).

*«Звязда», 21 верасня;*
*«Літаратура і мастацтва», 6 кастрычніка*

*Кастрычнік, 26*

К. Чорны прысутнічаў на вечары сустрэчы дэлегатаў Першага Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў са знатнымі калгаснікамі Мінскага раёна. Сярод пісьменнікаў, прымаўшых удзел у сустрэчы: Я. Купала, Я. Колас, А. Александровіч, М. Лынькоў, К. Крапіва, М. Зарэцкі і інш.

*«Звязда», 28 кастрычніка*

*Лістапад, да 30*

Абраны ў народныя засядацелі ад пісьменніцкага калектыву.

*«Літаратура і мастацтва», 30 лістапада*

*Снежань, 10—12*

На пасяджэнні Трэцяга пленума праўлення Саюза савецкіх

пісьменнікаў Беларусі, прысвечаным пытанням маладзёжнай літаратуры, зрабіў садаклад пра творчасць С. Знаёмага.

*«Літаратура і мастацтва», 18 снежня*

*На працягу года*

У зб. «Драматургія» (Мінск, 1934) надрукаваны артыкул К. Чорнага «Працаваць над драматургічным словам».

## 1935

*Студзень, 14*

У газ. «Літаратура і мастацтва» надрукаваны ўрывак з другой часткі рамана «Трыццаць год» пад назвай «Валодзя Кастрыцкі на радзіме».

*Студзень, 20*

К. Чорны і П. Глебка ў Віцебскім Доме Чырвонай Арміі сустрэліся з камандным саставам гарнізона.

*«Літаратура і мастацтва», 31 студзеня*

*Люты, 2*

Надрукаваны артыкул «Стылёвыя тэндэнцыі ў творчасці С. Знаёмага».

*«Літаратура і мастацтва», 2 лютага*

*Люты, 15*

Выступіў у Доме пісьменніка на вечары, прысвечаным праблеме навелы.

*«Літаратура і мастацтва», 23 лютага*

*Люты*

Пачаў друкавацца раман «Трэцяе пакаленне».

*«Полымя рэвалюцыі», № 2*

*Сакавік, да 6*

У Аргкамітэце Саюза савецкіх пісьменнікаў адбылася нарада, прысвечаная выданню перакладной літаратуры народаў СССР. З беларускіх твораў перакладаюцца: зборнік беларускай паэзіі, кнігі Я. Коласа, Я. Купалы, К. Чорнага, А. Александровіча, П. Галавача і інш.

*«Правда», 6 сакавіка*

*Сакавік, 28*

К. Чорны правёў заняткі з пачынаючымі аўтарамі на тэму: «Ператварэнне матэрыялу ў мастацкі твор».

*«Літаратура і мастацтва», 6 красавіка*

*Красавік, 9*

К. Чорны прысутнічаў на таварыскай сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з вучонымі-медыкамі. Вечар адкрыў М. Лынькоў.

*«Літаратура і мастацтва», 20 красавіка*

*Красавік, 26*

«Літаратура і мастацтва» друкуе артыкулы і выказванні пісьменнікаў у сувязі з трэцяй гадавінай з дня «Пастановы ЦК ВКП(б) аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый». Сярод выступіўшых на старонках газеты: К. Чорны, Я. Купала, Я. Колас, А. Александровіч, Ц. Гартны.

*Красавік*

Выйшаў зб. «Пісьменнікі БССР на Першым Усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў» (Мінск, ДВБ, кн. 2). К. Чорны з'яўляецца аўтарам артыкула «Рэальнасць, фантазія, вымысел».

*«Летапіс друку БССР», № 4*

*Май, да 12*

Па закліку М. Горкага буйнейшыя беларускія пісьменнікі, паэты і драматургі (Я. Колас, Я. Купала, К. Чорны, К. Крапіва і інш.) уключыліся ў работу па падрыхтоўцы да 20-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі шматтомніка «Дзве пяцігодкі».

*«Звязда», 12 мая*

*Май, 27*

К. Чорны разам з Я. Купалам, Я. Коласам, М. Лыньковым і інш. прысутнічаў у Саўнаркоме БССР на прыёме грузінскіх пісьменнікаў: Б. Буачыдзе, К. Лордкіпанідзе, І. Масашвілі, Р. Гветадзе і А. Кутатэлі.

*«Звязда», 1 чэрвеня*

*Май, 28*

На старонках газ. «Літаратура і мастацтва» К. Чорны звярнуўся з віншавальным словам да Я. Купалы ў сувязі з 30-годдзем літаратурнай дзейнасці народнага паэта.

К. Чорны разам з другімі пісьменнікамі падпісаў прывітанне Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі Янку Купалу ў сувязі з 30-годдзем яго літаратурнай дзейнасці.

*«Звязда», 28 мая*

*Ліпень, 11*

У «Правде» надрукаваны артыкул К. Чорнага «Тени мрачного прошлого».

*Ліпень*

Апублікавана апавяданне «Мураваны скляпок».

*«Полымя рэвалюцыі», № 7*

Выйшаў з друку асобным выданнем раман «Трэцяе пакаленне» (Мінск, ДВБ).

*«Летапіс друку БССР», № 7*

*Жнівень, да 27*

Здадзены ў выдавецтва зборнік маладых пісьменнікаў, які быў падрыхтаваны да друку і апрацаваны К. Чорным, П. Глебкам і М. Хведаровічам.

*«Літаратура і мастацтва», 27 жніўня*

*Верасень, 3*

Разам з Я. Коласам, А. Александровічам, М. Лыньковым і І. Харыкам прысутнічаў на жалобным мітынгу-провадах Анры Барбюса на мінскім вакзале.

*«Правда», 4 верасня*

*Кастрычнік, 1*

Камсамольская арганізацыя Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі правяла абмеркаванне рамана К. Чорнага «Трэцяе пакаленне».

*«Літаратура і мастацтва», 6 кастрычніка*

*Кастрычнік, 14*

На другую палову лістапада планаваўся Пленум Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі. Даклады М. Клімковіча і А. Александровіча — аб сучаснай мастацкай літаратуры і паэзіі; М. Лынькова — аб кн. К. Чорнага «Трэцяе пакаленне»; П. Глебкі — аб кн. П. Галавача «Праз гады» і інш.

*«Звязда», 16 кастрычніка*

*Кастрычнік, да 23*

У ліку іншых беларускіх пісьменнікаў падпісаў прывітанне Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі ў сувязі з 25-гадовым юбілеем літаратурнай дзейнасці Змітрака Бядулі.

*«Звязда», 23 кастрычніка*

*Кастрычнік — снежань*

Разам з Я. Коласам, М. Клімковічам, М. Лыньковым, П. Галавачом удзельнічаў у падрыхтоўцы зборніка «Боевые будни» (нарысы і выказванні чырвонаармейцаў, рабочых і сялян пра манеўры БВА ў верасні 1934 г.).

*«Літаратура і мастацтва», 6 снежня*

*Снежань, 11*

Надрукавана прывітанне К. Чорнага да 30-годдзя літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы пад загалоўкам «Песняру народнай радасці».

*«Літаратура і мастацтва», 11 снежня*

## 1936

*Студзень, 8*

К. Чорны прымаў удзел у абмеркаванні сцэнарыя З. Бядулі і М. Таўбе «Салавей».

*«Літаратура і мастацтва», 12 студзеня*

*Студзень, першая палова*

Абраны ў склад юбілейнай камісіі па правядзенню 100-й гадавіны з дня нараджэння яўрэйскага пісьменніка Мендэле-Мойхер-Сфорым. Акрамя К. Чорнага ў камісію ўваходзілі: М. Клімковіч, А. Александровіч, І. Харык, І. Гурскі, Я. Браншгэйн, М. Кульбак, З. Аксельрод.

*«Літаратура і мастацтва», 16 студзеня*

*Студзень, 15*

Прысутнічаў на нарадзе драматычнай секцыі ССПБ, прысвечанай падвядзенню вынікаў работы за 1935 год і пытанням узаемадзеяння з драматургамі брацкіх рэспублік. У нарадзе прымалі ўдзел: Я. Купала, М. Клімковіч, І. Гурскі, М. Зарэцкі, У. Галубок, Я. Браншгэйн.

*«Літаратура і мастацтва», 22 студзеня*

*Студзень, да 29*

Разам з Я. Купалам, Я. Коласам, А. Александровічам, М. Клімковічам, І. Гурскім, Я. Браншгэйнам, К. Крапівой, М. Лыньковым і інш. К. Чорны падпісаў прывітанне Рамэну Ралану ў сувязі з 70-годдзем з дня яго нараджэння.

*«Звязда», 29 студзеня*

*Студзень*

Прымаў удзел у падрыхтоўцы і літаратурнай апрацоўцы зборніка твораў пачынаючых пісьменнікаў пад назвай «Аднагодкі» (ДВБ, 1935 <1936>). Акрамя К. Чорнага ў падрыхтоўцы зборніка прымалі ўдзел П. Глебка і М. Хведаровіч.

*«Летапіс друку БССР», № 1*

*Люты, 10—16*

Прысутнічаў на Трэцім пленуме ССП СССР. Ён быў прысвечаны беларускай і башкірскай савецкай літаратуры. 12 лютага ў спрэчках выступіў К. Чорны.

*«Літаратура і мастацтва», 14 лютага*

*Люты, 14*

Прымаў удзел у сустрэчы ўдзельнікаў Трэцяга пленума праўлення ССП СССР з рабочымі завода імя Кірава. На сустрэчы прысутнічалі пісьменнікі і паэты. Сярод іх: А. Суркоў, Бела Ілеш, М. Галодны і інш.

*«Звязда», 16 лютага*

*Люты, 27*

У газ. «Літаратура і мастацтва» апублікавана прамова К. Чорнага на Трэцім пленуме праўлення ССП СССР пад загалоўкам «Абуджаць лепшыя думкі і пачуцці чытача».

*Сакавік, 23*

Выступіў на абмеркаванні новай п'есы У. Галубка «Чырвоныя праменні». Акрамя К. Чорнага ў абмеркаванні прынялі ўдзел: К. Крапіва, А. Вольны, М. Клімковіч, Р. Кобец, С. Знаёмы і інш.

*«Літаратура і мастацтва», 31 сакавіка*

*Сакавік, да 28*

Выступіў з прамовай на сходзе, прысвечаным абмеркаванню артыкула «Праўды» аб фармалізме ў музыцы («Сумбур замест музыкі»). Выступленне К. Чорнага надрукавана пад загалоўкам «Шмат у нас абломаўшчыны, безадказнасці».

*«Літаратура і мастацтва», 28 сакавіка*

*Чэрвень, 20*

Разам з Я. Купалам, Я. Коласам, А. Александровічам, М. Лыньковым, П. Броўкам, П. Галавачом прысутнічаў на пахаванні М. Горкага ў Маскве на Краснай плошчы.

*«Правда», 20 чэрвеня*

*Чэрвень*

У «Полымі рэвалюцыі», № 6 апублікавана першая частка аповесці «Люба Лук'янская». Другая частка — у «Полымі рэвалюцыі», № 11 за 1936 г.

*Ліпень*

Выйшаў з друку раман К. Чорнага «Трэцяе пакаленне» (другое выданне).

*«Летапіс друку БССР», № 7*

*Кастрычнік, да 11*

К. Чорны разам з Я. Купалам, П. Броўкам, А. Александровічам, П. Галавачом, М. Лыньковым, Я. Бранштэйнам, І. Харыкам, М. Чаротам і інш. падпісаў прывітанне Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР народнаму паэту рэспублікі Якубу Коласу ў сувязі з 30-годдзем яго літаратурнай дзейнасці.

*«Звязда», 11 кастрычніка*

*Кастрычнік, 18*

У «Звяздзе» ў перакладзе К. Чорнага апублікаваны ўрывак з «Капітанскай дочкі» А. С. Пушкіна пад назвай «У Белагорскай крэпасці».

*Лістапад, 5*

К. Чорны, Я. Купала, Я. Колас і А. Александровіч прысутнічалі

ў Палацы піянераў (Мінск) на тэатралізаваным літаратурным бале-маскарадзе.

*«Звязда», 11 лістапада*

*На працягу года*

Пераклаў на беларускую мову п'есу А. Фурманава і С. Луніна «Чапаеў» і раман К. Лордкіпанідзе «Далоў кукурузную рэспубліку», якія выдадзены асобнымі выданнямі.

## 1937

*Люты*

К. Чорны ў азнаменаванне 100-годдзя з дня смерці А. С. Пушкіна пераклаў на беларускую мову і апублікаваў дзве аповесці: «Дуброўскі» і «Станцыённы сматрыцель».

*«Полымя рэвалюцыі», № 2, стар. 17—68, 78—85*

*Сакавік, 11*

У газ. «Літаратура і мастацтва» надрукаваны артыкул Я. Казекі «Люба Лук'янская» Кузьма Чорнага».

*Красавік, 23*

У «Звяздзе» апублікаваны артыкул К. Чорнага «Збіраць і выкарыстоўваць вопыт творчай работы», прысвечаны 5-годдзю Пастановы ЦК партыі аб літаратурных арганізацыях.

*Май, 16—17*

К. Чорны, В. Вольскі і А. Кучар выступілі з крытыкай работы секцыі драматургаў. К. Чорны абраны старшынёй новага бюро секцыі.

*«Літаратура і мастацтва», 23 мая*

*Чэрвень, 18*

Разам з К. Крапівой, П. Броўкам і інш. прымаў удзел у літаратурным вечары, прысвечаным памяці М. Горкага, які адбыўся ў Зялёным тэатры парка імя М. Горкага.

*«Полымя рэвалюцыі», № 6, стар. 145*

*Чэрвень*

К. Чорны пераклаў на беларускую мову і апублікаваў апавяданне М. Горкага «На солі».

*«Полымя рэвалюцыі», № 6, стар. 10*

*Жнівень, 6*

У газ. «Літаратура і мастацтва» апублікавана другая карціна з няскончанай драмы К. Чорнага «Аксеня Чадавецкая» пад назвай «На скрыжаванні дарог».

*Жнівень, 8*

Разам з З. Бядулем, К. Крапівой, І. Харыкам і інш. прымаў удзел у абмеркаванні п'есы М. Клімковіча «Кацярына Жарнасек», якое адбылося ў Доме пісьменнікаў.

*«Літаратура і мастацтва», 12 жніўня*

*Лістапад, 6—7*

У газ. «Літаратура і мастацтва» апублікаваны ўрывак з няскончанага рамана К. Чорнага «Заваёва свету» пад назвай «У сям'і Калацкіх».

*Снежань, 31*

У газ. «Літаратура і мастацтва» апублікаваны нарыс «Мінск».

*На працягу года*

Выйшла асобнае выданне аповесці «Люба Лук'янская» (Мінск, Дзяржаўнае выдавецтва БССР).

Пераклаў на беларускую мову твор А. М. Астроўскага «Гарачае сэрца», які выдадзены ў гэтым жа годзе асобным выданнем у Мінску.

## 1938

*Май*

У «Полымі рэвалюцыі», № 5 апублікавана апавяданне «Макаркавых Волька».

*Чэрвень*

У «Полымі рэвалюцыі», № 6 апублікавана драма «Базылевічава сям'я» (драма ў адной дзеі). У гэтым жа годзе яна выйшла асобным выданнем.

*Кастрычнік, 11*

У газ. «Літаратура і мастацтва» апублікаваны адказ савецкіх пісьменнікаў чэхаславацкім пісьменнікам на адозву «Да сумлення ўсяго чалавецтва». Разам з К. Чорным адказ падпісалі М. Лынькоў, П. Броўка, З. Бядуля, П. Глебка, Э. Самуйлёнак і інш.

*Снежань, 26*

Ва ўзросце 73 год памёр бацька пісьменніка.

*«Беларусь», № 7, 1960, стар. 8*

*На працягу года*

К. Чорны распачаў працу над артыкулам аб «Новай зямлі» Я. Коласа.

*Сакавік, 30*

Апублікаваны ў газ. «Орджоникидзевская правда» артыкул «Н. В. Гоголь. К 130-летию со дня рождения».

*Чэрвень, да 16*

Гэтымі днямі К. Чорны адноўлены ў правах члена праўлення ССП БССР.

*«Чырвоная змена», 16 чэрвеня*

*Ліпень — жнівень, да 9*

К. Чорны, а таксама Я. Колас, К. Крапіва, З. Бядуля і П. Глебка сустракаліся са слухачамі курсаў-канферэнцыі маладых пісьменнікаў.

*«Советская Белоруссия», 23 жніўня*

*Верасень, 3*

У газ. «Літаратура і мастацтва» апублікаваны артыкул К. Чорнага «Думкі пра Паўлюка Труса» (да 10-годдзя з дня смерці).

*Верасень, 17*

Выступіў у Мінску на мітынгу, прысвечаным вызваленню Заходняй Беларусі з-пад прыгнёту панскай Польшчы. Сярод выступіўшых: З. Бядуля, П. Глебка і інш.

*Верасень, да 20*

У мінскім Доме пісьменнікаў прачытаў сваю п'есу «Бацькаўшчына» (новы перапрацаваны варыянт).

*«Литературная газета», 20 верасня*

*Верасень, да 28*

Саюз пісьменнікаў БССР падрыхтаваў і здаў у друк зборнік, прысвечаны вызваленню Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Разам з творамі Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, П. Глебкі, З. Бядулі і інш. у зборнік увайшлі і творы К. Чорнага.

*«Звязда», 28 верасня*

*Кастрычнік, 3*

Закончыў пераклад на беларускую мову камедыі М. В. Гогаля «Рэвізор».

Апублікавана апавяданне «Дарагуся».

*«Літаратура і мастацтва», 3 кастрычніка*

*Кастрычнік, 23*

У газ. «Літаратура і мастацтва» апублікавана рэцэнзія К. Чорнага на спектакль В. Вольскага «Цудоўная дудка» ў Тэатры юнага гледача.

*Кастрычнік*

Апублікаваны новы варыянт п'есы «Бацькаўшчына» (драма ў 4 дзеях).

*«Полымя рэвалюцыі», № 10*

*Лістапад, 12*

У «Звяздзе» апублікавана апавяданне «Родныя мясціны».

*Лістапад, 12—15*

У артыкуле «На трыбуне просты чалавек» К. Чорны пісаў аб сваіх уражаннях з пасяджэння сесіі Вярхоўнага Савета БССР (Трэцяя Унечарговая сесія адкрылася ў Мінску 12 лістапада).

*«Звязда», 15 лістапада*

*Лістапад, 26*

К. Чорны выступіў з чытаннем сваіх твораў на сустрэчы пісьменнікаў з агітатарамі і актывам выбаршчыкаў раёна, якая адбылася ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя Леніна.

*«Советская Белоруссия», 28 лістапада*

*Лістапад, да 30*

К. Чорнага, а таксама Я. Купалу, З. Бядулю, М. Лынькова, вылучылі на сходзе пісьменнікаў кандыдатамі ў дэпутаты Мінскага гарадскога Савета.

*«Звязда», 30 лістапада;*
*«Литературная газета», 10 снежня*

*Снежань, канец месяца*

Разам з Я. Коласам, П. Глебкам, В. Барысенкам і І. Гурскім увайшоў у склад камісіі па святкаванню 100-годдзя з дня нараджэння Францішка Багушэвіча. Камісія створана была на пашыраным пасяджэнні Праўлення ССПБ.

*«Літаратура і мастацтва», 11 студзеня*

## 1940

*Студзень, 1*

Апублікаваны артыкул К. Чорнага «Мае творчыя планы на 1940 г.».

«У мінулым 1939 г. я працаваў над раманам аб жыцці дзвюх родных сясцёр. Адна жыла ў Савецкай Беларусі, а другая — у Заходняй... Над заканчэннем гэтага рамана я буду працаваць у пачатку новага, 1940 года. Пасля гэтага буду працаваць над раманам «Вялікае выгнанне» — аб імперыялістычнай вайне і падрыхтоўцы Кастрычніцкай рэвалюцыі. Над раманам гэтым я ўжо працаваў у мінулыя гады... Таксама мяркую скончыць у гэтым годзе пачатую яшчэ ў 1938 крытычную працу аб «Новай зямлі» Якуба Коласа —

аб гэтым найвыдатнейшым творы нашай літаратуры, які, на маю думку, яшчэ не быў правільна ацэнен».

*«Літаратура і мастацтва», 1 студзеня*

*Студзень, да 26*

К. Чорны разам з Я. Коласам, М. Лыньковым, Х. Шынклерам, З. Аксельродам і інш. увайшоў у склад камісіі па азнаменаванню 25-годдзя з дня смерці класіка яўрэйскай літаратуры І. Пераца.

*«Звязда», 26 студзеня*

*Люты, 11*

У газ. «Літаратура і мастацтва» апублікаваны артыкул «Аб Эдуарду Самуйлёнку», прысвечаны гадавіне з дня смерці пісьменніка.

*Люты, 15*

У лісце да перакладчыка сваіх твораў на рускую мову П. С. Кабзарэўскага К. Чорны пісаў: «Зусім нядаўна я закончыў аповесць «Простыя людзі» — памерам 6 друкаваных аркушаў. У двух словах зусім не магу перадаць змест гэтай аповесці. Простыя савецкія людзі працуюць на кірпічным заводзе — два браты, і ў кожнага сям'я.

У аповесці — аб маладосці, аб каханні, аб нараджэнні дзяцей, аб старасці іх бацькоў, аб смерці аднаго з братоў на вайне, аб скрусе, аб радасці... Але падобныя растлумачванні не зусім перадаюць душы аповесці».

*«Літаратура і мастацтва», 27 чэрвеня 1975 г.*

*Люты*

У «Полымі рэвалюцыі», № 2 надрукавана аповесць для дзяцей «Насцечка».

*Сакавік, 3*

Урывак пад загалоўкам «Пасля бою» (з няскончанага рамана «Судны дзень», рукапіс якога загінуў у гады Айчыннай вайны) апублікаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва». Другі ўрывак з гэтага рамана пад загалоўкам «Свая хата» — у газ. «Літаратура і мастацтва» за 11 ліпеня 1940 г.

*Сакавік, да 23*

Разам з Я. Купалам, Я. Коласам і П. Броўкам падпісаў прывітанне Максіму Рыльскаму ў сувязі з 30-годдзем яго літаратурнай дзейнасці. Газета публікуе таксама прывітанне і ад Саюза пісьменнікаў БССР.

*«Літаратура і мастацтва», 23 сакавіка*

*Красавік, 22*

У лісце да П. С. Кабзарэўскага К. Чорны пісаў: «Што датычыцца «Аксені Чадавецкай», то я яшчэ не вырашыў, ці буду гэту п'есу

друкаваць у хуткім часе, т. я. няма яшчэ ў ёй сапраўднага драматычнага фіналу, і над ім яшчэ трэба працаваць. Але гэта скора высвіцца, і тады я напішу Вам і ў выдавецтва».

*«Літаратура і мастацтва», 27 чэрвеня 1975 г.*

*Чэрвень, 13*

Прысутнічаў на нарадзе па пытаннях беларускай літаратуры ў Праўленні Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР.

*«Советская Белоруссия», 15 чэрвеня*

*Верасень, 7*

«Літаратура і мастацтва» паведамляе, што К. Чорны, а таксама Я. Купала, М. Танк, П. Глебка і інш. уваходзяць у юбілейную камісію па правядзенню 30-годдзя літаратурнай дзейнасці З. Бядулі.

*Верасень*

Надрукавана апавяданне «Зямля».

*«Літаратура і мастацтва», 14 верасня;*
*«Вольная праца», 25 верасня*

*Верасень, 28*

К. Чорны надрукаваў рэцэнзію «Творчая ўдача тэатра» (Уражанні гледача) на п'есу М. Пагодзіна «Крамлёўскія куранты», пастаўленую Віцебскім беларускім дзяржаўным драматычным тэатрам.

*«Літаратура і мастацтва», 28 верасня*

*Кастрычнік, 5*

У газ. «Літаратура і мастацтва» К. Чорны змясціў віншаванне З. Бядулю ў сувязі з 30-годдзем яго літаратурнай дзейнасці.

*Кастрычнік, 9*

«Советская Белоруссия» паведамляе, што ў рэпертуар Першага беларускага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага сцяга тэатра і Віцебскага драматычнага тэатра ўключана новая п'еса К. Чорнага «Ірынка».

*Кастрычнік, да 19*

Адбылося абмеркаванне першых раздзелаў рамана К. Чорнага «Простыя людзі» (рукапіс яго загінуў у гады Айчыннай вайны). М. Лынькоў, П. Глебка, Р. Бярозкін, А. Кучар, Я. Шарахоўскі і інш. далі высокую ацэнку гэтым раздзелам.

*«Советская Белоруссия», 19 кастрычніка*

*Лістапад, 25—27*

К. Чорны разам з М. Лыньковым, П. Глебкам, А. Куляшовым, М. Танкам, Я. Бранеўскай выехаў у Навагрудак для ўдзелу ў мерапрыемствах, прысвечаных 85-годдзю з дня смерці А. Міцкевіча.

На сустрэчы пісьменнікаў з настаўнікамі горада К. Чорны выступіў з прамовай.

*«Звязда», 26 лістапада;*
*«Літаратура і мастацтва», 30 лістапада*

*Лістапад, 27*

Выязджаў на шклозавод «Нёман», дзе адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны Адаму Міцкевічу. У вечары прынялі ўдзел маскоўскія, мінскія, беластоцкія пісьменнікі (С. Шчыпачоў, М. Лынькоў, П. Глебка, М. Танк, Я. Бранеўская і інш.).

*«Звязда», 29 лістапада*

*Снежань, 8*

У «Звяздзе» апублікаваны артыкул К. Чорнага «Думкі і імкненні народа» (да юбілею Янкі Купалы).

*Снежань, 10*

Разам з Я. Коласам, Я. Купалам, М. Лыньковым, З. Бядулем, К. Крапівой, П. Броўкам, М. Клімковічам, Я. Бранеўскай, А. Сурковым, С. Гарадзецкім быў абраны ў прэзідыум урачыстага пасяджэння, прысвечанага 35-годдзю літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы. Пасяджэнне адбылося 8 снежня ў Вялікім тэатры оперы і балета БССР.

*«Звязда», 10 снежня*

*Снежань, 14*

«Звязда» паведамляе, што ў Дзяржаўным выдавецтве пры СНК БССР выйшла з друку драма К. Чорнага «Бацькаўшчына».

*Снежань, 21*

К. Чорны разам з К. Крапівой, З. Бядулем, М. Лыньковым, Т. Масэнкам і інш. прысутнічаў на вечары-сустрэчы народнага паэта БССР Я. Купалы з піянерамі, які адбыўся ў Мінскім палацы піянераў і акцябрат 11 снежня.

*«Літаратура і мастацтва», 21 снежня*

## 1941

*Студзень, 4*

У «Звяздзе» апублікавана апавяданне «Навагодняя ноч».

*Студзень, 8*

«Советская Белоруссия» паведамляе, што выдавецтва «Искусство» (Масква) рыхтуе да друку зборнік п'ес беларускіх драматургаў. У зборнік увойдуць 5 п'ес: «У пушчах Палесся» — Я. Коласа, «Хто смяецца апошнім» — К. Крапівы, «Бацькаўшчына» — К. Чорнага, «Над Бярозай-ракой» — П. Глебкі, «Кацярына Жарнасек» — М. Клімковіча.

*Студзень, да 15*

Разам з Я. Купалам, Я. Коласам, З. Бядулем, К. Крапівой, П. Броўкам, М. Лыньковым, П. Глебкам падпісаў тэлеграму беларускіх пісьменнікаў П. Тычыне ў сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння і 30-годдзем яго літаратурнай дзейнасці.

*Студзень, 25*

У Доме пісьменніка БССР адбыўся агульны сход празаікаў. К. Чорны абраны старшынёй секцыі празаікаў.

*«Літаратура і мастацтва», 1 лютага*

*Люты, 26—27*

У Другім беларускім дзяржаўным драматычным тэатры (г. Віцебск) адбылася прэм'ера драмы К. Чорнага «Ірынка». Спектакль пастаўлены заслужаным артыстам БССР Ц. М. Сяргейчыкам. 27 лютага пастаноўка была абмеркавана калектывам тэатра з удзелам літаратурных і тэатральных крытыкаў.

*«Літаратура і мастацтва», 5 сакавіка*

*Сакавік, 5*

К. Чорны ў лісце да П. С. Кабзарэўскага пісаў: «Я жыў у Віцебску, дзе ў Другім беларускім драматычным тэатры рыхтавалася да пастаноўкі мая драма «Ірынка». 26 лютага прэм'ера прайшла з вялікім поспехам. Зараз п'еса рыхтуецца ў Мінску».

*«Літаратура і мастацтва», 27 чэрвеня 1975 г.*

*Сакавік, 9*

У «Чырвонай змене» змешчаны артыкул К. Чорнага «Мая «Ірынка» і ўрывак з п'есы пад назвай «На світанні», а таксама рэцэнзія В. Вольскага на «Ірынку» пад загалоўкам «Карысная і патрэбная п'еса».

*Сакавік, 13*

Выступіў з прамовай на агульным сходзе пісьменнікаў г. Мінска, які быў прысвечаны абмеркаванню пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) «Аб асушэнні балот Беларускай ССР і скарыстанні асушаных зямель калгасамі для расшырэння пасяўных плошчаў і сенажацей».

*«Літаратура і мастацтва», 15 сакавіка*

*Красавік*

Апублікавана драма К. Чорнага ў 4 дзеях «Ірынка» (датуецца 1940 г.).

*«Полымя рэвалюцыі», № 4*

У лісце да І. М. Барашкі К. Чорны пісаў: «Я вельмі рад і вельмі табе ўдзячны, што ты бярэшся перакласці на рускую мову маю

п'есу («Ірынку». Рэд.). У Першым БДТ (Мінск) прэм'ера «Ірынкі» мяркуецца на 4 мая».

*«Літаратура і мастацтва», 27 чэрвеня 1975 г.*

*Май, да 11*

У выніку конкурсу на лепшую п'есу, якую праводзіў Камітэт па справах мастацтваў пры Саўнаркоме СССР (першы тур праходзіў па саюзных рэспубліках), па Беларусі трэцюю прэмію атрымаў К. Чорны за п'есу «Ірынка».

*«Чырвоная змена», 11 мая*

*Май, да 31*

Адбылася прэм'ера драмы К. Чорнага «У апошнюю ноч» (другая рэдакцыя «Ірынкі») у пастаноўцы Першага беларускага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага сцяга тэатра (г. Мінск). (Сцэнічны варыянт п'есы захоўваецца ў архіве Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Я. Купалы).

*«Літаратура і мастацтва», 31 мая*

*Чэрвень, 3*

У лісце да І. М. Барашкі К. Чорны паведамляў: «Пасылаю табе папраўкі да перакладу «Ірынкі». Яны могуць быць і недасканалыя, але мне здаецца, што так будзе лепш. Паводле гэтых паправак перагледзь яшчэ сам пераклад...

У Віцебску прэм'ера прайшла лепш, як у Мінску. Справа ў тым, што ў Мінску спектакль быў яшчэ не дапрацаваны з прычыны канца сезона і выезда тэатра на гастролі. Спектакль будуць дапрацоўваць на гастролях. Варыянт мінскага тэатра вышлю табе дзён праз 7—9».

*«Л таратура і мастацтва», 27 чэрвеня 1975 г.*

*Чэрвень, 21*

У газ. «Літаратура і мастацтва» апублікаваны артыкул «Вялікая і малая тэма», прысвечаны пастаноўцы п'есы М. Горкага «На дне» МХАТам, які ў гэты час быў у Мінску на гастролях.

*Верасень*

У агітплакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну» (Орган ЦК КП(б)Б. Выд. газ. «Звязда») пад псеўданімам Ігнат Булава з-пад Турава ў № 21 апублікавана апавяданне «В разведке»; у № 23— сатырычнае апавяданне «Как немец на свинье в вечный покой въехал»; у № 24 — пад тым жа псеўданімам апавяданне «Душа в штанах»; у № 25 — апавяданне «Кружевное прикрытие».

*Кастрычнік, 27*

У «Савецкай Беларусі» надрукавана апавяданне «Расплата».

*Кастрычнік*

У агітплакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну» ў № 26 пад псеў-

данімам Ігнат Булава з-пад Турава апублікавана сатырычнае апавяданне «Чистокровная вошь».

*Лістапад, 7*

У «Савецкай Беларусі» апублікаваны артыкул «У імя будучыні».

У 1940—1941 гг. К. Чорны працягваў працу над трылогіяй «Вялікае выгнанне», якую ён пачаў пісаць у 1927—1929 гг. (рукапіс рамана загінуў у першыя дні Вялікай Айчыннай вайны).

*К. Чорны. Аўтабіяграфія, 1943*

У 1941—1944 гг. працаваў над аповесцю «Скіп'ёўскі лес». Пры жыцці не друкавалася. Упершыню апублікавана па рукапісу пасмяротна ў «Полымі», 1946, № 5.

У 1941—1944 гг. К. Чорны працаваў над раманам «Вялікі дзень». Першапачатковы загаловак — «Навальніца», затым — «Навала з Захаду» і канчатковы — «Вялікі дзень». Раман застаўся незавершаным. Упершыню апублікаваны па рукапісу ў час. «Полымя», 1947, № 4, 5, 6.

## 1942

*Студзень, 5*

У «Савецкай Беларусі» апублікаваны цыкл апавяданняў пад назвай «Расказы партызан Віцебшчыны», у які ўваходзяць: «Маладая гераіня», «Паўлікава помста», «Знішчылі чатырох афіцэраў».

*Студзень, 18*

Выступіў у Казані на радыёмітынгу прадстаўнікоў беларускага народа з прамовай «Будзем адзінадушнымі і непахіснымі». Сярод выступіўшых: Я. Купала, М. Танк, М. Зімянін, С. Прытыцкі і інш. На мітынгу прыняты зварот да беларускага народа.

*«Правда Востока», Ташкент, 22 студзеня;*
*«Савецкая Беларусь», 20 студзеня*

*Студзень, другая палова*

У другой палове студзеня прыехаў у Маскву і пачаў працаваць у рэдакцыі «Савецкая Беларусь».

Выдавецтва «Савецкая Беларусь» выдала кніжку фельетонаў К. Чорнага «Кат у белай манішцы», якая была перапраўлена праз лінію фронту да партызан.

*К. Чорны. Бібліяграфічны даведнік, 1954*

*Люты, 1*

У «Савецкай Беларусі» апублікаваны памфлет «Супраць звера».

*Люты, 16*

У «Савецкай Беларусі» апублікаваны нарыс «Жэня Палтаўская» і «Леў Даватар» (апошні з подпісам М. Сідарэўскі).

*Люты, 19*

Надрукаваны нарыс аб камсамолцы Шуры Луковінай-Грыбковай — «Верная дачка беларускага народа».

*«Савецкая Беларусь», 19 лютага*

*Сакавік — красавік*

Напісана апавяданне «Маленькая жанчына». Надрукавана ў кн. «Беларусь». Альманах першы. (Выд. «Савецкая Беларусь», М., 1943). У рукапісу мае назву «Дванаццацігадовая жанчына».

*Красавік, 6*

Напісана апавяданне «Матчына благаславенне». Надр. у кн. «Беларусь». Альманах першы. (М., 1943).

*Красавік, 28*

«Савецкая Беларусь» паведаміла, што К. Чорны, П. Глебка і другія беларускія драматургі пішуць новыя п'есы для Другога беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра, які працуе ў г. Уральску.

*Красавік*

Напісана апавяданне «Бацька». Упершыню друкавалася на рускай мове ў 1942 г., затым у кн. «Беларусь». Альманах першы. (М., 1943).

*Май, 25*

Напісана апавяданне «Смерць». Надрукавана ў кн. «Беларусь». Альманах першы. (М., 1943).

*Чэрвень*

У газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», № 50 надрукаваны твор «Зямельны надзел дурнога Бадзілюка» (З апавяданняў Ігната Булавы з-пад Турава).

*Ліпень, 1*

Прысутнічаў на грамадзянскай паніхідзе пры пахаванні Я. Купалы, якая адбылася ў канферэнц-зале Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР.

*Ліпень, 17*

У «Савецкай Беларусі» надрукаваны памфлет «Сёмая скура».

*Ліпень, 26*

К. Чорны пасля смерці Янкі Купалы пісаў у лісце да Якуба Коласа: «У гэтыя дні якраз пішу біяграфію Янкі Купалы для зборніка, прысвечанага яго памяці.

Вайна і страта роднай зямлі выбілі нас з каляіны, і мы яшчэ не можам як мае быць ацаніць да канца, якую страту мы панеслі ад смерці Купалы і што значыць Ён і Вы для цэлай эпохі жыцця нашага народа. Гэта жывая гісторыя, і на ўсіх нас вялікі абавязак, каб яно ўсё не забылася, больш таго, каб з-пад нашых пер'яў вырасла ў вялікія вобразы... І ўсё ж такі яго смерць была нейкай недарэчнай і без пары, дзікае здарэнне. Была страшная хвіліна, калі ён, у крэматорыі, пасля жалобнай урачыстасці, адкрыты ў труне, пачаў паволі апускацца ў люк, назаўсёды з нашых вачэй, а ў вачах стаіць надпіс, які ўвесь час узвышаўся над яго галавой: «...Мне сняцца сны аб Беларусі».

*«Беларусь», 1964, № 11*

*Жнівень, 7—8*

Зрабіў даклад «Аб беларускай прозе і драматургіі» на Пленуме Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР, які адбыўся ў Маскве.

*«Правда», 9 жніўня*

*Жнівень, 22*

У «Савецкай Беларусі» апублікаваны памфлет К. Чорнага «Гаўляйтарная «акадэмія».

*Жнівень, 29*

У «Савецкай Беларусі» апублікаваны памфлет «Нямецкая цаца шырокага спажывання».

*Верасень, 4*

Напісаны нарыс «Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў».

*Верасень, да 5*

Прысутнічаў на вечары «Пісьменнікі Савецкай Беларусі — фронту», які быў арганізаваны Саюзам савецкіх пісьменнікаў СССР. Вечар праходзіў пад старшынствам Ф. Гладкова. Уступнае слова — М. Лынькова. З чытаннем сваіх твораў выступілі: К. Чорны, К. Крапіва, М. Танк, М. Лынькоў, А. Стаховіч, М. Машара.

*«Литература и жизнь», 5 верасня*

*Верасень, 19*

У «Савецкай Беларусі» апублікаваны памфлет «Заплацім пану і яго паслугачу».

*Кастрычнік, 21*

Надрукаваны памфлет «Сімпатычная дубіна» ў «Савецкай Беларусі».

*Кастрычнік, 31*

У «Савецкай Беларусі» апублікаваў артыкул «Вялікі паэт беларускага народа», прысвечаны 60-годдзю з дня нараджэння Я. Коласа.

*Лістапад, 7*

У «Савецкай Беларусі» апублікаваны артыкул «Аб нашай гордасці».

*Лістапад, 18—20*

Напісана апавяданне «Аксеніны сляды». Упершыню друкавалася на рускай мове ў 1942 г.

*Лістапад, 21*

У «Савецкай Беларусі» апублікаваны памфлет «Шчанюк з берлінскай сабакарні».

*Лістапад, 25*

У «Савецкай Беларусі» апублікаваны памфлет «Крывавы апякун».

## 1943

*Сакавік, 17*

У «Савецкай Беларусі» надрукаваны артыкул «Праклянцце кату Гітлеру».

*Сакавік*

Апублікавана апавяданне «Паганыя косці» ў сатырычным лістку «Партызанская дубінка».

*Красавік, 7*

«Савецкая Беларусь» паведамляе, што Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі выдае асобнымі зборнікамі нарысы аб героях Савецкага Саюза партызанах М. Сільніцкім (аўтар — К. Крапіва) і Ц. Бумажкове (аўтар — К. Чорны).

*Красавік, 21*

«Савецкая Беларусь» паведамляе, што ў Маскве ў перакладзе на рускую мову выйшаў зборнік «За Савецкую Беларусь». У зборніку акрамя твораў К. Чорнага змешчаны вершы Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, П. Глебкі, М. Танка, А. Куляшова і інш.

*Май, 1*

Апублікавана апавяданне «Матчына кроў» у літаратурным дадатку № 1 да газ. «Савецкая Беларусь».

*Жнівень, 18*

У «Савецкай Беларусі» апублікаваны нарыс пад назвай «За блізкіх і родных» — аб дзейнасці партызана Івана Іванавіча Пракапенкі.

*Жнівень*

У агітплакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», № 101 надрукаваны памфлет «Голы франт і берлінскі чорт».

*Верасень, 16*

Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі за асобыя заслугі ў развіцці партызанскага руху. Адначасова з К. Чорным узнагароджаны: Атраховіч К. К. (К. Крапіва), Куляшоў А. А., Міцкевіч К. М. (Якуб Колас), Скурко Я. І. (Максім Танк), Лынькоў М. Ц. і інш.

*«Савецкая Беларусь», 18 верасня*

*Верасень, 18*

К. Чорны завяршыў у Маскве (гасцініца «Якорь») працу над раманам «Пошукі будучыні». Раман пры жыцці не публікаваўся. Надрукаваны ўпершыню ў «Полымі», № 11 і № 12 за 1950 год.

*Верасень, 25*

У «Савецкай Беларусі» апублікаваны фельетон «Канец крывавага ката», прысвечаны забойству ў Мінску гаўляйтара Кубэ.

*Верасень, 28*

У «Савецкай Беларусі» надрукаваны артыкул «Настаў вялікі дзень», прысвечаны прыходу Чырвонай Арміі на беларускую зямлю.

*Кастрычнік, 6*

У «Савецкай Беларусі» апублікаваны памфлет «Ваўкі ратуюць скуру».

*Лістапад, 7*

У «Савецкай Беларусі» апублікаваны артыкул «Воля рве ланцугі».

*Лістапад, 27*

У «Савецкай Беларусі» надрукаваны артыкул «Варочаецца жыццё».

*Лістапад*

У газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», № 111 за подпісам Сымон Чарпакевіч апублікавана апавяданне «Непаразуменне».

*Снежань*

За подпісам Сымон Чарпакевіч апублікавана сатырычнае апа-

вяданне «Франтаваты камендант» у газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», № 113.

*На працягу года*

К. Чорны пераклаў на беларускую мову п'есу М. Горкага «Варвары».

Напісаны кароткі біяграфічна-крытычны нарыс пра Янку Купалу. Рукапіс захоўваецца ў сямейным архіве. Надрукаваны пасмяротна ў Зборы твораў, т. 6, Мінск, 1955, стар. 392—403.

## 1944

*Студзень, 1*

У «Савецкай Беларусі» апублікавана апавяданне «Агонь» (датуецца 1943 г.).

*Студзень, 12*

Спынілася праца над рукапісам рамана «Млечны Шлях». Твор не быў канчаткова дапрацаваны з прычыны цяжкай хваробы і смерці аўтара. Пры жыцці не друкаваўся. Упершыню апублікаваны пасмяротна ў час. «Полымя», 1954, № 11.

*Студзень*

У газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», № 115 надрукавана сатырычнае апавяданне «Дарахвеевы порткі» за подпісам Сымон Чарпакевіч.

Напісаў і апублікаваў артыкул «Дзень добры, Беларуская зямля!» (без подпісу).

*Час. «Беларусь», № 1, стар. 1—2.*

*Красавік*

К. Чорны напісаў рэцэнзію «Аб зборніку «Гартаванне» В. Віткі». Апублікавана пасмяротна ў газ. «Літаратура і мастацтва», 12 жніўня 1945 г.

*Май, 18*

Напісана апавяданне «Прасторны дом». Апублікавана пасмяротна ў кн.: К. Чорны. Выбраныя творы. Мінск, 1947.

*Ліпень, 2*

«Можа заўтра, а можа паслязаўтра наша армія забярэ Мінск. Падыходзіць канец нашым пакутам. Дзякаваць богу, і хвароба мая пакрысе пакідае мяне... Ужо і цяпер як мае быць, лёгка і многа, як і да хваробы, працую. Якое гэта шчасце!.. А яшчэ шэсць

месяцаў таму, калі пачынаў перапісваць «Пошукі будучыні», мне была пакута выпісаць роўна загаловак і першы радок... Заўтра да паўдня трэба напісаць артыкул для «Известий». Цяжка мне пісаць па-руску, а ў іх няма перакладчыка з беларускай мовы...»

З «Дзённіка» [1]

*Ліпень, 4*

«Учора нашы забралі Мінск. Нямецкая навалач прэ з Беларусі на ўсе застаўкі... Учора ўночы паведамілі ў зводцы, што ўзялі Цімкавічы, Вялікую Раёўку, Жавалкі... Родныя мае мясціны. Як мая душа рвецца туды! Яна заўсёды там».

З «Дзённіка»

*Ліпень, 5*

«Толькі што званілі з радыё. Ледзьве адпрасіўся, каб не пісаць сягоння, а няхай ужо хоць заўтра пра заняцце нашымі Баранавічаў... Раз перадача для заграніцы, то трэба напісаць аб беларускай нацыянальнай трагедыі, рэштках старых акопаў, былой польскай граніцы...»

З «Дзённіка»

*Ліпень, 8*

«Вострае ўзбуджанне з прычыны вызвалення Мінска ападае. Я ўжо спакайней працую. За ўчора і сёння давёў да канца другі раздзел «Скіп'ёўскага лесу»...»

З «Дзённіка»

*Ліпень, 9*

«З сямі да дзевяці пад вечар пісаў «Скіп'ёўскі лес». Думаю аб драме. Чытаў Л. Ляонава ў «Правде» «Взятие Великошумска», і паняверка мая, што «Скіп'ёўскі лес» пішацца вельмі дрэнна, змяншылася».

З «Дзённіка»

*Ліпень, 10*

«Сёння рана пайшоў у рэдакцыю. (К. Чорны ў той час працаваў у рэдакцыі час. «Беларусь». *Рэд.*). Там пісаў, пакуль нікога не было... Сумна, пайсці няма да каго, нашы бадай-што ўсе ўжо то ў Гомелі, то ў Мінску. Адзіная мая ўцеха ў працы, яна мяне ратавала заўсёды. Калі ўжо заеду ў Мінск, тады не будзе смутку. А сёння яшчэ да вечара многа пісаць трэба».

З «Дзённіка»

*Ліпень*

У час. «Красноармеец», № 13—14 надрукавана апавяданне К. Чорнага «Большое сердце».

---

[1] У дадзеным томе гл. стар. 511—521.

*Жнівень, 8*

«Колькі чаго парабілася за месяц! Ужо і ў Мінск незадоўга. Можа ўжо будзе свой сталы прытулак, і можа мне суджана яшчэ пабачыць мілыя Цімкавічы. А што, калі хата мая асталася і стаіць? Гэта будзе вялікае шчасце. Там жа, у ціхім жыцці, можна будзе ачуняць як мае быць і напісаць усе задуманыя раманы...»

*З «Дзённіка»*

*Жнівень, 9*

«Я сам не свой увесь гэты час. У Маскве страшна аставацца далей жыць. Гэты вялікі горад не дасць мне як мае быць ачуняць. І жыць не ў Беларусі больш не магу. А дзе жыць у Мінску? І як там жыць на попелішчы?..»

*З «Дзённіка»*

*Верасень, 6*

«Сёння скончыў трэці раздзел «Скіп'ёўскага лесу». Можа добра, а можа і вельмі дрэнна. Такі я змучаны і духам і целам і так цяжка жыву, што не адчуваю. Патрэбен доўгі час у цішыні і спакоі».

*З «Дзённіка»*

*Верасень, 8*

«За шэсць дзён пераклаў «Позняе каханне» Астроўскага — так гнаў мяне ў карак тэатр. І ўжо месяц ляжыць гатовы тэкст, і не забіраюць...

Быў сёння ў ГИХЛе. Дагаварыўся аб «Скіп'ёўскім лесе» і зборніку апавяданняў. Каб хоць у Мінск, цішыня і спакой, хоць і на попелішчы. Абы ціхі кут і штодзень спакойна пісаць».

*З «Дзённіка»*

*Верасень, 10*

«Учора ўвечары і сёння да паўдня чытаў К. Федзіна «Горький среди нас»... Федзін — сапраўдны пісьменнік і разумны чалавек. Я ўпэўнен: пра М. Горкага ён напісаў праўду. Сапраўды, мусіць, так жыў і такі быў М. Горкі, вялікі рускі інтэлігент з рукамі рабочага... Чамусьці пасля кнігі К. Федзіна я пачаў думаць пра вечнае — сваё: пра Францыска Багушэвіча. Кожная тая кніга добрая, калі яна ўзбівае чалавека на сталыя і важныя думкі».

*З «Дзённіка»*

*Кастрычнік, 3*

«Я ўпоцемку думаў аб Антаніне Лукашэўскай і двох яе сынах. Усё гэта можа пад маім пяром ажыць і жыць доўгім поўным жыццём. І да мяне прыйшла шчырая радасць. Перад світаннем я зас-

нуў без трывогі і суму. Калі ўжо будзе тая кватэра і ціхі кут, каб пісаць! Просіцца з пяра артыкул у «Звязду» аб літаратуры».

*З «Дзённіка»*

*Кастрычнік, 4*

«Пісаў «Скіп'ёўскі лес». Трэба далей так, кожны дзень».

*З «Дзённіка»*

*Кастрычнік, 6*

«Пісаў вельмі мала. Горне на сон. Баліць сэрца».

*З «Дзённіка»*

*Кастрычнік, 8*

У «Звяздзе» апублікаваны артыкул К. Чорнага «Будучыня сталіцы», прысвечаны Дню адбудовы Мінска.

*Кастрычнік, 11*

«Сёння многа і, здаецца, добра пісаў».

*З «Дзённіка»*

*Лістапад, 22*

У гэты дзень Мікалая Карлавіча Раманоўскага (Кузьмы Чорнага) не стала. Паведамленне аб смерці змясцілі «Звязда» і «Советская Белоруссия».

*Лістапад, 24*

У Беларускім Дзяржаўным драматычным тэатры імя Янкі Купалы адбылася грамадзянская паніхіда. Сярод выступаўшых пісьменнікі: К. Крапіва, М. Лынькоў, П. Пестрак, М. Танк, народны артыст БССР Г. Глебаў і інш.

*«Советская Белоруссия», 25 лістапада*

*Лістапад, 26*

У «Звяздзе апублікаваны ўрывак з аповесці «Скіп'ёўскі лес» пад загалоўкам «Бой з варожымі танкамі» і артыкул Ц. Крысько аб К. Чорным — «Выдатны пісьменнік-патрыёт».

*Снежань, да 2*

У бібліятэцы імя М. Горкага (Дом Ураду) адкрылася выстаўка, прысвечаная жыццю і творчасці К. Чорнага.

*«Советская Белоруссия», 2 снежня*

## АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК
## Т. 8


| | *Тэкст* | *Каментарыі* |
|---|---|---|
| Абаронцы нямецкай тыфознай вошы | 359 | 533 |
| Аб зборніку «Гартаванне» | 504 | 539 |
| Аб нашай гордасці | 440 | 536 |
| Аб сваім новым рамане | 456 | 537 |
| Абуджаць лепшыя думкі і пачуцці чытача | 227 | 528 |
| Аб Эдуарду Самуйлёнку | 277 | 529 |
| Автобиография <1943> | 472 | 538 |
| «Акадэмічны» фрыц | 401 | 535 |
| Аўтабіяграфія <1926> | 48 | 523 |
| Аўтабіяграфія <1928> | 70 | 523 |
| Аўтабіяграфія <1940> | 286 | 530 |
| Бандыцкаму фюрэру, крывавяму людаеду, сусветнаму абармоту і прахвосту, дурному Адольфу Гітлеру — пішуць беларускія партызаны з атрада бацькі Міная | 387 | 535 |
| Беларускае мастацтва ў часе Вялікай Айчыннай вайны | 375 | 534 |
| Беларуская проза і драматургія часу Айчыннай вайны | 403 | 535 |
| Беларускі народ змагаецца з акупантамі | 311 | 531 |
| Беларускія літаратары ў дні Айчыннай вайны | 351 | 533 |
| Берлінскі анучнік | 378 | 534 |
| Блізак час расплаты | 302 | 530 |
| Будзем адзінадушнымі і непахіснымі | 320 | 531 |
| Бургомістр і курыца | 428 | 536 |
| (Быў час у жыцці беларускага народа...) | 437 | 536 |
| Варочаецца жыццё | 478 | 538 |
| Васіль Сымонавіч Кедрык | 261 | 528 |
| Ваўкі ратуюць скуру | 474 | 538 |
| Верная дачка беларускага народа | 333 | 532 |
| Вёска на новым шляху | 39 | 523 |
| Воля рве ланцугі | 476 | 538 |
| В разведке | 305 | 530 |
| Вучоба і творчасць пачынаючых літаратараў | 174 | 526 |
| «Выхваляўся, выхваляўся ды і здох» | 360 | 533 |
| Вялікая і малая тэма | 125 | 525 |
| Вялікая школа для ўсіх тэатраў | 296 | 530 |
| Вялікі паэт беларускага народа | 435 | 536 |
| Гаўляйтар і яго падлізнікі | 393 | 535 |
| Гаўляйтарская «акадэмія» | 397 | 535 |
| Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў | 413 | 536 |
| Гістарычная справядлівасць | 273 | 529 |
| Да беларускага народа | 344 | 532 |

| | Тэкст | Каментарыі |
|---|---|---|
| Далікацтва каля вісельні | 362 | 533 |
| Дарахвеевы порткі | 496 | 539 |
| Дзень добры, Беларуская зямля! | 337 | 532 |
| Дзень добры, Беларуская зямля! | 501 | 539 |
| Дзесяць год | 99 | 524 |
| Дзённік | 511 | 539 |
| Дубовая галава і сабачая натура | 381 | 534 |
| <Думкі аб з’ездзе> | 198 | 527 |
| Думкі і імкненні народа | 284 | 529 |
| Думкі пра Паўлюка Труса | 269 | 529 |
| Дух прагнасці | 432 | 536 |
| Душа ў штанах | 308 | 531 |
| Жыла і жыць будзе беларуская зямля! | 301 | 530 |
| Жэня Палтаўская | 330 | 532 |
| Забіяцкі пык | 463 | 537 |
| За блізкіх і родных | 465 | 538 |
| Замест паштовае скрынкі | 95 | 524 |
| Заплацім пану і яго паслугачу | 430 | 536 |
| Заўвага да перакладаў мастацкае літаратуры | 104 | 524 |
| Заўвагі да стылёвых тэндэнцый у творчасці Сяргея Знаёмага | 205 | 527 |
| Заўвагі пра драматургію | 138 | 525 |
| Збіраць і выкарыстоўваць вопыт творчай работы | 232 | 528 |
| З’езд дэлегатак — сялянак і батрачак | 11 | 522 |
| З роднай глушы | 58 | 523 |
| Зямельны надзел дурнога Бадзілюка | 385 | 534 |
| І вада заліта крывёю | 49 | 523 |
| Как немец на свинье в вечный покой въехал | 307 | 531 |
| Кат у белай мапішцы | 355 | 533 |
| «Кось, кось, пакуль у аглоблі» | 366 | 534 |
| Кружевное прикрытие | 310 | 531 |
| Крывавы апякун | 444 | 537 |
| Леў Даватар | 327 | 532 |
| Леў Талстой | 97 | 524 |
| Лісіца ў іспалкоме | 8 | 522 |
| Літаратурныя творы прозай вясковых аўтараў | 62 | 523 |
| Мае творчыя планы на 1940 год | 276 | 529 |
| Максім Горкі | 93 | 524 |
| Маладыя празаікі | 159 | 526 |
| Мая «Ірынка» | 293 | 530 |
| Мінск | 250 | 528 |
| Мы ведаем, хто наш вораг | 193 | 527 |
| На курортах | 36 | 523 |
| На нашай зямлі хоча гаспадарыць нямецкі пан | 342 | 532 |
| На новые высоты | 195 | 527 |
| Народная нянавісць | 298 | 530 |
| На трыбуне «просты чалавек» | 274 | 529 |
| Настаў вялікі дзень | 470 | 538 |
| Наша Армія і народ — адзіны | 335 | 532 |
| Наша вясна | 357 | 533 |
| Наша мова дасягнула вялікага росквіту | 155 | 526 |
| Н. В. Гоголь. К 130-летию со дня рождения | 264 | 528 |

| | | |
|---|---|---|
| Небеларуская мова ў беларускай літаратуры . | 72 | 524 |
| Не вер вушам сваім . . . . . . . . . | 391 | 535 |
| (Не верце ніводнаму нямецкаму слову!..) . . | 352 | 533 |
| Некалькі заўваг да вучобы пачынаючых пісьменнікаў . . . . . . . . . . . . . | 167 | 526 |
| Немцы знішчаюць беларускую культуру . . | 395 | 535 |
| Немцы знішчаюць беларускую культуру, топчуць асвету і навуку, мастацтва і літаратуру . | 457 | 537 |
| Немцы ўстанаўляюць паншчыну . . . . . | 322 | 532 |
| Непаразуменне . . . . . . . . . . . | 480 | 538 |
| «Новая пара гістарычнага жыцця беларускага народа» . . . . . . . . . . . . . | 449 | 537 |
| Нямецкае вараннё над Случчынай . . . . | 429 | 536 |
| Нямецкая цаца шырокага спажывання . . . | 399 | 535 |
| Нямецкі паслугач выў, як сука . . . . . . | 371 | 534 |
| Нямецкія фашысты знішчаюць культуру беларускага народа . . . . . . . . . . | 451 | 537 |
| От автора . . . . . . . . . . . . . | 226 | 528 |
| Павысіць літаратурную тэхніку . . . . . | 158 | 526 |
| Палкаводзец сацыялістычнай арміі . . . . | 244 | 528 |
| Па слядах нямецкага заваёўніцтва . . . . | 498 | 539 |
| Па ўкраінскіх прасторах . . . . . . . . | 33 | 522 |
| Паэт народа . . . . . . . . . . . | 368 | 534 |
| Перад другім дзесяцігоддзем . . . . . . . | 90 | 524 |
| Перамога будзе за намі! . . . . . . . . | 314 | 531 |
| Писатель писателю — брат . . . . . . . | 165 | 526 |
| Пісьменнікі адказваюць камсамольцам-«камунараўцам» . . . . . . . . . . . . . | 146 | 525 |
| Подзвіг ціхага чалавека . . . . . . . . | 372 | 534 |
| Пра вучобу і творчасць пачынаючых . . . | 179 | 526 |
| Праклянцце кату Гітлеру . . . . . . . . | 461 | 537 |
| Прамова на Першым пашыраным пленуме Арганізацыйнага камітэта ССПБ . . . . . . . | 121 | 525 |
| Пра п'есу «На платформу» В. Сташэўскага . . | 188 | 527 |
| Пра планавасць працы . . . . . . . . | 148 | 526 |
| Пра сваю п'есу . . . . . . . . . . | 119 | 525 |
| Праўда аб чалавеку . . . . . . . . . | 295 | 530 |
| Працаваць над драматургічным словам . . . | 171 | 526 |
| Працу з кадрамі — у творчы план . . . . | 152 | 526 |
| Працу пісьменніка павінны лічыць працаю, а не забаўкаю . . . . . . . . . . . | 101 | 524 |
| Публіцыстычныя нататкі . . . . . . . . | 107 | 525 |
| Пытанне сённяшняга дня . . . . . . . | 7 | 522 |
| Рэальнасць, фантазія, вымысел . . . . . . | 191 | 527 |
| Рэальная шматграннасць і філасофскае адзінства | 114 | 525 |
| Рэдакцыйны госць . . . . . . . . . . | 60 | 523 |
| (Рэцэнзія на зборнік Васіля Стэфаніка «Твори») | 86 | 524 |
| Самахвалавіцкая ўзаемадапамога і самагонныя трубкі . . . . . . . . . . . . . | 32 | 522 |
| «Сентыментальны вальс» . . . . . . . | 289 | 530 |
| Сёмая скура . . . . . . . . . . . | 389 | 535 |
| Сіла нашай культуры — у інтэрнацыяналізме . | 142 | 525 |

| | Тэкст | Каментарыі |
|---|---|---|
| Сімпатычная дубіна | 433 | 536 |
| Сканцэнтраваць літаратурныя сілы | 190 | 527 |
| Сладенького захотели... | 319 | 531 |
| Слуцкія сурвэты | 508 | 539 |
| Смерць гаўляйтара ў Мінску | 468 | 538 |
| Спор об арийской крови | 306 | 530 |
| Стварэнне тыпаў і вобразаў жыцця | 203 | 527 |
| Супраць звера | 324 | 532 |
| Творчая ўдача тэатра | 280 | 529 |
| Тени мрачного прошлого | 223 | 527 |
| Тонкая душа тоўстай гадзіны | 446 | 537 |
| Тэатр з будучыняй | 199 | 527 |
| У імя будучыні | 317 | 531 |
| У роднай глушы | 42 | 523 |
| Фашыст Курц раве жаласна | 354 | 533 |
| Франтаваты камендант | 483 | 538 |
| Цудоўная педагогіка | 379 | 534 |
| Чистокровная вошь | 313 | 531 |
| Что такое гитлеровский «социализм»? | 454 | 537 |
| Шарлатанскі зброд на службе ў нямецкіх акупантаў | 364 | 533 |
| Шмат у нас абломаўшчыны, безадказнасці | 228 | 528 |
| Што пасееш — тое і пажнеш | 384 | 534 |
| Шчанюк у берлінскай сабакарні | 442 | 536 |
| Як какорынцы, каб не астацца ў дурнях, школу будуюць | 30 | 522 |
| Янка Купала | 485 | 538 |
| Ясны дзень краіны | 233 | 528 |

## АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК
### тт. 1—8


| | Том | Тэкст | Каментарыі |
|---|---|---|---|
| Абаронцы нямецкай тыфознай вошы . . . | 8 | 359 | 533 |
| Аб зборніку «Гартаванне» . . . . . . | 8 | 504 | 539 |
| Аб нашай гордасці . . . . . . . . . | 8 | 440 | 536 |
| Аб сваім новым рамане . . . . . . . | 8 | 456 | 537 |
| Абуджаць лепшыя думкі і пачуцці чытача | 8 | 227 | 528 |
| Аб Эдуарду Самуйлёнку . . . . . . . | 8 | 277 | 529 |
| Автобиография 1943 г. . . . . . . . | 8 | 472 | 533 |
| Агонь . . . . . . . . . . . . . | 2 | 385 | 474 |
| «Акадэмічны» фрыц . . . . . . . . | 8 | 401 | 535 |
| Аксеніны сляды . . . . . . . . . | 2 | 370 | 474 |
| Андрэй Клыга . . . . . . . . . . | 1 | 104 | 516 |
| Аўтабіяграфія 1926 г. . . . . . . . | 8 | 48 | 523 |
| Аўтабіяграфія 1928 г. . . . . . . . | 8 | 70 | 523 |
| Аўтабіяграфія 1940 г. . . . . . . . | 8 | 286 | 530 |
| Базылевічава сям'я . . . . . . . . | 7 | 164 | 541 |
| Бандыцкаму фюрэру, крываваму людаеду, сусветнаму абармоту і прахвосту, дурному Адольфу Гітлеру — пішуць беларускія партызаны з атрада бацькі Міная . . . . . | 8 | 387 | 535 |
| Бацька . . . . . . . . . . . . | 2 | 352 | 474 |
| Бацькаўшчына. П'еса . . . . . . . . | 7 | 90 | 540 |
| Бацькаўшчына. Раман . . . . . . . . | 4 | 297 | 472 |
| Беларускае мастацтва ў часе Вялікай Айчыннай вайны . . . . . . . . . . . | 8 | 375 | 534 |
| Беларуская проза і драматургія часу Айчыннай вайны . . . . . . . . . . . | 8 | 403 | 535 |
| Беларускі народ змагаецца з акупантамі . . | 8 | 311 | 531 |
| Беларускія літаратары ў дні Айчыннай вайны | 8 | 351 | 533 |
| Берлінскі анучнік . . . . . . . . | 8 | 378 | 534 |
| Блізак час расплаты . . . . . . . . | 8 | 302 | 530 |
| Браты . . . . . . . . . . . . | 2 | 144 | 470 |
| Броня Казакевіч . . . . . . . . . | 2 | 133 | 470 |
| Брыгадзірава памылка . . . . . . . | 2 | 216 | 472 |
| Будзем адзінадушнымі і непахіснымі . . | 8 | 320 | 531 |
| Будзем жыць . . . . . . . . . . | 1 | 53 | 515 |
| Буланы . . . . . . . . . . . . | 1 | 314 | 532 |
| Бургамістр і курыца . . . . . . . . | 8 | 428 | 536 |
| Буры . . . . . . . . . . . . . | 1 | 439 | 537 |
| Быльнікавы межы . . . . . . . . . | 1 | 167 | 517 |
| (Быў час у жыцці беларускага народа...) | 8 | 437 | 536 |
| Бяздонне . . . . . . . . . . . | 1 | 221 | 518 |
| Валодзя Кастрыцкі на радзіме . . . . . | 7 | 416 | 566 |
| Варочаецца жыццё . . . . . . . . | 8 | 478 | 538 |
| Васіль Сымонавіч Кедрык . . . . . . | 8 | 261 | 528 |
| Ваўкі ратуюць скуру . . . . . . . | 8 | 474 | 538 |
| Верасьнёвыя ночы . . . . . . . . | 2 | 20 | 469 |

| | Том | Тэкст | Каментарыі |
|---|---|---|---|
| Верная дачка беларускага народа | 8 | 333 | 532 |
| Веснавыя дарогі | 2 | 39 | 469 |
| Вецер і пыл | 7 | 245 | 565 |
| Вечар | 1 | 299 | 531 |
| Вёска на новым шляху | 8 | 39 | 523 |
| Вінгель | 2 | 196 | 472 |
| Воля рве ланцугі | 8 | 476 | 538 |
| Восень | 2 | 466 | 475 |
| Восень і радасць | 1 | 295 | 531 |
| В разведке | 8 | 305 | 530 |
| Вучоба і творчасць пачынаючых літаратараў | 8 | 174 | 526 |
| Вызваленне | 7 | 24 | 540 |
| Выпадак увосень | 1 | 442 | 537 |
| «Выхваляўся, выхваляўся ды і здох» | 8 | 360 | 533 |
| Вялікае сэрца | 2 | 397 | 475 |
| Вялікая і малая тэма | 8 | 125 | 525 |
| Вялікая школа для ўсіх тэатраў | 8 | 296 | 530 |
| Вялікі дзень | 6 | 229 | 506 |
| Вялікі паэт беларускага народа | 8 | 435 | 536 |
| Вясковая ветэрынарыя | 1 | 180 | 518 |
| Вясна | 4 | 93 | 460 |
| Гаворка ўночы ў дарозе | 1 | 291 | 529 |
| Гаўляйтар і яго падлізнікі | 8 | 393 | 535 |
| Гаўляйтарская «акадэмія» | 8 | 397 | 535 |
| Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў | 8 | 413 | 536 |
| Гістарычная справядлівасць | 8 | 273 | 529 |
| Гора | 2 | 463 | 475 |
| Да беларускага народа | 8 | 344 | 532 |
| Далікацтва каля вісельні | 8 | 362 | 533 |
| Дарагуся | 2 | 312 | 473 |
| Дарахвеевы порткі | 8 | 496 | 539 |
| Дзень | 1 | 76 | 515 |
| Дзень добры, Беларуская зямля! | 8 | 337 | 532 |
| Дзень добры, Беларуская зямля! | 8 | 501 | 539 |
| Дзесяць год | 8 | 99 | 524 |
| Дзённік | 8 | 511 | 539 |
| Дзядзькі поплаў мераюць | 1 | 287 | 529 |
| «Дзякуй богу, як шклянка» | 1 | 134 | 516 |
| Дубовая галава і сабачая натура | 8 | 381 | 534 |
| <Думкі аб з'ездзе> | 8 | 198 | 527 |
| Думкі і імкненні народа | 8 | 284 | 529 |
| Думкі пра Паўлюка Труса | 8 | 269 | 529 |
| Дух прагнасці | 8 | 432 | 536 |
| Душа ў штанах | 8 | 308 | 531 |
| Жалезны крык | 1 | 90 | 516 |
| Жаночая праўда і мужчынская крыўда | 1 | 280 | 529 |
| Жыла і жыць будзе беларуская зямля! | 8 | 301 | 530 |
| Жэня Палтаўская | 8 | 330 | 532 |
| Забойства | 1 | 233 | 518 |
| Заваёва свету | 7 | 421 | 566 |

| | Том | Тэкст | Каментарыі |
|---|---|---|---|
| Забіяцкі пык | 8 | 463 | 537 |
| За блізкіх і родных | 8 | 465 | 538 |
| Замест паштовае скрынкі | 8 | 95 | 524 |
| Заплацім пану і яго паслугачу | 8 | 430 | 536 |
| Заработак | 1 | 196 | 518 |
| Заўтрашні дзень | 2 | 413 | 475 |
| Заўвага да перакладаў мастацкае літаратуры | 8 | 104 | 524 |
| Заўвагі да стылёвых тэндэнцый у творчасці Сяргея Знаёмага | 8 | 205 | 527 |
| Заўвагі пра драматургію | 8 | 138 | 525 |
| Захар Зынга | 1 | 375 | 535 |
| Захар Пагуда | 7 | 460 | 567 |
| Збіраць і выкарыстоўваць вопыт творчай работы | 8 | 232 | 528 |
| Звяга | 2 | 231 | 472 |
| З драмы | 7 | 14 | 540 |
| Злачынца пакараны | 2 | 204 | 472 |
| З'езд дэлегатак — сялянак і батрачак | 8 | 11 | 522 |
| З роднай глушы | 8 | 58 | 523 |
| Зямельны надзел дурнога Бадзілюка | 8 | 385 | 534 |
| Зямля. Апавяданне | 2 | 325 | 473 |
| Зямля. Раман | 3 | 283 | 532 |
| І вада заліта крывёю | 8 | 49 | 523 |
| Ідзі, ідзі | 4 | 159 | 472 |
| Ірынка | 7 | 176 | 541 |
| Как немец на свинье в вечный покой въехал | 8 | 307 | 531 |
| Кат у белай манішцы | 8 | 355 | 533 |
| «Кось, кось, пакуль у аглоблі» | 8 | 366 | 534 |
| Кружевное прикрытие | 8 | 310 | 531 |
| Крывавы апякун | 8 | 444 | 537 |
| Лета | 7 | 34 | 540 |
| Леў Даватар | 8 | 327 | 532 |
| Леў Талстой | 8 | 97 | 524 |
| Лісіца ў іспалкоме | 8 | 8 | 522 |
| Ліст Якуба Малькевіча | 2 | 45 | 470 |
| Літаратурныя творы прозай вясковых аўтараў | 8 | 62 | 523 |
| Люба Лук'янская | 5 | 225 | 422 |
| Лявон Бушмар | 4 | 5 | 452 |
| Лявончыкава Ліда і якубаўскі карчмар Сымон Біруля | 7 | 518 | 573 |
| Мадэльшчык Пархвіенка | 2 | 192 | 472 |
| Мае творчыя планы на 1940 год | 8 | 276 | 529 |
| Маё дзела цялячае | 1 | 39 | 515 |
| Макаркавых Волька | 2 | 295 | 473 |
| Максім Горкі | 8 | 93 | 524 |
| Максімка | 1 | 143 | 516 |
| Маладыя празаікі | 8 | 159 | 526 |
| Малатарня | 1 | 448 | 538 |
| Маленькая драма | 1 | 395 | 536 |
| Маленькая жанчына | 2 | 341 | 474 |
| Малюнак | 2 | 5 | 469 |
| Матчына благаславенне | 2 | 348 | 474 |

| | Том | Тэкст | Каментарыі |
|---|---|---|---|
| Матчына кроў | 2 | 382 | 474 |
| Мая «Ірынка» | 8 | 293 | 530 |
| Мельнікі | 1 | 270 | 528 |
| Местачкоўцы | 7 | 282 | 265 |
| Мінск | 8 | 250 | 528 |
| Міхал Макарэвіч | 7 | 277 | 565 |
| Млечны Шлях | 6 | 167 | 505 |
| Мураваны скляпок | 2 | 262 | 473 |
| Мы ведаем, хто наш вораг | 8 | 193 | 527 |
| Мяцеліца | 1 | 311 | 532 |
| Мяшчане ў густой пары | 1 | 173 | 517 |
| На беразе | 1 | 62 | 515 |
| На варце | 1 | 34 | 515 |
| Навагодняя ноч | 2 | 330 | 473 |
| На граніцы | 1 | 29 | 515 |
| На курортах | 8 | 36 | 523 |
| На нашай зямлі хоча гаспадарыць нямецкі пан | 8 | 342 | 532 |
| На новые высоты | 8 | 195 | 527 |
| На папялішчы | 2 | 388 | 475 |
| На пасёлку | 7 | 304 | 265 |
| На пыльнай дарозе | 1 | 371 | 535 |
| Народная нянавісць | 8 | 298 | 530 |
| На скрыжаванні дарог | 7 | 152 | 541 |
| На трыбуне «просты чалавек» | 8 | 274 | 529 |
| На тым беразе | 7 | 539 | 575 |
| Настаў вялікі дзень | 8 | 470 | 538 |
| Насцечка | 5 | 361 | 429 |
| Начлег у вёсцы Сінегах | 1 | 498 | 539 |
| Наша Армія і народ — адзіны | 8 | 335 | 532 |
| Наша вясна | 8 | 357 | 533 |
| Наша мова дасягнула вялікага росквіту | 8 | 155 | 526 |
| Н. В. Гоголь. К 130-летию со дня рождения | 8 | 264 | 528 |
| Небеларуская мова ў беларускай літаратуры | 8 | 72 | 524 |
| Не вер вушам сваім | 8 | 391 | 535 |
| (Не верце ніводнаму нямецкаму слову!..) | 8 | 352 | 533 |
| Некалькі заўваг да вучобы пачынаючых пісьменнікаў | 8 | 167 | 526 |
| Немцы знішчаюць беларускую культуру | 8 | 395 | 535 |
| Немцы знішчаюць беларускую культуру, топчуць асвету і навуку, мастацтва і літаратуру | 8 | 457 | 537 |
| Немцы ўстанаўляюць паншчыну | 8 | 322 | 532 |
| Непаразуменне | 8 | 480 | 538 |
| Не пі густога чаю | 1 | 243 | 520 |
| Не пішы чорт ведае як | 7 | 7 | 540 |
| Не хачу гэтак | 2 | 12 | 469 |
| (Новая пара гістарычнага жыцця беларускага народа) | 8 | 449 | 537 |
| Новыя людзі | 1 | 185 | 518 |
| Ноч пры дарозе | 1 | 114 | 516 |
| Нямецкае варапнё над Случчынай | 8 | 429 | 536 |
| Нямецкая цаца шырокага спажывання | 8 | 399 | 535 |
| Нямецкі паслугач выў, як сука | 8 | 371 | 534 |

| | Том | Тэкст | Каментарыі |
|---|---|---|---|
| Нямецкія фашысты знішчаюць культуру беларускага народа | 8 | 451 | 537 |
| Нянавісць | 2 | 81 | 470 |
| От автора | 8 | 226 | 528 |
| Павысіць літаратурную тэхніку | 8 | 158 | 526 |
| Паганыя косці | 2 | 380 | 474 |
| Па дарозе | 1 | 250 | 521 |
| Палкаводзец сацыялістычнай арміі | 8 | 244 | 528 |
| Палявыя людзі | 1 | 107 | 516 |
| Папоўскі вялікдзень | 1 | 200 | 518 |
| Парфір Кіяцкі | 1 | 334 | 535 |
| Пасля бою | 7 | 449 | 566 |
| Па слядах нямецкага заваёўніцтва | 8 | 498 | 539 |
| Па ўкраінскіх прасторах | 8 | 33 | 522 |
| Пачуцці | 1 | 473 | 538 |
| Паэт народа | 8 | 368 | 534 |
| Перад другім дзесяцігоддзем | 8 | 90 | 524 |
| Перамога будзе за намі! | 8 | 314 | 531 |
| Писатель писателю — брат | 8 | 165 | 526 |
| Пісьменнікі адказваюць камсамольцам-«камунараўцам» | 8 | 146 | 525 |
| Подзвіг ціхага чалавека | 8 | 372 | 534 |
| Пошукі будучыні | 6 | 5 | 471 |
| Пра вучобу і творчасць пачынаючых | 8 | 179 | 526 |
| Пракляцце кату Гітлеру | 8 | 461 | 537 |
| Прамова на Першым пашыраным пленуме Арганізацыйнага камітэта ССПБ | 8 | 121 | 525 |
| Пра п'есу «На платформу» В. Сташэўскага | 8 | 188 | 527 |
| Пра планавасць працы | 8 | 148 | 526 |
| Пра сваю п'есу | 8 | 119 | 525 |
| Прасторны дом | 2 | 392 | 475 |
| Праўда аб чалавеку | 8 | 295 | 530 |
| Працаваць над драматургічным словам | 8 | 171 | 526 |
| Працу з кадрамі — у творчы план | 8 | 152 | 526 |
| Працу пісьменніка павінны лічыць працаю, а не забаўкаю | 8 | 101 | 524 |
| Пробуюць грушы шумець | 1 | 402 | 536 |
| Публіцыстычныя нататкі | 8 | 107 | 525 |
| Пытанне сённяшняга дня | 8 | 7 | 522 |
| Радасць жанчыны | 1 | 214 | 518 |
| Рамонтная брыгада | 2 | 187 | 471 |
| Расказы партызан Віцебшчыны | 2 | 338 | 474 |
| Расплата | 2 | 335 | 473 |
| Родныя мясціны | 2 | 319 | 473 |
| Рэальнасць, фантазія, вымысел | 8 | 191 | 527 |
| Рэальная шматграннасць і філасофскае адзінства | 8 | 114 | 525 |
| Рэдакцыйны госць | 8 | 60 | 523 |
| (Рэцэнзія на зборнік Васіля Стэфаніка «Твори») | 8 | 86 | 524 |
| Самахвалавіцкая ўзаемадапамога і самагонныя трубкі | 8 | 32 | 522 |

